Г. Ф. ЮРЧАНКА

# І СЯЧЭ І ПАЛІЦЬ

## УСТОЙЛІВЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ Ў ГАВОРЦЫ МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ



ВЫДАВЕЦТВА „НАВУКА І ТЭХНІКА“ МІНСК 1974

Рэдактар
кандыдат філалагічных навук
А. А. КРЫВІЦКІ

**Юрчанка Г. Ф.**

**Ю83** І сячэ і паліць (Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны) Мн., «Навука і тэхніка», 1974.

296 с.

Праца з'яўляецца працягам збору фразеалагізмаў пад назвай «І коціцца і валіцца», які выйшаў з друку ў 1972 г. Фразеалагізмы сабраны ва ўсходняй частцы Магілеўскай вобл.— на Мсціслаўшчыне, на мяжы непасрэдных кантактаў сучасных рускіх і беларускіх гаворак. Кожнае словазлучэнне прыводзіцца ў кантэксце. Усяго ў кнізе 1570 рэестравых фразеалагізмаў на літары І—П. Варыянтаў і сінанімічных адзінак каля 5700.

У канцы змешчан слоўнік дыялектных слоў з ілюстрацыйных прыкладаў.

Ю $\frac{0715\text{-}064}{М316\text{-}74}$ 63-74 4с (Бел)

# ПРАДМОВА

Гэтая кніга з'яўляецца працягам слоўніка фразеалагічных адзінак, які выйшаў з друку ў 1972 г. пад назвай «І коціцца і валіцца. Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны».

Вынесены ў загаловак фразеалагізм **І сячэ і паліць** (у вымаўленні *і сякець і паліць*) мае гумарыстычны характар і дастасоўваецца да асобы, якая ўмее за сябе пастаяць, даць належны адпор на любыя закіды ў яе адрас і, як кажуць, за словам у кішэню не лезе. Гэта характарыстыка гучыць заўсёды з адабрэннем і нават захапленнем: *Чула маладую, не глядзіць, што нядаўна прыехала, яна табе на месцы і сякець і паліць; Ты паслухаў бы толькі яе нявестку, як яна і сякець і паліць.* Ужываецца фразеалагізм толькі ў форме цяперашняга часу ў трэцяй асобе, звычайна адзіночнага ліку. Але зрэдку ўжываецца ў адносінах да некалькіх (але нямногіх) асоб: *Абея нікому дужа не спусцяць, зразу і сякуць і палюць.*

У гэтай працы, як і ў папярэдняй, падаюцца фразеалагізмы, запісаныя галоўным чынам ва ўсходняй частцы Мсціслаўшчыны. Спосаб апрацоўкі фразеалагічных адзінак і форма іх падачы захаваны тыя ж, што і ў папярэднім выпуску. Пры загалоўным дзеяслоўным фразеалагізме падаюцца ўсе зафіксаваныя дэрыватыўныя ўтварэнні. Разам падаюцца блізкія фразеалагізмы — сінонімы і варыянты. Але ў некаторых выпадках варыянты падаюцца асобна. Гэта робіцца тады, калі фразеалагізмы маюць розныя граматычныя адрозненні *(на тое места сесць — на тым месце сесць),* адрозненні ў шырыні ўжывання *(ні слухам ні духам — ні слыхам ні дыхам)* або валодаюць рознымі магчымасцямі дэрыватыўнага ўтварэння *(камень з душы зваліўся — каменне з душы звалілася).* Пры такой падачы блізказначных

фразеалагічных адзінак абавязкова даюцца адсылкі да асноўнай формы, апрача выпадкаў, калі такія формы стаяць побач. Пры неабходнасці адсылкі даюцца на першы выпуск працы.

Усе варыянты і адсылкі ў тэксце выдзяляюцца графічна. Выбухное *г* у ілюстрацыйных прыкладах таксама выдзелена графічна: **г**.

Захавана ранейшая сістэма памет, але некаторыя сэнсавыя і экспрэсіўна-эмацыянальныя характарыстыкі ўдакладнены.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*Абмеж.* — абмежавана; *абраз.* — абразлівае; *адабр.* — адабрэнне; *адз.* — адзіночны лік; *адзінк.* — адзінкава; *аднакр.* — аднакратнасць; *асудж.* — асуджальнае; *буд.* — будучы час; *вульг.* — вульгарнае; *гл.* — глядзіце; *груб.* — грубае; *гумар.* — гумарыстычнае; *ж.* — жаночы род; *жарт.* — жартоўнае; *зак.* — закончанае трыванне; *законч.* — закончанасць; *запаз.* — запазычанае; *звыч.* — звычайна; *зніж.* — зніжальнае; *іран.* — іранічнае; *кніжн.* — кніжнае; *м.* — мужчынскі род; *мн.* — множны лік; *множн.* — множнасць; *-н.* — небудзь; *н.* — ніякі род; *наз.* — назоўнікавае ўтварэнне; *неадабр.* — неадабральнае; *незак.* — незакончанае трыванне; *непаўн.* — непаўната дзеяння; *пагардл.* — пагардлівае; *параўн.* — параўнайце; *пачын.* — пачынальнасць; *перан.* — пераноснае значэнне; *пр.* — прошлы час; *прам.* — прамое значэнне; *працягл.* — працягласць; *працягл.-фінальн.* — працягла-фінальнае значэнне; *прым.* — прыметнік; *прысл.* — прыслоўе; *рапт.* — раптоўнасць; *рус.* — рускае; *рэдкаўж.* — рэдкаўжывальнае; *спагадл.* — спагадлівасць; *узвыш.* — узвышанае; *узмацн.* — узмацняльнасць; *узмацн.-абмеж.* — узмацняльна-абмежавальнае; *узмацн.-множн.* — узмацняльна-множнае; *узмацн.-шматкр.* — узмацняльна-шматкратнае; *урачыст.* — урачыстае; *усеаг.* — усеагульнасць; *уст.* — устарэлае; *цяп.* — цяперашні час; *шматкр.* — шматкратнасць; *шматкр.-няпоўн.* — шматкратна-няпоўнае; *час.* — часовасць; *часц.* — часцей.

**І бог вялеў,** *жарт.; пр., рэдка цяп. Пра поўную неаспрэчнасць, безумоўнасць.* Есьлі Пашка ачылавечыўся, то табе і бог вялеў жаніцца. Што яму, жыві, красуйся, ета нам дык і бог вяліць склáдывыць тряхольля.

**І вашаму і нашаму,** *адз., мн. Ненадзейна, беспрынцыпова.* Такей чылавек усігда, што веціp, ён і вáшыму і нáшыму. Іна і вашыму і нашыму, у яе як веціp у гылаве гуляіць. Яны могуць і вашым і нашым, толку ні дажджэсься ні ат аднаго, ні ад другога.

**І гаварыць** (талкаваць) **нечага** (няма чаго), *звыч. гумар., іран.* 1. *Вельмі добры.* Ты ў мяне цáца, што і гываріць нечыга, лýччы цябе на сьвеці німа. Ён чылавек і гываріць німа чаго, ува ўсім другога такога пыіскáць толька. Канешня ж ты сýпчык луччы ўсіх, і тулкувáць нечыга. Атлёт быў і тулкуваць німа чаго, усюдых яго було поўна. 2. *Вельмі добра.* Склаў, што й гываріць нечыга, сам пашоў, а дровы ўсьлед гур-р-р. Пыдвярнýлі сена і гываріць нечыга: айдзе пырянýлі грыблямі, айдзе так прабеглі. Скошына і гываріць німа чаго, пылавіна травы пыт пакосымі. Яны схадзілі, нырaботылі і тулкуваць нечыга: прыкычáліся ў бірізьнячкý. 3. *Безумоўна.* Кылі нявестка зьдзелыла, то і гываріць нечыга, люба глянуць будзіць. Раз Івана пысла́ла, то й гываріць німа чаго, скора дажджэсься. І тулкувáць нечыга, ета ваша работа. Пызнаю, пызнаю, і тулкуваць нечыга: Сямёнькін унýк.

**І галавешкі** (махныткі) **не астацца.** *Пра страту ўсяго ў выніку пажару.* Тады ў сорык трецьцім у нас адзь дзяреўні і гылавешкі ні астáлыся, усё пыч чыстую змялі. Была баня і німа: і гылавешкі ні асталося. Ну што, дзелый ці ня дзелый што, ці вый, ці, хочыш, гыласі, калі

і махныткі ні асталося ат усяго чы́сьцінька. Зь іхнімі дура́мі калі можыць так быць, што й гылавешкі ні аста́ніцца ат пастройчыны. Глядзі, ба́ба, кіда́іш грубку як пупа́ла, во хваціць агнём, дык і махны́ткі ні астанецца.

**Ігра не стоіць свечак,** *кніжн., цяп., пр., буд. Пра невыгодную справу.* Я зразу увідзіў, што ігра ня стоіць сьвечык, і ні зьвя́зывыўся. Ду́мылі, путноя што выйдзіць, ажно ігра ня стоіла сьвечык. Ваша ігра ня будзіць стоіць сьвечык, што вы заду́мывыіця.

**Ігра стоіць свечак,** *цяп., пр., буд. Пра рызыкоўную, але выгодную справу.* Тут ігра стоіць сьвечык, рісkні, па-мойму ні прыгыда́іш. Як ні пулучы́лыся, а ігра для іх стоіла сьвечык. Паедзім, ігра будзіць стоіць сьвечык.

**Іграць** (весць) **первую скрыпку.** *Быць галоўным у справе.* У іхнім раду́ Аксён іграіць первыю скріпку, чуць што — к яму біга́ць саветывыцца. Цяперь табе прідзіцца весьць первыю скріпку. *Пачын.* **Павесць первую скрыпку.** Ягор як толька пріехыў, зразу павёў первыю скріпку. *Час.* **Паіграць первую скрыпку.** Ён троху вышапру́дзіўся, ну толька нядоўга пыіграў первыю скріпку. *Законч.* **Атыйграць** (атвесць) **первую скрыпку.** Капейкі кончыліся і асеўся — атыйграў первыю скріпку. Зь етым доўга ні павозюцца, раз-два атвядзець первыю скріпку. *Працягл.-фінальн.* **Наіграць** (навесць, даіграць, давесць) **первую скрыпку.** Ныігралі яны первыю скріпку, іх ніхто і ў рязон брацъ ня хочыць. Муцюка́юць за невышта пачом зря, во як назёў первыю скріпку. Ён скора дыйграіць первыю скріпку, скрі́пышнік етый, дажджэцца. Вот і давёў первыю скріпку, кончылыся ўлада.

**Іграць другую скрыпку.** *Займаць другараднае становішча.* Зяць у іх ні ў пачоці, там ён іграіць другую скріпку.

**Іграць жызнію** (жысцю, жызню). *Рызыкаваць.* Іграць жы́зьнію ня стоіць, гылаву мігым можна скруці́ць. Іграў жы́сьцю, нічога ні глядзеў, во й дукруці́ўся, біз здароўя астаўся. *Непаўн.* **Паіграць жызнію** (жысцю, жызню). Тады яны пыігралі жызьнію, ета посьлі трошку асьціпяніліся. Ну што ты, хочыш пыіграць жысьцю? — ня стоіць. *Законч.* **Атыйграць жызнію** (жысцю, жызню). Дажджэцца свайго, атыйграіць жызьнію. Ну,

атыйгралі жысьцю, сколька ўремя уходу ні было. Атыйграў сваёю жызьню, рад ба вярнуць прошлыя. *Працягл.-фінальн.* **Наіграцца** (даіграцца, наіграць, даіграць) **жызнію** (жысцю, жызню). Калі ж ён ныігра́іцца жызьнію, скру́ціць сабе гылаву, на́, што скруціць. За свой век ныіграўся жысьцю. Во як на сьвеці буваіць, думыў, нічога яго ня ўдзержыць, ажно ныіграўся жызьню. За ета ўремя дыіграўся жызьнію. І тэй места ні знаў нійдзе, і етый дыіграіцца жысьцю. Во так і другей ныіграў жызьнію. Доўга ныіграў жысьцю, зато ні знаў жа сабе ніякыга чаго. Жысьцю можна дыіграць так скора, што й ні агледзісься. Самі ўсюдых ны ражон первымі лезьлі, нічога ні глядзелі і дыігралі жызьню.

**Іграць на нервах.** *Выклікаць намерана злосць, раздражненне.* Хваціць ужо вам іграць на нервых. *Зак.* **Сыйграць на нервах.** Як сыйграіць на нервых каму, тады й рад. *Непаўн.* **Паіграць на нервах.** Пыіграў на нервых і дос, нечыга твае ду́рікі цярьпець вечна. *Законч.* **Атыйграць на нервах.** Атыйгралі на нервых, паехылі,— во ўпяклі́ся, дык упякліся. *Працягл.-фінальн.* **Наіграцца** (даіграцца, наіграць, даіграць) **на нервах.** Хваціць зь яе, ныіграюцца на нервых. Адзін пулучы́ў сваё, ня лезіць, і ты дыігра́ісься на нервых. Ныігра́іш, ныіграіш на нервых у мяне скора, як палу́чыш лу́пку. У Пракопа дыіграіця на нервых, ён вас патýріць ні знаю як.

**Іграць на́ руку́.** *Ускосна садзейнічаць.* Ну што, калі ты пыкрічы́ш, ты толька іграіш ім пу руку́. Усё ета іграіць яму на́ ру́ку, ня дужа ён чаго спужа́іцца. *Зак.* **Сыйграць на́ руку́.** Хацеў, каб ета сыйгра́ла на́ руку, а тут ні пулучы́лыся. Каму ты згрозіш, есьлі рыспрыдасі́ся, толька тым і́дылым сыйграіш пу руку́. *Непаўн.* **Паіграць на́ руку́.** Ты ні хацеў, а пыйграў ім на́ руку тады луччы быць ня можыць. *Працягл.-фінальн.* **Даіграць на́ руку́.** Дыйграў на́ руку сваім чэсным, нешта ла́юцца. Тута ўжо загыдзя відна, хто зь іх каму ну руку дыіграіць і як сыйграіць.

**Іграць первую роль,** *кніжн. Быць галоўным у справе.* Ну-у, яны тады ігралі ў нас первыю роль. *Зак.* **Сыйграць первую роль.** Тут знаіш што сыйграла первыю роль? — што іх выраціціля ні було. *Непаўн.* **Паіграць первую роль.** Трошку, канешня, шчыта́ліся і зь ім, толька нядоўга ён первыю роль пыйграў. *Законч.* **Атыйграць**

**первую роль.** Ня дужа ны яго хто глядзіць, ён ужо атыйграў первыю роль. *Працягл.-фінальн.* **Наіграць** (даіграць) **первую роль.** Во, найшлі пры каго тулкувáць, айдзе ён там первыю роль ныйграў. Дыйграіш первыю роль, і другая табэ будзіць зразу. *Гл.* Іграць первую скрыпку.

**Іграць роль,** *кніжн. Мець пэўнае значэнне.* Хрымянок там у іх нейкыю роль іграў. Ніякія ролі твыя зашчыта ні іграла. *Зак.* **Сыйграць** (атыйграць) **роль.** Ну ныпішы, можа якую роль і твыя бумажка сыйграіць. Ні маглі яны тут ніякыю роль атыйграць. *Працягл.-фінальн.* **Наіграць** (даіграць) **роль.** Доўга іна тама ныйграла роль, яе цірізь нядзелю слýхыць пірістáлі. Дыіграў роль: путурíлі з брыгадзíрыў,— яго там ніхто ні прізнывáў.

**Іграць у куклы** (кукалкі, лялькі), *іран. Гультаявацъ, займацца пустой справай, мець зусім лёгкую працу.* Яму каб іграць у куклы, другея работы ня хочыць. Пашоў іграць у кýкылкі твой Арцём, айдзе ж ён яшчэ. Пынырáвілыся іграць у ля́лькі, пызнáў смак лёхкыга хлеба. *Непайн.* **Паіграць у куклы** (кукалкі, лялькі). Пыйгрáў у куклы і ладна, а цяперя нада пры ныстыя́шчыю работу думыць. Толька і глідзя́ць у кукылкі пыігрáць, зьдзелыць што ня дужа хочуць. Пыігралі у лялькі пасьці два гады. *Абмеж.* **Праіграць у куклы** (кукалкі, лялькі). Пашлí, пашлí іх, прыігрáюць у куклы, яны многа табе надзелыюць. Прыігрáлі еткій дырагей дзень у кýкылкі, прывыля́ліся пут кустамі, во і ўся іх работа. Ныработыіць, бýдзіць работы, у лялькі прыіграіць дзень. *Закончг.* **Атыйграць у куклы** (кукалкі, лялькі). Атыйгрáлі ў куклы дык атыйгралі, як толька ня стыдна за хлеб брацца. Ну, атыйгралі ў кукылкі, можа, пыкармíць вас нада. Атыйграў у лялькі, работы цяперя пáліц ап паліц ня хочыць. *Узмацн.* **Наігранца ў куклы** (кукалкі, лялькі). Ныігрáўся ў куклы, ці ён калі ў тэй лес пыкáзывыўся, ён туды раз у месіц ці хадзіў. Так ужо ныігралiся ў кукылкі, што й забылі, верна, як тапор ці касу ў рукі бярýць. Ныіграўся ў лялькі, хвáціць зь яго, мýтырна работыць будзіць. *Працягл.-фінальн.* **Даігранца ў куклы** (кукалкі, лялькі). Дыігрáўся ў куклы, дýмыў, дурачкоў нáйдзіць кармíць яго. Дыіграíціся ў лялькі, лета пройдзіць — пáлкі дроў у печ укінуць ня будзіць.

**І дзела з канцом.** *Пра заканчэнне.* Заўтря сь сеным убярёмся і дзела с канцом. Дровы пабіў і дзела с канцом.

**І дзелу канец.** *Пра заканчэнне.* Табе што, карові даў і дзелу канец. Пасуду пірямыла і дзелу канец.

**І думаць нечага** (няма чаго). *Пра безумоўнасць.* І думыць нечыга, што прібіга́ць, яны крепка зы нашымі дзеўкымі ўлягглі. Раз пыбішча́лі, яны зьдзелыюць, тут і думыць німа чаго.

**І звання** (знаку) **не кінуць.** *Пра поўнае выкарыстанне, знішчэнне.* Усё рыскыпалі, рыскывіря́лі, і званьня ня кінулі, што тэй двор быў. Глядзі, ўсё рызваю́іць, ад бульбы і званьня ня кініць. Мы цябе як пупадзём, і знаку ня кінім.

**І звання няма.** *Пра знікненне, поўную адсутнасць.* Каторыя ўремя пашоў туды, і зва́ньня німа. Учора як вы́прывіліся ў са́мыя абеды, дык і званьня німа.

**І знаку няма.** *Пра непрыкметнасць, незаўважнасць.* Нешта вы палолі, палолі, і зна́ку німа́. Ты хваці́ў, ныработыў, што-то ат твае работы і знаку німа.

**І канцы ў ваду.** *Пра адсутнасць слядоў, доказаў.* Бува́ла, яны тварі́лі: капу́ сена на воз, і канцы ў ваду. Мяшок пышані́цы некуды пульну́лі і канцы ў ваду.

**І карты** (кнігі) **ў рукі.** *Пра поўную свабоду дзеяння.* Вы тут ра́ншы рызьбіра́ліся, зна́іця ўсё, вам і ка́рты ў рукі. Ён хызя́ін, яму і карты ў рукі, а мы хто? — чэрця з Маслывыга балота. Табе й кнігі ў рукі, рыска́зывый.

**І карты тасаваць** (раздаваць, скідаць). *Кіраваць, распараджацца.* Ты тут усігда быў галоўным, табе і карты тусува́ць да́льшы. Ён вёў хызя́йства, нупруўля́ў усё, яму і карты рыздыва́ць. Раз пыдахоці́ўся сам усё давесьць ды кынца, ты й карты ськіда́й.

**І крыць нечым.** *Пра адсутнасць доказаў, пярэчанняў.* Ста́ла, нумуцюка́ла яго, нумуцюкала, атхрясьці́ла як нада, а таму што дзелыць? — і крыць нечым.

**Імець галаву на плячах.** *Быць разумным, разважлівым.* Каб ты імеў гылаву́ ны плі́ча́х, нашто б табе етыя пырысяты, ёсьць пацьсьві́нычык і кармі. Во хто йміеў гылаву ны плічах,— Арьхіпёнык, ніхто яго ні ў чом ні

разу ні правёў. Вы ўсякім дзелі нада імець гылаву, ці ты дзелыіш што, ці купляіш. *Гл.* Галава на плячах; З галавою на плячах.

**Імець дзела.** *Весці справы.* Кылі ўжо імець дзела, дык нада, каб сымыстыяцільный чылавек, а ня ветріньніца. Ні хачу я с табою ніякыга дзела імець. *Зак.* **Займець дзела.** Сь кім ты займеў дзела, што ён знаіць у чом-небудзь?

**Імець дзюбку,** *гумар. Быць празмерна цікаўным.* Ён усігда імеў дзюбку, усігда лез, куды ні нада. Ня ймей дзюбку, ня дужа красіва ета. *Зак.* **Займець дзюбку.** Ці даўно ты займела дзюбку, раншы ты, кáжыцца, такою любапытныю ні была.

**Імець зуб.** *Злаваць, злавацца.* Хрісьцянкі ны яго зуб даўно імелі. Воч жа за нешта імеіць іна зуб ны Храсіньню. *Зак.* **Займець зуб.** Ішчэ с хутароў як займеў зуб ны Тырасывых, дык і цяперь усігда воўкым глядзіць. Займелі зуб ны яго, так і глідзяць, каб путкусіць хуць у чым-небудзь.

**Імець козыр.** *Валодаць перавагамі.* Ну скажы, ну ў чом ён імеіць козырь проця нас? — ні ў чом. *Зак.* **Займець козыр.** Займеў козырь дужа вялікій: прілумáўся з гряхом пыпылáм «Стрыдáнія» ріпыць.

**Імець на воку.** 1. *Трымаць пад наглядам.* Усё ўремя яго нада імець на воку, ні ны мінўту ні ціряць зь віду, інáчы збысятнічыіцца. 2. *Памятаць, улічваць.* Імей на воку, што мы табе тут гыварілі, мы гыварілі ні дырмá.

**Імець пад рукамі.** *Быць запаслівым.* Я люблю ўсё ймець пуд рукамі, каб ня бегыць ды ні йскаць. Есьлі што імеіш пуд рукамі, яно ні мішáіць.

**Імець рожкі,** *іран. Быць незгаворлівым, капрызным.* Я хырашо помню Верку, імела дзеўка рожкі. *Зак.* **Займець рожкі.** Пыдрастўць — займеюць рожкі, будуць як стáршыя. І ты ўжо займела рожкі? — вот табе на!

**Імець серца.** *Быць спагадлівым.* Дужа яны імелі серца, так, гады ў ряды памогуць калі трошку. *Зак.* **Паймець серца.** Паймей серца, чылавек, іна ж піклўіцца, а ты пáліц ап паліц ні ўдаріш, каб пыцсабіць айдзе трошычку.

**Імець у віду.** *Памятаць, улічваць.* Паедзіш у сьвет, дык нада імець у віду: там ты ні ў дваре і вазіцца дужа ні стáнуць.

**І нашаму і вашаму,** *адз., мн. Ненадзейна, беспрынцыпова.* Ты ўжо хуць ні абішчáй толька, як твыя блыгаверныя — і нáшыму і вашыму. Усігдá як веціp, і нашым і вашым, толку ні даб'есься. Пычáлі круціць і нашым і вашым, нáбыга пыдыйшоў Хведзька ды тўркнуў. *Гл.* І вашаму і нашаму.

**І не гавары,** *адз., мн. Пра перакананасць або абсалютную непахісную пазіцыю.* Пыдыйшоў я, так і так, можа б, можна што зьдзелыць — айдзе там, і ні гыварі. Бýдзіць пы грязíшчы ціпкыцца, і ні гывары, ні залю́біць. Зыікнýліся мы пра бульбу, дык і ні гыварıця, і слухыць ня хочыць.

**І не знайся.** *Пра катэгарычнае патрабаванне выканання.* Вот нывізáўся, дзелый, як ён хочыць і ні знáйся. Прістáў: дай яму аўцу і ні знайся,— ты ета гудувáў ці бацька твой.

**І не начавала.** *Пра безумоўную адсутнасць.* Такіх грошы ў мяне і ні нучувáла. Найшоў у каго спрáшывыць пра перья, у яе таго перья і ні нучувала.

**І не нюхаць** (панюхаць, нюхнуць). *Пра поўнае незнаёмства з сур'ёзнай справай або складанымі абставінамі.* Што с табою гыварíць, кылі ты тэя вайны і ня нíохыў. Можа ён і мятлей, чым хто-небудзь, ну толька ён учэньня таго і ня нюхыў. Ты горя і ні панíохыла, ета адж жы́рікыў табе ўсё ні так. Зы бацькыю прыжывýць, што й ні нюхнуць, ікая жысьць буваіць.

**І не падхадзі** (падступайся), *адз., мн. Пра незгаворлівасць.* І так і етык пробывылі,— што вы, і ні пытхадзí, іна луччы ўсіх. Тама іхный прішы́б цяперіцька стаў, мы ўжо і ні пытхадзі. Як ні ўвірялі — і ні пытхадзіця, дайжа слухыць ня хочуць.

**І не пахнець,** *цяп., пр. Пра адсутнасць нават скрытых прыкмет.* Сьпіцыялісту ужурдзювáць машыну прáшкі, а тут сьпіцыялістым і ні пáхла, ня воз, а рыгізá рыгізою. Март ны дваре, а вясною і ні пахніць. Так усё пірясохла, а дыжджа і ні пахніць. Тут ужо дзесіць гадоў грібамі і ні пахла: скот талуіцца.

**І не ў галаве.** *Пра безуважнасць, непрадбачлівасць.* Усё прібра́ў, а тэя шчэпычкі і ні ў гылаве. Неік і ні ў гылаве було, што ета ж ныमя́кнуць можыць.

**І ніякіх гваздзей** (гваздзёў), *гумар. Нягледзячы ні на што.* Сыбіра́йся і ніякіх гвазьдзей, што б мінута ў мінуту быў. Ска́зына і ніякіх гвазьдзёў, дзелый.

**Ірвацца** (разрывацца, разарвывацца) **на часці** (кускі). *Адразу рабіць шмат спраў.* Сколька зьдзелыю, столька й ладна, ірва́цца ны ча́сці мне нечыга. Ірва́лыся я ну кускі німала, ня шу́тка дзела еткыю сям'ішчу дагледзіць. Я тут адна рызрыва́йся ны часьці, а ён пад'еў і пашоў, будзіць сядзець айдзе, рузмунды́кывыць. Іна ж пряма рызрыва́іцца ну кускі, усё каб большы. Ім каб ну кускі рыза́рвывыўся, можа б як угадзіў. *Зак.* **Разарвацца** (парвацца) **на часці** (кускі). Тут хуць ны часьці рызарьвіся, дык пырядку ні нывядзеш. Ні магу я рызырва́цца ну кускі — пасьпець усю́дых і за ўсіх. У што ўвахо́ціцца, гатоў ны часьці пырвацца, каб усё зьдзелыць. Якей толк, хуць ну кускі парьві́ся, адно будзіць. *Узмацн.* **Паразарвацца** (паразрывацца) **на часці** (кускі). Глядзіця, толька ні пырызарьвіціся ны часьці, ато ўсяго з вас мала. Ня кідыйся так, каб пырызырва́цца ну кускі, сколька зьдзелыіш, столька й ладна. Пырызрыва́цца ны часьці яны ня могуць, хваціць і етыга. Пырызрываліся б ну кускі адж жа́днысьці нямерныя. *Працягл.-фінальн.* **Нарвацца** (дарвацца) **на часці** (кускі). Ня жджы, што нарьвецца ны часьці, адно што зьдзелыць ня дужа пріту́ркыіш. Нарьвесься ну кускі, зьля́жыш, хто ж зы цябе будзіць хвыта́ць. Усё стыря́лыся, сьпяшыла, хвытала і дырва́лыся ны часьці. Дырваўся ну кускі, ляжыць пластом, ні пыдніма́іцца.

**Ірваць** (атрываць, атарвываць) **ад сябе** (ат рота). *Дзяліцца апошнім.* Так ужо ірваць аць сябе і ні нада б, яны ж ні галодныя. Ат рота ірьвець, ну ўсіх абдзіля́іць. Віджу я, што стала атрыва́ць аць сябе, усё ім перць, дык гывары́ю: уніміс́ь-ка, яны ж ня хворы зырaботыць, а ў цябе дзеці пыдрыстаюць. Нашто ж табе пасьледнія атрываць ат рота, яны бяс хлеба ні сідзя́ць і купіць у іх ёсьць за што ня меншы, чым у цябе. Усё ўремя клыпацілыся, глядзела, аць сябе ата́рвывыла пасьледнія. Атарвывылі ат рота, дзяліліся,— як жа, свыя ж кроў, нільзя було кінуць. *Зак.* **Атарваць ад сябе**

(ат рота). Ганна дужа туруватыя і жалысьлівыя, іна атарьвець аць сябе і пасьледнія аддасьць. Ніхай сабе што, а Ісак чылавеку паможыць усігда, ён гатоў ат рота атырваць. Дужа пыкладзістыя і жыласьлівыя была, бывала, ат рота атарьвець і аддасьць, калі ў цябе німа.

**Ірваць** (атрываць, атарвываць) **душу** (серца). *Выклікаць душэўныя мукі.* Ірьвець душу крікым сваім, усё га, і га, і га, ці ў яго баліць што, ці ўжо вудыль тыкая удылася. Пірістань ірваць серца, твайго скуленьня ішчэ ні хвытала. Толька ні ўніміся атрываць душу, я ўніму. Серца атрывалі, што ж яны дзелылі. Як жа вы мне атарвыіця душу етым гвалтым. Ты мне серца атарвывыў большы ўсіх. *Зак.* **Атарваць душу** (серца). Сколька пыбылі, а душу атырвалі. За дзінь як атарвуць серца, дык пряма ні знаіш, куды б дзеўся ат іх. *Узмацн.* **Парваць** (паагрываць, паатарвываць) **душу** (серца). Мне пырвалі душу, цяперіцька табе ніхай парвуць. Пыхвалісься, яшчэ і табе пытрываюць душу, пычанеш муцюкаць. Як пытрываюць серца дзень ды другей, тады пызнаіш цацыў. Пыгарвывылі душу большы некуды, упяклися дык упякліся. Ніхай і ёй цяперя пытарвыюць серца. *Працягл.-фінальн.* **Нарваць** (наатрываць, наатарвываць, дарваць, даатрываць, даатарвываць) **душу** (серца). Так яны мне нырвалі душу, што большы ні прідумыць. Чаго ў жызьні ня будзіць, а серца нарвуць. Сколька ж яны мне нытрывалі душу. Нытрываіця серца, большы я цярьпець дуроў еткіх ні стану. Нытарвывылі душу, пакуля зьехылі. Пыжывець, пызнаіць, серца ёй пытарвыюць у ахоту. Трошку пыцярплю, пыгляджу, ну толька дарьвець ён душу. Серца дырваў ды кынца, таго й пуматурила. Дытрываюць душу, кіну і пірінасіць усё, і любувацца на ўсё. Відна, дытрываў серца, вытуріла, пыцягнуўся некуды. І другей дытарвыіць серца, як тэй малютычка.

**Ірваць** (атрываць, атарвываць) **з рукамі.** *Купляць вельмі ахвотна.* Каб нядзелі дзьве таму ныад панесьць, яго б з рукамі ірвалі. Нехта прінёс рыбы сьвежыя, толька злоўліна, дык з рукамі атрывалі. Хто там дужа будзіць з рукамі атарвывыць твае ягыды, там цяперь купляць некыму, многія пыразьехыліся. Ты толька выніс цыбулі ны бызар, з рукамі будуць ірваць. *Узмацн.* **Паатрываць** (паатарвываць) **з рукамі.** Чуць з рукамі ні

пытырвалі, так рысхва́тывылі рыбу. Пріежджыя зы арехымі дужа гыня́юцца, толька ўзьнясі́ся — з рукамі пыта́рвыюць. *Працягл.-фінальн.* **Нарваць з рукамі.** Нырва́лі, нырвалі з рукамі, там ці глянуў хто у тэй бок ны твае карзінкі.

**Ірваць** (вырываць) **з горла,** *груб. Забіраць нахабна.* Мы ныдзікува́ліся, як яны ірвалі з горла тэя тряпкі. Якія ў іх чу́ствы, вырыва́юць з горла і як нічога ніякыга. *Зак.* **Вырваць з горла.** Ганка свайго ня ўпу́сьціць, з горла вырьвіць. Ныста́ніць, ныста́ніць і з горла вы́рьвіць. *Узмацн.* **Павырываць з горла.** Пасьледнія кускі з горла гатоў пывырыва́ць. *Працягл.-фінальн.* **Нарваць** (навырываць, дарваць, давырываць) **з горла.** Ну дарьвець ён з горла, ату́чуць яго ат етыга. Нывырыва́ў з горла, нижа́дыўся ўволю, сваё стала саўсім ні нада. Што вы дзелыіця, чуць ня сілыю зыбіра́іця пасьледнія, ну дырьвіцё з горла, ныбіріцёся. Во дывырыва́лі з горла, і ўхадор найшоўся, і спакой ёсьць.

**Ірваць** (вырываць) **з рота,** *неадабр. Адбіраць апошняе; забіраць рашуча.* Ці ў цябе свайго ні хвыта́іць, што ты рьвеш у іх з рота ўсё ды пасьледніга. Мы толька пыдзіві́ліся, як у іх совісьці хвыта́іць ірва́ць з рота. Што ты ў мяне з рота вырыва́іш, мне сымаму́ нада выпріж. Ай, неік жа стыдна вырываць з рота, можа сам аддасьць. *Зак.* **Вырваць з рота.** З рота вырвуць і будуць глядзець, як ні ў чом ні бувала і нічога ні було. Вы́рвылі з рота шубёнку, іна ж ба яму сымаму́ ны кажный дзень нада была. *Узмацн.* **Павырываць** (павырваць) **з рота.** Есьлі прімеюць, пывырыва́юць з рота, і спасіба ні скажуць. І так ні пра́нцыў дужа ні було, а й тоя, што було, з рота пывырыва́лі. Уго, каб ім даў уласьць, з рота б усё павы́рвылі. *Працягл.-фінальн.* **Нарваць** (навырываць, дарваць, давырываць) **з рота.** Нарву́ць з рота, што, можа, зыхлыну́цца калі, бог дасьць. Што паглядзюць, то й стыря́юцца сабе зыбра́ць, ну я на іх доўга ні пымалю́ся, нывырыва́юць з рота. Ну што, нывырыва́ў з рота, большы ня бу́дзіш, ні нада? Дырва́лі з рота, што аста́лыся галы́м-галю́сінькыя, як статі́ць. Дывырыва́ў з рота пасьледкі, большы нечыга ўзяць. Чаго ты цярьпіш, чаго ты ня ту́ріш па́лкыю, дывырываюць з рота, што пірядзець нечыга будзіць. *Гл.* З з у б о ў і р в а ц ь.

**Ірваць** (вырываць) **з рук.** 1. *Купляць вельмі ахвотна.* Ду́мыў, ці ўда́сца як прыда́ць, а толька ўзьнёс, дык з рук ірвалі. Ні хва́стыйся ўжо, ні хвастыйся, ці на́йдзіцца хто такей тывар з рук вырыва́ць. 2. *Неадабр. Адбіраць апошняе.* Якую тря́пку як прідба́іць, то з рук ірвуць у яе зразу са ўсіх бакоў. *Зак.* **Вырваць з рук.** 1. Ня ўмеіш ты прыдыва́ць, у мяне пряма з рук вырвылі, с карзі́нкыю чуць ні зыбралі. 2. Што ні прістыря́іцца, прібіга́ць і з рук вырвуць. *Узмацн.* **Павырываць** (павырваць) **з рук.** 1. Ты пыглядзеў ба, як сяньня капуста ішла, у мяне былі з рук пывырыва́лі. Айт, трілю́дзь ты, з рук паві́рвуць, тут худзь ба як прыдаць аста́тнія мяшочыкі. 2. З рук пывырыва́ць умеюць, ім жа нічога ні хвыта́іць свайго. Быў троху прідба́ў і таго і сяго, дык што, ці ён доўга папользывыўся, з рук паві́рвылі. *Працягл.-фінальн.* **Нарваць з рук.** 1. У цябе нарвуць з рук, толька ізыком прыдыва́ць умеіш, а пр́ідзіш — і будзіш айдзе ўбаку́ тарчэць. 2. Ну нарвуць яны з рук, даждуцца, калі-небудзь усё я ім ві́скыжу.

**Ірваць** [на сабе] **валоссе.** *Прыходзіць у адчай.* Нечыга рваць валосься, біда-то тыкая — пырасёнык. Як пачу́ла пра сына, пряма валосься ны сабе ірвала. Ірьвець ны сабе валосься: як мне жыць посьлі еткыга пазору. *Зак.* **Парваць** [на сабе] **валоссе.** Хто парвець валосься? — іна пру мужука́ пачу́ла — каб дрогнула. Нада скызаць, і мы самі ні прід́умыім, як скызаць: пачу́юць — парву́ць ны сабе валосься. *Працягл.* **Нарваць** [на сабе] **валоссе.** Ішчэ нарьвець валосься, і адгарю́іць, і аткуку́іць. Сколька нырвалі ны сабе валосься, ажно збоку нільзя було глядзець, як яны убіва́ліся.

**Ірваць нервы.** *Выклікаць душэўныя мукі.* Мне ён доўга ірваць нервы ня будзіць. *Зак.* **Парваць нервы.** Яны мне зы чатырі дні пырвалі нервы саўсім, а ты хочыш, каб я зь імі год дурілыся. *Працягл.-фінальн.* **Нарваць** (дарваць) **нервы.** Нарвуць нервы, вот буду туріць с хаты піріц сабою, пряма мятлою пыга́нью. Дырва́лі нервы, атлупіла сьпірва меншыга, а тады большыга прыздра́віла.

**Ірваць** (разрываць, разарвываць) **на часці** (кускі). *Завальваць рознымі просьбамі, даручэннямі.* У Мыгілёў сыбіра́юся, дык ірвуць ны часьці кажный сабе: і то купі, і то, і ета. Пряма ірвуць на кускі — і ка мне зайдзі,

і ка мне, і ка мне, ажно гылыва рузурілыся, што дзелыць. Знаю, як цябе рызрывáюць ны часьці, ці прікінуў табе хто хуць слова пы-чылавечыскі. Ну кускі рызрываюць, цягнуць с усіх бакоў. Як пріехыў, яго рызáрвывылі ны часьці, кажный к сабе цягнуў — у зяці меціль. Чулі мы, чулі, што цябе ажно рызáрвыюць ну кускі. *Зак.* **Разарваць на часці** (кускі). Ну як жа, гываріль, як у звон біль, што цябе там чуць ні рызырвáлі ны чáсьці,— толька нешта ці ні пуд вуглом нучувáў. Бягі, бягі, цябе зразу рызарвуць ну кускі, у дзесіць мест прігльсюць.

**Ірваць сілу,** *адз., мн. Даходзіць да знямогі ў працы.* А што толку, што ён ірваў сілу ны сваёй палоскі, ці схадзіў ён калі, ці зьеў, як чылавек. Ірьвеш ты сілы на чорта лысыга, і спасіба табе ніхто ні скажыць. *Зак.* **Парваць сілу,** *адз., мн.* Сілу пырваў, а што ты за ета імеў. Ны адных бутувáўся, цяперя ну другіх парьвець сілы. *Працягл.-фінальн.* **Нарваць** (дарваць) **сілу,** *адз., мн.* Нырвáў сілу большы некуды, думыў жа, на пользу пойдзіць. Сілы нарьвець, во яму і ўся блыгыдáрнысьць. Ны каго ты дырваў сілу, астаўся біз здароўя на ўвесь век. Пасьледнія сілы дырвала, што адною дзелыць будзіш.

**Ірду тварыць** (сатвараць, сапасаць), *рэдкаўж. Крычаць, сварыцца, лаяцца.* Во злосьці дык злосьці, на ўвесь сьвет злая: устрецінца ш чылавекым і дывáй ірдý тваріць, нясець, што нá рыт лезіць. Хвáціць ірду сытвырáць, сьціхні! Кажный дзень ірду сыпысáюць, уняць іх некыму. *Зак.* **Ірду сатварыць.** Мыладыя, а ні стыдá ні сырымá, ета ж нада такую ірду сытваріль. *Гл.* Арду ўзнімаць.

**І сваім і чужым,** *неадабр. Ненадзейна, беспрынцыпова.* Даб'есься ты адз Зыхара толку, кылі ён і сваíм і чужым. *Гл.* І вашаму і нашаму.

**І свет не чуў і людзі не відзелі.** *Пра надзвычайнае, выключнае.* Знаць, і сьвет ня чуў і людзі ня відзілі такея указэі — нада ж браць зяця ны двáццыць гадоў мыладзейшыга зы сябе. І сьвет ня чуў і людзі ня відзілі, што яны тáмыцька дытвырáлі бітыя два часы.

**Іскар'е з вачэй** (воч) **пасыпалася,** *пр., буд. Пра адчуванне імгненнага вострага болю.* Во ляснуўся, дык

ляснуўся: і́скырья з вачэй пасы́пылыся. Іскырья з вачэй пасыпліцца, ны ныга́х ня ўстоіш, кылі пыцста́віш гылаву. Сту́кнісься, што іскырья з воч пасы́пліцца. *Гл.* Іскры з вачэй пасыпаліся.

**Іскаць** (шукаць) **ветра ў полі,** *неадабр. Траціць час на безнадзейныя пошукі.* Ішчыш ты ветра ў полі, кылі твае калошы лі пря́сла выля́юцца. Што ты шукаіш ветра ў полі, ты сюда і ні пытхадзіў, а ня то што клаў што-небудзь. *Непаўн.* **Паіскаць** (пашукаць) **ветра ў полі.** Прівізала ну мутузі́нычку, іна гылавою крутану́ла і атырва́лыся, цяперь пыішчы́ ветра ў полі. Каму ж ты пызычаў — ма́хырю етыму, пушука́й во ветра ў полі, а ня грошы верніш. *Працягл.-фінальн.* **Наіскаць** (наіскацца, нашукаць, нашукацца, даіскаць, дашукаць) **ветра ў полі.** Наі́шчыця ветра ў полі, раз ні глядзелі с са́мыга нычя́ла. Ніхай, наі́шчыцца ветра ў полі, пабегыіць. Нушука́ў ветра ў полі, ты луччы ўспомні, айдзе клаў. З рук вы́пусьцілі, дык нушука́юцця ветра ў полі. Дыіскаў ветра ў полі, рукамі разводзіць: што дзелыць. Душукаіця ветра ў полі, ці ўдзьвюх пойдзіця, ці ўпяцёх,— адзін толк з вашыя хадні́.

**Іскаць** (шукаць) **учарашній дзень,** *неадабр. Спадзявацца дарэмна.* Наду́мыўся іскаць учыра́шній дзень. Што ён шукаіць учырашні́й дзень, на што якоя ён ішчэ надзеіцца. *Непаўн.* **Паіскаць** (пашукаць) **учарашній дзень.** Аднаго мала, пайшчы яшчэ і ты учырашній дзень. Што, пушукаў учырашній дзень, пулучы́ў хвігу? *Працягл.-фінальн.* **Наіскаць** (нашукаць, даіскаць, дашукаць) **учарашній дзень.** Дахлы́нкыісься, наішчыш учырашній дзень, і ета, што ёсць, пойдзіць ні за нюх тыба́кі. Нушука́юць учырашній дзень, палу́чуць, кылі будуць сядзець склаўшы рукі. Ну, дыіска́лі учырашній дзень, большы нічога ні скажыш. Скора душукаюць учырашній дзень, спыхва́цюцца ума.

**Іскры з вачэй** (воч) **пасыпаліся,** *пр., буд. Пра адчуванне імгненнага вострага болю.* Так міздряну́ўся упацёмкых, аж іскры з вачэй пасы́пыліся. Там між кольля бясь сьвету ля́сьнісься — іскры з вачэй пасыплюцца. Іскры з воч пасыпыліся — так лупляну́ўся віском. Глядзі, гэхнісься, што іскры з воч пасыплюцца.

**І след прастыў,** *пр., буд. Пра даўнасць знікнення (уходу, ад'езду).* Пакуля мы агледзіліся, яго і сьлед

прасты́ў. Пакуля ты будзіш кыпашы́цца, іх і сьлед прасты́ніць.

**І смех і гора** (грэх). *Пра смешнае і сумнае становішча.* Зь естым чылавекым і сьмех і горя. І сьмех і грех з вамі, другей ба раз аччыта́ла, а другей раз пысьмяесься толька. І сьмех і грех с табою, ці цябе хваліць, ці лаіць.

**Іспытываць судзьбу.** *Залішне рызыкаваць.* Ці раз ён іспы́тывыў судзьбу і ўсігда удыва́лыся вы́круціцца. *Зак.* **Іспытаць судзьбу.** Паедзь, іспыта́й судзьбу, можа і ўдасца што прівезьць. *Узмацн.* **Паіспытываць судзьбу.** Пыіспы́тывылі судзьбу абоя і воч жа неік усігда выхадзілі сухімі з вады. *Працягл.-фінальн.* **Наіспытываць** (даіспытываць) **судзьбу.** Ня будзь еткім храбрым, ато найспы́тыіш судзьбу. Воць цяпеpя ён пыняў, як можна дыіспы́тывыць судзьбу, на ўсю жызінь запомніць.

**І так і етак** (сяк). *Па-рознаму.* Што тут гыда́ць дужа, можна і так і етык піріпілі́ць. І так і етык пыдбіра́ліся, Толік дайжа пробывыў попыўзкым. І так і сяк можна задзелыць, абы сьнегу ні нынасіла.

**І так і так.** 1. *Па-рознаму.* І так і так сыйшло б, ета ні на продыж. Па мне і так і так ладна. 2. *У любым выпадку.* І так і так я ні пысьпіваў к вечыру.

**І толку мала,** *часта іран. Пра тое, што вышэй усякай пахвалы.* Ты ма́сьцір, што й толку мала, другога на сьвеці такога німа. Пуня ў цябе выйшла і толку мала: выўка́м ні нада кыкаты́ зьдзіра́ць пытка́пывыцца, у дзірькі ўлезуць.

**І толька таго.** *Пра неістотнае; пра бесклапотнасць.* Зьбегыў, прінёс, і толька таго. Ты знаіш, я ну вуўка чуць ні нырва́ўся.— І толька таго? Мы два словы пасьпелі скызаць, і толька таго було з рызгаворымі, січаж жа пычалі сыбіра́цца.

**І ўва** (у) **сне не сніцца.** *Не дапускаць такой магчымасці або з'явы нават у думках.* Мне і ўва сьне ня сьнілыся, што ты сяньня пріедзіш. Нам і ў сьне ня сьнілыся, каб с такой тучкі мог хля́нуць еткій дождж. *Зак.* **І ўва** (у) **сне не сасніцца** (не прысніцца). Еткыя тріл́юда і ўва сьне ні ка́жныму можыць сасьні́цца. Што яны пыдаду́ць ны развод, мне і ўва сьне ні магло прі-

сьніцца. На што ты спасобін, і ў сьне ні прісьніцца кажныму. *Узмацн.* **І ўва** (у) **сьне не насніцца.** Што яны тута нывярзьлі, і ўва сьне ні насьніцца дайжа. І ў сьне ні насьніцца столька лухты.

**І ўва** (у) **сне не сніць.** *Не дапускаць такой магчымасці або з'явы нават у думках.* Я і ўва сьне ня сьніў, што такоя можыць случыцца. Ён гаворіць, што і ў сьне ня сьніў ні пры якія сьліўкі. *Зак.* **І ўва** (у) **сне не сасніць** (прысніць). Я б і ўва сьне ні сасьніла еткія указэі. Мне і ў сьне ні сасьніць такога чуда. Каб сваімі вычáмі ня ўвідзіў, дык ба і ўва сьне ні прісьніў. *Узмацн.* **І ўва** (у) **сне не насніць.** Я б такога і ўва сьне ні насьніў. І ў сьне ні насьніш, што яно вот так можыць зьдзелыцца, пулучыцца, выйціць бізь нічога ніякыга.

**І ўваччу не стаяць.** *Зусім не думацца, не турбаваць.* Мне і ўваччý ні стаіць пры тваe ўборы. Нам і ўваччу ні стыяла, што мы цябе тут устрецім.

**І ў вус не дуць.** *Не думаць, не звяртаць увагі; не баяцца.* Ён і ў вус ня дуў, што там бульбы табе нада выцігнуць. Прыгываріла я: памог ба табе кышанýць, дык ён і ў вус ня дмець. *Зак.* **І ў вус не падуць.** Ты хвытáй ротым і носым, а ён і ў вус ні падýіць паможч худзь ба трошку.

**І ў галаве не быць** (не стаяць). *Не думацца.* Нам і ў гылаве ні було, што ты стáніш выля́цца да еткіх пор. Дужа мне було калі думыць пры тваe ленты-банты, яны мне і ў гылаве ні стыя́лі.

**І ўежна і ўлежна.** *Вельмі добра ў адносінах матэрыяльных даброт.* Яму і ўежна і ўлежна, чаго яму ня жыць. Пыжылі і ўежна і ўлежна, хвытáла ўсяго ўсякыга ды гырлá.

**І ў кола** (біла) **і ў мяла.** *Усюды.* Намýчылыся, буду помніць — хата згарела, ён у сылдаты пашоў, усё нада, і ў кола і ў мяла — усюдых сыма і сыма. З малых гадоў і ў біла і ў мяла і пашоў, і пашоў, некыму ж було пымыгáць.

**І ў паміне не быць.** *Поўнасцю адсутнічаць.* У мяне альлянога семя і ў пам́іні німа, сыма б думыла айдзе ўзяць, можа цялёнку прідзіцца даць — жываток скряпіць. Яго там і ў паміні ні було, што нам було абгывáрівыць.

**І ўстаць і ўлежч.** *Знаходзіцца бесперапынна.* Што ён зьдзелыіць у дваре, кылі і ўстаў і ўлёг у Жыгалкых. І ўсталі і ўлягглі у Пітраковых, ні вылáзюць аттуль ні ны мінуту.

**І хочацца і колецца,** *жарт. Пра жаданне і адначасовае супрацьдзеянне жаданню.* Віджу, віджу, што табе і хочыцца і коліцца — і пулушýбык харош, і дорга плаціць нада.

**І цёпленька і мякенька,** *жарт. Добра ва ўсіх адносінах.* Тваиму зяцю цяперіцька і цёплінька і мякінька. О У пачатку нашага стагоддзя з адным ціхім сарамлівым вучнем у царкоўна-прыходскай школе здарыўся непрыемны выпадак. Яго стрыечны брат, вельмі картавы, які выявіў гэта, праказаў: «У нашыга [імя] ў штонікых і цёп'інька й мякінька». З таго часу выраз стала замацаваўся ў гаворцы для жартоўнай характарыстыкі добрых умоў жыцця.

**Іціць** (адпраўляцца, класца, лажыцца) **у магілу** (гроб, зямлю, пад бярозу). *Паміраць.* Хут ты ідзі ў магілу,— так яны серца выідáюць кáжныю мінуту. Ну бідá ні біда, а ня йціць жа у гроб із-за етыга. Ідзі ты яму ў зямлю на етым месьці — ні пыспыгыдáіць. А зьбірáюся ўжо іціць пыд бярёзу, сколька ж сьветым капцець. Атпрыўляйся, кылі хочыш, у магілу, тады, можа, поймуць, што саўсім ня можыш. Чуць ліпіць тока, атпрыўляцца ў гроб саўсім гатоў. Цяперіцька за мною вочырідзь атпрыўля́цца ў зямлю. Жывым жа класца ў магілу ні станіш. Бувáіць, як зыбярець пад ложычкыю, хуць у гроб кладзіся. Ат аднаго вашыга гылыгаленьня нада класца ў зямлю. Ці ні пыра йта, гадок, нам класца пыд бярёзу? Ты маю жызьню заеў, мне аць цябе у магілу ўжо нада лажыцца. А што ж ты зьдзелыіш, раз прішла пыра лажыцца ў гроб. Ніхай цяжола ні цяжола, а ні лажыцца ж у зямлю жывым. Я ўжо сам сабе даўно скызаў: лажысь-ка ты, Стыхван, пыд бярёзу. *Зак.* **Пайціць** (адправіцца, лежч) **у магілу** (гроб, зямлю, пад бярозу). У еткія гады пайціць у магілу,— нашто тады і радзіцца було. У паліцыі абоім адбілі пячэньня, чыріз паўгода пашлі ў гроб. Толька дýмыла: сходжу, праведыю, ажно чую: пышла ў зямлю. Зіму як-небудзь пірікáрхыю: халодна, а як пыцяплеіць, пайціць ба пыд бярёзу. Во, еткыя здароўя було, а атправіўся ў магілу

ніждáнна. Ніхай ні ныдзяецца, ні рызьдзяецца, ні бірягецца, атправіцца ў гроб, тады пыкáіцца. Не, доўга я ні прыцягнý, **вот-вот у зямлю атпрáўлюся.** Трэцьці год ужо, як атпрáвіўся пыд бярёзу. Атпраўлюся пыд бярёзу, апрыстáю вам рукі. Біз уремя лігла ў магілу, біз уремя, хто яе дрыбнатý дагледзіць. Як ляжыш у гроб, тады нічога ні нада будзіць, ні клопытыў, ні забот. Як жа ні ляжыць у зямлю, есьлі п'ець біспрабýдна. Лёг пыд бярёзу, яму спакой, а твыя гылыва балі пра ўсё.

**Іціць** (брацца) **дымам** (глумам, хінню, прахам). *Марна прападаць, разбурацца, гінуць.* Мне дужа жáлка — ніхай ідзець усё ды́мым, раз ні зьбірáісься жыць пы-чылавечыску. Глýмым усё ішло, пакуля я ні пріехыў ды ні навёў троху пырядык. Сколька бульбы нугутувáў — трі зáсікі пац столь, ды ні абы-якея, і во так уся хіньню ідзець, уся прахым. Усе твае стыряньні бяруцца дымым. Бралыся глумым, пакуля сыйшло на нет, і дальшы брацца нечыму. Якей клок харміны ня быў, і тэй бярецца хіньню. А яно ўжо неік жжываіцца, бярецца прахым само. *Зак.* **Пайціць** (узяцца) **дымам** (глумам, хінню, прахам). Сколька ныжываў, а спажыць так нічога і ні прішлося, пашло ўсё неік дымым. А табе што, есьлі ў мяне пашло глумым? Сколька дыбра було, а ўсё пашло хіньню. А чаго ж інычы пашло прахым? — жыць на сьвеці ня ўмеіць. Прішло махым, пашло прахым. А ніхай іна возьміцца дымым і жызьня тыкая, як я гарюю за ім каждый дзень. Нічога яны ні спыжылі, узялося ўсе глумым. Нешта пашло й пашло ні ў лад і ўзялося хіньню. Чаго ж ня возьміцца прахым, калі ня зьдзелына па-людзку, ні пріпучы́на.

**Іціць** (брацца) **у рогі** (рожкі), *звыч. жарт. Рабіць наперакор.* Відзілі, як іна з маткыю ідзець у рогі, во вудыль удылася. Усігда ідзець у рожкі, ого каб уступіў! Калі січас бярецца ў рогі, дык што зь яе будзіць, як вырысьціць. Быў пычаў брацца ў рожкі, наўгрудкі лез, я атучыла. *Зак.* **Пайціць** (узяцца) **у рогі** (рожкі). Пыдрыстаюць, дзядзеюць, скора пойдуць у рогі. Зразу крепка пашоў у рожкі, а тады відзіць, што ні сарьвець, дык нызад. Ньсьмяшы́ў жа ён нас, як узяўся у рогі сы старою. Чýствыю, што хочыцца табе узяцца ў рожкі, па-свойму каб пыстáвіць.

**Іціць ка дну,** *звыч. гумар. Цярпець няўдачу.* Усё, яму большы ненышта надзеіцца, ідзець ка дну: Машка замужым. *Зак.* **Пайціць ка дну.** Цяперя ты пашоў ка дну, большы табе ня вы́скрісца.

**Іціць на звод.** *Мізарнець, звадзіцца.* Ці ўжо дальшы жыць ні сыбіра́ісься, што ў цябе ідзець усё неік на звод. *Зак.* **Пайціць на звод.** Ён і сам гываріў, што як пірястроіліся сюда, так і пашло ў іх на звод адно за дным.

**Іціць на лад.** *Наладжвацца, спраўнець, упарадкоўвацца.* У нас дзялы́ йдуць ны лад, нам нечыга біспакоіцца. Трошку йдзець ны лад, ну ды харошыга ішчэ далёка. *Зак.* **Пайціць на лад.** Пыста́вілі новыга брігадзіра, і ўсе ны лад пашло, як і людзі ня тэя сталі.

**Іціць на павадку** (павадке). *Слухацца іншых, рабіць, як іншыя.* Ідзець ны пывадку́ у каго хочыш, хто куды пальцым кіўнець, тэй яму і пріяціль. У каго ты йдзеш ны пывадке, цябе ж скора людзі зысьмяю́ць. *Зак.* **Пайціць на павадку** (павадке). Узноў пашоў ны пывадку. У любога пойдзіць ны пывадке, толька чарку пыкажы.

**Іціць на паклон** (пакланеніе). *Прыніжацца.* Незычым мне іціць ны паклон к Сідыру, я яму нічога ня должын. Мы ны пыкланенія іціць ні к кому ні зьбіра́імся. *Зак.* **Пайціць на паклон** (пакланеніе). Тут ні хацеўшы пойдзіш ны паклон, раз у ету кашу ўлез. Пашоў ны пыкланенія к цесьцю, ня вы́круціўся.

**Іціць наперак** (напярок, уперак, упярок). *Рабіць наперакор.* Што ні скажы, дык нарошня ідзець наперік. Прівы́к іціць ныпярёк, нійдзе атпору ні пулуча́ў. А чаго табе було іціць уперік. Каб ты ня йшоў упярёк, і ён ба глядзеў ны цябе другі́мі вычамі. *Зак.* **Пайціць наперак** (напярок, уперак, упярок). Пашлі́ і пашлі наперік адзін другому, заеліся і заеліся. Ныпярёк ён ня пойдзіць, худзь ба із-зы швагрёў. Я думыю, што яны уперік ня пойдуць, сыглыся́цца. Упярёк пашоў саўсім ныпра́сна.

**Іціць насмарку** (у глум). *Марна прападаць, разбурацца, гінуць.* Чаго ты дзівісься, яно ўжо ў прошлым гаду ішло там нысма́рку. Нілізя́ ж, каб такоя дабро ішло у глум. *Зак.* **Пайціць насмарку** (у глум). Сколька чаго пашло ў іх ныcмарку, ета ж ні пышчыта́ць. Чаго

ён так нічога ні бірягець: і сад, і гарод пашоў у глум — і худзь ба што.

**Іціць наўкось** (наўкась, накась). *Не прыносіць удачы, поспеху.* У іх ідзець наўкось с тых пор, як швагреня паехыла зь Лешчынкі. Гады трі ішло на́ўкысь, а цяперя трошку уродзі ныла́дзілыся. *Зак.* **Пайціць наўкось** (наўкась, накась). Ніхай раз сарьвецца, пойдзіць наўкось, тады трудна ныла́дзіць. Пашло на́ўкысь і пашло, яны й самі ні знаюць, што дзелыць. Па-мойму раншы, чым зь летышніга года пашло на́кысь.

**Іціць наўстрэчу.** *Дапамагаць, падтрымліваць.* А ты пыгывaрі с самі́м стыршыною, яго што ні папросіш, ён усігда ідзець наўстречу. *Зак.* **Пайціць наўстрэчу.** Як жа табе хто пойдзіць наўстрэчу, есьлі ты сам к любому-ка́жным зьверь зьверім. Мне ўсігда пойдуць наўстречу, а во ніхай табе пойдуць.

**Іціць паверх хаты,** *неадабр. Несціхана, нястрымна сваволіць,* Не, ку́мычка, у мяне б так ні руспусьці́ліся, я б ім ні пазволіла іціць паверьх хаты. *Зак.* **Пайціць паверх хаты.** У мяне паверьх хаты ня пойдзіш, ня ду́мый. Пашлі́ і пашлі паверьх хаты, і цяперя нічога зьдзелыць зь імі ня можыць.

**Іціць па ветру** (на вецер), *неадабр. Марнатравіцца ад безгаспадарлівасці.* Зра́зу ў іх тоя-сёя було, дык яны ж ні за чым ні глядзелі, усё ішло па ветру. Ажно глядзець жа́лка, як у вас усё чы́сьцінька ідзець на вецір. *Зак.* **Пайціць па ветру** (на вецер). І сыма́ была́ дужа ніхызя́йлівыя, і ён ні пра што ня ду́мыў, што аста́лыся ад бацькі, і тоя пашло па ветру. Жалка, есьлі такоя быга́ства пойдзіць на вецір.

**Іціць па галавах** (голавах, галовах), *асудж. Груба гарэзаваць, сваволіць, не зважаючы ні на каго.* Бацька з маткыю ні глідзяць нісколька, таго і дзеці ідуць пы гылыва́х. Нілізя дупуска́ць, каб ішлі па голывых, ызад у рукі іх тру́дна ўзяць. Зма́лку ні рызріша́й іціць пы галовых, змалку ніхай ні руспуска́юцца. *Зак.* **Пайціць па галавах** (голавах, галовах). Дасі волю, дык ён табе ціряз год пы гылыва́х пойдзіць. Такея ба́лыўнікі рас-ту́ць, яны скора па голывых пойдуць. Каб ні стаў уніма́ць Сашка, яны б скора пашлі пы галовых.

**Іціць** (паднімацца) **угару** (угору, уверх), *часта жарт. Павышацца ў грамадскім становішчы.* Ты, гаворюць, ідзеш угару: цяперь будзіш ня зь венікым, а зь мятлою. Ішоў угору, ды абырва́уся, узноў у рідавы́х. Вун хто ідзець уверьх,— Хымчанок, глядзі-ка кім стаў. А што ж ты думыў, я ні на што ніспасобін, пыдніма́юся патроху ўгару. Мы ішчэ помнім, як ён пыднімаўся угору пры Мікілаівым. Быў такей нягеглый, зывыля́шчый, а глянь-ка як пыдніма́іцца ўверьх. *Зак.* **Пайціць** (падняцца) **угару** (угору, уверх). Што зь ім цяперя рызгыва́рівыць, раз пашоў угару. Ныпряёнык бы́йстра пойдзіць угору, ён умеіць лі ныча́льства хвастом віляць. Пойдуць яны уверьх, жджы, яны толька спасобны быкам хвасты накру́чывыць. Ай-яй-яй, як яго тады зацю́кылі, а відзіш, узноў пыдняўся угару. Пыдня́ўся ўгору віскока, ды апусьціўся ціряшчу́р нізка. Вы падні́міціся ўверьх як піць даць: с пыдміта́йлыў зыміта́йлымі ста́ніця. Ні знаю, яму пыднявцца ўверьх посьлі такея пірідря́гі дужа трудна будзіць.

**Іціць** (пападацца, пападаць) **на вудачку** (кручок). *Трапляць у залежнасць.* Санька лёхка ідзець на вудычку, ён ува ўсім біз усякія хітрысьці. Гыняцца ні нада, сам ну крючок ідзець. Сколька ты пупыда́ўся на ву́дычку і ўсё роўна ні на́ўчысься жыць. У любой мелычы пупыда́іцца ну крючок, як глума́к нейкій. Яны, па-мойму, ці ня трецьцій раз пупыда́юць так на вудычку. Чаго ж ты ўзноў пупыдаіш ну крючок, табе ж ужо раз було такоя. *Зак.* **Пайціць** (папасьці, папасць) **на вудачку** (кручок). Яму толька скажы два словы, ну любу́ю ву́дычку пойдзіць. Хто сь хітрысьцю, тэй дужа ня пойдзіць ну крючок. Як жа яны лоўка пупа́ліся на вудычку! Зыдыва́ўся, храбрі́ўся, што мудрей за ўсіх, а тут ны іруньдзе пупаўся ну крючок. К Сахрону пупасьць на вудычку любэй можыць. Пыччапілі яго, пупаў ну крючок і глядзіць, што выранёнык якей.

**Іціць поўным ходам,** *звыч. жарт. Ажыццяўляцца з належнай энергіяй.* Чаго мне біспакоіцца, мае дзялы́ ідуць поўным ходым. *Зак.* **Пайціць поўным ходам.** Надзеіліся ж, што поўным ходым пойдзіць, а тут асечка пулучы́лыся ў самым нычалі. *Працягл.-фінальн.* **Найціць** (дайціць) **поўным ходам.** У такога хызя́іна, як етый лыбытря́с, бы́йстра на́йдзіць поўным ходым. Ужо дайшло поўным ходым, нешта ныз ад ці ні пывярну́ла.

**Іціць праторанай** (пратоптанай, пратаптанаю) **дарожкаю** (па праторанай (пратоптанай, пратаптанай) дарожке), *звыч. неадабр. Паступаць па-ранейшаму або па прыкладу іншых.* І зяць твой ідзець праторінаю дарожкаю, толька куды іна яго зывядзець. Ішоў пратоптыныю дарожкыю, вíдзіш, куды зайшоў. Ета ішчэ да іх дзелылыся, яны ішлі пы-гатовыму, прытыптáныю дарожкыю. Самі б яны ды такога ні дадýмыліся, яны йшлі пы праторіный дарожкі. Іна ідзець пы пратоптыный дарожкі, яе сістра тыкая была. Іціць пы прытыптаный дарожкі ляхчэй, тут думыць ні нада. *Зак.* **Пайціць праторанай** (пратоптанай, пратаптанай) **дарожкай** (па праторанай (пратоптанай, пратаптанай) дарожке). І меншый пашоў за большым праторіныю дарожкыю. Яны зразу пашлі пратоптыныю дарожкыю. Як пашоў прытыптáныю дарожкыю, так і дайшоў ды калхозныга сена. Ніхто іх ня ўчыў, яны самі пашлі пы праторіный дарожкі. Крепка глядзі, ато пойдзіць пы пратоптыный дарожкі, узноў горя будзіць. Можыць пайціць пы прытыптаный дарожкі, усьлед зы бацькым.

**Іціць рукою.** *Удавацца.* Пакуль карміў ды прігліда́ў як нада, дык яно рукою ішло. *Зак.* **Пайціць рукою.** Якую шарсьціну ня кýпіць, кáжныя ў яе, глядзі, рукою пышлá. Кармі мукою — пойдзіць рукою. *Працягл.-фінальн.* **Найціць** (дайціць) **рукою.** У іх доўга найшло рукою: цірязь месіц пычалося укріў і ўкось. У еткыга хызяіна дáйдзіць рукою, што ні шарсьціны ны дваре ні астáніцца.

**Іціць сваёю дарогаю.** *Быць самастойным.* Пуўлюку нечыга ну другіх аглядывыцца, ён усігда ідзець сваёю дарогыю. *Зак.* **Пайціць сваёю дарогаю.** Што ім хто-небудзь, яны пашлí сваёю дарогыю. *Працягл.-фінальн.* **Найціць** (дайціць) **сваёю дарогаю.** І талкýй, і пыкáзывый ны кáжным шагу, ато ныжывець, нáйдзіць сваёю дарогыю — біз рубáшкі астанецца. Дайшоў сваёю дарогыю у тупік, хто вывадзíць бýдзіць.

**Іціць у дзела** (к дзелу). *Знаходзіць прымяненне.* У хызяйстві яно ўсё ідзець у дзела. Вун Гаўріла быў — у яго кажныя пáлычка ішла **г** дзелу. *Зак.* **Пайціць у дзела** (к дзелу). Шалёўкі ў мяне нескылька гадоў выляліся, а сёліта пашлí ў дзела. У харошыга хызяіна нічога ні звыляіцца, усё пойдзіць **г** дзелу.

**Іціць у людзі.** *Уходзіць з сям'і для самастойнага жыцця.* Ты ўжо, ка́жыцца, гады трі сыбіра́ісься іціць у людзі і ўсё ны ба́цькывый шыі сядзі́ш. *Зак.* **Пайціць у людзі.** Пашлі́ у людзі — і ладна, ні пыўрядзі́ць, як свайго хлеба паспробыюць.

**Іціць у ногу,** *гумар. Выпраўляцца.* Ні нада Івана ла́іць, цяперь ён ідзець ужо ў ногу. *Зак.* **Пайціць у ногу.** Воць цяперіцька і вы пашлі́ ў ногу, нічога дренныга ні ска́жыш.

**Іціць у рукі.** *Даставацца вельмі лёгка.* Чаго ж зіва́ць, раз такоя быга́ства ідзець у рукі. І я б ні цірyáўся, каб само ішло ў рукі. *Зак.* **Прыціць у рукі.** Столька чаго ім прішло ў рукі, а ня ўмелі спажыць.

**Іціць у трубу.** 1. *Марнатравіцца, гінуць.* Усё, што матка ныжыла́, ідзець у трубу́. Каб людзям, ета було б быга́ства, а ў гультаёў ідзець у трубу. 2. *Выпускаць сцябло (пра зерневыя культуры).* Відзіш, што зна́чыць вісна́ ра́ньнія, як жыта ідзець у трубу. *Зак.* **Пайціць** (выйціць) **у трубу.** 1. Я ўжо знаю: сколька ня кінь чаго — пойдзіць у трубу. А ён с адною рукою у пяць разоў большы зьдзелыіць, чым ты дзьвю́мі, табе хуць пяць рук, усё выйдзіць у трубу. 2. Мы былі на полі, глядзелі: пышаніца пышла́ ў трубу́. Зь ячменім сёліта нешта дренна: во такенічкій выйшыў у трубу і сядзі́ць кріцыю.

**Ішчы-свішчы.** *Пра немагчымасць знайсці, вярнуць.* Як жа ты пускаў кыня няспу́тыным, цяперь ішчы́-сьвішчы́ яго, можа ў клевір куды кытану́ў.

**Каб дрогнуў.** *Пра цвёрдасць, няўмольнасць.* Сколька прасі́лі, сколька малі́лі — каб дрогнуў: нізашто ні пытпішу́ся і кончына дзела.

**Каб і духам не пахла.** *Пра рашучае патрабаванне знікнуць або не з'яўляцца.* Убіра́йся, каб і ду́хым тваім большы тут ні пахла. Я скызаў, каб і духым яго ні пахла.

**Каб і духу** (звання) **не было.** *Пра рашучае патрабаванне знікнуць або не з'яўляцца.* Ухадзі́, каб і духу ні було твайго большы. Едзіш — і едзь, каб і зва́ньня твайго ні було.

**Каб слова.** *Пра стан зацятай маўклівасці, стрыманасці.* За ўвесь вечыр каб слова. Усе тэй тоя ска́жыць, тэй тоя, а ён каб слова каму.

**Кавярацць раны.** *Вярэдзіць старое.* Хуць вы яшчэ ні кывіря́йця раны, бязь етыга тошна. *Зак.* **Раскавярацць** (ускавярацць) **раны.** Толька рыскывіря́лі раны сваімі рызгаворамі. А ня йдзіця, раны ускывіряіця ёй, узноў пла́кыць пычанець. *Непаўн.* **Пакавярацць раны.** Пыкывірялі раны яму зь Зінычкыю, дык ні зулюбіў. *Працягл.-фінальн.* **Накавярацць** (дакавярацць) **раны.** Ныкывіряіця вы раны яму, што турнець вас як мілінькіх. Дыкывіряў раны, пулучыў сваё і пашоў, як камы́йкымі аблі́тый.

**Казанская сірата,** *неадабр. Той, хто прыкідваецца пакрыўджаным, бездапаможным.* Тыкая ты ужо кыза́нская сірыта́, што большы некуды. Прітворіцца кызанскыю сіратою, хуць яго ну рука́х насі. Во кызанскія сірыты, чуць жывы.

**Казёл адпушчэнія.** *Той, на каго звальваюць віну.* Ты ўсігда́ шукаіш кызла́ атпушчэнія. Во так будзіш вы ўсякім дзелі казлом атпушчэнія.

**Казка пра белага бычка,** *неадабр.* 1. *Бясконцае паўтарэнне аднаго і таго ж.* Узноў завёў сваю казку пра белыга бычка́, няскора цяперь сьці́хніць. 2. *Відавочная хлусня.* Ты мне казку пра белыга бычка ні рыска́зывый, я сам знаю, што к чаму. Ідзі паслу́хый казкі пра белыга бычка.

**Кала етага.** *Амаль столькі ж (пры асцярожным вызначэнні).* Дужа ні саветыю шы́ріцца: тріццыць ня тріццыць пудоў, ну ніхай кыла етыга, дык жа ішчэ фіўра́ль ны дваре. Паўсотні німа, ну кыла етыга будзіць.

**Калені** (каленкі, паджылкі) **дрыжаць** (трасуцца, калоцяцца), *цяп., пр. Пра вялікі страх.* Цяперя хра́бір, а тама калені дрыжэлі. Так вы́пужылыся, што і січас калені трясуцца. Там ня толька ў мяне, ува ўсіх калені трясьлі́ся. Яны ладна вы́пужыліся, кылацілися калені, нечыга скызаць. Ня трогый, у яго і так ужо каленкі дрыжа́ць. Што, каленкі дрыжэлі, як бег учора ціріз равы? Віджу, што спужаўся, трясу́цца каленкі. Трясьлі́ся каленкі у абоіх, ета прізныва́цца стыдна. А ў цябе, думыіш, ні кылаціліся б каленкі, каб табе так. Ныбра́лыся учора страху, усе паджжы́лкі дрыжэлі.

Толька голыс павысь, у яго зразу паджжылкі трясуцца. Нябось, паджжылкі трясьліся, як упацёмку ляцеў кустáмі. Паджжылкі большы некуды кылаціліся, мы дýмылі, ён пызыбіваíць нас. *Пачын.* **Калені** (каленкі, падджылкі) **задрыжэлі** (затрасліся, закалаціліся), *пр., буд.* Чаго у цябе калені зыдрыжэлі, што там такоя дужа стрáшныя. Ні хыця калені зыдрыжáць, як пýгыю зыпáхніць. Мы толька пыглядзелі у іх бок, дык іхнія калені зытрясьліся. Ні храбрíся дужа, і ў цябе калені зытрясýцца. Бацька с пугыю як пыкызаўся, у яго і калені зыкылацíліся. Што, зыдрыжэлі калені, як брата з ремнім увíдзіў? Пыглядзіш, як у сымаго каленкі зытрясуцца, тады пысьмяесься. Ішчэ ні раз каленкі зыкалоцюцца, усяго будзіць. Ну, гыварю, цябе Сычкі спрáшывылі, січас сюда ідуць, дык у яго і паджжы́лкі зыдрыжэлі. Як увідзілі, што іх цэлыя машына едзіць, у нас паджжылкі зытрясьліся. Ні ў аднаго цябе паджжылкі зыкылацíліся. А што ты думыіш, зразу паджжылкі зыкалоцюцца. *Непаўн.* **Калені** (каленкі, паджылкі) **падрыжэлі** (патрасліся, пакалаціліся), *пр., буд.* Во ныбыя́ліся, як пыліцэйскія трясьлі нас, калені пыдрыжэлі. Нічога, есьлі калені троху пытрясуцца, яму стоіць. Раз калені пыкылацíліся, ты наш, садзіся во тута рядым кашу есьць. Ні дырма каленкі пыдрыжэлі, чуў, чым пахла. За дзела каленкі пытрясьлíся, можа атвýчуцца троху сады́ чы́сьціць. Каленкі пыкалоцюцца, дык троху пыцішэюць, уход якей-небудзь будзіць. Пыдрыжаць у іх паджжылкі,— яны ў рязон ні бяруць нікагенька. *Законч.* **Калені** (каленкі, паджылкі) **аддрыжэлі** (адтрасліся, адкалаціліся), *пр., буд.* Ці я сыма ні знаю, як тама вашы калені аддрыжэлі. Во стрáху було, аттрясьлíся нашы калені. Аткалоцюцца іх калені, яны дужа-дужа гразы быяцца. Такоя ўремя було, што ў кажныга каленкі аддрыжэлі. Каленкі вашы аттрясьліся, цяперь ідзіця. Аткылацíліся каленкі, як мы хувáліся то пы пыгрібáх, то пы я́мкых. Мы кыпáім акоп, а сымалёт гур-р ныд галовымі — во аддрыжэлі паджжылкі: думыім, січас с пулямёта. Як паджжылкі аттрясуцца, тады пріхадзí. Ці ў вас аткылацíліся паджжылкі, ці ўсё йшчэ ня прідзіця ў сябе? *Працягл.-фінальн.* **Калені** (каленкі, паджылкі) **надрыжэліся** (натрасліся, накалаціліся), *пр., буд.* Сам ён ні прізнаецца, ну мы знаім, што калені ў іх тама ныдрыжэліся. Тыкая німяреча, ды ўсё нізна-

комыя, калені ў іх нытрясуцца. Ня толька ў нас калені нықылаціліся, ім пріхадзілыся нічуць ня луччы. Як ныдрыжáцца каленкі, тады хрáбрысьці трошку паменшыіць. Троху, праўда, страшна булò, ну мы нічога, а ў Пітрычка каленкі нытрясьліся. Ізыком ні разу нічога ні баіцца, а пойдзіць адзін, то каленкі ныкалоцюцца. Ты многа ні рыскáзывый, а толька ціхінька нымякні, што ішчуць,— во паджжылкі ныдрыжáцца. Тады ў нас паджжылкі нытрясьліся: немцы стріляюць аттуля, а нашы па іх б'юць ат'етуля, пулі толька сьвішчуць ныд галовымі, сьвісь, сьвісь. А што ты думыіш, паджжылкі нытрясуцца, дык скарей сыгласíцца прыдаць, меншы будзіць цягнýцца. Ніхай, што паджжылкі ныкылаціліся, ніхай, хуць якей страх будзіць. Бувала, ужо столька паджжылкі ныкалоцюцца, што й кылаціцца большы некуды.

**Калі папала,** *неадабр. У любы час без разбору.* Скажыш, а тады хадзí ды бойся, калі пупáла можыць ляпнуць і айдзе пупала.

**Калі ўгодна** (заўгодна). *У любы час.* Я магу пріціць калі ўгодна, як пірікáжыш, я й пыдбягý. Калі заўгодна жэніцца, і нічога ты ня зьдзелыіш. Калі заўгодна можыць сьвіньню пыткласьць.

**Калі** (як) **рак свіснець,** *іран. Ніколі.* Дыжджыцёся вы яе, калі рак сьвíсьніць, во калі. Сыйшчыш, калі рак сьвíсьніць. Цяперь ты ў яго палучыш грошы, як рак сьвісьніць. Дажджэсься, пріедзіць, як рак сьвісьніць.

**Камандаваць парадам,** *гумар. Распараджацца, гаспадарыць.* Я пышлá, ніхай сымá кымáндыіць пырáдым, як знаіць. *Непаўн.* **Пакамандаваць парадам.** Прі ёй ты дужа ні пыкымáндыіш пырадым, іна вожкі ня вы́пусьціць. *Законч.* **Адкамандаваць парадам.** Ці ты йшчэ ні аткымáндывыў пырадым? *Працягл.-фінальн.* **Накамандаваць** (дакамандаваць) **парадам.** Ужо ныкымáндывылі пырáдым, за нешта свáрюцца між сабою. Ну як ён тама дыкымáндывыў пырадам, чым у іх тамыцька зывяршы́лыся?

**Камар носа не падточыць,** *цяп., пр. Пра ўменне зрабіць так, што ні да чаго нельга прычапіцца.* Ён умеіць так дзела апцяпыць, што кымáр носа ні патточыць. Нада стол — зьдзелыіць стол, і так усё к аднамý прігоніць,

што кымар носа ні патточыць. Мы б так усё апста́вілі, што кымар носа ні пыттачы́ў ба.

**Каменне з душы** (серца) **звалілася,** *пр., буд. Пра пачуццё аблягчэння.* Абыйшлося ўсё блыгыпалу́шна, дык пряма каменьня з душы звалілыся. Слава богу, апрыўда́лі, што каменьня сь серца звалілыся, ато ж хадзі́лі, як са́мі ні свае. Схадзі, рузузна́й, можа нічога такога ні случылыся, хуць каменьня з душы зва́ліцца. *Узмацн.* **Каменне з душы** (серца) **пазвальвалася** (пазвалілася), *пр., буд.* Каб яны паехылі г богу, худзь ба каменьня з душы пызва́лівылыся. Прістроіла і аднаго, і другога, у мяне каменьня з душы пызвалі́лыся. Во калі каменьня сь серца пызва́лівылыся,— як Сяргей пріехыў ды рыскыза́ў пра́ўду. У каго каменьня сь серца пызвалі́лыся, а ў мяне не, ляжыць. Відна, тады каменьня з душы пызва́ліцца, як упярёд ныга́мі вы́нісуць. Ці пызва́ліцца у мяне калі ета каменьня сь серца, — ні адно дык другоя пыдва́ліць, а ты піріжыва́й.

**Камень з душы** (серца) **зваліўся,** *пр., буд. Пра пачуццё аблягчэння.* Як рыскызала ты, што там нічога плахога ні случы́лыся, дык хуць камінь з душы зваліўся. Я сваё горя пірігурюва́ла, камінь сь серца зваліўся. А ты выйдзі, зь людзямі пысядзі, пыгымані, яно й камінь з душы зва́ліцца. Ні знаю, ці зваліцца калі ў мяне камінь сь серца.

**Камень на душэ** (серцы) **ляжыць,** *цяп., пр. Пра цяжкае адчуванне, прадчуванне.* Неік камінь ну душэ ляжыць, усё дно як чу́ствыіцца нешга дренныя. Ду́мыю, у яго так жа сама камінь на серцы ляжыць. Да тых пор, камінь ну душэ ліжаў, пакуля пісьмо тваё ні пулучыў. *Зак.* **Камень на душу** (душэ, серца, серцы) **лёг,** *пр., буд.* Посьлі таго случыя сь сеным мне проста камінь ну душу лёг. Ач чаго камінь на душэ лёг? — ат тваіх дуроў. А чаго ж табе камінь на серца лёг, якея ў цябе піріжыва́ніі? І камінь ба на серцы ня лёг, і клапот ба меншы, каб мужык добрый. Аць цябе ат аднаго камінь ну душу ляжыць, ніпрія́тнысьць зы ніпріятнысьцю. Камінь на серцы як ляжыць, ці́сьніць і цісьніць, ня скора атпу́сьціць.

**Камень на шыі.** *Пра няскончаныя яшчэ, пакутлівыя справы, абавязкі.* Усе дзялы іхнія — ета мне камінь на

шыі. Сколька ўремя камінь на шыі, і ніяк ізбáвіцца ні магу.

**Камня на камні не астацца.** *Разбурыцца, знішчыцца дашчэнту.* Прыхадзі́лі мы Смаленшчыну — цэлыя раёны былі: камня ны камні ні асталося. Ты калі пахо-дзіш лі посыду, дык камня ны камні ні астáніцца. *Незак., рэдкаўж.* **Камня на камні не аставацца.** Айдзе баі ішлі, камня ны камні ні астывáлыся. Вс ўзя́ўся шурувáць, камня ны камні ні стаецца.

**Камня на камні не кінуць** (не аставіць). *Знішчыць, разбурыць усё дашчэнту.* Ну ніхай толька дыбярёмся, мы тама ат іх камня ны камні ня кінім. Краі былі цэлыя, а цэнтыр увесь спалілі, камня ны камні ні астáвілі. *Незак., рэдкаўж.* **Камня на камні не кідаць** (не астаўляць). Айдзе яны прыхадзі́лі, камня ны камні ня кідылі. Ты ўжо гатоў камня ны камні ні астыўля́ць.

**Кандрашка хваціла** (схваціла), *пр., буд. Пра нечаканае, незразумелае захворванне.* Нейкыя кындрáшка яго хваціла, ляжыць. Кындрашка схваціла, кычáіцца, вун айдзе твой Васіль. *Незак., рэдкаўж.* **Кандрашка хватаець,** *цяп., пр.* Яго ўжо сколька разоў кындрашка хвытаіць. Сьвёкыр твой быў, яго ўсё кындрашка хвытáла. *Множн.* **Кандрашка пахватала,** *пр., буд.* Ікая вас тута кындрашка пыхвытáла? Цэлы будуць, кындрашка ні пыхвытáіць.

**Канца-краю няма** (не відна). 1. *Пра вельмі вялікую прастору.* Прыхадзі́лі мы сьцепы, ідзеш-ідзеш, кынца-краю німа. Ны цыліне пасевы пышаніцы — кынца-краю ня відна. 2. *Пра неабсяжнасць справы, бясконцасць працы.* У нас яшчо ўбірáць ды ўбірáць, кынца-краю німа. Бáбскый рабоці ўсігда кынца-краю ня відна.

**Канцоў не найціць** (не знайціць). *Не разабрацца, не адшукаць вытокаў, не раскрыць.* Так запу́тылі ўсё дзела, што канцоў ні нáйцíць. Ён умеіць так пірівярну́ць, што канцоў ні нáйдзіш. Могуць што хочыш сьцягну́ць і канцоў ні знáйдзіш. Усе відзілі, як адзін другому пірідывáлі, і канцоў ні знайшоў. **Канцы найціць** (знайціць). Якея ты канцы нáйдзіш, ці ты знаіш, чыё ета дзела? Ні ны такіх вы дуракоў нарвáліся, што думылі канцы знайціць так лёхка. *Незак., рэдкаўж.* **Канцоў не нахадзіць** (не знахадзіць). Я тут ні знала, аткуля пычынаць,

ніякіх канцоў ні ныхадзіла. Плоха ты бяресься, што канцоў ні знаходзіш.

**Капаць** (дакапывацца, раскапываць) **да дна** (глыбіны). *Даходзіць да сутнасці, выяўляць сапраўдны стан рэчаў.* Пушкоў як браўся, ён кыпа́ў усігда́ ды дна. Ду глыбіны́ кыпа́ць яны ні сталі, так, пыглядзелі троху і паехылі, тут нада нядзелі, каб рызыбра́цца ува ўсём. Нам ні нада дыка́пывыцца ды дна, самі ўсё вы́лыжуць. Любіў дыка́пывыцца ду глыбіны́, за што ні браўся. Рыска́пывыць ета дзела ды дна нада голывы ды голывы. Ні табе ў іх рыскапывыць ду глыбіны. *Зак.* **Дакапацца** (раскапаць) **да дна** (глыбіны). Што яны там чаго пірівярну́лі, усякіх даку́мінтыў, а ды дна ні дыкыпа́ліся. З намі так номір ня пройдзіць, дыкыпа́ліся ду глыбіны. Ні знаю, ці рыскыпа́іць тут хто ды дна. Утраіх пріехылі, пысядзелі хырашэнька, рыскыпалі ду глыбіны. *Аднакр.* **Капнуць** (капануць) **да дна** (глыбіны). Нада капну́ць ды дна, а ня первыя бума́жкі пылядзець і ўмы́цца. Ну як ду глыбіны́ капну́ць, тады яны зыска́чуць. Ішчэ ды дна ні кыпану́лі, а пыня́лі, што к чаму. Хто там кыпанець ду глыбіны, тумакі нейкія сідзяць.

**Ка́паць на мазкі,** *неадабр. Пастаянна паўтараць, аднастайна пераконваць, даводзіць.* Сашка сыма б ні даду́мылыся, ета ёй суседкі ўсё ка́пыюць ны мазкі́. *Зак.* **Накапаць на мазкі.** Я дужа ні знаю, ну думыю, што залоўка ныка́пыла ны мазкі, іна даўно як редзьку рвала. *Непаўн.* **Пакапаць на мазкі.** Пыка́пыў ны мазкі, іна й бесіцца. *Аднакр.* **Капнуць на мазкі.** Нарошня ка́пнулі ны мазкі, каб ён сь сябе выхадзі́ў. *Працягл.-фінальн.* **Дакапаць на мазкі.** Ён даслу́жыцца, дыка́пыіць той ны мазкі, што я яго прызра́ўлю.

**Капа́ць яму** (магілу). *Рыхтаваць пагібель.* Глядзі́ кыпа́ць яму, можыш сам бу́хнуцца, што ня вы́лізіш. Ты мне даўно магілу кыпа́іш. *Зак.* **Выкапаць яму** (магілу). Ету я́му табе Кірей вы́кыпыў, большы ніхто. Зьверь чылавек, родный сястре вы́кыпыў магілу, і туўхану́ў яшчэ. *Працягл.-фінальн.* **Накапаць** (дакапаць) **яму** (магілу). Ныкыпа́іш я́му, што сам у ёй ачынесься. Ныкыпа́ў другім магілу, ні знаіць сам, як сь пятлі вы́брыцца. Вот відзіш, як дыкыпа́ў яму, с такімі злаўреднымі усігда так. Пастой, пастой, дыкыпа́іш магілу, ну я тады выця́гывыць ня буду.

**Капейка ў капейку** (капеечка ў капеечку). *Абсалютна дакладна (пры грашовых разліках).* Мой ні рыстрáціць айдзе зря, сколька ні палучыць — прінясець капейка ў капейку. Прíдзіш з горыда і ты яму дай аччот, сколька пытрáціла, і каб сыйшлося капеічка ў капеічку.

**Капейкі не варт** (вартый, не стоіць), *м, ж; адз., мн. Пра зусім дрэннае, што не мае ніякай каштоўнасці.* Што ты чылавека хочыш з гультуя́, ён капейкі ні варт. Твой зяць капейкі ні вартый. Што ты купляў і айдзе твае вочы — прінёс шубку, што капейкі ні варта. Мала што Андрей тріпанець, яго словы капейкі ня стоюць.

**Каплі ў рот не браць.** *Не піць спіртнога.* Ён ужо нескылька гадоў каплі ў рот ні бярець. Раньшы каплі ў рот ні браў, а цяперь наўчы́ўся, жлу́кціць ла́дна. *Зак.* **Каплі ў рот не ўзяць.** Сколька ні прідлыга́лі, каплі ў рст ні ўзяў. Раньшы троху піў, а цяперя дывай — каплі ў рот ня возьміць.

**Капля ў моры.** *Надзвычай мала.* Што ношка таго сена — капля ў морі, тут нада са́мыя ма́лыя пудоў дваццыць.

**Капціць свет** (неба, светам). *Жыць бескарысна.* Што толку, што ты жывеш, капці́ш сьвет і большы нічога. Ай, капчу́ неба, якей зь мяне жыціль. Ну што ж, і Мыкар жыў, капці́ў сьветым. *Непайн.* **Пакапціць свет** (неба, светам). Жы́цілі зь іх былі,— так, пыкапці́лі сьвет і ўсё. Зь яго і ў молыдысьці такей толк быў, і цяперя ня лу́ччый, пыкапціў неба — і жызьня ўся. Ніхай шчот што пражыў, пыкапціў сьветым. *Законч.* **Адкапціць свет** (неба, светам). Як ня жыў, ну ніхай, аткапці́ў сьвет. Ніхай сьвят ляжыць, аткапціў неба. Нада ж як-то аткапціць сьветым. *Узмацн.* **Накапціць свет** (неба, светам). Ныжылі́ся, ныкапцілі сьвет, пыра ў дарогу зьбірацца. Жыў ня жыў, а неба ныкапці́ў. Што, ныкапцілі сьветым, во і жысьць уся.

**Караціць** (укарачываць) **жызінь** (жызню, жысць). *Даводзіць да страты здароўя, да заўчаснай смерці.* Міхалка сваімі скындалымі ны кажным шагу ёй кароціць жы́зінь. Кароцюць жы́зьню гарелкыю. Хваціць ужо яму кыраці́ць нам жысьць. Чаго табе йціць у такую сям'ю, нашто табе жызінь укыра́чывыць. Не, большы ты ня будзіш мне жызьню укырачывыць. Сам сабе етымі дурамі

укыра́чыіць жысьць. *Зак.* **Пакараціць** (укараціць) **жызінь** (жызню, жысць). Глядзі, пыдзіржа́ць у руках, дык пыкароцюць табе жызінь. Другога чаго ат іх ня жджы, а жы́зьню пыкароцюць. Такоя ўродзьдзя пыкароціць жысьць. Яны табе пыкароцюць жысьць, тады можа каго пыбаісься. Бысякі тэя укырацілі жызінь, разьві ты ні знаіш. Пынасу канешня укырацілі жызьню, у саду як пабілі, так ён і ня вы́кырыбкыўся. І п'яный кажный дзень, і с кулука́мі кідыіцца,— укароціць жысць. Можа й ні хацеў, ды ўкырацíў жысьць.

**Караціць** (укарачываць) **рукі**. *Адвучваць красці.* Нада табе кырацíць рукі, і дужа нада. Прідзіцца твайму балбесу укырачывыць рукі, так жыць пу-суседзку нілізя́. *Зак.* **Пакараціць** (укараціць) **рукі.** Цяперіцька, я уверін, большы і ні прітроніцца к чужому, пыкырацілі рукі. Есьлі сыма ні ўкароціш рукі, мы яму ўкароцім, і так, што на ўсю жызьню запомніць. Даўно ірваўся, каб рукі ўкырацілі.

**Караціць** (укарачываць) **язык,** *іран. Адвучваць балбатаць, папярэджваць балбатню.* Ета Анікын Варкі ўсё зьбіра́ўся кырацíць язык. Ты ўсё сваёй укырачывыў язык, а йна й сяньня ім, як пымялом, ляскочыць. *Зак.* **Пакараціць** (укараціць) **язык.** Даўно ўжо ўремя прішло язык табе пыкырацíць. Во каб хто найшоўся ды ўкыраціў ім абеім язык, ато ж пряма места сабе ні находзюць.

**Карачун прышоў,** *гумар., іран.; пр., буд. Пра наступленне смерці.* Можа і мой жджэць, каб ны мяне кырачу́н прішоў. А каб ужо ны цябе кырачун прішоў. Ды ён жджэць, што ны цябе кырачун прідзіць. *Незак., рэдкаўж.* **Карачун прыходзіць,** *цяп., пр.* Ляжу, думыю, кырачун пріходзіць. За кім тута кырачун пріхадзіў?

**Карман не пазваляець,** *цяп., пр. Пра абмежаванасць у грашовых сродках.* Купіць ба хацелыся многа чаго, ды кырма́н ні пызвыля́іць. Яму і летыся кырман ні пызвыля́ў, і сёліта тоя самыя — дужа ні пра́нца німа. *Зак.* **Карман не пазволіў,** *пр., буд.* Усё зразу набы́ць кырман ні пазволіў, нічога, сы шка́пым пыўрімянíць можна. Не, я ўжо і так і етык прікíдывыў: ні пазволіць кырман ны шысьцісьценку рызмахну́цца.

**Карман пазваляець,** *цяп., пр. Пра наяўнасць значных грашовых сродкаў.* Жывець — чорт ні бярець, кырман

на ўсё пызвыля́іць. Як кырман пызвыля́ў, дык і я нічога ні жалеў, а цяперя ня тоя, пріходзіцца шчытней апхадзіцца. *Зак.* **Карман пазволіў,** *пр., буд.* Чаго ж, кырман пазволіў еткія харомы ўзьвесьць. Есьлі кырман пазволіць, то зьежджу, хочыцца ж пывіда́ць сваіх.

**Карміцца абяшчанкамі,** *іран., рэдкаўж. Верыць ненадзейным абяцанням.* Я пірістаў ужо карміцца абішча́нкымі. Усё ішчэ корміськя абішчанкымі? *Працягл.* **Пакарміцца абяшчанкамі.** Пыкарміўся абішчанкымі, сыт, прінясеш руба́ньк — палу́чыш долыта. *Законч.* **Адкарміцца абяшчанкамі.** Ніхай іх, аткармі́ўся абішчанкымі, большы дайжа на нохыць ні паверю. *Гл.* К а р м і ц ь а б я ш ч а н к а м і.

**Карміцца заўтракамі,** *іран., рэдкаўж. Верыць абяцанаму (звыч. назаўтра).* Паку́ля ўсё за́ўтрікымі кармлю́ся, пыгляджу́, сколька йта будзіць цягну́цца. *Працягл.* **Пакарміцца заўтракамі.** Мы пыкарміліся яго за́ўтрікымі, чуць ні ста́лыся бульба нігыня́тыю. *Законч.* **Адкарміцца заўтракамі.** Я ня меншы цябе аткарміўся заўтрікымі іхнымі, большы ні хачу. *Гл.* К а р м і ц ь з а ў т р а к а м і.

**Карміць абяшчанкамі.** *Пастаянна толькі абяцаць, быць гатовым зрабіць толькі на словах.* Дзелыць разу нічога ня хочыць, а ўсё корміць абішча́нкымі. Сколька ж ты мяне будзіш яшчэ карміць абішчанкымі? Віктыр, бувала, што возьміць і тады корміць абішчанкымі. *Зак.* **Накарміць** (накарміцца) **абяшчанкамі.** Яны мяне ныкармілі абішчанкымі, сыта па горла буду доўга. Ныкармі́ліся абішчанкымі большы некуды. *Працягл.* **Пакарміць абяшчанкамі.** Ні разу ні забу́ду, як мяне Домніны пыкармі́лі абішчанкымі. *Абмеж.* **Пракарміць абяшчанкамі.** Ты ўмеіш, абішчанкымі пракорміш любога і сколька хочыш. *Законч.* **Адкарміць абяшчанкамі.** Аткарміў абішчанкымі хва́ціць: водз за́ўтря прінясу́, вот посьлізá́ўтріга — другей год нясець. *Працягл.-фінальн.* **Дакарміць абяшчанкамі.** Дыкармілі абішчанкымі, што аста́ліся ў зіму біс па́лкі дроў.

**Карміць заўтракамі,** *іран. Абманваць, адгаворвацца абяцаннямі выканаць на наступны дзень.* Нядзелі трі, знаць, карміў за́ўтрікымі: водз заўтря зьдзелыю, водз заўтря. *Зак.* **Накарміць** (накарміцца) **заўтракамі.** Ны-

карміў заўтрікымі, пірявёз: і сяньня торх ны балоці мякніць. Толька паверь, накормюцца заўтрікымі, будзіш сыта. *Працягл.* **Пакарміць заўтракамі.** Сколька яны мяне нывылаводзілі, пыкармілі заўтрікымі! *Абмеж.* **Пракарміць заўтракамі.** Спасіба яму, прыкарміў заўтрікымі, пасьці месіц яго заўтря ждалі. *Законч.* **Адкарміць заўтракамі.** У яго ўсё заўтря, што ні пыпрасі — заўтря і заўтря,— мы сыты, і цябе аткорміць заўтрікымі. *Працягл.-фінальн.* **Дакарміць заўтракамі.** Дыкарміў заўтрікымі, што бясь сена асталіся, усё ізыком тріпаўся: я вас зывалю сеным.

**Карона не спадзець** (не зляціць, не зваліцца, не з'едзець), *іран.; буд., рэдка пр. Пра адсутнасць небяспекі страціць годнасць, унізіцца або пра адсутнасць у чалавека той годнасці, якую ён на сябе напускае.* Ідзі, выкінь троху гною, карона сь цябе ні спадзець. Калі і пыкашывыіш сколька дней, карона ні зьляціць. Карона ні зваліцца, есьлі пыработыіш, а як жа я дзень у дзень і пыцягнулыся, і пыцягнулыся. Ні спала б карона, каб сена пудвурухнуў. Каб і карову завёў, карона б ні зьляцела. Во відзіш, і двор выміў, і карона ні звалілыся. Вот і ня зьехыла з вас карона ні с аднаго ні з другога. **Карона спадзець** (зляціць, зваліцца, з'едзець). Ня бойся, што карона спадзець, цэл будзіш. Дужа быіцёся, што карсна зьляціць. Есьлі ўжо й карона зваліцца, бяды ня будзіць. Ну, карона з вас зьедзіць, калі пыкыпаіця адзін дзень.

**Карта біта,** *адз., мн. Пра няўдачу.* Цяперь ён нічога ня зьдзелыіць, яго карта біта. Твае карты біты, сядзі і ня ріпыйся.

**Касцей не сабраць.** *Пра бясследнасць знішчэння, пагібелі.* Ён табе ўлупіць, што касьцей ні сыбяреш. Дай, каб касьцей ні сыбраў. Паедзіш, дык прыпадзеш ні зы панюх тыбакі, касьцей ні сыбяреш. Ну каб ны яго нырваліся, касьцей ба яго ні сыбралі. **Косці сабраць.** Глядзі, глядзі, косьці сыбраць ні пасьпеіш, храбрец еткій. *Парайн.:* Толька палезь, сам будзіш свае косьці сыбіраць. *Узмацн.* **Касцей не пасабіраць** (не пасабраць). Другей раз падлезуць, дык ні пысыбіраюць касьцей. Касьцей ні пысыбіріцё, хрыбряцы еткія.

**Касэй** (касый, касая) **сажань у плячах.** *Здаравенны, шыракаплечы.* Тэй мушчынішча пыглядзець толька —

касэй са́жынь у плічах. Зыйжджа́лі Аксюціны пляменьнікі — здыраву́шчыя лабрэціны, касый сажынь у плічах. Ён кысая сажынь у плічах, а ты проця яго гніда.

**Каціцца калбасою,** *вульг. Шпарка, без аглядкі адпраўляцца.* Ні хацеў пабы́ць як людзі — каці́ся кылбасою. *Зак.* **Пакаціцца** (выкаціцца) **калбасою.** Пакоцісься кылбасою, толька пяткі зыдрынча́ць. Кылбасою вы́кыцісься у етый жа самый мамент.

**Каціцца кумільгам.** *Шпарка, без аглядкі несціся.* Цярьпеў ён, цярьпеў, а тады ўзяў мятлу, дык яны каціліся ку́мільгым хто куды. *Зак.* **Пакаціцца** (выкаціцца) **кумільгам.** Ой, як вы січас пакоціціся кумільгым, во будзіць карціна — луччы некуды. Січас я цябе уніму: вы́кыцісься кумільгым ат'стуля.

**Каціць кумільгам.** *Рашуча і энергічна гнаць, выганяць.* Яго нада було аттуля даўно каціць кумільгым. *Зак.* **Пакаціць** (выкаціць) **кумільгам.** Толька ты мне ні ўся́дзься, так пыкачу ку́мільгым, што зы сікунду пыд быльшаком ачынесься. Ты дужа цірьпялі́выя, я б ні стала столька угыва́рівыць ды ўвішча́ць, я б скора вы́кыціла кумільгым.

**Кацялок не варыць,** *груб., цяп., пр. Пра поўную бесталковасць.* Раз кыцялок ні ва́ріць, то ні бяры́ся бырапу гырадзі́ць. У цябе ні разу і ні на што кыцялок ні варі́ў. **Кацялок варыць,** *цяп., пр.* Па-твойму, усе дуракі, у цябе толька ў аднаго кыцялок ва́ріць. Калі ён у яго тэй кыцялок варі́ў? *Зак.* **Кацялок не зварыў,** *пр., буд.* Тут усё було прасьцей простыга, а ў цябе ўзноў кыцялок ні зваріў. Пысла́ла і апяць баю́ся: тоя са́мыя палу́чыцца — кыцялок ні зваріць. **Кацялок зварыў,** *пр., буд.* Ні глядзі, што зь віду выранёнык, кыцялок зварі́ў, што к чаму. Можа ж хуць раз кыцялок зва́ріць.

**Качаргою носа** (шапкі) **не дастаць,** *іран. Не даступіцца (пра ганарыстага).* Мікіцёнык настолька ўзгардзі́ўся, што кычарьгою носа ні дыста́ніш. У вас цяперіцька кычарьгою шапкі ні дыстаць. Летыся так быў зыгардзі́ўся, што кычарьгою шапкі ні даста́ў ба. **Качаргою нос** (шапку) **дастаць.** Ты ў яго кычарьгою нос дыстаць папробуй. Айдзе ты ў яго кычарьгою шапку дыста́ніш, раз нычá́льствым стаў. *Гл.* З кукішам носа не дастаць.

**Каша заварываецца,** *цяп., пр., буд. Пра пачатак звады, бойкі і іншых падобных падзей.* Я віджу, што там каша зыва́рівыіцца, шапку ў рукі і аттуль, што мне зь імі дзяліць. Усё мы відзілі, як у іх каша зыва́рівылыся, мы ж стыя́лі ціріз дарогу. Есьлі ікая каша будзіць зыва́рівыццa, пызывіцё мяне. *Зак.* **Каша заварылася,** *пр., буд.* Я быў там, як у іх каша зыварі́лыся. Вот ніхай сойдуцца дучча́ні зь бірязу́йкыўцымі, узноў каша зыва́ріцца. Жыва каша можыць зываріцца.

**Каша ў галаве,** *неадабр. Блытаніна ў разважаннях.* Паслу́хыў я яго тріпатню, слова путнога ні скажыць, каша ў гылаве. У бацькі ўсігда каша была ў гылаве і сын такей самый.

**Кашу расхлёбываць.** *Разбірацца замест іншага ў вельмі складанай і заблытанай справе.* У атменку зы Пыдгародзьдзя ўзя́лі пустога поля, а посьлі сколька гадоў кашу расхлёбывылі. *Зак.* **Кашу расхлябаць.** Зыварі́лі дык зыварілі, хто й калі ету іхную кашу рысхлібá іць, ні знаю.

**Кашэччый** (кашаччый) **канцэрт,** *іран. Гучныя бязладныя спевы з віскам і скогатам.* Што ж там будзіць паслу́хыць у іх чылавечыскыя? — кашэччый канцэрт. Зывялí на тым канцы кашэччый канцэрт. Кыша́ччый канцэрт, а ня песьні.

**К дабру.** *На лепшае.* Ня думыю, каб ты **г** дабру етык усхліхыта́ўся. Ці **г** дабру тваё ба́лыўства? Сяньня яны рызыйшлíся ныўряд каб **г** дабру. *Парайн.* Не к дабру.

**К душэ.** *З прыемнасцю і карысцю (з'есці).* Во ў цябе, мыя ты ку́мычка, хуць я неік **г** душэ зьела ба́бкі с са́лым. У яе і ў рот што ўзяць дык **г** душэ.

**Кідацца на сцяну,** *груб. Бурна выражаць злосць, бушаваць, лаяцца.* Чаго ты кі́дыісься ны сьцяну́ сы сваім пря́слым, хто яго тамыцька трогыў. Пряма ны сьцяну кіда́іцца, калі яму адно слова ныпярёк ска́жыш. *Зак.* **Кінуцца на сцяну.** Глядзі, ато січас ны сьцяну́ кініцца. Як пымяну́лі снапы́ летышнія, дык ён пряма ны сьцяну кінуўся. *Працягл.-фінальн.* **Дакіда́цца на сцяну.** А дыкіда́ісься ны сьцяну, і цябе уні́муць хырашо. *Гл.* Лезць на сцяну.

**Кіда́цца словамі** (славамі). *Гаварыць, абяцаць легкадумна.* Ня кідыйся словымі, луччы будзіць. Ну што ты кіда́ісься словымі, толька зводзіш чылавека. Прівык слыва́мі кідыцца як зря.

**Кіда́цца ў вочы.** 1. *Прыцягваць увагу сваёй адметнасцю.* Відзіш, якую хату ацстроіў, усім кідыіцца ў вочы. 2. *неадабр. Грубіяніць.* Ці роўный хто яму, ці не, ўсім кідыіцца ў вочы. *Зак.* **Кінуцца ў вочы.** 1. Што нам кінулыся ў вочы, дык ета іхнія атнашэнія: відна, яны паміж сабою нісколька ні ладзюць. 2. Ні ш чаго ні зь я́кыга як кініцца ў вочы, а што там такога було? — я два словы скыза́ла ўперік і ўсяго.

**Кіда́ць** (астаўляць) **без рубашкі** (сарочкі), *асудж. Абіраць да апошняга.* Хадзілі, чы́сьцілі клеці, кідылі людзей біз рубашкі. Яны ж цябе абувалі-адзівалі, як жа табе ня стыдна кіда́ць іх біс сарочкі. Як ета я цябе астыўля́ю біз рубашкі, вун ішчэ цэлый сундук ныкря́тын, спыжыві́ толька. Ніхай треплюцца, я іх біс сарочкі ні стыўля́ла. *Зак.* **Кінуць** (аставіць) **без рубашкі** (сарочкі). Даўно ўся́кыю совісьць пыціря́лі, кінулі чылавека біз руба́шкі і як так нада. Толька пынадзейся, ён і цябе біс сарочкі кініць. Ім нядоўга і біз руба́шкі аставіць. Да тых пор будуць цягну́ць, што біс сарочкі аста́вюць. *Узмацн.* **Пакіда́ць** (паастаўляць) **без рубашкі** (сарочкі). Каб мы ні ўстря́лі, яны б іх біз руба́шкі пыкіда́лі. Ім ня дужа доўга і біс сарочкі пыкіда́ць. Пыстыўля́юць біз рубашкі, во і ўся ныгра́да будзіць. Адблыгыдыря́ць, палу́чыця блыгыда́рнысьць, як пыстыўля́юць біс сарочкі.

**Кіда́ць** (астаўляць) **з носам.** *Падманваць з лоўкасцю і спрытам.* А хто цябе, скажы, ні кіда́ў з носым? Што яго астыўля́ць з носым, ён і так грак гра́кым. *Зак.* **Кінуць** (аставіць) **з носам.** Надзеіўся: во ўжо у руках усё, а тут так кінуць з носым ета і ныпра́ўду нада ўмець. Раз цябе путкузьмі́лі луччы некуды і другей раз аста́вюць з носым. *Узмацн.* **Пакідаць** (паастаўляць) **з носам.** Як жа вас так лоўка пыкіда́лі з носым? З носым вас пыстыўля́юць і агляну́цца ні пасьпеіця. *Працягл.-фінальн.* **Накіда́ць** (наастаўляць, дакідаць, даастаўляць) **з носам.** Ныкіда́іш з носым, кіда́ньнік еткій. Ну й ныстыўля́ў з носым, сам у дурука́х акыза́ўся. Дыкіда́юць

з носым, як ны свайго нарву́цца. Адзін ужо дыастыўля́ў з носым, рысхацеў большы астыўляць.

**Кіда́ць** (астаўляць) **мокрае места,** *іран., гумар. Збіваць, забіваць (звыч. як пагроза).* Ты ат мяне зьбіра́ісься кіда́ць мокрыя места? — ды ты знаіш — ат адной маёй рукі пыляціш. Вун паслу́хый, Пецька зьбіра́іцца астыўля́ць аць цябе мокрыя места. Ты ці ні ат усіх мокрыя места астыўля́іш? *Зок.* **Кінуць** (аставіць) **мокрае места.** Дужа я баю́ся цябе, кініш ты мокрыя места,— глядзі, каб ац сымаго скарей мокрыя места ні асталося. Есьлі ты яшчэ раз так падлезіш, я аць цябе мокрыя места астáўлю. *Працягл.-фінальн.* **Накідаць** (наастаўляць, дакідаць, даастаўляць) **мокрае места.** Ён у мяне, етый кіду́н, ныкіда́іць мокрыя места. Ну што, ныстыўля́ў мокрыя места, сам з рёвым бег. Дужа грозін быў, а відзіш, як дыкіда́ў мокрыя места. У мяне б яны быстра дыастыўля́лі мокрыя места, ета ты іх баісься.

**Кіда́ць вокам.** *Паглядаць мелькам, між іншым.* Мне ў шчэлычку відна: доўга стыя́лі, дуду́кылі і ў тэй бок усё кідылі вокым то дна, то другая. *Зак.* **Кінуць вокам.** Некылі було дужа прігліда́цца, так, вокым зда́ліку кінуў туды дый пабег. *Непаŭн.* **Пакіда́ць вокам.** Відна, іна ні зря пакідыла сюды вокым, раз пабег такою парою. Учора пыкіда́ў г быльшаку вокым, мінуту пысядзіць, ні сядзіцца, пабег.

**Кіда́ць граззю.** *Чарніць, зняслаŭляць.* Ні нада ў чылавека кіда́ць гря́зьзю, ішчэ ні знаіш, што можыць с самім у жызьні случы́цца. *Зак.* **Кінуць граззю.** Ёй нічога ня стоіць кінуць грязьзю у чылавека. *Узмацн.* **Пакіда́ць граззю.** Сколька яны пакідылі грязьзю у Аксюту, толька мала хто знаіць. *Закончч.* **Адкіда́ць граззю.** Ну аткідылі ў яе грязьзю хва́ціць,— як іна толька цярьпела ўсё ета. *Працягл.-фінальн.* **Накідаць** (накідацца, дакідаць, дакідацца) **граззю.** Ныкіда́іць грязьзю, так палу́чыць калі-нібу́дзь, што ны сябе забу́дзіць. Нычарніліся, грязьзю ныкіда́ліся, усяго хваціла. Ішчэ ні так другей раз прыздра́ўлю, дыкіда́іць грязьзю. Дыкіда́юцца грязьзю, ні я буду, што атлаю сколька ўлезіць.

**Кіда́ць за пакідзішча** (пакіддзе). *Спыняць дагляд, прыгляд.* Ста́рыга кідыюць зы пакідзішча — ніхто ні гляніць дайжа, якія ж яны дзеці. Ты ж ні кіда́й дзяцей

зы пакі́дзьдзя. *Зак.* **Кінуць за пакідзішча** (пакіддзе). Кінула зы пакідзішча і хату, і гарод, цігáіцца айдзе дзень, айдзе ноч. Ну як іна кінула дзяцей зы пакідзьдзя, што іна сыма сабе дýмыіць. *Працягл.-фінальн.* **Накідаць за пакідзішча** (пакіддзе). Нықідáіш калі-небудзь зы пакідзішча, пріцягнісься — голыя вуглы астáнуцца, глыданеш іх. Глядзі, нықідáіш зы пакідзьдзя, прыдасьць халýпу і паедзіць к сыну, а ты, ветріньніца, астáнісься як кукушка.

**Кідáць камнем** (камень). *Знеслаўляць, чарніць, распускаць хлуслівыя чуткі.* У каго ж ты кідыіш камнім, як жа табе ня стыдна такоя гывáріць. У мяне кідáць камінь ніхто ні стáніць, ня бойся ты. *Зак.* **Кінуць камнем** (камень). Уредзіна чылавек: кініць камнім з-зу вугла, што й ува сьне ні сасьніў ба, любую трілю́ду распýсьціць, а ў вочы будзіць як мáсьліный блін — та-та-та-та. Пры каго вы гаворіця, доўга яму кінуць камінь.

**Кідаць камушкі** (камушкам) **у гарод,** *гумар. Намякаць нібы між іншым, каб збянтэжыць.* Я знаю, у чэй гарод Васіль кідаў камушкі. Ета ты у мой гарод кідыіш кáмушкі? Чуіш? — ён кідыіць камушкым у твой гарод. *Зак.* **Кінуць камушак** (камушкам) **у гарод.** Етый кáмушык ляцеў у мой гарод, у твой гарод ён ня кініць камушык. Ты ня ўпýсьціш слýчыя, кініш камушкым у мой гарод. *Працягл.* **Пакідаць камушкі** (камушкам) **у гарод.** Лявон пыкідáў ёй камушкі у гарод, часта зыстыўляў за Шуріка красьнець. Раз дызнáліся, то пыкідáюць камушкі у гарод, так ні прапýсьцюць.

**Кідаць напярод** (наперад, упярод, уперад). *Рабіць з разлікам на будучае.* Ён жыў, дык усігда кідáў ныпярёд, думыў пры зáўтрішній дзень. Кідай наперід, адззáду падні́міш. Хто кідыіць упярёд, тэй ні прыгыдáіць. А разьві ета дренна, есьлі хто ўмеіць кідáць уперід. *Зак.* **Кінуць напярод** (наперад, упярод, уперад). Кінуць ныпярёд нада так, каб пыднáць посьлі. Умеіць кінуць наперід, бышкá вáріць вы ўсякім дзелі. Зь естым пацьцёлычкым яны кінулі далёка упярёд, і ў іх тут саўсім случáйна ня вы́пыліла. А ты ўсігда кінь уперід, як другея дзелыюць. *Узмацн.* **Пакідаць напярод** (наперад, упярод, уперад). Рызівон такей пыкідáіць ныпярёд, будзіць пыкідáна. Ён пакідыў наперід, толька няўмела, нічога ні пулучы́лыся ў яго. Пыкідáй упярёд, як Аўсей,

што ўсё зыпа́іўвыў брігадзіра. Зря пыкіда́ла уперід, у яе быў рашчот саўсім ну другоя, што ты ду́мыіш. *Законч.* **Адкідаць напярод** (наперад, упярод, уперад). Аткіда́лі ныпярёд, уня́ліся, пыча́лі нічога работыць. Я аткіда́ла наперід, хваціць, ты бяріся, кылі хочыцца. Усё глядзеў, айдзе пыдма́сьліць, айдзе пад'ехыць, а толька знаць аткіда́ў упярёд. Аткідаў уперід, сыбраў сваё кіда́ньня — мала, траты було большы.

**Кідаць праўду ў вочы.** *Выказвацца прама і адкрыта.* Кыцяріціны нявесткі, бувала, ні сыцісьня́ліся, кі́дылі праўду ў вочы любому-ка́жныму. *Зак.* **Кінуць праўду ў вочы.** Ні зулюбі́ў, як яму кінулі праўду ў вочы: а прічом я тут,— зубурчэў. *Законч.* **Адкідаць праўду ў вочы.** Лыўріноўна аткіда́ла праўду ў вочы, маўчыць,— няскора ны яе уход найшоўся. *Працягл.-фінальн.* **Накідаць** (дакідаць) **праўду ў вочы.** На Колю пынадзейся, ныкіда́іць праўду ў вочы,— ён слова пікнуць пыбаіцца. Дыкіда́ў праўду ў вочы, сьціх, зь яго праўдыю і крі́ўдыю ра́зым.

**Кідаць у жар.** *Бянтэжыцца да пачырванення, да крайняй узрушанасці.* Як Маша зыйшла, так і пычало яго кі́дыць у жар. Кіда́ла ў жар, кідала, ды кіда́ць большы некуды: і красьнеў, і бялеў, і чаго зь ім ня дзелылыся. *Зак.* **Кінуць у жар.** А што, кінула ў жар, як рыскыза́ў брату пры тває вы́дзілкі. *Непаўн.* **Пакідаць у жар.** Ніхай трошку пакі́дыіць у жар, ніхай пыкрасьнеіць, можа хуць што-небудзь пойміць. *Працягл.-фінальн.* **Накідаць у жар.** Ныкіда́іць іх у жар, стыдзя́цца яны дужа каго-небудзь ці чаго-небудзь.

**Кідаць цень.** *Ставіць пад сумненне, наводзіць падазронасць.* Нашто табе кі́дыць цень ны чылавека ні зна́ючы і ня відзіўшы. *Зак.* **Кінуць цень.** Кінулі цень на хлопца, а я цьвёрда знаю, што ён там нісколічка ні вінува́т.

**Кідаць якар,** *гумар. Спыняцца, асядаць на сталае жыхарства.* Кызаў, што зьбіра́іцца кіда́ць я́кырь у Каскові. *Зак.* **Кінуць якар.** Кінь ты ўжо айдзе-небудзь якырь, аціхамі́рься. Во і Якыў кінуў якырь.

**Кіем** (палкаю) **шапкі не дастаць,** *іран. Не даступіцца (пра ганарыстага).* Ну нягож, сколька гоныру, шкурбаці́ну ўсторнуў, дык кі́ім шапкі ні дыста́ніш. Пал-

кыю шапкі ні дыста́ніця, айдзе там пытхадзіць. **Кіем** (палкаю) **шапку дастаць.** Кіім шапку дыстаць, і то айдзе ты дыста́ніш. Ці дысталі вы ў Сашкі шапку палкыю? *Гл.* Качаргою носа не дастаць.

**Кінуцца** (ударыць, стукнуць) **ў галаву.** *Раптоўна з'явіцца ў памяці.* Як пыдыйшла к самым куста́м, тады мне кінулыся ў гылаву, што я ж карову ні пыдаіла. Як жа мне раншы ні ўда́ріла ў гылаву пры твае сыпагі. Ета хырашо, што табе уда́ріла ў гылаву́ пра сьпічкі,— біз агня б сядзелі. Калі ж яму стукніць у гылаву, што доўг аддыва́ць нада.

**Кіпець на серцы** (душэ). *Моцна злавацца, крыўдзіцца, знешне не выказваючы пачуццяў.* Як рыскыза́лі пры Аньку, доўга ў яго кіпела на серцы. Якоя мне дзела, есьлі ў Стася кіпіць ну душэ. *Пачын.* **Закіпець** (ускіпець) **на серцы** (душэ). У яго зыкіпела на серцы, тольки ён умеіць сябе дзіржа́ць. Як зыкіпіць ну душэ, яго зразу пызна́іш. Чаго ж у цябе так уськіпела ну душэ? *Непаўн.* **Пакіпець на серцы** (душэ). Што, пыкіпела на серцы, як пышла з другімі? Ніхай пыкіпіць ну душэ, асты́ніць і абойдзіцца. *Узмацн.* **Накіпець на серцы** (душэ). Многа ныкіпела на серцы, ну кылі-ніб́удзь усё вы́скыжу. Ну душэ ныкіпіць, тады бягіць сварі́цца. *Законч.* **Адкіпець** (перакіпець) **на серцы** (душэ). Доўга ня мог забыць ета, пакуль аткіпела на серцы. Ня трогый яго, ніхай аткіпіць ну душэ. Пірікіпела на серцы, успакоіўся, уремя ўсё лечыць. Уремя прашло, пірікіпела ну душэ, большы уродзі ня сердзіцца.

**Кіпець у ключ,** *іран. Моцна злаваць, ледзь стрымліваючыся.* Зразу ні пыня́ць було, чаго ён кіпіць так у ключ. *Зак.* **Закіпець у ключ.** Папробый-ка зьдзелый што ні пы яго ці ступі ні так, січас зыкіпіць у ключ. *Непаўн.* **Пакіпець у ключ.** Ніхай пыкіпіць у ключ, ніхай, на тоя самыя места узноў ся́дзіць. *Законч.* **Адкіпець у ключ.** Во найшлі пры каго тулкува́ць, што расьсердзіўся, аткіпіць у ключ і ўспакоіцца. *Працягл.-фінальн.* **Накіпецца ў ключ.** І ныкіпеўся у ключ, і агыйціць пасьпеў, а цябе ўсё німа й німа.

**Кіпці** (зубы, зубкі, кіпцюры) **паказываць,** *іран. Агрызацца, пачынаючы адчуваць сваю сілу.* Ні глядзі, што мыладэй, кіпці пыка́зывыіць. Каму хочыш зубы пыка́зыіць, дужа ні абрышча́іць уніма́нія ны чыны́. Не,

ду́мыю, рана табе йшчэ зубкі пыказывыць, ды такую ба́ню дыла́, што надоўга запомніць. Яны летыся пробывылі кіпцюры пыказывыць. *Зак.* **Кіпці** (зубы, зубкі, кіпцюры) **паказаць.** Матка і нічога ні прыгываріла, а йна так кіпці пыкызала, што мы ні зьдзівіліся. Не, брат, ня ціхінькыя, Максіму ого як зубы пыкызала. Яны скора зубкі пыкажуць, чыста ў маму пашлі і хракцірым, і ўхва́ткыю, і ўсім. Нада ж було калі яму і кіпцюры́ пыкызаць, дос цярьпець. *Працягл.-фінальн.* **Кіпці** (зубы, зубкі, кіпцюры) **напаказываць.** Ныпыка́зывыіць кіпці, я яго атвучу — ны кажным шагу агрыза́іцца. Сь сянішніга дня бяруся зы яго абеімі рукамі, ныпыка́зыіць ён зубы. Усё, ныпыказывылі зубкі, большы ні building станиуць. А таго кіпцюры ныпыказывыў, што ныдаела ны распусту глядзець і цярьпець яе ныдаела.

**Кіснуць са смеху** (со смеху), *неадабр. Моцна смяяцца, стрымліваючы смех.* У той хаці ўсё кісьлі са сьмеху,— нейкія картычкі рызглідалі. Хваціць кіснуць со сьміху, дзела дзелыйця. *Зак.* **Скіснуць са смеху** (со смеху). Як скызаў я: Кындрашонык ідзець, яны глянулі адна на дну і ськісьлі са сьмеху. Глядзіця ня ськісьніця со сьміху. *Узмацн.* **Пакіснуць са смеху** (со смеху). Ну, ну, ну, пакісьніця січас са сьмеху, рітуваць пры́дзіцца. Ён гаворіць сурьёзна, а мы былі пакісьлі со сьміху. *Працягл.-фінальн.* **Накіснуцца са смеху** (со смеху). Накісьліся са сьмеху, глядзіця, ета ні пірід дабром так буваіць,— пafіріць сьлізамі. Пашлі,— там яны накіснуцца со сьміху.

**Кітайская грамата,** *неадабр. Штосьці зусім незразумелае.* Нічога я ў етый кіта́йскый гра́мыці ні рызьбяру́ся. Табе ўсё кітайскыя грамыта.

**Кішка тонка,** *іран., кніжн. Пра адсутнасць здольнасцей, сілы, сродкаў, умення.* Кішка́ ў цябе тонка так жыць, як Васіль жывець. Хваліўся: што мне стол зьдзелыць, толька ўзяцца, а ўзяўся — не, кішка тонка, ні пулуча́іцца. Кішка тонка спра́віцца са мною.

**Кішкі марш іграюць,** *гумар., цяп., пр., буд. Пра адчуванне голаду.* Дыва́й-ка сірбану́ць троху чаго, ато ўжо кішкі марш іграюць. Ого, еткій дзень ня еўшы стыяў, кішкі марш игралі. Трошку пыляжу́, а як кішкі марш будуць іграць, скажыш. *Зак.* **Кішкі марш зайгралі,** *пр., буд.* У цябе, наверна, тожа кішкі марш зыйгра́лі. Кішкі

марш як зыйгра́юць, сухой скарі́нкі рад будзіш. *Непаўн.* **Кішкі марш пайгралі,** *пр., буд.* Ап сухом хлебі кішкі марш пыйгралі. Пашоў і нічога ні ўзяў, ну ніхай, кішкі марш пыйграюць. *Законч.* **Кішкі марш атайгралі,** *пр., буд.* За трі дні кішкі марш атыйгра́лі, жываты пыўця́гывыла. Як атыйграюць кішкі марш, абрузумі́цца, што вупруўляцца ў такую дарогу біс куска хлеба нільзя.

**Кішкі прысохлі** (прыраслі) **к спіне,** *неадабр., пр., буд. Пра таго, хто мала есць, хто вельмі худы.* Бегыюць жа, нічога ў рот ні бяруць, кішкі прісохлі к сьпіне. Дайжа ныкармі́ць у хату ні загоніш, у іх кішкі прірасьлі́ к сьпіне. У цябе скора кішкі прісохнуць к сьпіне,— нічога ні ясі, а ва́ріныга і ў рот ні бяреш. *Узмацн.* **Кішкі папрысыхалі** (папрырасталі, папрыраслі) **к спіне,** *пр., буд.* Там, наверна, кішкі к сьпіне пыпрісыха́лі. Якей тут жывот у сухоцьця у такога, тут кішкі к сьпіне пыпрірыста́лі. Нічагенічка ня хочуць у рот браць, вы́сыхлі ны былі́нычку, кішкі к сьпіне пыпрірасьлі́. Як вісна́, дык зь етымі дзіцямі горя, пад'есьць ні прітý ркыіш, кішкі к сьпіне пыпрісыха́юць. Ат такея яды кішкі к сьпіне пыпрірасту́ць.

**Кланяцца** (пакланяцца) **ў ногі** (ножкі). *Прыніжаць сябе, сваю годнасць.* Кла́ніцца ў ногі вам ніхто ні ста́ніць. Любіў ба, каб яму ў ножкі кла́ніліся. Віріду ва́ў жа, пыклыня́ліся яму ў ногі. *Зак.* **Пакланіцца ў ногі** (ножкі). Нада, дык і ў ногі паклонісься. Ну што, можа вам у ножкі пыклані́цца. *Законч.* **Адкланяцца ў ногі** (ножкі). Аткла́ніліся вам у ногі, хва́ціць ужо. Большы чым нада аткла́ніліся тады яму ў ножкі. *Працягл.-фінальн.* **Накланяцца** (дакланяцца) **ў ногі** (ножкі). Ныкла́ніліся ў ногі ўсякім пыразі́тым, што слова добрыга ня стоюць. Ніхай я ныкла́нілыся ў ножкі, ты ні ныкла́нілыся, ну й хырашо. Дыкла́ніўся ў ногі, ідзець ні ш чым. Вот можа ж дыкла́ніішца ў ножкі, пойміць хуць што-небудзь.

**Класць** (лажыць, закладаць, закладываць) **рогі на** (за) **спіну,** *іран. Капрызіць, паказваць недаступнасць, непакору.* Слова ні так ёй пыка́жыцца, січас кладзець рогі ны сьпіну́. Хва́ціць лажыць рогі ны сьпіну, капры́зы свае пыказывыць. Ціряшчу́р прівы́кла зыклыда́ць рогі ны сьпіну. Пііц Сыўчанком усё зыкла́дывыіць рогі ны сьпіну. Ні так ступі́ў, і пышла́ класьць рогі зы сьпі-

ну. С табою Верка рогі зы сьпіну ні лажыла. Сколька ж ета ёй, што так зыклыдáіць рогі зы сьпіну? Ці ты пакуля ні рузучы́лыся рогі зы сьпіну зыклáдывыць? *Зак.* **Пакласць** (палажыць, закласць, залажыць) **рогі на** (за) **спіну.** Ну чаго, чаго рогі ны сьпіну пыклаў? Як пылажы́ла рогі ны сьпіну, ня скора ўгаворіш. Ежылі зыклáла рогі ны сьпіну, ніякія рызгаворы ні падзействыюць. Глядзі, січас яшчэ рогі ны сьпіну заложыць. Ня трогый чарцей, ну іх, відзіш, пыклáлі рогі зы сьпіну. Рогі зы сьпіну як паложыць, толку тады ня жджы. Я дык зáгыдзя знаю, калі іна рогі зы сьпіну зыкладзець. Нешта ёй пыкызáлыся ні так, січас пых, зылажы́ла рогі зы сьпіну. *Узмацн.* **Пазакладаць** (пазакладываць) **рогі на** (за) **спіну.** Так пызыклыдáлі рогі ны сьпіну, што ані поцступу. Ты ішчэ падзівісься, як пызыклыдáюць рогі зы сьпіну. Пызыклáдывылі рогі зы сьпіну, што куды там з рызгаворымі пытыкáцца. *Працягл.-фінальн.* **Назакладаць** (назакладываць, дакласць, далажыць) **рогі на** (за) **спіну.** Так нызыклыдáла рогі ны сьпіну, што атвы́кніць і другім зыкáжыць. Ох і нызыклыдáіць рогі зы сьпіну, палу́чыць дык палучыць. Дыкладзеш рогі ны сьпіну, унімісься скора. Дылажыла рогі ны сьпіну, больш ня будзіць. У Мікіцёнкывых ба дыклáла рогі зы сьпіну.

**Класць** (лажыць) **зубы на паліцу.** *Галадаць (пры поўнай адсутнасці сродкаў да існавання).* Ні хвáціцца за вум, дык прíдзіцца класьць зубы ны палíцу, і дужа скора. Што бацька з маткыю кінулі, пыдбярець, а тады лажы́ зубы ны палíцу і больш нічога. *Зак.* **Пакласць** (палажыць) **зубы на паліцу.** Сколька ні ўгывáрівылі, што ні тулкувáлі яму, ня слу́хыіць, ну лáдна: пыкладзець зубы ны палíцу — ніхай ні бягíць к нам. Месіц, два пройдзіць — і паложыць зубы ны паліцу.

**Класць** (лажыць) **міну,** *часта жарт. Рабіць нечаканую непрыемнасць.* Валодзька табе ўжо другей раз кладзець міну. А я зразу ні пыня́ў, што яны міну ложуць, думыў, нылрáўду дзелыюць. *Зак.* **Пакласць** (палажыць) **міну.** Любому-кáжныму могуць міну пыклáсць. Кáжыцца ж, друзья́ былí, а міну пылажылі, во табе і друзья. *Гл.* П а д к л а д а ц ь м і н у.

**Класць** (лажыць) **на лапаткі.** *Дабівацца поўнай перамогі.* Я кладу Мішку ну лупáткі зы адну сікýнду. Каго тут лажы́ць ну лупаткі: прітронься — ён і пыляціць

як сноп. *Зак.* **Пакласць** (палажыць) **на лапаткі.** Хвалі́ўся, што знаіць, а знаць ён саўсім нічога ні знаіць, яго зразу пыкла́лі ну лупа́ткі. Спорiць ня ўмеiць, пых i зыгарі́цца, яе зразу паложуць ну лупаткі. *Узмацн.* **Раскласць** (разлажыць) **на лапаткі.** Што ён бэкыiць, мэкыiць, рыскла́лi ну лупаткі па ўсіх стыцьця́х. Кылi ўжо цябе Арцём рызлажы́ў ну лупа́ткі, што ж ты тады стоiш.

**Класць** (лажыць) **рогі на сцяну,** *іран., адзінк. Капрызіць, паказваць недаступнасць, непакору.* Умеiць класьць рогі ны сьцяну, уся ў маму пышла́. Каб пiрiста́лi лажыць рогі ны сьцяну, крысiвей ба пiрiд людзямi було. *Зак.* **Пакласць** (палажыць) **рогі на сцяну.** Дужа мы станiм пiрiпра́шывыць, страх то еткiй, кылi яны пыклалi рогі ны сьцяну. I ты ўсьлед пылажы́ рогі ны сьцяну. *Гл.* Класць рогі на спіну.

**Класць** (лажыць) **у карман.** *Прысвойваць, карыстаючыся службовым становішчам.* Яны дужа нi сьцiсьня́лiся, клалi ў кырма́н, сколька лезла. Верь ты, што яны мелюць iзыком, лажылi ў кырман, сколька хацелi. *Зак.* **Пакласць** (палажыць) **у карман.** Пыклалi ў кырман ладна, а тады хвастом кру́цюць, як нiчога нi було. Етыя ма́хырi нi пысьцiсьня́юцца i нi пыглiдзя́ць нi на кога, паложуць у кырман. *Працягл.-фінальн.* **Дакласць** (далажыць) **у карман.** Дыкладзець у кырман, пупадзецца, што ня вы́скрiбiцца. Дыцiга́лi, дыхвыта́лi, дылажы́лi ў кырман — селi.

**Клёпкі ў галаве не хватаець,** *абраж.; цяп., пр. Пра дурнаватага.* Цi ў цябе клёпкі ў гылаве нi хвыта́iць, што вярзеш абы-што. У тога, дык, верна, клёпкі ў гылаве нi хвыта́ла. *Зак.* **Клёпкі ў галаве не хваціла.** Такоя простыя сыбразі́ць i ў цябе клёпкі ў гылаве нi хвацiла. *Параўн.* Не хватаць клёпкі.

**Клінкі падбіваць,** *гумар. Заляцацца, робячы папярэднія захады.* Ён доўга к Тымарi клiнкí пыдбiва́ў. За ёю многiя клiнкi пыдбiва́лi. *Зак.* **Клінкі падбіць.** Бегыў, бегыў, стыряўся, стыряўся, i нi ўдалося клiнкi падбiць. *Працягл.* **Клінкі пападбіваць.** Ну й пыпыдбiва́ў жа ты клiнкí, хвацíла ж цярьпеньня. *Працягл.-фінальн.* **Клінкі нападбіваць** (дападбіваць). Што ён нылыдбiва́ў клiнкi, каб ета ўмела, атс прíдзiць, ся́дзiць i

слова ні прыгаворіць. Дыпыдбівáлі клінкі, кончылі, січас у Лырьянывa бегыюць.

**Клінкі падбіраць,** *гумар., рэдкаўж. Шукаць падыход.* З Ганнаю я яго відзіў, толькa, па-мойму, ён клінкі пыдбірáіць к Шуркі. *Зак.* **Клінкі падабраць.** К Міцю клінкі пыдыбраць ні так проста, ён упорістый і настойчывый.

**Клопат сабе.** *Пра поўную згоду (пры ўступцы).* Клопыт сабе, вазьмі карзінкі, мне яны січас ні нада. Клопыт сабе, есьлі трошку й ні так, мне іх ні прыдывáць. Клопыт сабе, начуй, мне хаты ні жáлка.

**Клуміць галаву,** *неадабр. Задурваць, валакіціць, падманваць.* Паўгода клумілі гылаву зь етыю банчыныю: вот прідзім, вот зьдзелыім,— і сяньня ідуць. Сядзелі цэлый дзень, клумілі гылаву, аж ныдаелі. *Зак.* **Аклуміць** (заклуміць) **галаву.** А ну вас саўсім з вашыю лухтою, аклумілі гылавў. Зуклуміў ён мне гылаву, што во йшла і забыла, куды йшла і зачым. *Непаўн.* **Паклуміць галаву.** Гылаву пуклумілі, пакуля вы́хыдзіў етыя бумáжкі. *Множн.* **Пазаклуміць голавы** (галовы). Нада ж так пузуклумілі голывы, што большы некуды. Я вас турнý, што пакоціціся, як мячыкі, пузуклумілі голывы, што сыбрыжáць пірістáлі. *Законч.* **Адклуміць галаву.** Атклумілі гылаву, вы́брыліся, во ныдаелі, дык ныдаелі. *Працягл.-фінальн.* **Наклуміць** (даклуміць) **галаву.** Дадýцца ёй госьці, наклýмюць гылаву. Так дуклумілі гылаву, што я ўжо ня вы́дзіржыла, піріц сабою путуріла.

**Клюнуць** (клюнуцца) **носам,** *гумар. Тыкнуцца, стукнуцца раптоўна (звыч. у цемнаце).* Упацёмкых клю́нуў носым аб жэрдзя. Пылáзь, пылазь, клю́нісься носым і будзіш хадзіць сь сіняком.

**Клюнуць на вудачку.** *Паддацца на хітрасць.* Як возьмуцца апхадзіць са ўсіх бакоў, і ні замеціш, як клю́ніш на вýдычку. Кажыцца, няглýпый чылавек, а вот клюнуў на вудычку.

**Кляваць носам.** *Драмаць.* Сядзелі, пасьці ўсе клювáлі носым, Пятрок захроп дайжа. *Пачын.* **Закляваць носам.** Доўга дуріліся, усё змыгáліся са сном, а тады, віджу, адзін зуклювáў носым, усьлед другей. *Непаўн.* **Пакляваць носам.** Якей тут сон, пуклювáлі носым над лю́лькыю, ён жа ціріс кáжныю мінуту прышынáіцца. *Узмацн.* **Накляваццa носам.** Уся польза, што носым нуклювáлі-

ся,— луччы було б ні пріхадзі́ць. *Працягл.-фінальн.* **Дакляваць носам.** Дуклюеш носым, што пыляціш сы скамейкі. *Параўн.* Клюнуць носам.

**К месту.** *Дарэчы, якраз; туды, куды трэба.* Прібярі інструмент к месту, цалей бу́дзіць. К месту скызаў, што праўда, то праўда. Нада ставіць такога чылавека, каб ён к месту быў, каб у хызя́йстві пынімáў. Пракоп к месту, а тэй — шылапу́т, што зь яго толку було.

**Кожа** (шкура) **ходзіць** (гарыць), *неадабр.; цяп., пр. Пра празмерную рухавасць.* Кожа ны табе ходзіць, ні́йдзе ты спакою сабе ні на́йдзіш. Ай, якей ён рызба́лывыный, на ім кожа гаріць. Так і ходзіць шкура на іх, худзь ба нейкыю міну́ту ціха пыбылі́. Сымá ні руспускáй, відзіш, што шкура гаріць, дык унімі́ хырашэнька. Во Піліпіня́ты былі, на іх кожа гарела. Як було ім гадоў пы дзьвінáццыць, шкура хадзіла на іх, нічыіх гряд ні мінáлі. *Пачын.* **Кожа** (шкура) **захадзіла,** *пр., буд.* Толька ты вы́іхыў, кожа на іх узноў зыхадзíла. Віджу, што шкура зыхадзіла, забы́ў учырáшнія. Шкура як заходзіць, ніякыга спáсу зь імі німа.

**Колам** (калом) **у роце** (горле) **стаяць** (станавіцца). *Непрыемна адчувацца пасля ўжывання.* Угасьціла ба́бкыю, ды йна нясцэджыныя і нейкыя сырува́тыя, я два разы́ зычарепнула, дык іна колым у році стаі́ць. Ну й пірагі́, яны ж колым у році становюцца. Папробывыла бліноў, што калом у році стыялі два дні. Нейкія нісмашненныя-нісмашненныя вареньнікі, колым у горлі стыяць. Колым у горлі становіцца твыя бульба, і нідыва́ріна, і пірясоліна,— саўсім есьць нільзя. *Зак.* **Колам** (калом) **у роце** (горле) **стаць.** Еткыя ідá колым у році стáніць. А ну яе зь яе сьцю́днім, ён колым у горлі стаў. Еў — уродзі нічога, а січас стала колым у горлі. Такоя гутувáньня калом у горлі станіць.

**Корань зла,** *кніжн. Асноўная прычына.* У цябе ж у самім увесь корінь зла. Тут корінь зла ў другі́м, што сеілі ня воўрімя.

**Корчыць лодыра,** *асудж. Знарок лайдачыць, гультаяваць.* На́да іх атучы́ць лодыря корчыць, ужо глядзець праці́ўна стáла. *Непайн.* **Пакорчыць лодыра.** Нічога, пакорчылі лодыря, можна б і ў касе пыстыя́ць. *Законч.* **Адкорчыць лодыра.** Аткорчылі лодыря дык аткорчылі,

як толька бакі ні зыбалелі выля́цца цэлымі днямі. *Працягл.-фінальн.* **Накорчыць** (дакорчыць) **лодыра.** Яны ўжо накорчылі лодыря, хва́ціць зь іх, ніхай-ка рукі пріложуць хуць к чаму́. Дакорчылі лодыря, што ў зіму аста́ліся с адным возым хвырастку́.

**Косці** (костачкі) **перамываць,** *іран. Абгаворваць да дробязей, нядобразычліва выказвацца пра чалавека, узводзячы паклёп.* Што яны тута дзелылі, косьці людзкея пірімува́лі,— во і зыня́тык іх увесь. Нечыга ёй нявесткіны костычкі пірімува́ць, ніхай ба пры сябе луччы рыскыза́ла, што тварі́ла у мыладосьці. *Зак.* **Косці** (костачкі) **перамыць.** Каму вы зы цалю́хтынькій дзень касьцей ні пірямы́іця. Яны твае костычкі пірямы́юць, успомнюць і дзядоў і ба́бык пы пя́тыя калена. *Узмацн.* **Косці** (костачкі) **паперамыць** (паперамываць). Ты паспробуй найдзі́ такога, каму яны косьці ні пыпірямы́лі. Пакуля ўсім кругом косьці ні пыпірімува́юць, ні разойдуцца. Пыпірямы́юць костычкі ўсім пыдря́д с кынца ў канец. Як сойдуцца, як возьмуць каго ны язык, усе костычкі пыпірімува́юць. *Працягл.-фінальн.* **Косці** (костачкі) **наперамываць.** Косьці як ныпірімува́юць, тады разойдуцца. Етыя ўдзьвюх, тады утрёх тэя і с кынца дзьве ці трі прівылаку́цца, ну й за́ дзінь костычкі ныпірімува́юць. Ныпірімува́лі костычкі, за нешта ні пыла́дзілі, хуць у дзяреўні пыцішэла.

**Косці парыць** (гнаіць). *Ляжаць у магіле.* Жы́зьня яе саўсім неік ні зыдыла́ся: трі гады пыжы́ла, малый быў, другога біз мужука́ радзіла, а ён ужо калі косьці па́ріць. Нейдзі разым косьці гныя́ць. *Зак.* **Косці пагнаіць.** Што вам атходзіць сядзець зу мужукамі, і дагледжына ўсё, і пріпу́чына, кажныя шчэлычка пызаткну́та, а як нашы косьці пыгнаілі — куку́імся адны. *Узмацн.* **Косці напарыць.** Ува ўсёй красе быў мушчына, а столька гадоў ляжыць, ужо косьці ныпаріў.

**Косць ад косці** (касці), *узвыш. Пра кроўнага, свайго.* Якей ня ёсьць, дык нічога ні падзелыіш, ён жа косьць ат косьці свой. Свыя кроў, косьць ат касьці́ блі́зкыя, куды ёй большы пріхіну́цца.

**Котам каціць,** *груб. Рэзка, рашуча гнаць, выганяць.* Ніхай толька паткнецца зыяві́цца другей раз, я яго буду котым каці́ць. Што зуслужы́ў, то й пулучы́ў, каці́лі котым с хаты. *Зак.* **Котам выкаціць.** Котым ба вы́кыціла

жыніха́ еткыга, а ні рузмундыкывыла, ніхай г дзіцям ідзець. *Пачын.* **Котам пакаціць.** Котым пыкацілі аттýля, толька зыпя́ткі зыдрынчэлі. Дыжджыцёся, што котым пакоцюць, ні пыглідзяць ны галстучкі.

**Кот** (кошка) **у мяшку.** *Пра невядомае, няпэўнае.* Што ты рыска́жыш — ета ішчэ кот у мяшку, я сам хачу пыглядзець. Кыта́ ў мяшкý мне ні нада. Глядзі́, чылавек, кошку ў мяшку бяреш, каб ні ка́іўся посьлі. *Гл.* К у п л я ц ь к а т а ў м я ш к у.

**Кот наплакаў.** *Пра мізэрную колькасць.* Зыработык тэй кот ныпла́кыў, лýччы б я ні зьвя́зывыўся. Тут пытра́вы кот ныпла́кыў, толька рызгаворы адны.

**Кошкі скрабуць** (скрабуцца) **на душэ** (серцы), *цяп., пр. Пра стан трывогі, непакою.* Адна як астанýся, сяджý, а кошкі скрябýць ну душэ. Неік скрябýць кошкі на серцы, усё дно як прíччýствія пейкыя. Нешта пачýствывыла, гаворіць, што кошкі скрябýцца ну душэ посьлі тае ночы. Чаго ж у цябе кошкі скрябýцца на серцы? У мяне трі дні кошкі скряблí ну душэ. Быяцца можа ціряшчýр і ні быя́ўся, а кошкі на серцы скряблíся. *Непайн.* **Кошкі паскраблі** (паскрабліся) **на душэ** (серцы), *пр., буд.* Канешня ж, у Міці кошкі ну душэ пыскряблí. І ніхай пыскрябýць кошкі на серцы, ніхай такім хра́брым ня бýдзіць. Кошкі ну душэ пыскрябýць, бýдзіць дýмыць, што рыска́жым. У такім пылажэніі у любога б кошкі на серцы пыскряблíся б. *Пачын.* **Кошкі заскраблі** (заскрабліся) **на душэ** (серцы), *пр., буд.* А што, і зыскряблí кошкі ну душэ, аткуля я знаю, што ну вуме у яго. Есьлі у нас і зыскрябýць кошкі на серцы, то табе пры нас ні нада клыпацíцца. Я тожа дýмыю, што кошкі ну душэ зыскряблíся. Відзіш ты, у такім пылажэніі кошкі і ні хыця зыскрябýцца на серцы. *Працягл.-фінальн.* **Кошкі наскрабліся на душэ** (серцы), *пр. буд.* Вот жджом, сяньня наскочуць, воць сяньня, кошкі ну душэ ныскряблíся. Ніхай так, ніхай етык, ніхай у нас кошкі ну душэ ныскрябýцца, у вас ні ныскрябýцца, вам і хырашо бýдзіць.

**Краем вока.** *Мімаходам, ледзь-ледзь; зусім выпадкова, не зусім выразна і добра (бачыць, глядзець).* Дужа ні пріглідá́ўся, кра́ім вока гля́нуў — нікога знакомых ні було. А ўсё-тыкі замеціў краім вока і цябе. Усё ўремя краім вока пыгліда́ў.

**Краем вуха.** *Мімаходам або няўважліва (чуць, слухаць).* Хырашо ні знаю, я кра́ім вуха чуў пра ета. Краім вуха паслухылі, некылі було астына́ўлівыцца, і так ужо цямнець пычынала.

**К разбітаму карыту.** *Туды, дзе нічога не засталося (вярнуцца, з'явіцца).* І там ня мёд быў, і сюда вярну́ліся к разьбі́тыму кары́ту. Нечыга к разьбітыму карыту ехыць, прістра́івыйся як-небудзь тут.

**Краска кідаецца ў ліцо,** *цяп., пр. Пра моцнае хваляванне ад сораму, збянтэжанасці, узбуджанасці.* Ты во прімець-ка: перша кра́ска кі́дыіцца ў ліцо, а тады пынямногу, пынямногу нычына́іць зыкіпа́ць. У таго ўсігда краска кіда́лыся ў ліцо. *Зак.* **Краска кінулася ў ліцо,** *пр., буд.* Як мы скызалі пры цілят, яму зразу краска кінулыся ў ліцо. Як успы́хніць, краска як кініцца ў ліцо!

**Красный пятух.** *Пажар.* У такую сухмень глядзі ды глядзі́, астарожын будзь, ато кра́сный пятух пойдзіць гуля́ць. Тады ў іх красный пятух пубушува́ў.

**Кроў гаворыць.** *Пра праяўленне сваяцкіх пачуццяў.* Нічога ня зьдзелыіш, кроў гаворіць. Ета ў цябе кроў гаворіць. *Пачын.* **Кроў загаварыла,** *пр., буд.* Як уві́дзіла, што нываліліся ны Йвана, у яе зразу кроў зыгываріла. Як жа ты можыш кінуць у бядзе Колю, у цябе кроў мыміна́льна зыгаворіць.

**Кроў за кроў,** *часта жарт. Пра адплату, помсту смерцю за смерць.* Кроў за кроў і большы нічога. Во пашло ў іх кроў за кроў, так і ўгыманіць каго могуць.

**Кроў з малаком,** *адабр. Пра здаровага, прыгожага.* Увесь пы́шыць здароўім, шчокі тэя кроў з мылаком, рузгудува́ўся луччы некуды. Яны абоя кроў з мылаком, расьлі ж у роскышы.

**Кроў кідаецца** (б'ецць) **у галаву,** *неадабр.; цяп., пр. Пра нечаканасць паступкаў, паводзін.* Што табе кроў кі́дыіцца ў гылаву́, пысядзець як людзі ня можыш. Адурюва́іць, с ума сходзіць, кроў яму б'ець у гылаву. А ты яму вун вадою ў вочы, каб меншы кроў кіда́лыся ў гылаву. *Зак.* **Кроў кінулася** (ударыла) **ў галаву,** *пр., буд.* Ды віджу, што кроў кінулыся ў гылаву. Есьлі кроў уда́ріла ў гылаву, яе можна нызад атыгна́ць. Як калі: уремім чылавек як чылавек, а ўремім кроў як ударіць у гылаву — зьверім дзелыіцца.

**Кроў кідаецца** (б'ець) **у ліцо,** *цяп., пр. Пра моцнае хваляванне (ад сораму, узбуджанасці).* Як дыпякуць ладна, тады і яму кроў кідыіцца ў ліцо. Ты трошку зьдзержывыйся, ато неік нялоўка, як ну людзях так кроў б'ець у ліцо. Грішу дужа аньцірэсна кроў біла ў ліцо. *Зак.* **Кроў кінулася** (ударыла) **ў ліцо,** *пр., буд.* Ты ні знаіш, чаго ў яе кроў кінулыся ў ліцо, а я ўсё знаю. А мы ні пынялі, чаго ім кроў ударіла ў ліцо. Ён такей: кроў кініцца ў ліцо, рысьціряіцца і ні знаіць, што скызаць. *Гл.* Краска кідаецца ў ліцо.

**Кроў кідаецца к ліцу,** *цяп., пр. Пра моцнае хваляванне (ад сораму, узбуджанасці).* Я замеціў, калі ў яе кроў кідыіцца к ліцу, як Шуріка ўвідзіць. У таго ўсё кроў кідылыся к ліцу. *Зак.* **Кроў кінулася к ліцу,** *пр., буд.* Кроў кінулыся к ліцу ні біс прічыны. У яго тады кроў кініцца к ліцу, як дыпякуць ладна.

**Кроў кіпіць** (іграець), *цяп., пр. Пра збытак сілы, энергіі.* Што ж яму дзелыць, раз кроў кіпіць. Ні г дабру ў цябе сяньня кроў іграіць. Быў хлюст первый сорт, доўга ў яго кроў іграла. *Пачын.* **Кроў закіпела** (заіграла, ускіпела, узыйграла), *пр., буд.* У Прыхарёнка узноў кроў зыкіпела. Ніхай пач шэзьдзісят, кроў зыіграла, як у мыладога. Лі мыладых і ў стыріка кроў уськіпела. Сяньня ж субота, кроў узыйграла, некуды кытанець. Пыглядзіш, як у яго кроў зыіграіць. Узыйграіць кроў — ого якім вогірім ходзіць. *Непаўн.* **Кроў пакіпела** (паіграла), *пр., буд.* А што ж ты думыіш, у Ціхона пыкіпела кроў. Вясною кроў пыіграла, цяперя цішэй стаў. Ніхай, ніхай у іх кроў пыкіпіць. *Узмацн.* **Кроў раскіпелася** (разыйгралася), *пр., буд.* Рыськіпелыся кроў, што яму ўніму німа. Ты ні знаіш, а я знаю, чаго ў іх кроў рызыйгралыся. Пыдажджы-ка, як у яго кроў рызыйграіцца. *Законч.* **Кроў адкіпела** (атыйграла, перакіпела), *пр., буд.* Аткіпела ўжо кроў, сьціх, стыряіцца длі сям'і. Толька-толька кроў атыйграла, быў, як Іван Зыхарёнык, што с сыным пы вічарінкых бегыў. Ачылавечыліся, кроў пірікіпела, дзяцей гадуюць. Прідзіць уремя, атыйграіць кроў і будуць як усе. *Працягл.-фінальн.* **Кроў дакіпела** (даіграла), *пр., буд.* Дыкіпела кроў, усё яго жыўчыкі тачылі,— ажно ўспакоіўся. А дыіграіць кроў, пабесіцца і тым самым местым сядзіць, што ўсе.

**Кроў стынець** (ледзянееець, застываець) **у жылах,** *цяп., пр. Пра вельмі вялікі страх, жудасць.* Як стануць

рыска́зывыць, што там було, кроў сты́ніць у жы́лых. Слу́хыць — кроў лідзянеіць у жылых, а як сваімі вычамі було глядзець на ета? Кроў зыстыва́іць у жылых,— такоя там тварілыся. Хто там быў, кызалі, кроў лідзянела ў жылых. Кроў зыстыва́ла ў жылых, як іх кла́лі ряд ны ряд, а зьверьху стрілялі. *Зак.* **Кроў застыла** (заледзянела) **ў жылах,** *пр., буд.* Ні пужа́й большы, у яго і так кроў засты́ла ў жылых. А чаго у цябе кроў у жылых зылідзянела. Ты як рыска́жыш пры свае стра́хі, у іх кроў засты́ніць у жылых. *Узмацн.* **Кроў пазастыла** (пазаледзянела, пастыла, паледзянела) **ў жылах,** *пр., буд.* У нас на месьці кроў пызасты́ла у жылых. Пызылідзянела кроў у жылых, стаім і ня можым вурухну́цца. Зьніна́цку тыц пря́ма к нам, дык у нас і кроў у жылых пасты́ла. Кроў пылідзянела ў жылых, ні знаім, ці мы жывэя, ці не. Ні пужа́й большы, у іх і так кроў пызасты́ніць у жылых. *Працягл.-фінальн.* **Кроў настылася** (наледзянелася) **ў жылах,** *пр., буд.* Выпуска́й, кроў у яго ў жылых ужо насты́лыся. Табе каб рыскызаў, як у нас кроў нылідзянелыся ў жылых,— ты ж ні паверіш. Бува́ла, кроў як нылідзянеіцца ў жылых, пы кына́вых ды пу кустах хува́ўшыся.

**Кроўю ўмыцца** (падмыцца). *Быць збітым да крыві.* Толька падлезь, яшчэ раз умы́ісься кроўю і пойдзіш. Ух, нійдзе места ні було, пыцскачы́ў успыка́івыць, а кроўю падмыўся і атлез. *Незак., рэдкаўж.* **Кроўю ўмывацца** (падмывацца). Ён два разы кроўю ўмыва́ўся, а ўсё роўна сваіх дуроў ні кіда́іць. Іш ты, гірой найшоўся, пудмува́цца кроўю ат яго бу́дуць. *Узмацн.* **Кроўю наўмывацца** (нападмывацца). Айдзе ім толька ні пупыда́ла, і кроўю ныўмываліся ні раз. С такім хракцірым ныпыдмыва́іцца кроўю.

**Кроўю ўмыць** (падмыць). *Збіць да крыві.* Ні ўся́дзісься, то пасодзім: кроўю ўмыім. Кроўю падмыць такога га́да, а ні ўвішча́ць. *Незак., рэдкаўж.* **Кроўю ўмываць** (падмываць). Во рызыйшоўся хлюст, кроўю ён умыва́ць бу́дзіць. Ці помніш, як цябе пудмува́лі кроўю. *Працягл.-фінальн.* **Кроўю наўмываць** (нападмываць). Глядзі, умува́льнік, ныўмыва́іш кроўю, што біз зубоў сам пойдзіш. Так можыш нупудмува́ць кроўю, што тваё вогірьства уміг айдзе дзеніцца.

**Кругом ды вокала,** *неадабр. Унікаючы сутнасці.* Ты ні круці кругом ды вокыла, а пряма гывары́: былі яны

тама ці ні было. Пряма ні разу ні скажыць, усігда пычына́іць кругом ды вокыла.

**Кружыць** (круціць) **у галаве.** *Ахмяляць.* Градусы ёсьць, кру́жыць у гылаве ладна. Сьпірва нічога було, а посьлі чую: пычало круці́ць у гылаве. *Зак.* **Закружыць** (закруціць) **у галаве.** Яму як закру́жыць у гылаве, тады моря пы калена. Ні нылівáй і ні пыднасі, у мяне і ат той зукруці́ла ў гылаве нівісь як. *Непаўн.* **Пакружыць** (пакруціць) **у галаве.** Бяры́ ўжо, бяры, ну трошку пакру́жыць у гылаве, ета нічога. Кра́сьнінькыя тваё пукруці́ла у гылаве, яно ні слабка.

**Крукам вісець,** *неадабр.* 1. *Стаяць побач і сачыць за працай, не адыходзячы, дакучаючы.* Дужа ўедлівыя сьвякрова: тая бульбу скобліць, дык вісі́ць над ёю крю́кым і пувучáіць. 2. *Працаваць не разгінаючыся.* Паўлета крюкым вісела ныд грідáмі. *Непаўн.* **Крукам павісець.** 1. А есьлі крюкым тут пывісі́ць, дык што ён ныпрáвіць. 2. Што толку пывісела крюкым у той сьвірепкі, там нічога ня зьдзелыіш, адна трыва. *Абмеж.* **Крукам правісець.** 1. Крюкым прывісела нуд рукамі: ці знаіш ты тоя, ці чула ты ета, а хто што айдзе гывaріў. 2. Там поліва столька, алі ж крюкым прывісі́ць нядзелю. *Законч.* **Крукам адвісець.** 1. Ну яе, атвісела крюкым, пышла, дужа ныдаедлівыя старуха. 2. Крюкым атвіселі на бульбі, а толька пашлі́, асот пыня́ў усё і кустоў ня відна. *Працягл.-фінальн.* **Крукам навісецца** (давісець). 1. Нывісі́цца ён мне крюкым нуд душою, прывіря́льшчык еткій. Відзілі б вы, сколька Трахіміха нывіселыся тут крюкым. Аблаю, яй-божычку, аблáю, дывісі́ць крюкым, дылазіць ні ў сваё дзела. 2. А якей толк, што яны там нывісяцца крюкым, нічога ні памогуць. Ішчэ пасьпеіш нывісецца крюкым, пысядзі мінутку. Дывісі́ць крюкым у грідах, што бульба зуплувець і зугудзець травí́шчыю.

**Круціцца** (вярцецца) **пад нагамі** (рукамі), *неадабр. Перашкаджаць сваёй прысутнасцю.* Ці доўга ты йшчэ пыд ныгамі круці́цца бу́дзіш? Кру́ціцца пуд рукамі і кру́ціцца, як мышанёнык якей. Ні вярці́ся пыд ныгамі, пакуля ні руздушы́лі тут зрáзу. Троху пуд рукамі вярцеліся, а тады пабеглі некуды, ці ні на двор. *Непаўн.* **Пакруціцца** (павярцецца) **пад нагамі** (рукамі). Пукруці́ўся пыд ныгамі, мішáў, я прыгнáў яго ат'етуль. Ніхай

то ніхай пакру́цюцца пуд рукамі, а як што зьдзелыіцца, тады бу́дзіш а́йкыць. У мяне ён доўга пыд ныгамі ні паверціцца, я жыва вы́прыўлю. З раньня пуд рукамі пывярцеліся, а січас дажа і ні знаю, айдзе яны. *Працягл.-фінальн.* Накруціцца (навярцецца, дакруціцца, давярцецца) **пад нагамі** (рукамі). Я ма́сьліцца ня буду, у мяне скора накру́цісься пыд ныгамі. Накруціцца пуд рукамі, што рызаб'ець што-небудзь ці я цірізь яго рызаб'ю́. Што, нывярцеўся пыд ныгамі, цяперя нечыга рю́мзы руспуска́ць. Я цябе січас нывярчу́ся пуд рукамі. Дакру́цісься пыд ныгамі, што ны адной пыска́чыш. Ну, дукруці́ліся пуд рукамі, ат латкі чыряпкі аста́ліся. Дывярцеўся пыд ныгамі, нечыга цяперя хны́кыць, я гывapiў, атыйдзі ат'етуль. Ідзі й ні міша́й, ато даверцісься пуд рукамі.

**Круціцца** (вярцецца) **пад носам,** *неадабр., рэдкаўж. Перашкаджаць.* Адзін ніку́ды ня пойдзіць, будзіць круціцца пад носым. Вярцеліся пад носым, я іх пряма мятлою, работыць жа ні дывалі. *Непаўн.* **Пакруціцца** (павярцецца) **пад носам.** Каб трошку большы пукруці́ўся пад носым, і яму пупа́ла б. То паверціцца пад носым, то пыбягі́ць некуды, хто яго знаіць куды.

**Круціцца** (вярцецца) **перад вачамі** (носам), *звыч. неадабр. Перашкаджаць бачыць, глядзець.* Ні знаю, айдзе яны січас, во круці́ліся пірід вычамі. Што ты кру́цісься піряд носым, цямніш. Тут яны ўсё ўремя верцюцца пірід вычамі. Толька ж вярцеўся піряд носым, вун ён у малі́ні ша́ріiць. *Непаўн.* **Пакруціцца** (павярцецца) **перад вачамі** (носам). Трошку пукруці́ліся пірід вычамі, а січас вун лі гумна зыня́ліся. У мяне піряд носым доўга ні пакру́цісься, я ачшы́ю січас. Пывярцеліся пірід вычамі, каб від зьдзелыць, што тут былі. Кылі і ў цябе піряд носым паверціцца, будзіш цэл. *Працягл.-фінальн.* **Накруціцца** (навярцецца, дакруціцца, давярцецца) **перад вачамі** (носам). Сколька яны тут нукруці́ліся пірід вычамі, што й ні гывapі́. Накру́ціцца піряд носым у мяне, тады туды зьбегыіць, пыныдыіда́іць. Нывярцеліся пірід вычамі, што ён ня вы́трывыў, атыгна́ў. Я ж вам гывapiў, што дакру́ціціся пірід вычамі. Тэй дывярцеўся пірід вычамі учора, а ты січа́с палу́чыш сваё. Ты ў мяне можыш дывярцецца піряд носым ікраз так, як Мішка у Сярьгея.

**Круціцца** (вярцецца) **ў галаве.** *Быць зусім блізка ў памяці.* У гылаве кру́ціцца, а ня ўспомню, што ета мне нада. Вот вярцелыся ж нешта у гылаве, Прося гыварі-ла — і забыў. *Непаўн.* **Пакруціцца** (павярцецца) **ў галаве.** Воч жа було пукруці́лыся ў гылаве, а як нада — ня ўспомню. Бува́іць, паверціцца ў гылаве дый вы́скычыць.

**Круціцца** (вярцецца) **ў мазгах,** *груб. Быць зусім блізка ў памяці.* Што там у цябе ў мызка́х кру́ціцца, гывbooleanі скарей. У каго што вярцелыся ў мызках, толька ні ў цябе. *Непаўн.* **Пакруціцца** (павярцецца) **ў мазках.** У яго доўга ні пакру́ціцца ў мызка́х, зра́зу забу́дзіць. Што ні скажы, час паверціцца ў мызках, а піріначу́іць, дык саўсім ні спрашывый.

**Круціцца** (вярцецца) **ўюном** (вужом, вужам, змяёю), *іран. Выбірацца з цяжкага становішча з лоўкасцю і спрытам.* Мы яго як пріжу́чылі, доўга круціўся уюном. Сколька ні дыка́зывылі, як ні лаві́лі, круціцца вужом — і ні дыка́жыш. Қаб вы толька глянулі, як ён круціўся зьмяёю. Верціцца уюном, а нізашто ні прізнаецца. Жалка, што вы ня ві́дзілі, як ён вужым вярцеўся. Доўга зьмяёю вярцеліся, пакуля мы ў іх выпы́тывылі. *Пачын.* **Закруціцца** (завярцецца) **ўюном** (вужом, вужам, змяёю). Як Маша пыдыйшла́, зукруці́ўся ўюном. Ета са мною на́ўгрудкі, а тама ву́жым закру́цісься. Віджу, што брешыць, а што ты зь ёю зьдзелыіш, зукруці́лыся зьмяёю: ні была́, ня ві́дзіла. Ні дырма́ зывярцеўся уюном, чуіць нешта зы сабою. Табе сьмешна, а мы знаім, чаго яны вужом зывярцеліся. Зывярцеўся зьмяёю, стыдна стала, што чорту якому. *Непаўн.* **Пакруціцца** (павярцецца) **ўюном** (вужом, вужам, змяёю). У нас ён пакру́ціцца уюном, мы зь яго душу вы́трісім. Пукруці́ўся, пукруціўся ву́жым, а прізна́ўся,— айдзе ж ён дзеніцца. Етыга спрасі, дык увідзіш, як пакру́ціцца зьмяёю. У мяне б яны яшчэ ні так пывярцеліся уюном. Стыдна було, і пыря́дышна стыдна, пывярцеліся вужом. Чаго мы паверцімся зьмяёю, мы нічога чужога ня трогылі. *Працягл.-фінальн.* **Накруціцца** (навярцецца, дакруціцца, давярцецца) **ўюном** (вужом, вужам, змяёю). Во нукруці́ліся яны уюном, як сталі мы стыдзі́ць і ла́іць. Нукруціўся вужом тама, вачэй нейдзі було дзець. Толька пыглядзець — нада було памерць со сьміху,

сколька яны нукруціліся зьмяёю. Сколька ні наверціцца ўюном, усё роўна зыстáвім прізнáцца. Ішчэ ні так наверціцца вужым, як мы возьмім у абарот. Знаю, што ён масьцір нывярцецца зьмяёю, ну зь етыга вярчэньня нічога ні палýчыцца. Дукруцíўся ўюном: усё чы́сьцінька вы́лыжыў, як було. Вы ні зналі, што дзелыць і як скызаць, у нас ба ён дукруціўся вужом у адзін міг. Дакрýцісься зьмяёю, што слова с табою ніхто скызаць ні захочыць. Ета хырашо, што зь ім так ужо, махнýлі рукою, ато мог дывярцецца ўюном. Мы б зь імі так ні вазіліся б, ні рвалі б нервы, у нас ба яны дывярцеліся вужым.

**Круціць** (вярцець, вадзіць) **носам,** *іран. Выражаць незадаволенасць, адмаўляцца, капрызіць.* Што крýціш носым, ні так матка слова прыгываріла? Нешта ні пы яго, верціць носым. Я ні знаю, чаго ён етык носым водзіць, ніяк пы сабе ні пыдбярець. *Пачын.* **Закруціць** (завярцець) **носам.** Як скызáла, схадзі-ка сяньня к каровым, ух, зукруцíў носым. На гýлі хуць кажный дзень, а на бульбу зывярцела носым. *Непаўн.* **Пакруціць** (павярцець, павадзіць) **носам.** Ніхай троху пакрýціць носым,— пакруціць і ўнíміцца. Пывярцеў, пывярцеў носым, пубурчэў нешта, а тады ірьмя́к узяў пыт пáху і пывалокся. Многа пывадзіў носым, раздýмывыў усё. *Законч.* **Адкруціць** (атвярцець, атвадзіць) **носам.** Як скажыш сьвіньней пыпáсьвіць, аткруціць носым. Чаму ні атверціць носым — посьлі такея вы́гыды ды зы грязныю работу брацца. Ну, кáжыцца, атвадзíў носым, кончыў. *Працягл.-фінальн.* **Накруціць** (навярцець, навадзіць, дакруціць, давярцець, давадзіць) **носам.** І то ім ні так, і ета ня етык,— нукруцілі носым. Дужа ім ні хацелыся гной выкідаць, нывярцелі носым. І ты наводзіш носым, як твой брат, зыбрытáіць ікая хлю́ндра і ня ччэпісься. Ты ў мяне жыва дакрýціш носым, пан то еткій. Даверціш носым, як цірісьсядзельнік вазьмý ў рукі. Дывадзіў носым, ныýсігдá зарёкся.

**Круціць** (закручываць) **мазкі,** *груб. Нахабна падманваць.* Каму ён крýціць мазкí, мы пра ета ўсё даўно забы́лі. Пірістáнь закрýчывыць мазкі, ато ў сымаго могуць пірівярнýцца. *Зак.* **Закруціць мазкі.** Каму-небудзь можа й закрýціць мазкі, толька ня мне, я яго даўно наскрозь разгледзіў. *Непаўн.* **Пакруціць мазкі.** Ухажор

найшоўся,— табе вун толька суседкі мазкі пукруціць, а большы ты ніспасобін. *Узмацн.* **Пазакруціць** (пазакручываць) **мазкі.** Яны ж, кажыцца, няглупыя мушчы́ны, як жа ім пузукруці́лі мазкі. У нейкыю мінуту пызакру́чывылі мазкі, яны й апомніцца ні пасьпелі. *Законч.* **Адкруціць мазкі.** Зь віду дык і слова добрыга пры яго ні ска́жыш, шкет шкетым, а аткруці́ў ім мазкі ішчэ як. *Працягл.-фінальн.* **Накруціць** (дакруціць) **мазкі.** Адзін раз нукруці́лі мазкі, дык можа другей раз рузумнейшымі будуць. Так дакру́ціш мазкі, што сам біз мазкоў вернісься.

**Круціць любоў.** *Бяздумна кахацца.* Дужа ён рана стаў круціць любоў. Сколька ёй — ны паску було шысна́ццыць, а ўжо ўва ўсю круціць любоў. *Пачын.* **Закруціць любоў.** Ш чыёю ж ён зукруці́ў любоў у Каўшові, ці ні с Арловыю? *Непаўн.* **Пакруціць любоў.** Ні с адным пукруці́ла любоў, а посьлі паехыла, нічога ня чутна. *Узмацн.* **Раскруціць любоў.** Ого як любоў рускруці́лі, ігры, песьні — дзяреўня ат іх тряшчэла. *Законч.* **Адкруціць любоў.** С Томычкыю ён ужо аткруціў любоў, цяперя за нейкыю другою бегыіць. *Працягл.-фінальн.* **Накруціць** (дакруціць) **любоў.** Як пойдзіш у горыд, там ужо накру́ціш любоў. Дукруці́ла любоў, яві́лыся к маткі з брю́хым, любу́йся, матка, уну́к бу́дзіць, жджы.

**Круціць мазкамі,** *груб. Хітравацъ.* Чаго ён кру́ціць мызка́мі, усё дно як мы ні знаім і ня відзім, што к чаму. *Пачын.* **Закруціць мазкамі.** Зукруці́ў мызкамі, як ён хітрей усіх. *Непаўн.* **Пакруціць мазкамі.** Па мне, сколька яны ні пакру́цюць мызкамі, ета ноль уніманія ўсё, я іх наскрозь віджу. *Законч.* **Адкруціць мазкамі.** Аткруціў мызкамі, ўняўся, ато ўсё каб як-небудзь пірі́хітрі́ць каго. *Працягл.-фінальн.* **Накруціць** (накруціцца, дакруціць, дакруціцца) **мазкамі.** Накруціць мызкамі, што сам у якую пятлю ускочыць. Ого, сколька яны нукруці́ліся мызкамі! Дакру́ціця мызкамі, што ны вас, як на і́дылыў, глядзець будуць. І таго глідзяць, і етыга хочуць апскыка́ць, а тады дакру́цюцца мызкамі — ні знаюць, што дзелыць.

**Круціць-муціць,** *неадабр. Паводзіць сябе двухсэнсоўна.* Кру́ціць-му́ціць і туды і сюды, толку ніяк ні даб'есься. Ты мяне ня ўчы, чаго яны круці́лі-муці́лі: паўлі́тра хацелі.

**Круціць у мазках,** *груб. Пра незразумеласць таго, што робіцца, адбываецца з кім-н.* Што там у іх апяць крýціць у мызкáх? *Пачын.* **Закруціць у мазках.** Во зукруціла ў мызках у чылавека, паверіў лухце і ходзіць зьверім. *Непаўн.* **Пакруціць у мазках.** А ніхай пакрýціць у мызкáх, апомніцца й ася́дзіцца. *Законч.* **Адкруціць у мазках.** Аткруціла ў мызках, пыцішэў,— сколька ўремя ніякыга зьдзержу ні було. *Працягл.-фінальн.* **Накруціць** (дакруціць) **у мазках.** Ці нукруціла у яго ў мызках, ці ўсё йшчэ адурюваіць? Прідзіць жа ўремя, дакрýціць жа ў яго ў мызках.

**Крывіць душою.** *Рабіць, гаварыць няшчыра.* Мне кривіць душою нечыга, я ні баюся скызаць праўду. *Зак.* **Пакрывіць** (скрывіць) **душою.** Я душою ні пыкріўлю́, скажу, што знаю. Усігда ён гыварíў чэсна, а на етый раз скрівіў душою. *Працягл.-фінальн.* **Накрывіць** (дакрывіць) **душою.** Накрівіш душою, сымамý етык прідзіцца, дык нісмáшна бýдзіць. Дакрівіць душою, што ні тэя, ні другея глядзець ні захочуць.

**Крычаць на ўсіх перакростках.** *Усюды гаварыць, расказваць.* Чаго мне крічáць на ўсіх пірякрёсткых, я йдзе нада скажу. *Зак.* **Закрычаць на ўсіх перакростках.** Тут нада, каб на ўсіх пірякрёсткых зыкрічáў пры такея дзялы́. *Непаўн.* **Пакрычаць на ўсіх перакростках.** Тады на ўсіх пірякрёсткых пыкрічалі пра іх мыхінáцыі. *Законч.* **Адкрычаць на ўсіх перакростках.** На ўсіх пірякрёсткых аткрічáлі зь естыю саломыю. *Працягл.-фінальн.* **Накрычацца** (дакрычацца) **на ўсіх перакростках.** Ныкрічáліся на ўсіх пірякрёсткых, цэлый месіц Ганна зь ізыкá ні схадзіла. Дыкрічы́сься на ўсіх пірякрёсткых, што пу зубах калі схвáціш.

**К слову.** *Да выпадку, да месца (сказаць, прыйсціся і г. д.).* Трáпіцца к слову — рыскажý. Дужа б я хадзіла, тріпáлыся, ета к слову прішлося, дык скызáла. К слову скызаць, дык і ён цáца лáдныя.

**Куды вецер дмець** (веець), *неадабр. Пра таго, хто не мае прынцыпаў, перакананняў.* Ён усігдá такей: куды веціp дмець. Найшоў ты пра каго тулкувáць, іна куды веціp веіць. *Зак.* **Куды вецер падмець** (павеець). Сам ён нічога ня дýмыіць, куды веціp падмець, так і ён руссуждáіць. Куды веціp павеіць,— во і ўвесь зь яго толк. Яе паверніш, куды веціp павеіць.

**Куды воран касцей не заносіць,** *цяп., пр. Так далёка, што далей некуды.* Мы там былі, куды ворын касьцей ні заносіць. Кінулі ўсё і зьехылі, куды ворын касьцей ні зынасіў. *Зак.* **Куды воран касцей не занясець,** *буд., рэдка пр.* Пудурюваў тут, зато ж атпрáвілі куды ворын касьцей ні зынясець: адно пісьмо ідзець аттуля два месіцы. Яму места, куды ворын касьцей ба ні занёс.

**Куды вочы глядзяць.** *Не выбіраючы шляху, у любым напрамку.* Ат такея жызьні с табою я б сыйшлá куды вочы глідзяць. Я б так ні цярьпела, кінула б і паехыла куды б вочы глядзелі. *Зак.* **Куды вочы паглядзяць.** Астáлыся мне, знаць, адно: іціць куды вочы пыглідзяць. *Аднакр.* **Куды вочы глянуць** (зірнуць). Столька жыўшы, столька нажы́ўшы, ці лёхка выпрыўля́цца куды вочы гля́нуць. Што ён зьдзелыіць, будзіць цярьпець, цярьпець ды пойдзіць куды вочы зірну́ць.

**Куды крывая вывезець.** *З разлікам на выпадковасць.* Што нам дужа гыдáць, нам куды крівáя вы́візіць. Зразу троху спрáшывыў, біспакоіўся, а посьлі махнуў рукою: куды крівая вы́візіць.

**Куды Макар цялят не ганяў,** *пр., рэдка цяп. Так далёка, што далей некуды.* Яны й летыся былі дужа далёка, а сёліта зыбрáліся, куды Мыкар цілят ні гыня́ў. Ты ў мяне пакру́цісься, я цябе спрывáджу, куды Мыкар цілят ні гыня́іць. *Зак.* **Куды Макар цялят не пагоніць** (загоніць, дагоніць), *буд., рэдка пр.* Чаго ім зыбірáцца туды, куды Мыкар цілят ні пагоніць. Ета тэя астравы́ нейдзі, куды Мыкар цілят ні загоніць. Яны зыбрáліся, куды Мыкар цілят ні дагоніць, а ня то мне даехыць. Мне прішлося пабыць і тама, куды Мыкар цілят ні дыгнаў ба.

**Куды ні глянь.** *Усюды.* Куды ні глянь, плойма іхнія пыныпіхáна. Куды ні глянь, копы, й копы, й копы.

**Куды ні йшло,** *кніжн. Цярпіма, магчыма, дапускальна.* Трі дні куды ні йшло, пыдажду́, а калі ні аддасі за ета ўремя, ні абіджáйся. Лáдна, куды ня йшло, бярі, толька скарей прінасі.

**Куды ні кінь.** *Пра безвыходнасць.* Куды ня кінь, толку дужа ніякыга. Куды ня кінь, дык нада ехыць. Куды ня кінь, усюдых клін.

**Куды ногі нясуць,** *цяп., пр. Не выбіраючы дарогі, без мэты.* Што ты нешта ідзеш, куды ногі нясу́ць. Ішлі мы

аттýля, куды ногі нясьлі, нагледзіўшысь на іхныя горя. *Зак.* **Куды ногі панясуць.** А што мне рызьбірáць, пывылакýся, куды ногі пынясуць. *Законч.* **Куды ногі занясуць.** Куды ногі зынясýць, там і буду.

**Куды ўгодна** (заўгодна). *У любое месца.* Куды ўгодна кытанець, ішчы яго айдзе хочыш. Ён гатоў куды ўгодна, толька скажы. Куды заўгодна сыглáсін і пыцягніцца, ніхай толька тэя пікнуць.

**Кукішам** (хвігаю) **носа не дастаць,** *іран. Не даступіцца. (пра ганарыстага).* Айдзе ён з намі будзіць знáцца, у яго кýкішым носа ні дыстáніш. Лыўрінкá як нычáльнікым вы́брылі, то хві́гыю носа ні дыстáніш. **Кукішам** (хвігаю) **нос дастаць.** Папробывылі б вы ў яго кукішым нос дыстáць, ходзіць і ў неба глядзі́ць. Хві́гыю нос дыстáць нільзя — так зыгардзі́ўся. *Незак., адзінк.* **Кукішам** (хвігаю) **нос не даставаць.** Гляджу ны яго і дзіўлюся: пасьледнія ўремя кукішым носа ні дыстаю́. Знаіш якей стаў? — хвігыю носа ні дыстаём, во якей. **Кукішам** (хвігаю) **нос даставаць.** Ты паспробуй кукішым нос дыстывáць у еткый зыдывáньніцы. Нада хвігыю нос дыстывáць — еткія хвынабэріі. *Гл.* К а ч а р г о ю н о с а н е д а с т а ц ь.

**Кукіш у кармане насіць,** *іран. Асуджаць скрытна, таемна.* Кýкіш у кырмáні носіць, во і ўсё яго нідавольства. *Непайн.* **Кукіш у кармане панасіць.** На што ён можыць аччáіцца? — кукіш у кырмані паносіць. *Законч.* **Кукіш у кармане атнасіць.** Ці ты ўжо кукіш у кырмані Зьмітраку атнасі́ў?

**Кукіш у кармане паказываць,** *іран. Асуджаць скрытна, таемна.* У вочы ён і слова ні скáжыць, у яго усяе хрáбрысьці кукіш у кырмáні пыкáзывыць. *Зак.* **Кукіш у кармане паказаць.** У цябе хвáціць сьмелысьці толька ны адно — кукіш у кырмане пыкызáць.

**Кулакі чэшуцца,** *іран.; цяп., пр. Пра жаданне пабіцца.* Есьлі кулакі дýжа чэшуцца, ты іх трошку ап прясла пыскрябі. Чаго ж ён пашоў захны́кыўшы? — кулакі чысáліся. *Пачын.* **Кулакі зачасаліся,** *пр., буд.* Ета нічога, есьлі кулакі зычысаліся, іх табе хто-небудзь пачэшыць. Як зачэшуцца кулакі, дык пайдзі вун і скажы Аўсейчыку. *Непайн.* **Кулакі пачасаліся,** *пр., буд.* Мы знаім, як у вас у тэй вечыр кулакі пычысáліся. Як узгарі́сься, сядзь

і пысядзі спакойнінька, кулакі пачэшуцца, пачэшуцца і пройдуць. *Законч.* **Кулакі адчасаліся,** *пр., буд.* Аччыса́ліся кулакі, як мілінькій сядзіць і бяседыіць. Січас большыя хлопцы падойдуць і кулакі ў цябе аччэшуцца. *Працягл.-фінальн.* **Кулакі начасаліся** (дачасаліся), *пр., буд.* У аднаго кулакі нычыса́ліся, рявець. Пыдажджы́, напры́гыіш, дачэшуцца кулакі.

**Кум каралю,** *жарт., запаз. Свабодны, незалежны.* Сяньня ты кум кыралю́, у новым тулу́пі. Жывець кум кыралю, што яму ні хвыта́іць.

**Купацца ў грашах.** *Быць вельмі багатым.* Купа́іцца ў грышах і ўсё ёй ні слава богу. Сыны іх так сныбжа́лі, што яны ў грыша́х купа́ліся. *Непаўн.* **Пакупацца ў грашах.** Пукупа́ўся ў грыша́х і хва́ціць, шчытней пыжыві. *Узмацн.* **Закупацца ў грашах.** Адж жы́ру ні знаіць, што дзелыіць, у грышах зукупа́лыся. *Абмеж.* **Пракупацца ў грашах.** Столька прукупа́цца ў грышах — і мяне ат такой жызьні ні сырва́ла б. *Законч.* **Адкупацца ў грашах.** Усе разым аткупа́ліся ў грышах большы некуды. *Працягл.-фінальн.* **Накупацца** (дакупацца) **ў грашах.** Нукупа́лыся за свой век у грышах, чаго ёй ні хвытала ў жызьні. Дукупаўся ў грышах, глядзіць, каб піріхваціць хуць айдзе дзісятку якую на первый случый.

**Купляць ката ў мяшку.** *Набываць, не ведаючы аб якасці набытага.* Як жа так ніабду́мына купля́ць кыта́ ў мяшку́. *Зак.* **Купіць ката ў мяшку.** Ку́піць кыта ў мяшку, а посьлі будзіць глядзець ды вохыць. *Множн.* **Пакупляць катоў у мяшку.** Што вы, як бізгаловыя, пукупля́лі катоў у мяшку. *Працягл.-фінальн.* **Накупляць** (дакупляць, дакупляцца) **ката ў мяшку.** Нукупля́ў кыта ў мяшку, хваціўся вума́? Дукупля́іш кыта ў мяшку кылі-небудзь, уся дзяреўня будзіць рігыта́ць ныт тваёю паку́пкыю. Дукупля́ўся кыта ў мяшку, цяперя будзіць рызгліда́ць, што бярець.

**Курам на смех,** *кніжн. Бяссэнсава, бязглузда.* Гаворіць куря́м на сьмех. Еткыя тваё гыраджэньня курям на сьмех. Нечыга жаніцца курям на сьмех.

**Курыныя мазкі,** *абраж. Дурнаваты, забыўлівы, няпамятлівы.* У яго ўсігда́ курі́ныя мазкі былі, а ты пынадзеіўся: сват, сват. Калі куріныя мазкі, дык ні пыдріджа́йся.

**Курыцы па калена.** *Пра мелкаводдзе.* Тая речка ў іх ку́ріцы пы калена, дайжа штаны ні нада пытка́сывыць. Ідзі сьмела, тут усігда куріцы пы калена, толька вясною, у па́выдку, троху цякець.

**Кусаць** (грызць) **за бок** (за бак). *Марна намагацца, не мець магчымасці ўздзейнічаць.* Куса́й цяперіцька іх за бок, калі яны абоя за сьветым. Кусаць за́ бык аста́лыся, большы што ж ты пріду́мыіш. Ня пры́гый, грызьць за бок нада було раншы. Грызі́, кылі хочыш, за́ бык, а яны ходзюць ды пысьміха́юцца. *Зак.* **Укусіць** (угрызць) **за бок** (за бак). Укусіў ба за бок, ды бок ні пыцстыўля́юць табе. Укусі яго за́ бык, ён цябе дужа паслу́хыіць. За бок угрызьць можыш, каб толька іх злаві́лі ды прівялі. Ага, угрызеш за́ бык, пра што ты ра́ншы думыў. *Аднакр.* **Куснуць** (кусануць, грызнуць, угрызнуць, грызянуць) **за бок** (за бак). Кусьні за бок, кылі яблынкі пыбгрыза́ў і пабег. Ну што б ты яго, за́ бык куснуў ці што. За бок ты яго кусанеш,— еткыю шкоду зьдзелыць: такіх тарелык с агнём ні найдзіш. Каго ты грызьнеш за бок,— былі матычкі такея ўдобныя і вазьмі тря́сцы. За́ бык жа ні ўгрызьнеш, а ножык згы́ркылі. Ты іх грызянеш за бок: ны гылаву ся́дуць і нічога ня зьдзелыіш. *Непаўн.* **Пакусаць** (пагрызць) **за бок** (за бак). Пукуса́й яе за́ бык, ні прініслá і ні прінісла. Нічога ты ня зьдзелыіш, за бок пыгрызеш ра́зьві. *Працягл.-фінальн.* **Накусаць** (награзць) **за бок** (за бак). Ці нукуса́й іх за бок, ці пыгла́дзь пы галоўкі, цяперя ўжо ўсё адзіна́кыва. Ныгрызіця іх за́ бык, яны быяцца некыга дужа.

**Кусаць** (грызць) [сабе] **локці.** *Вельмі моцна шкадаваць, не маючы магчымасці выправіць становішча.* Позна ты ўзя́ўся куса́ць локці, пра ета нада було заўчора ду́мыць. Сколька ні грызі́ локці, нызад ні адзьдзелыіш. Тады яны доўга кусалі сабе локці. Віду ні пыдыва́ў, а локці сабе грыз. *Аднакр.* **Укусіць** (грызнуць) [сабе] **локаць,** *адз., мн.* Січас гатоў укусі́ць локыць, а ўчора бушува́ў: ніхто ні пытхадзі. Грызну́ў ба локці, ды позна. Ішчэ ні раз локыць сабе ўку́сіць, ніхай. Сколька ня божкый, а локыць сабе ні грызьнеш. Во ніхай грызьнець сабе локці рузумок твой. *Узмацн.* **Пакусаць** (пагрызць) [сабе] **локці.** Січас вы хра́бры, а пройдзіць уремя — локці пукуса́іця. Я знаю, што цяперя локці пагры́зьлі б. Локці сабе пукуса́лі: чаго туды йшла. Яны за тэя снапкі́

локці сабе пагры́зьлі. *Працягл.-фінальн.* **Накусаць** (нагрызць) [сабе] **локці.** Ішчэ нукуса́іць локці ні так. Нагры́зла локці за бульбу, а цяперя ніхай пра поскыньні паду́мыіць. Ета йшчэ мала нукуса́ць сабе локці. Нагры́зьлі сабе локці, дык можа рыска́іліся.

**Кусаць нос.** 1. *Не мець магчымасці ўздзейнічаць.* Во й куса́й цяперіцька нос, што ты яму зьдзелыіш. 2. *Перашкаджаць.* Ці йна табе нос кусаіць? Вам усё нос куса́іць, за што ні хваці́ся.

**Кусаць** [сабе] **язык.** *Вельмі моцна перажываць за сказанае.* Ты ўжо ні раз куса́ла язык, а ўсё ні ка́ісься. Сьпірва́ ля́пніць, а тады кусаіць сабе язык. *Зак.* **Укусіць** [сабе] **язык.** Апомніўся, укусі́ў язык,— нашто ж було тріпа́цца. Глядзі́, дубуўта́ісься, укусіш сабе язык, ды можыць быць позна. *Узмацн.* **Пакусаць** [сабе] **язык.** Яны ўсе ізыкі́ пукуса́лі, толька ныза́д ня верніш. Ніхай трепліць, посьлі пукуса́іць сабе язык. *Працягл.-фінальн.* **Накусаць** [сабе] **язык.** А нукуса́ў язык, відзіш, чым такоя можыць кончыцца. За тую сва́дзьбу я нукуса́ў сабе язык, і чаго мне туды було перцца.

**Кусаць сябе за локці.** *Вельмі моцна шкадаваць, перажываць.* Пірістá́ньця ўжо вы кусаць сябе за локці, ныздад усё роўна ня верніш і ні пірядзелыіш, раз зьдзелылыся так. *Зак.* **Укусіць сябе за локаць,** *адз., мн.* Уку́сіш сябе за локыць, есьлі зеркыла як ні було. Січас нічога, ніхай, прі́дзіць уремя — уку́сіш сябе за локці. *Узмацн.* **Пакусаць сябе за локці.** Ён столька пукуса́ў сябе за локці зь естымі кублікымі, каб хто толька знаў, большы нізашта і ў тэй бок ні гляніць. *Законч.* **Адкусаць сябе за локці.** Ты ні знаіш, сколька йна аткусала сябе за локці. *Працягл.-фінальн.* **Накусаць сябе за локці.** Што ты ім п'яным аб'ясьніш, во прыцьвірізя́цца, дык нукуса́юць сябе за локці.

**Кусаць сябе за язык.** *Вельмі моцна перажываць за сказанае.* Я па віду пызна́ў, што куса́іць сябе зы язык. *Зак.* **Укусіць сябе за язык.** Уку́сюць сябе зы язык, ні раз уку́сюць, нашто ім було такую дурату́ гывары́ць. *Узмацн.* **Пакусаць сябе за язык.** Пукуса́іць сябе зы язык, што ля́пнула з бу́хты быра́хты пры пацьцёлка. *Законч.* **Адкусаць сябе за язык.** Што толку, калі аткуса́ла сябе зы язык, нызад ня верніш, раз скыза́ла. *Працягл.-фінальн.*

**Накусаць сябе за язык.** Здýру тріпанýлі, а посьлі нукусáлі сябе зы язык.

**Кусок у горла** (глотку) **не загнаць** (не ўвагнаць). *Пра адсутнасць апетыту ад вялікага гора, хвалявання, стомы.* Бувáла як заморімся, вы́б'імся з дýху, дык кусок у горла ні загоніш. Як нагледжуся там, як нудурю́ся, кусок ні ўвыгнáць у горла. Якей зь яго ядун, кусок у горла ні загоніць за дзінь. Я каб там пыбыла, кусок ба ў глотку ні ўвыгнáла б. **Кусок у горла** (глотку) **загнаць** (увагнаць). Як тут кусок у горла загоніш, калі пішчáць са ўсіх бакоў. Мне рáзьві толька сілыю кусок якей у горла ўвыгнáць. У той быгадзельні іхній кусок у глотку зыгнаць паспробуй. Айдзе тут кусок у глотку ўгоніш, у еткый тванíшчы ён ні палезіць.

**Кусок у горла** (глотку) **не лезець** (не йдзець), *цяп., пр., буд. Пра адсутнасць апетыту ад вялікага гора, хвалявання, стомы.* Аслáбла, што кусок у горла ня лезіць, пахожа, ні прыця́гніць доўга. Чаго ж табе кусок у горла ня йдзець, якея ў цябе біспакойствы? Як нагледжуся на тых сíрыт, дык кусок у глотку ня лезіць. Ай, ні нада, ні нясі нічога, мне кусок у глотку ня йдзець. Толька што садзíлыся за стол,— мне кусок у горла ня лез. Ну, ёй горя, ясна, а чаго ж табе кусок у глотку ня йшоў? Кусок ня будзіць у глотку лезьць ат аднаго віду ўсяго етыга. **Кусок у горла** (глотку) **лезець** (йдзець), *цяп., пр., буд.* І мне кусок у горла лезіць ікрáз, як табе. Так і нам кусок у горла йдзець, за ўвесь дзень лізьнеш чаго і ўсё. Камý, ты дýмыіш, тама кусок у глотку лез. Ня дужа кусок у глотку будзіць іціць, як нагледзісься ды нывалнýісься. *Зак.* **Кусок у горла** (глотку) **не палезець** (не пойдзець), *буд., рэдка пр.* Тут і галодныму кусок у горла ні палезіць. У такой грязíшчы, ванíшчы кусок ня пойдзіць у горла. Каб ніізьвесна як есьць хацеў, дык ба кусок у глотку ні палез. Ты сабе як хочыш, а я ні сяду, мне тут кусок у глотку ня пойдзіць. **Кусок у горла** (глотку) **палезець** (пойдзець), *пр., буд.* Як жа кусок у горла палезіць зь íхнію злы́днію. А ў цябе тута ці пашоў ба кусок у горла. Ня думыю я, што ў каго-небудзь кусок у глотку палезіць, пыглядзеўшы на іх. Ня бойся ты, у яго кусок у глотку пойдзіць.

**К чаму.** *З якой мэтай.* К чаму ета було скáзына, я ні знаю, ну толька ні так сабе, ён слоў на вецір ні кідáіць.

**К чорту на кулічкі.** *Надзвычай далёка, у глухамань.* Зыхацелыся яму ехыць к чорту ну кулíчкі. К чорту ну кулічкі зыбрáліся, жывога чылавека па месіцу ня вíдзім.

**К шапашнаму разбору.** *Тады, калі ўжо ўсё заканчваецца.* Я пыдыйшоў ужо к шáпышныму разбору. Нечыга спяшы́ць к шапышныму разбору.

**Лавіць вецер у полі,** *іран. Шукаць тое, што бясследна знікла.* Я ўжо знаю: пашлí, дык будзіць лавíць вецір у полі. *Зак.* **Злавіць вецер у полі.** І ня пойдзіць — нічога німа, і пойдзіць — тожа зловіць вецір у полі. *Непаўн.* **Палавіць вецер у полі.** Пылавíў вецір у полі і вярнуўся с пусты́мі рукамі. *Законч.* **Атлавіць вецер у полі.** Вецір у полі атлавíў рызівон нішчáсный. *Працягл.-фінальн.* **Налавіць** (далавіць) **вецер у полі.** Ну, нылавíў вецір у полі, іна ж была ну Вуглах, а чаго ты бегыў к Чачэнькывыму балоту. Вецір у полі даловіць, рызя́віўшы рот.

**Лавіць за хвост,** *іран. Не мець магчымасці ўздзейнічаць.* Вы́пусьціў з рук, цяперя лаві за хвост. *Зак.* **Злавіць за хвост.** Зловіш за хвост, кылі іна дайжа блізка к рукам ня йдзець. Злаві яго за хвост, ён вун зырігытáў і пабег. *Працягл.-фінальн.* **Налавіць за хвост.** Што, нылавíў за хвост пу кустах, нада було рукамі дзіржáць як нада.

**Лавіць мух,** *груб. Лодарнічаць.* Вун твой Грішычка мух ловіць, у пуні на сені рызваліўся. *Непаўн.* **Палавіць мух.** У яго зыня́тык адзін — мух пылавíць: пад лес прыця́гніцца за ўвесь дзень і ўся работа. *Узмацн.* **Пралавіць мух.** Цэлыя лета прылавíў мух. *Законч.* **Атлавіць мух.** Дужа млосна брацца за дзела, кылі столька атлавíў мух, а тут гультáйнічыць большы некуды. *Працягл.-фінальн.* **Налавіць** (далавіць) **мух.** Наловіш мух, што астáнісься бяз ношкі сена. Сількін дыхадзіў, дылавíў мух, хны́кыіць, каб айдзе што пыдлавíць.

**Лавіць мух ротам,** *неадабр. Быць разявакай.* Ні лаві ротым мух, а глядзі зы калёсымі. *Непаўн.* **Палавіць мух ротам.** Ты ў мяне паловіш мух ротым, я цябе атучў варон шчытáць. *Законч.* **Атлавіць мух ротам.** Атловіць мух ротым, што хто-небудзь у зубы аглоблію дасьць. *Працягл.-фінальн.* **Налавіць** (далавіць) **мух ротам.** Наловіць ротым мух, што скот ачынецца ў клевірі, а стыршынá

зловіць і штраху ўклеіць. Пыслáла адных — вырыня́ты вырыня́тымі, і другея даловюць мух ротым, тоя самыя палу́чыцца.

**Лавіць на вудачку** (кручок). *Перахітраваць.* Усё ўрэмя лаві́ў яго на ву́дычку, а тэй пыняў, у чом дзела, толька пысьміхáўся. Увесь вечыр лавілі яго ну кручок с Алёныю,— ні даўся. *Зак.* **Злавіць на вудачку** (кручок). Так жа ты лоўка злаві́ў Адама на вудычку. Цябе злавіць ну крючок адна мінута, Жэньку пымя́нуць — і ты раськівсьніш. *Множн.* **Палавіць на вудачку** (кручок). Пылавілі вас на вудычку, што чырціня́т якіх. Вас тама паловюць ну крючок зразу і аглянуцца ні дадуць. *Рапт.* **Падлавіць на вудачку** (кручок). Як ты ні хрáбір і ні разумін, а яны цябе падловюць на вудычку абізáцільна. Думыў, пыдлаўлю́ ну крючок с асі́нкымі, ажно не, я скызаў, а ён і ві́ду ні пыдáў. *Працягл.-фінальн.* **Далавіць на вудачку** (кручок). Дылаві́ў на вудычку, сам пупáўся луччы некуды. Ты даловіш ну крючок — што-небудзь ля́пніш і на сьмех пады́муць. *Гл.* П а й м а ц ь н а в у д а ч к у.

**Лавіць на слове.** *Пацвярджаць сказанае раней.* Ты на слові лаві́ць ня ўмеіш, ты пакуля паду́мыіш, час пройдзіць. *Зак.* **Злавіць на слове.** Ён забыў, што мы тут стаім, і дывай рыскáзывыць, як хадзілі ў Пустынкі, тут мы яго і злаві́лі на слові. *Узмацн.* **Палавіць на слове.** Я іх зразу пылаўлю́ на слові, ува ўсім прізнáюцца. *Працягл.-фінальн.* **Далавіць на слове.** Даловіш на слові, лаўленьнік еткій.

**Лавіць рыбку ў мутнай вадзе.** *Атрымліваць выгаду, карысць пры няяснай абстаноўцы.* Яны мысьцяры́ лавіць рыбку ў му́тный вадзе. *Зак.* **Злавіць рыбку ў мутнай вадзе.** Надзеіўся тута, што зловіць рыбку ў мутный вадзе, а тут сваіх лаўцоў поўна. *Узмацн.* **Палавіць рыбку ў мутнай вадзе.** Тады ж там пыря́дку ні́якыга ні було, а яны папользывыліся етым, пылаві́лі рыбку ў мутный вадзе. *Законч.* **Атлавіць рыбку ў мутнай вадзе.** Тэя бысячу́гі пытварі́лі, атлаві́лі рыбку ў мутный вадзе. *Працягл.-фінальн.* **Налавіць** (далавіць) **рыбку ў мутнай вадзе.** Наловіш ты рыбку ў мутный вадзе, як сымаго возьмуць зы жабры. Даловюць рыбку ў мутный вадзе, вы́скычыць калі-небудзь і на іх пірялома.

**Лавіць** (хватаць, схватываць) **на ляту.** *Хутка, адразу засвойваць, успрымаць.* Што хочыш пыкажы́, са́мыя цяжолыя, усё ловіць ны ляту́. Цэлымі страніцымі ны ляту хвытаіць, сколька чаго ні прычыта́йця. Многа тулкува́ць ні нада, дужа сыбразі́цільныя мальцы, схватыюць ны ляту. *Зак.* **Злавіць** (схваціць) **на ляту.** Зь віду выранёнык, а разу́мный мальчы́шка, рыска́зывыў я ўчора пры ша́мыўцыў, дык ён усё ны ляту злавіў. Што ні рыскажы, усё схва́ціць ны ляту.

**Лажыцца** (класца) **касцямі.** *Настойліва, упарта абараняць, аж да гатоўнасці загінуць.* Абоя проста кысьця́мі лажы́ліся,— чаго б яны маглі так яе зышчышча́ць. Не, кысьцямі лажыцца зы твае дуры́ я ні пыбягу́. Зы сваіх кысьцямі кладу́цца, каб толька чаго плахога на іх ні скыза́лі. Лезь ты зы яго ны ражон, кысьцямі кладзіся, каб ён яшчэ большы с ума схадзі́ў. *Зак.* **Лежч** (пакласца) **касцямі.** Зу куму́ ён кысьцямі ляжыць, каб толька ў кріўду яе ні даць. Уцале можыць быць, што абоя нейдзі кысьцямі ляглі. Яны адзін зу другога гатовы кысьцямі пыкла́сца.

**Лажыцца** (класца) **на лаўку.** *Паміраць.* Горя, канешня, горя, ніхто ні гаворіць, што ня горя, ну толька ж ні лажы́цца ны ла́ўку. Во вы́пыла бязвы́хыдныя дзела, хут ты кладзіся ны лаўку. *Зак.* **Лежч** (пакласца) **на лаўку.** Як лягу ны лаўку, тады ўжо бізь мяне і вядзіця ўсё, і хызя́йнічыйця. С табою жыць — дык луччы пыкла́сца ны лаўку, ці ты ж хызяін у дваре хуць якей-небудзь.

**Лажыцца** (класца) **на плечы.** *Станавіцца, рабіцца клопатам, цяжарам.* Ат адной ніпрія́тнысьці ізба́віўся, другая лажыцца на плечы. Кладзецца ета горя с Арініными дзіця́мі на плечы і саўсім ні знаю, ці ізба́ўлюся як ат яго. *Зак.* **Лежч** (пакласца) **на плечы.** Пакуля ні лягло што на плечы, і забот німа, а як ляжыць, тады думый, клыпаці́ся, біспакойся. Було адно, цяперя другоя пыкла́лыся на плечы, усё німа спакою.

**Ламаць** (абламываць) **рогі.** *Рашуча сунімаць, уціхамірваць, утаймоўваць.* Зма́лку рогі лума́й, пыдрасьцець, тады нічога ня зьдзелыіш. І крічу, і сварю́ся, і пла́чу, і сеч пробывыла,— як жа яшчэ абла́мывыць рогі яму? *Зак.* **Зламаць** (зламіць, абламаць, абламіць) **рогі.** Бацька каб узяўся, злумаў ба рогі, дык ён жа і ў тэй бок глядзець ня хочыць. На́йдуцца людзі, зломюць рогі,

пыцішэіш. Рогі нада було даўно аблума́ць, а ні насіцца зь ім, як сь пісыныю торбыю. Рогі я табе ішчэ абламлю́, уняць цябе сумею. *Узмацн.* **Паламаць** (паабламаць, паабламіць, паабламываць, паабламліваць) **рогі.** Ня ў тэя ты рукі, маліц, пупаўся, тут табе рогі пулумаюць мігым. Нада було раншы рогі публумаць, зылатэя б хлопцы былі. Ні такіх пірівасьпітывылі, а вам рогі пабломюць скора. Удзядзелі, дык ім ужо ні так лёхка рогі пыбла́мывыць. Як зыхацеў, як узяўся, то пыбла́млівыў рогі. *Працягл.-фінальн.* **Наламаць** (наабламываць, даламаць, даабламываць) **рогі.** Нулума́іць ён рогі, есьлі яны яго ні ў капейку ні ста́вюць. Найшоўся абламлівыньнік, ныбла́мывыіць ён рогі, як хадзілі пы гылыва́х, так і будуць хадзіць. Дулума́іць рогі, што ціряз год сымаму́ быраду́ вы́скубуць. Дыбла́мывыў рогі, чуць ні пла́чыць горькімі сьлізáмі.

**Ламаць галаву.** 1. *Многа і пакутліва думаць, разважаць, імкнучыся ўнікнуць у сэнс, сутнасць.* А што мне лума́ць гылаву ныд ірундою, як палу́чыцца, так і ладна. 2. *Гінуць.* Чаго я туды палезу лума́ць гылаву. *Зак.* **Зламаць** (зламіць) **галаву.** 1. Гылаву злума́іш, пакуль такую зыда́чу рішы́ш. Зломіш гылаву, а ні даду́мыісься да еткыга. 2. Цэлый ён ня выкруціцца с такімі дура́мі, злума́іць гылаву. Зламіць гылаву нядоўга, асобінна калі іна бязмозкывытыя. *Непаўн.* **Паламаць галаву.** *Глыбока задумацца.* Пулума́лі гылаву, як дыбра́цца туды. *Множн.* **Паламаць голавы** (галовы). *Загінуць.* Дыла́зюцца і дыска́чуцца зь еткія вісычыны́, што пулума́юць голывы. Ні пулума́лі галовы, дык пулума́іця, ета вас дрэнчыць ні пірід дабром. *Узмацн.* **Наламаць галаву.** *Глыбока задумацца.* Пакуля пріду́мылі, як тут вы́путыцца, нулума́лі гылаву. Нулумала я гылаву, ці ехыць, ці не, і нада б зьезьдзіць, і неік страшна адной у такую дарогу вупруўля́цца.

**Ламаць дровы,** *неадабр. Рабіць недарэчнасці пры празмерным стаpанні, прасталінейным выкананні ўказанняў.* Што ты бяз розвылкі лума́іш дровы, ты ж паду́мый, што можыць пулучы́цца. *Непаўн.* **Паламаць дровы.** Етый кіраўнік пулумаіць дровы, вы́кіруіць. *Узмацн.* **Наламаць дроў.** Цябе вы́прыў — толька дроў нулума́іш, тады бягі ўсьлед, пірiпра́шывый людзей. *Множн.* **Паналамаць дроў.** Як пунулума́лі дроў, дык з горыда пріїж-

джáлі рызьбірáцца. *Працягл.-фінальн.* **Даламаць дровы.** Скора ён дулумáіць дровы, так яму дадýць пы шапкі, што ня будзіць знаць, куды бежч.

**Ламаць камедзію,** *асудж. Вычварацъ, прытварацца, прыкідвацца.* Ты дýмыіш, нада ім былі тэя снапкí, ета ж пыразіты такея, лумáлі камедзію. *Непаўн.* **Паламаць камедзію.** Чаго ты так церьпіш, згарíць іна і любоў тыкáя, у мяне б ён нядоўга пулумáў камедзію. *Законч.* **Атламаць камедзію.** Атлумáіць камедзію, як бакі хто-небудзь дыбярецца ды атлумáіць. *Працягл.-фінальн.* **Наламаць** (даламаць) **камедзію.** Камедзію ў Бірязуйкых нулумáў, як напíўся да чорцікыў. Нада, каб так дулумáў камедзію, каб на ўсю жысьць зарёкся дайжа дýмыць пры такоя.

**Ламаць лёд.** *Дабівацца ўзаемаразумення, даверу.* Трýдна було зь імі лумáць лёд,— столька ж гадоў неік ні па-лю́дзку ішло. *Зак.* **Зламаць лёд.** Пятрок пріехыў, пычаў трошку зь íхныю дзеўкыю зыгывáрівыць, тады Васіль неік стаў глядзець луччы,— злумáлі лёд. *Узмацн.* **Паламаць лёд.** Пулумáлі лёд, прінароднsocketя так, нічога у атнашэнііх, праўда, нешта такоя між іх астáлыся.

**Ламаць рукі.** *Даходзіць да роспачы ў вялікім горы.* Большы ўсіх лумáла рукі Пёкла, і навы́лыся, і ныгыласілыся, і ныкрічáлыся. *Непаўн.* **Паламаць рукі.** Ты дýмыіш, ныпрáўду яны пулумáлі рукі, прітвыря́ліся большы. *Законч.* **Атламаць рукі.** І ў хаці атлумáлі рукі, і ны магíльніку було ні ацьцягнýць ат ямкі. *Працягл.-фінальн.* **Наламаць рукі.** Ой, пыбідувáлі, ой, нулумáлі рукі, як паммы́лі сына.

**Ламаць шапку,** *іран. Вітаць, лісліва паддобрываючыся.* Німáла ўремя лумáў шапку пірід халерымі тымі. *Непаўн.* **Паламаць шапку.** Пулумáлі шапку піряд Андряёнкымі, свытáмі, дýмылі, бýдуць. *Законч.* **Атламаць шапку.** Во, атлумаў шапку, ужо ні глядзíць у іх бок дайжа. *Працягл.-фінальн.* **Наламаць** (даламаць) **шапку.** Шапку нулумáлі, ныўгыждáліся і ні пыдзялíлі нешта, ходзюць і бурчáць тэя на тых, тэя на тых. Дулумáў шапку пірід брігадзíрым, клянець: кыня атыбрáў, што ўзяў сымавольна.

**Ламіцца ў адкрытыя** (адчыненыя, расчыненыя) **дзверы,** *кніжн. Спрачацца пра зусім яснае, бясспрэчнае.* Што ты ломісься у аткры́тыя дзвері, табе ж рызьясьнілі ясь-

ней ясныга, што і ды чаго. Ломюцца ў аччы́ніныя дзьверí ніізьвесна чаго, як іх ні пускáюць. Сідарёнык — тэй, бувáла, усё любіў ламíцца ў рашчы́ніныя дзьверí. *Працягл.-фінальн.* **Наламіцца ў адкрытыя** (адчыненыя, расчыненыя) **дзверы.** Ныламíўся ў аткры́тыя дзьверí, пулучыў рызьясьненія. Вот людзі бізрассýдныя, наломюцца ў аччы́ніныя дзьверí. Ныламíліся ў рашчыніныя дзьверí, усё вам стала ясна?

**Лахі падпахі.** *Пра паспешлівыя зборы.* Доўга ні пірясýшывыўся, лáхі пытпáхі і мáху. Што яму, лахі пытпахі і мáхі, а ты астывáйся адна, кыпáйся, стыряйся. Як селі цірябíць, па міскі спыражнілі, а тады лахі пытпахі і ходу.

**Леваю нагою,** *вульг. Безразважна, бяздумна.* Як рызвáжыць левыю нагою, толька áхніш. Тут усігда левыю нагою думыюць.

**Лезць асою ў вочы,** *неадабр. Прыставаць, чапляцца, папікаць.* Чаго б табе лезьць асою ў вочы, сядзіш ты ціха і сядзí, і табе ніхто мішáць ня бýдзіць. *Пачын.* **Палезць асою ў вочы.** Як палезіць асою ў вочы другей раз, я яго прыздрáўлю ні так. *Працягл.-фінальн.* **Налезць** (далезць) **асою ў вочы.** Што, налез асою ў вочы? — і ящчэ мáла пулучы́ў, я б дыбáвіла большы. Асою ў вочы далезіць, што пымянý яму і Марычку, і Лыўрінёнкыву дзеўку.

**Лезць на віселіцу** (віселльню, шыбеніцу), *асудж. Паступаць безразважна, бяздумна, супрацьзаконна.* Яго нехта дужа пысылáў лезьць на вісіліцу. Лезіць на вісільню і ўзьлезіць, ён даўно сабе пагібіль ішчыць. Усе ж кругом вíдзілі, што біз разбору на шы́біліцу лезуць, чаго ж було ня тýркнуць. *Зак.* **Узлезць на віселіцу** (віселльню, шыбеніцу). Есьлі ня будзіш глядзець, дукувáць, узьлезіць на вісіліцу усьлед зы стáршым. Такому атлёту узьлезьць на вісільню нядоўга. Большы я рітувáць ні пыбягý, як на шыбініцу ўзьлезіця. *Пачын.* **Палезць на віселіцу** (віселльню, шыбеніцу). С адной пятлі вы́скрібся, ну другýю вісіліцу палез. Ты ж знаў, ікая ета кынпáнія, чаго ж ты палез на вісільню? Бацька адурювáў, места сабе нійдзе не ныхадзíў, і сын пы прімеру палез на шыбініцу. *Працягл.-фінальн.* **Далезць на віселіцу** (віселльню, шыбеніцу). Ён жа нійдзе ні разу ня ймеў спакою, раншы апхадзíўся, а тут дырвáўся, далез на вісіліцу. Далезіця

на шыбініцу, шука́іця пятлю і палу́чыця, нягож ні палучыця.

**Лезць на вочы,** *неадабр. Імкнуцца быць заўважаным.* Дужа лезьлі на вочы сы сваімі нырядымі. *Пачын.* **Палезць на вочы.** Куды лу́ччы було б, каб ні палез на вочы. *Працягл.-фінальн.* **Далезць на вочы.** Далезьлі на вочы, што абаіх зашчу́чылі, сыгряблі і ў тую німяреч.

**Лезць на сцяну** (сценку), *груб. Праяўляць у злосці безразважнасць, бушаваць, лаяцца.* Ні так піряд ім ступілі, дык ён ны сьцяну́ лезіць. Чаго на сьценку лезьць, можна ж усё вы́ісьніць, як у людзей. *Пачын.* **Палезць на сцяну** (сценку). У-у, сьпі́чка чылавек, за мелыч, зу пусьцяк ны сьцяну палезіць. Каб ціха, спакойна, усё б і абыйшлося пы-харошыму, а як палез на сьценку, і прішпілілі штра́ху. *Працягл.-фінальн.* **Далезць на сцяну** (сценку). Далезьлі ны сьцяну, ахыладзі́лі іх мымінта́льна. Мыцьвяёнычык далез на сьценку, сядзіць спакойнінькій.

**Лезць** (перць) [к чорту] **на ражон,** *груб. Не зважаць на небяспеку.* Другея перш агледзюцца, а етый усігда лезіць сам ны ражон. Ні глядзі́ць, што, як, на́да ці ні нада, прець ны ражон і ўсё табе тут. Ну й лезь к чорту ны ражон, кылі табе так ціряшчу́р зыхацелыся, гылаву ні зьвярну́лі, дык звернуць. Ты ж сам руссудзі́, чаго ім було перць к чорту ны ражон. *Пачын.* **Палезць** (паперць) [к чорту] **на ражон.** Хто яго пысыла́ў, сам палез ны ражон. З гыря́чкі папрець ны ражон, дзялоў надзелыіць. Адзін палез к чорту ны ражон, другей у зашчы́ту — і тожа ўцу́ргыўся. Яму нядоўга паперць к чорту ны ражон. *Працягл.-фінальн.* **Далезць** [к чорту] **на ражон.** Апра́ўдывыць ні нада, самі далезьлі ны ражон, ніхто ні пысылаў. Далезуць к чорту ны ражон, ны каго-небудзь так нарву́цца, што посьлі локці сабе грызьць будуць.

**Лезць** (перць) **к чорту на рогі,** *груб. Рызыкаваць, ісці на небяспечную справу.* Хто вас пысыла́іць лезьць к чорту на рогі, пысядзець, як усе, ня можыця? Чаго було перць к чорту на рогі? *Пачын.* **Палезць** (паперць) **к чорту на рогі.** Канешня, ні ат розуму палезьлі к чорту на рогі. Узноў зы бакі нячы́стыя сіла ўзіла́ — папёрлі к чорту на рогі. *Працягл.-фінальн.* **Далезць к чорту на рогі.** Адзін раз учы́лі — ні пыка́іўся, яшчэ далезіць к чорту на рогі.

**Лезць** (перць) **к чорту ў зубы,** *груб., адзінк. Рызыкаваць, ісці на небяспечную справу.* Самі лезуць к чорту ў зубы, а тады кусáюць сябе за локці. Нечыга перць к чорту ў зубы, нада сьпірвá абдýмыць усё ды разгледзіцца.

**Лезць смалою ў вочы,** *асудж. Настырна, неадчэпна прыставаць.* К кáжныму лезіць смалою ў вочы. *Пачын.* **Палезць смалою ў вочы.** Ка мне б смалою ў вочы ні палез, я ачшы́ў ба мігым. *Працягл.-фінальн.* **Далезць смалою ў вочы.** Скора я атучу, увідзіш, атучу, так налезуць смалою ў вочы, што й дзісятыму зыкáжуць ныпярёд, я ўмею унімаць.

**Лезць** (спяшыць) **у пекла,** *груб. Праяўляць безразважнасць, залішнюю спешку.* Во ўзяў прівы́чку лезьць як ні нада ў пекла. Ты ўсігда сьпяшыш раншы бацькі ў пекла. Вам ішчэ саўсім нечыга сьпяшыць у пекла. Сьпяшы, сьпяшы раншы бацькі ў пекла, шукай сабе якой-нібýдзь піряломы. *Зак.* **Улезць у пекла.** Удача дык удача, так і цыля́іць, каб абізáцільна айдзе ў пекла ўлезьць. Улезьць у пекла як с ыгня, ету мінуту гатоў. Пысылáць ні нада, ён сам раншы бацькі улезіць у пекла. *Пачын.* **Палезць** (паспяшыць) **у пекла.** Усюдых палезіць раншы бацькі ў пекла. Так і паццэлівыюцца, каб тут жа палезьць у пекла. Каб ні пыцсытыня́лі, ён ба ні пысьпяшы́ў раншы бацькі ў пекла. Ты можыш пысьпяшы́ць раншы ўсіх у пекла із-зы свае гыря́чкі. *Працягл.-фінальн.* **Далезць у пекла.** Глядзіця, мальцы, далезіця ў пекла, я выця́гывыць вас ні пыбягу. Далезіш у пекла, спыхвáцісься у якой-небудзь пятле. Далез раншы бацькі ў пекла, дыскыкаўся, глядзіць, каб хто вы́вылык, а вывылакывыць ня дужа многа ахотнікыў ёсьць.

**Лезць у вочы.** 1. *Прыцягваць увагу сваёй адметнасцю.* Я гыварю, што такога цьвету ні бярі, ён дужа я́рык, нікрасі́ў, у вочы дужа лезіць. 2. *Папікаць, чапляцца.* Чаго ты мне лезіш у вочы с Кузьмою, ну калі ашы́бся раз, дык што? *Пачын.* **Палезць у вочы.** 1. Такоя пывядзенія усім палезла ў вочы. 2. За нейкыю ірундý так палезьць у вочы, дайжа збоку нікрасіва було. *Гл.* К і д а ц ц а ў в о ч ы.

**Лезць у вяроўку,** *неадабр., рэдкаўж. Рызыкаваць без патрэбы.* Гыварілі табе, што лезіш у вярёўку, дык ды цябе ж дужа позна даходзіць. *Зак.* **Улезць у вяроўку.**

Улез у вярёўку так во, ні с тога ні сь сёга, ціріз дурную гылаву. *Пачын.* **Палезць у вяроўку.** Яму нарошня пацстроілі, а ён, што дурак, і палез у вярёўку. *Працягл.-фінальн.* **Далезць у вяроўку.** Шука́іш пагі́білі і зна́йдзіш, далезіш у вярёўку. *Гл.* Л е з ц ь у п я т л ю.

**Лезць у галаву.** *Пастаянна ўзнікаць у памяці; запамінацца.* Аста́нуся адна, ску́шна ста́ніць, усё ўся́кыя лезіць у гылаву. Нічога яму ня лезіць у гылаву, хут ты зь ім ля́сьніся. *Пачын.* **Палезць у галаву.** Айдзе тут палезіць што ў гылаву, калі яны ні мінуты атхлы́ну ні даюць. *Узмацн.* **Налезць у галаву.** Уся́кія лухты́ налезіць у гылаву, толька ноч ду́мыіцца, вачэй не зьвядзеш. Што ні нада, табе налезла ў гылаву, а пра дзела спрасі́ць забыў.

**Лезць** (улязаць, улазіць) **з языком,** *неадабр. Умешвацца ў размову без патрэбы.* Хто цябе прасі́ў лезць зь ізыком сюда? Узяў дурную пріві́чку улізáць зь ізыком ікраз тады, як ён саўсім ні нада. Нечыга ула́зіць зь ізыком, як с тряпы́шкыю. *Зак.* **Улезць з языком.** Каб ня ўлез зь ізыком Тырасёнык, усё б гла́дка абыйшлося. *Пачын.* **Палезць з языком.** Етый тожа палез у тую самыю мінуту зь ізыком, калі ўсё ўжо кынча́лыся. *Узмацн.* **Паўлязаць** (паўлазіць) **з языком.** Так ні к уремю пыўлізáлі зь ізыком, так пымішáлі, што й скызаць нільзя. Вылаку́цца ўжо і сяньня, пыўла́зюць зь ізыком, пустога ныбалбочуць. Пыўла́зілі зь ізыком і самі ні ра́ды: нупушы́ў іх Пынас, нупушыў і ў хвост і ў гріву.

**Лезць у даўгі.** *Шмат пазычаць.* Ні хацелыся нам лезьць у даўгі́, ну выйшла ж тыкая нявы́крутка. Дужа ні саветыю лезьць у даўгі, як ты калі рышшчытáісься. Віджу, што лезіць у даўгі па ву́шы, дык ту́ркнула: што ты сам сабе думыіш. *Пачын.* **Палезць у даўгі.** С адны́мі ні рышшчытáўся, а ўжо яшчэ палез у даўгі. Хату пыстáвіў бытáтыю, затоя ж і ў даўгі палез ня беднінька. *Працягл.-фінальн.* **Далезць у даўгі.** Далезіця вы ў даўгі, што прі́дзіць уремя рашшчы́тывыцца, дык пасьледній хвост пыця́гніця з двыра. Далезьлі ў даўгі сы свáдзьбымі, ні знаюць, калі і як вылізьць. *Гл.* З а л а з і ц ь у д о ў г.

**Лезць у душу,** *неадабр. Назойліва выпытваць пра асабістае, інтымнае.* Ёй і так горька, а тута вы яшчэ лезіця ў душу́. Атвы́кні ты лезьць у душу, ці ета каму дужа прія́тна. Чаго було лезьць чылавеку ў душу?

*Пачын.* **Палезць у душу.** Хто б другей так ба ні дапы́тывыўся, а етый пряма палез у душу́. А яны хырашо пыдлаўчы́ліся, палезьлі ў душу к вашым сібра́м. *Працягл.-фінальн.* **Далезць у душу.** Ён далезіць у душу, як сістра яго, што цярьпелі, цярьпелі, а тады путурі́лі біз агля́дкі. *Гл.* З а л а з і ц ь у д у ш у.

**Лезць** (улязаць, улазіць) **у пятлю**, *асудж. Безразважна імкнуцца заняцца небяспечнай справай.* І етый яшчэ лезіць у пятлю́ як нарошня, як шука́іць яе. Сам лезіць з гылавою ў пятлю, дык што я зь ім зьдзелыю, як зыбыраню. Нашто яму былі тэя пырыся́ты, нашто було улізáць у пятлю. Быльшáя табе ахота улізаць з гылавою ў пятлю. С адной вы́біріцца, у другую пятлю ўлá-зіць, так і жывець. Мы ві́дзілі, што ён улазіць з гылавою ў пятлю, а скажы што — ні залю́біць. *Зак.* **Улезць у пятлю.** Тута чуць-чуць вы́зыбылі, дык жа паехыў у Воршу, там у другу́ю пятлю ўлез. Мы дужа кáіліся, што так улезьлі з гылавою ў пятлю с тымі бырыкáмі. *Пачын.* **Палезць у пятлю.** Ён так ня можыць, усё дно як нарошня шукаіць, каб у пятлю куды палезьць. Сколька і як ні ўгывáрівылі, ні ўвішчáлі — не, палез з гылавою ў пятлю. *Узмацн.* **Паўлязаць** (паўлазіць) **у пятлю.** Ня бу́дзіць якея пропысьці, дык нáйдуць, а ў пятлю пыўлізáюць. Зразу думылі, што хáхынькі, а як разгледзіліся — пыўлізáлі з гылавою ў пятлю. Ідзі вызвыля́ць, узноў твае родніннькія пыўлáзілі ў пятлю. Пыўлáзюць з гылавою ў пятлю, выця́гывый тады, есьлі хочыш. *Працягл.-фінальн.* **Далезць у пятлю.** Далезуць у пятлю, пупаду́цца, рады будуць вы́скычыць, ды позна будзіць. Я чу́ствывыў, што далезуць у пятлю, вывылáкывыць прі́дзіцца.

**Лёгенькій Петрачок,** *гумар. Празмерна даверлівы, паслухмяны.* Ні там ты сабе лёгінькага Пітрычкá шукáіш. Во лёгінькій Пітрачок, у любую пролыбку гатоў ускачы́ць.

**Лёгкая рука.** *Пра ўдачлівага.* Вы́бірі-ка ты якога пырасёнка, у цябе, знаць, лёхкыя рука. І купля́ць, і прыдывáць у яго лёхкыя рука.

**Лёгкій** (лёгак) **на паміне,** *гумар. Той, які з'яўляецца ў момант размовы аб ім.* Якей ты лёхкій ны памі́ні: толька што гывaрі́лі, хырашо б у цябе рыспрасі́ць пры Аўдотку. Ужо йдзець, лёхкыя ны паміні. Лёгык ны паміні, явíўся, будзіць глядзець, каб пучуствувáлі.

**Лёгкій** (лёгенькій) **на нагу** (ногі). *Шпаркі ў хадзе і паслухмяны.* Якея гады́, а йшчэ лёхкій ны нагу, ці блізкій сьвет Жаві́нка,— туды й ныззад схадзі́ў. Ты лёхкій на ногі, раз-два змыта́ісься ў горыд. То быў лёгінькій ны нагу, а тут ні дашлесься нікуды. Ты пыглядзі́, якей лёгінькій на ногі, нія́кыя ста́рысьць яго ні бярець.

**Лёгкій** (лёгенькій) **на пад'ём.** *Вельмі паслухмяны.* Мыланка лёхкыя ны пад'ём, слова скажы і «Пашлі́». Ні хвалі́, ні такей ужо й лёхкій ны пад'ём, я сколька прасіла — ня зьбегыў. Лёгінькій ны пад'ём, толька смытря́ куды́, зы ча́ркыю дык за сьвет зьбегыіць.

**Лёгкій** (лёгенькій) **на язык,** *неадабр. Балбатлівы.* Ціряшчу́р лёхкій ны язык, ніхай што пачу́іць, зы пыўдня́ пы ўсяму сьвету рызьнясець. Ні нада быць такім лёгінькім ны язык, прідзержывый яго трошку зу зубамі, а не — дык пріку́сывый.

**Лёгкій на руку.** *Удачлівы (звыч. у куплі-продажы).* Кындрат дужа лёхкій ну руку́, ніхай ку́піць што самыя нягеглыя, у яго расьцець як ны дрыжджа́х.

**Лёд растаў,** *пр., буд. Пра карэннае змяненне адносін у лепшы бок.* Іду, гляджу, стыяць хырашо, гамонюць, віджу, лёд рыста́ў. Між імі лёд ныўряд ці рыста́ніць калі. *Незак., рэдкаўж.* **Лёд растаець,** *цяп., пр.* Ба́цькі як заеліся, дык і міжду дзіця́мі лёд ні рыстаець. У Анькі сь Сямёным лёд быў пыча́ў трошку рыстыва́ць і нада ж табе — дзеці пабіліся. *Працягл.-фінальн.* **Лёд нараставаў.** Во табе, дужа многа лёд нырыстыва́ў, узноў сва́рюцца.

**Лёд тронуўся,** *пр., буд. Пра пачатак змянення абставін, адносін у лепшы бок.* Ка́жыцца, лёд тронуўся, сталі патроху ля́пыць тыпыра́мі. Можа калі і троніцца лёд, толька ні січас, яны цяжолыя ны пад'ём. *Незак.* **Лёд трогаецца.** Пыдажджы-ка, раз лёд трогыіцца, можа што і палу́чыцца, сыгласі́ўся пытпіса́ць спраўкі.

**Лізаць пяткі** (рукі), *іран. Паддобрываіцца, трацячы ўласную годнасць.* Раз урадзі́ўся такей, то ўжо ня кініць сваю прівы́чку ліза́ць пя́ткі. Як устреціць стыршыну́, і пычаў шы-шы-шы, рукі лі́жыць, дробным ма́кым рыссыпа́іцца. *Непаўн.* **Палізаць пяткі** (рукі). Зы адным усё бегыў усьлед: зайдзіця ка мне, зайдзіця ка мне, цяперя другому пяткі палі́жыць. Абея пыліза́лі рукі

стыршыноўні. *Аднакр.* **Лізнуць пяткі** (рукі). Табе худзь ба пяткі лізнýць нычáльству, і то даволін. Стырáіцца ж рукі лізнуць, ны лáску надзеіцца. *Законч.* **Атлізаць пяткі** (рукі). Адбегыў, атлізáў пяткі, бубніць сам сабе: ён такей, ён еткій. Скора атлíжуць рукі, у чом-небудзь адным ні ўгадзíць — і кончына. *Працягл.-фінальн.* **Налізаць** (далізаць) **пяткі** (рукі). Любому налíжыць пяткі, так падлезьць умеіць — луччы некуды. Нылізáлі чорту рукі, дабіліся свайго. Дылізáлі пяткі, то лаіў, а цяперя гарою за іх. Даліжыш рукі, ён цябе прыздрáвіць.

**Лістом** (лістам) **слацца,** *неадабр. Паддобрывацца з выключнай лісліваcцю і абыходлівасцю; празмерна заляцацца.* Пыстыáла я збоку лі яе — лістом сьцеліцца піряд імі, ажно глядзець праціўна. Лíстым круга яе сьцелюцца і адзін, і другей, і трецьцій, а йна ім ноль унімамія. *Зак.* **Лістом** (лістам) **паслацца.** Каб ты толька відзіў, як ён пірід Лаўріным лістом пыслáўся. Пірят тым ахламоным лíстым пыслáліся зразу. *Узмацн.* **Лістом** (лістам) **наслацца.** Здорыва ныслаўся лістом, пакуля улымáў, ета яму дорга стоіла. Нысλаліся лістым, кончылі, увідзілі, што нічога ні пулучаіцца. *Гл.* Б а н н ы м  л і с т о м  с л а ц ц а.

**Ліха не бярэць,** *неадабр.; цяп., пр. Пра нядрэннае жыццё.* Што твайму цесьцю дзелыіцца, ліха ні бярець. Іх там ліха ні брала, і хлеб быў, і да хлеба. **Ліха бярэць,** *цяп., пр.* Дужа вы быіцёся, што іх ліха якоя бярець. Гыварі ты, ліха іх брала, рускушувáліся ўволю. *Зак.* **Ліха не возьмець,** *буд., пр.* Ліха ня возьміць, кылі і пыначýіць у капе. Ні пашоў — абыйшлíся, а схадзíў ба — ліха б ні ўзяло. **Ліха возьмець,** *буд., пр.* Ціряшчýр баіцца, што ліха яго возьміць. Ну, ці ўзяло цябе ліха, есьлі лі скытá пыстыяў, памог. *Узмацн.* **Ліха не пабярэць,** *буд., пр.* Ідзіця, йдзіця, ліха вас ні пыбярець. Відзіця, і жывы астáліся, ніякыя ліха вас ні пыбрáла. **Ліха пабярэць,** *буд., пр.* Ня бойціся, што вас ліха пыбярець, цэлы будзіця. Дужа трясýцца, ліха іх там пыбрáла.

**Ліха не хватаець,** *неадабр.; цяп., пр.; рэдкаўж. Пра нядрэннае жыццё.* Ліха ні хвытаіць, жывець, як почка ў сáлі кычáіцца. **Ліха хватаець,** *цяп., пр.* Чаго іх там ліха хвытáіць, рыскрічáліся, аж ірвýцца. Усё там бубнеў, ліха яго хвытáла. *Зак.* **Ліха не хваціць** (не схваціць), *буд., пр.* Ніхай паводзіць, ліха ні хваціць, ні кі-

да́ць жа бульбу ніабгыня́нынію. І пыдыйшоў, і пыгываріў зь людзямі, і ліха ніякыя ні схваціла. **Ліха хваціць** (схваціць), *буд., пр.* Быя́ліся душа, што іх тута ліха якоя хва́ціць. Ці схваці́ла ліха, ай піряжы́ў бяду́ то еткыю? *Узмацн.* **Ліха не пахватаець,** *буд., пр.* Я ду́мыю, што ліха ні пыхвыта́іць, калі й памогуць якую быразёнку вы́брыць. Во ві́дзіця, і ліха вас ні пыхвыта́ла, толька свыя ахота нада. **Ліха пахватаець,** *буд., пр.* Як яны толька піріцірьпяць, ліха іх усіх пыхвыта́іць.

**Ліхая скула,** *неадабр. Дрэнны, нягодны чалавек.* Ого, ікая быў ліха́я ску́ла, ты, бува́ла, пыспрабу́й стаць піряд ім ці слова скыза́ць. Ні чыпа́й ты ету ліху́ю скулу, ат яе ні атвя́жысься.

**Ліца няма,** *цяп., пр. Пра стан жаху.* Стаі́ць, ліца́ на ім німа: «Што с табою?» — «Два ваўкі січас прабеглі пряма ў тэя ку́сьцікі». Ні знаю, што тама случы́лыся, ну на ёй ліца ні було, стыя́ла белыя як мел.

**Ліцом к ліцу.** *Вельмі блізка (стаяць, бачыць).* Наткну́ліся адзін ну другога ліцом к ліцу́. Ліцом к ліцу́ стыя́лі чуць збоку ат мяне.

**Ліцо ў ліцо.** *Вельмі блізка (падысці, сысціся).* Торьк із-за дома ліцо ў ліцо, я прістынаві́ўся, гляджу: ён ці ня ён.

**Ліцца слязамі,** *рэдкаўж. Горка, няўцешна плакаць.* Льлецца сьлізамі дзень прі дні, глядзець жалка і паможч нічым ні паможыш.

**Ліць ваду.** *Гаварыць пустое доўга і нудна; плявузгаць, нагаворваць.* Якоя ў іх зыня́ція, сідзя́ць, ваду льлюць. На Дзёму ваду льлець, што тэй ні зыхацеў іціць ны сва́дзьбу. *Пачын.* **Паліць ваду.** Сыйшлі́ся і пылілі́ ваду, слу́хыіш іх і спаць хочыцца. *Узмацн.* **Наліць ваду.** Ну й наседзіліся, нылілі там ваду за ета ўремя, паліц жа ап паліц не ўдарюць. Нальлюць ваду, што біс хря́п'я астанімся, ну нылаю тады.

**Ліць ваду на мельніцу** *(чыю). Дапамагаць, садзейнічаць у аднабаковым парадку.* Раншы так сабе, ні туды ні сюды, а цяперь у аткры́тыю льлець ваду ны Сямёныву мельніцу. *Непаўн.* **Паліць ваду на мельніцу** *(чыю).* Ты думыў, проста так паліў ваду ну Кузьмову мельніцу, а ві́дзіш, як ён выйгрыў. Дужа зыхацелыся паліць

ваду на мельніцу Колі. Пыўгыждаліся, пылілі ваду на іхнію мельніцу, пулучы́лі за ўсё ета цану, любу́йціся.

**Ліць** (заліваць) **пулі.** *Хлусіць непамерна.* Такей ма́сьцір ліць пу́лі, што пушука́ць толька. Ты йдзі сваёй мыма́шы пулі зыліва́ць, а мне ета ні к чаму. *Непайн.* **Пазаліваць пулі.** Прішоў, пулі пызыліва́ў, ды ві́дзіць, што яго ня дужа слухыюць, паплёўся нызад. Ніхай пызыліва́юць пулі, ізыкі́ свае пачэшуць. Шыряёвіц пызыліваіць пулі, толька слухыць усьпівайця. Пызыліваіця вы пулі з вашыю бряхнёю. *Гл.* А т л і в а ц ь п у л і.

**Ліць з пустога ў парожняе,** *неадабр., рэдкайж. Займацца балбатнёй.* Сыбра́ліся, ільлю́ць с пустога ў парожнія, што ім большы дзелыць. *Пачын.* **Паліць з пустога ў парожняе.** Узноў пылілі́ с пустога ў парожнія, як ізыкі ні апу́хнуць. *Гл.* П е р а л і в а ц ь з п у с т о г а ў п а р о ж н я е.

**Ліць масла ў** (на) **агонь.** *Абвастраць абстаноўку сваім умяшаннем.* Тут ліў масла ў агонь Быбанёнык, ён хацеў, каб у іх рызла́д быў. Пірістань ліць масла ны агонь. *Аднакр.* **Лінуць масла ў** (на) **агонь.** Ты ўлезіш зь ізыком, толька масла ў агонь лінеш. Вы самі ліну́лі масла ны агонь, ні нада було іх трогыць. *Гл.* П а д л і в а ц ь м а с л а.

**Ліць кроў.** 1. *Гінуць.* Вы тута жывіцё, чорт вас ні бярець, а нашы кроў айдзе-то ільлюць. Ра́зым жа пашлі ліць кроў і твае, і мае. 2. *Забі́ваць.* Німа ў мірі спакойствія, і ў газетых ета пішуць, стріля́юць адны ў адных, ільлюць кроў. Сыбакі с сыбак былі, лілі людзку́ю кроў.

**Ліць** (праліваць) **слёзы.** *Горка плакаць, няўцешна гараваць.* Сьпірва́ хадзі́ла, пысьміха́лыся, а як уві́дзіла, што дзела плоха, дывай ліць сьлёзы. Ніхай ён вы́цігніцца, мужы́к такей, каб ішчэ па ім прыліва́ць сьлёзы. Прылівалі сьлёзы на ні́цыя лозы. *Зак.* **Праліць слёзы.** Як я прыліла́ сьлёзы біз уся́кія віны, дык ніхай яны вы́хвырыюць. *Непайн.* **Паліць слёзы.** Адной аста́цца — пальлець сьлёзы, абатрецца і ўзноў пальлець. *Законч.* **Атліць слёзы.** Сколька іна пы Аўсею атліла́ сьлёзы, мы ўсё відзілі і знаім: дужа-дужа гурюва́ла.

**Лішацца вума.** *Вар'яцець, прам., перан.* Вума ты ліша́ісься сы сваім жаненькім, нарьвесься ны каго так, што локці пукуса́іш посьлі. *Зак.* **Лішыцца вума.** Ні пі-

рянёс такога горя, лішы́ўся вума. Ты к ста́рысьці вума ці ні лішыўся, нашто яны табе, етыя дзяўчонкі. *Множн.* **Палішацца** (палішыцца) **вума.** Едзьця, есьлі вума пылiша́ліся, яны вас наезьдзюць. У іх раду́ так: маткі плоха стала і сыны вума пылішы́ліся. Успакойціся адна і другая, уніміціся, вума вы пылішыліся ці што. *Гл.* Мяшацца вумом.

**Лішній рот.** *Пра таго, хто абцяжарвае як ядок.* А нашто мне лішній рот, ці з маімі ета гыдамі валхвіць каго, ухаджывыць. Адзін лішній рот і нізамецін будзіць.

**Лодыра спраўляць** (валяць, качаць), *іран., рэдкаўж. Бяздзейнічаць, нічым не займацца.* Лодыря спруўля́ць ты гатоў, а каб с касою прайці́ць — дык не, а зы цябе ж другея дзелыць ні ста́нуць, ні надзейся. Ці пірі-ста́нь лодыря выля́ць, ці дыбяру́ся я ды цябе, дык дыбяру́ся. Лодыря кыча́юць вун чуць ні паўгода, што ім, раз і ныгатоўліна, і пыда́на. *Зак.* **Лодыра справіць** (правалящь, пракачаць). Так і цыля́іць, каб лодыря справіць, увільнуць пут кусты. Такоя ўремя, пагода стыяла зылытая, а яны лодыря прывылялі столька ўремічка. Яшчэ месіц лодыря прыкыча́юць, ці ты ім ука́жыш. *Непаўн.* **Лодыра паспраўляць** (паваляць, пакачаць). Работы ці дажджэсься, ці не, а лодыря пуспруўля́юць. Ай, луччы ты ўжо маўчы с тваім Ахрямёнкым, павыля́ў лодыря, сыбра́ўся дый паехыў. Яно й відна, што зыхацеў лодыря пыкыча́ць. *Законч.* **Лодыра адспраўляць** (атваляць, адкачаць). Вы лодыря ацспруўлялі, вам можна і пень рыскалоць і сакі набіць зы быльшаком. Столька лодыря атвыля́ць,— як іх толька зімля носіць. Аткыча́ў лодыря, за ўсіх аткыча́ў. *Працягл.-фінальн.* **Лодыра наспраўляць** (наваляць, накачаць, даспраўляць, даваляць, дакачаць). Нуспруўля́лі лодыря дык нуспруўля́лі, біз усякія совісьці яны, як толька за стол ня стыдна лезьць. Што, мала ішчэ нывыля́лі лодыря, і цяперя ні за што ўзяцца ня хочыцця. За етыя гады ныкыча́лі лодыря, ці ўзяліся калі хуць зу пруці́ну ці зы саломіну. Як ні дам есць дзень ды другей, тады дыспрыўля́іш лодыря. Дывыля́юць лодыря зь еткімі гу́лімі, адно толька й знаюць ціга́цца зь дзяреўні ў дзяреўню. Лодыря дыкыча́ў, глядзі́ць разі́нуўшы рот, айдзе што пыдлаві́ць.

**Ложка дзёгцю.** *Што-н. непрыемнае, дрэннае ў справе.* Каб ні твыя́ ложка дзёхцю, мі́рна б і спакойна ры-

зыбра́ліся б. Усё так ішло хырашо, дык пыстыря́ўся, ложку дзёхцю ўліў. *Параўн.* Л о ж к а  д з ё х ц ю  с п о р ц і ц ь  б о ч к у  м ё д у.

**Лопаць** (лопацца) **ад** (са) **злосці,** *іран. Вельмі злавацца.* Пыглядзі, як лопыіць адз злосьці, увесь рысьсіда́іцца. Ні нада лопыць са злосьці, ася́дзьціся. Адз злосьці лопыўся, як увідзіў, што я прістоіла с Хведзію. Лопыліся яны са злосьці, лопыліся, дый лопыцца некуды. *Зак.* **Лопнуць ад** (са) **злосці.** Я думыў, што яны лопнуць адз злосьці, не, цэлы аста́ліся. А ніхай хуць лопніць са злосьці, калі ён еткій абі́дный. *Узмацн.* **Палопаць** (палопацца) **ад** (са) **злосці.** Як увідзюць цябе з Варычкыю, палопыюць адз злосьці. Як жа вы удзіржа́ліся, ні палопылі са злосьці. Не, так ня бойдзіцца, палопыюцца адз злосьці. Былі палопыліся са злосьці, што ні зыпрасілі іх ны банкет. *Працягл.-фінальн.* **Налопацца** (далопацца) **ад** (са) **злосці.** Налопыліся яны абоя адз злосьці, зу бурля́ным усё нешта кіпяці́ліся. Тае там бяды було: вапрёнык ціряз бульбу пірябег, а скулька налопыўся са злосьці. Далопыіцца адз злосьці, можа калі як саўсім растресьніцца. Стой, стой, далопыісься са злосьці, як укачу хырашэнька, айдзе злосць дзеніцца.

**Лопаць** (лопацца, трэскаць, трэскацца) **ад** (з) **жыру,** *неадабр. Вельмі тлусцець; вельмі багацець.* Ты каб глянуў ны яе: лопыіць адж жыру. Так зыжыліся, што лопыюць адж жыру, ім можа аднаго птушыныга мылыка не хвытаіць. Мацьвей столька ім быгаства кінуў, што яны цяперя лопыюць ж жыру. Рыздряхцелі, лопыюцца адж жыру ад бязьдзельля. Усяго ўсякыга і нываліна, і ныкладзіна, і ныгатоўліна, лопыюцца ж жыру. С усіх бакоў снызбжаюць усім усякім, з-зы таго і трескыюць адж жыру. То було трескылі ж жыру, а цяперя, глядзі-ка, троху спаўзло зь іх, зьлезла. Былі адж жыру трескыцца пычалі, нічога ня дзелыючы. Сталі круглыя, гладкія, ж жыру трескыюцца. *Зак.* **Лопнуць** (трэснуць) **ад** (з) **жыру.** Ну й разьеўся ж ён у цябе, ну й рузгудуваўся, глядзі, адж жыру лопніць. Ж жыру лопніць, жыўшы у такой вы́гыдзі. Можна треснуць адж жыру,— столька ў іх быгаствыў у зыпас зыгна́на. Рыздыла́ся, што чуць ходзіць, як ж жыру ня тресьніць. *Узмацн.* **Палопаць** (палопацца, патрэскаць, патрэскацца) **ад** (з)

**жыру.** Як у вас жызьня, дык можна палопыць адж жыру. Рыскармілі двух кыбаноў, што яны вот-вот ж жыру палопыюць. Другім ба такея вільготы, то ж жыру б лопыліся. Вы ўжо бірягіціся, адж жыру ні патрескыйця. Так пычалі сныбжаць іх пасьледнія ўремя, што яны тама ж жыру патрескыюць. А ны пырысят глянула, дык нукрусува́цца толька, як адж жыру ні патрескыюцца. Ім толька й асталося ж жыру патрескыцца. *Працягл.-фінальн.* **Налопацца** (натрэскацца, далопацца, датрэскацца) **ад** (з) **жыру.** Пыжылі, пурускушува́лі, налопыліся адж жыру. Зу Паўлюком ні пірярьвецца, усё сам, усё сам, налопыіцца ж жыру. І там, кыла Крічыва, жылі, натрескыліся ж жыру, і сюда піряехылі, чорт іх ні бярець. Далопыюцца адж жыру, прі́дзіцца калі-небудзь і з мызыля́ пажы́ць. Датрескыцца ж жыру нядоўга, дурь ікая пацскочыць, што сытвыря́ць і кончыцца ўсё разым.

**Луджаная** (луджоная) **глотка,** *асудж. Крыкун.* Чуіш, ірьвецца лу́джыныя глотка, сколька сядзіць у чылавеку акыя́ннысьці. Рызя́вілыся луджоныя глотка, цына таму ірва́нушу трі капейкі.

**Лупіць вочы,** *іран. Глядзець здзіўлена з непаразуменнем.* Кылі ду́мна брацьв, дык ачшчы́тывый грошы, а ні лупі́ вочы. *Непаўн.* **Палупіць вочы.** Пулупі́ў вочы: пра што ета рыска́зыюць. *Працягл.-фінальн.* **Налупіць** (далупіць) **вочы.** Налу́піць вочы, што калёсы апчы́сьцюць ззá ду. Дулупілі вочы: айдзе клу́мычка — бежч нада, куды бежч.

**Лупіць** (спускаць) **кожу** (шкуру). *Сцябаць бязлітасна, з лютасцю.* Сколька лупілі кожу зь яго, нічога ні ка́іцца, як твары́ў, так і тварі́ць. Шкуру будзіш лупіць — быя́цца бу́дзіць, а толк зь естыга якей. Як возьміцца сеч, пряма кожу спускаіць, во ўжо б'ець дык б'ець. Спускай шкуру — ніза́шта ні пыка́іцца, нырявецца, нырявецца і зы сваё. *Зак.* **Злупіць** (спусціць) **кожу** (шкуру). Зы такоя за ўсё кожу злупі́ць нада. Раз ды другей шкуру злу́пюць, дык нябось, уні́муцца троху, пыспыкайнеюць. Вазьму́ вожкі ряменныя, будзіш харош, спушчу кожу. Ці ты січа́ж жа паслу́хыіш, ці шкуру спушчу. *Узмацн.* **Палупіць** (паспускаць, пазлупіць, паспусціць) **кожу** (шкуру). Пулупі́ць кожу нада зы яблынкі, еткыя су́чча пускруцілі, пывывыра́чывылі. Я ні пygля-

дзеў ба: сла́бінькія ды нягеглінькія, шкуру пулупіў ба. Толька ні ўніміціся, кожу пуспуска́ю, цішэй ціхыга ста́ніця. Каб ні ня́нчыўся, а шкуру пуспуска́ў, яны б шаўковыя сталі. Як дыбра́ўся, дык пузлупіў кожу с абоіх, ряўлі, ды реўць некуды. Большы зь імі цярпенія ні стала, пузлуплю́ шкуру ж жывы́х. Словым увішча́й, а ні гразьбою: пуспушчу́ кожу, ля́скыю большы даб'есься. *Працягл.-фінальн.* **Налупіць** (наспускаць, далупіць, даспускаць) **кожу** (шкуру). Расстроюся, сыма нырявусся, ну нулуплю́ кожу. І шкуру нулупіў, і ныпярёд прікыза́ў, каб яшчэ ў тэй бок дайжа дарогу забы́лі. Ён ужо нуспускаў вам кожу, а ўсё мала, яшчэ нада. Хто там нуспуска́іць шкуру, Марья пальцым жалеіць прітронуцца. Дулупіў кожу, наўчы́ў,— толька большы ны гылыва́х хадзіць ста́лі. Дуспускаў шкуру, сталі быя́цца як ыгня́, ён у хату — дык ажно дрыжа́ць.

**Лухта непадсяваная.** 1. *Абсалютная бяссэнсіца.* Вярзець лухту́ ніпыцьсіва́ную, што сам пріду́мыіць. Абылдзянеіш, тую лухту ніпыцьсіваную слу́хыўшы. 2. *м.* і *ж. Хлус, манюка, балбатун.* І Сенька твой, і ты ўмесці зь ім тыкая лухта ніпыцьсіваныя, што пыіска́ць толька ў сьвеці. Лухта ніпыцьсіваныя, а ні чылавек.

**Лыка не вязаць.** *Быць вельмі п'яным, аж да страты здольнасці гаварыць.* Нада ж ныбра́цца так, каб лы́ка ні віза́ць. Што ты ў іх дыпяўнісься, калі яны лыка ні вя́жуць. **Лыка вязаць.** І етый ны кыра́чкых поўзыіць, і другей, ты ду́мыіш, лыка вяжыць, кылі ізыком ні паверніць. *Зак., рэдкаўж.* **Лыка не звязаць.** Відзіш, стаіць, лыка ні зьвяжыць.

**Любою цаною.** *Не лічачыся ні з якімі ахвярамі, нічога не шкадуючы.* Ага́рык мушчы́на, ён табе любою цаною і ўвызна́іць, і праню́хыіць, і даб'ецца. Любою цаною, ну тут нада ні ўпусьціць.

**Ляжаць** (валяцца, качацца) **на баку,** *гумар. Бяздзейнічаць, лодарнічаць.* Ну што, ты, знаць, цэлыя лета ны баку́ ляжы́ш. Ціряшчу́р прівы́к выля́цца ны баку, лішніга дайжа ні пывару́шыцца. Айдзе ж яму аптряхну́цца, раз любіць етык ны баку кычацца. *Непаўн.* **Паляжаць** (паваляцца, пакачацца) **на баку.** Чаго тама гываріць лішні́га, пыліжа́лі ны баку. Каб ны баку ні пывыля́лізя, дык ба зьдзелына було, а так папробуй хвыта́ць цяперіцька ўсё зразу. Нечыга богу гряшы́ць, пыкычаліся

ны баку ўволю. *Узмацн.* **Праляжаць** (пралежаць, праваляцца, пракачацца) **на баку.** Якую яму вы́прыўку ішчэ спруўля́ць, кылі столька ўремя прыліжаў ны баку, пругульта́йнічыў. Работа гарела цэлый месіц, усе хвыта́лі, убіра́лі, а ён сабе пралежыў ны баку. Адно — каб прывыля́цца ны баку, а што паможч, і ў тэй бок ні глядзі́ць. Ду́мыіш, дзелыць што будуць? — прыкычаюцца ны баку. *Законч.* **Атляжаць** (атлежаць, атваляцца, адкачацца) **на баку.** Столька атліжа́ў ны баку, што большы і ні пріду́мыіш сколька. Атлежылі ны баку, ацспруўля́лі лодыря, толька карм́і зы нішто ніякыя. Тоя лета атвыляўся ны баку, толька ны вічарінкі сьвет выбегывыў. Аткычацца ны баку пасьпеіш, а пакуля сха́дзі-ка сколька дней пырізай торху. *Працягл.-фінальн.* **Даляжаць** (далежаць, даваляцца, дакачацца) **на баку.** Коля дыліжа́ў ны баку, ра́зу нечыга даць карові. Далежыця ны баку, далежыця, дыжджыцёся з моря пагоды. Я ўжо віджу, што ты дывыля́ісься ны баку, як есьць ні пріга-ту́ю, дык пыска́чыш. Сярёжка дыкычаўся ны баку, нада заробіць што айдзе, а ніхто такога работніка ня хочыць.

**Ляжаць камнем на серцы** (душэ). *Быць маральным цяжарам.* Ты адурюва́іш пы дзяреўні, а мне ета ляжы́ць ка́мнім на серцы. У мяне Васіль ляжыць камнім на душэ: айдзе ён, што зь ім. *Зак.* **Лежч камнем на серцы** (серца, душэ, душу). Што ля́жыць камнім на серцы, бу́дзіць ці́снуць і ціснуць. Горя ета з мальцымі лягло ёй камнім на серца і ня скора зва́ліцца. І твыя біда лігла камнім ну душэ. Ён дура́чыцца, ба́лыіцца, п'ець, а ці ёй лёхка — лягло ўсё камнім ну душу́.

**Ляжаць крыцаю,** *груб. Упарта лодырнічаць.* Ляглі́ кріцыю,— ты іх зыста́віш зьдзелыць што-небудзь, ду́мыіш. *Узмацн.* **Праляжаць** (пралежаць) **крыцаю.** Што яны дзелылі тут? — прыліжа́лі кріцыю двоя су́дык. Кріцыю пралежыць — вот і ўвесь зыня́тык. *Законч.* **Атляжаць** (атлежаць) **крыцаю.** Атліжа́лі кріцыю, нудурелі-ся, думылі, за іх нехта ўсё падзелыіць. Ці ён ішчэ ні атлежыў кріцыю? Кріцыю атлежыў чуць ні паўгода, толька паследнія ўремя стаў брацца. *Працягл.-фінальн.* **Наляжацца** (даляжаць) **крыцаю.** Ыыліжа́ўся кріцыю, і адгуля́ў, і атыспа́ўся, нічога ня трогылі, нікуды ні зыстыўля́лі. Дыляжы́ць кріцыю, як зы тряхольля ды вон к радзі́мцым пыкачу́.

**Ляжаць на плячах.** *Абцяжарваць, непакоіць.* Ныкіда́лі скыта́ повін двор, і цялёнык, і воўцы, і зімывікі́ ла́дныя — усё ж ляжы́ць ны маіх плíча́х. *Зак.* **Лежч на плячах.** Як ля́жыць такоя хызяйства ны плічах, дужа ні пабегыіш. Увесь двор лёг у яе ны плічах, цэлый дзень кру́ціцца як угарелыя. *Непайн.* **Паляжаць на плячах.** Я ўжо ў пень убілыся, ніхай троху ў цябе пыляжы́ць ны плічах, пыхызя́йствуй.

**Ляжачый хлеб.** *Лёгкая, безадказная праца.* Найшлí ўжо луччы некуды, пряма ліжа́чый хлеб, дык, думыіця, там доўга збыў. Гультаю і вязець: ліжачый хлеб сам у рукі прішоў.

**Ля разбітага карыта.** *Ні з чым, не пры чым (застацца).* Узноў аста́лыся лі разьбíтыга кары́та. Ня хочыш слухыць, дык і будзіш сядзець лі разьбітыга карыта.

**Ляскаць зубамі.** *Злаваць, шкадаваць з-за няўдачы, ад бяссілля, немагчымасці выканаць.* Сыбра́ўся і пашоў, і ва́ря твыя́ ні нада яму, а ўслед ля́скый зуба́мі. *Зак.* **Ляснуць зубамі.** Ля́снуў зубамі, ды ня ўку́сіш: мыцірікоў нагну́ла, нагнула і пыдыла́ся ў свой бок. *Непайн.* **Паляскаць зубамі.** Такей-то мне страх, есьлі твой Іван зуба́мі пыля́скыіць. *Пачын.* **Заляскаць зубамі.** Як скыза́лі, што прішлі і гуляюць, дык пряма зубамі зыля́скылі, ні зналі, куды злосць дзіва́ць. *Законч.* **Атляскаць зубамі.** Сколька яны атля́скылі зубамі, як сь сябе ні выпры́гывылі, паелі б, каб маглі. *Працягл.-фінальн.* **Наляскаць** (наляскацца, даляскаць) **зубамі.** Ныля́скыюць яны зубамі, я пыкажу́, куды злосць дзіва́ць. Столька ныляскыўся, зубамі, каб яго сіла, пырва́ў ба на месьці. Дыляскыіць зубамі, уні́муць і ўгаму́юць, тады і злосць прыпадзець зра́зу.

**Лясы** (балясы) **тачыць,** *неадабр. Марнатравіць час у пустых размовах.* Такога сьпіцыяліста ля́сы тачы́ць толька пыіска́ць ды пыіскаць. Быля́сы точуць і ня відзюць, сколька тут нызімля́нілі, грязíшчы зы ныгамі ныцíга́лі. *Непайн.* **Лясы** (балясы) **патачыць.** Ікая зь іх работа, троху бырыля́лі плуга́мі, лясы пытачы́лі і ныза́д вярну́ліся. Былясы паточуць і прівылаку́цца, якога ж яшчэ толку ты хочыш. **Лясы** (балясы) **адтачыць.** Аттачы́лі лясы, нызад мышыру́юць. Пакуля былясы ні атточуць, трудна ждаць, каб рызыйшлíся. *Працягл.-фінальн.* **Лясы** (балясы) **натачыць** (датачыць). Сыбяру́ц-

ца, наточуць лясы, наточуць, а тады рызвылакýцца ды заўтріга. Вы ў мяне наточыця былясы. Даточыця лясы, што скот прагонюць, і ня ўвідзіця. Дытачылі былясы, селі,— аўтобус пыдзь Зяціцыю.

**Ляцець** (валіцца, каціцца) **кувырком** (уверх тармашкамі). *Ісці беспарадкава, бязладна (пра справы).* Ні пулучылыся ў іх жызьні, ляціць усё кувырком. Тама і летыся ляцела ўсё ўверьх тырмáшкымі. Што я зьдзелыю, кылі тут валіцца кувырком. Пыдапреш, есьлі вáліцца ўверьх тырмашкымі,— тут ужо нічога ні паможыш. Пыглядзіш, дык відна, што ў іх коціцца кувырком. Там даўно пычало каціцца ўверьх тырмашкымі. *Зак.* **Паляцець** (паваліцца, пакаціцца) **кувырком** (уверх тармашкамі). Як пыляцела усё кувырком, і ў нас тады рукі пупускáліся. Яно неік само сырвáлыся, пыляцела ўверьх тырмáшкымі. Як пывáліцца кувырком, ня жджы тады толку. Пываліілыся іхныя жысьць уверьх тырмашкымі. Було ўсё нылáдзілыся, стала ны сваё места, а тады ўзноў пыкацілыся кувырком. Як пакоціцца ўверьх тырмашкымі, ні становіш, луччы зразу глядзець, каб с толкым було.

**Ляцець у трубу** (на вецер, па ветру). *Марнатравіцца.* Сколька якога рыхамýдзьдзя було, усё ляціць у трубý у хызяіна ў еткыга. Каб ні ляцела столька на веціp, то маглі б жыць нічога. Як яно будзіць шчасьціць, есьлі ляціць па ветру кáжныя капейка. *Зак.* **Паляцець у трубу** (на вецер, на ветру). Такоя хызяйства пыляцела ў трубу! У руках еткыга хызяіна ўсё пыляціць на веціp. У бысікá што-небудзь ныжывецца? — не-к, ні ныжывецца, пыляціць па ветру. *Параўн.* В ы л я т а ц ь у т р у б у.

**Мазаць мёдам** (маслам) **па губах,** *іран. Абяцаць вельмі прыемнае.* Мáзыць мёдым пу губáх бýдзіць, а даць дужа ні раськініцца, ня тэй чылавек. На нешта ўжо рашшчытывыіць, мажыць таму маслым пу губáх. *Зак.* **Памазаць мёдам** (маслам) **па губах.** Пымáжуць яму мёдым пу губах, а ён аж рыстаець, дýмыіць: во ўжо друзья. Пымáзылі мёдым пу губах, ён і абмякчыўся. *Законч.* **Атмазаць мёдам** (маслам) **па губах.** Чаго яму толькі ні бішчáлі, атмáзылі мёдым пу губáх. Такей сьпіцыяліст атмáзыць мёдым пу губах, другога нада са

сьвечкыю йскаць. Атмазылі маслым пу губах,— ужо крівюцца за нешта. Ужо сам ка́іцца: пруглупіў, што служыў, атмазылі яны маслым пу губах.

**Мазаць па губах,** *іран. Толькі абяцаць увесь час.* Усё ма́зылі пу губа́х: дадзі́м, дадзім табе, што нада. *Зак.* **Памазаць па губах.** З махлою толк зна́йдзі́ш, тэя пыма́жуць пу губах: паможым — тады за іх крічы́ць. *Законч.* **Атмазаць па губах.** Атмазыў пу губах, прівёз ру́чкі тапорніку, а ўсё бішча́ў: зывалю́ топлівым. Атмазылі пу губах, сядзі́ць, жджэць — з моря пагоды вы́жджыць.

**Мазкі ўстаўляць** (упраўляць). *Наводзіць на розум, прымушаць пастурацьразважна.* Мазкі ўстыўля́ць нада, толька нада пыглядзець сьпірва́ каму. Доўга ўпрыўля́лі мазкі свайму лыбытря́су. *Зак.* **Мазкі ўставіць** (управіць). Іўля́іцца і зыісьня́іць, што ён мазкі ўста́віць Цімоху ні ся́ньня — заўтря. Мы б доўга ні вылаводзіліся, жыва б упра́вілі мазкі. *Узмацн.* **Мазкі паўстаўляць** (паўпраўляць). Даўно пыра́ мазкі пыўстыўля́ць. Дыбяру́ся я да іх, пыўстыўляю мазкі. *Працягл.-фінальн.* **Мазкі наўстаўляць** (наўпраўляць). Ныўстыўля́лі мазкі вам, ды ма́ла, нада б яшчэ. Кірей каб узя́ўся, то быў ба толк, а ты ныўпрыўля́іш мазкі, будзіць упра́ўліна.

**Мазоліць язык,** *неадабр. Гаварыць пустое.* Вы зна́іця, што ён мне сьпеў: «Ты гаворіш — толька мазоліш язык». *Зак.* **Намазоліць язык.** Няўжэлі да етыга ўремя ўсё йшчо ні нымазолілі язык? *Непаўн.* **Памазоліць язык.** Ну тыкая-то біда, есьлі Сашка язык пымазоліць, там хлыпя́нкі було ны адну цэўку. *Зак.* **Атмазоліць язык.** Атмазоліла язык, пыцягну́лыся к Казьмовіным.

**Маім словам.** *Ад майго імя.* Ні рузмунды́кывый і ні руссусолівый, а пряма маім словым скажы́, каб січа́ж жа ішоў двору. Маім словым пірідáй, каб ні ждаў асобыга пріглашэнія.

**Макам слацца,** *іран., рэдкаўж. Надзвычай дагаджаць.* Пірят тымі цюрёмнікымі я ні стала б так ма́кым сла́цца. *Зак.* **Макам паслацца.** Чаго б ета, ду́мыім, Шурка макым пысла́ўся пірідз Зыхарым, ажно во чаго. *Законч.* **Макам атаслацца.** Атысла́ўся макым, ні прііня́лі к сваёй кымпа́ніі, нечым ні пыныра́віўся.

**Маладэй** (маладый) **ды ранній,** *неадабр. Развіты не па гадах.* Мыладэй ды ра́ньній, зразу каб цябе снызжа́лі кругом, а што ты пасьпеў заробіць сваімі рука́мі. Яе сын мылады́й ды раньній, ого якея зыма́шкі — нямерныя. *Гл.* З м а л а д ы х д ы р а н н і й.

**Мала кашы есць** (з'есць), *неадабр. Быць маладым, нявопытным.* Мала ён кашы еў ука́зывыць мне. Мала вы кашы елі, каб брацца мяне ўчыць. Мала йна кашы зьела, аткуля ёй жы́зінь знаць. Мала кашы зьелі, а ўжо біріцёся другіх пувуча́ць.

**Малако** (малачко) **ад бешанай кароўкі,** *іран. Самагон.* Ны мылако ад бешыный кароўкі дужа бальшэй ахотнік, толька спруўля́йся пыднасíць. Було мылако ад бешыныя кароўкі, ды ўныкну́ла. Ім толька пыдыва́й мылачко ад бешыныя кароўкі, ні тка́жуцца. Ты яму лу́ччы дай мылычка́ ад бешыныя кароўкі. *Параўн.* Любіць мылачко, калі яно ад бешыныя кароўкі.

**Малако на губах не абсохла,** *гумар.; пр., буд. Пра маладога, нявопытнага.* Хлопцы то там такея — мылако ну губа́х ні апсохла, на іх яшчэ унíма́нія ні брышча́юць. Мылако ну губах ні апсохніць, а ужо як бальшэя зыдаю́цца. *Незак., рэдкаўж.* **Малако на губах не абсыхаець.** Пыд два́ццыць пыдбіра́іцца, а ўсё мылако ну губах ні апсыха́іць. *Узмацн.* **Малако на губах не паабсохла** (не паабсыхала). Куды ім за дзеўкымі,— мылако ну губах ні пыапсохла. Мылако ну губах ні пыпсыха́ла, а зыдыва́ньня ого якоя.

**Мала малейшае.** *Усё да дробязей.* Ма́ла малейшыя пачу́юць, усё пірідаду́ць. Мала малейшыя зьдзелыіцца, там ізьвесна зразу. Усё мала малейшыя бяру́ць ны язы́к.

**Малоць чапуху** (ярунду, чуш, лухту, лухту непадсяваную), *неадабр. Гаварыць пустое.* Прíдзіць і пашоў малоць чупуху́, саўсíм ачуміў. Ірунду́ меліць, я ні хачу яго дайжа ў рязон браць. Якую яны тама чуш малолі, што вы пыка́тывыліся со сьміху? Лухту меліць, а яны кругом раты пырызіўля́лі і слу́хыюць. Лухту ніпыцьсіва́ныю малоў ба і малоў дзень да вечыра. *Зак.* **Змалоць чапуху** (ярунду, чуш, лухту, лухту непадсяваную). Змалоў чупуху нехта, а другей хто-то пытхваціў, во і пашло: та-та-та. Сам змалоў еткыю ірунду́, нікога там ні було, ніхто там нічога ня відзіў. Зьмелюць чуш, а та-

ды самі сабе верюць. Каго ты сьлепіш, ці мы ні знаім, хто ету лухту змалоў. Самі ж вы лухту ніпыцьсіва́ныю і змалолі, і нечыга шукаць вінува́тых. *Непаўн.* **Памалоць чапуху** (ярунду, чуш, лухту, лухту непадсяваную). Ні́якыга там нічога аньціресныга ні було, пымалолі чупуху і пашлі спаць. Пакуля ні памеліць ірунду якую-небудзь, ня выйдзіць, во тряпло, дык тряпло. Сьпірва́ адзін пымалоў чуш, тады другей сьпёр трілю́ду — і ўсе іх новысьці. Дай ты яму пымалоць лухту, яму хуць ну душэ атлягнець. Пыдажджы-ка, пакуля яны памелюць лухту ніпыцьсіваныю, няскора піряжджэш. *Узмацн.* **Перамалоць чапуху** (ярунду, чуш, лухту, лухту непадсяваную). Не, ня ду́мыю, каб іна ўсю сваю чупуху пірімалола. Пакуля пірімалола усю ірунду, у мяне аж гылыва рызбалелыся. Ці ўсю чуш пірімалоў, можа спаць пойдзіш? Па-мойму, ўсю лухту пірімалолі, нызаўтріга нічога ня кі́нулі. Дай жа ты ім усю лухту ніпыцьсіваныю пірімалоць, тады яны пойдуць на поліва. *Законч.* **Атмалоць чапуху** (ярунду, чуш, лухту, лухту непадсяваную). У адной хаці атмелюць чупуху, тады йдуць у другую. Пакуль ні атмеліць сваю ірунду, папробый яго вы́пірць. У нас яны жыва атмелюць чуш, нам дыхну́ць некылі за бульбыю. Нада столька лухты атмалоць, калі ж було што дзелыць. Мы жда́лі, калі ты атмеліш лухту ніпыцьсіваныю.

**Маменькіна** (мамкіна, маміна) **дачка,** *іран. Пра збалаваную, спешчаную дзяўчыну.* Самі такея прыцаўнэя, рыбыця́шчыя, а во ж вы́гыдывылі ма́мінькіну дачку́, ні к чому ні прітуркыіш. Ма́мкіна дычка, іна табе рук ні замочыць і каб пысьпяшы́ць — ня дужа. Ві́дна, што ма́міна дычка, г дзелу ні пріву́чына нісколька.

**Маменькін** (мамкін, мамін) **сынок,** *іран. Пра збалаванага, спешчанага хлапчука, хлопца.* Чаго ён расьцець у вас такей мамінькін сынок? Рысьпішчэўся мамкін сынок, некыму ну руках вылачы́ць. Пы ўсяму́ відна — мамін сынок, зба́лывын ды кынца.

**Манна нябесная.** *Незвычайная, вельмі жаданая страва.* Аднаго ні дыва́й, другога ні пыднасі́, трецьціга ні пыка́зывый,— манну нябесныю пайду́ січас дыстыва́ць. Манны нябесныя пакуль што ні зыка́зывылі.

**Мараць** (гразніць) **рукі.** *Рабіць непрыемныя, непрыстойныя, брудныя ўчынкі.* Што с табою чыпа́цца, толь-

ка ру́кі мыра́ць. Ахота вам грязьніць рукі с паску́днікым, луччы абыйцíць га́дысць. *Зак.* **Замараць** (загразніць) **рукі.** Зымыра́лі рукі сь сеным, любэй будзіць вочы калоць. Зыгрізьніцё рукі і самі будзіця жалець, што трогыліся. *Непаўн.* **Памараць** (пагразніць) **рукі.** Ды дужа нічога стра́шныга, ня суд, а пымыра́ў рукі, ніпріятна. Пыгрязьнілі рукі, каб ні зьвя́зывыліся, спыкайней було б. *Узмацн.* **Намараць** (награзніць) **рукі.** Ну што, нымыра́лі рукі, як іх апра́ўдывыць. І другей раз ныгря́зьнюць рукі, хочыш, і саўсíм ся́дуць.

**Мараць язык.** *Гаварыць попусту з тым, хто не заслугоўвае ўвагі.* Ні хачу́ я мыра́ць язык, гыварíць ім ні слова, ні паўслова. *Зак.* **Замараць язык.** Што ты дыка́жыш, яны як доўбні, толька язык зымыра́іш. *Узмацн.* **Намараць язык.** С тваíмі лю́бымі гываріць — язык нымыраіш, а толку ні на грош ня бу́дзіць.

**Масква відна,** *жарт. Пра прыжмурванне ад надзвычай кіслага.* Ну й вареньня тваё, Мысква вíдна, ажно ў році зводзіць. Ад твайго яблыка Мысква відна.

**Маскву ўвідзець,** *жарт. Прыжмурыцца ад надзвычай кіслага.* На, ўкусі раз, Маскву увíдзіш.

**Масцер** (майсцер) **на ўсе рукі.** *Вельмі ўмелы, спрактыкаваны.* Ду́мыла, айдзе мне хто пыпра́віць, ды во ныхвацíўся Ягор, а ён жа ма́сьцір на ўсе ру́кі. Майсьцір на ўсе рукі, у акру́гі пыіска́ць такога.

**Масцярыца** (майсцярыца) **на ўсе рукі.** *Вельмі ўмелая, спрактыкаваная.* Такея мысьцярíцы на ўсе рукі і найцíць тру́дна. Ікая ж іна была мыйсьцяріца на ўсе рукі!

**Матаць** (наматываць) [сабе] **на вус.** *Запамінаць, прымаць пад увагу.* Збоку стыя́ла, пріглідáлыся, усё мыта́ла на вус. Ты слу́хый ды нымáтывый на вус, ета табе ні ў пустоя гаворіцца. Вы тут гыварíця, тряплíціся, ён усё мыта́іць сабе на вус. *Зак.* **Наматаць** (узматаць) [сабе] **на вус.** Нымыта́ў на вус, што адна́ начу́іць, і дыва́й пад вокны сту́кыць. Узмыта́лі на вус, што другім удыва́лыся, паехылі і ўцу́ргыліся. Ён другоя нымыта́ў сабе на вус, а ня тоя, што табе здаецца. Глядзі, ўзмытаюць сабе на вус ета дзела і айдзе-небудзь патторнуць. *Узмацн.* **Панаматаць** [сабе] **на вус.** Пынымыта́лі на

вус, што к чаму гыварілыся. Пынымытаюць сабе на вус і пашлі, мол нас ні прывядзеш.

**Махалам махацца** (махаць). *Адбівацца, адганяць, адгаворвацца, адмайляцца.* Ма́хылым мыха́йся, дык ат іх ні атаб'есься,— такея ныха́льныя мушчыны. Махылым мыха́й, а яны ўсё дно будуць лезьць. *Зак.* **Махалам атмахнуцца.** Зычыня́й скарей дзьверi, ато як праню́хыюць куры пры ячмень, махылым ні атмахнесься.

**Махаць рукою.** *Адступацца, цурацца, не звяртаць увагі, адносіцца абыякава.* Што яны мыха́юць рукою ны стырікоў, а хто ім ма́лых пыдня́ў на ногі. *Зак.* **Махнуць рукою.** Спірва́ і так, і так угыва́рівылі, а посьлі махну́лі рукою: яго ні піряпреш. *Непайн.* **Памахаць рукою.** Січас ні нада — ніхай ні нада, ну як ён пымыха́іць рукою, як ма́лый пыя́віцца?

**Медзька ў бабу́,** *жарт. Пра вельмі страшнае, жахлівае.* Ня йдзі туды, там медзька ў бабу́. Можа табе пыкызаўся медзька ў бабу? Тута ні йначы як медзька ў бабу. О З'явіўся выраз прыкладна ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. Гэтымі словамі селянін Апанас палохаў хлапчукоў, якія не супраць былі паласавацца бобам у яго агародзе. Выраз зафіксаваны ў дзвюх вёсках — дзе з'явіўся і дзе некаторы час жылі нашчадкі Апанаса. Пэўны час словазлучэнне было дражнілкай унука і праўнукаў гэтага селяніна. У цяперашні час вядома як жартоўнае выражэнне страху, спалоху, гэта значыць іх беспадстаўнасці. *Медзька* — скажонае м я д з в е д з ь.

**Меднае горла** (глотка), *груб. Крыкун.* Медныя горла як рызя́віцца, ня скора уймецца. Тую медную глотку слу́хыць нада ні абы-якея нервы, зялезныя.

**Между дзелам.** *Не затрачваючы асноўнага часу.* Трі бывразёнычкі аста́лыся, іх можна як между дзелым вы́кыпыць. Вожкі ня к сьпеху, между дзелым саўюцца.

**Между** (паміж) **прочым.** *Мімаходам, між іншым, не засяроджваючы ўвагі.* А я, между прочым, ду́мыў пры цябе ні так. Цімох скызаў между прочым, а йна ду́мыла, што пыткалоць яе зыхацеў. Пряма ні гыварі́, а нымякні́ паміж прочым: нехта атвечыра па жыту ла́зіў.

**Мелка плаваць,** *іран. Не мець належных здольнасцей, ведаў, магчымасцей.* Мелка пла́выіць тэй пач-

шчоглывытый, каб гасьцілі яго як нейкыга пáна. Мелка ты плавыіш сы сваімі зіцямі, кругом лýччы пыглядзі. *Непайн.* **Мелка паплаваць.** Ты мелка пыплáвыў саветывыць мне, куды хадзіць, куды ні хадзіць.

**Мелкая сошка.** *Неўплывовы, неаўтарытэтны.* Што ён сь кім пыгавóріць, ён мелкыя сошка, пысьмяюцца і большы нічога. Твой дзевірь мелкыя сошка, а тут ні абы-якей чылавек нада.

**Мераць адным аршынам** (меркаю, палкаю), *неадабр., рэдкаўж. Аднолькава ацэньваць усё і ўсіх.* Каго ж ты меріш адным аршы́ным? Вы ўсігда мерііця адною меркыю. Хвáціць усіх меріць адною палкыю. *Зак.* **Змераць** (памераць) **адным аршынам** (меркаю, палкаю). Нашто ж вы іх зьмерілі адным аршы́ным, кылі адны́х цётка зывáліiць усім усякім, а ў другíх лускуткá збоку нейдзі ўзяць. Вы зьмерілі адною меркыю, а ці ў іх адзінáкывыя жысьць. Адною пáлкыю змеріць лёхка. Памеріць адным аршыным можна, ды толку зь естыга ніякыга. Як памеріш адною меркыю, дык яно выходзіць усім хырашо. Па-твойму, ладна, па-твойму, памеріць усіх адною палкыю нічога ні знáчыць, а?

**Мераць на адзін аршын** (капыл, мерку, палку), *неадабр. Аднолькава ацэньваць усё і ўсіх.* Нільзя́ меріць усіх ны адзін аршын. Ты нешта пычáў усё пыдря́д меріць ны адзін капыл. Зразу усіх пычаў меріць ны адну мерку, а тады агледзіўся: нешта ня тоя пулучáiцца. Ны адну палку меріць і Аксюту дзвюмя́ душáмі і нас — у нас сем душ. *Зак.* **Змераць** (памераць) **на адзін аршын** (капыл, мерку, палку). Што ж ты зьмеріў і тых і етых на адзíн аршы́н, у іх, брат, жызьня рáзныя. Як ны адзін капыл зьмеріш, дык нічога ні палýчыцца. Ета ні падýмыў, што зьмеріў ны адну мерку, тут нада пы-ўся́кыму пыглядзець. І гыварíлі і б'ісьня́лі, што так нільзя глядзець, дык ён зьмеріў усіх ны адну палку. Ты ўсіх хацеў памеріць на адзін аршын, а так ня дзелыюць. Трудна ўсіх памеріць на адзін капыл, пы-рáзныму бувáiць і пыразныму людзі жывýць. Яе жысьць і нашу жысьць памеріў ны адну мерку: іна зы бáцькым крусувáлыся, а мы ураўне з мушчынымі ішлі. На дну палку памеріць усіх ні памеріш.

**Мераць на свой аршын** (капыл, мерку). *Ацэньваць са свайго пункту погляду.* Як жа вы меріця нас на свой

аршы́н, есьлі у вас трі мушчыны ў ха́ці. Хва́ціць меріць на свой капыл, нам с табою ні зрыўня́цца. Ны сваю мерку меріці́ць, усё ду́мыіць: як ён, так усе могуць. *Зак.* **Змерäць** (памерäць) **на свой аршын** (капыл, мерку). Ета на свой аршын ты зьмеріў нас, а мы ні такі́я. Вы зьмерілі Хвядота на свой капыл, ду́мыіця, што ён пыва́шыму дзелыіць. Ты іхнію жызьню змеріў ны сваю мерку, а іх пылажэнія — саўсі́м другоя дзела. Мяне што, мяне як ні памеріш, дык ла́дна, а ты суседа памерій на свой аршын. Памеріў на свой капыл, і нісма́шна ста́ла: я ні так гывары́ў. У іх уся́кыя вільгота, а тут курёнку нейдзі вы́скычыць, і яны памерілі нас ны сваю мерку.

**Мераць сваім аршынам** (меркай), *рэдкаўж. Ацэньваць са свайго пункту погляду.* Абея пыча́лі меріць сваі́м аршы́ным. Што яму ні гывары́, ні талку́й, меріць сваёю меркыю. *Зак.* **Змераць** (памераць) **сваім аршынам** (меркай). Змеріць сваім аршыным і ажно сь сябе выска́кыіць: у яе меншы пулуча́іцца ўсяго. Зьмерілі сваёю меркыю, дык ніла́дна нешта. Сваім аршыным памеріць ляхчэй, толька трудней ды пра́ўды дайці́ць. Чужу́ю жызінь памерілі сваёю меркыю.

**Мераць тым жа аршынам** (меркай). *Ацэньваць па-ранейшаму; адплочваць тым жа самым.* У мяне ногі прастреліны, і йшчэ ў тую вайну я быў га́зымі зытра́ўлін, дык нечыга мяне меріць тым жа аршыным. Ты і сябе мерій тою ж меркыю, сколька сь цябе нада браць. *Зак.* **Змераць** (памераць, атмераць) **тым жа аршынам** (меркай). Нільзя тым жа аршы́ным зьмеріць і сылда́ткуўдаву́, і якога-небудзь крысьня́. Каб ты зьмеріў тою ж меркыю сястру́ сваю, а мяне што пріклыда́ць — нечыга. Сымаму́ нісма́шна, як памерілі тым жа аршыным. Каб вас тым жа аршыным памеріў, штоб вы запелі. Прі́дзіць уремя, і яму памеріюць тою ж меркыю. Ніхай тою ж меркыю памеріюць і сябе. Як атмеріюць тым жа самым аршыным, тады трошку пыцішэіць, апомніцца. Тады адурюва́ў, шку́ру драў зь людзей, дык цяперя тою ж меркыю атмерілі сымаму́.

**Мераць** (чыім, якім) **аршынам** (меркай). *Ацэньваць з чыйго-н. або якога-н. пункту погляду.* Я зна́ю, ду́мыіш, ні зна́ю, чыім ты аршыным меріш. Усігда жонкіным аршыным меріць, сам сабою ша́гу ня сту́піць. Бальшою

меркыю мерііця свайго зяця, ён трошку меншы. Ты ня слухый, што скáжыць, ты мерій другою меркыю. *Зак.* **Змерaць** (памерaць) (чыім, якім) **аршынам** (меркай). Ён зьмеріў стáрым аршыным, цяперя інычы глідзяць на ета дзела. Есьлі памеріііш Сьціпанькіным аршыным, то, глядзí, ашыбесься, лýччы сам вумом раськíнь. Ета што, есьлі зьмерілі Лаўренывыю меркыю, вы скажыця, як самі дýмыіця. Ён як памеріць Ганьніныю меркыю, тады скáжыць. *Працягл.-фінальн.* **Намерaць** (дамерaць) (чыім, якім) **аршынам** (меркай). Намерііць ён і стáрым і новым аршыным, як тэя пыцсытыняць, так і брязьніць. Намеріііш чужою меркыю, што будуць гываріць: свае гылавы ны плічáх німá. Так дамерііць свáцьціным аршыным, што пойдзіць калі, як грязьзю аппырскыный. Мікіцёнык дамеріў Анькіныю меркыю: ходзіць і хырчыць, што пыдвілá.

**Места** [сабе] **не нахадзіць** (не знахадзіць). *Вельмі моцна хвалявацца, турбавацца; вельмі балавацца.* Места ні находзіць, калі ношку травы ні прінясець, так шчыріць. Бýдзіць вам січас і толк, і пырядык, есьлі места ні находзіця. Як ні прішоў нучувáць, места сабе ні ныхадзíла: айдзе ён. Січас цішэй стаў, а гады трі таму ныза места сабе ні зныхадзíў. *Зак.* **Места** [сабе] **не найціць** (не знайціць). Места ні нáйдзіць, што Анька пышлá ў Зяціцу. Раншы быў хлапчына як хлапчына, ато места сабе ні найдзіць. Есьлі сам места сабе ні знайдзіць, мы паможым ісќáць.

**Мёртвым** (мярцвецкім) **сном.** *Вельмі моцна (спаць).* П'ець біспышчáдна, а тады ўжо звáліцца мёртвым сном, хуць с пýшкі стріляй — ні дабýдзісься. Мярцьвецкім сном прыспáў цэлый дзень і ноч і яшчэ пріхваціў рáньня.

**Між** (паміж, между) **двух агней.** *Пра небяспеку з двух бакоў.* Сьпірвá зыпылíў: я й так між двух агней, а посьлі сыгласíўся йціць. Так і жыў паміж двух агней: і пырцізáным нада паможч, і бойся, каб хто ні данёс немцым ці бургомістру. Ты сам знаіш, што я между двух агней.

**Між** (паміж, между) **молатам і накавальняй** (кувадлам), *кніжн. Пра небяспеку з двух бакоў.* Ніхай пабýдзіць у маёй шкýрі, ніхай пакýшыіць, як яно салодка між молытым і ныкывáльній. Ціхон пупáўся здорыва, між молытым і кувáдлым сядзіць, што мыш. Як пыкрасýіць па-

між молытым і накывальнію, ня будзіць еткій пы́рскій. Яны тама былі паміж молытым і кувадлым. Яму зысьнялі, што ачынецца между молытым і ныкывальній. Як ён церьпіць, сядзеўшы ў іх между молытым і кувадлыю.

**Між** (паміж, между) **небам і зямлёю.** *Без пэўнага прыпынку.* Нійдзе доўга ні пірімува́ўся, цяперь ён так, між небым і зямлёю. Канешня ж, ус́якыму ныдаесьць паміж небым і зямлёю буўта́цца. Вісíць между небым і зямлёю, можа куды зьедзіць.

**Мікалаеўскій рыштант,** *жарт. Вопытны, бывалы.* Зда́ліку ві́дна, што мікіла́іўскій рышта́нт чэшыць. Здароў быў, мікілаіўскій рыштант, як ты жывеш?

**Мілае дзела,** *часта іран. Вельмі прывабная рэч.* У тым канцы́ ў Мíдзькыўшчыні мíлыя дзела, луг за вы́гын, речка, усё прівольля і ціплёнку, і гусёнку, і сьвіньнёнку. Мілыя дзела вы́спыцца ў сені, як ну курорці пабу́дзіш.

**Міма рота не пранасіць,** *неадабр. Дбаць перш за ўсё пра сябе, пра ўласную выгаду.* Чаго там дужа гыварíць пры Аўсея, міма рота ні прынасíў і ён. **Міма рота пранасіць.** Глядзí, ён табе міма рота праносіць, будзіць пранесіна. *Зак.* **Міма рота не пранесць.** Красьць яны ня пойдуць, а калі што ў рукі пупадзецца, міма рота ні прыняс́уць. **Міма рота пранесць.** Ага, прынясець ён міма рота, ён глядзíць, каб і ў цябе з зубоў вы́рвыць.

**Міма рук іціць** (плысць). *Не рабіцца здабыткам, набыткам, уласнасцю.* Нічога іна ні глядзíць, ні за чым ня сочыць, усё як-то міма рук ідзець. Міма рук плувець, а яны худзь ба гля́нулі. *Зак.* **Міма рук прайціць** (праплысць, сплысць). Я сам ві́джу, што прайшло міма рук, нызад ужо ня верніцца. У яго міма рук ні пруплувець нічога. Сплувець міма рук, тады будзіш жалець сам. Рызівон нейкій, такоя дабро сплуло міма рук і як ні ды яго. *Пачын.* **Міма рук пайціць** (паплысць). У другíх ба ета ўсё було прібра́на, пріпу́чына, а ў іх пашло міма рук. Міма рук еткыя быгаства пуплуло, азылаціцца можна було.

**Міма рук не прапускаць,** *іран. Гарнуць усё да сябе пры выпадку.* Длі цябе ён харош, луччы некуды, а тулька міма рук нічога ні прупуска́іць. **Міма рук прапускаць.** Калі ён што міма рук прупускаў, скажы. *Зак.* **Міма рук**

**не прапусціць.** Ды ні сінца́, ні саломку, ні бу́льбычку — нічога міма рук ні прапу́сьціць. **Міма рук прапусціць.** Ня думыю я, каб яны што мі́ма сваіх рук прупусьцілі. *Гл.* М і м а р о т а н е п р а н а с і ц ь.

**Міма рук не прахадзіць** (не праплываць), *іран. Рабіцца* набыткам пры выпадку. Ні ташну́йця, ні ташнуйця, у вашыга Пецічкі нічога міма рук ні праходзіць. Сколька помню, дык нічога міма іхных рук ні пруплува́ла. *Зак.* **Міма рук не прайціць** (не праплысць). Калі ўжо на вока пупа́ла, то міма яго рук ня пройдзіць. Хочыш верь, хочыш не, ну міма яго рук ні пруплуло, ня тэй чылавек, каб упусьціць. Ні праплыў міма сва́тывых рук твой цэп, ён ні пазволіць, каб што выля́лыся біс хызя́іна.

**Міма цэлі.** *Безвынікова; безвыніковы.* Сашка пыняў ба, што і длі чаго, а Верычкі ўсё ета гыварі́ць міма цэлі. Намёк твой міма цэлі, свату луччы нымякні́ пра моркыўку.

**Мінута ў мінуту.** *Вельмі дакладна.* Зы намі ні прісыла́йця нікога, мы самі мінута ў мінуту пыдбягі́м. І твой карелый пріцягну́ўся мінута ў мінуту.

**Многа браць на сябе.** *Дапускаць празмернасці ў дзеяннях, учынках, выказваннях.* Ні нада столька браць ны сябе, ета ні пы тваёй ча́сьці. Многа бяреш ны сябе, можыш пыдырва́цца. *Зак.* **Многа ўзяць на сябе.** Многа яны ўзялі ны сябе, мы бязь іх абойдзімся, што нада, то й здзелыім.

**Многа вады ўцякло** (сплыло), *пр., буд. Пра здаўненасць.* Многа вады́ ўцякло с тых пор, як ета гыварі́лыся ды абішча́лыся. Ім каб толька пывадок найці́ць, а што тут многа вады сплуло, іх ні кыса́іцца. Пакуль ты наду́мыісься схадзі́ць, многа вады ўцякець. Зь ехыньнім пакуля рызгаворы, яшчэ многа вады сплувець да тога ехыць, самыя пікуны́ ны дваре.

**Многа** (доўга) **не надыхаць.** *Скора памерці.* Я па віду апрідзялі́ла, што многа ні нады́хыіць. Што яны стрыпыля́цца сь пірісяленьнім, яны доўга ні нады́шуць. **Многа** (доўга) **надыхаць.** Айдзе ён доўга нады́шыць, кылі чуць ногі пірістыўля́іць, у грудзя́х усё сіпі́ць і хріпі́ць. Ныўря́д, каб я доўга нады́хыла, балі́ць усё чы́ста.

**Многа думаць пра сябе,** *іран. Зазнавацца.* Вы многа ду́мыіця пры сябе, усё раўно як вы са́мыя разу́мныя на

сьвеці. За́муж як вы́скычыла, стала многа думыць пры сябе.

**Мокрая курыца,** *абраж. Бязвольны, падатлівы.* Гывары́лі, лімянтовый, лімянтовый, а ета мокрыя ку́ріца, слова ні прыгаворіць. Ходзіць мокрыю куріцыю, плечы апусьці́ўшы.

**Мора па калена** *(каму). Пра безразважную смеласць.* Дужа спужа́ўся ён, што нейкыя сла́ва пойдзіць, яму моря пы калена цяперь. Вы́п'іць, дык моря пы калена, хуць у вір гылавою гатоў. П'яныму моря пы калена.

**Мудрыкі на хітрыкі.** *Няўдалыя, раскрытыя хітраванні.* Ду́мыў, што яго ніхто ні раску́сіць, а тут му́дрікі на хітрікі выйшлі. Пупаду́цца твае мудрікі на хітрікі.

**Мухі дохнуць,** *іран.; цяп., пр. Надзвычай сумна.* Ат вашых рызгаворыў му́хі дохнуць. Мухі дохлі, як яны тама рассусолівыць узя́ліся. *Зак.* **Мухі падохнуць,** *буд., пр.* Тута мухі падохлі б слу́хыць вас. *Узмацн.* **Мухі надохнуцца,** *буд., пр.* Мухі надохнуцца, пакуля яны сваё жвя́нькыньня кончуць. А ну іх, зь іхнім трілю́джыньнім, аж мухі надохліся.

**Мухі** (камара) **не абідзець**. *Не прычыніць аніякай крыўды.* Ні ныгыва́рівыйцця пустога ны чылавека, ён мухі ні абі́дзіць. Гаўрік кымыра́ ні разу ні абі́дзіў, а ня то ён пойдзіць людзей тресьць. *Незак., адзінк.* **Мухі** (камара) **не абіжаць.** Зылатэй чылавек быў, мухі ніндзе ні абіжа́ў. Яны жылі й кымыра́ ні біжа́лі, а вам каб толька тріпану́ць.

**Мыліць галаву.** *Лаяць, прабіраць.* Узна́ла, што ён с Танькыю быў, як узіла́ся мы́ліць гылаву́! *Зак.* **Намыліць галаву.** Знаць, намы́лілі гылаву здорыва, красный як рак вы́скычыў аттуля. *Непаўн.* **Памыліць галаву.** Нада памы́ліць гылаву, каб за розум узя́ўся. *Узмацн.* **Атмыліць галаву.** Атмы́лілі гылаву дык атмы́лілі, зырку́цца і ў тэй бок глядзець пірістá нуць. І другому атмы́лілі гылаву, пашоў, ужо ў Надзькі жывець.

**Мыліць** (мяць) **шыю** (карак, загрывак), *іран. Зацята біць.* Ці адзін раз яму шы́ю мы́лілі, ён прівы́к ужо к етыму. Табе ж учора мылілі ка́рык, ай забы́ўся. Няўжэлі мала загрі́вык мылілі, што яшчэ ныпра́шыісься? Ці ета Коля мяў табе шыю, ці Васіль? Здорыва карык мялі,

ніхай пыхва́стыіцца. Каму вы, мне зьбіра́іціся мяць загрівык? *Зак.* **Намыліць** (намяць) **шыю** (карак, загрывак). Ён абіза́цільна пупадзець нам, намы́лім шыю. Як намы́люць карык, тады пыспыкайнеіць і за розум возьміцца. Мы яму намылілі загрівык, запомніць надоўга. Прішоў, як рузвуюва́ўся — ні пытхадзі́, а тэя вы́піхнулі, шыю нымя́лі і прыгна́лі. Ты пряма просісься, каб табе нымялі карык. Намну́ць загрівык, ня вы́вірнісься. *Непайн.* **Памыліць** (памяць) **шыю** (карак, загрывак). Памы́лілі шыю, і хва́брысць айдзе міну́лыся, зылаты́м хлопцым зьдзелыўся. Дажджэцца, што памы́люць карык за етыя яго ду́рікі. Памы́лілі загрівык за дзела. А можа ты рыска́жыш, за што вам шыю пымялі. Калі й памну́ць карык, ні зыдырма́, а стоіць, заслу́жына. Зь і́хніга боку тута нейкія ба́бы пріхадзі́лі, то рыска́зывылі, як загрі́вык ім пымя́лі. *Узмацн.* **Атмыліць** (атмяць) **шыю** (карак, загрывак). Яны асігнува́лі крепка шыю атмы́ліць етым бейбусым. Я б на іх месьці даўно табе карык атмыліў. Атмы́люць загрівык, зы я́блынкі, што пыкыпа́ў на і́хній кына́ві. *Працягл.-фінальн.* **Дамыліць** (дамяць) **шыю** (карак, загрывак). Дамы́люць шыю, самім як намылюць, дык атву́чуць. Рыскажы́-ка луччы, як вы там дамылілі карык піря́днінцым. Наскочуць ны свайго, так дамну́ць каму шыю, што зырaку́цца й зыка́юцца ныўсігда́. Ужо дымяў карык, нечыга рявець. Дымялі загрівык, большы лезьць ня хочуць.

**Мыльный пузыр,** *іран. Надзьмуты, заўсёды незадаволены.* Чаго ж ета мы́льный пузырь тэй наду́ўся? Ня троньця мыльный пузырь, ён ня ў ду́хі.

**Мыслімае дзела.** *Немагчымая падзея.* Мы́сьлімыя дзела пытпароць Сямёна к кыпцам пайці́ць. Мысьлімыя дзела мне аста́цца ў зіму́ біз ва́лінык.

**Мышыная вазня,** *неадабр. Дробязны, нікчэмны занятак.* Було тых трі кыцялкі́ яру́шкі, дык ці стоіць із-за етыга узьніма́ць мышы́ную вазьню́. Што там магло пыча́цца,— мышыныя вызьня́.

**Мядзвежый вугал.** *Глухое месца.* У іх такей мядзьвежый ву́гыл, што тру́дна найці́ць большыю глуш. Ай, тэя хутары́ былі мядзьвежый вугыл, зімою людзей пы нядзелі ня ві́дзілі.

**Мякіна** (атора) **ў галаве,** *абраж. Пра дурнаватага.* Што ты рысхва́лівыіш Андрея, у яго ўсігда была мякі́на

ў гылаве. Раз аторя ў гылаве, то й нечыга лезьць у рызгаворы.

**Мякка слаць,** *іран. Шмат абяцаць, але нічога не выконваць.* Толька іх паслу́хый, усігда дужа мя́кка сьцелюць. Мякка сьцеліць, ды жостка спаць. *Зак.* **Мякка паслаць** (падаслаць). Так рызрісу́іць ізыком, так мякка пасьцеліць, што луччы, кажыцца, ні піду́мыіш, жыві́, ды ні хачу́. Каму нада, ён мякка пацьсьцеліць, язык нізыба́рсывыный. *Узмацн.* **Мякка наслаць.** Усяго ныбішча́юць, мякка насьцелюць. Насьцелюць мякка, ды ня вы́сьпісься.

**Мякчэй паранай рэпы,** *іран. Надзвычай лагодны.* Як яму нада, дык ён мякчэй па́ріный репы, а ў яго што ўзяць — німа. Чаго б ета Коля стаў мякчэй па́ріныя репы?

**Мяняць быка на індыка.** *З дрэннага выбіраць горшае.* Прыдасі́ ты сваю, а што пупадзецца, ніізьвесна, дык нашто табе міняць бы́ка ны інды́ка. *Зак.* **Змяніць** (перамяніць, памяняць) **быка на індыка.** Нукупля́ў, нутургува́ў, зьмяні́ў быка ны індыка. Там ня мёд і тут тоя самыя, пірімяні́ў быка ны індыка. Пыміня́ў быка ны індыка, сам ка́іцца цяперь. *Працягл.-фінальн.* **Намяняць** (дамяняць) **быка на індыка.** Ныміня́іш быка ны індыка, што кініш ма́лых біс ка́плі мылыка́. Дыміня́ў бы́ка ны інды́ка, большы міняць нечыга.

**Мяняць гнеў на міласць,** *гумар.; кніжн. Пераставаць злавацца.* Міня́й ты ўжо гнеў на мі́лысьць, ніха́й ні скуліць і ні марочыць тут гылаву́. *Зак.* **Змяніць** (перамяніць, памяняць) **гнеў на міласць.** Ці зьмяніла твыя ніныгля́дныя гнеў на мі́лысьць ай у нямі́лысьці ходзіш? Пірімяні ўжо гнеў на мілысьць, яму ну душу́ абляхчэнія на́йдзіць. Нускулеўся, пакуля пыміня́лі гнеў на мілысьць. Пыміняла гнеў на мілысьць, цяперя саўсім рыссыба́чыўся,— яго нада було дзіржаць ды дзіржаць у руках.

**Мяняць шыла на мыла.** *З дрэннага выбіраць горшае ў дробязях.* Я ні стаў ба міня́ць шы́ла на мы́ла, і тут чупуха, і тут путнога нічога німа. *Зак.* **Змяніць** (перамяніць, памяняць) **шыла на мыла.** Ні палу́чыцца ж ніякыга толку, што ты зьменіш шыла на мыла. Торг твой — пірімяніць шыла на мыла, ці стоіла і ны бызар плесца. Што іна з розумым зьдзелыіць, пыміняла шыла на мыла

і толька таго. *Працягл.-фінальн.* **Намяняць** (дамяняць) **шыла на мыла.** Нымінѐіць шыла на мыла, сколька було скуліндры з гарода чаго, і тога ні стáніцца. Шыла на мыла дыміняў, троху було інструменту кой-якога, дык усяму даў ряд.

**Мясіць гразь.** *Ісці топкай, гразкай дарогай; працаваць у гразі.* Мясілі мы грязь, мясілі, паўзьлі, духі нашы ачэглі, хуць садзіся ў тванішчу і сядзі. Дзела дужа бальшога ні було, мясілі грязь троху. *Непайн.* **Памясіць гразь.** Ды вас дыбрáцца — нада хырашэнька грязь пымясіць. *Працягл.* **Намясіць гразь.** Нымясіў грязь за ету вясну: туды ды нызад пяшком пы два разы ў дзень. *Законч.* **Атмясіць гразь.** Большы, думыю, ніхто тут столька ні ныхадзіўся, сколька мы атмясілі грязь. У пылі дренна і тут, як атмесіш грязь, ня лýччы.

**Мяць бакі.** *Біць досыць адчувальна.* Мя́лі табе бакі ўсе, хто толька ні ляніўся, быяцца цябе ніхто ні быяўся. *Зак.* **Памяць** (намяць) **бакі.** Сьпірва ў Стахоўшчыні пымя́лі яму бакі — ні ўспакоіўся, тады пыдзь дзяреўнію дыбáвілі. Даўно сам просіцца, каб нымялі бакі. *Узмацн.* **Атмяць бакі.** Хырашо атмялі бакí, бýдзіць чýствывыць, як с ума схадзíць у чужой дзяреўні. *Працягл.-фінальн.* **Дамяць бакі.** Дымялі чужэя бакі, свае чэшуць, і ні так будуць чысáць, ежылі ня ўнімуцца.

**Мяшацца вумом.** *Вар'яцець, прам., перан.* Што ты дзелыіш, ці ты вумом мішáісься, у нідатоўчыныю бульбу ваду халодныю ліць? *Зак.* **Памяшацца вумом.** Пымішáлыся вумом і ўскорысьці памёрла, доўга ні жыла. Есьлі пымішáўся вумом, мы цябе нистáвім на пуць íсьцінный. *Працягл.-фінальн.* **Намяшацца вумом.** Праўчý дык праўчý, нымішáісься ты вумом, малю́тычка нісмышлёныя, дзяцініцца дужа прівык.

**Мяшаць** (змешываць) **з граззю,** *асудж. Прыніжаць, знеслаўляць, ганьбіць.* За нешта шчапіліся, дык пычылá мішáць Куліну з гря́зьзю, я й ня слýхыла. Як стáнуць адна адну зьмешывыць з грязьзю, век ба ня слухыў такога. *Зак.* **Змяшаць з граззю.** Толька зычапí чорта, зьмішáіць з грязьзю, што сваіх ба гуркоў вы́брыў і аддáў. *Узмацн.* **Памяшаць** (перамяшаць) **з граззю.** Пымішáла з грязьзю дзевык тых: нашто зь яе сы́ным скыкáлі,— во дурьё сядзíць у бáбі дык сядзíць! Каго хочыш пымішá-

іць з грязьзю, настолька халерныя баба. У мяне б іна скора апсеклыся, я б яе пірімішáў з грязьзю, я б ёй пыкызáў, атпáла б ахота, як харошый атпор пулучыла б.

**Мяшаць** (путаць) **карты,** *кніжн. Перашкаджаць у справах, блытаючы задумы.* Кажын раз Косьцік мішáіць кáрты, яму ні нырáвюцца вашы ухáжывыньні. Сьпірвá нам здорыва пýтылі карты, толька мы ні ацступіліся. *Зак.* **Змяшаць** (спутаць) **карты.** Каб ня ты, мы даўно паехылі б, а ты ўлез сы сваім ізыком і зьмішаў карты. Я ня проця, каб ты схадзіў, толька я баю́ся, што ты спýтыіш мне карты. *Узмацн.* **Памяшаць** (папутаць, перамяшаць, перапутаць) **карты.** Пымішáлі нам усе карты зь іх помышчу, луччы б ні зьвя́зывыліся. Раз узнáлі, то папýтыюць карты, так яны етыга ня ўпýсьцюць. Ты нам карты можыш пірімішáць, яны зразу дыгыдáюцца, куды ты пашоў. Ідзі, скажы́: пісьмо Яшка прісла́ў — едзіць, пірімішáй ім карты. Усё дзела було ны мазí, а ён пацсýнуўся: січас угыварю́,— і піряпýтыў карты. *Працягл.-фінальн.* **Намяшаць** (напутаць, дамяшаць, дапутаць) **карты.** Кулáга с цэльлю так нымішáў вам карты, а ўсё з-зы таго, што вы рызівоны. Каму ён хочыць напýтыць карты, етый номір у яго ня пройдзіць. Дымішáў карты, сымамý так нымішáлі, што ні рызьдзяўбецца, айдзе канцы́ якея найціць. Ніхай ня думыіць, што ета ўсё шýтычкі, дапýтыіць ён мне карты. Ці ты помніш, як Ціхон дапутыў нам карты: гогылім трі дні хадзіў, а посьлі апусьціў кры́льля як мокрыя кýріца.

**Наабум Лазара,** *неадабр. Не падумаўшы, не ўзважыўшы.* Ці стоіць іціць ныабум Лáзыря, пні — ета быльшая ця́жба, нада буйтувáцца ды буйтувацца. Ня едзь ныабум Лазыря, ато пріедзіш туды репку пець.

**На авось.** *З разлікам на шчаслівую выпадковасць.* Махнём ны авось, абішчáлі дзеўкі, што можа й будзіць вечыр. Ны авось іціць нечыга, нада пра ўсё толкым рыспытáць.

**На адзінаццатым номеры,** *жарт. Пехатой.* Пріехылі ны адзíныццытым номірі. Канешня ж, паедзіць: ны адзіныццытым номірі.

**На адзін зуб,** *гумар. Вельмі мала.* Во хвалíлыся, ныгатовіла, яны пріішлі посьлі стога, селі, дык ім було ны

адзін зуб, ня елі ні пробывылі. Твойго мяса яму ны адзін зуб.

**На адзін капыл,** *неадабр., іран. Аднолькавыя, вельмі падобныя па якасцях.* Ны адзін капы́л няўрёмы, нічога ня зьдзелыюць як нада, куды іхныя бацькі глядзелі, чаго ні прівуча́лі ні к чаму́. Усе яны там ны адзін капыл.

**На** [адзін] **нохаць.** *Мала, крышку.* Қылі й падрос, ны адзін нохыць, нізаметна дайжа. Пыдай упярёд ны адзін нохыць. Цісані на нохыць і залезіць. Удваіх упёрліся, зы́былі, зыбылі, ні на нохыць ні пывярну́лі.

**На адзін нюх,** *жарт. Надзвычай мала (звыч. пра яду, пітво).* Було тога сала ны адзін нюх. Ны адзін нюх прінісла́ я́гыд, толька пыкыза́ць, пыдражніцца.

**На** [адзін] **шаг.** *Вельмі блізка, побач.* Ны адзін шаг улева атыйшоў і грібоў хуць касі. Ны адзін шаг збоч і шчыплі́ міха́мі. Ны шаг нікуды ні атойдзіць, тарчы́ць і тарчыць тут. *Гл.* А д з і н ш а г.

**На адной наге.** 1. *Вельмі шпарка, хутка.* Ны адной наге бягі, каб ціріс пуўчыса́ вярну́ўся. Толька скажы, ны адной наге ацскочыць. 2. *Роўны (з кім).* Сь первымі бычы́ча́мі ны адной наге стыяў. Ны адной наге с Пуўлючонкымі шчыта́ў сябе.

**На** [адну] **каплю** (капельку). *Крышку, крышачку.* Қаб ны ка́плю ў бок, дык ба й шу́хнуў разым са стольлю. Ны каплю падрос, пасьці нізаметна. Ны ка́пільку адзьдзьві́нься правей, чуць-чуць. Ны адну каплю туўстува́та і ні заходзіць, прі́дзіцца выніма́ць, цісану́ць нада. Ны адну б ка́пільку сюда — і пряма наскрозь ба прабі́ў.

**На адно ліцо.** *Вельмі падобныя знешне.* Яны абея неік ны адно ліцо, я ні ўсігда́ і пызнаю́, іка́я каторыя. Нада ж каб так дваю́рыдныя зыда́ліся ны адно ліцо.

**На адну калодку,** *неадабр., іран. Аднолькавыя, вельмі падобныя па якасцях.* Ны адну калодку як мама, так і дычка́. Усе ны адну калодку, адзін другога ні піравесюць. *Гл.* Н а а д з і н к а п ы л.

**На адным месце.** *Нерухома, нязручна.* Мае дзялы ны адным месьці. Як узышоў авёс, так і сядзіць крі́цыю ны адным месьці, ніскалька ні расьцець. Спраўкі здаў, ну як зыстря́ла, так і січас усё ны адным месьці.

**На арапа,** *неадабр. Нахрапам, нахабна.* Ён думыў, што і тут ны ара́па можна ўзяць. З намі ны арапа ні быріся і глотку ні рыспысьцірáй, ня вы́йдзіць.

**На арэхі** (баранкі, бараньki). *Пагроза пакараць.* Ты пасьледнія ўремя пряма лучáў сам, каб пулучы́ць ны арехі. Даюць ім усюдых ны арехі, айдзе ні пацсу́нуцца. Схваціў ны бырáнкі і маўчы, пакуля ні дыбáвілі. Січас вам яшчэ атвесюць ны быранкі. Вы хацелі ны бырáнькі, а раз хто хочыць, чаму ж яго ні зыдаволіць.

**На бакавую,** *гумар. Спаць.* Пырá, знаць, ны быкаву́ю, ці ня первый час. Пойдзім-ка ны быкавую, нешта ўжо ця́гніць пыліжáць.

**На баку.** *У іншым месцы.* Чаго яму тут цягну́цца, ён і ны баку́ заробіць, сколька нада. Тут ім толька прічэльля, а глáўныя дзела ны баку.

**На бальшой,** *звыч. іран.* 1. *Выдатны, выключны.* Ён пірімяні́ўся, стаў ны бальшой, ні крічы ны яго. Прі нас коні былі ны бальшой, чаго там гываріць. 2. *Выдатна, выключна.* У цябе ўсё вы́йшла ны бальшой, пряма зулюбувáцца. Ты ўсё пычынáіш дзелыць ны бальшой, толька пулучáіцца ны мáлінькій.

**На белым свеце.** *На зямлі наогул.* Ці чула ты, сястріца, што цяперя айдзе дзелыіцца на белым сьвеці. На белым сьвеці ўся́кыя буваіць, на то жы́зьня.

**Набіваць аскому** (скому, аскоміну). *Надакучаць, рабіцца непрыемным.* Сьпірвá усім було аньціресна, слу́хылі, сьміялліся, а посьлі ўсё ета стала ныбівáць аскому. Табе ўсё ныбівáіць скому. Шу́тычкі яго пычынáюць ныбівáць скому. Аскоміну ныбівáіць іх тріпытня́. *Зак.* **Набіць аскому** (скому, аскоміну). Так ён набіў Жэнькі аскому, што глядзець ны яго ня хочыць. І етый скора наб'ець скому, пы сабе іна яшчэ ні пыдыбрáла. Набіў скому, большы ня пойдзіць. Ды чаго ж яе лыпытня́ набíла аскоміну! *Узмацн.* **Панабіваць** (панабіць) **аскому** (скому, аскоміну). За тую нядзелю пыныбівáлі аскому. Яны быйстра пыныбіваюць скому і астынуць. Пыныбівáлі аскоміну, што ня то што слу́хыць, а й так глядзець праціўна. Пынабілі аскому, атахоціліся ад гулю́шык. Етыя скора пынаб'юць скому, яны дужа ніцірьпялíвыя. Няўжэлі зы такоя ўремя яшчэ ні пынабілі аскоміну?

**Набіваць галаву.** *Загрувашчваць памяць непатрэбным, другарадным.* Я табе, мой браток, во што скажу: каб меншы ныбіва́ў гылаву́ такою лухтою, дык яно б скарей пы-чылавечыскі жызьня пышла. *Зак.* **Набіць галаву.** Ніхай ба чым пу́тнім набіў гылаву, а так, што слова добрыга ня стоіць — усім. *Узмацн.* **Панабіваць** (панабіць) **галаву.** Пыныбіва́ў гылаву, пыныбіваў, сам сябе паўверіў і места сабе ні находзіць. Нечым жа пынабілі сабе голывы, нясу́ць мох з балота.

**Набіваць карман,** *неадабр. Нажывацца несумленным шляхам.* Толька пыста́вілі, сь первыга дня ўзяўся ныбіва́ць кырма́н, жа́днысьць заела. *Зак.* **Набіць карман.** Сьпіцыяліст набіць кырма́н, другога такога пыіска́ць ды пыіскаць. *Узмацн.* **Панабіваць** (панабіць) **карман.** Усяго грібану́лі, пыныбіва́лі кырма́ны, цяперя цёплінька сідзяць. Пынаб'юць кырман, ні пысьцісьня́юцца і ні пыглідзя́ць ні на кога.

**Набіваць машну,** *неадабр.; кніжн. Нажывацца несумленным шляхам.* Быў папробывыў ныбіва́ць машну, ды відзіць, што ня тоя, пу руках палу́чыць. *Зак.* **Набіць машну.** І ў нас пыря́дкым набіў машну́, і та́мыцька дыба́віў. *Узмацн.* **Панабіваць** (панабіць) **машну.** Ого як пыныбіва́лі машну, воля была́, што хацелі, то й тварілі. Да, канешня, пынабілі машну́,— пыдвязло так, нічога ні ска́жыш.

**Набіваць пуза** (бруха, трабух), *груб. Есці вельмі многа.* Ныбіва́й пу́за, чаго лу́пыіш. Як узяўся ныбіва́ць брю́ха, зь ім чорт ні спра́віцца. Абы-чым ныбіваць трябух ня хочыць, глядзіць, каб смашней пыднясьлі. *Зак.* **Набіць пуза** (бруха, трабух). Бру́квыю набіў пуза, ходзіць — ня спы́шыцца. Наб'ець брюха чым зря, нічога ні рызьбіра́іць, што зьесьць. Набіў трябу́х як бырыба́н, толька пыгла́джыіць. *Узмацн.* **Панабіваць** (панабіць) **пуза** (бруха, трабух). Пыныбіва́лі пуза, чуць прады́хыюць. Ні глідзя́ць, ні пірібіра́юць, пыныбіва́юць брю́хі, чым пупаду́ць. Пуза толька пынабіць, большы іх нічога ні аньцірісу́іць. Каб толька брюха пынабіць, а тады зыва́люцца, су́дкі будуць хропсьць. Етыя ні прапу́сьцюць, трябух пынаб'юць.

**Набіваць руку.** *Набываць навыкі, вопыт.* Лі Зьмітрыка стаў патроху ныбіва́ць руку. *Зак.* **Набіць руку.** Раншы нічога ня ўмеў, а то ла́дна руку́ набі́ў, боты нічога пулу-

ча́юцца. *Узмацн.* **Панабіваць** (панабіць) **руку.** Пыныбіва́лі руку, і плотнічыюць, і стыля́рнічыюць нічога, дажа па бондырству троху сту́кыюць. За етыя гады пынабілі руку, нічога плотнічыюць.

**Набіваць у галаву.** *Запамінаць непатрэбнае.* Ні нада ўсяго ўся́кыга ныбіва́ць у гылаву́. *Зак.* **Набіць у галаву.** Набіў у гылаву таго, што ні нада, луччы вун урок глядзі́, што ў школі бу́дзіш рыска́зывыць. *Узмацн.* **Панабіваць** (панабіць) **у галаву.** Пыныбіва́лі ў гылаву, што пупа́ла, і самі цяперіцька пыча́лі веріць. Нада ж пынабіць у гылаву такога, ета я каб год думыў, дык ні приду́мыў ба. *Гл.* Н а б і в а ц ь г а л а в у.

**Набіваць цану.** *Узвышаць, паказваць у выгодным святле.* Як рысхва́стыўся, як рысхвалі́ўся, як атносюцца к яму, як яго увыжа́юць, усё ныбіва́іць сабе цану́: глядзі́ця, мол я. *Зак.* **Набіць цану.** Пуздря́к, пуздря́к, а глядзі́, як набіў сабе цану. *Узмацн.* **Панабіваць** (панабіць) **цану**. Пыныбіва́лі сваі́м цану: пряма ня дзеўкі, а кыралеўны. Пыныбівалі сабе цану, усё дно як нейкія пыня́ты, німаведыма якея. Ты посьлі пыдзіку́ісься, як етыя пынаб'юць сабе цану.

**Набірацца вума** (розуму, вума-розуму). *Разумнець.* Усё як нейкыя мылахольныя, калі ўжо іна хуць трошку ста́ніць вума́ ныбірацца. Ці ныбіра́ісься патрошку розуму, ці ўсё ходзіш як летышній сьнег пыціря́ўшы. Даўно нада ныбірацца вума-розуму, жыць — ну другіх рыўня́цца. *Зак.* **Набрацца вума** (розуму, вума-розуму). Ні ныбра́ўся вума з мыладосьці, то пыц ста́рысьць ні ныхвыта́ісься. На ету дурь ныбра́ўся розуму, а на што чылавечыскыя дык не. А ім було ат каго ныбра́цца вума-розуму. *Узмацн.* **Панабірацца** (панабрацца) **вума** (розуму, вума-розуму). Пышыла́ліся па сьвету, дык пыныбіра́ліся вума. Ніхай паходзюць, хуць розуму пыныбіра́юцца, ня то што сядзець тут. Можа калі й пыныбіра́юцца вума-розуму, толька нешта ня веріцца. Хвалі́лыся, што дужа пыныбраліся вума адзь дзядзькі,— якей там ужо дзядзька. Калі свайго бог ні даў, то жджы, яны табе пыныбяру́цца розуму. Пыра б ужо вума-розуму пыныбрацца за столька ўремя.

**Набірацца духу** (храбрасці). *Пераадольваць пачуццё страху, няўпэўненасці.* Ныбіра́йся духу, ціряз Чортыва

балота пойдзім. Чаго яны ня йдуць, ці хрáбрысьці ныбіраюцца. *Зак.* **Набрацца духу** (храбрасці). Ныбярýся якнебудзь духу, усё ім вы́кыжу, што дýмыюць пра іх людзі. Каб ты ныбрáўся храбрысьці к маёй цёшчы схадзíць. *Узмацн.* **Панабірацца духу** (храбрасці). Во-о як вы пыныбірáліся духу, вам цяперя ніхто ні стрáшын. Пыныбіраюцца храбрысьці з Валодзькыю, ух будуць сьмільчакí.

**Набірацца сілы,** *звыч. жарт. Мацнець, дужэць фізічна.* Скора свáдзьба, ныбірáйся сілы. *Зак.* **Набрацца сілы.** Ліксáндыр ныбраўся сілы, рузгудуваўся, хуць зыпрігáй у калёсы, дык пыцягніць. *Узмацн.* **Панабірацца** (панабрацца) **сілы.** Сілы зы зіму пыныбірáліся, атлежылі. Цяперь вам нада пыныбрáцца сілы, ны вас усе бýдуць глядзець.

**Набіраць вады ў рот.** *Маўчаць вельмі ўпарта.* Нечыга ныбірáць вады ў рот, язык прікýсывыць, нада було раншы дýмыць, што й як гываріць.

**Набіраць высату,** *звыч. жарт. Мацнець духоўна, расці, рухацца наперад.* Крута ныбірáіць высатý: сваіх дзевык не, зразу г гырадзкíм. Мой мілёнык тоньк, гоньк, ныбірáіць высату. *Зак.* **Набраць высату.** Ух ты, ныбралі высату, глядзі, каб гарелычка ўніз ні абырвáла. *Узмацн.* **Панабіраць высату.** Высату пыныбірáлі, як царі, ды садзíцца прішлося ў лужу.

**Набіраць разгон,** *звыч. жарт. Пачынаць дзейнічаць больш імкліва, упэўнена.* Лёнік пычынáіць ныбірáць дужа быйстрый разгон, ці надоўга ў яго дýху хвáціць. *Зак.* **Набраць разгон.** Разгон-то ныбрáў, толька чужымі срідствáмі, сваё прідбáць падленівыіцца. *Узмацн.* **Панабіраць разгон.** Пыныбірáлі разгон вун якей, ну ладна, ніхай толька дзіржáцца.

**Набіраць сілу,** *звыч. жарт. Паступова мацнець фізічна або духоўна, абжывацца.* Во гываріліі, зумухры́шка, зумухрышка, вíдзіш, як стаў ныбірáць сілу. Ныбірáіць, ныбіраіць сілу, ды хату пріпуцíць ніяк ні сыбярецца. *Зак.* **Набраць сілу.** Зы пасьледнія гады ныбраў сілу, апстроíўся, жывець дужа крепка. *Узмацн.* **Панабіраць** (панабраць) **сілу.** Пыныбірáлі лабрэты сілу, чаго ж ім, змáлку зугудувáныя. Цяперя калхозы пыныбрáлі сілу,

быга́тыя сталі, і пулуча́юць, хто работыіць, няплоха. *Гл.* Набірацца сілы.

**Набіраць у галаву.** *Шмат думаць, глыбока задумвацца.* Ты меншы ныбіра́й у гылаву́, сыма́ сябе рызва́ж, рузуверь, жывуць і ні с такою бядою. *Зак.* **Набраць у галаву.** Як ныбяру́ калі ў гылаву, ажно жа́рысьцы пыдыма́іцца і так мля́ўка-мляўка дзелыіцца. *Узмацн.* **Панабіраць** (панабраць) **у галаву.** Нашто ж яны так пыныбіра́лі ў гылаву, нада ж самі́х сябе рузувіря́ць патроху і рызвыжа́ць. Пыныбра́лі сабе ў гылаву, сідзяць і ташну́юць: як цяперіцька жыць і куды кінуцца. *Гл.* Браць сабе ў галаву.

**На брата.** *На кожнага ўдзельніка ў сярэднім.* Зарабілі мы тады ны бра́та ны ста́рыя грошы па семсот рублей. Есьлі выйдзіць ны брата пы мяшку́, дык і ла́дна.

**На быліначку** (былінку). *Надзвычай, да крайнасці (схуднець).* Ай-я-яй, што ж ета зь ёю ста́ла, вы́сыхла ны былі́нычку, чар тэй што чылавек. Нешта нідылігаіць ны сярёдку каторый год, ссохла ны былінку, чуць ча́пыіць.

**На бычыный хвост,** *неадабр. Вельмі моцна ў клопатах (схуднець).* Усё хвытаў, насіў, ні дня яму ні ночы ні було, вы́пітріў ны бычы́ный хвост. Вы́бігыўся, вы́сых ны бычыный хвост, а ўсё яму ніяк ні хвытаіць, усё мала.

**Навадзіць** (кідаць) **цень на пляцень** (ясный дзень), *неадабр. Праднамерана заблытваць справу; хлусіць з правакацыйнымі мэтамі.* Усё ясьней я́сныга, дык узноў пычаў нывадзі́ць цень ны пляцень. Пірістань, нечыга нывадзіць цень ны ясный дзень, мы цябе даўно рускусі́лі. У яго даўно прівы́чка тыкая — кі́дыць цень ны пляцень. Пыча́ў кіда́ць цень ны пляцень, зу дурачкоў усіх шчыта́іць. Есьлі толька ні пірістаніць кі́дыць цень ны ясный дзень с тымі я́блыкымі, я яго жыва прыздра́ўлю. *Зак.* **Навесць** (кінуць) **цень на пляцень** (ясный дзень). Ты сабе тут як хочыш, верь ці ня верь, а толька ета Сыўчанок навёў цень ны пляцень. Канешня, яны нывялі́ цень ны ясный дзень, нарошня скыза́лі ны чылавека, каб аць сябе атвесьць. Хацелі кінуць цень ны пляцень, ды іх зразу рускусі́лі, хто яны такея. І ўзноў ён кінуў цень ны ясный дзень. *Узмацн.* **Панавадзіць** (панавесць) **цень на пляцень** (ясный дзень). Мы знаім, зь якою вы цэльлю пынывадзі́лі цень ны пляцень. Умеюць пынывадзіць цень

ны ясный дзень, учыць ні нада. Так пынывядýць цень ны пляцень, што будзь ты сь сямю галовымі, і то ні рускулупáісься. Нарошня пынывялі цень ны ясный дзень, тольна ж каго яны зутумáніць хочуць. *Працягл.-фінальн.* **Дакідаць цень на пляцень** (ясный дзень). Я чуствыю, што ён дыкідáіць цень ны пляцень. Дакíдыў цень ны ясный дзень, сымамý як кінулі, дык ні знаіць, куды кінуцца, айдзе толку йскаць. *Парайн.* Кідаць цень.

**На валасок** (валасінку, волас). 1. *Вельмі блізка, жахліва.* Рыскáзывыў, што ў разныя пірядзелкі пупыдáў, ні раз ны выласок аць сьмерці хадзіў. Ны выласінку ат мяне жых, у мяне і ў вычах пыцямнела. Каб на волыс правей — і гамон ба. 2. *Ледзь-ледзь.* Ны выласок падзьвінь упярёд, і ляжыць як тут была ета палка. Дай ны выласінку убок і хвáціць. На волыс пыдай і лáдна.

**На вачах.** *Прыкметна; пад прыглядам: адкрыта, не таячыся.* А чаго яму тарчэць ны вычáх, пашоў вун ды лёг, хуць вы́сьпіцца. Дзеці нада каб усігда ны вычах былí. Ны нашых вычáх уся куцірьмá зывáрівылыся. Нічога і нікога ні баіцца, ны вычах усё зьдзелыў.

**На векі вякоў** (вечныя). *Назаўсёды.* На векі вякоў запомню яго вы́хыдкі. Будзь ты прокліт на векі вякоў. Строіліся на векі вечныя: кажный штындáрчык апсмалíлі, кажныя бірнушко абглáдзілі, асаду пыдыгнáлі — кымáр носу ні пацсýніць. Ты будзіш мíлыя на векі вешныя.

**На вес золата.** *Вельмі дорага.* Во, у вас і квасоля ўжо на вес золыта. Бувáіць другей раз і гвозьдзік на вес золыта, як яго німа пад рукі.

**На відах** (відках). *Адкрыта, на відавоку, перад вачамі.* Што ж тут аткáзывыцца, усё було ны відáх. Яны ні быяліся, ны відках тварíлі ета ўсё.

**На вока** (глазок). *Прыблізна, прыкладна, па знешніх прыкметах.* Айдзе тут будзіш вáжыць, на вока апрідзялíлі, мы зы кáжный хунт ня будзім цягнýцца. Прікíнім на вока і лáдна, пуд туды, пуд сюды. Ны глазок тут ня вы́йдзіць, нада вы́міріць акурáтнінька, каб точка ў точку було.

**На вуха** (вушка). *Таемна, па сакрэту.* На вуха шыпарнець і пойдзіць, а вы грызíціся цірізь яе. Дужа лю-

біць, каб на вýшка, усё на вушка, зьвядзець хахлы́. На вушка пашэпчуцца і гатовы, свайство ж куды там.

**На выстрал.** *На адлегласць бачнасці (не падыходзіць, не дазваляць з'яўляцца).* Ты цяперя к маёй хаці на вы́стріл ні пытхадзі. Мы яго большы на выстріл сюда ні патпу́сьцім. Так і пірідáй, каб дайжа на выстріл блізка ні іўля́ўся.

**На вяроўке** (аркане) **не прыцягнуць** (не зацягнуць). *Пра немагчымасць прымусіць зайсці, сустрэцца.* Посьлі Каўшова іх сюда ны вярёўкі ні пріця́гніш. Колю к ім ны вярёўкых ні пріцягну́ў ба. Знаюць, што надзелылі, ны вярёўкі іх ні зыця́гніш. Ня йдзі і ні прасі́, ты яго ні пріцягніш і ны аркані. Ны аркáні ні зыця́гніш, так стыдзі́цца. **На вяроўке** (аркане) **прыцягнуць** (зацягнуць). Вы іх паспробыйця ны вярёўкі пріцягну́ць. Зыця́гніця вы яго ны вярёўкі, кылі ён ду́ху вашыга баі́цца. Ны аркáні пріцягнуць нільзя, а ня то самі явюцца. Разьві што ны аркані зыцягну́ць, а так ня прі́дуць.

**На вяроўке** (аркане) **цягнуць.** *Настойліва запрашаць.* Дужа любіць, каб яго ны вярёўкі цягну́лі. Нашто іх ны вярёўкых цягнуць, ня хочуць — ніхай ня едуць. Упрáшывылі, угывáрівылі, пряма ны аркані цягнулі,— лáдныя госьці.

**Нага не ступала.** *Пра нязведанае месца.* Тыкáя глуш, тыкая глуш, тут, верна, нічыя ныга ні ступáла. Мне пріхадзі́лыся быць, айдзе чылавечыскыя ныга ні ступала. Айдзе там хто пройдзіць, там ішчэ ні разу ныга ні ступала.

**Нагі** (запятка, мезенца) **не варт** (не стоіць). *Пра выключную нікчэмнасць.* Што ён прістаець к Танькі, ён Танькіныя нагі ні варт. Ты ці ліскачы́ ізыком, ці ні ліскачы, а што Мархвіныя нагі ня стоіш, ета тожа прáўда. Ніхай іна сколька хочыць мяне гу́ніць-разгу́ніць, іна майго зыпя́тка ні варта. Есьлі ўжо ён зыпятка чыйго ня стоіць, затоя вы дужа многа стоіця. Ты і́хныга мезінца ні варт, а такую лухту́ нясеш. Ні разу ён Аксюціныга мезінца ня стоіў. **Нагі** (запятка, мезенца) **варт** (стоіць), *адзінк.* Чые нагі ён варт, скажы ты мне, калі яго зы чылавека хуць хто-небудзь вёў. Разьві стоіш ты яе нагі, іна ж дзеўка — за ўсю дзяреўню дзеўка, а ты гультай і с пароды гультайскый. А, хвалі ты, зыпя́тка ён варт і ні

зыпятка. Ці стоюць яны ўсе разым зыпятка Максімывыга. Самый пасьледній у дзяреўні, мезінца ён чыйго стоіць, путнэй чылавек зь ім дайжа гываріць ні захочыць.

**Нагі не было,** *пр., буд. Пра цвёрдае нежаданне наведваць наогул або пра рашучую забарону наведвацца ў будучым.* Нагі нашыя пяць гадоў у вас ні було і ні разу ні пайдзём. Каб твае нагі там ні було! Большы мае нагі ў вас ня будзіць. Дужа зупужа́іш нас, што іхнія нагі тут ня бу́дзіць.

**На голае калена.** *Нагала.* Апчыкры́жыў свайго на голыя калена: ні пріглідáіць як нáда, ніхай. Як зьдзелыюць вас на голыя калена пат первый номір, толька блішчэць бу́дзіця.

**На голую косць.** *Празмерна (схуднець).* Вы́сых на голыю косьць — чуць пы зямле ходзіць, а ўсё дуры: кідыўся ў ваду рыспацеўшы, прасты́ў і ча́тніць.

**Нада вочы пацяраць.** *Пра выключную бессаромнасць, нахабства.* Нада вочы пыціря́ць, каб к Максімывым пайціць піць. Вочы пыціря́ць нада прасíць ны гарелку трыя́к.

**На дароге** (пад нагамі) **не валяцца** (не ляжаць). *Не прыходзіць, не давацца без працы, намаганняў.* Кусок хлеба ны дарогі ні выля́іцца, сілу нада пріклáсьць вы ўся́кім дзелі, ды ні абы-якую сілу. Нам нічога ны дарогі ні ліжáла — ідзі, пыднімáй, усё сваім гарбом зырыбáтывылі. У нас — ня ў тых, што рядым зь лесым жывуць, тут кáжныя палка дорыга, пыд ныгамі ні выля́іцца. У вас канешня усяго чыста хвытáіць, а ў нас нічога пыд ныгамі ні ляжыць. **На дароге** (пад нагамі) **валяцца** (ляжаць). А ці ў нас грошы ны дарогі выля́юцца? Каб жа мука ны дарогі ліжáла — пашоў ды нагрёб, ато над ёю путрудзíцца нада. А-а, каб ета пыд ныгамі выля́лыся, пашоў ды бярі. Па-твойму, дык у нас пылатно пыд ныгамі ляжыць.

**На дарогу.** 1. *Для карыстання ў дарозе.* Вазьміціка ны дарогу лішній кусочык, зьясьцё. Ныклáлі яму, нылажы́лі ны дарогу і яблык, і йгруш, і яец, дзьвюх куріц зарезылі. 2. *Перад дарогай, паездкай.* Дывáйця вы́пім ны дарогу, каб яно ўсё хырашо було.

**На два** (тры) **словы.** *Для кароткай размовы.* Як пойдзіць ны два словы, дык будуць пыўдня тріл́юдзіцца.

Пызва́ў нешта на трі словы, шушу́кыюцца ў сенцых. Ідзі, завець на трі словы, пры парні́сьцікі рыска́жыць.

**На дзіва** (здзіўленне, удзіўленіе). *Вельмі, аж да нечаканасці.* Зімля́ пасьці́ пуста́я, удабренія трошку трухнулі, а ячмень уда́ўся на дзіва. Пряма ны зьдзіўленьня спра́вілі хрісьці́ны. Ны ўдзіўленія тут расьцець усё, што ні пасеіш.

**Надзяваць** (уздзяваць) **аброць.** *Брацць у поўнае падпарадкаванне.* Есьлі сваім вумом ні жывець, ныдзіва́й аброць і пыгыня́й. Сыбіра́юцца узьдзіва́ць аброць. *Зак.* **Надзець** (уздзець) **аброць.** Што, і ны цябе надзелі аброць, дый крепка зыцягну́лі, ня вы́рьвісься? Ня вы́круціўся, узьдзелі аброць, цяперя доўга пыгыня́ць будуць. *Множн.* **Панадзяваць аброці.** Яны ўмеюць пыныдзіва́ць аброці, дужа патходлівыя, а як усься́дуць, тады дзяржы́сь.

**Надзяваць** (уздзяваць, вешаць) **хамут** (пятлю) **на шыю.** *Брацць у поўнае падпарадкаванне, усяляк папіхаць.* Ні знаю, як бу́дзіць, ну мы табе дужа ні саветыім ныдзіва́ць хаму́т на шыю з Ма́шычкінымі дзіця́мі. Ныдзяюць яму пятлю на шыю, а ён і пыцстыўля́іць гылаву. Вешыіця сабе хамут на шыю, ны якога радзі́мца вам зьвя́зывыцца ш чырця́мі. Вешыюць ім пятлю на шыю, ну калі муўча́ць, ніхай муўчаць. *Зак.* **Надзець** (уздзець, павесіць) **хамут** (пятлю) **на шыю.** Як надзенуць хамут на шыю, тады папры́гыіця. Етый доўга цырімоніцца ня будзіць, жыва надзеніць пятлю на шыю. Гылаву́ нядоўга пыцста́віць, каб узьдзелі хамут на шыю. Раз узьдзеў пятлю на шыю, то няскора вы́рьвісься. Яму павесюць хамут на шыю, і бу́дзіць муўча́ць, слова ні прыгаворіць. Ён цябе ня вы́пусьціць сы сваіх лап, павесіць пятлю на шыю. *Множн.* **Панадзяваць хамуты** (петлі) **на шыю.** У адзін шчот пыныдзіва́юць ім хумуты́ на шыю, і будуць ціга́ць, што мі́лінькія. Насі́ліся зь імі, угыжда́лі, а тэя пыныдзіва́лі ім петлі на шыю.

**Надзяваць** (уздзяваць) **ярмо на шыю.** *Брацць або трапляць у поўнае падпарадкаванне, поўнасцю занявольваць.* Калі яму ныра́віцца, ніхай ныдзяець ярмо на шыю, ня мне цягну́ць, яму. Ахота ўзьдзіва́ць еткыя ярмо на шыю. *Зак.* **Надзець** (уздзець) **ярмо на шыю.** Раз ярмо на шыю надзелі, то ўжо ні шыла́хыйся, будуць да

гроба езьдзіць. Ну, пыцста́віўся, узьдзелі ярмо на шыю, зыпряглі́.

**На дне,** *запаз. На апошняй ступені грамадскага жыцця.* Каб якей прігля́д быў, дык ба дзіржа́ўся, а тэя ні глядзелі, так і акыза́ўся на дне. І другей ужо на дне, адзін за дны́м пашлі́.

**На добрае.** *Для станоўчага зыходу, вырашэння.* Каб на добрыя, можна паможч було б, дык ці зь імі пы-харошыму што вы́йдзіць. Можа ж калі пойдзіць і на добрыя.

**Надуваць** (адстаўляць) **лыч,** *абразл. Вельмі крыўдзіцца.* Вы б луччы пыглядзелі на Жэньку, як нудува́іць лыч, кылі яму што ні так скажыш. Ён скора ацстыўля́іць лыч, у абі́ду кіда́іцца. *Зак.* **Надуць** (адставіць) **лыч.** Так наду́лі лыч, што ні пуцтупа́йся, а за што надулі, разьві я ніпра́ўду скызала. Лыч ацставі́ў, толька зарю́хыць аста́лыся. *Множн.* **Панадуваць** (паадстаўляць, паадставіць) **лычы.** А я, ду́мыіш, знаю, чаго яны пунудува́лі лычы. Дужа ніпатходлівыя людзі, зы са́мыю мелыч усігда пыцстыўля́юць лычы і ходзюць, як індыкі. Пыцставілі лычы, ня тронь ты іх, ні шылахні́ся збоку. *Працягл.-фінальн.* **Наадстаўляць** (даадстаўляць) **лыч.** Са мною ты жыва лыч ныцстыўляіш, буду я і ўгыжда́ць, і ня́нчыцца, як з малю́тычкыю. Ныцстыўля́іця лыч, пымякчэіця тут ніўзыба́ві. Дыцстыўляіць лыч, што палучыць ласку, будзіць палучына.

**Надуваць** (атвешываць, развешываць, адтапырываць) **грыбы,** *груб. Крыўдзіцца вельмі моцна.* Хва́ціць грібы нудува́ць, ныўгыва́рівыліся і ныўвішча́ліся вас дос, большы некуды. Толька і ўмеіць, што грібы атвешывыць, а нітку якую спрясьць ны матку надзеіцца. Пыдзівісь-ка, як грібы разьвешывыць наўчылыся за етыя гады. Паспробый адно слова ні так скажы́, як ён грібы аттапы́рівыіць. Можыш аттапырівыць грібы сколька хочыш, а бульбу кыпаць пойдзіш на ўвесь дзень. *Зак.* **Надуць** (атвесіць, развесіць, адтапырыць) **грыбы.** Харошыга мыцірія́лу ныбра́лі ны пальто,— не, цьвет ні ныра́віцца, ня тэй — грібы надула. Сядзеў, сядзеў мурзапон етый, грібы атвесіў, а тады як сноп пук у падушку і сьпіць. Із-зы нічога ніякыга разьвесіў грібы на цэлый дзень. Сяньня я ўжо і ні пайму дайжа, чаго ён аттапырыў грібы. Грібы аттапырыў і ходзіць, саўсім

як чорт нейкій. *Узмацн.* **Панадуваць** (паатвешываць, паатвесіць, паразвешываць, паразвесіць, паадтапырываць, паадтапырыць) **грыбы.** Пунудува́лі грібы, сідзяць, ні рызгыва́ріюць, другея ласкі ждуць. Я й так знаю, чаго яны грібы пыатвешывылі. Як пыатвесюць грібы, тады трудна зь імі стулкува́цца. Грібы так, буваіць, пыразьвешывыюць, што хут ты іх ны пря́сла вешый сушы́ць. Можа грібы пыразьвесюць яшчэ большы, ну толька я ня ўмоўчу, скажу́. Як пунудува́ліся, як пыттапы́рівылі грібы,— а ніхай вас умесьці з вашыю морквыю, каб я прітронулыся к ёй большы. Дайжа ні пыныра́віцца, як ты гляніш, і то грібы пыттапы́ріюць. Каб хто толька рыскызаў, як яны грібы пыттапырілі кыла стыга́, во було чуда. Я ўжо іх знаю, луччы ні чыпа́й, ато яшчэ пыттапырюць грібы. *Працягл.-фінальн.* **Наатвешываць** (наразвешываць, наадтапырываць, даатвешываць, даразвешываць, даадтапырываць) **грыбы.** Ныатвешывыіць ён грібы, што мала було ўчыра́шніга, дык сяньня дыба́ўлю. Вун ві́дзіш, ужо ныразьвешывыў грібы, змоўк, зашыўся, і слова большы ні пачу́іш. Вот і ныттапы́рівылі грібы, цяперя глідзяць у вочы, што й як будзіць. Ішчэ ныттапы́рііць грібы, мы дужа ма́сьліцца ня будзім. Бацька як пріедзіць, мігым дыатвешыюць грібы, разу́чуцца кріўды сваe выстыўля́ць. Сьціпан дыразьвешывыў грібы, нешта й на вочы ні пыказыіцца саўсім. Гледзічы у якея рукі пупадзецца, у нас ба скора грібы дыразьвешывыў. Палу́чыш сваё і змоўкніш,— во як грібы дыттапы́рівыіш у ету мінуту.

**Надуваць губы,** *іран. Моцна крыўдзіцца.* Пакуля ў крепкія рукі ні пупа́ўся, нудуваў губы, а посьлі піріставў, айдзе й нудува́ньня дзелыся. *Зак.* **Надуць губы.** Ні шыла́хыйся ты, бронь божа, лі яго, ато ўзноў губы надмець. *Узмацн.* **Панадуваць губы.** Мы проста пушуцілі, ніхто там ні пра што ня думыў, а яны губы пунудува́лі. Скора ты й сам біс пытка́зкі увідзіш: атвучым і етыга ад дурных прівычык, пунудуваіць у нас губы.

**На дурнях** (дурніцу, дурачка). *Проста, лёгка, з хлуснёй і падманам.* Доўга ім удыва́лыся ну дурня́к, а тут сырва́лыся. Усю жы́зінь ну дурня́к ні прыжывеш. Ён рашшчы́тывыў, што ўзноў ну дурніцу палучыцца. Любіў ба выіжджа́ць ну дуручка́.

**На душэ горка.** *Пра непрыемнае адчуванне ад пеpажытага або чакаемага.* Ні чыпа́й, у яго і так ну душэ горька. А ду́мыіця, у Лаўріна ну душэ ня горька, віду толька ня хочыць пыдыва́ць.

**На душэ** (серцы) **скрэсць.** *Пра трывожнае, турботнае прадчуванне.* Ну душэ нешта скрябець, ні есьць, ні піць ні магу́. Увесь дзень ну душэ скрябло. Скрябець на серцы: што тама зь імі, ці ўда́шна ў іх. У яго ня будзіць скресьць на серцы, ён усігда спакоін. *Непаўн.* **На душэ** (серцы) **паскрэсць.** Быя́ўся, етыя дні пыскрябло ў яго ну душэ. Есьлі троху й пыскрябло на серцы, ня будзіць такей прыспалі́тый. На серцы троху пыскрябець, а тады ўзноў зы сваё возьміцца. *Узмацн.* **На душэ** (серцы) **наскрэсць.** Ныскрябло ў іх ну душэ посьлі таго пызыча́ньня. Ніхай ныскрябець на серцы, а што ж ён хацеў усю жысьць так сабе пражы́ць. *Законч.* **На душэ** (серцы) **адскрэсць.** Ацскрябло ну душэ і ляхчэй ажно ста́ла. У іх здорыва ацскрябло на серцы, трі дні хадзілі як са́мі ні свае.

**На етый шчот.** *У гэтай сувязі.* А што ты ска́жыш на етый шчот? Мы рызгыва́рівылі на етый шчот, толька нада було б сы Льлёю путулкува́ць.

**На** [етых] **днях.** *Нядаўна.* Ён жа пріхадзіў ны днях, чаго ж ты ні спрасі́ла. Ны днях у Астрейкывічых Вукулёнык будзіць. Каб на етых днях, можна було б пыцскачы́ць, а пазьней с уремім будзіць ту́га. Во на етых днях, ці ўчора, ці заўчора, каці́ў пы дзяреўні ны лісапеці.

**Нажом па серцу.** *Пра вельмі непрыемнае, балючае.* Ка́ціны словы ёй нажом па серцу. Цяперя яму тоя нажом па серцу, а як тады родныга пляменьніка немцым здаў, тады яму ні було нажом па серцу,— выслу́жывыўся. Яны рыска́зыюць, сьмяю́цца, а мне етый сьмех нажом па серцу.

**На закуску.** *У заключэнне.* Вот вам і пыднясьлі́ ны заку́ску бля́мбу, любу́йціся. Усё йшло ладна, хырашо, а тут наця вам, пулучылі ны закуску.

**На заметке.** *Пад асаблівым наглядам.* Ета ні січас зьдзелына, ён даўно быў у іх ны заметкі. Каго йта вы імеіця ны заметкі? З запрошлыга года дзіржа́лі цябе ны заметкі.

**На заметку.** *Пад асаблівы нагляд.* Раз пупа́ўся ны заметку, то маўчы і ня пікні. Іна цябе ўзіла́ ны заметку, зы кажным шагым будзіць сьлядзі́ць.

**На замку** (замке), *звыч. гумар. У поўнай, абсалютнай захаванасці.* Мне ці ска́жыш, ці ні скажыш, у мяне ўсігда ны замку́. Доўга ў іх ні пабу́дзіць ны замке, ціріш час усюдых растреплюць.

**На злом галавы,** *неадабр. Рызыкоўна, з вялікай небяспекай для жыцця.* Кажный дзень носюцца на злом гылавы́, ажно тэя коні стогнуць. Було ўжо, було, чышчы некуды быць — ні пыка́іўся, узноў лётыіць на злом гылавы. Не, ні **г** дабру́ на злом гылавы так яны ла́зюць куды ні нада.

**Называць вешчы сваім імем.** *Гаварыць прама, адкрыта, гаварыць праўду.* Я ні баюся нызыва́ць вешчы сваім і́мім, я праўду люблю. *Зак.* **Назваць вешчы сваім імем.** Усё быяліся, мяліся, усім було нялоўка, а Сьціпан пряма нызва́ў вешчы сваім імім, нічога ні пыбыя́ўся, ні пысьцісьня́ўся.

**Найціць** (знайціць) **канец** (магілу, гібель, пагібель). *Згубіць жыццё праз безразважнасць.* Ня чуць жа даўно, нейдзі найшоў сабе канец. А нойдзіць магілу, у якую-небудзь пятлю ўлезіць. Найшлі́ айдзе-небудзь гібіль, зьдзержу ж нійдзе ім ні було. Раз шука́юць, то пагі́біль на́йдуць, так ня бойдзіцца. Па-мойму, ён знайшоў канец яшчэ раншы. Па ду́рысьці пы сваёй знайшоў магілу. Будуць так пры́гыць і дапры́гыюцца, знойдуць гібіль. Як пагібіль зна́йдуць, тады пыка́юцца, ды позна будзіць.

**Найшла** (папала) **каса на камень,** *пр., буд. Пра сутыкненне супрацьлеглых характараў, поглядаў.* Адзін настойчывытый і другей ня хочыць уступіць, ныйшла кыса ны ка́мінь. У іх як на́йдзіць кыса́ ны ка́мінь, ня скора ўспакоюцца. І на етый раз, ты ві́дзіш, пупа́ла кыса ны ка́мінь, ніза́шта ня ўсту́пюць адна другой. *Незак., адзінк.* **Находзіць** (пападаець) **каса на камень,** *цяп., пр.* Я зра́зу пыня́ў, што тут находзіць кыса ны камінь, абея ні пыткыча́юць зь ізыка́мі. У іх многа разоў пупыда́ла кыса ны камінь, ці ма́ла людзі ныдзікува́ліся на іх.

**На кажный** (кажын) **дзень.** *Для штодзённага карыстання.* І крепкій, і цёплый, ны кажный дзень дужа ха-

рошый пінжак. Выхаднэя адзежы ў мяне ёсьць, а длі работы, ны кажын дзень нада чаго дукупіць.

**На кажным шагу.** *Усюды.* Яны будуць пыткáлывыць Дзім'яна ны кажным шагу. Ны кажным шагу пупруў-ляй цябе і пупрууляй, ужо сымамý пырá знаць, што і к чаму зьдзелыць.

**На казе аб'язджаць,** *іран. Выяўляць глыбокую пашану.* Ты пыглядзела б, як ны казе аб'іжджáюць сваіх сватоў, ні знаюць, як стаць піряд імі.

**На казе вазіць** (катаць), *іран. Дагаджаць.* Січас я пайду зыпрягý і ны казе цябе вазіць буду. Ці вас кытá-лі сяньня ны казе ў кумы́. *Непаўн.* **На казе павазіць** (пакатаць). Надýўся, абíджыный, нада яго ны казе пы-вазíць. Ідзі, гатоў сані, ны казе яго пыкытáй.

**На казе ездзіць** (катацца), *неадабр. Невядома дзе знаходзіцца, разгульваць.* Твой Пятрок ны казе езь-дзіць: чацьвёртый дзень двору ні пыкáзыіцца. Учора дзень п'янствывыў і сяньня пашоў ны казе кытáцца. *Непаўн.* **На казе паездзіць** (пакатацца). Дзьве нядзелі ны казе паедзьдзіў, учора атвечыра грімíць: прынімáй-ця. Пыкытáіцца ны казе, а посьлі зыя́віцца, як астáніц-ца біз рубля. *Узмацн.* **На казе наездзіцца** (накатацца). Наезьдзіўся ны казе і іўля́іцца, дзелыіць від як ні ў чом ні бувáла. Ныкытáўся ны казе, пыадурювáў, ета пась-леднія ўремя аціх. *Законч.* **На казе ат'ездзіць** (адкатац-ца). Ат'езьдзюць ны казе, кончуцца дýрікі. Прíдзіць уремя, аткытáіцца ны казе, ну толька я ні пушчý, ніхай ідзець, айдзе езьдзіў.

**На казе ехаць** (каціць), *іран. Невядома як дабірац-ца, але звычайна пехатой.* Ны казе ехыў твой Міця, як жа іначы ён дыбірáўся. Айдзе-небудзь ны казе коцюць, толька былабончыкі зьвіня́ць. *Зак.* **На казе прыехаць** (прыкаціць). Ці ні ны казе вы пріехылі, нешта машы́-ны с таго боку ня йшлі. Пыглядзíш, што ны казе пріко-ціць вот-вот.

**На казе не пад'ехаць,** *іран. Невядома як падысці (да ганарлівага).* Зыгардзíўся — ны казе ні пад'едзіш. Як увыбрáўся ў перья, дык ны казе к яму ні пад'едзіця. **На казе пад'ехаць.** Ны казе пад'ехыць паспробыйця, як стала стыршынíхыю.

**На казе пад'язджаць,** *іран. Прымаць розныя захады, каб дагадзіць, улагодзіць.* К табе ні йна́чы як ны казе пыд'іжджа́ць нада.

**На казе паехаць,** *іран. Адбыць, знікнуць у невядомым кірунку пехатой.* Ны казе твой Васіль паехыў, кру́ціць яго нячы́стыя сіла і, відна, скру́ціць. Спра́шывый ты, айдзе яны дзеліся, ны казе паехылі.

**На казе праехаць** (пракаціцца), *іран. Заганарыцца зусім дробязнай справай, учынкам.* Праехыў ны казе: скот зьбегыў атвярну́ць. Пыу́дня́ ў лёні пыбылі́, дык ны казе прыкаці́ліся.

**На казе раскатывацца** (раскатываць, раз'язджаць, раз'язджацца), *іран. Гультаяваць.* Тыка́я пагода, усе хвыта́юць, убіра́юць, а ён ба ны казе рыска́тывыўся. Узноў пашоў ны казе рыска́тывыць, і так дзень прі дні. Каторый год ны казе рызыіжджа́іць, ні за што ні бярецца. Разыіжджа́ўся б ны казе, каб зы яго хто хлеб дубува́ў.

**На кані не аб'ехаць.** *Пра вялікае.* Лёну насеіна — ны кані́ ні аб'ехыць, грібануць грошы. Яе горя ны кані ні аб'едзіш. Вашу капу́ ны кані ні аб'едзіш, толька ў резьвіных і зыбяреш.

**На капейку.** *Трошкі, зусім мала.* Дзела таго ны капейку, толька рызгаворы. Ны капейку дасьць, а нядзелю будзіць стыгна́ць.

**На капусту.** *На дробныя часткі.* Мы із-зы ліска́ нызкачы́лі раз на іх, дык усіх пуруба́лі ны капу́сту. Цябе нада пасеч ны капусту зы тваё адурюва́ньня і сьвіньня́м вы́кінуць, во што табе нада. Што зь естымі па́лкымі зьдзелыў, скрышы́ў ны капусту, скрышыў, дайжа вірьхніка́ ня вы́біріш, толька на дровы пусьці́ць.

**На карню.** *У некранутым стане.* Мы ны сваю хату ны карню лес куплялі, канешня, дорга було. Пірід рівалюцыію нашы паны пачу́ствывылі, што дзела плоха, усе лясы на карню́ прыда́лі. Ужо восінь ны дваре, а ўсе аборкі ны карню́. Увесь хлеб ны карню, урыжа́і харошыя, а тут дажджы́ і дажджы.

**На карон.** *Поўнасцю, дашчэнту.* Мы даўно гываріліі вам, што ён ны карён прыпіва́іць усё чыста. Збува́юць хызя́йства ны карён, яны тут пасьледнія лета.

**На кароткай** (дружаскай) **наге.** *У сяброўскіх адносінах.* Ён быў ны кароткый наге з рухункаводым. Сахрон з нычáльствым ны кароткый наге. Яны даўно на дрýжыскый наге.

**Накастыляць шыю** (па шыі). *Пабіць.* Ім абаíм ныкыстыля́лі шыю, прішлі сагнýўшы голывы. Пыдвярнýўся пуд руку, дык і ныкыстыля́лі па шыі. *Незак., адзінк.* **Кастыляць шыю** (па шыі). Ты скарей успомніш, хто табе толька ні кыстыля́ў шыю. Ці раз яго кыстылялі па шыі. *Непаўн.* **Пакастыляць шыю.** Як там ні було, а шыю пыкыстыля́лі, во й глядзі якімі хочыш вычамі. *Законч.* **Адкастыляць шыю.** Самі яны ні рыскáжуць, а с таго боку пірідывáлі, што ім здорыва аткыстыля́лі шыю.

**На касцях** *(чыіх). На цяжкай працы, горы, няшчасці.* Ны Мылáнкіных кысьця́х ты сваю жызьню строіш, як ты толька ходзіш па сьвету. Ты сам знаіш, ны чыіх кысьцях ета хата стаіць. Хвашы́сты думылі, што ны нашых кысьцях будуць сваю дзіржаву строіць, каб мы на іх работылі, а яны гыспыдáмі хадзілі, ды ні ўдалося ім, як зыгáдывылі.

**Накласць** (налажыць) **на сябе рукі.** *Скончыць жыццё самагубствам.* Жылі пу-суседзку, уродзі чылавек быў, а ў паліцыі азьвяреў, стаў прістывáць, іна і ныклáла ны сябе рýкі. Ты й хацеў ба, каб я ылажы́ла ны сябе рукі. *Незак., рэдкаўж.* **Класць** (накладаць) **на сябе рукі.** Во стала мне с табою жызьня, хуць рукі ны сябе кладзі. Не ўжо, рукі ны сябе ныклыдáць я ня буду, ніхай ён сам у пятле зыхлынецца. *Узмацн.* **Панакладаць на сябе рукі.** Ніхай яны пыныклыдáюць ны сябе рукі усе рáзым.

**Накласць** (налажыць) **у горб** (карак, каршэнь, шыю), *груб. Пабіць.* Схадзі, пыднясíся, ніхай ныкладýць у горб. І хырашо зьдзелылі, што ныклáлі ў карык, меншы будзіць лазіць куды ні нада. Ён табе ныкладзець у каршэнь, большы ты атвы́кніш і зырякесься так скыкáць. Глядзí, каб ні ныклáлі ў шыю с такімі зыдывáньнімі, тут ніхто ні застýпіцца. Як у горб наложуць, тады пойміць, што нада сябе інáчы весьць. Ці ты ня чуў, за што ім ылажылі ў кáрык? За дзеўку за нейкыю зывізáліся, і тэй прывáджывыць, і тэй, дык Андрею ылажы́лі ў каршэнь. Іх чэцьвіра, а ты адзін, ну й нало-

жуць у шыю. *Незак., рэдкаўж.* **Класць у горб** (карак, каршэнь, шыю). Як дыва́й яму класьць у горб, круці́ўся ён, круціўся, дый круціцца некуды. Каму там було класьць у карык, я б іх адною рукою раські́дыў. Ладна клалі ў каршэнь, чуць вы́вірнуўся ды ўцёк. Узноў табе кладуць у шыю сколька хочуць. *Узмацн.* **Панакладаць** (панакласць) **у горб** (карак, каршэнь, шыю). Ні було зь імі ні́якыга зла́ду, пыныклыда́лі ў горб, дык пыспыкайнелі. У карык пыныклыда́лі крепка, пашлі́, што мыла зьеўшы. Дарзу́цца яны, што ў каршэнь пыныклыдаюць. Проста просюцца, каб у шыю пыныклыда́лі. А што іх там, угыва́рівыць ста́нуць? — пыныкладу́ць у горб, і яны ася́дуцца. Так скора ў каршэнь могуць пыныкласьць, што ні агледзюцца. Дужа мы шкудува́ць будзім, есьлі ім ды пыныкладуць у шыю.

**На край гібелі** (пропасці). *Туды, дзе існуе смяртэльная небяспека.* Усігда лезіць ны край гі́білі, дайжа тады, калі й ні заву́ць і ня просюць. Па нечыму наводу палезьлі як бізгаловыя ны край гібілі. Пыцягну́ла вас ны край пропысьці, што вам тама нада було, чаго вы лезьлі.

**На край магілы.** *Туды, дзе існуе смяртэльная небяспека, на апошні рубеж жыцця.* А хто цябе зваў, хто цябе цягнуў ны край магілы, хто, скажы? Ня жы́ціль Сямён, саўсім ня жыціль, ён ужо ступі́ў ны край магілы.

**На крайній случай.** *Для выкарыстання ў выпадку вострай неабходнасці.* Ету тру́бычку я бірягу́ ны кра́йній случый, ці мала на што ніажы́дынна можыць пына́дыбіцца. Ны крайній случый вазьмі Кузьмоў адріс, ня будзіць нічога пулуча́цца, дык хуць піріначу́іш.

**На край свету.** *Вельмі далёка.* Мітрыхван зьехыў некуды ны край сьвету і згас там. За Верычкыю ны край ба сьвету пашоў, пряма прікінеў і пря́гніць па ёй.

**На краю гібелі** (пропасці). *Побач са смяртэльнай небяспекай.* Ты быў раз ны краю́ гібілі — вы́цігнулі, цяпера ўзноў лезіш ны ражно. Первыя ўремя дужа рассьмелівыліся, пакуля ны краю гібілі ачыну́ліся. Сколька разоў ны краю пропысьці былі, пряма ні сышчыта́ць, і выскрі́ба́ліся неік.

**На краю магілы.** *Побач са смяртэльнай небяспекай, на рубяжы жыцця і смерці.* Глядзі, ма́ліц, ты даўно стаіш ны краю магілы. Ны краю магілы ходзіць, абарьвецца і прыпадзець, як і большый прыпаў нейдзі. Што там хто паможыць, раз іна ўжо ны краю магілы, і ногі атня́ліся, і рукі пасьці́ ня дзействыюць.

**На круг.** *У сярэднім.* На круг у нас выйшла ня плоха, абі́джын ніхто ня быў. Нада глядзець, каб пы паўсотні на круг пулучы́лыся.

**Накруціць** (наламаць) **хвост.** *Моцна паўшчуваць, зрабіць наганяй.* Яны саўсім знаглелі, калі ні нукруці́ць хвост, ны якей-небудзь толк і ні рашшчы́тывый. Скажы, каб нулума́ў хвост ладна, чаго на іх богу малі́цца. *Незак., рэдкаўж.* **Круціць** (ламаць) **хвост.** Меншы жалей, а большы хвост круці́, скарей чаго дажджэсься. Мыкар дужа ні глядзеў, лумаў хвост, паетыму і людзямі скарей ста́лі. *Працягл.-фінальн.* **Дакруціць** (даламаць) **хвост.** Дакру́ціць ён хвост, кылі яго ні на нохыць ні быя́цца. Дулумалі хвост, ужо самі ходзюць спусьціўшы голывы.

**На крывой не аб'ехаць,** *гумар. Не перахітрыць.* Усігда ны чыку́, ня ду́мый, яго ны крівой ні аб'едзіш. *Гл.* Н а к а з е н е а б ' е х а ц ь.

**На крывой** (храмой, дзікай) **казе аб'язджаць,** *іран., рэдкаўж. Выяўляць глыбокую пашану.* Доўга іх Лыўрі́ няты аб'іжджа́лі ны крівой казе. Ужо другей год Зьмітрычка ны храмой казе аб'іжджа́юць, дужа шану́юць. Вот я ніяк ні пайму́, чаго яны так на дзікый казе аб'іжджаюць. *Гл.* Н а к а з е а б ' я з д ж а ц ь.

**На крывой** (храмой, дзікай) **казе вазіць** (катаць), *іран., рэдкаўж. Дагаджаць.* Ны крівой казе я вас буду січас вазі́ць. Як жа ж, ны крівой казе кыта́лі, толька й ду́мылі, як дыгадзі́ць. Пыдажджы́ця нямнога, мы вас ны храмой казе будзім вазіць. Ны храмой казе зяця свайго кытаюць. Яны вас там, верна, на дзікый казе вазілі. Ну нягож, мы вас будзім на дзі́кый казе кыта́ць. *Непаўн.* **На крывой** (храмой, дзікай) **казе павазіць** (пакатаць). Ты іх ны крівой казе пывазі́, лыскавейшымі ста́нуць. Ну як жа йначы, ны крівой казе нада пыкыта́ць. Нешта ж вы мала іх ны храмой казе пывазі́лі. А пыкыталі ны храмой казе, сколька ж ішчэ нада. Вас

усе на дзікый казе пывазілі, імелі гоныру. Зьезьдзіця, можа вас швагрі на дзікый казе пыкытаюць там.

**На крывой** (храмой, дзікай) **казе ездзіць** (катацца), *неадабр., рэдкаўж. Невядома дзе знаходзіцца, разгульваць.* Можа ты айдзе відзіў, як ён там ны крівой казе езьдзіць. Трецьцій месіц ны крівой казе кытаіцца. Што йта, твой, знаць, узноў пашоў ны храмой казе езьдзіць. Прівык, наўчыўся ны храмой казе кытацца. Узноў нейдзі на дзікый казе езьдзіць. С паўгода на дзікый казе кытаўся, учора пріналокся. *Непаўн.* **На крывой** (храмой, дзікай) **казе паездзіць** (пакатацца). Паезьдзіць ны крівой казе і пыд'явіцца. Ці ні луманулыся і табе пыкытацца ны крівой казе. Ны храмой казе паезьдзіў, папробывыў сыбаччыга хлеба. Ніхай ны храмой казе пыкытаіцца, айдзе ён нучуваць будзіць. Зыхацелыся на дзікый казе паезьдзіць, што ж, вольныму воля. І ты трошку на дзікый казе пыкытаўся? *Законч.* **На крывой** (храмой, дзікай) **казе ат'ездзіць** (адкатацца). Ладна ат'езьдзіў ны крівой казе, як толька йна цярьпела ды прышчала. Аткыталіся ны крівой казе, сяньня пашлі касіць умесьці са ўсімі. Ат'езьдзіў ны храмой казе, нугуляўся і нудуреўся ўволю. Тады, посьлі вайны зразу, аткыталіся ны храмой казе абоя. Ат'езьдзіў на дзікый казе, пріцягнуўся, а дзеці: «Вон с хаты! Такей ты нам ні нада». Аткытаўся на дзікый казе, нада якей прітулык іскаць. *Гл.* На казе ездзіць.

**На крывой** (храмой, дзікай) **казе ехаць** (каціць), *іран., рэдкаўж. Невядома як дабірацца, але звычайна пехатой.* Пыдажджы, скора будуць: ны крівой казе едуць. Можа ты відзіў, як ны крівой казе каціліі. Ну ізьвесна ж, Цімох ны храмой казе ехыў. Ён айдзе-небудзь ны храмой казе коціць. Яму проста було: на дзікый казе ехыў. Гываріліі, што с-пыч Чавус на дзікый казе каціў. *Зак.* **На крывой** (храмой, дзікай) **казе прыехаць** (прыкаціць). Хто тут што станіць гываріць, усе ж знаюць, што вы ны крівой казе пріехылі. Увідзіця, што цірізь якую нядзелю ны крівой казе пріксоцюць. Як ён сябе чуствыіць, як ны храмой казе пріехыў? Скора прікоціць ны храмой казе, хвастыньня будзіць — дос. Ну як жа, можна зыдывацца, на дзікый казе пріехылі. Можа ж на дзікый казе як прікоціць, дажджэсься. *Гл.* На казе ехаць.

**На** [крывой (храмой, дзікай)] **казе не аб'ехаць,** *гумар. Не перахітрыць.* Івана ны казе ні аб'едзіця, ён вас у адзін міг прывядзець ува ўсім. Зь віду глумáк, а ты яго ны крівой казе ні аб'едзіш. Ён толька так рысьця́пістым кажыцца, яго ны храмой казе ні аб'едзіш. Не, ні надзейся, тут ты на дзікый казе ні аб'едзіш.

**На крывой** (храмой, дзікай) **казе не пад'ехаць,** *іран., рэдкаўж. Невядома як падысці (да ганарлівага).* Сымыстыя́цільный хызя́ін зьдзелыўся, і ны крівой казе ні пад'едзіш, толька сымыстыяцільный чылавек так сябе ні вядзець. Ні глядзі, што ўся цына ноль біс па́лычкі, ты к яму цяперя ны храмой казе ні пад'едзіш. К таму зыдыва́ку на дзікый казе ні пад'едзіця. **На крывой** (храмой, дзікай) **казе пад'ехаць.** Тут дайжа ны крівой казе ці пад'едзіш. Паспробый-ка цяперя к яму ны храмой казе пад'ехыць. Дайжа на дзікый казе айдзе ты пад'едзіш. *Гл.* На казе не пад'ехаць.

**На крывой** (храмой, дзікай) **казе пад'язджаць,** *іран., рэдкаўж. Прымаць розныя захады, каб дагадзіць, улагодзіць.* Даўно пыд'іжджа́іць к Цімоху ны крівой казе, толька ці палу́чыцца ў яе што. Яны даўно к Стыхвану ны храмой казе пыд'іжджаюць. Пыча́лі на дзікый казе пыд'іжджаць, усё ду́мыюць сма́ліным вужом падлезьць. *Гл.* На казе пад'язджаць.

**На крывой** (храмой, дзікай) **казе паехаць,** *іран., рэдкаўж. Адбыць, знікнуць, накіравацца ў невядомым напрамку пехатой.* Яму на ўме толька адно: каб куды ны крівой казе паехыць. Во, толька што ны храмой казе паехылі, дайжа ня ўсьпелі гля́нуць, у якей бок. Ужо сыбіра́юцца на дзікый казе паехыць. *Гл.* На казе паехаць.

**На** [крывой (храмой, дзікай)] **казе пахаць** (скарадзіць), *іран., рэдкаўж. Займацца пустой, нікчэмнай справай.* Ну, у яго січас дзялы́: ны казе па́шыць. Учора лы́ндыў, а сяньня ны казе будзіць скырадзі́ць. Чуць ня ўсю ноч ны крівой казе пыха́лі, дык аддыха́юць ся́ньня. Скародзіць вун пыт пря́слым ны крівой казе, ці ты ня ві́дзіш. Ны храмой казе пыхаць твой Антон паехыў. Ваш зыня́тык ізьвесный — ны храмой казе скырадзі́ць. Вы ж учора чуць ні пырва́ліся ат работы: на дзікый казе пыхалі. Лю́бюць на дзікый казе скырадзіць, а тады каб сма́шна пад'есьць ім хто-небудзь пыдываў.

**На крывой** (храмой, дзікай) **казе праехаць** (пракаціцца), *іран., рэдкаўж. Заганарыцца зусім дробязнай справай, учынкам.* Зьдзелыў дзела — шу́ла аптоўк, дык ны крівой казе праехыў. Було ў іх работы, ны крівой казе прыкаціліся. Пыработыў — ны храмой казе праехыў, дык гоныру хуць адбуу́ля́й. Ну як жа, сяньня ўра́ньні ны храмой казе прыкаціўся. Ніхай на дзікый казе праедзіць, зыдзярець нос. Такому зыдыва́ньня ні пызыча́ць, асобінна калі на дзікый казе пракоціцца. *Гл.* На казе праехаць.

**На крывой** (храмой, дзікай, стрыжанай, смаленай) **казе раскатывацца** (раскатываць, раз'язджаць, раз'язджацца), *іран., рэдкаўж. Гультаяваць.* Ён у мяне ны крівой казе рыска́тыіцца, што ж тут зьдзелыіш. Ны крівой ба казе рыскатывыў, толька дай волю. Што ж яны дзелыюць, разьві ты ні знаіш? — рызыіжджа́юць ны крівой казе. Узноў пыча́ў ны крівой казе рызыіжджа́цца. Хырашо зу чужою сьпіною ны храмой казе рыскатывыцца. Яму каб так: каб хто работыў, а яму ны храмой казе рыска́тывыць. Зма́лку г дзелу ні прівучы́лі, прівы́к і прівык ны храмой казе рызыіжджаць. Рызыіжджаліся б умесьці ны храмой казе, толька гніся на іх. Усю вясну рыска́тывыўся на дзікый казе. Пріедуць сюда і пашлі на дзікый казе рыскатывыць. Ты ладна наўчы́ўся зы пасьледнія ўремя на дзікый казе рызыіжджаць. На дзікый казе рызыіжджацца ня промых. Ізьвесна, што яны дзелылі, на стры́жыный казе рыскатывыліся. Такоя ўремя гырячыя, а яны рыскатывыюць на стрыжыный казе. Ну што, на стрыжыный казе луччы рызыіжджаць, чым работыць. Нада було б каму ту́кнуць, хва́ціць яму на стрыжыный казе рызыіжджацца. Сьпірва́ ны сма́ліный казе рыскатывыўся, а тута ўзгареўся дужа работыць. Пыныра́вілыся ны смаліный казе рыскатывыць. Нада ні глядзець, што ў каго ёсьць, а сымаму́ нада меншы ны смаліный казе рызыіжджаць. Зы ма́ткыю рызыіжджаўся ны смаліный казе. *Гл.* На казе раскатывацца.

**На кудыкіну гару.** *Куды трэба (у адказ на частае запытанне «куды?»).* Куды́, куды, ну куды́кіну гару́ сыбіра́юся, січас паеду. Вот, ну кудыкіну гару вупруу́ля́імся.

**На лбу** (лбе) **не напісана.** *Пра немагчымасць дазнацца пра чалавека па яго знешняму выгляду.* Аткуля

мы зналі, якей ён, на лбу ж у яго ні напісына. На лбе ні ў кога ні напісына, ці ён харошый, ці дренный. **На лбу** (лбе) **напісана.** У каго йта на лбу напісына, як ён жывець. Каб у яе на лбу було напісына, што йна хочыць і што задумывыіць. А разьві ў твайго зяця на лбе напісына, што ён зы чылавек.

**На лес гледзячы,** *груб. Незвычайна (расці).* Ну й вырысьлі ж на лес гледзічы. Куды яны толька растуць на лес гледзічы.

**Наліваецца кроўю.** *Чарванець (звыч. ад злосці).* Гляджу — ныліваіцца кроўю, ну, думыю, толку ня будзіць, луччы ўцікаць. *Зак.* **Наліцца кроўю.** Наліўся кроўю, стаў, што рак якей, а бяды тэя там — дзесіць кыласкоў сускубнута. *Узмацн.* **Паналівацца** (паналіцца) **кроўю.** Пыглядзелі б на іх, як пыныліваютцца кроўю. Ого, пыныліліся кроўю, бірягіся, ато рызарвуць.

**На ліцо.** *На знешні выгляд.* Хракцірым харошый і так стыряцільный, а ны ліцо ня дужа, так сабе. Ай, што ні гываріця, а ны ліцо нада каб была красівыя, ато вун прівёз са сьвету, а тая са сьвету і глядзець німа на што.

**На лупленай казе аб'язджаць,** *іран., адзінк. Выяўляць празмерную павагу.* Успомні-ка, ці даўно ты на лупліный казе стыршыну пробывыў аб'іжджаць. *Гл.* На казе аб'язджаць.

**На лупленай казе пад'язджаць,** *іран., адзінк. Прымаць захады, каб дагадзіць, улагодзіць.* Са ўсіх бакоў на лупліный казе к яму пыд'іжджалі. *Гл.* На казе пад'язджаць.

**На любкі.** *На выбар па густу.* Што пынырáвіцца, то й бярі ну любкí. Ну любкí дываў яму пулушубык, якей пыныравіцца,— ня хочыць: тулуп дай.

**На людзі.** *Туды, дзе прысутнічаюць іншыя.* Як жа ў таком старье іціць на людзі. Выйдзіш на людзі — сьміяцца кругом будуць. Табе і на людзі пыказывыцца стыдна.

**На людзях.** *У людным месцы, у прысутнасці іншых.* Саўсім ты ня ўмеіш весьць сябе ну людзях. Ну людзях дзяржыцца, а ў дваре зьвяреіць. Я ні асьмеліўся б у таком відзі пыіўляцца ну людзях, ета ж совісна.

**На мазі,** *гумар., іран. У стане добрай падрыхтаванасці да ажыццяўлення.* Я так ла́дна ўсё пыдгатовіў, зьдзелыў, ны мазі́ було дзела, а тута яны пыдвярну́ліся, і пыляцела пра́хым. Гатоўся ны свадзьбу, у іх даўно ўсё ны мазі, дайжа у мыладэя брюха на нос лезіць.

**На месце.** 1. *У адпаведнасці з неабходнымі данымі.* Баріс на месьці, тут і нада такей, каб у руках дзіржа́ў. Нада выбіраць такога, каб на месьці быў. 2. *У становішчы іншага.* На месьці Мархвы і я тоя са́мыя скыза́ў ба. А што б ты дзелыў ны яго месьці, ны сабе ж ба ні пыцягну́ў?

**На месце праступленія,** *звыч. жарт. Там, дзе мае месца злачынства.* Іх узялі цёплінькіх, на месьці пріступленія. Вот ты й пупа́ўся на месьці пріступленія, разым пойдзім ны вічарінку.

**На мёртвай точке.** *У адным і тым жа стане.* Маё дзела зь естыю куплію каторый месіц на мёртвый точкі. Застыла на мёртвый точкі і ні ўпярёд ні нызад.

**На міласць,** *звыч. жарт. Без усялякіх умоў, безагаворачна.* Табе нада здыва́цца на мілысьць Полькі, ці пыкыра́іць, ці памі́луіць, дык свыя. Здывайся на мілысьць, іначы табе зразу каюк.

**На мінуту** (мінутку, мінутачку). *На вельмі кароткі час.* Айдзе ж я сядзела, я ны мінуту зыйшла і січас нызад. Ны міну́тку зыбягу, ну расьседжывыцца мне ўремя німа. Ніхай ба ны мінутычку зыгляну́ў, ці ў нас жа ўстреціць німа чым, ці мы хужы людзей.

**На мякіне** (аторы) **не правесць.** *Пра немагчымасць падмануць.* Нас ны мякіні ні прывідзіцё, мы вам ні Хлімон Напреіў. Ён хітрый, яго ны аторі ні прывядзеш, зразу пыняў, к чаму гаворіцца. **На мякіне** (аторы) **правесць.** Каго ты зьбіра́ісься ны мякіні правесьць. Прывядзеш ты яго ны аторі, калі ён самога чорта скарей пиріхітрі́ць.

**На нагах.** 1. *У хадзе, у руху, у клопатах, у працы.* Ды лі скыта́ цэлый дзень ны ныгах даецца, асобінна есьлі паша плыха́я. Цэлыя ра́ньня ны ныга́х і ны ныгах, ны мінуту ні пріся́дзіш, топыіш, топыіш і заморісься. Уродзі і работа ня дужа быльша́я, а ўсё ўремя ны ныгах. Зы дзіцямі за етымі ўсё ны ныгах, дужа ні прі-

сядзіш, ні даду́ць. Уся дзяреўня сьпіць, а Прося ны ныгах, ня сьпі́цца ёй і ні ляжы́цца. Ні прівы́клі вылежывыцца, чуць дзень, ужо ны ныгах. 2. *Здаровы, не хворы.* Мы ўчора Кырняёнка відзілі, ён ны ныгах. Паку́ля ны ныгах, клы́пыю, толька баюся, каб ні звалі́цца.

**На нагах не стаяць.** *Быць вельмі хворым або п'яным.* За етый месіц дужа пыда́ўся, пряма ны ныгах ні стаіць. Ныбра́ліся ў горыдзі, ны ныга́х ні стыя́лі, пріехылі, звалі́ліся с калёс і заснулі ў саломі. **На нагах стаяць.** Увесь пабі́тый, увесь прасту́джыный, куды яму ны ныгах стыя́ць. Стыя́лі яны ны ныгах, столька вы́цыдзіўшы.

**На нажах.** *У варожых адносінах.* Сколька я помню, яны ўсё ўремя ны ныжа́х. Зь летышніга года ны ныжа́х, як Грішка пріiжджаў і ні ўзяў пляменьніцу.

**На насу.** *Вельмі блізка па часе, вось-вось.* Жніво ны насу́, а тут з лугым столька работы. Гля́ньці-ка, у вас ужо й сва́дзьба ны насу.

**На нет.** *Зусім, дашчэнту.* Нашто ж ён зводзіць на нет усё хызяйства. Харошый брусочык быў, а ты яго сустругa̋ў на нет. Ад дарогі ладный кусок на нет вытыптын. *Параўн.* На нет і суда нет.

**На ноч гледзячы** (глядзя). *Позна вечарам.* Куды ж табе выпрыўля́цца на ноч гледзічы ды пірід гразою, астыва́йся тут. Пабеглі на ноч гля́дзя — ніхай, дыбіга́ць як-небудзь. Сідыріха на ноч гля́дзя выйшла з горыда, троху нідаві́дзіла, з дарогі зьбі́лыся, пыкрі́ча́ла, пыкрічала і зьмёрзла, найшлі́ ніжыву́ю.

**На пагібель** (гібель). 1. *На верную смерць.* Знаў, што можыць быць, дык пашоў ны пагібіль. Як што цягнула іх, вы́брыліся на гібіль. 2. *груб. Зусім без патрэбы.* Ны пагібіль мне нада тэй дуб, я строіцца ні зьбіра́юся. На гібіль ныхва́тывыіць усяго, ніхай спыжывець тоя, што ёсць.

**На пагляд** (погляд). *Са знешняга выгляду.* Ны пыгля́д Верка яму спазрі́лыся, я ета чу́ствыю. Ны пыгляд як ны пыгляд, а ў первыю вочырідзь, каб ны хракцір ні была як мама. На поглід дзеўка ладныя.

**На** (пад) **шапашный разбор.** *У самым канцы размеркавання.* Пыдыйшлі́ ны ша́пышный разбор, усе ўжо рызыжджа́ліся. Чаго січас іціць пыч шапы́шный разбор.

Пупыдзіцё пыч шапышный разбор. *Гл.* К  ш а п а ш н а м у  р а з б о р у.

**На памяці.** *Пры жыцці.* Ста́рыя Юста ны маёй па́міці рыска́зывыла пры прігон. С хутароў сьця́гывыліся ны нашый па́міці. Ета яшчэ ні ны нашый паміці Марыіны жылі зы магільнікым.

**На пароге.** *Зусім блізка.* Зіма ны парогі, а тута бульбы столька ні дыка́пына. Тута здыхыта́ ны парогі, а табе ўсё дзеўкі на ўме, уніміся.

**На парог** (цераз парог) **не пускаць.** *Не дазваляць заходзіць, з'яўляцца.* К хаці падойдзіць, дык ны парог ні пускай, айдзе нядзелю нучува́ў, ніхай ідзець туды і жывець. А мы ня возімся, ні ўгыва́ріім, мы іх проста ціріс парог ні пуска́ім. **На парог** (цераз парог) **пускаць.** За што ж яго ны парог пускаць? Як вас ціріс парог у хату пускаць посьлі етыга. *Зак.* **На парог** (цераз парог) **не пусціць.** Маімі слывамі пірідай, што ны парог ні пушчу́. Сяньня гаворіць, што ціріс парог ня пусьціць, а ныза́ўтріга атойдзіць і пымякчэіць. **На парог** (цераз парог) **пусціць.** Сам паду́мый, ці можна цябе ны парог пусьці́ць. Айдзе яго хто ціріс парог дайжа пу́сьціць, ён жа можыць усё чы́сьцінька сытварі́ць, што другому і ўва сьне ні сасьні́цца ні разычку.

**На пару.** *Удваіх.* Ны па́ру сь кім пайду, а адзін не. Ці ні ны пару вы там нучува́лі ў капе? Яму каб усігда ны пару, адзін ня хочыць.

**На пару слоў.** *Для кароткай размовы.* Скажы́, каб вы́йшла ны пару слоў, ня зьем жа я яе. Ві́дзіла, пызваў ны пару слоў, я знаю, к чаму дзела клоніцца. Ны пару слоў і дзьве плявýхі. *Гл.* Н а  д в а  с л о в ы.

**На паўдароге.** *У стане незавершанасці, недаведзенасці да канца.* Пычалі́ ого як шурока, а тады ўсё кінулі ны пыўдарогі. Ні астына́ўлівыйся ны пыўдарогі, дывадзі́ ды кынца. Ішчэ ня трогый, у нас у́сё ны пыўдарогі.

**На паўслова.** *Для зусім кароткай размовы.* Ты мне толька ны паўслова нада. Пызаві ны паўслова, я січас усё скажу́. *Гл.* Н а  д в а  с л о в ы.

**На паўслове.** *У пачатку размовы.* Яго абырва́лі ны паўслові, а ён ба іньціресныя рыскыза́ў. Стаў ны паўслові і ні знаіць, што гываріць.

**На первае ўрэмя.** *На пачатак уладкавання.* Мне каб на первыя ўремя піріхваці́ць, а тады я вы́кручуся. На первыя ўремя ка мне можна піряйці́ць, за́днія хата пустуі́ць.

**На первый случай.** *Для пачатку.* На первый слу́чый вазьмі хуць кусочык сала. На первый случый зайдзі г Барчонку, ён што-ліба пысаветыіць. На первый случый худзь ба паўсотню айдзе піріхваці́ць.

**На первый узгляд.** *Па першаму ўражанню.* На первый узгляд етый праровык ні стра́шный, ну толька каб ні пашло да́льшы рузмува́ць. На первый узгляд ня дужа пыныра́ўныя.

**На первых парах.** *Спачатку.* На первых пырах пылі́ў: тоя можыць быць, ета каб ні було, а тады пірістáў патроху быяцца. На первых пырах тру́дна було, пакуля прівык. Шчоглый быў на первых пырах.

**Напінаць жылле,** *неадабр. Цяжка працаваць.* Тады я ныпіна́ў жыльля, а большы хваціць, самі ніхай ірвуцца. Ныпінай жыльля, яны пысьмяюцца большы.

**На плахом** (плахім) **шчату.** *У ліку непрыдатных або дрэнных.* Цяперя ты ў цесьця ны плахом шчату, кыза́ў, што ныпра́сна аддáў дачку зы цябе. Раз ны плахі́м шчату, то дайжа і рота ні рызіва́й, ні паслухыіць.

**На поўный ход.** *З поўнай нагрузкай.* Работа пычыла́ся на поўный ход. На поўный ход пашло дзела. На поўный ход зывялі сваё кодла.

**Направа і налева.** *Бяздумна, ні з чым не лічачыся.* Нільзя так рыздыва́ць пыдряд ныпра́ва і налева, самі ні ш чым аста́ніціся. Ба́цькывым лёхка раські́дывыцца ныправа і налева.

**На праізвол судзьбы.** *Без дапамогі, без падтрымкі (пакідаць).* Нільзя астыўля́ць стырікоў ны прыізвол судзьбы́, за імі ўжо нада ўха́жывыць. Такіх ба́цік нямнога на́йдзіцца, каб кінуць дзяцей ны прыізвол судзьбы.

**На прамілый бог.** *Вельмі моцна (прасіць).* Ны прамі́лый бог прасілі пыдыжда́ць — дык зысьвістаў і пашоў. Ны прамі́лый бог сталі прасіць, чуць-чуць паслухыў.

**На прапой душы,** *гумар. Для таго каб задаволіць прагу выпіць.* Што табе, ны прапой душы́ ні хвыта́іць? Ходзіць ды просіць ны прапой душы пазы́чыць. Ну дай ны прапой душы, ніхай пахмеліцца.

**Напраўляць лыжы,** *гумар. Намервацца пайсці.* Куды вы сяньня нупруўляіця лыжы, айдзе звонюць пры вас у разьбі́тый лапыць? *Зак.* **Направіць лыжы.** Сяньня ён ыпра́віў лыжы к сваёй Танічкі, нулюбува́цца ня можыць. Па-мойму, дык ныправілі лыжы ны Засожжа.

**На прымеце.** *На ўвазе.* Ты ўжо сабе як ні хува́йся, мы знаім, хто ў цябе ны прімеці. Дзяржу́ ны прімеці пацьцёлка ат харошыя дужа каровы.

**На пужлівай** (пуглівай) **казе аб'язджаць,** *іран., рэдкаўж. Выяўляць празмерную павагу.* Нешта яны пасьледнія ўремя Анюту пычалі́ ну пужлі́вый казе аб'іжджа́ць. Ты тожа знаіш, чаго аб'іжджаюць брігадзіра ну пуглівый казе. *Гл.* Н а к а з е а б ' я з д ж а ц ь.

**На пужлівай** (пуглівай) **казе вазіць** (катаць), *іран., рэдкаўж. Празмерна дагаджаць.* Меншы ну пужлівый казе вазі́ця, дык хужы ня бу́дзіць. Ціряшчу́р ужо ну пужлівый казе кыта́юць. Ну як жа, будуць ну пуглівый казе вазі́ць, ныўгыжда́юцца. Ох, пычалі ну пуглівый казе кыта́ць, ні знаюць, як стаць піряд імі. *Непаўн.* **На пужлівай** (пуглівай) **казе павазіць** (пакатаць). Трошку пывазі́лі ну пужлівый казе дый хва́ціць зь іх. Летысь за ўвесь год ну пужлівый казе іх пыкыта́лі. Няўжэлі вас ішчэ мала ну пуглівый казе пывазілі? Ніхай і ну пуглівый казе пыкыта́юць, кылі яны дужа такея. *Гл.* Н а к а з е в а з і ц ь.

**На пужлівай** (пуглівай) **казе ездзіць** (катацца), *іран., рэдкаўж. Невядома дзе разгульваць з перасцярогамі.* Я ні знаю, айдзе Паўлюк, можа ну пужлівый казе езьдзіць. Ён умеіць ну пужлівый казе кыта́цца. Вот нейдзі ж ну пуглівый казе езьдзіў, зря ты ні рузузна́ла. Па-мойму, нейдзі зы Сажом ну пуглівый казе кытаюцца. *Непаўн.* **На пужлівай** (пуглівай) **казе паездзіць** (пакатацца). Ціхій-ціхій, а вот пасьці год ну пужлівый казе паезьдзіў. І меншый ну пужлівый казе трошку пыкытаўся. Рызгаворыў ня хочыць, а ну пуглівый казе паезьдзіць хочыцца. Ён уремя пыдбіра́іць ну пуглівый

казе пыкытацца. *Законч.* **На пужлівай** (пуглівай) **казе ат'ездзіць** (адкатацца). Ты ж, знаць, уволю ну пужлівый казе ат'езьдзіў, што табе яшчэ нада. Ну пужлівый казе аткытáўся і сядзí ціха. Пры Шамыва ён цяперя ня думыіць, у горыдзі к нейкый прістроіўся, ну ніхай, ат'езьдзіць ну пуглівый казе. Дайжа етый зы два гады аткытаўся ну пуглівый казе. *Гл.* На казе ездзіць.

**На пужлівай** (пуглівай) **казе ехаць** (каціць), *іран., рэдкаўж. Дабірацца невядома як, але звычайна пехатой з перасцярогамі.* Нешта ён дужа доўга ну пужлíвый казе ехыў. Вы́йдзі-ка пыглядзí, ці ня коціць айдзе ну пужлівый казе. Можа вíдзіў ты майго, можа там едзіць ну пуглівый казе. Ці ета ты с-пыд Мазылыва каціў ну пуглівый казе атвечыра? *Зак.* **На пужлівай** (пуглівай) **казе прыехаць** (прыкаціць). Ну пужлівый казе пріедзіць, ён тут усё пірядзелыіць. Пыхвáстыйсь-ка, пыхвастыйсь, як ну пужлівый казе прікацíў. Ну вот ты і явíўся, ну пуглівый казе пріехыў. Можа ў суботу і мае ну пуглівый казе прікоцюць. *Гл.* На казе ехаць.

**На пужлівай** (пуглівай) **казе пад'язджаць,** *іран., рэдкаўж. Прымаць няўпэўненыя захады дагадзіць.* Яны ўсё ета ўремя ну пужлівый казе пыд'іжджáюць к Сямёну. Ён ня сьпец пряма зьдзелыць, доўга будзіць ну пуглівый казе пыд'іжджáць. *Гл.* На казе пад'язджаць.

**На пужлівай** (пуглівай) **казе паехаць,** *іран., рэдкаўж. Таемна знікнуць.* Ну хто ж іх знаіць, некуды ж ну пужлівый казе паехылі, можа калі і зыя́вюцца. Ды дужа яму хочыцца ну пуглівый казе паехыць. *Гл.* На казе паехаць.

**Напускаць дурную совесць.** *Рабіць, паступаць несумленна.* Ні нупускáй, чылавек, дурную совісьць, аддай пыхарошыму. *Зак.* **Напусціць дурную совесць.** Доўга яму нупусьцíць дурную совісьць, атрякецца, атхресьціцца, і нічога ні дыкáжыця. *Узмацн.* **Панапускаць** (панапусціць) **дурную совесць.** Як пунупускáюць дурную совісьць, што ж ты зьдзелыіш. Яны могуць скора пунупусьцíць дурную совісьць.

**На пустое бруха,** *неадабр. Не пад'еўшы.* Не, ну пустоя брюха ня хочуць брáцца за што. Каб ты ну пустоя брюха пыкыпáў, тады б інáчы запеў.

**На пустэй** (пустый) **жалудак** (жывот). *Не пад'еўшы.* Пыдажджы́, січас за́ўтрік, чаго йціць ну пустэй жалу́дык. Ні ўгываріла пысядзець мінутку, пабеглі ну пустэй жывот. Ня хочуць, ніхай ідуць ну пустый жалудык. Ну пусты́й жывот ня дужа ладна сядзець.

**Напхаць** (напіхаць) **карман,** *неадабр. Нажыцца несумленным шляхам.* Сколька ні пыбылі́, дык кырма́н ныпха́лі, дзіржа́лі ўсё ў сваіх руках. Ён думыў, ныпіха́іць кырман, а тама тож ні дуракі сядзелі, пыня́лі, у якей бок глядзі́ць. *Узмацн.* **Панапхаць** (панапіхаць) **карман.** Памойму, ні ўда́сца ім кырма́ны пыныпха́ць, іх скора раску́сюць. Пыныпіха́юць кырманы, а чаго ж ба яны інычы пашлі. *Гл.* Н а б і в а ц ь к а р м а н.

**Напхаць** (напіхаць) **машну,** *неадабр., кніжн. Нажыцца несумленным шляхам.* Адна забота і клапота адна — машну́ ныпха́ць пабольшы. Ета яны заду́мылі яшчэ раз ныпіха́ць машну. *Узмацн.* **Панапхаць** (панапіхаць) **машну.** Крепка пыныпха́лі машну, тварілі, што ім хацелыся, і бралі, сколька хацелыся. Другея б пыныпіха́лі машну, а етыя не, ня ўмеюць. *Гл.* Н а б і в а ц ь м а ш н у.

**На пціччых правах.** *У няпэўным становішчы, без надзейнай матэрыяльнай і маральнай падтрымкі.* Зразу ду́мылыся, што поўныя хызя́йка стала, а тады відзіць: акыза́лыся на пці́ччых прыва́х. Пріткну́ўся, жывець на пціччых прывах.

**На раду напісана.** *Вызначана лёсам.* Ім, знаць, ны раду́ напі́сына гурюва́ць. Што ны раду напісына, то й піряцерьпіш.

**На раздарожжы** (распуцці, перапуцці). *У нерашучасці, у ваганні.* Яны ў пасьледнія ўремя ны рыздарожжы, ні знаюць, за што бра́цца, што пычына́ць. Паку́ля йшчэ ны распу́цьці, можа паедзім, а можа атлажы́ць пр́ідзіцца. Вот ны піряпу́цьці, уремя пыка́жыць, што як дзелыць.

**На разных языках.** *Без імкнення і жадання разумець.* Есьлі вы бу́дзіця гываріць ны ра́зных ізыках, то ні разу ні сталку́іціся. Як толька тэй у хату зайшоў, у іх пычалося ны разных ізыка́х.

**Нарвацца на сваё.** *Атрымаць па заслугах.* Уходу ніяк ні було, ну й нырва́ўся ны сваё, ніхай цяпер па-

прыгыіць. Дурелі, дурелі, пакуля ны сваё нырва́ліся. *Незак., рэдкаўж.* **Нарывацца на сваё.** Нырыва́цца ны сваё ні хацеў, алі ж места сабе ні знаў нійдзе.

**Нарвацца** (наскачыць) **на свайго.** *Атрымаць па заслугах ад пэўнай асобы.* Вот і нырва́ўся ны свайго, ён цябе і ўняў, і наўчыў, як зь людзямі абрышча́цца пада. Помніш, як летыся яны ныскачы́лі ны свайго, ажно самі́м дзі́ўна було. *Незак., рэдкаўж.* **Нарывацца на свайго.** Ты ж і летысь нырываўся ны свайго, чуць абыйшлося табе, і січас бяресься за тоя самыя.

**На рогі пасадзіць** (уссадзіць, падняць). *Забасці.* Хадзі́, ды глядзі, ато ў мамент на рогі пасодзіць, аглянуцца ні пасьпеіш. Тыкая усігда́ была ціхыя карова, а тут пысадзіла яго на рогі, хырашо, што ні прабіла саўсім. Дужа ні храбрі́ся — удзержыш, так падніміць на рогі, што войкніш толька.

**На роўнай наге.** *Як роўны з роўным.* Адзін старэй, а другей мыладэй, а ўсё ўремя на роўный наге. Дужа мне якоя дзела, што Міця зь імі на роўный наге.

**На роўных правах.** *На аднолькавых умовах.* А чаго йта яны са мною на роўных прыва́х, ці яны так работылі, як я. Ня быў ты зь імі на роўных прывах і ня будзіш.

**На руках.** 1. *На ўтрыманні.* У мяне ну рука́х у адной чэцьвіра, а ў іх у дваі́х двоя, вот тут і рыўня́й як хочыш. 2. *У распараджэнні.* Каб у нас ну руках такея кыпіта́лы, і мы б варочылі ого як. Січас у іх бальшэя грошы ну руках. 3. *У іншых, не ў сябе.* Увесь інструмент ну руках. Мае мяшкі ну руках, німа, адзін во старёнуш выля́іцца.

**На руках насіць.** *Паважаць і любіць бязмежна.* Пынас быў мужык, ён сваю жонку ну руках насі́ў, іна відра́ вады ні ныбра́ла дайжа. *Абмеж.* **На руках панасіць.** Во Зьмітрок сваю пынасі́ў ну руках, што пра́ўда, то праўда. *Узмацн.* **На руках пранасіць.** Прынасі́лі цябе ну руках, толька нешта рыска́зывалі, сыма ны нашлег вадзі́ла. *Законч.* **На руках атнасіць.** Атнасі́ў ну руках, ніхай-ка цяперь сыма пабегыіць, пызна́іць, як дзяцей гудува́ць нялёхка. *Працягл.-фінальн.* **На руках данасіць.** Даносіць ну руках, дыўгыжда́іцца пыразі́ткі етый,— іна кініць яго і ні гля́ніць ні разу.

**На рукі.** *У распараджэнне, на ўтрыманне.* Аддаду́ць усе бума́гі на ру́кі і едзь куды хочыш, на ўсе чатыры сто-

рыны. Наця вам на́ рукі ўсё ета, ніхай яно будзіць ні ў нас. На ру́кі нам кінулі етых дзяцей, а ці наша сіла глядзець іх.

**На руку.** *На карысць.* Ты думыў, яму сагрозіш, а ета ўсё, што ты гываріў, яму на́ руку. Ім ба ну руку́, каб так пулучы́лыся.

**На руку не ўсплюнуць.** *Выявіць поўную няўдзячнасць.* Сколька чаго Высілёвы ім пірідáлі, дык яны ім і ну руку́ ня ўсплю́нулі. Угыждáй, ублыгытвыря́й, а ён табе ну руку ня ўсплюніць. **На руку ўсплюнуць.** Дажджэсься, палу́чыш ласку, ну руку табе ўсплюніць.

**На рыла,** *груб. На кожнага прысутнага.* Пы трыяку́ на ры́ла і ўвесь рызгавор. Пы паўлітра на ры́ла дайжа ні блізну́цца.

**На рэдкасць.** 1. *Выключны.* І хрáкцір, і ру́пыта, і ўсё чысьцінька вазьмі — на редкысьць чылавек. Яе жысьць на редкысьць, як зы кáмінныю гарою. 2. *Выключна.* На редкысьць зьдзелына, харошый сьпіцыяліст рукі пріла-жы́ў.

**На** [самам] **дзеле.** *Фактычна, у сапраўднасці.* Ду́мылыся, так луччы будзіць, а як на дзелі палу́чыцца, хто яе знаіць. Ты ны самым дзелі ідзеш зы Пынасёнка? Я тожа чула ўсё ета, толька ны самым дзелі там було пу-другому.

**На сваём** (сваім) **месце.** *У адпаведнасці з вартасцю і неабходнымі данымі.* Етый большы ны сваём месьці, чым Пятрок быў. Тут знаіш, хто быў ба на сваём месьці? — Ільля. Січас ён ны сваём месьці, наўчы́ўся і пыня́ў, як нада кірувáць. Хырашо, кылі ны сваім месьці, толька ці можна яму веріць ды кынца. *Гл.* Н а м е с ц е.

**На сваіх дваіх,** *жарт. Пехатой.* Паедзім, канешня, паедзім,— ны сваі́х дваі́х. Сядзеў, сядзеў, ды ня ўседзіў, ны сваіх дваіх пріка́ціў, вуна ён.

**На сваіх нагах.** *У стане, які не патрабуе спецыяльнага догляду.* Кылі ны сваіх ныгáх, дык нічога, а як звá-лісься, тады ўсё. Шчытáй, ны сваіх ныгах і памёрла. Пакуля ны сваіх ныгах, ну, ві́дна, вот-вот звáліцца.

**На сваю галаву.** *На турботы, на клопаты, на бяду.* Узілá пріпáдка ны сваю гылаву́, дзяцей нуструга́іць і пойдзіць. Нашто ім тыкая абу́за ны сваю гылаву.

**На сваю шыю.** *На ўтрыманне і поўны догляд.* Пызавеш ны сваю шыю, тады ня выпріш. Бяру́ць ны сваю шыю, ніхай бяруць, мы ўка́зывыць ня будзім, ну посьлі ніхай ні жа́люцца.

**На свежую галаву** (памяць). *У стане бадзёрасці, пасля адпачынку.* Ла́дна, мы на сьвежыю гылаву паду́мыім, за́ўтря ска́жым. Пухтаpí на сьвежыю гылаву, скарей запомніш. На сьвежыю паміць у два разы скарей вы́ўчыш.

**На свет не глядзець.** *Пра пачуццё адчаю, злосці, нянавісці.* Як паду́мыю пры яго жысьць, п'я́нкі етыя, на сьвет ба ні глядзеў. Праходзіць міма і на сьвет ні глядзі́ць. Ужо другей месіц на сьвет ні глідзя́ць.

**На свой рыск.** *З разлікам толькі на сябе.* На свой ріск ён ці ня хочыць, ці баіцца прыдыва́ць. Як жа я на свой ріск зьдзелыю, ніхай ра́зым падумыюць.

**На свой страх** [і рыск]. *З разлікам толькі на сябе.* Я скызала яму, едзь на свой страх, ежылі хочыш. Мы ўмешывыцца ні ста́нім, дзелый на свой страх і ріск. Думылі, думылі, дый купілі на свой страх і ріск.

**На свой шчот.** 1. *У асабісты адрас.* Хто што ні ска́жыць, усё прініма́юць на свой шчот. Гыварілі пры Сыўчынка, а ён узяў на свой шчот. 2. *За ўласныя сродкі.* На свой шчот січас я ні магу еткыю хату купляць. *Параўн.* Прынімаць на свой шчот.

**На святэй** (святый) **Адам,** *жарт. Ніколі.* Пыдажджы́, пастой трошку, палу́чыш, я табе аддам ны сьвятэй Адам. У твайго сьвёкыра палучыш ны сьвятэй Адам. Зыга́дывый ны сьвятый Адам, можа што й будзіць.

**На секунду** (секундачку). На вельмі кароткі час. Ны сіку́нду нільзя атвярну́цца,— еткій крікл́івый дзіцёнык. Пойдзіць ны сікунду, а прысядзі́ць цэлый вечыр. Ны сікундычку забегла к сваім, і ўжо бурчы́ць: айдзе была.

**На семя.** *Для разводу.* Ш чорных курей ні кіда́й пітуха на семя. На хутырі мы ўсігда свайго быра́нчыка дзіржа́лі на семя. На семя трошку блюду́ кынапель. Міръкува́ла, міръкувала, і на семя квасолі ні аста́лыся, зы зіму́ пыдыбра́лыся неік.

**На сёмым небе.** *Невядома дзе ад радасці, шчасця.* Ві́дна, відна, пы выча́х пызнаіш, што вы на сёмым небі

сяньня. Іна ўсё ўремя на сёмым небі: Коля пріїжджаіць. Скажы, што Шурка прідзіць, ён зразу будзіць на сёмым небі. *Парайн.* П а п а д а ц ь н а с ё м а е н е б а.

**Насіцца з лялькаю.** *Мучыцца з хворай рукой ці нагой.* Пальцы апшпáріў, трецьцій дзень носіцца зь ля́лькыю. *Непайн.* **Панасіцца з лялькаю.** Пынасíўся зь лялькыю, як шырáхнуў тыпаром, дзіржáў нагу як дуду. *Законч.* **Атнасіцца з лялькаю.** Атнасíўся зь лялькыю, зыжыло, толька пальцы крю́кым, ня гнуцца.

**Насіць ваду ў рэшаце** (рэшатам), *неадабр. Займацца бескарыснай, пустой справай.* Хвáціць вам насíць ваду ў решыці, за дзела пырá ўзяцца. Яе зыня́ція ізьвесна — у решыці ваду насіць. Во пычалі ваду решытым насíць. *Непайн.* **Панасіць ваду ў рэшаце** (рэшатам). Ух, хвацілі, ваду ў решыці пынасíлі. Ваду решытым яны пынасілі, твае стыря́ньнікі. *Законч.* **Атнасіць ваду ў рэшаце** (рэшатам). Жджы, пакуля яны атносюць ваду ў решыці. Ці ты яшчэ ні атнасіў ваду решытым? *Працягл.-фінальн.* **Нанасіць** (данасіць) **ваду ў рэшаце** (рэшатам). Нынасíлі ваду ў решыці, толька дзела стáла. Даносіць ваду ў решыці, што печ ні паспеіць прукуріць. Дынасіла ваду решытым, глядзіць паследнія ўремя, айдзе што зырвáць, а тута ніяк ні ўдаецца.

**Насіць на языку.** *Шырока нядобразычліва абгаворваць.* Ніхай толька пупаду́ць каго, доўга будуць насіць ны ізыку. *Непайн.* **Панасіць на языку.** Пынасíлі Мітрыхвана ны ізыку, доўга помніць будзіць. *Абмеж.* **Пранасіць на языку.** Усё лета прынасíлі ны ізыку, костычку па костычкі пірямылі. *Законч.* **Атнасіць на языку.** Большы ныўряд ці атнасíлі каго так ны ізыках, як Сямёна.

**Насіць пры сабе.** *Не выказваць.* Як што ня церьпіць, усё носіць прі сабе, ізыком ня трепліцца. *Непайн.* **Панасіць пры сабе.** Чаго ні пынасíла прі сабе, а муўчáла, нікоміньку ні слова. *Законч.* **Атнасіць пры сабе.** Атнасíла я прі сабе і зьнівáгі, і лáінкі, і чаго толька ні атнасíла. *Працягл.-фінальн.* **Данасіць пры сабе.** Будзіць цярьпець, нічога ні гываріць, а калі-небудзь прідзіць уремя, даносіць прі сабе. *Гл.* Д з я р ж а ц ь п р ы с а б е.

**Насіць хвост палкаю,** *жарт., рэдкайж. Трымацца ўпэўнена, ганарыста.* Прі Цімоху ого насілі хвост пáлкыю. *Непайн.* **Панасіць хвост палкаю.** Доўга хвост пал-

кыю ні паносюць, нечым саўсім зыдывáцца. *Законч.* **Атнасіць хвост палкаю.** Што тута ім хвáстыцца, у Пірядніні яны атнасілі хвост палкыю. *Працягл.-фінальн.* **Нанасіць** (данасіць) **хвост палкаю.** Нынасілі хвост палкыю, дайжа вушы апусьцілі і вочы чуць пыднімаюць. Прі Полькі даносіць хвост палкыю, іна унімáць умеіць. *Гл.* Дзяржаць хвост трубою.

**На склоне жызні,** *кніжн. У старасці.* Што ўжо на склоні жызьні дýмыць пра нейкія ныряды. Я б на склоні жызьні ні задýмывыла такога.

**На скорую руку.** *Наспех.* На скорыю рукý сыбярі чаго, нада йціць. Есьлі толька на скорыю руку, а прісмáкыў гатовіць тут некылі.

**На славах** (словах). *У размове, вусна.* Ны слывáх так харош, што луччы пыіскáць толька, а як даходзіць да дзела, саўсім другоя стáніць. Ны слывах усё выходзіць луччы некуды. Пірідай ны слывах, што я тут буду пісаць. Каб такім быў на дзелі, як на словых.

**На славу.** 1. *Вельмі добры.* Ны слáву пляцень вы́йшыў, дзесіць гадоў прыстаіць. 2. *Вельмі добра.* Атріманьціравыны калёсы ны славу, як новінькія сталі. Ны славу атмыстáчыў, як новінькія выйшлі. Ны славу пыработылі с косымі.

**На след не наступаць.** *Не жадаць сустракацца або мець што-н. агульнае.* С таго ўремя каторый год адна другой на сьлед ні нуступáюць. **На след наступаць.** Ня то гыварíць, на сьлед нуступáць працíўна, айдзе йна пройдзіць. *Зак.* **На след не наступіць.** Я ўжо гляджý, каб на сьлед ні нуступíць, ніхай іх ломым вы́лыміць. **На след наступіць.** Свае, свае, етыя свае так збры́дзіліся, што ня хочыцца на сьлед нуступíць.

**На слова.** *На ненадзейныя запэўненні.* Мітрыхвану дужа на слова ня верь, ён лісíцыю пыдмáжыцца, а тады аткáжыцца: ні я, ні знаю, ня чуў. Я дýмыў, ён чылавек, як чылавек, на слова пыклáўся.

**На совесці.** *На маральнай адказнасці пэўнай асобы.* Ніхай аткáзывыіцца — ні атказывыіцца, а Шуркіны мяшочкі ны яго совісьці. На іх совісьці многа чаго ляжыць.

**На совесць.** 1. *Вельмі добра (рабіць).* Хуць узялі дорга, ну зрубілі на совісьць. Што ня дзелыіць, дык дзелыіць

на совісьць. 2. *Без гарантый (верыць).* Паверіць на совісьць — тут смытря́ каму: кылі чэсный, дык усё хырашо будзіць, а можыш і на жу́ліка ныскачы́ць. Мы верілі на совісьць, дык во ікая ў яго совісьць.

**На сон градушчый,** *жарт. Перад сном.* Ну-ка на сон грядушчый рыскажы што-небудзь новінькыя. Дывай на сон грядушчый пы ча́рычкі возьмім.

**На сонца глядзець** (паглядаць, паглядываць), *гумар. Ленавацца, гультаяваць.* Што ж твой Пракопчыкыў дзелыіць, на сонца глядзіць. Любіў пыгліда́ць на сонца, ці ета ніпра́ўда. Яму большы ныра́віцца на сонца пыглядывыць, касіць ня ду́жа.

**На спакоі.** *У адпачынку па старасці.* Мацьвей ны спакоі, ён атработыў сваё. Ці буду ўжо я калі ны спакоі: і ў аднае дзеці, і ў другея дачкі малыя пасыпыліся — нада пымыгаць.

**На спакой.** *На адпачынак па старасці.* Айдзе тут пойдзіш ны спакой, кылі кругом клопыты, заботы. Пыра́ выпрыўля́цца ны спакой, я сваё з зыпа́сым атработыў.

**Настаіваць на сваім.** *Цвёрда абараняць уласную думку, меркаванне, пункт погляду.* Усігда ныста́івыіць ны сваім, кылі скажыць, цьвёрдый на словы. *Зак.* **Настояць** (настаяць) **на сваім.** Настоіць ны сваім ня ўмеіць, хто як скажыць і ён усьлед. Як яны ні бурчэлі, як ні крівіліся, а ныстыя́ў ны сваі́м.

**Насталіць зубы,** *груб. Надаваць па мордзе.* Ён жа насі́ўся, места ні знаў нійдзе, пакуля ныста́лілі зубы. І яшчэ раз ныста́люць зубы, дажджэцца.

**На старане.** *У іншым месцы.* І тут хвыта́іць, і ны стыране стыря́іцца, дужа ўжо прыспалі́т. Глядзі́ць, каб ны стыране што заробіць.

**На старану** (сторану). *Не па прызначэнню або для выканання іншымі.* Ны стырану́ некуды сплавілі сукенца. Большы ны стырану пашло, чым у дваре аста́лыся. Сукно валіць аддыва́лі ны стырану. Самі зьдзелыім, хто яго знаіць, як палу́чыцца на сторыну.

**На старасці гадоў.** *У пажылым узросце.* Узду́мылі вы ны старысьці гадоў с труса́мі вазі́цца. Якея тут пріборы ны старысьці гадоў, што пупа́ла, то й надзела.

**Настаўляць** (напраўляць) **на вум** (розум, пуць). *Даваць разумныя парады.* Нада ныстыўляць на вум, самі яны ў жызьні ішчэ мала смысьлюць. Каму яго там було ныстыўляць на розум. Відзіш, як ныстыўляіць свайго на пуць,— ныстыўляй, ныстыўляй, адукуіш яго. Як Матруна рядым жыла, нупруўляла на вум, а як паехыла, так і ссыбачыўся. Слухыць нісколічка, хут ты яго укусі, ня хочыць, як тут нупруўляць на розум. Нупруўляў на пуць, пакуля сам тою ж дарожкыю пашоў. *Зак.* **Наставіць** (направіць) **на вум** (розум, пуць). Пабыў тут, дык троху ныставіў на вум. Каго там ныставіш на розум, раз іна шылымша шыламшою. Есьлі ў сымаго ны плічах гылавы німа, то трудна ныставіць на пуць. Ныправіця вы яго на вум, зьдзелыіця што, паслухыіць ён, тэй самый. Некыму було змалку ныправіць на розум. Ныпраўлю на пуць ці ні ныпраўлю, а пыгыварю. *Узмацн.* **Панастаўляць** (панаставіць, панапраўляць, панаправіць) **на вум** (розум, пуць). Нада паехыць ды хуць на вум пыныстыўляць,— прыпадуць. А чаго ж ты сыма на розум ні пыныстыўляла? Мы пычалі гыварíць, а ён круць і пашоў,— во й пыныстыўлялі на пуць. Што б там і було, каб вы ні пыныставілі на вум. Січас пыныставюць на пуць, усёю хеўрыю сыйшліся. Каго ўжо вы толька ні пунупруўлялі на вум. А дзядзькі ўсё-тыкі пунупруўлялі іх на розум. Як пунупруўлялі на пуць, дык пылаўчэлі і ў жызьні, і з работыю. Ты за імі большы глядзí, ато пыныправюць там на розум. Ета тэя, зысыжанскія родзічы, пыныправілі на пуць.

**Настаўляць нос.** *Бессаромна, відавочна падманваць.* С усіх бакоў нос яму ныстыўляюць, як глумаку якому. *Зак.* **Наставіць нос.** Эх ты, дзеўкі табе етык ныставілі нос, а ты церьпіш. *Узмацн.* **Панастаўляць** (панаставіць) **нос.** Пыныстыўляюць нос тваім разумнікым, аж дзівіцца будзіш. Во й малыя: кругом пыныставілі нос бульшунам.

**Настаўляць рогі,** *іран. Здраджваць мужу.* Уся чыста вярцёлка, пы мамі ўрадзілыся, будзіць ныстыўляць рогі, а ён хлопыць вушамі будзіць. *Зак.* **Наставіць рогі.** А й ніхай сабе, што ныставіла рогі, сам што вытвыряў. *Узмацн.* **Панастаўляць** (панаставіць) **рогі.** Абоім пыныстыўлялі рогі хвалёныя іхныя. Пыныставюць рогі і вам, большы патворы дывайця.

**Настаўляць** (ставіць, напраўляць, вывадзіць) **на пуць ісцінный,** *жарт. Давацъ разумныя парады.* Во як узя́ліся ныстыўля́ць на пуць ісьцінный, круціцца, аж пішчыць. Ета яны ўчора зяця свайго ста́вілі на пуць ісьцінный. Усё нупруўля́юць на пуць ісьцінный Сямёна. Раз Коля ўзяўся вывадзі́ць на пуць ісьцінный, жджы толку. *Зак.* **Наставіць** (паставіць, направіць, вывесць) **на пуць ісцінный.** Ці ныста́вілі цябе сваты на пуць ісьцінный? Як возьміцца, січас пыста́віць на пуць ісьцінный, хочыш, разым піць стануць. Ім нядоўга ныпра́віць на пуць ісьцінный каго ты хочыш, любога. Аднаго ўжо ныпра́вілі на пуць ісьцінный, зу другога бяруцца. Чуць яго ня вы́вілі на пуць ісьцінный, каб трошку, сеў ба разым. *Узмацн.* **Панастаўляць** (панаставіць, панапраўляць, панаправіць, павывадзіць, павывесць) **на пуць ісцінный.** Пыныстыўля́лі на пуць ісьцінный, хуць нызад атву́чывый бяры́ся. Ну-ка, як вы іх тута пынcourtыста́вілі на пуць ісьцінный? Я віджу, што вас пунупруўля́лі, на пуць ісьцінный. Пыныправілі на пуць ісьцінный, большы ня скрі́вюць у бок. Етыя пывыводзюць на пуць ісьцінный, на́ўчуць на пень бріха́ць ны калоду ту́кыць. Павы́вілі на пуць ісьцінный: хлешчуць умесьці як у леічку. *Гл.* Н а с т а ў л я ц ь н а в у м.

**Настаўляць** (тапырыць, растапырываць) **вушы,** *іран. Прыслухоўвацца, уважліва слухаць.* Прігледзьціся, як ён усякій раз вушы ныстыўля́іць, так і глядзі́ць, каб пацслу́хыць. І тэй збоку тапы́ріў вушы,— дужа яны Верычкыю аньцірісу́юцца. Айдзе хто што гаворіць, і ён рыстапы́ріець вушы. *Зак.* **Наставіць** (натапырыць, растапырыць) **вушы.** Гывары́ця вы, тапы́ря: Аўдотка зыйшла, дык толька пыдзіві́цца було, як вушы ныста́віў. Ну чаго вы нытапы́рілі вушы, тут ні длі вас рызгаворы. Дужа любапы́тныя, вушы рыстапы́ріла. *Узмацн.* **Панастаўляць** (панаставіць, панатапырываць, панатапырыць, парастапырываць, парастапырыць) **вушы.** Пыныстыўля́лі вушы, січас, думыюць, ніізьвесна што тут пачу́юць. Пойдзім, я табе дарогыю рыскажу́, тут січас вушы пыныста́вюць. Ніхай слу́хыюць, дужа я баюся, есьлі яны вушы пынытапы́рівыюць. Пымяніця суседку, пынытапы́рюць вушы са ўсіх старон. Як зыгываралі пры Пынасывых, усе кругом пытапы́рілі вушы. Пырыстапы́ріюць вушы і стыяць, усё дно як і ўнімáнія ні брышча́юць. Большы вушы пырыстапырьця, раз іньціресы бяруць ціряшчур.

**На сто процантаў** (працэнтаў). *Пра вельмі добрае, выключнае.* На сто процынтыў мужык: і лі печы як хызяйка, і ны дваре хызяіным, і зы скатом сам, іна толька цырканець карову. На сто процынтыў баня выйшла, дух вун як дзяржы́цца. На сто працэнтыў здзелыю, мне толька зыхацець ды ўзяцца.

**На стрыжанай** (смаленай) **казе аб'язджаць,** *неадабр., рэдкаўж. Няўмела выяўляць пашану.* Вы пыдзікýйцісь-ка ны яе, ета ж новыя нычáльства на стры́жыный казе аб'іжджáіць. Хуць кальжэюць, зато ж ны смáліный казе аб'іжджаюць. *Гл.* На казе аб'язджаць.

**На стрыжанай** (смаленай) **казе вазіць** (катаць), *неадабр., рэдкаўж. Просталінейна дагаджаць.* Узя́ліся — сьмешна було, як яго на стрыжыный казе кытáлі. Пыжывеш тут дык увíдзіш, як возьмуцца ны смаліный казе вазіць. Сямёнывых усё ны смаліный казе кыталі, зьбірáліся стаць родзічымі. *Непаўн.* **На стрыжанай** (смаленай) **казе павазіць** (пакатаць). Ніхай трошку на стрыжыный казе павозюць, хуць людзі пысьмяю́цца. А вас нічога на стрыжыный казе пыкытáлі. Пывазíлі ны смаліный казе Вульку і ацступíліся скора. Яны і вас ні забудуць, ны смаліный казе пыкытаюць. *Гл.* На казе вазіць.

**На стрыжанай** (смаленай) **казе ездзіць** (катацца), *груб., рэдкаўж. Невядома дзе знаходзіцца, разгульваць.* А твой сват на стрыжыный казе ня езьдзіць? Ідзі ўзноў на стрыжыный казе кытайся. Ён ны смаліный казе езьдзіць, дык я дужа буду біспакоіцца. Можыш іціць ны смаліный казе кытацца, ніхто ні задзержыіць. *Непаўн.* **На стрыжанай** (смаленай) **казе паездзіць** (пакатацца). Ну вымáтывыйся, раз хочыцца на стрыжыный казе паезьдзіць. Пыкытáўся на стрыжыный казе і іўля́іцца — нада ён мне такей. Ны смаліный казе паезьдзіў і нешта нісмáшна стала, прівалокся. Хвáціць ны смаліный казе пыкытаўся, дзяцей гадýй. *Законч.* **На стрыжанай** (смаленай) **казе ат'ездзіць** (адкатацца). Ат'ездзіў на стрыжыный казе ды ўжо, знаць, нійдзе ні нада стаў. Ці ні аткытáўся на стрыжыный казе, учора нешта доўга агонь гареў. Ныўря́д ці дажджэсься, што такей аторва ат'езьдзіць ны смаліный казе. Ны смаліный казе аткытаўся, ну сь сям'ёю ня думыю, каб жжыў. *Гл.* На казе ездзіць.

**На стрыжанай** (смаленай) **казе ехаць** (каціць), *неадабр., рэдкаўж. Невядома як дабірацца, але звычайна пехатой.* Сыбіра́йся ўгышча́ць, тваe, кызалі, на стрыжыный казе едуць. Відзіш, іўля́юцца, на стрыжыный казе коцюць. Ны смаліный казе ехылі ўчора пад вечыр, у пылі́ па ву́шы. Іду с кустоў, а ён коціць наўстречу ны смаліный казе. *Зак.* **На стрыжанай** (смаленай) **казе прыехаць** (прыкаціць). Ну як жа, пры яго ўсе ду́мылі, дыжыда́лі: вот-вот на стрыжыный казе пріедзіць. Пріка-цілі на стрыжыный казе, атмува́юцца ны дваре. Ны сма-ліный казе пріедуць, тады ўжо ныглядзі́сься. Ду́мыю, што там у іх такоя, ажно ета Андрей ны смаліный казе прікаціў. *Гл.* Н а к а з е е х а ц ь.

**На стрыжанай** (смаленай) **казе не пад'ехаць,** *груб., рэдкаўж. Невядома як падысці (да ганарлівага).* Зяць у ныча́льстві, то ды яе на стрыжыный казе ні пад'ехыць. Ета табе ні з Ганныю, тута ны смаліный казе ні пад'-едзіця. **На стрыжанай** (смаленай) **казе пад'ехаць.** Ну йдзі, можа на стрыжыный казе пад'едзіш. Дайжа ны смаліный казе пад'ехыць нілізя́, во якея зыда́чы. *Гл.* Н а к а з е н е п а д ' е х а ц ь.

**На стрыжанай** (смаленай) **казе пад'язджаць,** *рэдкаўж. Груба дагаджаць.* Сьпірва́ я ні пыняў, чаго яны ста́лі на стрыжыный казе пыд'іжджа́ць. У яго ўжо ў крыві такоя, каб ны смаліный казе к нычальству пыд'іж-джаць. *Гл.* Н а к а з е п а д ' я з д ж а ц ь.

**На стрыжанай** (смаленай) **казе паехаць,** *груб., рэдкаўж. Знікнуць пехатой.* Са ўсімі людзя́мі ні зыхаце-лі, паехылі на стрыжыный казе. Січас ны смаліный казе паехылі, дыгыня́й, калі хочыш. *Гл.* Н а к а з е п а-е х а ц ь.

**На стрыжанай** (смаленай) **казе праехаць** (пракаціц-ца), *неадабр., рэдкаўж. Заганарыцца зусім дробязнай справай, учынкам.* Відзіш, на стрыжыный казе праехыў, дык ён стаў луччы ўсіх. Чаго ж ні зыдыва́цца, на стры-жыный казе прыкаці́ліся ўсёю бражкыю. Будзіць хвы-стаўство большы некуды, як ны смаліный казе праедзіць. Сяньня ты к яму ні пуцступа́йся: ны смаліный казе пры-каціўся. *Гл.* Н а к а з е п р а е х а ц ь.

**Наступаць на горла** (глотку). *Груба, нахабна дама-гацца.* Зразу яшчо нічога, а тады дыва́й нуступа́ць усім

на горла: бяссовісныя і ныха́льныя. Я ні знаю чаго,—ён нуступа́іць на глотку, а яны трыва́юць. *Зак.* **Наступіць на горла** (глотку). Як сабе хочыць ніхай ска́чыць, а мне на горла ні насту́піць. Мала ты знаіш яго: на глотку любому нуступіць гатоў. *Гл.* Б р а ц ь з а г о р л а.

**Наступаць на мазоль** (пальцы). *Закранаць тое, што хвалюе, турбуе.* Ні нада яму нуступа́ць ны мазоль зь естымі жардзінкымі, ніхай яны згыря́ць. Любіў нуступа́ць ны пальцы Зьмітраку, дражні́ць яго. *Зак.* **Наступіць на мазоль** (пальцы). Як нуступілі ны мазоль, рызыйшоўся: я вас ня трогыю, і нечыга мне пымінаць тоя. Ня любіць, як насту́пюць ны пальцы — пымяну́ць Таньку.

**Наступаць на пяткі** (пяты), *жарт. Даганяць у працы.* У любым дзелі нуступа́юць яму ны пя́ткі, нейкій дужа нірызваротлівый. Сьпяшы́, табе нуступаюць ны пяты, вот-вот дагонюць і пірягонюць.

**Наступаць на хвост,** *іран. Закранаць інтарэсы, абмяжоўваць.* Нісма́шна, як сымаму́ нуступа́юць на хвост, зубурчэў ого як. *Зак.* **Наступіць на хвост.** Можа калі й нуступілі на хвост. Дужа маё дзела, есьлі яму насту́пюць на хвост.

**Наступаць на язык,** *іран. Прымушаць змоўкнуць.* Стыхван трошку іх прідзержывыў, нуступа́ў ны язык. *Зак.* **Наступіць на язык.** І нада було, каб нуступілі ны язык,— настолька рыссыба́чыўся, трепліць, што пупа́ла.

**Наступіць на пробку,** *гумар. Выпіць.* Нейдзі ж ім, відзіш, пупа́лыся, нуступілі на пробку. Нуступіў на пробку, сь песьнімі йдзець. *Незак., адзінк.* **Наступаць на пробку.** Усе гады ён ні прупуска́ў, нуступа́ў на пробку.

**На сябе і ў сябе.** *Для асабістага карыстання, ужывання.* Ны сябе і ў сябе нада заробіць, само ня прідзіць. Як ні хаці́, а нада глядзець ны сябе і ў сябе.

**На табе,** *адз., мн. Пра здзіўленне ад нечаканасці.* На́ табе, і тут ні сыбразілі, як зьдзелыць. Усё так хырашо ішло і на табе, абырва́лыся. На́ця вам, ён ужо тут.

**На тое места сесць.** *Вярнуцца да ранейшага стану.* Пушуміць, пушубуціць і на тоя места сядзіць. Што іх рызгаворы, пыгаворюць ды на тоя места сядуць. *Незак., рэдкаўж.* **На тое места садзіцца.** Зь віду ён такей: ні пытхадзі́, а ўсігда на тоя места садзі́цца.

**На тошчый жалудак,** *кніжн. Не пад'еўшы.* На еткій дзень вы́прывіліся на тошчый жалу́дык, айдзе ж таго здароўя хацець. Пыбігіцё на тошчый жалудык, дык у кырман што-небудзь вазьміця. *Гл.* На пустэй жалудак.

**На тым** (том) **месце сесць** (асесца). *Прыйсці да ранейшага стану.* Айдзе ён дзеніцца, папры́гыіць троху дый на тым месьці сядзіць. Быў зыпылі́ў сьпірвá: пайду́ ў суд, а цірязь дзень на том месьці сеў. Што ён зьдзелыіць, паходзіць і на тым месьці ася́дзіцца. *Незак., рэдкаўж.* **На тым** (том) **месце садзіцца.** А сколька разоў яны на тым месьці садзі́ліся, ета хра́кцір такей, каб рызіва́цца. Сьпірва шубуці́ць, а посьлі на том месьці садзі́цца. *Гл.* На тое места сесць.

**На** (ува) **ўвесь голас.** *Вельмі гучна, колькі моцы, сілы.* Я чуў, у тым баку нехта крічáў на ўвесь голыс. Чаго ён там на ўвесь голыс гырла́іць? Ува ўвесь голыс нечыга глоткі дра́лі.

**На** (ува) **ўвесь дух.** *Вельмі шпарка.* На ўвесь дух як пу́сьціцца ўсьлед, ён ба кыня дыгна́ў. Гнаў кыня ува ўвесь дух. Ува ўвесь дух ляцелі туды, ны Пыдгародзьдзя.

**На** (ува) **ўвесь рост.** *Прама, адкрыта.* На ўвесь рост як пыдняўся, пасьці столь дыста́ў гылавою. Ува ўвесь рост сталі і пашлі́, чаго нам быя́цца. Белыя ны нас пруць ува ўвесь рост, а мы іх косім як снапы́.

**На** (ува) **ўме не было,** *адз., мн. Пра адсутнасць задумы або намеру.* У нас дайжа на ўме ні було гывары́ць што-небудзь пры Варкіных сыноў. Выду́мывыйця, што хочыця, іна у мяне і на ўме ні была ні ра́зу. Ува ўме ні былі мне твае кычаны́, чаго ты прікыса́лыся к маёй душэ.

**На ўвесь рот.** *Вельмі гучна.* Крічы́ць на ўвесь рот ніізьвесна чаго. На ўвесь рот як га́ркніць, мы ажно пупужа́ліся. Доўга на ўвесь рот рігыта́лі.

**На ўвеце.** *На прыкмеце, у памяці.* Калі што на ўвеці бу́дзіць, абіза́цільна пірікажы́ мне, я прібягу́ пыгляджу́. У мяне ёсць на ўвеці пытхыдзя́шчыя карова. Січас нічога німа на ўвеці.

**На ўзводзе.** *У стане ап'янення.* Ні выля́ліся, ну ладна былі на ўзводзі. Раз прішоў на ўзводзі, другей раз пыч ча́ркыю, трецьцій раз пад му́хыю,— сколька ж мне такоя пірінасі́ць.

**На ўзгляд.** *Знешне, на першае ўражанне.* Як табе, ні знаю, а мне йна ны ўзгляд пыгля́дныя дзеўка. Знаіш, што я табе скажу́: ны ўзгляд часта бува́іць адно, а на дзелі саўсім другоя ака́зывыіцца.

**На ўрэмя.** *У часовае карыстанне.* Дай-ка ты мне на ўремя свайго руба́нка, я скора вярну́. Браў на ўремя, а аддаць і ціряз год ня ду́мыіць.

**На ўсе гужы** (гужыкі), *жарт. Вельмі старанна, ахвотна.* Рызыйшоўся на ўсе гужы́, за́ дзінь стог пірякі́дыіць. На ўсе гужы бяру́ць, стыря́юцца, хочуць ну буты́лычку зуслужы́ць. Работа кіпіць на ўсе гу́жыкі.

**На ўсе лады.** *Усяляк, усялякім манерам.* Так рысхва́лівылі на ўсе лады, ажно слу́хыць тошна було. На ўсе лады яму пелі, што ён і такей, і еткій — самый лу́ччый. Бушма́цюць на ўсе лады.

**На ўсе чатыры** [стораны]. *У любы бок, куды захочацца.* Можыш выбіра́цца на ўсе чатырі, гурюва́ць ня будзім. Я дзіржа́ць ні стану, вун бог, а вун парог, кыта́й на ўсе чаты́рі сторыны. Табе вольныя дарога на ўсе чатырі сторыны.

**На ўсё горла,** *груб. Вельмі гучна (крычаць).* Вот рыспысьціра́іцца на ўсё горла, спакою ні на́йдзіць. Крічя́лі на ўсё горла, трябу́шша рва́лі нечыга.

**На ўсіх парах,** *звыч. гумар. Вельмі шпарка (рухацца).* На ўсіх пыра́х імчы́цца, толька пыхці́ць,— гарелычкыю зыпа́хла. Гані на ўсіх пыра́х, ета ж ны сва́дзьбу, а ні куды-небудзь.

**На ўсіх** (усе) **сто** [процантаў (працэнтаў)], *жарт. На выдатна, самай лепшай якасці.* Ні глядзі, што мурза́тый, зь яго вы́йдзіць хлопіц на ўсіх сто. На ўсе сто была вічарі́нка: гырманіст дужа харошый і дзевык многа сыбра́лыся. Як рысхва́люць, на ўсіх сто процынтыў жані́х, а тама і глядзець не ны кыга. Ну-ка, ну-ка, і мы ві́дзім, што на ўсіх сто працэнтыў баня: у прымы́льніку цяплей, чым у ёй. Яны табе на ўсе сто працэнтыў атмыстя́чуць сенцы.

**На ўсю глотку,** *груб. Вельмі гучна (крычаць).* Узноў рыспысьцірáіцца на ўсю глотку, як толька яе зімля́ носіць. І біс прíчы́ны будзіць крічаць на ўсю глотку. *Гл.* Н а ў с ё г о р л а.

**На ўсю жалезку,** *запаз., рэдкаўж. У поўную меру (пакараць).* Укацілі на ўсю жалезку, наседзіцца, хвáціць. *Гл.* Н а ў с ю к а т у ш к у.

**На ўсю іванаўскую.** *Вельмі гучна (крычаць) або вельмі моцна (шумець).* На ўсю іва́ныўскыю крічаць, ажно поля рызьлігáіцца. Што там случы́лыся, крік на ўсю іваныўскыю. Рызыйшоўся на ўсю іваныўскыю, ныстыяшчый выяка ўзяўся.

**На ўсю катушку.** *У поўную меру (пакараць).* Як прíпыя́юць на ўсю катушку, схва́ціць гадоў пяць, тады пыка́іцца. Пулучы́ў на ўсю кату́шку.

**На ўсю сілу.** *Вельмі напружана, моцна.* Стыря́ліся на ўсю сілу, сьпяшы́лі, каб **г** бульбі накры́ць пуню, і каб трошычку, ні пасьпелі б. На ўсё сілу ляцелі, ду́мылі спызьня́імся. Каб ня беглі на ўсю сілу, і ўсё б, нізашто ні пасьпелі б, а так во, глядзі, пріедзім. Як на ўсю сілу зыкрічáў, тады аччапíліся.

**На ўсякій** [пажарный] **случай.** *Для перасцярогі або нечаканай патрэбы.* Нада було б ны ўся́кій случый ныпіса́ць пару слоў. Вазьмі ны ўсякій случый, мала што ў дарогі случы́цца. Ны ўсякій пыжа́рный слу́чый уськінь ны калёсы. Ніхай выля́іцца ны ўся́кій пыжа́рный слу́чый.

**Нахадзіць** (знахадзіць) **дзірку.** *Лоўка, са спрытам выходзіць са складанага становішча або ўладкоўваць сваё становішча.* Вы ўсякім дзелі находзюць дзірьку. Дайжа там зныхадзіў дзірьку, айдзе, кажыцца, і чорт ба ня вы́круціўся. *Зак.* **Найціць** (знайціць) **дзірку.** Айдзе-то найшлі дзірьку, пралезьлі. Раз прыбіўнэй, то знайдзіць дзірьку, яму каб толька зычапіцца троху. *Множн.* **Панахадзіць** (пазнахадзіць) **дзіркі.** Ні там, дык там дзірькі пынаходзюць, пыпрыла́зюць і ўстроюцца. Яны ўжо дзíрькі пызныхадзíлі, ты луччы сябе глядзí.

**Нахадзіць** (знахадзіць) **обшчый язык,** *кніжн. Дамаўляцца пасля значных супярэчнасцей, рознагалосіцы.* Трудна зь імі ныхадзíць обшчый язык. Толька Пятрок умеў зныхадзíць зь ім обшчый язык. *Зак.* **Найціць** (знай-

ціць) **обшчый язык.** Мыхалею вярзець, што ён усё знаіць, дык паспробый найціць обшчый язык. Зна́йдзіш ты зь імі обшчый язык, есьлі і слу́хыць ня хочуць. *Узмацн.* **Панахадзіць обшчый язык.** Зыхацелі, дык пыныхадзі́лі обшчый язык, і патход аткуль узя́ўся.

**Нахадзіць** (знахадзіць) **пекла** (пятлю, пролабку, ямку). *Лезці ў вельмі небяспечнае становішча.* Добрыга чаго ат іх ні дажджэсься, а пекла ка́жын раз находзюць. Находзіць пятлю, што ж я зь ім зьдзелыю, яму ж дайжа слова ні скажы́. Сколька разоў яны пролыбку ныхадзі́лі. То тут, то там і находзіць ямку. Так пекла знаходзіць, што другей ба раз і ні пріду́мыў так. Зь естымі доскымі вы сабе знаходзіця пятлю. Ніхай знаходзіць пролыбку, раз ні ўгаворы, ні ўвішча́ньні ні пымыга́юць. Сам сабе знаходзіць ямку. *Зак.* **Найціць** (знайціць) **пекла** (пятлю, пролабку, ямку). На́йдзіць пекла, ці ты яму зыпрясьці́ш. Што ня будзіць, а пятлю на́йдзіць. Раз шука́іць, то на́йдзіць пролыбку. На́йдуць ямку — ніхай на́йдуць, я большы выця́гывыць ня буду. Пекла знайціць лёхка, вы́лізьць тады ціжалей. Ты ўжо каторый раз хочыш знайці́ць пятлю. Тут абыйшлося, дык у горыдзі знайшлі́ пролыбку. Знайшлі ямку, узноў бегый, гывар́і, прас́і за іх. *Узмацн.* **Панахадзіць пекла** (пятлю, пролабку, ямку). Ну, ду́мыла, аду́мыюцца, возьмуцца за розум, дык узялі́ся: пыныхадзі́лі пекла яшчэ раз. Пыныхадзі́лі петлі, хочыш — выця́гывый, а хочыш — ніхай астаю́цца. Папомніш і ўспымянеш, што пынаходзюць пролыбку. Ці доўга ім пыныхадзі́ць я́мку, асобінна як ёсьць каму пытпіхну́ць.

**Нахадзіць** (знахадзіць) **розуму** (памяці) *(з кім). Апускацца да ўзроўню мыслення, разважання (каго).* Находзіш ты розуму зь дзіцёнкым, яго ж усяму́ ўчыць нада. Находзюць па́міці з дуруќа́мі сварі́цца. Хто знаходзіць розуму гывары́ць з вамі, дык і тэй ні чылавек. *Зак.* **Найціць** (знайціць) **розуму** (памяці). Найшоў розуму, сь кім зьвя́зывыцца. Найшоў па́міці гыва́ріць ім пра Колю. Знайшлі розуму сва́рку пычынаць нізавошта. Знайшоў жа паміці угыва́рівыць чорта, яго нада пру́тым угыварівыць.

**Нахадзіць** (знахадзіць) **тапор за лаўкаю.** *Адкрываць даўно вядомае.* Толька й спасобін ныхадзі́ць тапор зы лаўкыю. Вот вас там рысхва́лівылі, што зныхадзі́лі тапор зы лаўкыю. *Зак.* **Найціць** (знайціць) **тапор за лаўкаю.**

Хвáліцца, найшоў тапор зы лаўкыю, а тут усе знáлі раншы яго. Ну йдзіця, рыскажы́ця, як вы знайшлі тапор зы лаўкыю.

**Нахадзіць** (знахадзіць) **толк** (лад, рад, парадак). *Дамаўляцца, дасягаць узаемаразумення.* Ні пынімáю, як ты зь імі толк находзіш, зь імі ж ні пыгываріць, ні путулкувáць нілізя. Ныхадзі-ка скарей якей-небудзь лад с тваімі дзілáмі. Ні прідýмыю, якей тут лад ныхадзíць і што дзелыць, брáцца за што. Ныхадзíця пырядык, каб людзі з вас ні сьміялíся. Мы й самі вíдзілі, што нада нейкій толк зныхадзíць. Стáршый, бувала, умеў зныхадзіць лад. Пыра хут троху зныхадзіць ряд, сколька ж яно ўсё так вісець будзіць. *Зак.* **Найціць** (знайціць) **толк** (толку, лад, рад, парадак). Сь кім пýтным яны хочуць толк найціць. Трудна вам будзіць найціць якога толку. Найціць сы Сьціпаніхыю лад — ета нада ўмець. Я б ім найшоў ряд ні так, як вы. Як ты ім нáйдзіш пырядык, тут нада падýмыць ды падумыць. Каб толк зь імі знайцíць, нада жалезныя нервы. Знайдзіш толку с асталопым, што ні скажы — як гарохым ап камінныю сьцяну. Ня верю я, каб там лад якей можна було знайціць. Хырашо будзіць, есьлі знáйдзіця ряд. Ета ні мае вы дзеці, я б ня чы́кыўся, знайшоў ба пырядык з вамі.

**На хаду.** 1. *У спешцы разам з іншымі справамі.* Ны хаду мы ні пасьпелі нісколька пыгываріць. Ны хаду пáру слоў скызáлі. Хуць ны хаду крíкні, каб двору йшоў. 2. *Спраўны (звыч. пра воз).* Лі мяне вун мыжáра ны хаду, зыпрягí ды едзь. За восімдзісят, а йшчэ ны хаду, дзяржы́цца.

**На хаду падмёткі рваць** (атрываць, атарвываць). *Выяўляць надзвычайны спрыт, лоўкасць.* Ты яго будзіш учы́ць,— ён і так ны хаду падмёткі рьвець. Такея былі мáхырі, што ны хаду падмёткі атрывáлі. Хвалí ты свайго Высіля, ён ны хаду падмёткі атáрвывыў. *Зак.* **На хаду падмёткі атарваць.** Твой ціхінькій ны хаду падмёткі атарьвець, так што аглянýцца ні пасьпеіш. *Узмацн.* **На хаду падмёткі паатрываць** (паатарвываць, паатарваць). Вíдзіў іхных хвáліных; вочы так і бегыюць, ны хаду падмёткі пытрывáюць. За імі глядзí ды глядзі, ны хаду падмёткі пытáрвыюць. Зь віду ціхінькія, спакойнінькія, а ны хаду падмёткі пытарвýць, я іх знаю луччы чым каго.

**На харошым шчату.** *У ліку здатных, добрых.* Можа што-небудзь калі й скызáлі, ну толька Зьмітрок у іх ны харошым шчатý. Січас ны харошым шчату, а як там дальшы будзіць, ні знаю, у іх дужа часта міня́іцца.

**На худэй** (худый) **канец.** *У горшым выпадку.* Ну худэй канец у бані пірісядзíць, пакуля хату прібярець троху. Ніхай ба ну худы́й канец пацьцёлка аддáлі.

**На чом** (чым) **свет стаіць** (дзяржыцца). *Самымі апошнімі словамі.* На чом сьвет стаіць лáілі. Дывáлі яму на чом сьвет дзяржы́цца. Қлілá цэлыя рáньня на чым сьвет стаіць, пымянýла і снапкí, і копкі, і быразёнкі — усё пымянула. На чым сьвет дзяржы́цца прыбірáіць, усё хочыць пірівучы́ць.

**На чорный дзень.** *На цяжкую часіну.* Аткла́дывыла на чорный дзень, дык во яно ўсё й прыпáла. Не, на чорный дзень я хувáць ні зьбірáюся, што прыжывý, то й маё.

**На чорта лысага,** *груб.* 1. *Без патрэбы.* На чорта лы́сыга мне твае жыніхі. 2. *На няўдзячнага, нявартага.* Толька цяперь пыня́ў, што ірвáўся на чорта лысыга. Ікая ж ёй ахота петывыцца на чорта лысыга.

**На чужэй** (чужый) **шчот.** *На сродкі іншых.* Угасьці́ў хырашо, толька ну чужэй шчот. Лю́біць ну чужэй шчот ехыць, сам дужа ні рызмахнецца. Прівы́к жыць ну чужый шчот.

**Нашага палку прыбыла,** *жарт.; пр., буд. Пра папаўненне, прыток новых сіл з аднадумцаў.* Дзяржы́ся, хлопцы, нашыга палкý прібыла. Нашыга палку прібыла, мы іх у бырáньній рог скрýцім цяперя. Мы ні гарю́ім, скора нашыга палку прібýдзіць. *Незак., рэдкаўж.* **Нашага палку прыбываець.** Нашыга палку вун як прібувáіць, мы зь любым спрáвімся.

**Наша сястра,** *звыч. жарт.* *Усе жанчыны, жанчыны наогул.* Наша сістра цірьпялíвыя, мушчы́ны ні такея. Вазьміця нашу сястру, ці бабы мала пірінясьлí чаго ў вайну. Цяперя й з нашыю сястрою ні шуці, дасьць атпор.

**Наш брат,** *жарт.* *Усе мужчыны, мужчыны наогул.* Наш брат знаіць, што дзелыіць, ні прывядзеш. Вам було трудна, ды ня тоя, а наш брат пат пýлімі чатыры гады стыяў.

**Наш дзень, наш і век.** *Пра блізкі канец жыцця.* Пра што нам дужа клыпаціцца, ныжывáць, кылі наш дзень, наш і век. Наш дзень, наш і век — ета праўда, мы ня жы́цілі, ну руссуждáюць жа інáчы: «Пыміраць сыбірайся, а жыта сей».

**Нашто далёка хадзіць.** *Пра адсутнасць неабходнасці звяртацца да далёкіх прыкладаў.* Нашто табе далёка хадзіць, вазьмі Цімоха: як яго бацька жыў і як ён жывець. Нашто вам далёка хадзіць, вы пыглядзіця, як яны пу-суседзку лáдзюць. Нашто далёка хадзіць зы прімерымі, пыглядзі на ету дзялёжку с аборкымі. *Гл.* Н е д а л ё к а х а д з і ц ь.

**На язык атраха,** *гумар. Балбатун.* Помніш, якей ён быў ны язык атрáха. Атряха ж ны язык твой Косьцік, як скáжыць што, толька дзяржысь.

**На языку** (языке), *адз., мн. У размовах, у гаворцы.* Зь лета Каця ўва ўсіх ны ізыкý. Пры ячмень троху забы́ліся, цяперя ў іх бульба ны ізыке. Хто ў вас толька ні пабы́ў ны ізыках,— трудна такога найцíць.

**На** [якога] **чорта** (радзімца, прыпадка), *груб. Без ніякай патрэбы.* На чорта яму тэя зяці, ён удвору прівядзець дзеўку, якую захочыць. Што табе ўсё на чорта, а ш чым ты зімувáць бýдзіш? Ну, кылі й табе ны радзíмца, то на, красýйся адзін. Ны радзімца вам столька скыта нá зіму, яго ж пірідзіржáць задýрісься. Ны пріпáдка ім вашы пыдáркі, яны ня возьмуць і прáвільна зьдзелыюць. А есьлі і прівязýць, дык ны пріпадка мне іхный ячмень, у мяне пышаніцы хвáціць. Ны якога чорта я пускаць сюда каго буду. Ны якога радзімца мне тэя госьці, мне й так дыхнýць некылі. Ны якога радзімца яму каткí, ці ён іх у горла ўвапрець. Кылі табе ні нада, то мне ны якога радзімца ўсё ета? Ны якога пріпадка яшчэ цялёнык тут? А ны якога пріпáдка ныбірáць мне зыпáсы, ці зь мяне ні хвáціць таго, што ёсьць.

**На** [якое] **ліха,** *неадабр. Без ніякай патрэбы.* На ліха мне гарох, ці з маімі зубамі яго есць. На ліха ёй здаўся Віцька, брю́ха прідзелыіць і пойдзіць. Ны якоя ліха вам чужэй чылавек у хату, ці з вас свайго горя ні хвытáіць.

**На** [якую] **халеру,** *груб. Без ніякай патрэбы.* Ны халеру ён табе ў хáці, ац сваіх сьцены худуном ходзюць. Ны якую халеру було трогыць етыя бярёзкі, упяклí пяцьсот штрáху і плацí. *Гл.* Н а [якога] ч о р т а.

**На яць,** *кніжн., жарт. Самай лепшай якасці, гатунку, выгляду.* Вот тут, я віджу, зьдзелына ны яць. Пыработылі ны яць, і пы чаркі можна ўзяць. Ён у цябе хлопіц ны яць, толька ці пыда́сць вады, як зьля́жыш.

**Не аставацца ў даўгу.** *Адказваць тым жа; выказваць удзячнасць.* Ні глядзі, што кырапу́з, ні астаецца ў даўгу́. Ні разу ў даўгу ні астаецца, усігда цыля́іць, каб большы аддаць. *Зак.* **Не астацца ў даўгу.** Высіліха тыкая, што ў даўгу ні ста́ніцца. Перша тэя пацстроілі ладна, а тады їі етый ні аста́ўся ў даўгу.

**Не атайціць.** *Быць такім жа, звыч. дрэнным.* Нісколька ні атыйшоў і Марка ат твайго зяця, роўныя п'яніцы. І пы ўхва́ткі, і пы ізыку́, і па ўсім чы́ста ні атыйшла́ ат мамы. І твае дырагея ла́дныя, нісколька ні атыйшлі́ ат кумы.

**Не ахці сколька.** *Не вельмі многа.* Грошы трошку прівёз, ну ні ахці сколька ён там заробіў. Ні ахці сколька да́лі, яны такея, што дужа ні рыздаду́цца.

**Не ахці як.** *Не вельмі добра; не асабліва.* Зрубіць, канешня, зрубілі, а толька ні ахці як, усё ўсьлед було глядзі́ ды глядзі. Ні ахці як ім тама було сядзець, ныкрасьнеліся. Ні ахці як ныста́івыў.

**Не ахці якей** (якій). *Не вельмі добры; не асаблівы.* Так, чылавек як чылавек, ні ахці якей крыса́віц пісыный. Ні ахці якій прымы́льнік, разьдзецца можна і ўсё. Ні ахці ікая стыря́ньніца, пытріпа́ць ізыком лю́біць, і ўгыварівыць дужа ні нада.

**Неба з зямлёю мяшаецца,** *цяп., пр., буд. Пра завейлівае надвор'е, вялікую пургу.* Куды січас выбіра́цца, завеіш, ты выглядзі, што тварі́цца на ву́ліцы, неба зь зямлёю міша́іцца. Неба зь зямлёю міша́лыся, а яны папёрлі,— дзеўкі ж ждуць. Ніхай будзіць неба зь зямлёю мішацца, кытану́ць, ні на што ні пыглідзя́ць. *Зак.* **Неба з зямлёю змяшалася** (памяшалася, перамяшалася). Са ўсіх бакоў і кру́ціць, і прець, і нясець, ні рызьбяреш, аткуля тэй вецір, пряма неба зь зямлёю зьміша́лыся. Нійдзе ні сьвету ня ві́дна, неба зь зямлёю пыміша́лыся. Што сяньня такоя тварі́цца, неба зь зямлёю піріміша́лыся, нілізя́ дзьвярей аччыні́ць.

**Не бальшая бяда.** *Не вельмі значная непрыемнасць.* Ні быльша́я біда, есьлі вы ды ні пыска́чыцця ся́ньня.

А па-мойму, ета ні быльшая біда, што ён паехыў ат'етуля.

**Не бальшая хітрасць** (мудрасць). *Не вельмі складаная справа.* Ні быльшая хітрысьць карыта выдзіўбыць. Напіцца ні быльшая хітрысьць, каб ты ў чылавечыскім відзі прішоў, луччы було б. Дзяцей нупускáць на сьвет ні быльшая мýдрысьць.

**Неба с аўчынку паказалася** (здалося), *пр., буд. Пра вялікае пачуццё страху.* Як увідзілі, што ліцяць ны нас, дык нам зрáзу неба с аўчынку пыкызáлыся. Сымалёт гур-р-р чуць ні пы зямле, дык нам неба с аўчынку здалося. Тут кылі й ня хочыш, дык неба с аўчынку пыкáжыцца. Другей раз неба с аўчынку здáсца — так вы́пужыісься. *Незак., рэдкаўж.* **Неба с аўчынку кажацца** (здаецца). Етык учора выпужыліся, што й сяньня неба с аўчынку кáжыцца. Бувала, як пірітрясёмся у кустах, неба с аўчынку здаецца.

**Не без таго.** *Пра магчымасць, дапушчальнасць дзеяння.* Ня дужа ізыкáстыя, ну лыскатнýць можыць, ні біс таго. Канешня ж, ні біс таго, бувáіць, чáрку возьміць.

**Не бог знаець** (ведаець) **айдзе.** *Не вельмі далёка.* Рябекі Сьлёзкі ня бог знаіць айдзе, якіх-небудзь два часы хадзьбы́. Прідзіць твой Іван, ён жа ня бог ведыіць айдзе.

**Не бог знаець** (ведаець) **калі.** *Не вельмі дайно.* Мы ж усё помнім, ета ж було ня бог знаіць калі. Ня бог знаіць калі яны прііжджáлі. Кáжыцца, ня бог ведыіць калі тую свáдзьбу гуля́лі, а ўжо дычка — хуць замуж аддывáй.

**Не бог знаець** (ведаець) **куды.** *Не вельмі далёка.* Чаго іна так рызріўлáся, едзіць жа ня бог знаіць куды і зь людзя́мі, а ні адзін. Ня бог ведыіць куды пашоў.

**Не бог знаець** (ведаець) **сколька.** *Не вельмі многа.* Што я табе прыдáм, у мяне самой тых быракоў астáлыся ня бог знаіць сколька, хочыш — так нескылька штук вазьмі. Ня бог ведыіць сколька заробіў, сымамý ж нада було жыць.

**Не бог знаець** (ведаець) **хто.** *Не вельмі паважаны, значны.* Ня бог знаіць хто етый Ільлянок, мы яго як аблýпліныга ўсе знаім. Ну, каб там ужо быў ныстыя́шчый якей госьць, а Хвядос ня бог ведыіць хто.

**Не бог знаець** (ведаець) **што.** *Не вельмі важнае, значнае.* Мы думылі, што харомы ўжо сабе пыстáвіў, а глянулі — ня бог знаіць што, хата й хата. Ня бог ведыіць што яны прівязьлí.

**Не бог знаець** (ведаець) **як.** *Не вельмі добра.* Ня бог знаіць як скошына, містáмі і ўзята вісока, ато й гріўкі тырчáць. Пыцісáлі ня бог ведыіць як, неік няўдобна, ато б зыстáвіў пірядзелыць.

**Не божа мой.** *Не выключнасць.* Ета як рызрісýюць, дык дýмыіш, там ніізьвесна што, а пыглядзелі — дык абыкнавенныя дзеўка, ня божа мой, што там такоя. Ня божа мой хызяін: і вы́піць любіць, і пугуляць — зы хвыстáмі бегыіць.

**Не браць у рот.** *Не есці або не піць зусім.* Як ні зыстыўляю, нічогінька ні бярець у рот. Посьлі тога случыя зарёкся, скызáў, што ў рот гарелкі браць ня бýдзіць. **Браць у рот.** Каб браў у рот хуць што-небудзь, як ён толька цягніць на сьвеці. *Зак.* **Не ўзяць у рот.** Што хочыш будзіць есьць, а капусты нізашто ў рот ня возьміць, гаворіць, душа ні прінімаіць. Як ні ныстáівылі: вы́пі, у рот ні ўзяў. **Узяць у рот.** Айдзе ўжо яму у рот узяць што, есьлі адны рёбры астáліся. *Параўн.* К а п л і ў р о т н е б р а ц ь.

**Не будзь дурак** (дураком). *Пра праяўленне вынаходлівасці, вастрыні розуму.* Тая стаіць, як варона, а етый ня будзь дурак ды зы мяшок: што тýтыцька ў цябе. Напрей проста так ляпнуў, ні падýмыўшы, а етый ня будзь дураком: чýіця, людзі, што ён гаворіць,— так і вы́крыў.

**Небу жарка.** *Пра надзвычайнасць, найвышэйшую ступень.* Яны такоя могуць устроіць, што небу жарка стáніць. У Піліпа етык тварілыся тады, што небу жарка було.

**Не было бяды.** *Пра з'яўленне непрадбачанага засмучэння, прыкрасці.* Во ні було мне яшчэ бяды с тваімі дзіцямі нянчыцца. Нягож, ні було бяды, дык нá табе на шыю зяця, карміця дваіх.

**Не было пячалі.** *Пра з'яўленне некаторага засмучэння, прыкрасці.* Ні було мне пічáлі, глядзі ты яшчэ сьвякрову іхную. Ні було пічалі зы табою ухáджывыць. Ні було пічалі — чэрці ныкычáлі.

**Не бяда.** *Пра адсутнасць падстаў для турбот.* Як мы ня будзім жыць, ета ні твыя біда, і ніхай тваё серца пы нас ні баліць. Горя — дык нам горя, ета ні ваша біда. Ніхай ні яго біда бу́дзіць, есьлі мы біз мылыка́ астаёмся.

**Не верыць** [сваім] **вачам.** *Вельмі дзівіцца з убачанага.* Іду, гляджу і вычáм ня верю: няу́жэлі ета ты пріехыў? Я дайжа січас сваім вычам ня верю. **Верыць** [сваім] **вачам.** Як жа можна було веріць вычам, кылі ўсе гыварілі: ны Сыхалін зьехыў. Верь сваім вычáм, ды аглідáйся. *Зак.* **Не паверыць** [сваім] **вачам.** Я сьпірва ні паверіў вычам, што ты тут можыш быць. У другім месьці дык ба сваім вычам ні паверіў. *Гл.* В а ч а м в е р ы н е д а в а ц ь.

**Не верыць** [сваім] **вушам.** *Вельмі дзівіцца з пачутага.* Вушам ня верілі, ду́мылі, чаго ён тут ачынецца. Я ж віджу, што Пракоп, і сваім вушам ня верю. *Зак.* **Не паверыць** [сваім] **вушам.** Каб ня ўві́дзіў сам, дык ба вушам ні паверіў. Ты паслу́хыла б, вушам ба сваім ні паверіла, што Даніла можыць такоя дытвыря́ць.

**Не відзець прасвету** (прасвет, празору, празор). *Не бачыць нічога цікавага.* Шурка за ім гурювáла, прасьвету ня відзіла. Усё так во ця́гніцца і цягніцца, і ўсё прасьвет ня ві́дзіць. А хто ёй вінувáт, есьлі іна празору ня відзіць. Празор ня відзілі ў сваёй жызьні. **Відзець прасвет** (празор). Што была за жысьць, ці ён якей прасьвет ві́дзіў калі, ці што, усё работа, і работа, і работа. Відзіць такей празор, як Манька, дык не, я ні хачу. *Зак.* **Не ўвідзець прасвету** (прасвет, празору, празор). Жысьць пражыў, а прасьвету ня ўві́дзіў. У той сям'е ня ўві́дзіць прасьвет, яны ні разу ні ў чым ні пусучу́ствуюць. Пойдзіць — ня ўвідзіць празору, будзіць як вол цягну́ць. Мы ж гыварілі, што ня ўвідзіця вы ў той сям'е празор. **Увідзець прасвет** (празор). Айдзе йна прасьвет якей увідзіць, дыхну́ць ні дадуць ні разу. Худзь ба ны мінуту увідзіць празор, пірідыхну́ць дзень.

**Не відзець свету** [белага]. *Быць празмерна занятым, цяжка працаваць.* За восіньскімі работымі ня відзіш сьвету. Сколька прыжылá ў іх, столька сьвету белыга ня відзіла. *Зак.* **Не ўвідзець свету** [белага]. Ніхай ня слухыіць, ніхай ідзець, тамыцька ён сьвету ня ўвідзіць. Век жжыў, толька што жыў, а белыга сьвету ні разу ня ўвідзіў.

**Не выпускаць з рук.** *Трымаць вельмі надзейна, трымаць у строгасці.* Мірёнывы зяця ні выпуска́юць з рук, так сьлідзя́ць, што ого як. Глядзі яго ды глядзі, ні выпуска́й з рук: збыся́чыцца за месіц. Зьбіра́лыся прыда́ць воўну, ды пакуля ні выпуска́іць з рук. Даець, ды з рук ні выпуска́іць. *Зак.* **Не выпусціць з рук.** Яны вас цяперя ня вы́пусьцюць з рук, будзіця дзелыць, што ска́жуць. Ён толька пупадзець што, ня выпусьціць з рук. *Параўн.* Выпускаць з рук.

**Не вялікая** (бальшая) **важнасць.** *Пра не вельмі паважнае, значнае.* Ні тыкая ўжо вялікыя ва́жнысьць твой зяць, во ніхай наколіць дроў ды зыпа́ліііць, каторыя ўремя ня мы́ліся. Ні быльшая мне важнысьць тває госьці, ніхай гасьцю́юць, ніхай не. *Параўн.* Вялікая важнасць.

**Не вялікая птушка,** *іран. Пра неўплывовага, неаўтарытэтнага.* Кындрацёнык ваш ні вялікыя пту́шка, ніхто яго дужа й пыніма́ць ня хочыць. Ніхай ні зыдаецца, ні вялі́кыя птушка, ішчэ апяры́цца нада.

**Не вярста.** *Пра вельмі вялікую розніцу.* Шытырёнык ні вірста́ Ігна́ту, тэй і чалавек, і хызя́ін, а ета узьвей-веціp. Сколька яе ні хвалі́ця, дык ні вірста Просі, іна Просіныга падмётка ня стоіць.

**Не гавара другога слова.** *Не выказваючыся адкрыта.* Ні гывыря́ другога слова, я цябе пашлю́ зна́іш куды́.

**Не гавара дурнога слова.** *Не выказваючыся просталінейна.* Заткні ты луччы́ ву́шы ды йдзі, ні́ гывыря́ дурнога слова. Так во, сядзі́ й маўчы́, ні гывыря дурнога слова.

**Не год.** *Пра неспрыяльныя кліматычныя ўмовы.* Сёліта ны капу́сту ня год, ац са́мыя вясны ні було расьценія, сядзела крі́цыю, а посьлі чэрьві нывалі́ліся. Нешта ня год ну гуркі́ німа ні хваробы, ня хочуць росьць.

**Не густа пасеяна.** *Пра нязначную колькасць (звыч. дзяцей у сям'і).* Вас ня гу́ста пасеіна, дык атнасі́ціся адзін **г** другому як браты́.

**Не даваць дыхнуць.** *Прымуша́ць рабіць з усіх сіл, бесперапынна.* Ну й праўда ж, сам бярець як вол і нам ні даець дыхну́ць. **Даваць дыхнуць.** Ці дыіцё вы ім тут дыхнуць калі. *Зак.* **Не даць дыхнуць.** Ні даў дыхну́ць,

усё пыдгыня́ў, пытпа́рівыў: скарей, скарей. **Даць дыхнуць.** Даду́ць яны дыхнуць, дыжджыцёся ат іх ла́скі еткый.

**Не даваць** (не пазваляць) **ветру дунуць** (падуць). *Празмерна апекаваць, ахоўваць, трымаць пад неаслабнай апекай.* Настолька шчыра глядзелі, ні дыва́лі ветру дуну́ць, а во ж як пулучы́лыся. Ды самыя арміі ні дывалі ветру падуць у яго бок. Доўга уха́жывылі як зы малінькім, ні пызвыля́лі ветру дунуць. Якей зь яго чылавек вы́рысьціць, кылі сколька ўремя мы тута ўмесьці сядзім і глядзім, як ты ні пызвыля́іш дайжа ветру ны яго паду́ць. *Зак.* **Не даць** (не пазволіць) **ветру дунуць** (падуць). Ціряшчур ужо клыпатлі́выя, ні даду́ць ветру дуну́ць. А вот так і будзіць ня́нчыцца, ні дасьць ветру падуць. Ні разу ні пазволілі ветру дунуць, а ня то ны нашлег вы́прывюць.

**Не даваць** (не пазваляць) **воласу з галавы ўпасць.** *Празмерна ахоўваць ад непрыемнасцей у жыцці.* Сколька помню, дык так глядзіць за ім, так глядзіць, дайжа ні даець волысу упасьць з гылавы. Ксіньня як была, ні пызвыляла волысу ўпасьць з гылавы. *Зак.* **Не даць** (не пазволіць) **воласу ўпасць з галавы.** Абея так ухажы́вылі, прігліда́лі, волысу ні далі ні разу упасьць з гылавы́. Пакуля была, волысу ні пазволіла упасьць з гылавы, усё ўсьлед бегыла як кваку́ха. **Даць** (пазволіць) **воласу ўпасць з галавы.** Ого, каб ён даў упасьць волысу з гылавы. Глядзі, яны пазволюць волысу упасьць з гылавы.

**Не даваць прадыху** (продыху). *Прымушаць настойліва, неадчэпна.* Ныдаеў ён тута, прады́ху нікому ні дываў. Ні даець продыху дайжа, усё пытпа́рііць і пытпарііць, кру́та ўзяўся. *Зак.* **Не даць прадыху** (продыху). Ну, сам узя́ўся, нікому цяперя прады́ху ні дасьць. Цэлый месіц так бузува́ліся, ні аднаго дня продыху ні далі. *Гл.* Не даваць дыхнуць.

**Не даваць прамытае вады.** *Тварыць здзекі ў элементарных патрэбах.* Якоя ж нада серца ймець, каб так сь цёткыю апхадзі́цца,— яны ж ёй прамы́тыя вады ні даюць. *Зак.* **Не даць прамытае вады.** Січас дужа хырашы́, ба́нным лістом сьцелюцца, а спадзі́ з ног — ні дадуць прамытыя вады.

**Не даваць праходу** (праход). *Надакучаць, чапляцца, праследаваць.* Во дзеці дык дзеці: ні даюць Маўрі пра-

ходу: і камлы́жкымі шпуля́юць, і пірікріўля́юць, і пірідра́жнюць. Ні даюць праход: нашто ты етык гываріла на іх на сходзі, пірід усімі людзямі згу́ніла. **Даваць праходу** (праход). Ці даюць яны калі Аўгіньні праходу? — не-к, ні ра́зычку ні даю́ць, усігда і ўстрецюць, і праводзюць. Каб калі дыва́лі праход адна другой, як сыйшлі́ся, так і хваціліся резыцца. *Зак.* **Не даць праходу** (праход). Цяперіцька вам Хадоска праходу нійдзе ні дасьць, будзіць ізыком ліскыта́ць усьлед. Зь естыга ўремя ён табе праход ні дасьць. **Даць праходу** (праход). Жджы, дадуць праходу, будзіць да́дзіна. Худзь ба даў ты мне праход айдзе-небудзь, ні цігаўся усьлед.

**Не даваць проступу** (проступ), *рэдкаўж. Надакучаць, чапляцца, праследаваць.* Проступу людзям ні даець, с кажным брешыцца й брешыцца. Паку́ліцька замуж ня выйшла, Коля ёй проступ ні дываў. **Даваць проступу** (проступ). Даюць проступу ладна, як ідзець, так і прыздрыўля́юць. Худзь ба калі дываў проступ ка́плю. *Зак.* **Не даць проступу** (проступ). Есьлі Кыласок узьесца ны каго, ні дасьць проступу. Зы такоя дзела яны табе проступ ні дадуць. **Даць проступу** (проступ). Ого, дадуць яны проступу, толька надзейся. Дайця ж вы яму хуць раз проступ, чаго вы ны яго так усьселі.

**Не даваць спуску.** *Адносіцца строга, патрабавальна.* У мяне гыря́вым еткім хадзіць ня будзіць, я спу́ску ні да́ю. *Зак.* **Не даць спуску.** Дужа мне важна, кылі ныхырчы́ць, я ўсё роўна спуску ні дам. *Гл.* Даваць спуск.

**Не даваць сябе ў абіду.** *Умець з годнасцю абараняцца.* Ні даець сябе ў абіду,— так і нада дзелыць. Я сябе ні разу і нійдзе ў абіду ні дываў. **Даваць сябе ў абіду.** А чаго йта я буду сябе ў абіду дываць? *Зак.* **Не даць сябе ў абіду.** Етый з гылавою ны плічах, ён сябе нійдзе ў абіду ні дасьць. **Даць сябе ў абіду.** Хто ета захочыць даць сябе ў абіду,— ты б тожа зышчышча́ўся яшчэ большы.

**Не даваць у абіду.** *Заступацца, абараняць ад крыўды.* Антонывы хлопцы ні дывалі нашыга ў абіду, усігда зуступа́ліся, асобінна Пятрок. *Зак.* **Не даць у абіду.** Сваіх ні дасьць у абіду, а чужэя яму ні важны.

**Не даваць шагу ступіць** (здзелаць). *Абмяжоўваць, скоўваць.* Самой ні даець шагу ступіць, ны кажным

шагу пытпрыўляіць. Раншы яму ні дывалі шагу зьдзелыць, пасьледнія ўремя трошку ні так нысідаюць. **Даваць шаг ступіць** (здзелаць). Худзь ба шаг дывалі ступіць біз грызьні, спакойна. Разьві ж дывалі вы яму шаг калі зьдзелыць па-свойму? *Зак.* **Не даць шагу ступіць** (здзелаць). Ны каго ўзьвяліцца, ні дасьць шагу ступіць. Можа б зь яго што й ні плахоя пулучылыся, дык яму ні далі шагу зьдзелыць. **Даць шаг ступіць** (здзелаць). Ці дадуць яны сымаму шаг ступіць? Жджы й надзейся, самыя тая, што дасьць самім шаг зьдзелыць.

**Не да жыру.** *Пра складанасць абставін.* Цяперя яму стала ні да жыру, глядзіць, як выпутыцца. Тут, канешня, ні да жыру, затоя столька гадоў рускушуваліся.

**Не дай бог.** 1. *Пажаданне пазбегнуць непрыемнасцей.* Ні дай бог, есьлі пупадзецца мужык з дренным хракцірым. 2. *Калі, няхай.* Ні дай бог лішнію мінуту задзержыцца айдзе, пычынаіць грімоты. Ні дай бог сьмехым хто тріпанець: с тым відзілі,— нядзелю маўчыць. Ні дай бог сьвіньне рог. *Параўн.* Д а й б о г.

**Не дай і не прывядзі бог** (госпадзі, гасподзь), *уст. Выражэнне папярэджання, перасцярогі.* Ні дай і ні прівядзі бог і чуць такоя, і відзіць, і жыць с такім чылавекым. Ні дай ты і ні прівядзі госпыдзі еткыга хракціру, ета ж зу кусок вярёвычкі зьесьць гатоў. Ні дай і ні прівядзі гасподзь глядзець на еткія мучэньні.

**Недалёка атайціць.** *Быць амаль такім жа.* Гыварі, гывары, і ты нідалёка атыйшоў ат Пахома. **Далёка атайціць.** Ага, дужа ён далёка атыйшоў, еткій самый гэрчык. *Узмацн.* **Недалёка паатайціць** (паадхадзіць). Нідалёка пытыйшлі адзь Земскыга, злудзюганы первый маркі. Тэя хырашы і тває нідалёка пытхадзілі. **Далёка паатайціць** (паадхадзіць). Рысказывый каму другому, далёка яны пытыйшлі адзін ад другога. Да, далёка пытхадзілі,— еткія самыя зьвяглівыя.

**Недалёка хадзіць** (іціць). *Пра лёгкасць прывесці прыклад.* Нідалёка хадзіць, я табе рыскажу, як жылі Кандыбывы. Во нідалёка хадзіць, у Кіеў выіхыў Даніла Кыбаноў, прыдаў надзел і выіхыў. Нідалёка йціць зы прімерым — хвацісь ты, ш чаго рыжжываліся Гапкіны. **Далёка хадзіць** (іціць). Чаго тут далёка хадзіць зы прімерым: етыя тожа расьлі біз бацькі і людзямі сталі.

Нашто далёка йціць, вазьміця Ільлю, як ён жыў. Ні нада далёка йціць, Аўдыкімёнкыў було трі браты: Ціхон, Ягор і Пынас.

**Не да смеху** (шутак). *Вельмі непрыемна.* Тама ўсім було ні да сьмеху. Січас яму ні да сьмеху, ацьсміяўся сваё. Пыхіхікыіш, пыхіхікыіш, як пратуріць, будзіць ні да шўтык.

**Не дзела.** *Не добра, непарадак.* Дзень тут, дзень там, ета ня дзела так жыць. Мы самі знаім, што ня дзела яму візацца з Максімывымі.

**Не дзіва.** *Зусім натуральна.* С такою кымпанію ня дзіва куды хочыш пупасць. Ня дзіва, што сяння ён красьнінькій як агўрчык.

**Не дзяцей ксціць.** *Не мець патрэбы ў сяброўстве, не быць у блізкіх адносінах.* Выскыжу ўсё, што думыю, мне зь ім ні дзяцей ксьціць. А што нам? — нам ні дзяцей ксьціць.

**Не доўга думаючы.** *Адразу, без роздуму.* Чую, крічыць, дык я ня доўга дўмуючы туды. Ня доўга думуючы хваціў дзьвері ны сябе, яны й ня піснулі.

**Не думаючы не гадаючы,** *цяп., пр. Раптоўна, нечакана.* Ня дўмыючы ні гыдаючы ў такей далёкій свет вупруўляцца? Паехыў ня думыўшы ні гыдаўшы, дайжа нічога сыбраць ні сыбрала. Як жа ня думыўшы ні гыдаўшы брацца за еткыю стройку.

**Не дурак,** *гумар. Вялікі ахвотнік і аматар прыемнага.* Выпіць ні дурак, свайго ня ўпўсьціць. Бегыць пы вічарінкых ні дурак, у дваре што зьдзелыць — тут ні пытхвацін, ня дужа прісіліш.

**Не дыхаць,** *іран. Мець непераадольнае жаданне, ахвоту.* Ня дышуць, каб ні пабежч у Лешчынку. Калі што ні пыцягніць — ня дышыць.

**Не есць не пробаваць** (папробаваць, пакушаць). *Не мець дастаткова пачастункаў, ежы.* Було таго ўгашчэнія ня елі, ня пробывылі. Мы дўмылі хуць ныядзімся як нада, дык наеліся: ня елі ні папробывылі. Крашынку сала ўнісла, рыскрышыла, пылажыла два гуркі і хлеб нейкій с асьцюлькымі, мы ня елі ні пакўшылі. Мяса таго було — рустуўкла кыпілінку у крупені, ня елі ні пакушылі.

**Не жылец** [на белым (етым) свеце]. *Безнадзейна хворы, вельмі слабы.* Ён ужо ні жылец, дуні — і зыва́ліцца. Я сыма чу́ствыю, што мой ні жылец на белым сьвеці. Ні жылец я на етым сьвеці: трі апірацыі, пірянёс, асколык у грудзя́х, чуць ча́пыюся.

**Не жыў,** *іран.; м., ж.; адз., мн. Такі, які не можа ўтрымацца.* Ня жыў, пакуля чаго-небудзь ні атпа́ліць. Ня жыва, кылі ні пылапочыць. Пакуля хахлы ні зьвядуць каму, ня жывы. *Гл.* Не дыхаць.

**Не за гарамі.** *Досыць блізка, хоць і не бачна.* Колтыва ні зы гыра́мі, бягі пря́ма і пупадзеш. І зіма ні зы гырамі, як скора ўремя прыскачы́ла. Ні зы гырамі спа́сыўкі.

**Не з** (ад) **дабра.** *У сувязі з выключна цяжкімі абставінамі, становішчам.* Ні з дыбра́ пышла аттуля, кругом поідым зыіда́лі. Ні ад дыбра горькімі сьлізамі зыліва́лыся. **З** (ад) **дабра.** А ці з дыбра хадзілі, бульбоўнікі пірікáпывылі посьлі вайны. Разьві ад дыбра кінуць такоя хызя́йства?

**Не заплюскываць** (не заплюшчываць, не закрываць) **вачэй.** *Не спаць зусім.* Каторыю ноч вачэй ні заплю́скывыла. Горя ёй з ма́лым, днём ны работу, а ўноччы вачэй ні заплю́шчывыіць: дзіцёнык крічы́іць. Ні ўчора, ні сяньня я дайжа вачэй ні зыкрываў. *Зак.* **Не заплюснуць** (не заплюшчыць, не закрыць) **вачэй.** Ноч прыйшла́, і вачэй ні заплю́снуў. Зь вечыра як піряб'ю́ць сон, тады ні заплю́шчу вачэй. Мы й вачэй ні закры́лі, усё сту́кылі, грю́кылі — ні да́лі. Пры таком галдзеньні вачэй ні закры́іш. *Парайн.* Заплюскываць вочы.

**Не зварыць піва** (кашы). *Не дамовіцца, не прыйсці да згоды на сумесныя дзеянні.* Ні зва́ріця вы піва сы Смыляком. Віджу, што ты зь імі ні звары́ў кашы. **Зварыць піва** (кашу). Тру́дна зь ёю піва зваріць. Ого, сь кім ты наду́мыўся кашу зваріць. Айдзе ты с Колію кашу зваріш. *Працягл.-фінальн.* **Наварыць** (даварыць) **піва** (кашу). Нываріді піва разым, сва́рюцца, што зімля тряшчы́іць. Нывáрюць кашу, са́мыя тэя, зь імі чорт ні згаворіцца. Дываріді піва, дудружы́лі: Кындрат ужо ў суд зьбіраіцца пыдывáць. Дываріць кашу с Аўдоткыю, палу́чыць ла́ску.

**Не злазіць** (не злязаць) **з душы,** *неадабр. Надакучліва дамагацца пастаянным прыставаннем.* Як прістáніць, як прістаніць і ні злáзіць з душы, пакуль свайго ні даб'ецца. Трецьцію нядзелю ні зьлізáіць з душы — купляй яму новый касьцю́м. **Злазіць** (злязаць) **з душы.** Ці злáзіць хуць калі ён у цябе з душы. Зьлізаіць з душы, дажджэсься ат такея назолы. *Зак.* **Не злезць з душы.** Толька зьвя́жыся ш чырця́мі, з душы́ ня зьлезуць. Прішлá і з душы ня зьлезла, пакуль ня вы́мындзыріла тую тряпíну. **Злезць з душы.** Худзь ба ўжо як скарей зьлезьлі з душы. Ці даждуся, што ён зьлезіць з душы, ні знáю. *Узмацн.* **Не пазлазіць** (не пазлязаць) **з душы.** Ні пызлáзюць з душы, пакуля самыя пасьледнія ні аддасí ім. Я і сам знаю, што такія зыя́длыя ні пызьлізáюць з душы. **Пазлазіць** (пазлязаць) **з душы.** А ду́мыіш, етыя скарей пызьлізáюць з душы?

**Не знасіць галавы** (галаву). *Не пазбегнуць суровага пакарання.* Ня зносіць ён гылавы́ с такою ву́дыльлю. Бу́дзіця так ны ўсьпяцень кíдыцца, дык ня зносіця гылаву. **Знасіць галаву.** Ныўряд, каб табе ўдалося знасіць гылаву, яй-богу, ныўря́д. Калі ты зносіш гылаву, дык ні знаю, што будзіць.

**Не знаць ні дня ні ночы.** *Працаваць без спачыну.* А якей толк с таго, што вы ні знали ні дня ні ночы, яны вам і ну руку́ ня ўсплю́нулі. Ні дня ні ночы, бувала, ні знали, стыря́ліся, хвытáліся, сьпяшы́лі.

**Не знаць сабе цаны,** *неадабр. Пераацэньваць свае якасці.* Як Сенька быў, тэй ні знаў сабе цаны. Чаго йта другея хлопцы як хлопцы, а вы нійдзе сабе ні знáіця цаны. *Парайн.* Знаць сабе цану.

**Не знаць свайго места,** *неадабр. Быць нясціплым.* Ці ў сябе, ці ў чужой дзяреўні яны ні знаюць свайго места. Доўга ні знали свайго места. *Парайн.* Знаць сваё места.

**Не знаць цаны-меры.** *Паводзіць сябе нясціпла, ганарыста.* Даўно ўжо ні знаюць сабе цаны́-меры. Усё ўремя цаны-меры ні знали, пакуля з брю́хымі прішлí. *Парайн.* Знаць цану-меру.

**Не з паследніх.** *Зайзяты, з вышэйшымі якасцямі.* Ні с пасьледніх зыдывáка, нос дзярець вун як. Чаго там дужа гываріць, бися́к ні с пасьледніх.

**Не з рукі.** *Нязручна.* Нам ні з рукí рыспрáшывыць пры Ісака. Я зьезьдзіў ба, ды мне ні з рукі. **З рукі.** А каму йта з рукі лезьць у такоя дзела, каму ні прідзíсь, нікому дужа ні пыныраві́цца.

**Не з таго канца** (боку). *Не так, як трэба.* Ні с таго кынцá вы пычалі к ёй пытхадзíць. Узя́ліся нядренна, ды ні с таго боку: пысаветывыць некыму, а спрасíць пысьцісьня́ліся ў каго.

**Не з тваім носам палосым.** *Не такому, як ты.* Ні с тваíм носым палосым зыгáдывыць еткія харомы рызвадзíць. Яно, канешня, можна і пра горыд падýмыць, толька ні с тваім носым палосым.

**Не з храбрага дзесятка,** *іран. Палахлівы.* Твой брат ні с хрáбрыга дзіся́тка, не, ні с храбрыга. Яны ўсе ні с храбрыга дзісятка, адз зайца уцікáць кінуцца. *Параўн.* З х р а б р а г а д з е с я т к а.

**Не іціць у галаву** (на вум). *Не мець магчымасці падумаць.* Кіньця вы мяне ў спакоі, мне сяньня нічога ў гылаву ня йдзець. Ёй ужо нічога ня йшло на вум. **Іціць у галаву** (на вум). Айдзе тут будзіць што іціць у гылаву, кылі горя за горім лажы́цца на плечы. Ці йшло б табе што-небудзь на вум ны яго месьці? *Зак.* **Не пайціць у галаву** (на вум). У етый кылатні нічога ня пойдзіць у гылаву. Ныўряд, ці пойдуць січас яму дзеўкі ў гылаву. Ня думыю я, каб твае пріборы пашлі яму на вум.

**Не іціць у шчот.** *Не заслугоўваць увагі.* Ніхай што хочыць гаворіць, нічога ета ня йдзець у шчот. **Іціць у шчот.** Па-мойму, ныўряд, каб што-небудзь зь естыга ішло ў шчот.

**Нейдзе** (няма айдзе) **вочы** (вачэй) **дзяваць.** *Пра адчуванне вялікага сораму.* Ім там лáдна було, хваціла, нейдзі було вочы дзівáць. Што, красьнеіця, нейдзі вачэй дзіваць? Відзіш, як гыря́ць, вочы дзіваць німа айдзе. Німа айдзе вачэй дзіваць ац стрáму. *Зак.* **Нейдзе** (няма айдзе) **вочы** (вачэй) **дзець.** Учора быў дужа хрáбір, а сяньня вочы нейдзі дзець. Табе ўжо й так вачэй нейдзі дзець. Німа айдзе вочы дзець, стыдна пы дзяреўні прайцíць. Вачэй німа айдзе дзець із-зы яго дýрысьці.

**Нейдзе** (няма айдзе) **дзявацца.** *Пра безвыходнасць.* Нейдзі дзівацца, дык хлы́нкыіць з вуглá ў вýгыл. Зразу

круціў, а тады відзіць, нейдзі дзівацца, зыгываріў. Німа айдзе дзівацца, луччы прізнывáйся. *Зак.* **Нейдзе** (няма айдзе) **дзецца.** Ні ш чым нейдзі дзецца, усё ў сы́рысьці, усё мя́кніць, так і пытынеіць. У будзённыя дні ны рабоці й ны рабоці, а ў скрысеньня саўсім німа айдзе дзецца. Як увíдзіў, што нейдзі дзецца, пычаў рыскáзывыць. Січас ён пойміць, што німа айдзе дзецца.

**Нейдзе** (няма айдзе) **дзяваць.** *Пра бязмерную колькасць.* Сёліта яблык, што нейдзі дзіваць, і сьвіньня́м пáрім, і трошку сушу́, а гніець сколька! У яго сена німа айдзе дзіваць, на дзьве зімы хвáціць.

**Не кажы й не гавары.** *Пра немагчымасць супакоіць ніякімі словамі.* Ніхай што хочыць тварíць, а ты яму ні кажы́ й ні гыварí. Пы гылывáх скора пойдуць і ўсё роўна ні кажы й ні гыварі.

**Не карміць хлебам.** *Не ўтрымаць нічым.* Тоньку ні кармí хлебым, а дай ныгывaрíцца. Каб ні карміў хлебым, а новысьці рыскáзывыў, яны б дзень і ноч слу́хылі. Хлебым ні нада карміць, толька слухыйця яго і ўсё.

**Не к дабру.** *На нейкую нядобрую падзею або прадчуванне.* Ні **г** дабру́ цябе сяньня іржэць. Ён сам знаіць, што ўзыйгрáўся ні **г** дабру. **К дабру.** Ныўряд, каб **г** дабру вас так хліхытáла. Ня думыю, што **г** дабру ўсё ета.

**Не к ліцу.** *Непрыгожа, непрыстойна.* Вот такоя прідýмывыць вам саўсім ні к ліцу. Ні к ліцу табе еткыю дуратý тварíць,— як мáлінькій дзіцёнычык.

**Не к месту.** *Не ў час, не там, дзе трэба.* Скызаў Кулічок праўду, толька ня к месту. Ля́пніця ня к месту, дык сьміяцца будуць. **К месту.** Калі твой Сенька скызаў што-небудзь к месту?

**Не к ночы будзь сказана** (памянута). *Пра страшнае, небяспечнае.* А чорт яго знаіць, ня к ночы будзь скáзына. Ета такей чалавек, пры якога гаворюць: ня к ночы будзь пымя́нут.

**Не коз воз.** *Пра беспадстаўнасць клопатаў.* Двоя мáлых ня коз воз, дагледзіць ні бальшэя труды́. У вас ня коз воз, і так можна пражы́ць, і етык. **Коз воз.** Чаго табе клыпацíць, ці ў цябе коз воз, ці што, ета мне нада з высімяры́мі многа ду́мыць.

**Не к спеху.** *Не вельмі тэрмінова.* Нам ня к сьпеху, мы й пыдажджом. Раз ня к сьпеху, то ніхай пыляжы́ць, посьлі возьміш. Табе жаніцца ня к сьпеху.

**Некуды** (няма куды) **вочы** (вачэй) **дзяваць.** *Пра адчуванне вялікага сораму.* Як узя́ліся страміць с усіх бакоў, дык ім некуды було вочы дзіва́ць. Другому некуды було б вачэй дзіва́ць, а яму як з гуся́ выда. Цяперя німа куды вочы ац стра́му дзівaць. Еткій стыд, німа куды вачэй дзіваць. *Зак.* **Некуды** (няма куды) **вочы** (вачэй) **дзець.** Чаго ўжо яму некуды вочы дзець, што ён такоя зьдзелыў. Я й сам чу́ствыю, што ёй некуды вачэй дзець. Ім абоім німа куды вачэй дзець, разым жа тварілі. *Гл.* Нейдзе вочы дзяваць.

**Некуды** (няма куды) **дзявацца.** *Пра безвыходнасць.* Ай, у нас тыкая дзяреўня, вы́пыдзіць вольная мінута, дык некуды дзівацца. Дажы́ўся, што німа куды дзівацца. Некуды дзівацца, нада рыска́зывыць, як було. Німа куды дзівацца, прізнывáйся. *Зак.* **Некуды** (няма куды) **дзецца.** А як мы аста́ліся ў сорык трецьцім, некуды було дзецца. Ныбярець, ныхвыта́іць усяго ўся́кыга, а тады, ой, німа куды дзецца. Пойміць, што некуды дзецца, дык рыскажыць. Пріціснулі, што німа куды дзецца, тады сызна́ўся. *Гл.* Нейдзе дзявацца.

**Некуды** (няма куды) **дзяваць.** *Надзвычай многа.* Дырагога дужа німа, ну простыга бырыхла́ у іх некуды дзіва́ць. Тріп'я́ німа куды дзіваць, дужа многа. *Гл.* Нейдзе дзяваць.

**Не купіць** *(у каго). Пра безразважнасць і імгненнасць ва ўчынках.* У Змітрыка ні купі́ць чаго хочыш, джву́хніць з-зу вугла, і зьнясеш. Мыхла́ нейкыя, у яе ні купі́ць і пры цябе тріпану́ць.

**Не к урэмю.** *Не ў час.* Што пад'ехылі, нічога, толька дужа ні к уремю пад'ехылі. Ні к уремю ета свытаўство.

**Не к чаму.** *Няма патрэбы.* Не́ к чыму яго угыва́рівыць, усё рыўна ні паслу́хыіць. Не к чыму зьвязывыцца сы Стыхванёнкым.

**Не лезць** (не іціць) **у рот** (горла, глотку). *Не мець ніякай ахвоты да яды.* Ні нада мне ні мылако тоя, ні ка́ша, нічога мне ў рот ня лезіць. Еў, толька шчот што еў, нічога ня лезла ў горла. С самыга раньня ні агріша́-

лыся, у глотку нічога ня йдзець. *Пачын.* **Не палезць** (не пайціць) **у рот** (горла, глотку). Такоя піряжыўшы, канешня, у рот нічога ні палезіць. Як яны ядýць, мне б там кусок ні палез у горла. Ад горя і ў глотку нічога ні палезіць. Айдзе там лезьць, яно ў глотку ня пойдзіць зь еткім пріглашэнііім.

**Не лыкам шыт.** *Не горшы ад іншых.* Ужо так пывялося: Іванька, Іванька, а Іванька ня лы́кым шыт. Не, брат, гываріць можна ўсё, а толька яны ня лыкым шы́ты. **Лыкам шыт.** А ты думыіш, Міця лыкым шыт? Ці яны лыкым шыты, яны крепка ува ўсім рызьбірáюцца.

**Не места.** *Не пажадана быць, знаходзіцца.* Вам тут ня места і ні зыгáдывыйця рыспылыгáцца. Такому чылавеку ня места ў мыгазіні.

**Не мёд** (сахар). *Пра цяжкія, непрыемныя ўмовы жыцця.* І íхныя жы́зьня ня мёд, мы пра ета знали даўно. Валькі цяперь ні сахыр: кýча дзяцей, а ён вы́піць лю́біць, толька пыдáй.

**Не мінаць рук,** *іран. Быць узятым, прысвоеным, украдзеным.* Наша капýста часьценька ні мінáла яе рук. *Зак.* **Не мінуць рук.** Есьлі замеціў, то яго рук шалёвычкі ні мінýць. І бульба ні мінула тваіх рук, нашто там аткáзывыцца.

**Не міргнуўшы** (маргнуўшы, зміргнуўшы, змаргнуўшы) **вокам.** *Не разгубіўшыся, спакойна, лёгка.* Збоку стаю́, слýхыю, а ён ні мірьгнýўшы вокым лухцíць. Ні маргнýўшы вокым збрешыць і будзіць пряма ў вочы глядзець. Ні зьмірьгнýўшы вокым бярець як сваё. Зьдзелыіць і ні змаргнуўшы вокым тут жа прі табе аткáжыцца. *Гл.* В о к а м  н е  м а р г н у ц ь.

**Не мычыць не целіцца,** *неадабр. Пра немагчымасць атрымаць дакладны адказ, вынік.* Твой Андрей усігда так, ні мычы́ць ня целіцца. Я ж табе кажу, што спрáшывыла, а што ён ні мычыць ня целіцца, дык што я зьдзелыю.

**Не мясціцца ў галаве.** *Не верыцца, быць неверагодным.* У маёй гылаве ня месьціцца, што Алёна ета гываріла. У нас ня месьцілыся ў гылаве, што такоя можыць дзелыцца.

**Не нада далёка хадзіць** (ісціць, брацць). *Пра лёгкасць прывесці прыклад.* Ні нада далёка хадзíць, пасьці ў

ка́жныга садок, а тады толька ў Тріхона і Ягора два сады було на ўсю дзяреўню. Ні нада далёка хадзіць, скажы́, што яны летыся тварілі. Ні нада далёка йціць, абраціця ўнімáнія ны Марыіну жызінь. Ні нада далёка брацъ, рыспрасі ты пра ўсё ў Кузьмы. *Гл.* Н е д а л ё к а х а д з і ц ь.

**Ненасытная ўтроба,** *абраж. Пражэрлівы.* Во айдзе нінасы́тныя утроба, і жраў ба, і жраў, і ніяк сыт ня будзіць.

**Не на таго** (такога) **напасць.** *Недаацаніць здольнасці або сілы.* Ні ны таго вы, ма́льчыкі, ныпáлі, ён прітворіцца, што нічога ні пынімáіць, і абвядзець вас кругом пальца. Ні ны такую ён ныпáў, ета яму ні с Хадосычкіныю. Ні ны такіх вы ныпалі, яны самі чорта пірі-хітря́ць.

**Не на шутку.** *Усур'ёз.* Табе гыварілі ні на шу́тку, яны шуці́ць ня лю́бюць. Ні на шутку бярецца зы свайго бá-лыўніка. Мароз ціскану́ў ні на шутку.

**Не нюхаць пораху.** *Не быць у небяспецы.* Ты пакуль што порыху ня нюхыў, а мы увы ўся́кіх пірядзелкых пыбылі́.

**Не няволя.** *Няма ніякай неабходнасці.* Ні няволя табе аднаму́, цеміньню, пы грязі́шчы плесца ў еткыю даль. Ні няволя яму брацъ ету абу́зу ны сябе.

**Не па адрасу,** *кніжн. Не да тае асобы, установы.* Ты яго пысла́ў ні пы áдрісу, ніхай ба к Нінкіным зайшоў. Усё ета вы кызáлі ні пы адрісу, во стыршыне вы што-то ня дужа хочыця скызаць.

**Не пад'ехаць,** *гумар. Не атрымаць дапамогі, падтрымкі.* Ні надзейціся, на Проські дужа ні пад'едзіця. Ны тваёй нявесткі асобінна ні пад'едзіш, бу́дзіць цы́р-кыцца у час пы чáйный ложкі.

**Не па гадах.** *Не па свайму ўзросту.* Рáзьвіт ні пы гыдáх, яму б ішчэ многыга етыга ні нада знаць. Ні пы гыдáх разу́мін, увесь як тата, тэй тожа дужа многа знаў і пынімаў ціряшчу́р. *Парайн.* П а г а д а х.

**Не па гарбу.** *Звыш магчымасцей.* Ні пы гарбу́ зымáхыіцца, абарьвецца. Яму ні пы гарбу столька цягну́ць.

**Не падаваць голасу.** *Маўчаць, прамоўчваць.* Сядзі́ць як мыш пад венікым і ні пыдаець голысу. *Зак.* **Не па-**

**даць голасу.** Як різану́ла пы вычáх нявесткыю, дык сьціх, зашы́ўся, за ўвесь вечыр ні пыдаў голысу. Анька Вірькяёнкыва работніца за ўсё дзяреўню, а голысу дужа нійдзе ні пыдаець, зна́іць сабе цану́. *Параўн.* П а д а в а ц ь  г о л а с.

**Не па дароге** (пуці) *(з кім). Не разам, не сумесна, не ў згодзе.* Сямёну ўчы́цца нада, яму з вамі ні пы дарогі. Вупруўля́йціся вы куды хочыця, мне з вамі ні пу пуці́. *Параўн.* П а  д а р о г е.

**Не паднімаць** (не падымаць, не ўзнімаць) **вачэй.** *Не глядзець ад сораму, збянтэжанасці.* Праходзіць міма і ні пыднімáіць вачэй: сты́дна. Нешта і Сашка вачэй ні пыднімáіць. Вун ві́дзіш, сідзя́ць, вачэй ні пыдымáюць. Учора як руспусьціў язык, дык сыбаку було толька слу́хыць, а сяньня ні ўзьнімаіць вачэй. *Зак.* **Не падняць** (не ўзняць) **вачэй.** Валокся некуды ў тэй бок, вачэй ні пыдня́ў. Бокым, бокым і шмыгну́ла туды, ні ўзьнілá вачэй. *Параўн.* П а д н і м а ц ь  в о ч ы.

**Не паднімаць** (не падымаць, не ўзнімаць) **галавы** (галаву). 1. *Цяжка хварэць.* Ляжы́ць, другу́ю нядзелю ні пыднімáіць гылавы́. Так ліжаў летыся, што ні пыдымаў гылаву́. Ні ўзьнімáіць гылавы столька ўремя, ні знаю, ці будзіць якоя лу́ччыньня. 2. *Саромецца.* Ні пыднімáюць гылаву, у вочы людзям сты́дна гля́нуць. Нешта нытваріў, што гылавы ні пыдымаіць. Цэлый дзень хадзіў, ні ўзьнімаў гылаву. *Зак.* **Не падняць** (не ўзняць) **галавы** (галаву). *Засаромецца.* Стыдна як чорту якому, ні пыдня́ў гылавы дайжа. Ні ўзьня́лі гылаву і ні ўзгляну́лі дайжа, сколька ні дапы́тывыліся, што нытварілі. *Параўн.* П а д н і м а ц ь  г а л а в у.

**Не па днях, а па часах.** *Вельмі хутка (расці).* Пырыся́ткі ны яду дужа харошыя і растуць ні пы днях, а пы чысáх.

**Не пад сілу.** *Не па сродках, звыш магчымасцей, здольнасцей.* Вам будзіць ні пацьсілу такую стройку ўзьняць. Ні пацьсілу адной спрáвіцца с усім хызя́йствым.

**Не па душэ.** *Не да спадобы.* Тыкáя табе ні пу душэ, табе каб пудоў на восім баба. Чуць што ні пу душэ, пакрі́ўдзіцца, яму ж угадзі́ць — нада ого патход, хуць курсы прыхадзі́. *Параўн.* П а  д у ш э.

**Не паздаровіцца.** *Скончыцца дрэнна.* Яй-богычку, ні пыздаровіцца вам зы такую шкоду. За лес яму ні пыздаровілыся, упыя́лі штра́ху крепка, доўга пачэсывыўся.

**Не па зубах.** *Звыш умення, здольнасцей, разумення.* Раз ні пу зуба́х, дык нашто пустоя гываріць. Хата бы-гатыя, ды табе ні пу зубах. **Па зубах.** Ці яму пу зубах брацца зы такоя дзела.

**Не па карману.** *Не па сродках.* Худзь ба німудренькыю купіць, тыкая карова нам ні пы кырма́ну. Раз ні пы кырма́ну, то нечыга й пріцыня́цца. **Па карману.** Каб пы кырману було, я ўзяў ба.

**Не пакладаць рук.** *Працаваць вельмі старанна.* Яны абоя ні пыклыда́юць рук, прасьвету ня відзюць зы работыю. Антон Хралёнык, Церіх і Аўгінка былі родныя браты і сістра, работылі — рук ні пыклыда́лі.

**Не пакладаючы** (не пакладая) **рук.** *Старанна, без стомы.* Столька гадоў біліся яны ні пыклыда́ючы рук. Нечыга заві́дывыць, што ёсць дыста́тык, работыюць ні пыклыда́я рук. Старый Хонька рук ні пыклыда́я работыў, усё, бува́ла, поріцца, кыпа́іцца.

**Не паласа.** *Небяспечна.* Відзіць, што ні пылыса́, дык скарей з двыра́. Пынялі, ні пылыса, зы мяшкі і нызад. Пыглядзеў: ні пылыса, вы́скычыў, скарей зы кыня, у аглоблі, ў вароты і толька быў ціряс поля ў Равы.

**Не па насу,** *іран. Непрыемна.* Езьдзіў пы свыта́х, і дзела яго ні выпа́лівыла, усюдых було ні пы насу́. **Па насу.** Што яму калі було пы насу, усігда нешта ні так.

**Не па нраву** (нараву), *іран. Не да спадобы.* Ні пы нра́ву была вічарі́нка, рана прішоў. Што табе ўсё ні пы ныра́ву, ня будзім жа мы пиріт табою ны заднія лапкі стынавíцца. Маша яму чаго-то ні пы ныраву, а йна дзеўка луччы некуды. *Параўн.* П а н р а в у.

**Не па нутру,** *неадабр. Не да спадобы.* Дзень бурчы́ць, другей бурчыць, усё яму ні так, усё ні пу нутру́.

**Не па плячу.** *Звыш сіл, здольнасцей, умення.* Зыхарёнку ета будзіць ні пы плячу́. Вам пакуль што ні пы плячу брацца кірува́ць усім, вы хуць тута што пріпуціця. *Параўн.* П а п л я ч у.

**Не пара.** *Не раўня.* Іхныму сыну усе ні па́ра, ім нявестку нада выпісывыць. Сыма́ знаю, што ні пара, і рысста́цца ні магу.

**Не па рылу,** *груб. Не да спадобы.* Пысадзілі збоку Марыічку, дык атвярнуўся: ні па ры́лу. Ну што табе ўзноў ні па рылу, што ні ў лад.

**Не па сабе.** *Ненармальна, нялоўка, нязвычна.* Уродзі, каб скызаць, што там і гыварілі дужа, а як то ні пы сабе. Дужа, каб скызаць, ні баліць нічога, а так неік ні пы сабе, нешта да́віць,— прасту́да ўсё. Тама ўсім було ні пы сабе. У чужом месьці пакуля прівы́кніш, дык усё ні пы сабе.

**Не па серцу.** *Непрыемна, нялюба.* Ні па серцу брацъ — то луччы ўжо саўсім ні жаніцца. Ні па серцу мне, што яны заду́мывыюць.

**Не па сіле,** *адз., мн. Звыш сродкаў, умення, сілы.* Я сам чу́ствую, што січас ні па сілі брацца. Ні па сілых хвыта́юць, ні сьця́гнуць, яны ўжо здорыва пріцю́пыліся, асобінна пасьледнія ўремя.

**Не паследній чорт** (радзімец, прыпадак), *іран.; адз., мн. Пра дрэннага, нягоднага.* Ні пасьледній чорт быў твой Васіль, мог учудзіць што хочыш. Етыя тожа ні пасьледнія чэрці, чаго там гывaріць. Ні пасьледній радзіміц і Толік, Пёкла ні мала пыріўла́ ат яго: пуза прідзелыў, а брацъ ня хочыць. Ні пасьледнія пріпа́дкі, на ўсё спасобны.

**Не пастаяць.** *Не пашкадаваць страт.* Каб дзіцёнка выўчыць, ён ні за чым ні пыстаіць, ну любэя расходы пойдзіць. І карову прыдаць ні пыстыяў, а сваіх выручыў.

**Не па ўкусу.** *Зусім не да спадобы.* Такея вокны мне ні па ўку́су, ета ні вакно, а дзірька. Жонка нічога, ныра́віцца, а цёшча дужа ні па ўкусу. **Па ўкусу.** Што яму калі було па ўкусу? А думыіш, па ўкусу вы́брыў, хуць і выбіраў дужа доўга?

**Не перад дабром.** *У прадчуванні нядобрага.* Ні пірід дабром вы, дзеці, рызырза́ліся. Ні пірід дабром носіць яго нячы́стыя сіла. Не ўжо, ні пірід дабром вас дрэнчыць, нейкыю вы пагібіль самі сабе чу́іця, даўно чуіця.

**Не первай маладосці** (моладасці), *кніжн. Параўнальна не малады.* У яе ня первый мыладосьці мужык,

ужо, знаць, жынат быў, ды рызыйшоўся. Старуха — ні старуха, канешня, ну ня первый молыдысьці, пац сорык блізка пыдыбра́лыся.

**Не помніць сябе.** *Не разумець, не ўсведамляць сваіх дзеянняў, паступкаў.* Мы ляцелі аттуля — сябе ня помнілі, ду́мылі, голывы пузлума́ім. Як разойдзіцца, тады пряма ня помніць сябе.

**Не праранiць** [нi] **слова.** 1. *Нічога не сказаць.* Чаго ні гыварілі, як ні ныстыва́лі, сколька сядзеў — слова ні прыраніў. Дужа ціръпялі́вый, ні прыраніў слова, як ні дыпіка́лі. Будзіць вечыр сядзець і ні прароніць ні слова. **Прараніць слова.** Каб прыраніла ім слова, ні словічка ні скызала. 2. *Уважліва слухаць.* Сам ня ўмешывыўся у рызгаворы, а ўсё слу́хыў, ні прыраніў слова. Што мы ні гыварілі, ні слова ні прыраніў, усё запомніў.

**Не прывадзіць к дабру** (да дабра). *Дрэнна заканчваццa.* Такоя ба́лыўства нікога ні прівадзіла **г** дабру. Краньнё ды дыбра ні пріводзіць. *Зак.* **Не прывесць к дабру** (да дабра). Тыкая жысьць **г** дабру ні прівядзець, раз-два ўда́сца, а на трецьцій гылаву зьверніць. Гульта́йства нікога йшчэ ні прівяло ды дыбра.

**Не пры чым** (чом). 1. *Зусім ні з чым.* Рашшчы́тывылі, што далжно пулучы́цца хырашо, а выйшла — ні прі чым аста́ліся. Ні прі чом пыстыва́ліся, во і ўся вы́гыда. 2. *Зусім староннi.* Мікілай тут ні прі чом, яны самі кругом вінува́ты.

**Не пускаць нагою.** *Не дазваляць выходзіць, заходзіць, падыходзіць.* Ні пуска́й нагою сваіх к Сыўчынкам, разым што заўгодна сытвыря́ць. Ён такоя выдумыіць, а вы ня́нчыцца зь ім? — дайжа нагою ні пуска́йця к хаці. *Зак.* **Не пусціць нагою.** Ні хацеў жыць як чылавек, дык нагою большы ні пушчу. Ні пушчу́ нагою, ніхай дайжа блізка ні пытыка́іцца.

**Не пускаць** (не выпускаць) **за парог.** *Не дазваляць выходзіць.* Цябе жонка, знаць, ужо і зы парог ні пуска́іць, дзяржы́ць пыц спадні́цыю. С таго ўремя ні выпуска́юць зы парог. *Зак.* **Не пусціць** (не выпусціць) **за парог.** Ні пушчу і зы парог, будзіш ты ў мяне цэлый дзень у хаці сядзець. Пысядзі-ка ты ў дваре, я цябе зы парог ня вы́пушчу.

**Не пытаць** (не спрашываць). *Нядоўга чакаць нязвычных учынкаў.* У такея мылахольныя ні пытáць, што заўгодна можыць лыпатнýць. У яго ні спрáшывыць, заверніць мыціріка і слухый.

**Не разбяры-бяры,** *неадабр. Незядома што.* Ні рызьбярí-бярí дзелыіцца у іх там. Ні рызьбярі-бярі што зацеіў.

**Не разбяры** [-бяры] **паняць,** *неадабр. Нічога не зразумець.* Ні рызьбярí пойміш, чаго яны хочуць. Ні рызьбярі паймеш, якея трілюды порюць. Ні рызьбярі-бярі пойміш, чаго ім усхýпілыся ў тэя Віхряны. Ні рызьбярібярі пыняць, што ім нада ач чылавека.

**Не разганяцца.** *Многа не рабіць.* Да не, ны работу асобінна ні рызгыня́юцца, за кніжычку ды пат кýсьцікі. *Зак.* **Не разагнацца.** Як ныстáніш, прітýркыіш, зьдзелыіць, а сам дужа ні разгоніцца.

**Не размінацца** *(з чым), іран. Хапаць, красці.* Нашто там богу гряшы́ць, і Мішынька твой ні ш чым ні рызьмінáіцца. *Зак.* **Не размінуцца.** Кылі што блізка ляжыць, нізáшта ні рызьмінецца.

**Не раскрываць** (не расчыняць) **рота.** *Упарта маўчаць.* Што я там стану гываріць, я ні рыскрывáла рота. Сядзелі ў вугалкý, рота ні рышчыня́лі. *Зак.* **Не раскрыць** (не расчыніць) **рота.** Чаго ты такей удаўся, што рота ні раскрыіш нійдзе. Нейкій зацю́кыный, ні рашчы́ніць рота, маўчыць і ўсё.

**Не рваць,** *іран. Падабацца.* І цябе ня рьвець ац смáшнінькыга, нябось, крупені дужа ня хочыш, а глядзіш, каб кусок мяса, ды большый. Ач чаго — ач чаго, а ад гарелкі вас ні рвáла.

**Не робкага дзесятка,** *запаз., звыч. іран. Храбры, смелы.* Ты ня робкыга дзісятка, хто ж большы храбрей.

**Не ровен час,** *запаз. Пра магчымасць нечаканай небяспекі.* Ня ровін час, пупадзесься пыд гыря́чыю рукý — будзіш кáіцца.

**Не рука.** *Няма сэнсу.* Мне січас ні рукá туды пыкáзывыцца, схадзí сам. Ні рука нам пыдріджáцца на іхныю пýню.

**Не сваім голасам.** *Дзікім крыкам.* Чую, крічыць ні сваім голысым, пыдбігáю — ён гылаву зышчаміў і ня

выцігніць. Чаго яны тама ўзноў ні сваім голысым вішча́ць, як вечыр, так і німа спакою, чуць ні да поўнычы гылыгыля́ць.

**Не солана** (не сольна) **хлябаўшы,** *запаз. Безвынікова.* Ду́мылі, тут ім будзіць моря рызьліва́ныя, ды пашлі ня солына хліба́ўшы. Пысідзя́ць, пысідзяць і ня сольна хлібаўшы паедуць.

**Не спускаць вока.** *Наглядаць пастаянна.* Будзіш па́сьвіць, дык ні спускай вока, глядзі́ ды глядзі. Вока ні спускаў с Анькі, дужа яму пріглянулыся. *Зак.* **Не спусціць вока.** Ці прімеціла ты, ён жа ні спусьціў с Танькі вока за ўсё ўремя. *Гл.* Не звадзіць вачэй; Вачэй не атвадзіць.

**Не спускаць з вока** (вачэй). *Наглядаць пастаянна.* Ні спуска́й з вока ні ны мінуту. Ні спуска́йця з вачэй, пыціря́юцца між кустоў, будзіця бегыць тады. *Зак.* **Не спусціць з вока** (вачэй). За што харош, дык скыта́ ні разу ня спу́сьціць з вока. Каб яны там ні спусьцілі з вачэй, зугуля́юцца ці задремюць, а каровы луману́ць пы хліба́х.

**Не спускаць з языка.** *Шырока нядобразычліва абгаворваць.* Во якея яны людзі: тая ні пра што ні знаіць, а тут пупа́лі і ні спуска́юць зь ізыка́. *Зак.* **Не спусціць з языка.** Толька паспробый пупадзі́ся такім, ды самыя сьмерці ня спу́сьцюць зь ізыка.

**Не ставіць у грош** (капейку). *Зусім не цаніць.* Мы са́мі зна́ім, што яго саўсім ні ста́вюць у грош. Ніхай яны прытану́ць і свае такея, кылі яны нікога ні ста́вюць у грош,— толька самі. Іна Грішу ў капейку ні ста́віць, а ён за ёю аж сьмя́гніць.

**Не страляць** (*з чаго*). *Хай крывое, няроўнае.* Якое грыбяльні́шча дык грыбяльнішча, нам зь яго ні стріля́ць. Зь естыга кысься́ ні стріляць, глядзі́, каб касіць можна було.

**Не схадзіць з языка.** *Быць увесь час аб'ектам размоў.* Калі йта було, трі гады таму нызад, а ўсё ня сходзіць зь ізыка.

**Несць зубы ў кулаку** (прыгаршчах, пастанні, кармане). *Быць збітым да крыві.* Ты ўжо раз нёс зубы ў кулаку́, відна, забыў. Што, можа ўзноў зубы нісіцё ў

прі́гыршчых. Стаю́, сустрюка́ю,— нясу́ць зубы ў пыста́ньні. Ці ні нясеш ты зубы ў кырма́ні яшчэ раз? *Зак.* **Прынесць зубы ў кулаку** (прыгаршчах, пастанні, кармане). Толька ты мне прінясі́ зубы ў кулаку, будзіш харош. Хочыш, дык прінясець зубы ў прі́гыршчых. Мой зубы ў пыста́ньні прінёс, дзелый што хочыш. Ніхай прінясець зубы ў кырмані, яшчэ зьверьху нулуплю́. *Пачын.* **Панесць зубы ў кулаку** (прыгаршчах, пастанні, кармане). Ніяк ні маглі ўняцца, пакуля зубы ў кулаку пынясьлі́. Нызыдыва́ліся, што зубы ў прігыршчых пынясьлі. Дыска́чысься, пынясеш у пыстаньні зубы. Пудлужаньськія былі дужа сьмелыя, дык пынясьлі зубы ў кырма́ных. *Закон.* **Вынесць зубы ў кулаку** (прыгаршчах, пастанні, кармане). Вуюва́ўся да тых пор, пакуля зубы ў кулаку вы́ніс. Вы́нісіць зубы ў кулаку, дапрыгыіцца. Зубы вынісьлі ў прі́гыршчых і пыцішэлі. Вынісуць зубы ў пыста́ньні, так яны сы сваёю ухва́ткыю ні абойдуцца. Як вы́нісіць зубы ў пыста́ньні, тады трошку пыцішэіць. Я віджу, што табе дужа хочыцца зубы ў кырмані вынісьць ат'етуль. Айдзе што й дзелыся ў яго, як зубы ў кырма́ні вы́ніс.

**Несць нос у кулаку,** *рэдкаўж. Быць збітым да крыві.* Гляджу́, нясець нос у кулаку́ і рю́мзыіць. *Зак.* **Прынесць нос у кулаку.** Прінясець нос у кулаку, дык любу́йся ты ны яго. Прінёс учора нос у кулаку, сколька ні дапы́тывылыся — што, нічога ні скызаў. *Пачын.* **Панесць нос у кулаку.** Дажджэцца, што пынясець нос у кулаку, тады і ўнімаць ні нада будзіць, і спакой на́йдзіцца.

**Несць** [свой] **хрэст,** *устар. Цярпець, пакутаваць.* Ікая ні была жы́зьня, ціръпялі́ва нісла хрест, нічогінька нійдзе ні прыгывары́ла лі́шніга. А ўжо нясьлі свой хрест як ёсць, нікому ні слова ні паўслова ні чэцьвірць слова.

**Несць сабе.** *Вельмі ганарыцца.* Чаго яны так нясуць сябе, нічога там харошыга німа. Каб ні нясьлі́ сябе так дзёрзка, куды було б луччы. *Пачын.* **Панесць сябе.** Зразу, як толька пріехыла, пынісла́ сябе пірід усёю дзяреўнію гынарі́ста.

**Не так сабе.** *Не без падстаў.* А я табе гывару́, што Аніська нывымі́на́ў ні так сабе, ён нешта знаіць. Яны прішлі́ ні так сабе, паверь.

**Не тая музыка.** *Нешта зусім іншае.* Скызáць яны, канешня, ні скáжуць праўды, ну тут ні тая мýзыка, задýмына саўсíм другоя. Я чýствыю, што ў іх ні тая музыка.

**Не твайго носу палосу.** *Не такі, як ты.* Ужо ні твайго носу палосу Хвенька была, а й іна пыглядзела-пыглядзела, не, гаворіць, ніхай мяне вя́жуць, дык я туды ні пайду.

**Не твайму носу палосу.** *Не такому, як ты.* Ні твайму носу палосу хлопцы клінкí пыдбівáлі, ды нічога ні пулучáлыся. Сенька ні твайму носу палосу быў, як дуб, а вíдзіш, як скруцíла.

**Не труслівага дзесятка,** *зевыч. іран. Храбры, смелы.* Тута ўсе знаюць, што твой швáгырь ні трусьлíвыга дзіся́тка, ён толька раз ат вароны ўцікáў. Мы знаім, якога ён ні трусьлівыга дзісятка, нам аб'ісьня́ць ні нада.

**Не туды паехаць** (заехаць), *гумар. Далёка адхіліцца ад тэмы гутаркі.* Я дýмыла, пры сям'ю што рыскáжуць, а яны зразу ні туды паехылі. Ні туды ты заехыў сы сваёю дзяреўнію: бургомісьцір — ніхай, чужэй, пріблýда, а як свой гыня́ў людзей кýчымі у паліцыю, а іх там білі пáлкымі, зымкáмі. *Незак., рэдкаўж.* **Не туды ехаць.** Э, не, брат, ты саўсім ні туды едзіш, дывай-ка дзела гываріць.

**Не тут то была** (было), *запаз. Пра нечаканую няўдачу ў разліках, меркаваннях.* Рашчот быў простый: усё ціхінька пройдзіць, ажно ня тут то бы́ла. Ня тут то було, каб еткій номір глáдка вам прайшоў.

**Не ў абіду** (крыўду) **будзь сказана,** *запаз. Пра непрыемнае, але адкрытае выказванне.* Ні ў абіду ёй будзь скáзына, зьдзелыла йна хужы ні прідýмыіш як. Ня ў кріўду будзь сказына, у цябе йшчэ дужа ніхто ні пыжывíўся.

**Не ў броў, а ў глаз,** *запаз. Вельмі дакладна.* Скызáў проста так сабе, а яно вы́йшла ня ў броў, а ў глаз. Тута табе пупáла ня ў броў, а ў глаз, і нечыга цяперя выкрýчывыцца.

**Не ўбыць.** *Не страціць гонару, вартасці.* Ня ўбýдзіць, кылі й пыкáшыіш трошку. Я дýмыю, ні ўбуло б, каб зьезьдзіў, успомні-ка, сколька табе пымыгáлі.

**Не ўдарыць** (не ўдарыцца) **ліцом у гразь.** *Не схібіць, не асарамаціцца.* Вы ж цяперя ні ўдáрьця ліцом у грязь пірíц свытáмі. Нада ні ўдáріцца ліцом у грязь сы свадзьбыю. **Ударыць** (ударыцца) **ліцом у гразь.** Гатýіцца, нывáріiць, ня хочыць ударіць ліцом у грязь. Быяліся ударіць ліцом у грязь. Табе стыдна ударіцца ліцом у грязь пірід Мікíпырывымі.

**Не ў дасуг.** *Некалі.* Няўжэлі табе і сяньня ні ў дасýг було разгледзіць усё як нада.

**Не ў дзел,** *мн., адз.; запаз.; звыч. іран. Без пасады.* Во, хызя́йнічыў, хызяйнічыў, а цяперіцька ня ў дзел. Як жа так, первыя рука быў і астаўся ні у дзел. Даўно ўжо ня ў дзела, ходзіць як сыч.

**Не ў дзіковіну** (дзіковінку). *Прывычна, звычайна, часта.* Нам ні ў дзіковіну слухыць такея рызгаворы, ня первый раз чýім. У нас усё ета ні ў дзіковіну. Мне відзіць яго конікі ні ў дзіковінку.

**Не ўзвідзець свету,** *запаз. Адчуць вялікія пакуты, фізічныя або духоўныя.* Як дасьць пы наге збоку, дык я сьвету ня ўзьвíдзіў. Ня ўзьвідзіла я сьвету, як узнáла пры яго прадзелкі.

**Не ўказ.** *Не з'яўляецца аўтарытэтам, прыкладам.* Нам твыя Марычка ні ўказ, што захочым, то й зьдзелыім. Ета яшчэ ні ўказ, кылі ён так рыспырядзіўся.

**Не ў карты гуляць.** *Не забава.* Гываріця,— так, як мы, іціць дзень у дзень ны ўсякыю работу — ета табе ні ў карты гуля́ць. **У карты гуляць.** А па-твойму, ета ў карты гуляць іціць у такую непыгыдзь, і ну буі́, і ў грязі́ стыя́ць. *Зак.* **Не ў карты згуляць.** Сь сярпом састоіць дзень з год ні ў карты згуляць. **У карты згуляць.** Ён дýмыіць, ета ў карты згуляць столька ям вы́бухыць. *Непайн.* **Не ў карты пагуляць.** Лета прыпáсьвіць ні ў карты пугуля́ць. *Абмеж.* **Не ў карты прагуляць.** Прумурдувáцца ны такой пашы ні ў карты пругуля́ць, зá дзінь уваб'есься ў пень.

**Не ўкладывацца ў галаве** (сазнаніі). *Не верыцца.* Стыхван то гываріў, ну ў мяне ў гылаве ні ўклáдывыіцца, што ты можыш рісканýць біс каровы астáцца. Уся ета зыварýха ў гылаве ні ўклыдáіцца. Дайжа ў сызнáніі ні ўклáдывыіцца, каб яны маглі пайціць яблынкі

выка́пывыць. *Зак.* **Не ўкласца ў галаве** (сазнаніі). У яго ў гылаве ні ўкладзецца, што йна прікоціць ныза́д цірізь нядзелю. У іх ні ўкла́лыся ў сызнаніі, ні паверілі мне.

**Не ў лад.** *Не да спадобы.* Бува́іць, пашы́іш, а ім ні ў лад. Як ні ступі, усё ні ў лад, ім ніякій пріпа́дык ні ўгадзі́ць.

**Не ўладзіць слова сказаць,** *неадабр. Ніяк не дагадзіць.* Стала ўжо ні ўла́джу слова скызаць, зыдра́ла нос, што ні пытхадзі. Пабы́ў у горыдзі, дык слова скызаць ні ўладзіш. **Уладзіць слова сказаць.** Айдзе ім ула́дзіш слова скызаць, так рыспанелі — ні пацсту́пісься.

**Не ў ладу,** *адз., мн. У дрэнных адносінах.* Я дык і ня чу́ла, што яны ні ў ладу́,— а за што йта ў іх. С прошлыга лета ні ў лыда́х, за Верычку, рысказывылі, пычалося.

**Не ў меру,** *звыч. неадабр. Празмерна, звыш дазволенага, звыш нормы.* Нада браць, ну ні так жа, хвыта́юць ня ў меру. Жрець ня ў меру, куды ў ім толька дзяецца.

**Не ў модзе.** *Не ў інтарэсах.* Сыціпан у іх ня ў модзі, цяперь яны ўжо заігрывыюць з другі́мі. Ня ў модзі мне хахлы́ людзя́м зьвя́зывыць.

**Не ў навіну** (навінку). *Прывычна, звычайна, не першы раз.* Нам і ні такоя ні ў нывіну́ ві́дзіць. Тыкая пірiжа́рка яму ні ў наві́нку. *Гл.* Не ў дзіковіну.

**Не ўпускаць з вачэй.** *Наглядаць пастаянна.* Глядзі́ця ж, глядзіця, ні ўпуска́йця з вачэй ма́лых. *Зак.* **Не ўпусціць з вачэй.** Каб яны там ні ўпусьцілі з вачэй табу́н: ма́лыя зугуляюцца, а скот ля́сьніць. Я надзеюсь на іх, з вачэ́й яны ня ўпу́сьцюць.

**Не ўпускаць** (не выпускаць) **з віду.** *Пастаянна мець на ўвазе.* Нізашто ні ўпуска́й зь віду Валодзькіныя каровы, шмыганець, што ня згледзіш. Ні выпуска́лі зь віду, усьлед ішлі. Ні ўпускайця ж ізь віду, пра што мы прасі́лі. Ні выпуска́й ты зь віду ні́тык, я ж бязь іх, як бяз рук. *Зак.* **Не ўпусціць** (не выпусціць) **з віду.** Глядзелі уніма́цільна, ні ўпусьцілі зь віду. Я баюсь, каб яны ня выпусьцілі зь віду пырыся́т. Калі ня ўпусьцюць зь віду, то ку́пюць, толька я на іх ня дужа надзеюсь. Як

жа ета мне ня вы́пусьціць зь віду, што Домна прасíла вожычык. *Парайн.* Выпускаць з віду.

**Не ў пустое** [места]. *Заслужана, дарэчы.* А ні ў пустоя, што пачы́сьціў яму бакі, рузмудрэў жа некуды большы. Ета лу́пка ні ў пустоя места, іна ўжо ўчора нада была, толька блыгыдыря што Пятрок пріехыў.

**Не ў сабе.** *У хваляванні, непакоі, дрэнным настроі.* Я зразу прімеціў, што ён чаго-то ні ў сабе. Прішоў двору ні ў сабе, трошку пыпароўся пыт павецьцю і пашоў узноў.

**Не ў сваёй тарэлке.** *У разгубленасці, хваляванні, не ў настроі.* Трецьцій дзень ні ў сваёй тарелкі. Віду ні пыдаець дужа, ну чу́ствыіць сябе ні ў сваёй тарелкі. **У сваёй тарелке.** А ці ты быў ба ў сваёй тарелкі, каб цябе жонка зыхвацíла з Ганныю.

**Не ўсе дома,** *запаз., груб. Пра адсутнасць нармальнай разважлівасці, розуму.* Ці ў яго ня ўсе дома, ці проста так прідурівыіцца. У абаіх ня ўсе дома, зь імі толку найціць тру́дна. **Усе дома.** Хырашо, калі ў цябе ўсе дома, а мы ніхай будзім дуракі́.

**Не ў сілах.** *Звыш магчымасцей.* Хацелыся б трошку паможч, і січас я ня ў сілых зьдзелыць што. Ня ў сілых мы іх сыдзіржа́ць, ніхай на свой хлеб сыдзя́цца.

**Не ўскрэснуць** (не ўваскрэснуць). *Не трапіць у нармальныя ўмовы.* Ніхай ідуць туды́, толька і ў Сапры́нывічых ім ня ўскреснуць. Я памру, дык і ён ні ўваскресьніць. *Незак., рэдкайж.* **Не ўскрасаць** (не ўваскрасаць). Пустоя вы меліця, ні там яны, ні тута ні ўскрісáлі і ні ўвыскрісáюць, не, ця́гнуць чуць-чуць.

**Не ўспамінай** (не памінай) **ліхам,** *запаз., адз., мн. Пра пажаданне пры развітанні застацца ў прыязных адносінах, у прыемных успамінах.* Ні ўспымінáй ліхым, ня скора ты што пры мяне пачу́іш. Як було ўжо, ні було, ні ўспымінáйця ліхым. Я пашоў, ні пымінáй ліхым.

**Не ўспускаць на парог.** *Не дазваляць заходзіць.* Як прідуць, ні ўспускáй ны парог, ніхай хуць ны каленкі становюцца. Два месіцы ні ўспускала ны парог, дык пыкáіўся троху. *Зак.* **Не ўспусціць на парог.** Як ня ўспусьцюць ны парог, тады ты пырягочыш інáчы. Ніхай

цігáіцца, айдзе хочыць, а я зычыню́ дзьвері і большы ны парог ні ўспушчу́.

**Не ўспускаць на язык.** 1. *Нават не каштаваць.* Усю жысьць дайжа ны язык ні ўспускаў гарелкі. Я ўжо другей год нічога сáльныга ні ўспускаю ны язык. 2. *Не дапускаць гаворкі, не дазваляць весці размовы (пра каго).* Ныталку яны больы ні ўспускаюць ны язык. *Зак.* **Не ўспусціць на язык.** 1. Як ні прісíлівылі, як ні ўгывá-рівылі, ны язык ні ўспусьціў ні кáплі. 2. Посьлі ўчырáшнія свáдзьбы яны такіх сватоў і ны язык ня ўспусьцюць.

**Не ў часці.** *Не ў павазе.* Усё ўремя ні ў часьці ў іх Валодзька, даўно крівюцца. Цётка ў яе ні ў часьці стáла.

**Не ў чужое места.** *Заслужана, дарэчы.* Ні ў чужоя места, што пупáла. Даў, дык ні ў чужоя места, збáлывыўся саўсім. *Гл.* Не ў пустое.

**Не хватаць** [адной (дзесятай)] **клёпкі,** *груб.; адз., мн. Не мець развагі, правільных меркаванняў.* Есьлі клёпкі ні хвытáіць, сядзі і маўчы́. У яго ўсігда ні хвытала клёпык, урадзíўся такей. Ні хвытаіць адной клёпкі ў гылаве, паетыму і вярзець абы-што. У яго даўно дзісятыя клёпкі ў гылаве ні хвытаіць, і бацька такей самый быў. *Зак.* **Не хваціць** [адной (дзесятай)] **клёпкі.** Ці ў цябе клёпкі ні хвацíла рызыбрáцца, што тут і к чаму. Усё прасьцей простыга, дык і тут клёпык ні хвацíла. Аднае клёпкі ні хвацíла дадýмыцца вароты зычыніць. Як на што разумныя, дзісятыя клёпкі ні хвáціць.

**Нехта нейкій,** *іран. Важная асоба, персона.* Найшоўся мне нехта нейкій, яшчэ пакрíкывыіць. Калі хто ні знаіць, дык нехта нейкія, а яны чэрця з балота, во хто яны.

**Не цякець** (не капаець), *неадабр.; цяп., пр. Няма падстаў для спешкі.* Ні цякець, дык і сядзí ціха. Чаго яму вулнувáцца, над ім ні цякець. Пакуль ні кáпыіць, пáліц ап паліц ні ўдáрюць; як тýга прідзіцца, тады зышавелюцца. Ні кáпыла, дык і ні біспакоіўся ні ап чым.

**Нечага** (няма чаго) **дзелаць.** *Пра адсутнасць іншага выхаду.* Нечыга дзелыць, нада сыбірáцца. Нечыга було

дзелыць, пашлі. Німа чаго дзелыць, прідзіцца рыска́зывыць.

**Нечага** (няма чаго) **дзяліць.** *Пра адсутнасць прычыны для разладу, сваркі.* Нам с Танькыю нечыга дзяліць, мы ні разу ні сварі́ліся, ні ла́іліся, а кылі ку́ріца ны гарод ускочыць, дык што там такога. Пракопывым зь імі німа чаго дзялі́ць.

**Нечага** (няма чаго) **сказаць.** *Пра адсутнасць хоць якой-небудзь карысці.* Нечыга скыза́ць, пріехыў, памог,— памог дык памог. Німа чаго скызаць, пріжда́ла зьмены.

**Нечыга** (няма чаго) **цярацъ.** *Пра гатоўнасць пайсці на любую рызыку.* Цяперя ўжо нечыга ціря́ць, нада цягну́ць ды кынца́. Яму німа чаго ціряць, пойдзіць на што хочыш.

**Не чата** (раўня) *(каму), запаз. Непараўнальна больш значны або лепшы.* Тама былі мушчы́ны ні чыта́ вам, і то нічога ні маглі прідумыць. Пецька — хлопіц ні рыўня́ табе, ат яго плахога слова ні разу ні пачу́іш.

**Не чорт бяды.** *Нядрэнна.* Тута жыць ня чорт бяды, усе вы́гыды ря́дым. Ёй ня чорт бяды, троя мушчын у ха́ці, усё зы яе падзелыюць. **Чорт бяды.** Ці ім чорт бяды, кылі быга́ства з горла прець.

**Не чуць жывога голасу.** *Жыць зусім адзінока, замкнута.* Сідзя́ць там — ня чуюць жывога голысу. *Зак.* **Не пачуць жывога голасу.** Ікая ў яго жызьня, што жывога голысу ні пачу́іць цэлымі днямі. Пысядзі́ш, што жывога голысу ні пачу́іш, тады ска́жыш.

**Не чуць зямлі** (ног) **пад сабою.** 1. *Быць у вельмі добрым, радасным настроі.* Ся́ньня іна ня чуіць зямлі пыц сабою: Грішычка пріехыў. Ног пыц сабою ат радысьці ня чуюць. 2. *Вельмі шпарка бегчы, ісці.* Гляджу́ — ліця́ць, ня чуюць зямлі пыц сабою. Лётыюць, носюцца, ног ня чуюць пыц сабою. 3. *Адчуваць вялікую стомленасць.* Як пріівалокся ш Чавус, дык я зямлі́ пыц сабою ня чуў цэлыю нядзелю. За дзень так уходзісься, што ног пыц сабою ня чуіш.

**Нешта нейкае,** *іран. Важная асоба, персона.* Вот ужо нешта нейкыя іх Васіль, мне ён ці ёсьць, ці німа — усё

роўна. Усё дно як нешта нейкыя, госьць мне дужа ва́жный, можыш зыбра́ць яго сабе. *Гл.* Нехта нейкій.

**Не шутка дзела.** *Не забава.* Ня шу́тка дзела такую грыма́дзіну вы́кыпыць. Ня шутка дзела ды такога ныча́льства дабіцца. Ня шутка дзела було асьмеліцца адной паехыць ні зна́ўшы нікога, ня бы́ўшы ніайдзе. **Шутка дзела.** А ці шутка ж дзела такея грошы ўбухыць.

**Не шуткі** (шутачкі). *Не забаўка.* Ня шу́ткі адной увы ўсякыя пекла кі́дыцца. Ня шу́тычкі було нумурдува́цца зь естыю лазою, ні рызьбяреш, айдзе цягніцца.

**Не шуцейнае дзела.** *Вельмі сур'ёзная справа.* Ні шуцейныя, брат, дзела ўся ета зывару́ха, нада, каб хто разумный, з гылавою, рызыбра́ўся. Каму ні шуцейныя дзела, толька ні Йвану, яму ўсё чыста трын-трыва́.

**Не я буду.** *Пра безумоўнасць выканання, здзяйснення.* Ні я буду, кылі ні сыстрамлю́ яго, як сыбаку якога. Ні я буду, есьлі яны ні пыпрыпа́ріваюць саміх сябе.

**Ні адзін радзімец** (прыпадак), *груб. Абсалютна ніхто.* Ні адзін радзі́міц ні рызьбярецца, як тут накру́чына. Ні адзін пріпа́дык туды ні пашоў і ня пойдзіць.

**Ні адзін чорт,** *неадабр. Абсалютна ніхто.* Зьдзелыіць, а тады зыма́сьліць, зыгладзіць, што ні адзін чорт ні пыткыпа́іцца. Ні адзін чорт ні знаіць, што яны тама тваріль.

**Ні** [аднае (адной)] **душы.** *Зусім нікога.* Ішоў я часоў у пяць, дык нійдзе ні душы́, як вы́мірла дзяреўня. Ні аднае ж душы ні було, а ўсё адно нехта данёс. Ні адной душы нійдзе ня ўстрецііш, як вы́мірла ўсё кругом. *Гл.* Ні жывэя душы.

**Ні аднае** (адной) **сабакі,** *груб. Зусім нікога.* Ні аднае сыбакі ня ўві́дзіш, хто там што будзіць дзелыць. Ні адной сыбакі ня прі́дзіць у еткыю ду́йку, чаго табе перцца.

**Ні адна сабака,** *груб. Зусім ніхто.* Дзелыць — дык дзелыць так, каб ні адна сыбака ні зна́ла. Ні адна сыбака ў цэлым сьвеці ні пранюхыіць, есьлі мы схува́ім пыныстыя́шчыму.

**Ні атвета ні прывета.** *Ніякіх вестак.* Даўно ныпіса́лі, дык ці ім дужа балі́ць, ныпіса́лі й ныпісалі, ат іх ні атвета ні прівета. Паехыў і ні атвета ні прівета.

**Ні божа мой.** *Нізавошта.* Як гла́дзіш па шэрсьці, ішчэ так-сяк, а чуць што ні так, кініць-рініць, ні божа мой ня возьміцца.

**Ні большы ні меншы.** *Ніяк не менш, толькі так.* Пыдыва́й яму касьцю́м як у Сямёна, ні большы ні меншы. Ні большы ні меншы, зразу сотнімі сныбжа́й.

**Ні бум-бум,** *вульг. Зусім нічога, ніякага разумення.* У хызя́йскіх дзілах яны ні бум-бу́м. Ні бум-бум ня петрiць, што над ім сьмяю́цца кругом.

**Ні былінкі ні пылінкі.** *Зусім нічога, ніякіх запасаў.* Пыд вясну́ ні былі́нкі ні пылі́нкі ні астаецца, усё як пыд мятлу пыдбіра́іцца. Што ты бу́дзіш глядзець, кылі тама ні былінкі ні пылінкі німа.

**Ні бэ ні мэ** [ні кукарэку]. *Зусім нічога, ніякага ладу.* Пыча́лі ў яго спра́шывыць, дык ён нешта ні бэ ні мэ. Зь імі тулкува́ць — ета ні бэ ні мэ ні кукареку.

**Ні бяльмеса,** *запаз. Зусім нічога, ніякага разумення.* Ні бяльмеса ні пыніма́іць, сколька ні тулкувалі. Ні бяльмеса твой Сыу̃чанок знаць ня будзіць.

**Ні вала ні кала.** *Нічога, ніякай маёмасці.* Пріехылі, а тама ні выла́ ні кыла́, абжыва́йся як хочыш. Сьпірва́ ні выла ні кыла ні було. *Гл.* Н і  к а л а  н і  д в а р а.

**Ні вашаму ні нашаму,** *адз., мн. Для ўсіх аднолькава, зусім аб'ектыўна.* Луччы ты будзь ні ва́шыму ні на́шыму. Луччы ўсігда́ так: ні вашым ні нашым, я ў ва́шу ка́шу ні міша́юся і пашлі́ вы зна́іця куды́.

**Ніводзін чорт,** *груб. Абсалютна ніхто.* Ты ж нясі, ды каб ніводзін чорт ня ві́дзіў, ато ўзноў статнуць лыпыта́ць абы-што.

**Ні вума ні розума** (розуму), *неадабр. Ніякага разумення, ні кроплі разважнасці.* Кылі ўжо ўрадзі́ўся, што ні вума́ ні розума, то й зьвяку́іць такі́м, нічым ты яго ні пірядзелыіш. Паспробуй ты гывары́ць зь ім: ні вума ні розуму.

**Ні вуму ні серцу,** *кніжн. Ні для чаго.* Ніякія пользы ня ві́джу ну вуму ні серцу. Ну што, кылі й пыглядзелі, там нічога ні вуму ні серцу ні було.

**Ні гарыць ні тлеіць.** *Амаль без зрухаў.* Такея работы я і дырма́ ні хачу: ні гарі́ць ні тлеіць. У іх усігда́ ні гаріць ні тлеіць, прівы́чка ўжо тыка́я ў кроў увыйшла́.

**Ні граша** (капейкі) [за душою (пры душэ)]. *Абсалютна ніякіх грашовых зберажэнняў.* Нешта ты дажы́ўся, што ў цябе ні грыша́ німа. Што зь іх возьміш, кылі тама ні капейкі. Калі што бу́дзіць у п'яніцы, у яго ўсігда ні грыша зу душою. Ні капейкі зу душою, як сьвятэй стаіць, толька што кры́лушкі ня вы́рысьлі. Ні грыша прі душэ ні разу ні бува́іць. Яві́ўся — ні капейкі прі душэ, сныбжа́й, кармі́ яго, а ён піць будзіць.

**Ні граша** (капейкі) **не стоіць** (не вартый). *Не мае ніякай каштоўнасці.* Рысхвалі́лі пулушу́бык, а ён ні грыша́ ня стоіць. Ні грыша там нічога ні ва́рта і глядзець нечыга. Яго слова ні капейкі ня стоіць: збрешыць — дорга ня возьміць. С такою пачы́нкыю сыпагі́ ні капейкі ні варты, раз надзень — і рыспаўзу́цца. *Гл.* К а п е й к і н е в а р т.

**Ні гу-гу.** *Абсалютна ціха, спакойна.* К Яшку Кузьмянку зыхадзі́лі пырцізя́ны, ну ў Лешчынкі пра ета ніхто тады ні гу-гу́. Я доўга стыяў, нійдзе ні гу-гу, толька конь два разы сарпнуў. *Гл.* А н і г у-г у.

**Ні даць ні ўзяць.** *Безумоўна, несумненна; як быццам.* Гляджу́, хто такей: ні даць ні ўзяць Іваныў меншый. Ні даць ні ўзяць Хомка, цю́цілька ў цюцільку такоя тряпло, як тэй быў.

**Ні два ні паўтара,** *неадабр. Невядома што.* Рызьбяресься ты зь ім у чым-небудзь, што ні гыварі́, дык у яго ні два ні пуўгыра́. У цябе ўсігда ні два ні пуўтыра.

**Ні дна ні пакрышкі** (крышкі), *рэдкаўж. Пажаданне ўсяго найгоршага.* Ніхай яму ні дна ні пакры́шкі, раз ён так гаворіць. Каб табе ні дна ні кры́шкі.

**Ні дня ні ночы.** *Ні хвіліны спачыну.* Вам, знаць, ні дня ні ночы німа, усё стыря́іціся, ўсё дба́іця. Ні дня ні ночы вы ні зна́іця як людзі.

**Ні̀ душою ні целам.** *Зусім, нікольکі, абсалютна ніяк.* Ні душою ні целым ні зналі мы пра тэя кычанкі. Ні душою ні целым ні прічасцін ён ні к чаму.

**Ні жарка ні халодна.** *Усё роўна, абсалютна абыякава.* Во ўжо кылі ён ды жэніцца, мне ні жа́рка ні халодна. Кляні́ ці ні кляні, яму ні жарка ні халодна.

**Ні жывэй** (жывый) **ні мёртвый.** *Страшэнна спалоханы.* Сядзі́ць ні жывэй ня мёртвый і вочы заплю́шчыў. Мы ўсе былі ні жывы́я ні мёртвыя. І ты быў ба ня жыў ня мёртыў, каб ныт табою сьмерць вісела.

**Ні жывэя** (жывой) **душы.** *Зусім нікога.* Крічы́, кылі нійдзе ні жывэя душы́, хто цябе пачу́іць. Ідзі сьмела і тварі што хочыш, ні жывэя душы ня ўстрецііш. Каб і хацеў найці́ць каго, дык не, ні жывой душы нійдзе.

**Ні за грош** (капейку). *Зусім дарэмна.* Пашло ўсё так, глу́мым, ні за грош. Ён любога ні за грош прыда́сьць. Прыпа́ў айдзе-то ні зы капейку, во і ўсё.

**Ні за што** [на свеце]. *Ні пры якіх умовах.* Я б іх ні за што ні паслу́хыла, што б ні прідлыга́лі. Ні за што на сьвеці мы ні сыгласі́ліся б ехыць туды.

**Ні за якія** (якея) **благі,** *запаз. Ні пры якіх умовах.* Ні зы я́кія бла́гі ня кініць Пынасёнык свае дзяреўні. Ні пайду я ні зы які́я благі к ім, мала што яны лапочуць. Ні зы якея благі нілізя туды пірібіра́цца, ета будзіш зу путура́лу цэлый век.

**Ні звання.** *Зусім ні напаміну, ні следу.* Якея ў Яхіма грошы, у яго тых грошы даўно ні зва́ньня, прукуці́ў. У наж жа мукі́ ні званьня, нада што ду́мыць пра мельніцу.

**Ні здрыгануцца ні шалахнуцца.** *Ніякага руху не зрабіць.* Так усё балі́ць, ні здрігану́цца ні шылахну́цца. Во етык і жыву, ні здрігануцца ні шылахнуцца.

**Нізкій на вочы.** *Блізарукі, са слабым зрокам.* Зь дзецтва нізкій на вочы, далёка нічога ня ві́дзіць. Так іна ла́дныя дзяўчонка, толька нізкыя на вочы.

**Ні з места** 1. *Каманда не рухацца.* Як крі́кну «Ні зь места!», дык ён аж прісеў. 2. *У тым жа становішчы (пра справу).* Нешта зыстря́ла тваё дзела, ні зь места, нада сымаму́ трошку біспакоіцца, пачшту́рьхывыць.

**Ні з рук.** *Толькі каб няньчылі (пра дзіця).* Звучы́лі дзіцёнка ні з рук, як паложыш, так і пыча́ў «га» сваё.

**Ні з таго ні з сяго** (ні з тога ні з сёга). *Нечакана, раптоўна, невядома чаму.* Ні с таго ні сь сяго як кініцца апсом. Ля́пнуў ні с таго ні сь сяго пры Мыкара. Што ж ты зыявíўся ні с тога ні сь сёга, худзь ба ныпіса́ў ці як сабшчы́ў, мы ж ба трошку прігутава́ліся.

**Ні з чаго** (чога) **ні з якага.** *Раптоўна, беспрычынна.* Ні ш чаго ні зь я́кыга прыг, дык у мяне серца ёк. Ні ш чога ні зь якыга нупусьці́лыся, нібы́ццым я гываріла нешта ны яе дачку́, а я тае дачкі дайжа ні знаю.

**Ні з чым.** 1. *Безвынікова (прыйсці, вярнуцца).* Сха-дзі́ла, ду́мыла, даб'ю́ся чаго, а прішлося вярну́цца ні ш чым. 2. *Без усяго, што было, чым валодаў.* Як аста́нісься сыма́ ні ш чым, тады паду́мыіш, ці гываріць так другей раз, ці можа луччы пумуўча́ць.

**Ні з чым ні з якім.** *Безвынікова.* Пыхадзі́ў, пыхадзіў і пыда́ўся ныза́д ні ш чым ні зь я́кім. Ну што ж варочыц-ні ш чым ні зь якім, дайжа стыдна неік.

**Ні кала ні двара.** *Ніякай гаспадаркі.* Мы пычына́лі жыць — у нас ні кыла́ ні двыра́ ні було. Аста́лыся дзяреў-ня посьлі немцыў ні кыла ні двыра, рук прічаліць не́ к чыму було, адна ба́ня была с пастройкі.

**Ні канца ні краю.** *Пра бяскконцасць, неабсяжнасць.* Яго рызгаворым ні кынца́ ні кра́ю, тpілюду прецъ і прецъ. Сёліта с уборкыю ні кынца ні краю, дажджы́ аду-рілі. Жыта ні кынца ні краю, і ўрыжай дужа харошый.

**Ні каплі** (капелькі). *Нікольki.* Ні ка́плі ў мяне кына-пель, аткуля ты ўзяў, што ў мяне ёсьць. Пашлі́ ў лес, схадзілі, ні ка́пількі я́гыд ні прінясьлі́.

**Ні кап'я** [за душою (пры душэ)], *гумар. Абсалютна ніякіх грашовых зберажэнняў.* Ужо хва́ліцца, што ў яго ні кып'я́. Раз ні кып'я, што зь іх возьміш. Ні кып'я зу ду-шою і руба́шка нырасхріст. У цябе ўзноў ні кып'я прі душэ? *Гл.* Н і г р а ш а.

**Ні к сялу ні к гораду.** *Зусім не да месца.* Скыза́ў,— ну што ты скыза́ў, ні к сялу́ ні **г** горыду. Пыста́віш хату як Высілёў, ні к сялу ні **г** горыду, глухою сьцяною к ву́-ліцы.

**Ні к чаму** 1. *Непатрэбна, без карысці.* Ні к чаму́ ён тут, пішы́, ніхай луччы ня едзіць. 2. *Не варта.* Ні к чаму

було гываріць ім пра Тоньку, ета ма́сла яшчэ раз у агонь пыдлілі.

**Ні к чорту годный** (гадзіцца). *Дрэнны, нікуды не варты.* Ні к чорту годна еткыя работа, вуглы́ касэя. Ты сам відзіш, канцы зыгнілі́сь, ні к чорту годныя кускі. Ні к чорту гыдзя́цца суваі́ тває, чуць пріжмеш прівізку — і рву́цца.

**Ні ладу ні складу.** *Беспарадкава.* У іх даўно нешта так ідзець, ні ла́ду ні скла́ду. Я й сам ні паймý, чаго тут ні ладу ні складу, зразу ўсё хырашо було.

**Ні макавага зярна** (зярэнца). *Зусім нічога з прадуктаў.* Ні ма́кывыга зірна́ ў році ні було ац са́мыга ра́ньня. Ні макывыга зяренца ні ўзяў.

**Ні** [макавай] **расінкі** (расіначкі). *Зусім нічога з піцця, вадкасцей.* Ні расі́нкі ўзяць ні магý, режыць пуд грудзя́мі, пякець як агнём. І ныпа́сьвіна ж хырашо, а ні расінычкі мылыка ні прібá́віла, во, ча́рка. Ён крічы́ць, а мылыка ні ма́кывыя расінкі, хуць у поля бягі даіць карову. Ні макывыя расінычкі ў році ні було.

**Ні многа ні мала.** *Досыць значна.* Ні многа ні ма́ла, а трі сотні запрасі́ў. Ні многа ні мала, нядзелю праезьдзіў, во табе і нідалёка.

**Ні на валасок** (валасінку). *Ні ў якой меры, нікольні.* Нешта ні ны выласок ні пыдалося, сту́кні-ка яшчэ. Ні ны выласі́нку ня дзьві́гыіцца, верна, упёрлыся ў шýла тваё бірьвяно.

**Ні нагою.** *Не выходзіць або не заходзіць ніколі.* К Сямёнывым ні нагою ні пыка́зыіцца. Ні нагою нікуды, дайжа пыпылыска́ць ны са́жылку ня сходзіць.

**Ні на грош** (капейку). *Ні крышачку.* Ні на грош праўды ат іх ні даб'есься. Ні ны капейку нічога ні ска́жуць.

**Ні на ёту,** *кніжн. Нікольні (не давяраць).* Ні на ёту веріць тому злыйдýху нілізя́, пыдвядзець пыд мынасты́рь у мінуту, ішчэ й пысьмяецца.

**Ні найціць** (знайціць) **ні пацяраць** *(з кім), неадабр. Не дабіцца нічога.* С табою ні найці́ць ні пыціряць, што ш чортым зь якім. Чаго йта с табою, чылавек, ні знайціць ні пыціря́ць.

**Ні на каго** (кога) **не глядзець.** *Не зважаць на іншых, праяўляць настырнасць, напорыстасць.* Есьлі на што ўзгаріцца, ні ны каго ні глядзіць, нічым ні астановіш. Хто яму што, ні на кога ні глядзіць. *Зак.* **Ні на каго** (кога) **не паглядзець.** Ні на каго ні пыглядзіць, скажыць, што думыіць. Яны такея, што ні на кога ні пыглідзяць.

**Ні на каплю.** *Ні ў якой меры, ступені.* Ні ны каплю мы нічога ні прасунулі, тут нада чылавек дужа умеюшчый. Пакуля што маё дзела ні падзьвінулыся ні ны каплю.

**Ні на ломаный грош.** *Нікольні, ні крышачку.* Нарошня ні на ломыный грош ні скажуць, як тама було ны самым дзелі. Ні на ломыный грош ат іх праўды ні палучыш.

**Ні на макава зярно.** *Нікольні (пра справы).* Ні ны макыва зярно нічога ім ні ўдалося, яны толька для віду хрыбряцца.

**Ні на мінуту** (мінутку, мінутачку). *Ні на самы кароткі час.* Такей кріклівый дзіцёнык, што ні ны мінуту ні атойдзіш. Ныдаела мне тыкая жызьня, што ні ны мінутку нікуды ні атлучысься. Столька дзел усякіх нывалілыся, што ні ны мінутычку ні магу выйціць.

**Ні нашаму ні вашаму,** *адз., мн. Для ўсіх аднолькава, зусім аб'ектыўна.* Усігда верніць ні нашыму ні вашыму. Гаўріла хіцір, ён сьпірва ні нашым ні вашым, пакуля агледзіцца хырашо. *Гл.* Ні вашаму ні нашаму.

**Ні на што не глядзець.** 1. *Праяўляць абыякавасць.* Даўно ні на што ні глядзіць, усё дно як жыць ні зьбіраіцца. 2. *Не зважаць на іншых, праяўляць настырнасць, напорыстасць.* Ныхальный чылавек, ломіцца ныпралом, ні на што ні глядзіць. *Зак.* **Ні на што не паглядзець.** *Праявіць настырнасць, напорыстасць.* Калі надумыўся, ні на што ні пыглядзіць і ні на кога. *Аднакр.* **Ні на што не глянуць.** *Праявіць абыякавасць.* Сколька жыў — ні на што ні глянуў, нічым ні пыньцірісуваўся.

**Ні на што не пахожа.** *Пра вельмі дрэннае, нікуды не вартае.* Ета ж ні на што ні пахожа, як ты дзелыіш, нілізя так.

**Ні пава ні варона,** *неадабр. Без густу ва ўборах.* Во вы́рідзілыся, ні пава ні варона. Ідзець ні пава ні варона, глядзець нільзя.

**Ні пад якім відам.** *Ні пры якіх умовах.* Я так ня дзелыў ба ні пыд які́м ві́дым. Ні пыд я́кім відым ні сыглыша́йся прыдыва́ць хату, ікая ні халу́піна, дык свыя.

**Ні пік.** *Ні слова, ні гуку.* Відзіў ці ня відзіў, а нікому ні пік. Глядзі́, каб ні пік нійдзе пры Сярёжку.

**Ні піску ні віску.** *Ціха, спакойна.* Умеюць так зьдзелыць, што ні піску ні ві́ску ня будзіць. У іх усігда́ ні піску ні віску.

**Ні пісьма ні грошы,** *гумар. Ніякіх вестак.* Трецьцію нядзелю як паехыла ў зыработкі, а ні пісьма́ ні грошы. ○ Паходжанне выраза наступнае. Селянін П. Сцяпан адправіў сваю дачку «ў свет» у заробкі. Спадзяванні на хуткі заработак у яго былі вельмі моцныя. І праз нейкага паўмесяца ў размове з аднавяскоўцамі ён выказаў прыведзеную вышэй фразу. Канец яе з гумарыстычным адценнем хутка прыжыўся і досыць актыўна бытуе ў цяперашні час.

**Ні просьба ні грозьба,** *часц. мн. Нішто, ніякія сродкі ўздзеяння.* Ны яго ні прозьбы ні грозьбы ня дзействыюць. Ня слу́хыіць ні прозьбыў ні грозьбыў. Ні прозьбыю ні грозьбыю нічога ні даб'есься, саўсім нічога пыніма́ць ня хочыць.

**Ні пуха ні пяра.** *Пажаданне ўдачы.* Ну, ні пу́ха ні піра́, каб усё шчасьліва було. Ні пуха ні піра табе, ідзі.

**Ні равы ні шчарбы.** *Нішто, ніякія перашкоды.* Ні равы́ ні шчарбы яго ня ўдзержуць, раз наду́мыўся — кытанець.

**Ні ражна,** *груб. Нічога.* Ні рыжна́ ён там ня вы́хыдзіць, ногі толька ўваб'ець. Ні рыжна ні пулучы́лыся, ніхай на іх лом, абішча́лі ўсё, абішчалі.

**Ні роду ні плоду** (племя, семя). *Нікога з родных, сваякоў.* Я тут адна, німа ў мяне ні роду ні плоду. Адзін адным аста́ўся, ні роду ні племя, хто зы мяне засту́піцца. У яго ні роду ні семя, прівіва́іцца лі Сямёна. У Гомынывыга Восіпа ні було тут ні роду ні семя, па́сьвіў скот у па́ньськім дваре, хатка была, сенцы, пу́нька.

**Ні рыба ні мяса.** *Вельмі пасрэдны.* Ай, мушчы́на зь яго, хужы якея бабы, ні ры́ба ні мя́са. Ні рыба ні мяса, слова ні скажыць.

**Ні свету ні следу.** *Пра моцную завею, пургу.* Прець, дмець, нясець, ні сьвету ні сьледу, сыбакі с хаты ня вы́гыніш. Куды зьбіра́цца, кылі ні сьвету ні сьледу ны дваре.

**Ні секунды** (секундачкі). *Нікольві, ні крышачку часу.* Ні сіку́нды ні зыхацеў ждаць: мне некылі — і пабег. Ні сікундычкі ні пысяджу́, мяне там ждуць — ні дажду́цца.

**Ні сесць ні пасць,** *рэдкаўж. Не ўладкавацца і не прыжыцца, як належыць.* Ні села ні па́ла, а ўжо кыма́ндыіць. Ні селі ні палі і на табе, гыспыдарі́ яны.

**Ні сінь-пораху.** *Зусім нічога.* Німа ў іх ні сінь-порыху, у чым стыя́ла, у тым і пышла́. Ні сінь-порыху ні знаіць, адны зыдачы.

**Ні складу ні ладу.** *Беспарадкава.* Ні скла́ду ні ла́ду, у іх даўно так ідзець. Тута січас ні скла́ду ні ладу, зыхадзі́ць дайжа ня хочыцца. *Гл.* Ні ладу ні складу.

**Ні слова ні паўслова** [ні чэцверць слова]. *Зусім нічога (не сказаць).* Ні гывары́ў я ў іх ні слова ні паўслова, паслу́хыў збоку, што трілю́дзюць, і пашоў. Маўчы́ць і маўчыць, ні слова ні паўслова ні чэцьвірць слова.

**Ні слухам ні духам.** *Зусім, абсалютна ніяк (не ведаць).* Ні слу́хым ні ду́хым пра іх ні знаю. Ні слухым ні духым ні знаў, первый раз чую, па-мойму, і Ріпіна нічогінька ні знаіць.

**Ні слуху ні духу.** *Ніякіх вестак.* Калі паехыў, а ні слу́ху ні ду́ху. Ні слуху ні духу німа, айдзе яны і што зь імі.

**Ні слыхам ні дыхам,** *уст. Зусім, абсалютна ніяк (не ведаць).* Пру кулькавэя мяшочыкі мы ні слы́хым ні ды́хым ня чулі.

**Ні слыху ні дыху,** *уст. Ніякіх вестак.* Чаго б ні слы́ху ні ды́ху пра іх, можа б нада падбежч як праведыць.

**Ні слядзінкі** (слядзіначкі). *Ніякіх арыентыраў.* Не, ні вупруўля́йся, як жа можна йціць, кылі ні сьлядзі́нкі

ня відна. Ні сьлядзінычкі ня відзіць, зы сьцяну як дзяржы́цца, пройдзіць і ўсё.

**Ні стаць ні сесць.** 1. *Трымацца на нагах.* Так усе косьці ломіць, ні стаць ні сесьць ні магу. 2. *Размясціцца.* Ікая ў іх ха́ччына, сім'я быльшая, ні стаць ні сесьць нейдзі. 3. *Трымацца на людзях.* С табою ў лю́дзі сты́дна вы́йціць, ты ж ні стаць ні сесьць ня ўмееш, стра́му ныбярэсься, кругом насьмешыш усіх.

**Ні столька ні паўстолька** [ні чэцверць столька]. *Зусім нікольні.* Ні хачу́ я большы ні столька ні паўстолька, у мяне і ат тае гылыва́ кру́гым ідзець. А я руча́юся, што Барыс ні браў там ні столька ні паўстолька ні чэцьвірць столька.

**Ні стыда ні сарама.** *Ніякага разумення непрыстойнасці паводзін.* Ні стыда́ ні сырыма́ у людзей, айдзе яны што відзілі, аткуля яны што знаюць. Ні було ў яго ні разу ні стыда ні сырыма і ня будзіць, паверь майму слову, што ня будзіць.

**Ні судзіцца ні радзіцца.** *Не прымаць ніякіх захадаў.* Ня будзім мы ні судзі́цца ні рядзі́цца, кылі совісьці німа, ніхай спыжыва́юць. Ні судзіліся ні рядзіліся, атрясьлі́ рукі саўсім.

**Ні сучка ні задорынкі,** *звыч. іран. Ніякіх недахопаў.* Ён лу́ччы ўсіх, у яго ні сучка́ ні задорінкі. Канешня ні сучка ні задорінкі, толька гылыва ні на месьці.

**Ні толку ні парадку.** *Ніякага сэнсу, сувязі.* У вашый жысьці ні толку ні пыря́дку. Ні дыбярэсься там ні толку ні пырядку за цэлый год.

**Ні то ні два,** *гумар. Нешта незразумелае, недарэчнае.* Зь імі ні то ні два, як зь нідапечынымі нейкімі. Спрасі́ў, дык іна мне ні то ні два, ні́якыга толку ні дабі́ўся.

**Ні то ні сё** (ні тое ні сёе). *Нешта незразумелае, недарэчнае.* Нешта пулуча́іцца ў цябе ні то ні сё. Ду́мылі, ён рыска́жыць, а ён ні тоя ні сёя.

**Ні тпру ні два,** *іран. Нешта невядомае, бесталковае.* У яго як у чорта, ні тпру́ ні два. А йдзі ты, чылавек, сяньня спаць, аць цябе січас ні тпру ні два ні даб'есься.

**Ні тпру ні но** (нэ), *неадабр. Нешта невядомае, бесталковае.* У цябе ўсігда́ ні тпру ні но. Чаго ж і ў вас ста́ла

ні тпру ні но, ат каго вы наўчы́ліся. Калі ні пыпытáіш, дык ні тпру ні нэ, так і дурю́ся ўсё ўремя.

**Ні ў адным воку.** *Ніякіх прыкмет.* Учора, праўда, прішоў, дык ні ў адны́м воку. Ні ўва дным воку спаць, ляжы́ць, ножкымі дры́гыіць і сьмяецца.

**Ні ўва** (ў) **што не ставіць** *(каго). Зусім не лічыцца.* Іна свайго ні ўва што ні стáвіць, сыма ўсім кірýіць. Ты ж родныю цётку ні ўва што ні ставіш. Такога бацьку ні ў што ставіць ня будуць.

**Ні ў век.** *Зусім ніколі.* Ні ў век ба ні падýмыла, што ён можыць ля́пнуць такоя. Знаць, ні ў век у сьвеці зыміренія ня будзіць, то там стýкыюць, то яшчэ айдзе грю́кыюць.

**Ні ўгамону ні ўталону** (ні ўгамоння ні ўталоння), *асудж. Ніякага супакою, стрымання.* Нійдзе ні ўгамону ні ўталону ні бувáіць. Німа вам цяперя ні ўгамону ні ўталону. Нійдзе ні ўгамоньня ні ўталоньня ні нáйдуць.

**Ні ў голавы ні падаслаць.** *Без ніякай маёмасці.* Астáліся цяперіцька ні ў голывы ні пыдыслáць, хуць вый, хуць кукýй. Цяперя ім ні ў голывы ні падыслаць, за што хочыш, за тоя й бярíся, ці сядзі́ сышчыпя́ рукі.

**Ні ў дварэ ні замужам.** *Няпэўна ў адносінах сямейнага становішча.* У яе так ніхырашо пулучы́лыся, жывець ні ў дваре ні зáмужым. Ні ў дваре ні замужым, і так ця́гніцца трецьцій год.

**Ні ўзад ні ўпярод** (ўперад). *Ні з месца.* Цяперя яму ні ўзад ні ўпярёд, сядзі́ і ня ріпыйся. Калі пупáўся да іх у рукі, будзіць сядзець ні ўзад ні ўперід. Пупаўся ў неріт, ні ўзад ні ўперід.

**Ні ў капейку не ставіць** *(каго). Зусім не лічыцца.* Ні ў капейку яго ні разу нійдзе ні стáвілі і ні стáвюць, дайжа ўнімáнія ні брышчáюць, што ён нешта знáчыць. *Гл.* Ні ўва што не ставіць.

**Ні ў** [медный] **грош не ставіць** *(каго). Зусім не лічыцца.* Ну як ета я ні ў грош ні стáўлю, я ж усігда спрáшывыю, што нада, саветыюся. Ні ў медный грош ні ставіць, ці ён ёсьць у дваре, ці німа.

**Ні ў пір ні ў вір** [ні ў добрыя людзі]. *Абсалютна нікуды.* Нілізя яго ні ў пір ні ў вір. С табою ні ў пір ні ў

вір ні ў добрыя людзі, куды ня пойдзіш — людзей нысьмяшы́ш.

**Ні ўцеч ні пабежч.** *Быць вельмі абмежаваным у дзеяннях нeспрыяльнымі ўмовамі.* Калі ма́лыя ну рука́х, а прігледзіць некыму, дык яно ні ўцеч ні пабежч. Аста́лыся баба адна, ні ўцеч ні пабежч, куды хочыш, туды й кіньея, айдзе хочыш, там і дзенься.

**Ні ў якім случае** (разе). *Нізашто, ні пры якіх умовах.* Глядзі́, ні ў якім слу́чыі ні сыглыша́йся туды йціць, зыяду́ць, і дзень і час тэй прыклянеш, калі сыглыша́ўся. А я ні ў якім случыі ні пыляцела б, страшна, еткыя вісычына́. Ні ў якім разі ня йдзіця ўмесьці жыць, пыдзялі́ліся і ладна.

**Ні ў якія** (якея) **вароты не лезць.** *Ніяк не адпавядаць нормам, правілам.* Ну знаіш, ета ні ў я́кія вароты ня лезіць, усюдых нада знаць і места, і меру. Дуры́ ва́шы ні ў якея вароты ня лезуць, я іх скора ўніму́.

**Ні ў якую,** *запаз. Нізавошта, аніяк.* Толька зыікнуўся я, можа памог ба, дык зразу на́ дыбы, ні ў я́кыю. Зваў умесьці йціць — ні ў яку́ю.

**Ні халеры** (радзімца, прыпадка, хваробы), *груб. Нічога.* Ні халеры яны ня вы́ізьдзілі, коні дырма́ згыня́лі. Дужа ні радзі́мца німа, толька так, на первый слу́чый трошку. Ні пріпа́дка ты ня вы́служыш у яе, ня рьві́ся дужа. Ні хваробы ў іх німа, адно хвыстаўство. Ні хваробы ня дзелыіць, гу́льма гуля́іць.

**Ні худа ні дабра.** *Нічога асаблівага.* Ні худа́ ні дыбра́ я ні скызала, прымуўча́ла і ўсё, спыкайней абыйшлося. Ні худа я ні дыбра ня буду гывaріць, ахота мне сваріцца за нешта.

**Ні целам ні душою.** *Абсалютна ніяк, зусім.* Вот яйбогу пра́ўду гываріла, што ні целым ні душою ні знала, а ён ня веріць. *Гл.* Ні душою ні целам.

**Ні чарта**, *запаз.* 1. *Зусім нічога.* Ні чырта́ ён ня ўмеў, ізыком толька тріпа́ўся. Ні чырта німа, як жыць ні зьбіра́іцца. 2. *Хай сабе, няважна.* Ні чырта, мы вы́цігнім, спра́вімся, і ні ў такіх пірядзелкых бува́лі.

**Нічога не папішаш.** *Пра неабходнасць згоды, прымірэння.* Нічога ні папі́шыш, раз нада, дык нада, пріду́. Нічога ні папішыш, схадзі́, у людзей жа горя.

**Нічога не скажаш.** *Пра неабходнасць згоды, пра адсутнасць падстаў для пярэчання.* Нічога ні ска́жыш, пра́ўда, ён там быў. Нічога ні скажыш, кыба́нчык ла́дный, можна браць.

**Нічога не стоіць.** 1. *Не мець ніякай вартасці.* Што ты носісься зь естым бырахлом, тут усё нічога ня стоіць. 2. *Не ўяўляцца цяжкім, складаным.* Яму нічога ня стоіць лыпатну́ць ізыком і пры Таньку, і пры Максіма.

**Нічога падобнага,** *запаз. Рашучае адмаўленне.* Нічога падобныга, я гываріў саўсім пру другоя. Нічога падобныга, мы іх відзілі кулу Вульляны.

**Нічога сабе.** 1. *Нядрэнны, добры.* Нічога сабе хлопіц, па-мойму, жыць яны будуць. Ха́тка нічога сабе, ны яе век хва́ціць. 2. *Нядрэнна, добра.* Нічога сабе зьдзелылі, падыгна́лі як нада, намшы́лі, мароз ня пройміць.

**Ні шагу.** *Не скрануцца.* Раншы ого як насі́ўся, усю акру́гу апкылаты́рівыў, а адж жонкі цяперя ні ша́гу. Што нада паможч, ні шагу ня зьдзелыіць, усё дно як ета длі яго саўсім чужоя.

**Ні шалох.** *Моўчкі, без рухаў.* У мяне яны будуць ні шалох, яны мяне знаюць. Сядзелі ні шалох, як і ня тэя дзеці саўсім.

**Ні шатка ні валка.** *Пасрэдна, без асаблівых намаганняў.* Андрей усігда адзіна́кыва дзелыіць: ні ша́тка ні ва́лка.

**Ніякаю сілаю,** *адз., мн. Ніяк, нічым.* Ні́якыю сілыю ні атарьвеш Пітрыка ач Шуркі. Ніякыю сілыю ні паможыш. Ніякімі сілымі ні рызаб'еш.

**Ногі атваліваюцца** (атнімаюцца), *цяп., пр., буд. Пра немагчымасць рухацца.* Во дзесіць шагоў ступлю і ногі атва́лівыюцца, большы йціць хуць здохні ні магу́. Мы туды йшлі, дык у нас ногі атвалівыліся. Іціць к ім — ета ногі атні́ма́юцца. *Зак.* **Ногі атваліліся** (атняліся), *пр., буд.* Ета ж нада, ногі атвалі́ліся зы дарогу. Ня бойся, ні атва́люцца ногі, кылі і сходзіш. Столька пыхадзі́ўшы, ногі самі атні́муцца. *Узмацн.* **Ногі паатваліваліся** (паатваліліся, паатнімаліся, паатняліся), *пр., буд.* У нас ногі пытва́лівыліся, пакуль мы дыпляли́ся. Біс прівы́чкі ногі пытва́люцца у Шыркі ды ш Шырык пріці́ць. Дужа мне клопыт бальшэй, калі ў іх ногі пытні́ма́юцца. Ну што, ці

пытняліся ногі біс прівычкі, надоўга запомніць, якея ягыды сма́шныя.

**Ногі дзвігаюцца** (перадзвігаюцца), *цяп., пр., буд. Пра абмежаваную магчымасць рухацца, дзейнічаць.* Раз ногі дзьві́гыюцца, дык можна троху цягну́ць. Вылачы́ўся, пакуль ногі дзьвігыліся, ні сядзеў. Будзіць цігацца, пакуліцька ногі будуць дзьвігыцца. Слаб саўсім, толька ногі пірідзьвіга́юцца.

**Ногі мыць і руду піць.** *Адносіцца з бязмежнай павагай.* Вам такой цёткі нада ногі мыць і руду́ піць, іна вас у людзі вы́віла. Ны тваём ба месьці нада було б ногі мыць і руду піць, а ты гыкыць пычынаіш.

**Ногі не дзяржаць** (не дзержаць, не ходзяць), *цяп., пр. Пра немагчымасць рухацца ад слабасці.* Якей зь мяне жы́ціль, кылі ўжо ногі ні дзіржа́ць. Яго ішчэ летыся ногі ні дзіржалі. Настолька асла́б, што ногі ня дзержуць. Даўно жа́ліўся, што ногі ня ходзюць.

**Ногі носяць,** *цяп., пр., буд. Пра наяўнасць абмежаваных сіл.* Сілы то дужа німа, ну ногі трошку носюць, шывялю́ся. Патроху дзелыла лі двыра́, пакуля ногі насілі.

**Ногі пад паху.** *Пра паспешлівыя зборы.* Доўга ні руссусолівыў, ногі пыт паху і маху. *Гл.* Л а х і п а д п а х і.

**Ногі ўгору задраць,** *іран. Бяздзельнічаць, гультаяваць.* Ногі ўгору зыдра́ў твой Пятрок, дужа ён хочыць за што бра́цца. *Узмацн.* **Ногі ўгору пазадзірацъ** (пазадрацъ). Вун вашы работнікі ногі ўгору пызыдзіра́лі. Накосюць,— ногі ўгору пызыдзяру́ць пут кустамі ці, хочыш, пойдуць га́рі шука́ць. *Законч.* **Ногі ўгору адзадзірацъ.** Адззыдзіра́іць ногі ўгору, як пу́нчыну дыпа́ліць. *Працягл.-фінальн.* **Ногі ўгору назадзірацъ** (дазадзірацъ). Нызыдзіра́іш ногі ўгору, як сена ні сяні́ны ні аста́ніцца. Дызыдзіралі ногі ўгору, думылі, сьвяты́м ду́хым сы́ты будуць, а тут нада ўзяцца ды ўзяцца.

**Ногі цягаць** (валачыць). *Рухацца з цяжкасцю.* Хадзіць нікуды дужа ні хаджу́, лі двыра́ ногі ціга́ю. Трошку шавеліська, ногі валочыш і ла́дна, каб толька ні ліжа́ць. *Законч.* **Ногі адцягаць** (атвалачыць). Скора, відна, і я аццьіга́ю ногі, ніскалька німа здароўя. Будзіш цягну́цца, пакуль ногі ні атвалочыш. *Працягл.-фінальн.*

**Ногі нацягаць** (навалачыць, дацягаць, давалачыць). Доўга ныцігáў ногі, узноў ляжыць, крекчыць. Нывалочыш ногі зь еткім здароўім. Дыцігáла ногі, ляжыць пластом як гылавешка, ня ўзьверніцца. Дывалочыця ногі, звáліціся і ўся ваша помышч бýдзіць.

**Ног не пацягнуць.** *Аслабець.* Пы тваім кармленні ног ні пыцягніш, а ня то ны баб уздýмыіш. Пыўбіваіціся так, дык скора ног ні пыцягніця, будзіця ліжаць, як гылыўня.

**Нож у сэрца.** *Душэўны боль, пакуты.* Гаўрілу ўся ета тріпытня — нож у серца. Яму нашы кылячкі нож у серца, кáжыцца, паеў ба, настолька завíдлівый чылавек ува ўсём чыста.

**Нож у спіну.** *Здрада, подласць.* Хто ж мог падýмыць, што ён так зьдзелыіць, ета ж нам нож у сьпіну.

**Ноль без палачкі.** *Нішто, нікчэмнасць; не аўтарытэт.* Мне твой Клім ноль біс пáлычкі. Длі яго дзядзька ноль біс пáлычкі, ён сам сабе гылывá, кругом поўный хызяін.

**Ноль уніманія.** *Абсалютная абыякавасць, безуважнасць.* Што ні гыварí, на ўсё ноль унімáнія. Як скажу, ноль уніманія, вухым ні вядзець.

**Носам к носу.** *Вельмі блізка.* Тыц носым к носу і рысьціряліся абоя. Устреціліся носым к носу і глядзім адзін ны днаго. *Гл.* Н о с  к  н о с у.

**Носа не высунуць.** *Вельмі непагодліва.* Як ба хто пашоў у Яныўку, есьлі носа ня вы́сунуць було. Льлець як зь відра, носа ня вы́суніш нікýды.

**Носа не паказываць.** *Не заходзіць, не з'яўляцца, не наведваць.* Расьсердзіўся і носа ні пыкáзывыіць. Пасьледнія ўремя саўсім носа ні пыкáзывыюць. *Зак.* **Носа не паказаць.** Нада ж быць такім бяшчýствінным, ляжы́ць Аріна, свыя кроў, а ён дайжа носа ні пыкáжыць. За столька ўремя носа ні пыкызáў, раз за год ні зайшоў. *Гл.* В а ч э й  н е  п а к а з ы в а ц ь.

**Нос варочаецца** (зварачываецца), *цяп., пр. Пра капрызлівыя, блазенскія паводзіны.* Я ўжо і ні знаю дайжа, чаго ў цябе етык нос варочыіцца. У Кындрышá дужа лоўка нос варочыўся, дужа. Мы даўно відзім, што нос у цябе звырáчывыіцца, усё табе ні ў лад і ўсё ні па-твойму.

**Нос к носу** (у нос, з носам). *Вельмі блізка.* Устреціліся нос к носу і ні пагледзілі, я толька посьлі апомніў-

ся: ета ж Васіль быў. Нос у нос торьк із-зы бярёзык, а ніхай ты пропыдым прыпадзеш. Я з вашымі хлыпца́мі пряма нос з носым устреціўся.

**Нос на нос** (на нас). *Усутыч.* Нос на нос наткну́ліся, сталі й глідзяць, дзіку́юцца. Найшлі нос на́ ныс, глядзім адзін ны днаго: і нада б пызна́ць і ня веріцца.

**Нос не дарос.** *Пра неадпаведнасць, няздольнасць.* Нос у цябе ні дарос, каб пувуча́ць мяне. Нос ні дарос у іх пра ета руссужда́ць, ніхай троху большы ка́шы зьяду́ць.

**Нюні** (румзы) **распускаць,** *неадабр. Плакаць беспрычынна.* Зы ка́жныю мелыч ню́ні распуска́іць. Перш ны ўсякій усьпяцень лезіць, а тады рю́мзы руспускаіць. *Зак.* **Нюні** (румзы) **распусціць.** Узноў нюні руспусьціў, ры́гыіць два часы. Рюмзы як распу́сьціць, ні ўняць. *Узмацн.* **Нюні** (румзы) **параспускаць** (параспусціць). Нюні пуруспуска́лі, ажно глядзець праці́ўна. Папробуй ні ўладзь скызаць, січас пырaспу́сьцюць нюні. Ня трогый, апяць рюмзы пуруспуска́юць. Пуруспусьці́лі рюмзы сваe, глядзець нілізя. *Працягл.-фінальн.* **Нюні** (румзы) **нараспускаць** (дараспускаць). У Хвёдыра нюні нуруспуска́іш, ён уніма́ць умеіць. У мяне б ён так нуруспуска́ў рюмзы,— зашы́ўся б і сядзеў, як мыш пад венікым. Ціха сядзіць, дуруспуска́ла нюні. Дуруспускаіця рюмзы, як хвачу́ што, ныпра́ўду зырівіцё.

**Нюхаць порах.** *Бываць у складаных абставінах; бываць на вайне.* Мы ня столька ню́хылі порых і то ні хва́лімся. *Зак.* **Панюхаць пораху.** Дужа вы паню́хылі порыху, праседзілі нейдзі і немца жывога ня відзілі. *Аднакр.* **Нюхнуць пораху.** Мы, брат, нюхну́лі порыху, усяго нам дыста́лыся. *Узмацн.* **Нанюхацца пораху.** Пурузумнеіць, як порыху нанюхыіцца, узна́іць сьвет. *Гл.* Не нюхаць пораху.

**Нюхаць у бутылку** (бутылачку, чарку, чарачку), *іран. Выпіваць.* Чаго добрыга ат іх ня ўвідзіш, а ў буты́лку ню́хыюць нічога. Лю́біць у буты́лычку нюхыць, ні апра́ўдывый. Як і тата, нюхыіць у ча́рку. Нюхыіць патрошку ў чарычку, ні сьцісьня́іцца. *Зак.* **Панюхаць у бутылку** (бутылачку, чарку, чарачку). Я ўжо зда́ліку віджу, што паню́хылі ў бутылку. У бутылычку як паню́хыюць, тады зь імі трудна. Вы, знаць, і сяньня панюхылі ў чарку.

У чарычку пакуль ні панюхыіць, ходзіць ту́ча ту́чыю. *Аднакр.* **Нюхнуць у бутылку** (бутылачку, чарку, чарачку). Так і глядзіць, каб айдзе нюхнуць у бутылку. Як нюхнець у бутылычку, даволін. Нюхнулі ў чарку і кытану́лі на Лешчынку. Бегыў ён, бегыў, айдзе нюхну́ць у чарычку, і, кажыцца, нійдзе ні піріпа́ла. *Працягл.-фінальн.* **Данюхаць** (данюхацца) **у бутылку** (бутылачку, чарку, чарачку). Даню́хыіць у бутылку, што аста́ніцца біз руба́шкі, як Сімын тэй. Даню́хыў у буты́лычку, пызыча́іць на хлеб. Данюхыіць у чарку, сап'ецца і прыпадзець. Ну, даню́хыў у чарычку, можа пыхмяліцца хочыш? Ну, як, ці даню́хыліся ў бутылку, ай большы хва́ціць? Вун данюхыўся ў чарку, зьмяні́цца німа ў што. Данюхыіціся ў чарычку, прыцьвірізіцёся калі-небудзь.

**Нядоўга да граха** (бяды). *Пра верагоднасць трапіць у складанае і непрыемнае становішча.* А ну́ цябе, так с табою нядоўга і ды гріха́. Глядзі, нядоўга ды бяды зь еткімі шу́ткымі, будзіш тады войкыць ды вохыць.

**Няма нічога.** *Няхай сабе.* Німа нічога, я пыстаю́ збоку, ні з гынарлі́вых. Узяў і ўзяў, ніхай сабе, ета німа нічога, бярі́, дзетычка, яблыкі, бярі.

**Няма раду,** *цяп., пр. Пра жыццёвыя, сямейныя няўдачы.* Німа ра́ду ў іхній жызьні, грызу́цца, ла́юцца, зразу неік ні зыдалося. Сь первых дней ні було ряду, ныпірякось пашло.

**Нямыслімае дзела.** *Зусім неверагодная з'ява.* Нямы́сьлімыя дзела, што ён сыгласі́ўся пайціць у таку́ю сям'ю. Хто ета можыць паверіць, нямысьлімыя дзела.

**Нячыстый на руку.** *Такі, які можа ўкрасці.* Якей ба ён ня быў друг, а што нячы́стый ну руку́, дык ета праўда. Ні нада рузувіря́ць, я даўно знаю, што йна нячыстыя ну руку. Калі суседзі нячыстыя ну руку, саўсім дренна.

**Олух цара нябеснага,** *запаз., абраж. Дурань.* Нейкій олух цыря́ нябесныга, ні так зь ім, ня етык. Вот олуху цыря нябесныга сколька ні талку́й — ні ўталку́іш нічога.

**Па баку.** *Далоў з карыстання, утрымання.* Ты едзіш, ну й я карову пы баку́ і ў горыд. Хызя́йства пы баку, хва́ціць ірва́цца, сь пеньсіі жыць можна. Доўга ня думыў: дзеўку пы баку, ідзі зарыба́тывыць свой хлеб, дос ны маёй шыі сядзець.

**Па** [беламу] **свету.** *У розных месцах, усюды.* Такіх кывалерыў, як ты, па сьвету сколька хочыш, яшчэ й луччы зы цябе разоў у дзесіць. Чаго табе кі́дыцца па белыму сьвету, калі ў сваёй дзяреўні дзевык хуць гаць гаці́.

**Пабойся бога,** *адз., мн. Заклік паводзіць сябе сумленна, рабіць па-людску.* Пабойся бога, як табе ня сты́дна выду́мывыць такоя ны чылавека. Пабойціся бога, вы ж і блізка тама ні былі, а гаворіця, што пупа́ла.

**Пабыць у пераплёце** (перадзелке). *Перажыць складаныя ўмовы, абставіны, атрымаць ушчуванне.* У такі́м пабыў піряплёці, што зь етыга ўремя зыка́іцца дуры́ свае сыпыса́ць. Як пабыў у пірядзелкі, то, руча́юся, большы ні захочыць. *Непайн.* **Пабываць у пераплёце** (перадзелке). Пыцішэў і пыспыкайнеў, як у піряплёці пубува́ў. Ніхай пубуваіць у пірядзелкі, ета яму толька на пользу пойдзіць. *Шматкр.* **Бываць у пераплёце** (перадзелке). Ты столька разоў бываў у піряплёці, а ўсё цябе ніхто нічому ні на́ўчыць. Столька разоў бываў у пірядзелкых і ўсігда выхадзіў сухім. **Быць у пераплёце** (перадзелке). Па віду можна пызнаць, што быў у піряплёці ні ў абыякім. Яны ўжо другей раз былі ў пірядзелкі, ім ні прівука́ць.

**Пабыць у руках.** *Атрымаць фізічнае пакаранне.* У мяне так ня вы́круціцца, пабу́дзіць у руках. *Непайн.* **Пабываць у руках.** Каб у руках у каго-небудзь пубуваў, дык ба ня лішнія було. *Шматкр.* **Бываць у руках.** Прізна́цца ня дужа прізна́юцца, а толька абоя бувалі ў руках, і крепка пупыда́ла. **Быць у руках.** Даўно ты быў у руках, узноў просісься. Учора былі ў руках і яшчэ пупыдзіцёся.

**Паварачывацца** (атварачывацца, варочацца) **спіною,** *кніжн., іран. Траціць інтарэс, паказваць незацікаўленасць.* К сваім ён пывыра́чыіцца сьпіною: яны зы п'я́нкі пы галоўкі ні гла́дзюць. Гаворюць, што атвыра́чыіцца сьпіною, ніхай. Якоя мне дзела, есьлі Дзімідзёнык варо-

чыіцца сьпіною. *Зак.* **Павярнуцца** (атвярнуцца) **спіною.** Што яму дзяреўня, г дзяреўні ён пывярнуўся сьпіною. Ат родных атвярнуўся сьпіною, цяпер ён шышка і думыць ні пра кога ні нада.

**Паварачывацца** (варочацца) **ліцом,** *кніжн. Пачынаць праяўляць увагу, зацікаўленасць.* Пыра́ б ім пывыра́чывыцца ліцом к стройкі, дужа рукі пупуска́лі. Ніхай ліцом варочыіцца, а ніхай чым хочыць, мне ён і ні брыдзіць. *Зак.* **Павярнуцца ліцом.** Яму даўны́м даўно нада було павярну́цца ліцом у другей бок ды пыглядзець, што ря́дым дзелыіцца. Пывярну́ліся ліцом, толька ціряз год урем'я.

**Па віду.** *На знешні выгляд.* Па віду я ні апрідзяліў ба, што ета Зыхарыў сын. Яго па віду пызна́іш: атря́ха атряхыю.

**Па вуглах.** *Таемна, так, каб ніхто не чуў, не бачыў.* Усе людзі як людзі, ра́зым, а тэя ўсігда́ пу вугла́х, вун зу уста́мі шэпчуцца. Узя́лі прівы́чку, каб пу вуглах.

**Павышаць голас.** *Гаварыць з падкрэсленай строгасцю, цвёрдасцю.* Нечыга пывыша́ць голыс, кымандзір то еткій найшоўся. *Зак.* **Павысіць голас.** Што яны ні вытвыря́лі, ні разу ні павысіў голыс. *Працягл.-фінальн.* **Напавышаць** (дапавышаць) **голас.** Ты ў мяне ныпывыша́іш голыс, я ўспакою мігым. Дыпывыша́ў голыс, што пу зуба́х схваціў.

**Павязка з вачэй упала** (спала, звалілася), *пр., буд. Пра наступленне яснасці ў паводзінах, паступках, учынках.* Няскора ж у яго пывя́зка з вачэй упа́ла. Як упадзець пывязка з вачэй, тады апомніцца. Толька цяперь пывязка з вачэй спа́ла. Ці спадзець у нашыга калі-небудзь пывязка з вачэй. Посьлі таго слу́чыя ў лесі і ў Мітрыхвана пывязка з вачэй звалі́лыся.

**Па вярхах.** *Без паглыблення ў сутнасць.* Ня хочыць вучы́ць як нада, так, пы вірьха́х што схва́ціць, тоя й аста́ніцца ў гылаве.

**Па гадах.** *Адпаведна ўзросту.* Ростым нейкій карюзлый, а пы гыда́х патходзіць. Пы гыдах ба падыйшоў, а пы здароўю не.

**Па гроб жызні.** *Да апошніх дзён жыцця.* Вам па гроб жы́зьні нада іх дыбрату́ помніць. Ні забу́ду па гроб жызьні, сколька ён уріда́ тварі́ў.

**Падабру-паздарову.** *Ціха, без шуму, без прымусу.* Сыбіра́йся і ўбіра́йся пыдабру́-пыздарову. Ня хочыць пыдабру-пыздарову, іна́чы папросім.

**Пад абрэз.** *Да грані магчымага, дапушчальнага.* Чышчану́лі іх тады крепка, пыд абрез. Падгонюць пыд абрез, ня дужа куды пакру́цісься, будзіш на етым пітачку́ круці́цца.

**Падаваць голас.** *Даваць знаць аб сабе выказваннем.* Ты ж хуць голыс пыдыва́й, ато й жывога ні дыста́ніш. Між капёшык нучува́лі, а ўра́ньні чу́ім, пыдаю́ць голыс. *Зак.* **Падаць голас.** Ка́жыцца, у тым баку пыда́ў голыс, прісллу́хыйсь-ка яшчэ троху. Ху́дзь ба хто аткуля голыс пыдаў.

**Падаваць** (іціць) **у ціраж,** *жарт. Рабіцца непрыдатным па старасці.* Стар, браток, стар, ні глідзя́ць ны цябе дзеўкі, пыдыва́й у ціра́ж. У ціраж ідзеш, у ціраж, дзяржы́ся. *Зак.* **Падаць** (пайціць) **у ціраж.** У ціраж пыдаў ваш Клімчонык, у дваре сядзіць і ня ріпыіцца. Раз пашлі ў ціраж, то сядзіця моўча і голысу ні пыдыва́йця. *Гл.* Выхадзіць у ціраж.

**Падаваць** (паказываць) **від.** *Прытварацца, што робіш ці думаеш так, як трэба або як жадаюць.* Зна́іць, усе ві́дзюць, дык пыдаець від, што стыря́іцца. Пыка́зывыіць від, што хочыць у Радкеўшчыну йціць, а пыгліда́іць саўсім у другей бок. *Зак.* **Падаць** (паказаць) **від.** Пыдасьць від ны адно, а зьдзелыіць другоя. Хочыць пыкызаць від, што паверіў. *Гл.* Дзелаць від. *Параўн.* Не падаваць віду.

**Падаваць руку.** *Аказваць дапамогу, падтрымку ў патрэбны момант.* Ён ладна пыдаець руку, хочыш, іщчэ пыпіхнець у якую пролыбку. *Зак.* **Падаць руку.** Ня дужа тыкая шка́ріда руку́ пыда́сьць каму, паможыць у чымнебудзь. *Працягл.-фінальн.* **Нападаваць руку.** Многа ныпыдыва́ў руку, яго помышч усім ізьвесна.

**Пад адкрытым** (чыстым) **небам.** *На вуліцы, па-за памяшканнем.* Цесна, канешня, цесна, ну ні нучува́ць жа пыд аткры́тым небым. Што ж ба ёй дзелыць пач чы́стым небым ды с такімі дрыбя́зычкымі.

**Пад адну масць.** *Вельмі падобныя.* Пыд адну масьць як сьвякрова, так і нявестка, ня ўсту́пюць адна другой. *Гл.* А д н о й м а с ц і; П а д м а с ц ь.

**Па дароге** (пуці). 1. *У адным і тым жа кірунку, разам.* Січас пойдзім, нам з вамі троху пы дарогі. Мне тожа пу пуці́ на Лешчынку. 2. *Мімаходам.* Бу́дзіш бежч, скажы́ пы дарогі, каб скарей зьбіра́ліся. Пу пуці і за Колію зойдзіця. А чаго калі і ні зыгляну́ць пу пуці.

**Падаць** (ападаць) **духам.** *Губляць надзею, веру.* Чаго ты па́дыіш ду́хым, усё ўла́дзіцца як нада. Ні падый духым, я й ні с такіх пірядзелык выкру́чывыўся. Чаго яму апыдаць духым, у яго ўсё на месьці. *Зак.* **Упасць** (апасць) **духам.** Саўсім былі ўпа́лі духым, ду́мылі, ўсё прыпа́ла. Нешта Ільля апаў духым, ходзіць гылаву́ зьвесіўшы. *Узмацн.* **Пападаць** (паападаць) **духам.** Ідзі хуць падзьдзержы, пыдвісялі́, ато саўсім пыпа́дылі духым. Пыапыда́лі духым, як ім канец сьвету пріходзіць,— нада вісялей глядзець на сьвет.

**Падаць** (валіцца) **у ногі** (к нагам, на калені). *Прасіць прыніжана, вельмі настойліва.* Аж па́дыў у ногі,— так прасі́ў. Нечыга падыць к ныгам, було ра́ншы сваёю гылавою жыць. Помніш, як Сярёжка падыў піріц сваёю ны калені. Калі́ ўзду́мыў валі́ца ў ногі,— раншы ні пра што ня думыў. Усё валіўся к ныгам: прасьці мне. Сяньня будзіць ны калені валіцца, а заўтря ўзноў зы сваё. *Зак.* **Упасць** (паваліцца) **у ногі** (к нагам, на калені). Табе нада ў ногі к ёй упасьць ды піріпра́шывыць. Упадзець ён к ныгам, дажджэсься ат мумрюка́ етыга. Прідзіцца табе цяперя упасьць ны калені пірід Марыю. Нада будзіць, дык і ў ногі пыва́ліська, папросіш. Як ета ты тольна ні пываліўся к ныгам. І ны калені пываліська, ды ня просьціць. *Гл.* В а л я ц ц а ў н а г а х.

**Падаць з неба.** *Даставацца вельмі лёгка, без аніякіх цяжкасцей, намаганняў.* Па́дыць зь неба нічога табе ня будзіць, нада пыклыпаціцца ды пыклыпаціцца. А нам што, зь неба па́дыіць ці што? *Зак.* **Упасць з неба.** Ты ўсігда́ жджэш, каб табе зь неба ўпала. *Узмацн.* **Пападаць** (нападаць) **з неба.** Ці майму бацьку зь неба пыпа́дыла, ён, можа, ні любіў столька спаць, як ты. Бярісь-ка сам дзелый, само табе зь неба ні ныпадыіць. *Гл.* З н е б а в а л і ц ц а.

**Падаць з ног.** *Абяссільваць у вялікай зморанасці.* Дзьве гря́дкі бульбы піряйду́ і падыю з ног, пряма дух піріхва́тыіць. *Зак.* **Упасць з ног.** Ціга́ісься, пакуля з ног ні ўпадзеш, ня будзіш жа склаўшы рукі сядзець. *Усеаг.* **Пападаць з ног.** Мы тама з ног пыпа́дылі, пакуля тоя бярьвеньня пірівылачы́лі. *Гл.* В а л і ц ц а з н о г.

**Падаць у вобмарак.** *Траціць прытомнасць.* У вайну́ ўсяк було, ат нідыіда́нія падылі ў вобмырык. *Зак.* **Упасць у вобмарак.** Ішоў-ішоў і ўпаў у вобмырык, хырашо, што ну людзя́х. *Узмацн.* **Пападаць у вобмарак.** У вобмырык пыпа́дыць можна ат еткіх указзэіў. *Працягл.-фінальн.* **Нападаць у вобмарак.** Я б іх ныпа́дыў у вобмырык, я б іх скора абрузумі́ў, айдзе б і ду́рікі дзіва́ліся.

**Падбіраць ключ** (ключык), *часта мн. Знаходзіць падыход.* Гады два апха́джывыў, усё ключ пыдбіра́ў. Не, ты ня сьпец пыдбіраць ключы ні к каму, толька дзела спорціш. Раз пыдбіра́іць клю́чык, зна́чыць нешта замы́сьліў. *Зак.* **Падабраць ключ** (ключык). Пыдыбраць к чылавеку ключ нада ўмець. Пакуля ты пыдбяреш ключыкі, яго другея апу́тыюць. *Працягл.-фінальн.* **Нападбіраць** (дападбіраць) **ключ** (ключык). Ныпыдбіра́ў ключы,— тэй яго як турнець аць сябе, дык каці́ўся ні гліда́ючыся. Ён скора ныпыдбіраіць ключыкі. Ужо трецьцій дыпыдбіра́ў ключ, нешта нівясёлый ходзіць. Я знаю, як сват дыпыдбіраіць ключыкі, у яго нядоўга папы́рьхыіш.

**Падвадзіць міну,** *звыч. жарт. Рабіць спадцішка такое, што прыводзіць да нечаканых непрыемнасцей.* Ня руш, ні чыпа́й, ета ён падводзіць міну пыд Напреівыга. *Зак.* **Падвесць міну.** Міну яму здорыва пыдвялі, ні знаіць, як вы́вірнуцца. *Працягл.-фінальн.* **Нападвадзіць** (дападвадзіць) **міну.** Ой, ныпадводзіш ты міну, глядзі, як сам узьляціш. Ну, дыпыдвадзі́ў міну, нешта прімоўк. *Гл.* П а д к л а д а ц ь м і н у.

**Падвадзіць пад дурнога хату,** *асудж. Штурхаць на дзеянні, якія ўводзяць у сорам.* Я ўві́дзіла, што пычалі пыдвадзі́ць пуд дурнога хату, ту́ркнула. *Зак.* **Падвесць пад дурнога хату.** Ату́кыюць і ўраз пыдвяду́ць пуд дурнога хату, толька паслу́хый іх. *Працягл.-фінальн.* **Нападвадзіць пад дурнога хату.** Ныпадводзіш пуд дурнога хату, што сам тама быйстра ачынесься.

**Падвадзіць пад манастыр** (намастыр), *асудж. Штурхаць на дзеянні, якія ўводзяць у сорам.* Нашто ім було

пыдвадзіць етыга шкарпэта пыд мынасты́рь. Падво-дзюць цябе пыд нымастырь і пыдвяду́ць, раз ня хочыш узяцца за вум. *Зак.* **Падвесць пад манастыр** (намастыр). Пыдвіла́ ты мяне пыд мынастырь, так пыдвіла, што і пыдвадзіць большы некуды. Сам ніхай ня слухыіць каго пупа́ла, дык ні пыдвяду́ць пыд нымастырь. *Працягл.-фінальн.* **Нападвадзіць пад манастыр** (намастыр). Ныпадводзіць пыд мынастырь, ніхай толька пупадзецца мне на вочы. Як юрну́ цірісьсядзельнікым, дык ныпадводзіць пыд нымастырь.

**Падвадзіць** (падцягываць) **жывоцікі.** *Даваць адчуваць сябе голаду.* Чаго ж ні падводзіць жывоцікі, падводзіць,— еткыя пыра́, а ўсё ня еўшы. Падводзіць жывоцікі, а нізашто ні папросіць нічога. Каб узялі ў кырман якую скарі́нку, так ба ні пыцьця́гывыла жывоцікі. Калі жывоцікі пыцьця́гыіць, мог ба скызаць, ні малю́тычка. *Зак.* **Падвесць** (падцягнуць) **жывоцікі.** Пыдвяло за́ дзінь жывоцікі, прібеглі, дык чугунок крупені умылацілі. Лі ўжо, ні руссусолівый, ці відзіш, пыдвяло жывоцікі. Жывоцікі пыцьцягну́ла, прібег: дай хуць чаго-небудзь скарей. Я сыма знаю, што за еткыя ўремя пыцьцягнула жывоцікі. *Узмацн.* **Пападвадзіць** (пападвесць, пападцягываць, пападцягнуць) **жывоцікі.** Жывоцікі як ныпадводзіць, дык рады будуць худзь ба бульбі́ну грызну́ць. Ня хочуць слухыць, ніхай так ідуць, жывоцікі як ныпадводзіць, абду́мыюцца. Пыпыдвяло жывоцікі, дык просюць, ліні́ хуч чаго. Як ні храбріціся, дык жывоцікі пыпыдвяло столька бегыўшы. Прібеглі, жывоцікі пыпыцьцягну́ла, скарей за хлеб хвыта́юцца. Жывоцікі ўсім пыпыцьця́гывыла, пріехылі галодныя як сыбакі. Ніхай прытрясуцца, жывоцікі пыпыцьця́гніць, дык хуць зьядуць г душэ. Дай ужо чаго-небудзь, ві́дзіш, як ім жывоцікі пыпыцьцягну́ла. *Гл.* Ж ы в о т п а д в а д з і ц ь.

**Падвадзіць чарту,** *кніжн. Заканчваць, завяршаць, каб больш не вяртацца.* Ат етыга дня мы падводзім чырту́, хва́ціць, і большы ні разу ня будзім успыміна́ць. *Зак.* **Падвесць чарту.** Даўно пыра було падвесьць чырту, ато возюцца і возюцца зь естыю ірундою.

**Пад відам** (маркай, маскай). *Пад прыкрыццём, пад маскіроўкай.* Пад ві́дым, што ён дыбра́ жыла́іць, можыць што хочыш сытварі́ць. Ці іх ні знаіць хто: пыд ма́р-

кыю ў сваты́ пашлі́ вы́піць, ста́ўця ім. Пыд ма́скыю, што цябе жалеіць, усё вы́спрысіць. Пуд любою маскыю можыць падлезьць.

**Падвярнуцца пад руку.** *Выпадкова натрапіцца, папасціся пад увагу.* Бярі, што падверніцца пуд руку́, ні выбірай дужа. Нам тады пыдвярну́лыся пуд руку купіць, што Грішка Чыраўкоў рыспрыдыва́ўся, ехыў к сыну. *Незак., рэдкаўж.* **Падварачывацца пад руку.** Калі будуць пыдвыра́чывыцца пуд руку ла́дныя боты, куплю́.

**Падганяць пад адзін аршын** (капыл, мерку). *Ураўноўваць без уліку адрозненняў.* Быў узя́ўся пыдгыня́ць пыд адзін аршы́н, ды ві́дзіць: ні пулуча́іцца. Ныпра́сна яны пыдгыняюць пыд адзін капы́л усіх пыдряд. Усіх пыдгыняць пыд адну мерку нільзя, кажный жывець пасвойму. *Зак.* **Падагнаць пад адзін аршын** (капыл, мерку). Ны слыва́х можна і пыд адзін аршын пыдыгнаць. Ні так то ета проста пыдыгнаць пыд адзін капыл. Што ж ты падгоніш пыд адну мерку, каго пыт каго? *Працягл.-фінальн.* **Нападганяць пад адзін аршын** (капыл, мерку). Ну відзіш, як пыд адзін аршын ныпыдгыня́лі. Ныпыдгыняюць яны пыд адзін капыл, што самі будуць дзіві́цца. Ну й ныпыдгыняў пыд адну мерку, сымаму́ сьмешна. *Гл.* М е р а ц ь н а а д з і н а р ш ы н.

**Падганяць пад адно.** *Ураўноўваць, рабіць аднолькавым.* Пыдгыняць пыд адно вы ўся́кім дзелі тру́дна, адзіна́кывыга нічога німа. *Зак.* **Падагнаць пад адно.** Ты хочыш пыдыгнаць пыд адно, толька нічога ні палу́чыцца, ні тваімі рукамі ета дзелыць. *Працягл.-фінальн.* **Нападганяць пад адно.** Вот табе ныпыдгыня́ў пыд адно, саўсім нічога ні пулучы́лыся.

**Пад гарачую руку.** *У час раззлаванасці, раздражнення.* Пыд гыря́чыю руку́ ён табе знаіш што зьдзелыіць. Скызаў пыд гырячыю руку, дык што тут такога, асты́ў і забыў.

**Падгладжываць** (прыгладжываць) **войстрыя вуглы.** *Крыху змякчаць вастрыню розногалоссяў.* Трудна пыдгла́джывыць войстрыя вуглы́, калі яно само ні пулуча́іцца. Ні хачу я пріглáджывыць войстрыя вуглы. *Зак.* **Падгладзіць** (прыгладзіць) **войстрыя вуглы.** Міру у іх ня будзіць, худзь ба троху войстрыя вуглы пыдгла́дзіць. Хацеў пріглáдзіць войстрыя вуглы — айдзе там, яны як

зьвярьё адзін ну другога. *Гл.* З г л а д ж ы в а ц ь  в о й с т р ы я  в у г л ы.

**Пад градусам,** *часта мн.; гумар., іран. У стане ап'янення.* Я зрáзу віджу, што пыд грáдусым. Пыд градусымі ехылі, сь песьнімі, ажно ўсё кругом рызьлігáлыся. Ты яго пыд градусымі паслухый, ён табе пыгаворіць. Трýдна яго ўстреціць, каб ні пыд градусымі.

**Паддавацца на вудачку,** *рэдкаўж. Дапускаць перахітрыць сябе, падмануць.* Нашто ж ты пыддывáўся ім на вýдычку, цяперя яны паезьдзюць ны табе. *Зак.* **Паддацца на вудачку.** Пыддасíся на вýдычку, то нумуштрýюць, хвáціць сь цябе. *Гл.* П а п а д а ц ь  н а  в у д а ч к у.

**Паддаваць духу,** *жарт. Падтрымліваць заклікам, натхняць падтрымкай.* Нешта Мікілай саўсім вушы апускáіць, пыддывай-ка ты яму дýху. *Зак.* **Паддаць духу.** Пыдажджы́ці-ка, січас пріскочыць Адарка, пыддáсьць духу. *Парайн.* Д а в а ц ь  д у х у.

**Паддаваць жару,** *гумар. Горача пабуджаць, натхняць.* Пыддывай жáру, ато яны саўсім заснýлі. *Зак.* **Паддаць жару.** Ідзець Вулька, тая пыддасьць жару ўсім. *Парайн.* Д а в а ц ь  ж а р у.

**Пад дзіктоўку.** *Па ўказцы.* Пыдзь дзіктоўку дзелылыся, ці ты ні пынімáіш. Што хочыш утваріць пыдзь дзіктоўку.

**Паджымаць** (падціскаць, падтуляць) **хвост.** *Цішэць, сунімацца, адчуваючы чужую перавагу або сваю вінаватасць.* Пры новым стыршыне стаў пыджжымáць хвост, ато ж цаны-меры ні знаў сабе. Як брігадзір дзіржаў у руках, тады пыцьціскáў хвост. Пасьледнія ўремя пыцьціскáіць хвост. Як тая возьміцца чы́сьціць, дык путтуля́іць хвост. Прі Смыляку путтулялі хвост. *Зак.* **Паджаць** (падціснуць, падтуліць) **хвост.** Мы як зайшлі, зрáзу пыджжáў хвост. Пацьцíснуць хвасты, ніпрáўда, і на іх нáйдзіцца успыкаеньня. Доўга ні було ўходу, ета січас путтулíў хвост. *Множн.* **Пападжымаць** (пападжаць, пападціскаць, пападціснуць, пападтуляць, пападтуліць) **хвасты.** Нада, каб скарей пыпыджжымáлі хвасты́, кряпчэй пріцíснуць нада. З намі дужа сьмелы, а з другімі пыпыджжáлі хвасты. Цяперя струсíлі, пыпыцьціскáлі хвасты. Пыпацьцíснулі хвасты, уход найшоўся,

як мышы пад венікым сідзяць. Ня доўга вам вуюва́ць, скора пупуттуля́іця хвасты. Сьпірва пыпаттýлюць хвасты, а посьлі ўзноў зы сваё, даўно так у іх вядзецца.

**Пад завязку.** *У поўнай меры, так, што больш нельга.* Сыт пыдз за́візку, куды яму большы. Ныбра́ўся пыдз зывя́зку, хва́ціць. Пыдз за́візку нучуству́аліся, ішлі як пітýшкі, красьнінькія.

**Пад замком.** 1. *У закрытым і недаступным месцы.* Дужа ні рыздасца, у яе ўсё пыдз замком. 2. *рэдкаўж. У турме.* Спрашыіш, айдзе Ліванок — пыдз замком: калхозныю пышанíчку любіў ціряшчýр.

**Пад запал,** *рэдкаўж. У час раззлаванасці, раздражнення.* Пупадзеш пыдз зыпа́л, і табе ныла́іць бакí. Ён табе пыдз зыпал знаіш што зьдзелыіць. *Гл.* Пад гарачую руку.

**Пад злосць.** *У стане раззлаванасці.* Ну, кылі й скыза́ў падз злосьць, цэла будзіш, піріжывеш. Ні нада было пупыда́ць падз злосьць.

**Пад зямлёю.** *Усюды, у любым месцы, самым недаступным.* Мы цябе пыдз зямлёю вы́пырім, нійдзе ат нас ні схува́ісься. Пыдз зямлёю дыста́ніць, што захочыць.

**Падзяржаць у пераплёце.** *Строга пакараць, пабіць.* Еткыга хлюста нада було даўно пыдзіржа́ць у піряплёці, ён ба тады шаўковый стаў. Як пыдзіржа́лі ў піряплёці, трошку другім стаў, ато ж ухадору ні ныхадзíў.

**Падзяржаць у руках.** 1. *Пабіць.* Рыска́зывылі, што іх абоіх крепка пыдзіржа́лі ў рука́х. 2. *Пратрымаць у строгасці пэўны час.* Нескылька ўремя пыдзіржа́лі ў руках, а цяперя ўзноў пашоў пы гылыва́х. *Гл.* Дзяржаць у руках.

**Пад каблуком** (пятою). *У поўным падпарадкаванні, залежнасці.* Я зра́зу замеціў, што дзяржы́іць свайго пут кублуком, зыікнýцца ні дасьць. Што ні гыварí, дык ты ў цёткі пут кублуком. Яго нада було заціснуць пыт пятою, каб і ня пікнуў.

**Пад каблук** (пяту). *У поўнае падпарадкаванне, залежнасць.* Што ні гывbooрі, а як пупа́ўся пыт каблýк, то яны цябе ня вы́пусьцюць. Крепка ўзялі пыт каблук, пыпішчы́ць. Пыт пятý зыгна́лі, ні ка́ўкніць.

**Пад карон.** *Начыста, поўнасцю (знішчаць, знішчацца).* Усё пыт карён пытрысьцілі. Ва́люць пыт карён, ні глідзя́ць ні на што. *Гл.* Н а   к а р о н.

**Падкладаць** (падкладываць) **міну.** *Рабіць спадцішка такое, што прыводзіць да нечаканых непрыемнасцей.* Ты ета пыт каго хочыш пытклыда́ць міну? Яны даўно Ільле міну пыткла́дывыюць, толька пакуль дужа ні ўдыва́лыся. Яны ні так сабе гаворюць, ета нійна́чы Ісачынку міну пыткла́дыюць. *Зак.* **Падкласць** (падлажыць) **міну.** Ён табе калі-небудзь пыткладзець міну, ты й аглянуцца ні пасьпеіш. Свае і пыдлажы́лі міну, яны зубы ны яго даўно тачы́лі.

**Падкладаць** (падкладываць) **рукі.** *Дапамагаць у цяжкім ці безвыходным становішчы.* Ну пытклыдаць рукі, што тут, нада б паможч, а што ты зьдзелыіш. Усё ж стыря́ліся, дзелылі, толька што рукі ні пыткла́дывылі. *Зак.* **Падкласць** (падлажыць) **рукі.** Ці я рукі пыткладу́, ці што, у мяне паможч нечым. Раз прішла сьмерць, рукі ні падложыш. Рукі пыдлажы́лі б, каб маглі, толька што яны могуць.

**Падкладаць** (падкладываць) **свінню,** *неадабр. Спадцішка шкодзіць, рабіць непрыемнасці.* Пры Аўласёнка нечыга дужа тушнува́ць, любіў пытклыда́ць сьвіньню́. Яму часта пыткла́дывылі сьвіньню. *Зак.* **Падкласць** (падлажыць) **свінню.** Хто ж ба еткыю сьвіньню мог пыткласьць? Пыдлажылі сьвіньню, і ні знаіць хто.

**Пад корань.** *Усё, канчаткова, дашчэнту, да апошняга.* Немцы як ацступа́лі, усё пат корінь палі́лі. Зы вайну, а тады посьлі вайны Радкеўшчыну вы́сіклі пат корінь, а цяперя якей лес узяўся. Уся іх сім'я пышла пат корінь. *Парайн.* П а д р а з а ц ь   п а д   к о р а н ь.

**Пад кусты.** *У бок ад сумеснай справы, адказнасці.* Іш, хітряцы́, вы гываріця, а яны пут кусты́. Лю́бюць вільну́ць пут кусты.

**Падліваць масла** [у (на) агонь]. *Абвастраць становішча сваім умяшаннем.* Яны й так даўно ны ныжа́х, а тут вы яшчэ пыдліва́іця ма́сла. Гываріць ёй пра Пецьку — ета пыдліваць масла у агонь. Нашто ж яшчэ вы пыдліваіця масла ны агонь? *Зак.* **Падліць масла** [у (на) агонь]. Узноў пад'едзіць — узноў пыдальлець масла. Було ўсё ўспакоілыся, дык нада було яму улезьць —

падліў масла ў агонь. Што ні палу́чыцца, а масла ны агонь пыдальлюць, ета ім зьдзелыць прасьцей простыга.

**Падліць вару.** *Паддаць імпэту, уздзейнічаць.* Падлі́ яму вару, ежылі ты гывары́, а ён і слу́хыць ня хочыць. Вы яму пыдыльліцё вару, ён у вас мігым пучукавеіць. Вылынга́іцца, і хут ты яму вару падлі.

**Падлязаць** (падлазіць, лезць) **грыззю,** *неадабр. Вельмі настойліва, надакучліва дабівацца з папрокамі, бурчаннем.* Як ста́ніць пыдлíза́ць гры́зьзю, ат яго ні аччэпісься. К табе ўжо ня к первыму пыдлазіць грызьзю. Чаго ты лезіш грызьзю, што табе нада ат іх. *Зак.* **Падлезць грыззю.** Падлез грызьзю, ма́хылым мыха́йся — ні атаб'есься. *Пачын.* **Палезць грыззю.** Былі на нескылька ўремя ўспакоіліся, а цяперя ўзноў палезьлі грызьзю. *Працягл.-фінальн.* **Налезць** (далезць) **грыззю.** Налезіць грызьзю, я атучу́ яе прі́стываць з ныдыіда́ньнімі. Далез грызьзю, што аччыта́лі як нада.

**Падлязаць** (падлазіць, лезць) **пішчом,** *неадабр. Настырна дабівацца, падладжвацца.* Пыдлíза́іць і пыдлізаіць пішчом, аж ныпыстылеў, лупа́ціць ні даець. Доўга пішчом пыдла́зіў, дабі́ўся. Як толька ня стыдна лезьць пішчом к чылавеку, дукуча́ць яму. *Зак.* **Падлезць пішчом.** Ну так ужо ўмеіць падлезьць пішчом, так падлезіць, кім хочыш прітворіцца. *Пачын.* **Палезць пішчом.** Толька пріехыў, ні далі рыскла́сца як нада, палезьлі пішчом: узныградзі́ іх. *Працягл.-фінальн.* **Налезць** (далезць) **пішчом.** Усё-тыкі налезуць яны пішчом, на́йдзіцца хто-небудзь,ату́чыць. Далезла пішчом к Сямёну: ныстрамі́ў, ныстраміў, і пышла, гылаву сагнуўшы.

**Пад мамент.** *Пры пэўным настроі, пад настроем.* Зь ім гывары́ць як пыд мамент пупадзеш. Іна як пыд мамент: калі так, калі так. Пыд мамент дужа харош, а другей раз як чорт, ні аднаго слова скызаць ні пыдла́дзіш.

**Пад масць.** 1. *Пад карту пры гульні ў карты.* Я табе пыд масьць ні пыдмашчу́. Глядзі ж, ні дай пыд масьць. 2. *іран. Аднолькавы па паводзінах.* Твой Сярёжка Мікіпырывыму пыд масьць. Вот пыдыбра́ліся пыд масьць, ні ў чом адзін другога ні пірявесюць.

**Падмёткі** (падмётка, нохця, нахця) **не стоіць.** *Не заслугоўваць ніякай увагі, не мець ніякай вартасці.*

А я яму пряма ў вочы скызала, што ен нічыёй падмёткі ня стоіць, буду я маліцца ны яго дужа, ва́жнысьць то тыкая мне. Гультай, аторва, падмётка іхныга ня стоіць, а вірядуіць, як яго рукамі ўсё зьдзелына і яго гылавою спра́ўліна. Плюнь ты ны яго і рыстапчы́, ён твайго нохця ня стоіць. Ён ні разу вашыга ныхця́ ні ў чом ня стоіў і ня будзіць стоіць. *Гл.* Н а г і  н е  в а р т.

**Пад мухаю** (хмяльком, хмелем). *У стане невялікага ап'янення.* П'ян ні п'ян, а пад му́хыю пыд ла́дныю, язык зыпліта́іцца троху. Зразу пызна́лі, што пыт хмяльком. Пыт хмяльком трошку былі ўсе. Учыну́лі ў хату пат хмелім, з рукою падносюцца, чуць ні цулува́цца гатовы. Як прі́дзіць пат хмелім, усё чы́сьцінька рыска́жыць. *Гл.* П а д  г р а д у с а м.

**Пад мяцёлку** (мятлу). *Начыста, не пакінуўшы нічога.* Пыдыбра́лыся к вясьне ўсё пыд мяцёлку, ні былі́нкі ні аста́лыся ў пу́ні. Ура́ньні хвацí́ліся: клець на́піта і ўсё пыд мяцёлку паччы́шчына. Там жа було ўсяго аглымазьдзі́цца, калі яны пасьпелі паччысьціць пыд мятлу́. Жыта даўно пыд мятлу і ўсе бочкі чы́сты, пышаніца пакуль трошку цягніцца.

**Паднасіць к роту** (губам). *Браць страву на спробу, есці для прыліку.* Толька што к роту падносіць, зычарелніць раз і ўсё нятронутыя астаецца. Толька што клёвыіць, к роту пасьці нічога ні падносіць. Пасьледнія ўремя г губам нічога ні падносіць, глыток вады возьміць горла прымачы́ць. *Зак.* **Паднесць к роту** (губам). Іна толька к роту пыднісла́, а есьць ні ста́ла. І яешню жжа́ріла, і сала рыскрышы́ла, і мылыка́ ўлілá, а ён нічога дайжа к роту ні паднёс. Ніхай ба ж хуць г губам чаго пыднясьлі́.

**Паднасіць** (падаваць) **ваду ў рэшаце** (рэшатам). *Займацца бескарыснай, пустой справай.* Во ўзя́ліся пымыга́ць — пыднасі́ць ваду ў решыці. Ён умеіць толька ваду решытым пыднасіць. Дыкладу́ць пыдыва́ць ваду ў решыці, во чаму на́ўчуць. Хваціць ужо ваду решытым пыднасіць. *Зак.* **Паднесць** (падаць) **ваду ў рэшаце** (рэшатам). Дужа хырашо памог — паднёс ваду ў решыці. Пыпрасі́, зьдзелыіць: пыднясець решытым вады. У такога тумыка́ толька й хваціць уменьня пыдаць ваду ў решыці. Ну, пыдаў ваду решытым, памог? *Гл.* Н а с і ц ь  в а д у  ў  р э ш а ц е.

**Паднасіць пілюлю.** *Неспадзявана рабіць непрыемнасць, крыўду.* Падносюць пілю́лі то с аднаго боку, то з другога. *Зак.* **Паднесць пілюлю.** Помніш, як летыся пыднясьлі́ табе пілюлю, а ты ўсё дно ня хочыш ду́мыць ні пра што. Мала ты знаіш іх пакуль што, яны ні пысьцісьня́юцца пілюлю паднесьць.

**Пад начальствам,** *жарт. У падпарадкаванні.* Трецьцій месіц пыд нычáльствым ходзіць, нешта крі́віцца. Пабы́ў у нычальстві, ніхай пыд нычальствым пабу́дзіць, ета яму ніскалька ні пыўрядзі́ць.

**Паднімацца** (падымацца, станавіцца, уставаць) **на дыбы.** *Рашуча пярэчыць, пратэставаць, гарачыцца.* Зы ўся́кыю мелыч пыднімáцца нá дыбы — так тожа ніхырашо. Ду́жа ты ла́дзін, як ны дыбы́ пыднімáісься. Чаго яму пыдымацца на дыбы, ці ета яго калёсы. Ні нада було стынаві́цца на дыбы і с табою як ш чылавекым абыйшлі́ся б. Папробывыў ба ты пыгывары́ць: кажный раз становюцца на дыбы. Чаго ж яшчэ тэй індык устаець на дыбы? *Зак.* **Падняцца** (стаць, устаць) **на дыбы.** Усе на дыбы пыдняля́ся: ня хочым так. Толька пымяні́ Пінькіныга, падніміцца на дыбы. Я і ня думыў, што іззы такея ірунды́ стануць на дыбы. Ну чаго вы на дыбы ўстáлі, ніхто вас ня трогыіць і ні́якыму чорту вы ні нада.

**Паднімаць** (падымаць) **вочы.** *Глядзець прама.* А я ўсё думыю, чаго ж ён ня хочыць нешта і вочы пыднімáць. Совісна вочы пыдымáць посьлі ўчырашніга горыда, у зямлю глідзя́ць. Кычáіцца і ня хочыць вочы пыдымаць. *Зак.* **Падняць вочы.** Вочы пыдняў, а тады ўзноў гылавою ў падушку. Пыднялі вочы і атвярну́ліся, відна, усё ўспомнілі. *Параўн.* В о ч ы ў з н і м а ц ь.

**Паднімаць** (падымаць) **нос,** *іран. Зазнавацца, важнічаць, фанабэрыцца.* Каб хто пу́тній нос пыднімаў, ато ж нігігляцьцё нейкыя ніпутноя. Цяперь ён пыдымáіць нос, ні сь кім знацца ня хочыць. *Зак.* **Падняць нос.** Скора другей нос падніміць, ды яшчэ як падніміць. Нос пыдняў, што зь любым ку́кішым ні падойдзіш. *Узмацн.-множн.* **Пападнімаць** (пападымаць) **насы.** Пыпыднімáлі насы, што куды там! Пыглядзі́ш, як пыпыдымаюць насы, у іх зыдывáньня ня зьмеріць. *Працягл.-фінальн.* **Дападнімаць нос.** Дыпыднімáіць нос, апу́сьціць скора трошку ні́жы. *Гл.* З а д з і р а ц ь н о с.

**Паднімаць** (падымаць, узнімаць) **вушы,** *гумар. Пачынаць жыць крыху лепей матэрыяльна.* А чаго ж ты ны Ціхона, і ён пыднімáіць вýшы, пыглядзі-ка, ікая хата. Быў пычаў пыдымаць вушы, а цяперя нешта ў яго ўсё нызáд пашло. Троху ўзьнімаіць вушы, ня хочыць пасьледнім жыць. *Зак.* **Падняць** (узняць) **вушы.** Пыдня́лі ўжо вушы, знаць, ныдаела вылачы́цца як старцым. Ты йшчэ пыглядзі, толька дзівíцца будзіш, як вушы ўзьнімуць. *Узмацн.* **Пападнімаць** (пападымаць, пападняць, паўзнімаць, паўзняць) **вушы.** Цяперя ўремя такоя, што й гультаі́ пыпыднімáлі вушы. Ого як пыпыднімалі вушы, што ны крівой ні пад'едзіш. Ніхáй, скора пыўзьнімáюць вушы, аптрясýцца. Ты пыглядзі-ка, і Сычыняты пыўзьнялí вушы. *Працягл.-фінальн.* **Нападнімаць** (нападымаць, наўзнімаць, дападнімаць, даўзнімаць) **вушы.** Ныпыднімáіць гультай вушы, ныжывець, дажджэсься ат яго толку. Ныпыдымáіць вушы, рыжжывецца,— здохніш, дык пы стáрцых пойдзіць. Ныўзьнімалі вушы: зіму пірідзіржáлі, а цяперя пыцягнýлі пацьцёлычка ны бызáр. Дыпыднімáў вушы, што й бáнчыну пы баку, зыгнáў. Я ўжо знаю, як яны дыўзьнімáюць вушы.

**Паднімаць** (падымаць, узнімаць) **галаву.** *Рабіцца больш актыўным, упэўненым.* Пыднімáюць троху гылавý, дужа ні муўчáць. Во, і етыя пыдымаюць гылаву, сíлу пачýлі: свой брігадзíр. Як свае кругом, то й Сенька ўзьнімаіць гылаву. *Зак.* **Падняць** (узняць) **галаву.** Зы пасьледній месіц ачýхыўся, пыдняў гылаву, ато ўжо быў і вушы апусьцíў. Нябось ты, і шлэптухі ўзьнялі гылаву, во што знáчыць сы сваі́мі. *Узмацн.-множн.* **Пападнімаць** (пападымаць, пападняць, паўзнімаць, паўзняць) **галавы** (галовы). Іх племя пыпыднімáіць цяперіцька голывы. Пыпыдымáлі галовы, дос хадзіць апушчэнцымі. Можа ж калі і етыя пыпадымуць голывы. Ніхай трошку ачýхыюцца, пыўзьнімаюць голывы. Вун відзіш як пыўзьнімáлі галовы, а ты гыварíў. А чаго ж, і Сімянкі пыўзьнялі голывы. Яны так пыўзьнялі галовы, што ні пытхадзí.

**Паднімаць** (падымаць, узнімаць) **голас.** *Заяўляць аб сабе, паўставаць у абарону словам.* А чаго ж ты пысьміхáісься, і Гаўрілін сын пыднімаіць голыс. Ні муўчáць, пыднімаюць голыс. Пыдымаюць голыс: і мы ня лы́кым шы́ты. Нечыга ўзьнімаць голыс, мы ні глухея.

Ого як узьнімаюць голыс, чуць ні за горла бяру́ць. *Зак.* **Падняць** (узняць) **голас.** Як пыдняў голыс, тады трошку аселіся. Ты, знаць, раз і ўзьняў голыс, як Андрея брігадзірым хацелі ста́віць.

**Паднімаць** (падымаць, узнімаць) **на смех.** *Высмейваць, абсмейваць.* Што ні ска́жыць, кажныя яго слова пыднíма́юць на сьмех. Яго ўсю́дых пыдыма́лі на сьмех. Як жа ня будуць узьніма́ць на смех, кылі трілю́ду вярзець. *Зак.* **Падняць** (узняць) **на смех.** Як пыдня́лі на сьмех, тады агледзіліся, што яны трілю́дзюць. Увíдзіш, што ўзьнімуць на сьмех, ні пыглідзя́ць ны цябе.

**Паднімаць** (падымаць, узнімаць) **на шчыт,** *кніжн. Расхвальваць, узносіць.* Насíліся зь ім, як сь пíсыныю торбыю, пыдніма́лі на шчыт, пакуля саўсім засы́пыўся. С адны́м кончылі — ні пулучы́лыся, узяліся другога пыдымаць на шчыт. За што ж яны Мікіцёнка узьніма́юць на шчыт? *Зак.* **Падняць** (узняць) **на шчыт.** Сьпірва на шчыт пыдня́лі, ня́нчыліся, а цяперя у грязь кíнулі. Узьняць на шчыт умеюць, на ета яны мысьціра́ хуць куды. *Узмацн.* **Пападнімаць** (паўзнімаць) **на шчыт.** Пыпыдніма́лі сваіх на шчыт, ка́жыцца, шука́й і ўва ўсім мірі еткіх ня знойдзіш. Пыўзьнімалі на шчыт, што ня людзі ўжо сталі, а а́нгілы.

**Паднімаць** (падымаць, узнімаць) **на язык,** *неадабр. Абгаворваць.* Сколька разоў яны пыдніма́лі Аньку ны язык. Умеіць пыдымаць ны язык, і, кажыцца, дужа ніхто ня ўчыў. Узьнімаць ны язык яе ўчыць ні нада. *Зак.* **Падняць** (узняць) **на язык.** Чуць хто піряд імі ні так сту́піць, січас падні́муць ны язык. Ны язык вам узьняць нядоўга любога добрыга, ат етыга вам усігда адно удавольствія.

**Паднімаць** (падымаць, узнімаць) **ногі.** *Прыспешваць хаду.* Пыдніма́й ногі, ту́ча нівісь ікая находзіць, у мінуту зьмя́кнім. Нада пыдымаць ногі, як спозьнімся, тады дзелый, што хочыш. Дужа ніпываротліў стаў, цяжола яму узьніма́ць ногі. *Зак.* **Падняць** (узняць) **ногі.** Відзіць, што цімныта́ находзіць, дык пыдняў ногі. Як прут схвацíла, узьняў ногі, а слова ня слу́хыіць. *Працягл.-фінальн.* **Нападнімаць** (наўзнімаць) **ногі.** Ныпыдніма́юць ногі твае ру́пытнікі, цягну́ліся і будуць цягнуцца, як ніжывэя. Во як ныўзьнімаў ногі, мы прішлí, а яго і ня відна саўсім.

**Паднімаць** (падымаць, узнімаць) **поршы** (трахолле, шолудзі), *жарт. Багацець, адчуваючы сябе больш упэўнена.* Як дзя́дзькі пымаглі́, дык стаў пыдніма́ць поршы. Цяперь як — ні знаю, а гады трі быў тама, дык пыднімáлі тряхольля. Нада вам пыднімаць шолудзі, дос хадзіць у атря́хых. Пыдыма́юць поршы, аду́мыліся, ныдаела ста́рцымі жыць. Ну-ка, ну, пыдымайця тряхольля, ні бядні́ціся. Ныўря́д, ці ста́нуць яны калі-небудзь пыдымаць шолудзі. Нялёхка ім будзіць узьніма́ць поршы. Ніхай самі ву́чуцца узьнімаць тряхольля. А што ж ты думыў пры Максімывых, і яны ўзьніма́юць шолудзі. *Зак.* **Падняць** (узняць) **поршы** (трахолле, шолудзі). У пасьледнія ўремя троху апчы́сьціўся, пыдняў поршы. Каб ні быся́тнічылі, дык ба скарей тряхольля пыднялі. У іх трудадзень быга́тый, пыднялі шолудзі. Як кінулі гарелычку, дык узьнялі поршы. Айдзе яму ўзьняць тряхольля, так і зьвяку́іць гылыдра́нцым. А нічога, яны ні рысхадовыя, узьнімуць шолудзі. *Узмацн.* **Пападнімаць** (пападымаць, пападняць, паўзнімаць, паўзняць) **поршы** (трахолле, шолудзі). Ты пыглядзі́-ка, як яны прі новым старшыне пыпыднімáлі поршы. Пыпыднімалі тряхольля, ні ска́жыш дайжа, што Іванывы сыны. Вашы цяперя пыпыднімають шолудзі. Ты б толька відзіў, як яны пыпыдымáлі поршы. Тряхольля пыпыдымалі, абжылі́ся. Пыпыднялі поршы, чорт іх ні бярець. Як пыпаднімуць тряхольля, пыглядзі́ш, якея яны будуць. Айдзе ім, етым аторвым пыўзьніма́ць тряхольля. Так пыўзьнімáлі шолудзі, што зыдзіві́цца нада. Кызáлі, што вы тама нічога поршы пыўзьнялі. Як пыўзьнялі тряхольля, то й ну людзей сталі пахожы. Ім троху сь сьвету паткі́нулі, ато б яны пыўзьнялі шолудзі. *Працягл-фінальн.* **Нападнімаць** (наўзнімаць, даўзнімаць) **поршы** (трахолле, шолудзі). Ныпыднімаў твой Васіль поршы, глядзі, каб пасьледнія руба́шка с плеч ня зьлезла. Ныпыднімаіць тряхольля, як усё ду рубля́ прап'ець. Ныпыднімають шолудзі, будзіць у гультаёў пыдня́та. Адзін ныўзьнімаў поршы: павёў кароўку. Ныўзьнімаіць тряхольля, што пасьледнія тряхоліна с плячэй ва́ліцца. Узноў будзіць прасіць: пымагі́,— во як ныўзьнімаіць шолудзі. Ну, відзіш, як твой хва́ліный дыўзьнімаў поршы. Дыўзьнімалі тряхольля, што німа якея пляхоткі посьлі бані піряккі́нуць. Твой швагорь ужо дыўзьнімаў шолудзі, так дыўзьнімаў, што людзі сталі сьміяцца.

**Паднімаць** (падымаць, узнімаць) **руку.** *Дазваляць сабе біць каго-н.* Ён ужо і ны цябе пыднімáіць рукý? Як табе ня стыдна, ны каго ты пыдымáіш руку. Папробывыў быў узьнімаць руку, большы ні захочыць. *Зак.* **Падняць** (узняць) **руку.** У яго ні спрáшывыць і руку пыдняць. Ну, кажыцца, каб ны мяне ўзьняў руку, лупíла б чым дзержа.

**Паднімаць** (падымаць, узнімаць, ставіць, станавіць) **на ногі.** 1. *Вылечваць.* Дужа сьпецный доктыр, хто ні пупадзецца, пыднімáіць на ногі. Буганькоў мёртвых пыдымаў на ногі. Трýдна ўзьнімаць на ногі, раз німа здароўя. Цяперя саўсім хворых стáвюць на ногі. Ізыком становіць на ногі. 2. *Будзіць.* Пыднімáй-ка ты іх на ногі, скора ехыць. Пыдымáйця мáлых на ногі, ато пакуля зь імі надзенісься. Чаго яны гылыгылянць, у поўныч дзяреўню ўзьнімáюць на ногі. Крік, галдзёж, усіх стáвюць на ногі. Нада було ўсю дзяреўню стынавіць на ногі. 3. *Гадаваць, рабіць эканамічна незалежным.* Дзяцей нялёхка пыднімáць на ногі. Дзя́дзькі троху пымагáлі пыдымáць на ногі. Трýдна — ня трудна, а нада ўзьнімаць на ногі. Успомні, як мы сваіх ставілі на ногі. А як було стынавіць на ногі зразу посьлі вайны, калі нічога зу душою ні було. *4. Натхняць, накіроўваць на энергічныя дзеянні ў выніку трывогі.* Нашто вам було пыднімáць іх на ногі. Пыдымáйця ўсіх на ногі, тут нешта ні так. Ета суседзіў ня хочыцца узьнімаць на ногі, ато б я вас праўчыў ба. Стаў Кіреівых на ногі, ніхай відзюць, што ён творіць. *Зак.* **Падняць** (узняць, паставіць) **на ногі.** 1. У Воршы яго пыдня́лі на ногі. Харошый дужа доктыр пупáўся яму, за дзьве нядзелі на ногі ўзьняў. Хто ж цябе пыставіць на ногі, есьлі ты сам нічога ні глядзíш. 2. Рызыспáўся, што чуць пыдня́лі на ногі. Нашто вы ўзьнялі на ногі ў еткыю рань, ніхай ба спаў яшчэ. Як скызаў ты, так, дýмыіш, і пыстáвіў на ногі, ты йшчэ рузбудзíць пыспрабýй. 3. Якей ні бацька, а пыдняў дзяцей на ногі. Во дзяцей узьнімý на ногі, а тады мне нічога ні нада. Каб скарей пыстáвіць сыноў на ногі. 4. Бувала, на што хочыш і каго хочыш падніміць на ногі. Узьняць на ногі такую сілу, дык тут горы піряверчуць. А мы пыстáвілі на ногі увесь канец дзяреўні, во шýму було.

**Паднімаць** (падымаць) **хвост,** *жарт. Рабіцца больш дзейсным, актыўным.* Саўсім хадзíў апусьціўшы вушы,

а глядзі, троху пыднімáіць хвост. Пыдымáй хвост, нешта ты саўсім на сьвет ні глядзíш. *Зак.* **Падняць хвост.** Ого як Мыксімёнык хвост пыдня́ў, дайжа і ні скáжыш, што ета Мыксімёнык. *Узмацн.-множн.* **Пападнімаць** (пападымаць, пападняць) **хвасты.** Цяперя яны дужа кру́тка хвасты пыпыднімáлі. Сколька ж ім зумухры́шкымі быць, пыпыдымаюць хвасты. Так пыпыдня́лі хвасты, што куды там, хадзí ля іх ды аглідáйся, нысáмі пузукруцíлі: уш мы.

**Падножный корм.** *Выпадковыя сродкі існавання.* С падножныга корму доўга ні ныжывеш. Ні зыхацеў работыць нíйдзе, пашоў ны падножный корм.

**Па добрай волі.** *З поўнай згоды і з жаданнем.* Ні надзейся, каб яны па добрый волі аддáлі. Хто йта туды па добрый волі пойдзіць.

**Пад первый номер.** 1. *Дагала (абстрыгчы, абстрыгчыся).* Абгылыгáнілі пат первый номір, голывы, што стуўбаны́. Я стрыгу́ся дык пат первый номір, ні люблю лахмоцьця ны гылаве. 2. *Багата (апрануць, апрануцца).* Пат первый номір свайго рызадзелі. Ідзець — усігда усё на ім аж гарíць, пат первый номір.

**Падпіліваць** (падразаць) **рогі.** *Крыху сунімаць, суцішваць.* Ці зьбірáісься ты свайму бысяку́ рогі патпілівыць. Што ж, раз некыму було пыдрізаць рогі. *Зак.* **Падпіліць** (падрэзаць) **рогі.** Ніхто ж нешта ні знáйдзіцца пытпілíць табе рогі. Як ты яму падрежыш рогі, кылі ён удвыя́ зы цябе большы вы́мыхыў. *Узмацн.* **Пападпіліваць** (пападпіліць, пападразаць, пападрэзаць) **рогі.** Вам нада було даўно пыпатпíлівыць рогі. Каб хто й пыпытпіліў рогі, хужы ня зьдзелыў ба. Пыпыдрізáлі рогі ім, дык як шаўковыя сталі. Я зразу пыпадрежу рогі, скора пыцішэюць, пыася́дуцца і ўспакоюцца як шоўкывыя. Максім твой пыпадрежыць рогі, дажджэсься,— ён дайжа слова ні скажыць.

**Падпускаць шпількі.** *Падколваць, гаварыць непрыемнасці.* Ты любіш путпускáць шпількі, а як самому патпу́сьцюць? *Зак.* **Падпусціць шпільку,** *адз., мн.* Як путпусьцíлі яму шпільку пырыся́тымі, і змоўк мымінтáльна. Умеіць путпусьціць шпількі, мáсьцір на ета чышчы некуды. Крепка Мітрыхвану путпусьцілі шпількі посьлі тае свадзьбы. *Працягл.-фінальн.* **Нападпускаць**

**шпількі.** Нупутпускáіш ты шпількі, путпускáньнік еткій, сымаму́ так патпу́сьцюць, што задзівісься. Нупутпускáў шпількі, маўчы́ць.

**Пад п'яную руку.** *У стане ап'янення.* Ну, можа што й скызаў пыт п'я́ныю руку́, ты дужа ні прінімáй к серцу. Муцюкну́лі пыт п'яныю руку.

**Падразаць крылле.** *Пазбаўляць веры ў сябе, скоўваць ініцыятыву.* Ці знаіш ты, каму пыдрізáіш кры́льля, ці ёсьць у цябе гылыва ны плічáх. *Зак.* **Падрэзаць крылле.** Нашто ж вы чалавеку падрезылі крыльля? *Гл.* Абразаць крылле.

**Падразаць** (падсякаць) **пад корань.** *Наносіць непапраўную шкоду.* Ні нада було пыдрізáць пат корінь чылавека. За што яны яго пыдрізаюць пат корінь? Вы ж далжны былі пынімáць, што яго пыцьсікáюць пат корінь. *Зак.* **Падрэзаць** (падсеч) **пад корань.** І раншы ён чуць дзіржáўся, а цяперя саўсім падрезылі пат корінь. Пацьсекла яго пат корінь ета рызаренія. *Параўн.* Пад корань.

**Падруга жызні,** *жарт. Жонка.* Як ты сы сваёю падру́гыю жы́зьні, ці пымірі́ўся? Вот і падругу жызьні сабе прідбáў,— а можа йна цябе прідбáла?

**Пад рукамі.** *У непасрэднай блізкасці.* Толька што пуд рукáмі былі авеччыя ножні, і айдзе яны дзеліся — як прытану́лі. Прібярі, ніхай пуд рукамі ні выля́іцца.

**Пад рукі.** *У патрэбны момант.* Мне ж горька нада пад ру́кі решыта, а йна схвацíла і ні нясець. І таго німа пад рукі, і таго, нада ехыць у скрысеньня ны бызáр. Нада была пад рукі чáшычка, дык ні найшоў, як рыстáла.

**Пад руку.** 1. *У патрэбны момант.* Вот хырашо, што ты пуд руку́ пупáўся, пáлку паможыш ускláсьць. Пыдвярну́ўся пуд руку, і яго сыгряблí. 2. *У час дзеяння, роздуму.* Каб ты ні скызáў пуд руку, я б ні ашыбся. 3. *Трымаючы за сагнутую ў локці руку.* Павёў некуды сваю пуд руку. Узяў пуд руку — дык вас хуць садзí за стол як мылады́х.

**Пад ручку.** *Трымаючы за сагнутую ў локці руку.* Туды пыд Лырьяныва пашоў сы сваёю пад ру́чку. Нешта

ўжо дужа ўзя́ліся пад ручку хадзі́ць, што-то такоя сюрьёзныя наклёўвыіцца.

**Пад** [самый] **нос.** 1. *Ціха і незразумела.* Буркніць пад нос і пашоў, хочыш слу́хый, хочыш не. Пыц са́мый нос бармочыць, ні рызьбяреш. 2. *Зусім блізка.* Ну вун жа табе пад нос пылажы́лі шчы́пці. Пыц самый нос пацсу́ніш, тады ўві́дзіць.

**Пад сапагом** (башмаком). *У поўным падпарадкаванні, залежнасці (трымаць, знаходзіцца).* Ён у іх даўно пыц сыпагом. Дзіржа́ць пыц сыпагом і піснуць ні даюць. Ты, знаць, ужо сам пріві́к сядзець пыд бышмаком у яго. *Гл.* П а д к а б л у к о м.

**Пад сапог** (башмак). *У поўнае падпарадкаванне, залежнасць (трапляць, браць).* Пыц сапог цябе як пріці́снуць га́музым, пызна́іш зяці́. Узялі пыд бышмак, ня скора вы́рьвіцца. Пупаўся пыд бышмак, ніхай паверціцца. *Гл.* П а д к а б л у к.

**Пад совусам,** *запаз. У пэўным выглядзе.* Ён зна́іць, пыд якім совусым што пыда́ць. Пыднясьлі яму пат тым совусым, што зь ім жыць ні сыбіра́ісься.

**Падстаўляць галаву.** *Рызыкаваць у складаных умовах.* Есьлі хочыш дурату́ тварі́ць, тварі́, а я пыцстыўля́ць зы цябе гылаву ні стану. *Зак.* **Падставіць галаву.** З ду́рі пыцста́віў гылаву́, а ш чаго ж, ду́мыіш, яшчэ. *Узмацн.-множн.* **Пападстаўляць** (пападставіць) **голавы** (галовы). Калі-небудзь пыпыцстыўля́іця голывы, што ні рады будзіця. Галовы пыпыцстыўля́ць нядоўга. Вы пыпыцставілі голывы, а яны із вас сьмяюцца. *Працягл.-фінальн.* **Нападстаўляць галаву.** Нылыцстыўля́іш гылаву, што ныпра́ўду калі біз мызкаўні́ вернісься. Ныпыцстыўля́ў гылаву зу дуракоў,— сам пыплаці́ўся.

**Пад стаць,** *запаз., звыч. неадабр. Аднолькавы, падобны.* Сам па́ліц ап паліц уда́ріць ня хочыць, і жонка яму пыц стаць пыдыбра́лыся. Пыц стаць адзін другому сыбра́ліся.

**Пад страхам.** *У прадчуванні жахлівых падзей.* Большы двух гадоў ка́жный дзень жылі пыц страхым. Ну немцы, дык яны немцы, ура́гі, а ац сваіх і́дылыў ці мала пыц страхым нытрясьлі́ся.

**Падсыпаць жару,** *жарт. Падбухторваць.* Іна і так редзьку рьвець, а ён яшчэ больши пыцсыпа́іць жа́ру. *Зак.* **Падсыпаць жару.** Пыдажджы́, ніхай Васіль за́йдзіць, во тэй пацсы́пліць жару. Ну як, пацсыпыў жару, ці ды жа́ру цябе рускусілі? *Парайн.* Д а в а ц ь  ж а р у.

**Пад удар.** *У небяспечнае становішча.* Свае пыдвялі́ пуд уда́р, ніхто еткыга ат іх і ні надзеіўся. Вы ня толька мяне пуд удар ста́віця, а што можыць быць з Грішчанком, а?

**Пад ударам.** *У небяспечным становішчы.* Тады Пітраковы былі больши, чым хто, пуд уда́рым. Трілю́дзіць ніізьвесна што: ён пуд уда́рым,— пыд якім ты ударым?

**Пад уласць,** *звыч. жарт. Пад поўны ўплыў.* Ніхай ён ужо ідзець пыд вашу ула́сьць, мы бізь яго абойдзімся. Пупаў пыд Ганьніну уласьць, тая кыма́ндыіць, як хочыць.

**Пад уласцю,** *звыч. жарт. Пад поўным уплывам.* Ён січас пыд Андреівыю ула́сьцю, сам ду́мыць ня хочыць.

**Пад усе бочкі шпунт,** *іран. Вельмі цікаўны і рухавы.* Ты канешня пуд усе бочкі шпунт. Ня будзь пуд усе бочкі шпунт, кылі трошку цішэй ды зьмірней, яно ня хужы.

**Па душах.** *Адкрыта, чыстасардэчна.* Пу душа́х зь ім ня дужа пыгаворіш, ён нейкій ніпрісту́пный. Знаць, первый раз пу душах рузмуўля́лі. Дужа ўжо нешта пу душах зю́кылі, пряма рызыйцíцца ні маглі.

**Па душэ.** *Да спадобы.* Як ста́ніць пірібіра́ць, ды каб усё пы ныра́ву, ды пу душэ каб,— ты пыдзівіўся б. Каб яму што було пу душэ,— ого, ня дужа што будзіць.

**Падхватываць на язык,** *звыч. неадабр. Распаўсюджваць чуткі, плёткі.* Якую чуш ні пачу́юць, січас пытхва́тыюць ны язы́к. *Зак.* **Падхваціць на язык.** Тая бізь нічога ніякыга скыза́ла, а тут і пытхвацілі ны язык: жа́лілыся, жалілыся.

**Падціраць** (уціраць) **нос,** *пагардл. Значна пераўзыходзіць ва ўсіх адносінах.* Якей ня ёсьць, а пыцьціра́іць нос усім у рабоці. Мы ім тады уціра́лі нос. *Зак.* **Падцерць** (уцерць) **нос.** Пыдрасьцець, дык ста́ршым пыдатрець нос: красівыя дзеўка будзіць. Каму хочыш утрець нос. *Узмацн.* **Паўціраць нос.** Сваты́ пыўціра́лі нос Грішчынкам, як тэя ні хва́стыліся.

**Падчапіць на вудачку** (кручок). *Лоўка, нечакана, са спрытам перахітрыць, падмануць.* Як жа лоўка сібра́ тога пыччапілі на ву́дычку, ён дажа агледзіцца ні пасьпеў! Сонька так ну крючок паччэпіць, што задзі́вісься посьлі.

**Пад шумок.** *Таемна, выкарыстоўваючы занятасць, неразбярыху.* Яны ўспользывыліся і пуч шумок грібану́лі жыта. Дывай пуч шумок кылапты́ріць сабе.

**Па завязку,** *рэдкаўж. У поўнай меры, так, што больш нельга.* Яны сыты пы за́візку, нечыга ім большы пхаць. Напёрліся пы завізку, ліжаць, толька пыхця́ць. *Гл.* П а д з а в я з к у.

**Паімець сілу.** *Адчуць сваю перавагу.* Тэй ста́ршый пыімеў сілу над ма́лымі, праходу ім ні даець нійдзе. Такея шкарю́днікі пыімелі ныт табою сілу.

**Паіць з пальца,** *іран. Запрашаць частавацца п'яніцу.* Ён сы ўчыра́шніга дня стаў саўсім совісный, так ня возьміць, яго нада паі́ць с па́льца. *Зак.* **Напаіць з пальца.** Можа вас яшчэ с пальца ныпаі́ць нада? *Непаўн.* **Папаіць з пальца.** Кірей твой ня пойдзіць, папой яго с пальца,— ён ніхай пачу́іць гарелку, зы пяць вёрст ля́сьніць.

**Паймаць** (спаймаць) **за хвост,** *іран. Не ўздзейнічаць аніяк.* За хвост ты іх пыйма́іш, бысякоў етых. Хочыш, гарод вы́біруць і сь ціцівою зыпясуць, а ці ты іх за хвост спыймаіш. *Гл.* Л а в і ц ь з а х в о с т.

**Паймаць** (спаймаць) **на вудачку** (кручок). *Перахітрыць.* Во пыстыря́йся, пыймай на ву́дычку Просю, можа як і прыгаворіцца. Ой, глядзі́, пыйма́юць яны цябе ну крючок, ня ўгледзіш, як пыймаюць. Ду́мыіш, спыйма́іш на ву́дычку Гывару́шку? — не, ён хітрый. Спыймалі ну крючок, ні знаіць, як вы́круціцца. *Гл.* Л а в і ц ь н а в у д а ч к у.

**Паймаць** (спаймаць) **на слове.** *Пацвердзіць сказанае раней новым выказваннем той жа асобы.* Ніхай, ніхай трепліцца, я яго січас пыймаю на слові. Спыйма́ў я іх на слові — рыска́зывыйця,— круці́ліся яны, круціліся, ды ўсё рыскызалі. *Гл.* Л а в і ц ь н а с л о в е.

**Пайціць з жызні,** *узвыш. Памерці.* Ішчэ тріццаці гадоў ні було, як пашоў ж жызьні. Яму ўжо толька астыва́лыся ж жызьні пайціць.

**Паказывацца на вочы.** *З'яўляцца, заходзіць на кароткі час.* Усё абішча́ю і абішчаю, ажно сты́дна ім на вочы пыка́зывыцца. Ім стала хуць ні пыказывыйся на вочы. *Зак.* **Паказацца на вочы.** Худзь ба калі пыкыза́лыся на вочы, што йна ў цябе зы тыкая пісыныя крыса́віца. Ну-ка пыкажы́ціська на вочы, што вы тут зы такея.

**Паказываць** (высовываць, выторкываць) **нос.** *З'яўляцца на кароткі час; выходзіць на момант.* Нікуды я дужа ні пыка́зывыю нос, калі толька к суседкі ціріз дарогу выйду. Калі нічога, а калі гылыва як крэхніць, куды мне пыказывыць нос. З за́ціні ня хочыцца дайжа нос высовывыць. Куды мне дужа выторкывыць нос, пакуля ўпра́ўлюся пы хаці — зымары́ся, толька пыліжа́ць. *Зак.* **Паказаць** (высунуць, вытаркнуць, вытарнуць) **нос.** Я там столька пыбыла́, пыкыза́ла нос ды ныза́д с хаты. Ты ж ні старуха, што высунуць нос ніку́ды ня хочыш. Гады́ ў ряды́ вы́тыркну нос к сваім, у Мідзькыўшчыну схаджу́. Вы́тыркніш нос, дык ска́жуць: ого, а ны работу ня ходзіць,— а я хадзі́ць чуць уздолію. *Гл.* Носа не паказываць; *параўн.* Носа не высунуць.

**Паказываць клас,** *кніжн.; іран., гумар. Рабіць брэнна, але з прэтэнзіяй на надзвычайнасць.* Вы ўсякім дзелі пыка́зывыіць клас, што людзі ўсігда сьмяю́цца. *Зак.* **Паказаць клас.** Во пыкызаў клас, шу́льля глідзя́ць у ра́зныя бакі, закі́нь сьценку, дык вы́выліцца. *Працягл.-фінальн.* **Напаказываць клас.** Ныпыка́зывылі клас, работа — пулюбува́цца толька, адно што глядзець некыму.

**Паказываць козыры.** *Выдаваць, раскрываць планы, задумы.* Сямён хітрый, козырі пыка́зывыць ён раншы ўремя ні ста́ніць. Тута вы пыхвыта́ліся пыказывыць козырі. *Зак.* **Паказаць козыры.** Я знаіш чаго пріехыў, гаворіць,— таго і таго,— зразу пыкызаў козырі. *Працягл.-фінальн.* **Напаказываць козыры.** Ныпыка́зывыіця козырі, яны зы вас усё пріду́мыюць.

**Паказываць кузькіну мацць,** *гумар. Правучваць адчувальна.* Каму йта вы зьбіра́іціся пыка́зывыць ку́зькіну мацць? *Зак.* **Паказаць кузькіну мацць.** Пыдажджы́ця, мы ішчэ вам пыка́жым кузькіну мацць. *Працягл.-фінальн.* **Напаказываць кузькіну мацць.** Ныпыка́зывыіць ён кузькіну мацць, яго нехта баіцца ці прізнаець хто.

**Паказываць кукіш у кармане,** *іран. Асуджаць спадцішка, таячыся.* У яго толька хвыта́іць сьмелысьці пы-

ка́зывыць ку́кіш у кырма́ні. *Зак.* **Паказаць кукіш у кармане**. Ой, ты яму нешта зьдзелыіш — кукіш у кырмані пыкажыш, ён цябе дужа спужаўся.

**Паказываць** [на] **дзверы.** *Недвухсэнсоўна папярэджваць аб магчымасці быць выгнаным або выганяць.* Іна́ сваймў ні раз пыка́зывыла дзьвері. Раншы цярьпела, а цяперя хва́ціць, пыка́зывыіць на дзьвері: ня хочыш жыць — убіра́йся. *Зак.* **Паказаць** [на] **дзверы.** Я б доўга ні вылаводзілыся, жыва пыкыза́ла б дзьвері. Быў зырта́чыўся, дык яму пыкызалі на дзьвері.

**Паказываць пяткі.** *Шпарка ўцякаць.* Пыка́зывый пяткі, яны ўжо блізка. Трецьцій раз пя́ткі пыка́зывыіць. *Зак.* **Паказаць пяткі.** Толька мы пыявіліся, зра́зу пыкыза́лі пяткі, кытану́лі, ажно веціp зысьвіста́ў лі вушэй.

**Паказываць сябе.** *Поўнасцю выяўляць сваю сутнасць.* Нікрасіва так пыка́зывыць сябе, ты ж будзь, як усе людзі. *Зак.* **Паказаць сябе.** У Шумянічых дужа ніла́дна яны пыкыза́лі сябе. *Працягл.-фінальн.* **Напаказываць сябе.** Усяго було, усяк ныпыка́зывылі сябе, нысьміяліся зь іх німа́ла.

**Паказываць тавар ліцом.** *Прад'яўляць з найлепшага боку.* А што ж ты хочыш тургува́ць кыта́ ў мяшку́, пыка́зывый тыва́р ліцом. *Зак.* **Паказаць тавар ліцом.** Ён умеіць пыкыза́ць тывар ліцом, як рысхва́ліць — луччыга, ка́жыцца, і німа нічога.

**Паказываць** (тыкаць) **пальцам.** *Асуджаць адкрыта, не таячыся.* Ны цябе ўсе людзі пыка́зыюць па́льцым, чаго ты етык апусьціўся, апушчэніц ты. Хочыш, каб пальцым ты́кылі, як ны Дзімідзёнка. *Зак.* **Паказаць** (тыкнуць) **пальцам.** Будзіш дыжыда́ць, пакуль пыка́жуць пальцым. А што ж ты ду́мыіш, і ты́кнуць пальцым, народ ня лю́біць нічога дурнога.

**Паказываць язык.** *Абдурваць, падманваць.* Табе сколька разоў пыка́зывылі язык, ты ўсігда, што выранёнык нейкій. *Зак.* **Паказаць язык.** Ду́мыў, што ён усіх кругом наду́ў, а тута сымаму́ пыкызалі язык. *Працягл.-фінальн.* **Напаказываць язык.** Ныпыка́зывыіць язык, сымаго калі так пацсодзюць, што задзівіцца. Вот відзіў, як яны ныпыка́зывылі язык.

**Па каплі.** *Паволі, маленькімі дозамі.* Што ён даець пы ка́плі, дыва́ць — дык дывай усё зразу. Нечыга цы́ркыцца пы каплі, лі ўсё.

**Пакараць серца,** *кніжн. Зачароўваць.* Эй, браток, ня ўмеіш ты пыкыря́ць серца, зь дзеўкымі саўсім пу-другому нада. *Зак.* **Пакарыць серца.** Нечым жа пыкаріў серца, сохніць і сохніць па ім, на Колю і глядзець ня хочыць.

**Пакатывацца со смеху** (са смеху). *Смяяцца да знямогі.* Тэй што-небудзь як ска́жыць, яны пряма пыка́тывыюцца со сьміху. Дос пыкатывыцца са сьмеху, каб ні пла́кылі скора. *Гл.* В а л я ц ц а  с о  с м е х у.

**Па крайняй меры.** 1. *Не менш чым.* Так пыдвадзі к канцу́, каб пы кра́йній мері рублей тріццыць аста́лыся. 2. *Вельмі добры.* Пы кра́йній мері чылавек, за ім як зы ка́мінныю гарою. 3. *Вельмі добра.* Пы крайній мері зьдзелыны вароты, і пыдыгна́на, і вы́різына лу́ччы некуды. Зыскароджына пы кра́йній мері, ніхто загу́ны ні дасьць.

**Палажа руку на серца,** *запаз. Сумленна, чыстасардэчна.* Пылыжа́ руку́ на серца, ён тут дзьве ночы нучува́ў. Скажу́ табе пылыжа руку на серца: ні ў чым ён ні вінува́т.

**Паласкаць кішкі.** *Есці зусім мала або ўжываць малапажыўную ежу.* Айт, ікая зь мяне яду́ньня, во пылашчу́ кішкі і ўсё. *Зак.* **Папаласкаць кішкі.** Што тут зьясі, баліць нешта, кішкі пыпалошчыш і ходзіш. Якей сы шча́ўля наед, кішкі пыпалошчыш, аж бурчы́ць посьлі. *Аднакр.* **Спаласнуць кішкі.** Еў — што там еў, кішкі спыласну́ў.

**Па ласке.** *Адразу, без размоў (слухацца, пагаджацца).* Ідзі пы ла́скі, ато біз ласкі пойдзіш. Пы ласкі слу́хый, што табе талку́юць.

**Палаці** (сундукі) **ломяцца** (ламаюцца), *цяп., пр., буд. Пра наяўнасць вялікага багацця.* Ат адзежы пыла́ці ломюцца, усяго ўсю́дых ныпха́на. Сколька чаго було нызыпа́шына — пылаці ламі́ліся. Пылаці будуць ламіцца і ўсё будзіць стыгна́ць. Пылаці лума́юцца, ні знаіць, куды што дзіваць. Ныклаў — сундукі ломюцца, а ўсё пла́чыць: ма́ла. У Аўдоткі сундукі ламіліся ад дыбра. Ныкрятылі і свайго, і куплёныга — сундукі лумаюцца. Чаго другога яны асобінна ні глядзелі, ну адзёжы спруўля́лі — сундукі лума́ліся.

**Палец** (пальцам) **аб палец не ўдарыць** (не стукнуць). *Зусім нічога не рабіць, нічым не займацца.* Кінь у дваре — прасьпіць, па́ліц ап паліц ні ўдаріць. Сядзеў месіц і паліц ап паліц ня сту́кнуў, хвырасьці́ны ні пірясек. Сколька тут жыў, пальцым ап паліц ні ўдаріў. Пасьледній гульта́й у дзяреўні, ён пальцым ап паліц ня стукніць. **Палец** (пальцам) **аб палец ударыць** (стукнуць). Дажджэсься, ударіць ён паліц ап паліц, і аб два, хочыш, уда́ріць. Ніхай ба паліц ап паліц стукнуў, дык жа не. Ударіць тыка́я апока пальцым ап паліц, дажджэсься работы.

**Паліць масты,** *запаз. Канчаць з мінулым.* С тым, што було, я палю́ масты́, і большы такога ў мяне ня будзіць. *Зак.* **Спаліць масты.** К усяму таму́ ён даўно спаліў масты, і пыміна́ць яму нічога ня стоіць. *Узмацн.* **Папаліць масты.** Ета ты так ду́мыіш, што яны пыпалілі масты, па-мойму, яны толька пріці́хлі.

**Паліць** (раздуваць) **кадзіла.** *Падымаць шум з нядобразычлівымі намерамі.* Нашто табе палі́ць кадзі́ла, у іх і сваіх ніпрія́тнысьцій поўна. Ахота яму руздува́ць кадзіла там. *Зак.* **Распаліць** (раздуць) **кадзіла.** Рыспа́ліць кадзіла, што ні знаюць, як тушы́ць. Дзім'іняты разду́лі кадзіла, ім дужа ўсё му́лілі тэя хлопцы. *Пачын.* **Запаліць кадзіла.** Я чу́ствыю, што яны зыпа́люць кадзіла, яны будуць мсьціць. *Працягл.-фінальн.* **Напаліць** (нараздуваць, дапаліць, дараздуваць) **кадзіла.** Ныпа́ліця вы кадзіла, атву́чуць яны вас пыд'ялды́кывыць. Нуруздува́ў Міркулёнык кадзіла, маўчыць. Дуруздува́іш кадзіла, як возьмуць цябе ў абарот.

**Палка палкаю,** *груб. Дурны, някемлівы.* Ці ты яму аб'ісьня́й, ці ні аб'ісьняй — па́лка палкыю, як ні яму гаворіш.

**Палучаць аддуху** (прадуху). *Вызваляцца ад тлуму на кароткі час.* Ні аднае міну́ты ні пулуча́ю адду́хі, усё крік, гам, аж у вушах тряшчы́ць. Зь імі ні разу ні пулучаў праду́ху. *Зак.* **Палучыць аддуху** (прадуху). Палу́чыш ты тута адду́ху, будзіць палу́чына. Каб хуць ны нядзелю якую праду́ху пулучыць. *Гл.* Д а в а ц ь а д д у х у.

**Палучаць баню** (лазню, узбучку, пытлю). *Атрымліваць адчувальнае ўздзеянне (лаянку, біццё).* Урімі́на́мі пулуча́ў ба́ню, мы дужа ні любува́ліся ім. Ён ужо даўно

прівык пулучаць ла́зьню. Віднa, мала ты ўзбу́чку пулуча́іш, большы табе ні мішала б. Можа ня дужа, ну троху пы́тлю пулучаіць. *Зак.* **Палучыць баню** (лазню, узбучку, пытлю). Учора баню пулучы́ў, і сяньня прыздра́ўлю. Такую лазьню пулучыў ац Стыхва́ніхі, што доўга ні забу́дзіць. Дужа крепкыю ўзбучку пулучылі, ну так ім і нада. Нійдзе ты ня дзенісься, пытлю палучыш. *Гл.* Д а в а ц ь б а н ю.

**Палучаць бярозавай кашы,** *іран. Быць пакараным фізічна.* Ні так ужо редка і ты бярёзывыя кашы пулуча́ў. *Зак.* **Палучыць бярозавай кашы.** Палу́чыш бярёзывыя кашы зу кулёк, як піць даць палучыш, ну толька тады ня хныч. *Гл.* Д а в а ц ь б я р о з а в а й к а ш ы.

**Палучаць волю** (свабоду, паблажку, патачку), *неадабр. Карыстацца прывілеямі, паблажлівымі адносінамі.* Я віджу, што яны ў цябе лі́шня многа волі пулуча́юць. А чаго ён так свабоду пулучаіць, у руках прідзержывый. Прівы́к пулучаць пыбла́жку, што захочыць, дзелыіць. Дзяржы троху, уніма́й часьцей, ніхай ні пулучаіць еткыю пыта́чку. *Зак.* **Палучыць волю** (свабоду, паблажку, патачку). Бацька паехыў, цяперя ён пулучы́ў волю, усё пычанець тварі́ць. Нягож ат каго, аць цябе яны і пулучылі свабоду дуры́ тварі́ць і сыпыса́ць. Як палу́чуць пыблажку, тады трудней, зразу ні нада пыка́зывыць етыга. Зря вы пулучылі пытачку, вас нада было зыжа́ць, каб ні ка́ўкнулі. *Гл.* Д а в а ц ь в о л ю.

[*Палучаць*] **выспятка ад бога,** *жарт. Пра жаданне незвычайнага, жаданне звыш меры, патрэбы.* Ужываецца таксама з словамі *хацець, ждаць, нада.* Ты, знаць, толька вы́спітка ад бога ні пулучаў. Яны нійначы хочуць выспітка ад бога. Табе ўжо аднаго высьпітка ад бога нада.

**Палучаць дарогу.** *Пазбаўляцца ад перашкод.* Пулучай дарогу і кацісь ат’етуля на ўсе чаты́рі. *Зак.* **Палучыць дарогу.** Пулучы́ў дарогу, дык нісмашна стала: я нікуды ні зьбіра́юся, зубурчэў. *Гл.* Д а в а ц ь д а р о г у.

**Палучаць загуну.** *Заслугоўваць ганьбавання з указаннем на недахопы.* За што ж ета Пятрок пулучаў загу́ну, я дык ужо нешта і ня помню. *Зак.* **Палучыць загуну.** Вы ўжо другей раз пулучы́лі загу́ну ў Пракопа. *Гл.* Д а в а ц ь з а г у н у.

**Палучаць** (заслужываць, выслужываць) **ласку** (міласць), *іран. Дабівацца спагадлівых адносін.* Ай, пулучáла іна лáску і зрáзу, і пазьней, як ні було жызьні, так і ні було. Я вíджу, якую ты мíлысьць ац свайго пулучáіш. Нада ўзноў табе заслýжывыць ласку. Во табе, пычаў ласку выслужывыць у Зыхарёнка. Ты ўжо ці ня трецьцій узяўся выслужывыць мілысьць. *Зак.* **Палучыць** (заслужыць, выслужыць) **ласку** (міласць). Палýчыш ласку пыц стáрысьць, кылі так будзіш волю дываць. Пулучыý мілысьць адзь зя́ця: крыіць мыціріком. Я зуслужы́ла ласку, і ты ета самыя вы́служыш. Яны зуслужылі мілысьць, пулучылі вы́гыды. Ён ня тэй чылавек, у якога можна вы́служыць ласку. Стыряўся дваццыць гадоў, дык во вы́служыў мілысьць.

**Палучаць здачы.** *У адказ на лаянку, біццё мець тое ж.* Усігдá ты пулучáў здáчы, што луччы некуды, табе большы пупыдáла. *Зак.* **Палучыць здачы.** Рыпалёнык хлёсткій, у яго здачы палýчыш, ён дужа ні стáніць угывáрівыць. *Гл.* Д а в а ц ь з д а ч ы.

**Палучаць лупку** (лупцоўку). *Быць адсцябаным моцна і сур'ёзна.* Мае, калі нада, пулучáюць лýпку, я на іх дужа ні малю́ся. Табе дык ба і стыдна було пулучаць лупцоўку. *Зак.* **Палучыць лупку** (лупцоўку). Табе пулучы́ць лýпку саўсім проста. Лупцоўку пулучыў і пыцішэў. *Гл.* Д а в а ц ь л у п к у.

**Палучаць на арэхі** (па карку, шыі, загрыўку, у каршэнь), *іран. Быць значна пакараным.* Успомні-ка, німала і сам пулучáў ны арехі. Ат каго вы толька ні пулучалі пы кáрку. Ці смáшна сымамý пулучаць па шы́і? Самому пулучаць пы загріўку дык ні нырáвіцца. Успомніця, як умесьці пулучалі ў каршэнь. *Зак.* **Палучыць на арэхі** (па карку, шыі, загрыўку, у каршэнь). Пулучы́лі раз ны арехі і яшчэ будзіць. Тута ты можыш мíгым пулучыць пы кáрку. Яны тама ўсе пулучылі па шыі крепка. Ня ўнíміцца — палýчыць пы загрíўку. У каршэнь пулучы́ць — палýчыць, ета скора будзіць. *Гл.* Б у д з е ц ь н а а р э х і; Д а в а ц ь п а ш ы і.

**Палучаць па зубах** (у зубы), *груб. Быць пабітым.* Кылі нырáвіцца пулучáць пу зубáх, дык цярьпіця, чорт вас бярі. Во ці раз ён пулучаў у зубы. *Зак.* **Палучыць па зубах** (у зубы). Палýчыш пу зубах, тады нáўчысься ні

ла́зіць, куды ня просюць. У мяне скора палу́чыш у зубы, я табе ні дзіцёнычык якей-небудзь. *Гл.* Даваць па зубах.

**Палучаць па руках.** *Мець рашучы адпор.* Ён пулучаіць пу рука́х, толька мала, нада було б большы. *Зак.* **Палучыць па руках.** Сам знаіш, за што ён пу руках пулучы́ў, а ты ду́мыў, схадзі́ць усё так будзіць. *Гл.* Даваць па руках.

**Палучаць па шапке.** 1. *Быць пабітым.* Ат Лівынят ты ча́ста пулуча́ў пы ша́пкі. 2. *Быць прагнаным (з пасады).* Ні хацеў зь людзямі як чылавек апхадзі́цца, пулуча́й пы шапкі. *Зак.* **Палучыць па шапке** 1. Палу́чыш пы шапкі — і айдзе тваё адурюва́ньня дзеніцца. 2. Наш дырза́ўся, пулучыў пы шапкі, хва́ціць с такім ца́цкыцца. *Гл.* Даваць па шапкі.

**Палучаць раскрутку** (разгон). *Выслухоўваць лаянку.* Ты часьценька раскру́тку пулуча́іш зы сваё дура́чыньня. За што ён пулучаіць разгон, нешта ты пріду́мывыіш. *Зак.* **Палучыць раскрутку** (разгон). Палу́чыця вы ў мяне раскру́тку, ой, палучыця. Ла́дна разгон пулучы́лі, ажно самі дзіві́ліся, як ляцелі. *Гл.* Даваць раскрутку.

**Палучаць праборку** (наганяй, нахлабучку). *Выслухоўваць строгую натацыю, унушэнне.* Ні хацеў слу́хыць, як усе,— пулуча́й праборку. Прі Гашкі часценька пулуча́лі ныгыня́й. Што йта ныхлабу́чку пулуча́іць, яму другоя нада. *Зак.* **Палучыць праборку** (наганяй, нахлабучку). Крепкыю праборку пулучы́ў, ла́дна красьнеў. Сьпірва́ я пыгыня́ў як нада, а тады ац стыршыны́ пулучы́лі ныгыня́й. Палу́чыш ты ныхлабучку, так табе ня пройдзіць нізашто. *Гл.* Даваць праборку.

**Палучаць у косці** (па касцях), *іран.* *Быць пабітым.* Часта ў косьці пулуча́ў, нечыга аткáзывыцца. Як ба́лыіцца, дык пулуча́іць пы кысьця́х. *Зак.* **Палучыць у косці** (па касцях). Пулучы́ў у косьці і сядзі́, пакуля яшчэ ні дыба́вілі. Пы кысьця́х палу́чыця і ўвесь вам рызгавор бу́дзіць. *Гл.* Даваць у косці.

**Пальцам не шаваліць** (не шавяліць), *неадабр.* Не рабіць ніякіх намаганняў. Столька работы са ўсіх бакоў, а ён і па́льцым ні шаволіць. Што йта вы дайжа пальцым ні шавеліця і ні пра што ня ду́мыіця. **Пальцам шаваліць**

(шавяліць). Дужа яны шаволюць пальцым, ім толька есьць сма́шна дыва́й. Шывялілі яны пальцым і двумя па́льцымі. *Зак.* **Пальцам не пашаваліць** (не пашавяліць). Я скыза́ла прібра́ць усё, дык пальцым ні пышываліў. Ніхай гарі́ць дзела, пальцым дайжа ні пышавеліць. **Пальцам пашаваліць** (пашавяліць). Пышаволіць твой кум пальцам, пынадзейся. Ду́мыіш, ён пальцым пышавеліць паможч у чом-небудзь. *Аднакр.* **Пальцам не шавальнуць** (не шавяльнуць). Калі пріту́ркыіш — прітуркыіш, а сам пальцым ні шывальнець. За столька ўремя пальцым ні шывяльну́лі. **Пальцам шавальнуць** (шавяльнуць). Ніхай ба хуць па́льцым шывальну́ў што зьдзелыць, ня відна, што мушчына ў ха́ці. Пріжджэш, шывяльнець ён табе пальцым.

**Пальца не ўшчаміць.** *Пра вялікую цеснату.* Ня йдзі́ця вы, тама па́льца ня ўшчэміш. Ікая вічарі́нка, кылі пальца ні ўшчаміць.

**Пальца** (палец) **ў рот не кладзі** (не лажы). *Пра неабходнасць быць асцярожным.* Ён такей, што па́льца ў рот ні кладзі́. Ціхінькій, ціхінькій, ну пальца ў рот ні лажы́. Ім паліц у рот ні кладзі, з рукою атку́сюць.

**Пальца ўшчаміць нейдзе** (няма айдзе, некуды, няма куды). *Пра вялікую цеснату.* Ай-я-яй, якей быза́р, па́льца ўшчамі́ць нейдзі. Пальца ўшчаміць німа айдзе, а яны ўсё лезуць і лезуць. Людзей набу́рхылыся, што пальца ўшчаміць некуды. Чаго нам туды лезьць, там пальца ўшчаміць німа куды. *Гл.* П а л ь ц а   н е   ў ш ч а м і ц ь.

**Палягчэць** (палягчаць) **на душэ** (серцы). *Зрабіцца спакайней.* Ніхай яны бяру́ць, што ім хочыцца, можа ў іх пыляхчэіць ну душэ. Во рыскыза́ла ты мне, што тама ўсё хырашо, дык і на серцы неік пыляхчэла. Ай, ач чаго яно пыліхча́іць ну душэ. Цяперь у цябе пыліхча́іць на серцы, дабі́ўся, чаго хацеў.

**Памагай** (памагі) **бог!** *Пажаданне поспехаў у працы.* Ідзець і яшчэ зда́ліку «Пымыга́й бог!» крічы́ць. Пымыгай бог! — Спасіба. Пымыгай бог! — Вялеў бог, каб і ты памог. «Пымагі бог!», а сам брацца ня хочыць.

**Па маленькай**. *Крыху, пакрысе (выпіць).* Ра́дзі пра́зьніка і пы ма́лінькый ні міша́ла б. Дывай-ка ты зьдзелыім пы малінькый.

**Па мелачы,** *адз., мн. Невялікай колькасцю, невялікімі сумамі.* Нічога там ні було, па мелычы трошку ўзялі. Што тут па мелычых раськідывыцца, дывай усё зразу. Ні нада вам і трогыцца пы мілычах, нічога тут путнога німа.

**Па меншай меры.** *Не менш чым.* Тут нада па меншый мері цэлый дзень буйтувацца. Па меншый мері дзесіць машын зямлі убухыюць сюда, еткыю ямішчу засыпыць дасца ім.

**Паміж** (між) **дзелам.** *Урыўкамі, не затрачваючы асноўнага часу.* Другея, срошныя работы пыдваліла, а гряды ні біда, і паміж дзелым выпылім. Між дзелым выбірьця як урємя дый піріпіліця, вам ны час зыняція тога. *Гл.* Между дзелам.

**Паміж** (між) **жызню і смерцю.** *У стане сур'ёзнай небяспекі для жыцця.* Ляжыць паміж жызьню і сьмерцю, гаріць увесь, ці пірінясець, ні знаю. Цэлыю нядзелю быў між жызьню і сьмерцю, чуць выкырыбкыўся.

**Па міласці** [чыёй, каго], *іран. Па віне.* Пы тваёй мілысьці бізь яблык я сёліта, ты ж навёў тых гаўрікыў. Па Грішыный мілысьці вы біс каровы асталіся, во табе й брат. Па мілысьці Йвана мы тут зыстрялі. Палучыця пы яго мілысьці, будзіць палучына.

**Памінай як звалі.** *Пра знікненне, гібель, страту.* Пымінай як звалі твой склыданчык. Паехыў, выпусьцілі з рук, дык пымінайця як звалі. Быў чылавек і пымінай як звалі, німа.

**Памінаць** (успамінаць) **дабром** (добрым словам). *Добра, з удзячнасцю гаварыць (пра каго-н).* Нійдзе цябе, чылавек, ня будуць дабром пымінаць. Калі паехыў, а ўсё пымінаюць добрым словым. Есьлі заслужыць, дык будуць дабром успымінаць. Ці ўспымінаіць іх хуць адзін чылавек добрым словым. *Зак.* **Памянуць** (успамянуць, успомніць) **дабром** (добрым словам). Во, хуць вы пымянулі дабром Ільлю. Чорт іх нейкій пымянець добрым словым. За што іх успымянуць дабром? Каб успымянулі добрым словым, нада чылавекым быць. Ня дужа хто такога халеру успомніць дабром. І Высіля вы ўспомнілі добрым словым, ён пры вас ні разу ні зубуваў.

**Па мне.** *З майго пункту гледжання, у адносінах мяне.* Па мне дык ці паедзіць, ці ні паедзіць, саўсім адзінáкыва. Па мне хуць і пызадýшуцца ніхай, я плáкыць ні стáну.

**Па моладасці** (маладосці). *З-за нявопытнасці.* Іна так па молыдысьці скызáла ні падýмыўшы. Ну што ж кылі пы мыладосьці і ні так што зьдзелылі, навýчуцца.

**Памыць і абдаць,** *іран. Дагледзець.* Ат яго дажджэсься лáскі, памыіць і абдáсьць. Памы́іць? — Памыіць. Хочыш і абдасьць.

**Памяці шукаць** (іскаць, спрашываць), *неадабр. Займацца бескарыснай і бессэнсоўнай справай, дабівацца, што ўжо ёсць або існавала раней.* Чаго вам у такую даль плесца, пáміці шукáць? Паміці íшчыць ён на той Зьмітракоўшчыні. Што ты паміці спрáшыіш, ты ж урáньні пытхадзіў і зыбірáў вожкі, айдзе ты іх дзеў.

**Памяць** (галава) **не адсохла,** *іран. Пра хітруна, які прыкідваецца прасцяком.* Пáміць ні ацсохла, знаіць, што дзелыіць. Ета хітрец такей, гылывá ні ацсохла, любога піріхітрíць. **Памяць** (галава) **адсохла,** *пр., буд.* Ага, глядзí, што ні пынімáіць, паміць яму ацсохла. Гылыва ім ацсохла, куды йціць. Ацсохніць такому гылыва, ён табе ў мышы́ныю дзірьку улезіць.

**Па наводу.** *У адпаведнасці са спецыяльнай зламыснай падказкай.* Зрáзу відна, што дзействывылі пы наводу, пыткызáў нехта, хто хырашо ўсё тут знаіць. У нас на хýтырі пы наводу хацелі раз вы́цігнуць сáла с клеці.

**Па нраву** (нараву). *Да спадобы.* Калі пы нрáву адзін другому, то жыць будуць. Яму пы нырáву, ды маткі нешта ні пу душэ: ня с тога роду.

**Панурыць** (унурыць) **галаву.** *Засумаваць вельмі моцна.* Тут была, дык чуць ні гнаў, а як паехыла, панýріў гылавý. Унýріў гылаву і ходзіць як сам ня свой. *Гл.* Апускаць галаву.

**Паняць моду** (манеру, манер), *звыч. неадабр. Пачаць рабіць часта, сістэматычна.* Пыня́лі моду на речкі бáлывацца, учора чуць ні пытапілі адзін аднаго. Чаго йта вы пынялí манеру гря́ды выцірáць? Пынілá карова манер у клевір, чуць ня зглядзілі, і луманець па сеіныму. *Гл.* Браць моду.

**Пападаць на сёмае неба,** *запаз. Радавацца бязмежна.* Ты яму рыска́зывый пры Аўдотычкіну, ён тады пупыда́іць на сёмыя неба. *Зак.* **Папасць на сёмае неба.** Вы дык пря́ма на сёмыя неба пупа́лі, як пагледзілі ры́лыўцыў. Віджу, січас пупадуць на сёмыя неба, чаго йта, думыю, а ета яны пачулі, што шумінічані йдуць.

**Пападаць пальцам у неба,** *іран. Выказвацца недарэчы.* Ты ўсігда пупыда́іш па́льцым у неба, што ні ска́жыш. *Зак.* **Папасць пальцам у неба.** Ікраз пупа́ў пальцым у неба,— тут нада саўсім зу другоя бра́цца.

**Пападаць** (пападацца) [к чорту] **на ражон.** *Апынацца ў непрыемным становішчы.* А дужа мне ахота быльша́я пупыда́ць ны ражон. Ці ён хацеў пупыдаць к чорту ны ражон. Сколька раз яны пупыда́ліся ны ражон. Хуць яшчэ ты ні пупыда́йся к чорту ны ражон. *Зак.* **Папасць** (папасца) [к чорту] **на ражон.** Пупадзеш ны ражон, ну я цябе выця́гывыць ня бу́ду. Пупа́лі к чорту ны ражон, як вы́скрісца, ні знаюць. Пупыдзіцёся ны ражон — самі як хочыця выкру́чывыйціся. Пупа́ўся к чорту ны ражон, ніcма́шна стала. *Парайн.* Лезць на ражон.

**Пападаць** (пападацца) **к чорту на рогі** (у зубы). *Апынацца ў непрыемным становішчы.* Ні нада було пупыда́ць к чорту на рогі. Ты пупыда́ўся к чорту ў зу́бы, ну жысць мала цябе наўчы́ла *Зак.* **Папасць** (папасца) **к чорту на рогі** (у зубы). Будзь астарожын, там ня доўга пупа́сць к чорту на рогі. Во і пупа́ў к чорту ў зу́бы. Пупа́ліся к чорту на рогі — і ніхай, на іх даўно нада была піралома хуць ікая. *Парайн.* Лезць к чорту на рогі.

**Пападаць** (пападацца) **на вока.** *Прыкмячацца, заўважацца.* Што яму пупыда́іць на вока, ён ні міна́іць. Ці ні пупыда́ліся табе на вока айдзе пытхыдзя́шчыя боты, каб крепкія, носкія. *Зак.* **Папасць** (папасца) **на вока.** Есьлі пупа́ла на вока Максіму, пішы́ прыпа́ла. Ня ўпу́сьціць, раз пупа́лыся на вока.

**Пападаць** (пападацца) **на вочы.** *Выпадкова аказвацца ў полі зроку.* Ці вам ніїдзе ні пупыда́ў на вочы Брындзянок? Як ны быза́р пайду, ён мне і пупыда́іцца на вочы. *Зак.* **Папасць** (папасца) **на вочы.** Во хырашо, што ты мне пупа́ў на вочы, усё я хацеў рыспрасі́ць пры

Мацьвеіўну. Як пупадзецца на вочы, ска́жыш, каб абіза́цільна забег калі ка мне.

**Пападаць** (пападацца) **на зуб.** *Рабіцца мішэнню для насмешак.* Ты яшчэ ні пупыда́ў на зуб к Праскоўі. Толька к тым чырця́м ні пупыда́йся на зуб, яны цябе рыздраконюць. *Зак.* **Папасць** (папасца) **на зуб.** Раз пупаў на зуб, то доўга зь ізыкоў ня спу́сьцюць. Цяперя вы пупа́ліся на зуб, нічаму ні ра́ды бу́дзіця.

**Пападаць** (пападацца) **на карандаш,** *жарт. Аказвацца запісаным.* А чаго ж табе пупыда́ць ны кырында́ш було? Ці помніш, як ты пупыда́ўся ны кырындаш? *Зак.* **Папасць** (папасца) **на карандаш.** Я знаю, за што ты пупаў ны кырындаш. Сядзі́ ды маўчы́ — ні пік, ато пупадзесься ны кырындаш. *Гл.* Б р а ц ь н а к а р а н д а ш.

**Пападаць** (пападацца) **на язык.** *Рабіцца прадметам абгавораў, плётак.* Каму захочыцца пупыда́ць на язы́к такой лыскату́хі. Вы ўжо летыся пупыда́ліся к ім ны язык. *Зак.* **Папасць** (папасца) **на язык.** Пупа́лі ны язык, доўга будуць мусоліць. Яны вас аптреплюць ні знаю як, толька пупадзі́ціся к ім ны язык.

**Пападаць** (пападацца) **у гісторыю.** *Аказвацца замешаным у незвычайнай, часта ганебнай справе.* Вы часта пупыда́лі ў гісторію. У якея тольна гісторіі вы ні пупыдалі. О, каб вы пупыда́ліся так у гісторію, як мы. *Зак.* **Папасць** (папасца) **у гісторыю.** Зь імі дзяржы́ ву́ха войстра, можыш пупасьць у гісторію, што год будуць сьмія́цца. Я ні хачу так пупа́сца ў гісторію, як твае сродзічы.

**Пападаць** (пападацца) **у крэпкія** (надзёжныя) **рукі,** *гумар. Аказвацца пад моцным уплывам, у падпарадкаванні.* Ета ні пупыда́ў ты ў крепкія ру́кі, ато б цябе вы́муштрывылі. Калі ня хочыш пупыдацца ў крепкія рукі, дык едзь. Там ёсьць каму дзіржа́ць, тольна ён ні пупыда́іцца ў надзёжныя рукі. *Зак.* **Папасць** (папасца) **у крэпкія** (надзёжныя) **рукі.** Каб пупа́ў у крепкія рукі, зь яго б чылавек пулучы́ўся, а так што? — нічога. У надзёжныя рукі пупалі, кончылися іх ба́лыўства. Пупаўся ў крепкія рукі, спу́ску яму там ня будзіць. У Мархвы пупадзесься ў надзёжныя рукі, іна с табою дужа чы́кыцца ні станіць і ўгыва́рівыць дужа ня будзіць.

**Пападаць** (пападацца) **у лавушку** (сеці). *Дапускаць перахітрыць сябе, аказацца падманутым.* А ты часта ў лаўшку пупыдаў, чаго там апраўдывыцца. Во відзіш, як пупыдаць к яму ў лавушку. Ён жа нарошня пацстроіў, а вы пупыдаіця ў сеці. Ці наўчыліся чаму-небудзь, ці ўсё яшчэ пупыдаіця ў сеці? Нашто ж було пупыдацца ў лавушку? Ні пупыдайся хуць цяперя ў сеці, ён сьпіцыяльна ўсё строіць. Пупыдаў у сеці, што выранёнык якей. *Зак.* **Папасць** (папасца) **у лавушку** (сеці). Табе пупасца ў лавушку ляхчэй лёхкыга. Пупалі ў лавушку пы сваёй дурысьці. Пупыдзіцё ў сеці, дык самі выскрібайціся. Чаго ж ты пупаў у сеці, як бізгаловый якей? Вы й другей раз можыця пупасца ў лавушку. Ежылі ня хочыш пупасца ў лавушку, дык думый, на што ідзеш. Як жа вы лоўка пупаліся ў сеці, каб і хацеў, дык так ні прідумыіш. Можыш пупасца ў сеці, яны пыдгатуюць. *Парайн.* Лавіць на вудачку.

**Пападаць** (пападацца) **у лапы,** *гумар. Аказвацца ў падпарадкаванні.* Ты летыся пупыдаў у лапы, пупадзесься і сёліта. Штоб большы ў лапы к ім ні пупыдаўся. *Зак.* **Папасць** (папасца) **у лапы.** Пупаў у лапы, ні знаіць, як вылізьць. Пупыдзіцёся ў лапы — ні пішчыця, я ні пыбягу вас рітуваць.

**Пападаць** (пападацца) **у пераплёт** (перадзелку). *Аказвацца ў складаным становішчы.* Сколька ты разоў пупыдаў у піряплёт. Ніхай рыскажыць, як у пірядзелку пупыдаў. У якея ён толька пірядзелкі ні пупыдаў! Сколька ні пупыдаўся у піряплёт, ну неік выкручывыўся. Часта пупыдаўся ў пірядзелку. *Зак.* **Папасць** (папасца) **у пераплёт** (перадзелку). На етый раз Васіль крепка пупаў у піряплёт. Пупалі ў пірядзелку, хваціла ім. Пупаліся ў піряплёт, што ні знаюць, як выкруціцца. Вы йшчэ пупыдзіцёся ў пірядзелку, ні мініцё свайго.

**Пападаць** (пападацца) **упрасак.** *Аказвацца ў няёмкім, смешным становішчы.* Куды ня сунуцца, пупыдаюць упрысак. А ці помніш, як ён пупыдаўся ўпрысак сь сеным. *Зак.* **Папасць** (папасца) **упрасак.** Яму пупасьць упрысак, што раз плюнуць. Пупаліся ўпрысак у Лырьяныві, нысьміяліся зь іх.

**Пападаць** (пападацца) **у рот,** *жарт. Рабіцца прадметам абгаворай, плётак.* А чаго ж ты пупыдаў у рот такой бряхлівый? Ні нада пупыдацца ў рот, калі ня хо-

чыш, каб гываріілі. *Зак.* **Папасць** (папасца) **у рот.** Раз у рот пу́паў г Гапкі, доўга будзіць пірімува́ць костычкі. Многа ні нада, два словы скажы́ і пупа́ўся ў рот.

**Пападаць** (пападацца) **у рукі.** *Аказвацца ў падпарадкаванні, ва ўладзе.* Я ні хацеў ба пупыдаць к ім у ру́кі. К такім чырця́м пупыда́цца ў рукі — ета плахоя дзела. *Зак.* **Папасць** (папасца) **у рукі.** Ніхай ска́жыць сла́ва богу, што ні пупаў к нам у рукі. Пупа́ліся ў рукі, цяперь ня вы́круціціся. Ён цябе пра́ўчыць, як пупадзесься ў рукі.

**Пападаць** (пападацца) **у яжовыя рукавіцы,** *запаз. Аказвацца ў вялікай строгасці.* Мала ты пупыда́ў у яжовыя рукаві́цы. Ні хацелыся б пупыда́цца ў яжовыя рукавіцы, як Міцю. *Зак.* **Папасць** (папасца) **у яжовыя рукавіцы.** Пупаў у яжовыя рукавіцы, сядзі́ць і ня пікніць. Пупадуцца ў яжовыя рукавіцы, пызна́юць смак зяцёвыга хлеба.

**Пападаць у** [самую] **точку,** *часта іран. Рабіць, гаварыць вельмі правільна.* Відзіш, як ён пупыда́іць у точку: Лешчынка ў яго зы Пірядніным пулуча́іцца. Наўчы́ўся пупыдаць у са́мыю точку, што ні ска́жыць, як у сук улепіць. *Зак.* **Папасць у** [самую] **точку.** Пупаў ікра́з у точку, па-твойму й выйшла. Як ска́жыць — пупадзець у самыю точку.

**Пападаць у тупік.** *Аказвацца ў безвыходным становішчы.* Ці вы ўжо забы́лі, як пупыда́лі ў ту́пік, мы вас выруча́лі. *Зак.* **Папасць у тупік.** Пупалі ў тупік, што ніякыга вы́хыду ня відзім.

**Пападаць у чэсць** (ласку), *звыч. іран. Заслугоўваць пашану, асаблівую ўвагу.* Большы ўсяго ты пупыда́ў у чэсьць к Ахрямёнку. Каторый ты раз пупыда́іш у ла́ску? *Зак.* **Папасць у чэсць** (ласку). Пупа́лі за нешта ў чэсьць, чу́іш, як прыздрыўля́іць. У іх нядоўга пупа́сьць у ласку, раз-два і гатова, усё пойдзіць як па-пісыныму.

**Па пальцах перасчытаць.** *Зусім проста, без усякіх цяжкасцей назваць.* У іхный дзяреўні хлопцыў аста́лыся — можна пы па́льцых пірішчыта́ць. Пы пальцых ба пірішчытаў, што цэлыга аста́лыся ў нас посьлі немцыў.

**Па памяці.** *Не звяртаючыся да тэкста.* Чэшыць пы па́міці, што ты чыта́ўшы ні прычыта́іш. Во такія во сьцішкі пы паміці рыска́зыіць.

**Па первае чысло.** *У дастатковай меры.* Ты ў мяне палу́чыш па первыя чысло. Як усы́плю па первыя чысло, бу́дзіць табе і паезд і рысплá́т зрá́зу.

**Па первасці.** *Спачатку, у самым пачатку.* Па первысьці Іван дужа за ёю гыня́ўся, а посьлі як атрезыла. Па первысьці пыжылí нічога, а тады пашло ўкріў і ўкось, пулумá́лыся, рызыíжджá́ліся, зыіжджá́ліся, пакуля рызьвялíся.

**Па первую связь,** *адзінк. Досыць значна.* Ім усім пупала тамыцька па первыю сьвязь.

**Па плячу.** *Даступна, па сіле.* Зьмітраку любоя дзела пы плячу́, ён дужа харошый мá́сьцір. Нам пы плячу і цілівíзыры, а во ты купí гу́льма гуля́ўшы. *Парайн.* Не па плячу.

**Папомніш маё слова,** *адз., мн. Запэўненне ў непазбежнасці здзяйснення сказанага.* Папомніш маё слова, што ета лá́вычка дабром ня кончыцца. Як зьезьдзіш дырмá́, тады папомніш маё слова. Папомніця маё слова, калі будзіця пяшком бежч ац самыя Бедні.

**Па праўдзе гавара.** *Адкрыта, не таячыся.* Пы прá́ўдзі гывыря́ мне дужа ні хацелыся іціць туды. Я па праўдзі гывыря і памог ба, дык жа ўзноў скá́жуць: ходзіць, ходзіць.

**Па п'янай лавачке.** *З прычыны ап'янення.* Па п'я́ный лá́вычкі могуць што хочыш утварíць. Кунюшэнка быў спу́шчыный, ну пы п'яный лá́вычкі і зыгнá́лі. Пыцягну́ліся пы п'яный лавычкі нечыга за Сож, нá́йдуць прічы́ну.

**Па пятае калена.** *Вельмі доўгі час.* Пы пя́тыя калена такія злаўредзіны будуць мсьціць.

**Па пятах.** *Не адстаючы, усюды.* Цігá́іцца ўсьлед пы пітá́х, куды я, туды й ён січас. Доўга хадзіў пы пітах, з год праходу ні дываў нійдзе.

**Пара** (нада) **і совесць знаць.** *Час скончыць, спыніць што-н., пайсці адкуль-н.* Пысядзелі, пыгыманíлі, а цяперя пырá́ і совісьць знаць. Пыра і совісьць знаць, пойдзім. Ну што, нада й совісцъ знаць, ныдаелі людзям, пыпляцёмся.

**Пара пусцякоў.** *Пра прастату выканання.* Мне любоя дзела — пара пусьцякоў, за што вазьму́ся, тоя й зьдзелыю. Аборычык збры́нкыць — пара пусьцякоў. Зь яго сілыю вы́кыпыць погріб — пара пусьцякоў, а з маім здароўім доўга будзіш вылаводзіцца.

**Пароць гарачку,** *неадабр. Спяшацца неабдумана ў справах.* Чаго табе пароць гыря́чку, ці цябе хто у шы́вырыт гоніць. *Зак.* **Спароць гарачку.** Каб ні спароў гырячку, можна було карову-карову купіць, ня етый вірста́. *Непаўн.* **Папароць гарачку.** Быў пыпароў гырячку, ду́мыў, ны ара́па возьміць. *Законч.* **Адпароць гарачку.** А, атпоріць гырячку, успакоіцца і пірістá́ніць гырячы́цца. *Працягл.-фінальн.* **Напароць** (дапароць) **гарачку.** Напоріш гырячку, што ўскочыш у якоя-небудзь пекла. Ну, дыпаролі гырячку, уві́дзілі, к чаму ета пріводзіць.

**Пароць чапуху** (ярунду, чуш, лухту, лухту непадсяваную, мох з балота), *неадабр. Гаварыць пустое.* Прівы́к во й прівы́к пароць чупуху́. Каб ты меншы пароў ірунду́, куды б лу́ччы було. А ні пары́ ты чуш, ніхто там ні хадзіў, нікога там ні було. Поріця вы лухту́ ніізьвесна нашто. Прішоў, расьсеўся і дывай пароць лухту ніпыцьсіва́ныю. Зыня́ція іх адно — мох з балота пароць. *Зак.* **Спароць чапуху** (ярунду, чуш, лухту, лухту непадсяваную, мох з балота). Нехта спароў чупуху, а яны й верюць. Доўга твайму Ляксею ірунду́ спароць. Нарошня спаролі чуш, каб пыдражні́ць іх. Хто ж кромі твайго бра́та ету лухту можыць спароць. Доўга табе лухту ніпыцьсіва́ныю спароць? Каб хто хацеў мох з балота спароць так, дык ты ета паспробый пріду́мыць. *Працягл.-фінальн.* **Напароць** (дапароць) **чапуху** (ярунду, чуш, лухту, лухту непадсяваную, мох з балота). Напоріць чупуху, што абла́юць. Ныпароў ірунду, як яго хто зваў сюда з ба́сьнімі. Пріпрецца, напоріць чуш. Што ён харошыя ска́жыць, лухту́ напароў. Напоріць лухты ніпыцьсіва́ныя, во і ўвесь рызгавор будзіць. Моху з балота ныпароў і пывалокся. Дапоріць чупуху, што я путурю́ яго. Дыпароў ірунду, што слу́хыць ні зыхацелі. У нас ба дыпароў ету чуш, мы б яго прыздра́вілі. Ну й дапоріш лухту, пыкачу́ я цябе. Дыпарола лухту ніпыцьсіваныю, пірістá́лі ў ха́ту пуска́ць. Дапоріця вы мох з балота, дождж хля́ніць — бу́дзіця глядзець тады разі́нуўшы рот, во што палу́чыцца с трілюдыю.

**Парыць зямлю,** *узвыш. Ляжаць у магіле.* А ўжо сколька йта, ці ня трецьцій год па́ріць зямлю. *Працягл.* **Напарыцца зямлі.** Васіль ужо ныпа́ріўся зямлі, ляжы́ць, верна, і костычкі рыссы́пыліся.

**Па-сабаччы** (па сабацы) **з рота скачыць,** *асудж. Пра частае ўжыванне лаянкавых слоў.* Хто яго слу́хыць ста́ніць, у яго пы-сыба́ччы з рота ска́чыць ны ка́жным слові. Раншы, бува́ла, нікомі́ньку ні згрубі́ць, а цяперя пысыбаччы з рота скачыць. Паслу́хый, як у твайго ста́ршыга пы сыба́цы з рота скачыць.

**Па сабе.** *Па свайму густу, звычках.* Усё хочыць пыдыбра́ць пы сабе. Доўга пріню́хывыўся, пакуля вы́брыў пы сабе. Ці пады́йшчыш ты пы сабе дзеўку? *Парайн.* Не па сабе.

**Пасаліўшы можна есць,** *жарт. Пра абмежаваную прыгоднасць.* Нічога, бярі́, пысалі́ўшы можна есьць.

**Па** [самыя] **вушы.** 1. *Звыш усякай меры, увесь чыста.* Мокрыя па ву́шы пріцягну́ліся. Зразу успы́хнуў, па ву́шы красный стаў. Сядзі́ць па вушы ў дыўга́х. Даўгоў па вушы, ні знаю, калі я зь іх вы́лізу. Ухлю́пыўся пы са́мыя вушы. 2. *Вельмі моцна, бязмежна.* У нечыю ўклі-па́ўся па вушы, прыпыда́іць у тых Сьлёзкых. У чыю-то каробчынскыю укліпа́ўся пы самыя вушы. 3. *Вельмі многа.* Уся́кыга громызду па вушы.

**Па свежых слядах,** *рэдка адз. Адразу ж, без затрымкі.* Па сьвежых сьліда́х спра́шывый, скарей чаго даб'есься. Па сьвежых сьлідах рыспрасі́лі, дык найшлі́. Пріехыў па сьвежыму сьледу, іна агледзіцца ні пасьпела.

**Пасвіць сабак,** *груб. Бяздзейнічаць.* Ізьвесна, айдзе твой Жэнька, узноў пасьвіць сыбак атпра́віўся. *Непайн.* **Папасвіць сабак.** Пыпасець сыбак ды ўзноў пыд'я́віцца, нійдзе ня дзеніцца. *Працягл.* **Прапасвіць сабак.** Столька ўремя прыпа́сьвіў сыбак, дык ніхай і йдзець туды, айдзе быў, а я яго карм́іць ня буду. *Законч.* **Адпасвіць сабак.** Ну, атпа́сьвіў сыбак, можа цяперь за розум хуць трошку возьмісься. *Працягл.-фінальн.* **Напасвіць** (дапасвіць) **сабак.** Ныпа́сьвіў сыбак, сыгла́сін ба вярну́цца, каб у хату пусьці́ла. Дыпасець сыбак, хва́ціцца калі-небудзь і пры сям'ю ўзду́мыіць.

**Па серцу.** *Да спадобы.* Калі па серцу, ніхай бярэць, яму жыць, а ні нам. Ці выбіріць калі-небудзь сабе па серцу? *Параўн.* Не па серцу.

**Па сіле.** *У адпаведнасці з фізічнымі магчымасцямі.* Каб якую лёхкыю работу па сілі, я ўзяўся б. *Параўн.* Не па сіле.

**Паследній час.** *Апошнія хвіліны жыцця.* Як прідзіць пасьледній час, тады нічога ні нада станіць. Скора мой пасьледній час, куды ўжо мне дыхыць, кылі ні пышываліцца, ні пувурухнуцца.

**Паследнім дзяліцца.** *Быць спагадлівым, чулым, ахвотна прыходзіць на дапамогу ў бядзе, горы.* Дужа й турува́тыя і жа́лысьлівыя, усігда́ пасьледнім дзеліцца. *Зак.* **Паследнім падзяліцца.** Што ні пыпрасі, пасьледнім падзеліцца. *Працягл.-фінальн.* **Паследнім надзяліцца.** Надзеліцца ён пасьледнім, толька пынадзейся: перць бу́дзіць з горла, дык нічога ні дасьць.

**Паследнім куском** (паследняю крошкаю) **дзяліцца.** *Быць спагадлівым, чулым, ахвотна дапамагаць пры нястачы ў харчаванні.* Варка зь імі ўсё ўремя пасьледнім куском дзялі́лыся. Пасьледнію крошкыю ўсігда дзеліцца сы сваі́мі, ні кіда́іць іх. *Зак.* **Паследнім куском** (паследняю крошкаю) **падзяліцца**. Увідзіць, у чылавека німа — пасьледнім куском падзеліцца. Ты б так ні пыдзялі́лыся пасьледнію крошкыю, як Хведзька. *Працягл.-фінальн.* **Паследнім куском** (паследняю крошкаю) **надзяліцца.** Такей жа́дзіна надзеліцца пасьледнім куском, дажджэсься. Многа ныдзялі́лыся пасьледнію крошкыю: якея тря́пкі былі, сыгрібла́ ды ў Крічыў.

**Паследняе дзела.** *Ганебны занятак, з'ява.* Хадзі́ць, зы сваё ка́нькыць — ета, я шчытаю, пасьледнія дзела. Кылі мужы́к біс пуця́, тады ета пасьледнія дзела.

**Паследняе слова.** *Заключнае выказванне.* Далі яму пасьледнія слова, і ні зна́іць, што гывары́ць. Якоя ж будзіць тваё пасьледнія слова?

**Паследняя спіца ў калясе,** *абраж.* *Асоба, якая не мае ніякага ўплыву, значэння.* Твой Стыхван та́мыцька пасьледнія сьпіца ў кылясе. Пасьледнія сьпіца ў кылясе, во якую роль ён у іх ігра́іць.

**Па слухах.** *З няпэўных размоў.* Па слу́хых там ужо ўсё дыгары ныга́мі пірівярну́лыся. Мала што па слухых, ты сам зьезьдзі ды пыглядзі́.

**Па случаю.** 1. *З прычыны.* Па слу́чыю сва́дзьбы мы ў іх пыбылі́, а так ба ці вы́брыліся. 2. *Выпадкова.* Купі́ў па случыю боты, харошыя, носкія і ня цісну́ць ні́йдзе.

**Па смерць** [толька] **пасылаць** (выпраўляць, адпраўляць), *неадабр. Пра пазольнасць у выкананні даручэння.* Цябе можна сьмела па сьмерць пысылаць, і тут зыкаісься. С такою хаднёю па сьмерць толька пысылаць асталыся. Мішку толька па сьмерць выпруўляць — ныжывесься, а кылі за хлебым, дык з голыду памреш. Па сьмерць вас атпрыўляць, а большы нікуды нілізя. *Зак.* **Па смерць** [толька] **паслаць** (выправіць, адправіць), *рэдкаўж.* Каб пыслаў па сьмерць, то прішлося б у бога здыхаты прасіць. Ільлю можна па сьмерць выпрывіць, ён ні пытаропіцца. Па сьмерць яго толька атправіш,— найдзіш ты зь ім толку якога. *Гл.* З а с м е р ц ю [толька] п а с ы л а ц ь.

**Па совесці гавара.** *Выказваючыся сумленна, праўдзіва.* Па совісьці гывыря́, ня ду́жа мне хочыцца йціць у тую Лешчынку. Па совісьці гывыря нічога я ім ні пымагу́.

**Па старай памяці.** *Пад уплывам успамінаў.* Дыва́йка пы ста́рый па́міці у Жыгалкі калі махнём.

**Пасылаць падальшы.** *Лаяць з мэтай пазбавіцца.* Ён дужа ня возіцца, пысыла́іць пыда́льшы іх. *Зак.* **Паслаць падальшы.** Пыча́лі та́ры ды ба́ры, дык пысла́ў усіх пыдальшы.

**Пасярод белага дня.** *Ува ўсіх на віду, адкрыта.* Ета ж нада, каб хто паду́мыў: пысярёд белыга дня ні стала пылаценца, усяе тру́бычкі.

**Патупіць вочы.** *Засаромецца і не глядзець.* Я што ні гывары́ла — с колым у глотку ня ўлезіш, а як Домна стала страмі́ць, пату́піў вочы. *Гл.* А п у с к а ц ь  в о ч ы.

**Па ўсёй форме,** *кніжн. Так, як трэба, як патрабуецца афіцыйна.* Ну як жа, яму нада дыкла́дывыць па ўсёй формі. Лю́біць, каб було зьдзелына па ўсёй формі.

**Па ўсіх правілах,** *кніжн., жарт. Так, як трэба.* Яны пычáлі па ўсіх прáвілых пуцступáцца. У цябе канешня палýчыцца па ўсіх правілых.

**Па ўсіх стаццях,** *кніжн., жарт. Ва ўсіх адносінах.* Анька, я віджу, падыйшлá табе па ўсіх стыцьцях. Пыдыбрáлыся пáра па ўсіх стыцьцях.

**Паўтара чалавека,** *гумар. Мізэрная колькасць асоб.* Столька іх там асталося, пуўтырá чылавека. Што йта зы работа, кылі прішло пуўтыра чылавека.

**Паўтары калекі,** *спагадл. Мізэрная колькасць асоб, пры тым фізічна слабых.* Астáлыся пуўтары́ калекі, хто там дужа ныработыіць. Людзей усіх — пыўтары калекі.

**Пахнуць дымам** (порахам). *Паказваць на небяспеку.* Відзюць, што пáхніць ды́мым, дык кінулі пірясýшывыцца. Як стала пахнуць порыхым, пыдня́лі тряхолья, зыкыпашы́ліся. *Пачын.* **Запахнуць дымам** (порахам). Па-мойму, длі яго ўжо крепка зыпáхла дымым. Калі зыпахніць порыхым, зразу выбірáйся. *Шматкр.-непаўн.* **Папахываць дымам** (порахам). Яны пыня́лі, што пыпáхывыіць дымым. Бірягіся, пыпахывыіць порыхым, нечыга доўга кыпашы́цца.

**Пахнуць жараным** (паленым, смаленым), *іран. Паказваць на блізкую небяспеку.* Я віджу, дзела плоха, пáхніць жáріным. А ў іх даўно пахла пáліным. Лі вас пáхніць смáліным ні адзін месіц. *Пачын.* **Запахнуць жараным** (паленым, смаленым). Зыпáхла жáріным, дык усхадзіліся, шукáюць, як вы́брыцца. Ніхай зыпáхніць паліным, яны сябе з другога боку пыкáжуць. Як зыпáхла абоім смаліным, тады схваціліся. *Шматкр.-непаўн.* **Папахываць жараным** (паленым, смаленым). Каму не, а каму можа і пыпáхывыіць жаріным. Што ні гыварі, а Высілю пыпахывыіць паліным. Чаго там, трошку пыпахывыла смаліным.

**Пацалаваць замок.** *Пайсці ні з чым, бо замкнута.* Што ён дзелыў? — пуцулувáў замок ды вярнýўся. Сяньня ён там пыцалýіць замок і прідзіць.

**Пацалаваць клямку.** *Пайсці ні з чым, бо закрыта.* Пыглідзіцё, што пыцалуіця кля́мку і прібігіцё нызáд: ён сьпіць зыдрáўшы ногі посьлі ўчырáшніга.

**Пацалаваць** [у] **прабой.** *Пайсці ні з чым, бо закрыта.* Што ж дзелыў, пуцулува́ў прабой і паплёўся ну Шумянічы. Пыцалу́іць у прабой і ўсё яго хаджэньня будзіць. Пуцулуваў у прабой і прішоў дамой.

**Пацець кроўю,** *груб. Пераносіць, цярпець жорсткую расправу.* Кроўю пацець будзіш, я цябе наўчу́, як сьлі́ўкі аббіра́ць, малю́тычка найшоўся. *Зак.* **Успацець кроўю.** Успацеіць кроўю у мяне, калі ўсё ду́рікі ні вылა́зюць з гылавы.

**Па часах.** *У дакладна ўстаноўлены час.* У яго ўсё пы чыса́х. Лю́біць, каб було пы чысах.

**Па часці.** 1. *У адносінах (да чаго).* Пы ча́сьці грошы ён ні жа́дзін. Пы ча́сьці баб ня промых, і яны к яму ліпнуць. 2. *У кампетэнцыі* [каго, чыёй]. Гарелычка — ета пы тваёй ча́сьці, тут ты сьпец — лу́ччы ні на́йдзіш. Аптресьць садок пы ва́шый ча́сьці.

**Пачкаць рукі,** *кніжн. Мець дачыненне да непрыгожых, непрыстойных учынкаў.* Ня хочыцца мне па́чкыць рукі, ато б я зы яго ўзя́ўся. *Зак.* **Запачкаць рукі.** Што ты, ну іх, зь імі толька рукі зыпа́чкыіш. *Множн.* **Папачкаць рукі.** Відзіш, яны рукі пыпачкылі, большы ня хочуць гывaріць. *Гл.* М а р а ц ь р у к і.

**Пачом зра.** *Моцна, не зважаючы ні на што.* Доўга ні глядзела, як узіла́ся яго чы́сьціць пачом зря, што ўюн, круці́ўся. Пачом зря лаілі. Ты яго паслухы́й, пачом зря брешыць.

**Пачом хунт ліха.** *Пра цяжкасці ў горы, бядзе, няшчасці.* Я сам ужо знаю, пачом хунт ліха, мне аб'ісьня́ць ні нада. Во як сам папробуіш, пачом хунт ліха, тады іна́чы зыпяеш.

**Пачот і ўважэнія,** *іран. Непрыязныя адносіны, непавага.* Воць цяперя ты зуслужы́ў у Дунькі пачот і уважэнія. Скора тая падойдзіць, будзіць вам пачот і уважэнія.

**Пачуць вош за каўняром,** *жарт. Пабагацець і адчуць сябе ўпэўнена.* Во табе й Васіль, пачуў вош зы кыўнярём, цяперя к яму бяс хві́гі і ні пытыка́йся. *Незак., рэдкаўж.* **Чуць вош за каўняром.** Відзіш, чуіць вош зы кыўнярём, зыдаецца.

**Па** [чыстай] **совесці.** *Чэсна, адкрыта, сумленна.* Каб сам дзелыў па совісьці, і с табою б людзі апхадзіліся, як ш чылавекым. У мяне ўсігда ўсё па совісьці, я ні так, як другея. Гыварю́ ж па чы́стый совісьці, дык ён ня веріць.

**Па чэсці.** *Так, як трэба, без пярэчанняў.* Ідзі па чэсьці, большы маіх сіл німа цябе вупруўля́ць. Ніхай слу́хыіць па чэсьці, ато я прыздра́ўлю.

**Пашла пісаць губерня,** *неадабр., кніжн.; пр., буд. Пра пачатак разгортвання энергічных дзеянняў.* Ніхай два словы пачу́ють — аста́тнія прікладу́ць, пріду́мыюць і пышла́ пісáць губерня. Цяперіцька пойдзіць пісаць губерня, ныласкочуцца.

**Паяўляцца на свет.** *Нараджацца.* Чым так і яму му́чыцца і зь ім мучыцца, луччы було і на сьвет ні пыіўля́цца. *Зак.* **Паявіцца на свет.** Нада ці ні нада быў, а раз пыяві́ўся на сьвет, будзіш гудувáць, ня йдзе дзенісься.

**Пень дубовый,** *абраж. Дурань, тупіца.* Во ета пень дубовый, дык пень, і ў каго ён толька урадзі́ўся. Пры такога пня дубовыга і рызгавору весьць нечыга.

**Перабівацца з быка на індыка.** *Жыць пры вельмі абмежаваных сродках.* Ка́жыцца, і стыря́цільныя, і ру́пытныя, а нешта ў жы́зьні ня дужа ла́дзіцца, так, пірібівáюцца з бы́ка ны інды́ка. *Зак., рэдкаўж.* **Перабіцца з быка на індыка.** Ну ніхай, ета ўремя можа як піряб'ёмся з быка ны індыка, а тама пыдззаробім, троху ныла́дзіцца.

**Перабівацца з хлеба на квас** (ваду). *Жыць бедна, у нястачы.* Пірібівáліся с хлеба ны квас, трошку выгáдывылі, выкру́чывыліся. Ікая ета жысьць пірібівацца с хлеба ны ваду. *Зак., рэдкаўж.* **Перабіцца з хлеба на квас** (ваду). Сяньня піряб'есься с хлеба ны квас, а заўтря узноў глядзі́, як дзень пірябы́ць. Пірябіліся с хлеба ны ваду, то ўжо ла́дна, цярьпіця.

**Перабіраць ва ўме.** *Успамінаць паслядоўны шэраг асоб, падзей.* Во пірібірáю ва ўме ўсіх знакомых і ня ўспомню, хто ета. Сколька ні пірібіраў ва ўме,— не-к, ні знáю. *Зак.* **Перабраць ва ўме.** Ка́жыцца, пірібраў ва ўме ўсё чы́ста, нічога ня ўспомню.

**Перабіраць па костачках.** *Абгаворваць да дробязей.* Сыйшліся і дывай пірібіра́ць па костычкых любогакажныга. *Зак.* **Перабраць па костачках.** Каго вы толька ні пірібра́лі тута па костычкых.

**Перавадзіць дух** (дыханне). *Рабіць кароткі перапынак у цяжкай працы; адпачываць.* Калі тут пірівадзі́ць дух, гресьць скарей нада. Пыднімай ды нясі, узду́мыў пірівадзіць дыха́ньня. *Зак.* **Перавесць дух** (дыханне). Тут дух пірявесьць некылі, а ён разьлёгся на цэлый дзень. Пастой хуць міну́тычку, дай дух пірявесьць. Зымарілыся — ні магу дыха́ньня пірявесьць.

**Перавадзіць на хлеб і ваду.** *Пачынаць карміць вельмі сціпла.* Ты зь імі ні ца́цкыйся, пірівадзі́ на хлеб і ваду. *Зак.* **Перавесць на хлеб і ваду.** Каб пірявёў на хлеб і ваду, ніхай ба пацмы́гылі. Дужа за імі ухаджыіш, як зы малю́тычкымі, нада було пірявесьць на хлеб і ваду, ніхай ба знапі.

**Пера́варачываць** (варочаць) **свет.** *Рабіць надзвычайнае.* Як хадзілі гурьбою, яны сьвет пірівыра́чывылі. Во сядзі́ць ніўгамоньня ў чылавеку, сьвет, знаць, зыхацеў варочыць. *Зак.* **Перавярнуць свет.** Ці ты сьвет пірівярну́ць наду́мыўся, ці што. Яны, відна, сьвет пірівярну́ць хочуць.

**Пераварачываць** (варочаць) [усю] **душу.** *Глыбока ўзрушваць, хваляваць, прымушаць глядзець іначай.* Ета карці́на душу́ мне пірівыра́чыіць кажный раз. Іхнія горя душу варочыіць. Як завы́іць, як зыгалосіць, пірівыра́чывыіць усю душу. *Зак.* **Перавярнуць** [усю] **душу.** Пірівярну́ла мне душу сваі́мі рыска́зымі. Во што мне пірівярнула душу — як Мыланка пы сваі́м убіва́лыся. Усю душу піряверніць ета, другей раз так дзелыць зыка́іcься.

**Перавярнуцца ў грабу** (магіле). *Прыйсці ў жах, злосць (пра памершага).* Так у гуля́ньня пусьці́ўся, што яго Марья у грабу́ піряверніцца. Ён ба пірівярну́ўся ў магі́лі, каб знаў, што яго хызя́йства етык ляці́ць.

**Перагінаць палку.** *Дапускаць празмернасці ў дзеяннях.* Зь імі, канешня, нада кру́та, ну палку пірігіна́ць ні нада. *Зак.* **Перагнуць палку.** Вот сы ўса́дзьбымі пірягну́ў палку. Як пірягнеш палку, сымаму́ ўляціць, ды

столька, што задзівісься. Так крепка пірягнулі палку, што цэлыя камісія сядзіць рызьбіра́іцца.

**Перагрызць горла** (глотку), *асудж. Жорстка расправіцца.* Зы сваё горла пірігрызець, во такой ка́плі ня ўпу́сьціць. Толька зычапі́ чым-небудзь, глотку пірігрызу́ць. *Незак., рэдкаўж.* **Перагрызаць горла** (глотку). Каму ён сыбра́ўся горла пірігрыза́ць? Найшоўся гірой глотку пірігрыза́ць. *Узмацн.-множн.* **Паперагрызць** (паперагрызаць) **горлы** (глоткі). Былі глоткі пыпірягры́зьлі адзін другому. Яны адзін другому горлы пыпірігрыза́юць, ня то чужому ўсту́пюць. Між сабою глоткі чуць ні пыпірігрыза́лі. *Працягл.-фінальн.* **Наперагрызаць** (даперагрызаць) **горла** (глотку). Яго як пыдзіржа́ць у рука́х, дык ён ныпірігрыза́іць горла. Ныпірігрыза́іш ты глотку, такей пірігрыза́ньнік найшоўся. Дыскыка́ўся, дыпірігрыза́ў горла, ны сваё ныскачы́ў. Я знаю, як твой зяць дыпірігрыза́іць глотку, гірой еткій.

**Перад вачамі.** *Блізка, побач.* Пірід вычáмі прыляцеў стрялою. Толька што быў пірід вычамі, айдзе ён дзеўся.

**Перад пагібеллю** (гібеллю), *асудж. Як бы ў прадчуванні нядобрага.* Яй-богу, ты пірід пагі́більлю кі́дыісься так, нешта чу́іць тваё серца. Верна, піряд гі́більлю уталону ён сабе ні на́йдзіць ніидзе.

**Перакладаць на свае плечы.** *Браць на сябе клопаты, абавязкі.* Нашто вам іх клопыты пірікклыда́ць ны свае плечы. *Зак.* **Перакласць** (пералажыць) **на свае плечы.** Пірікла́лі ны свае плечы чужую бяду, ні знаюць, калі разьдзелыюцца. Ныпра́сна ты пыхвыта́ўся пірілажыць ны свае плечы ўсю ету абузу. *Узмацн.* **Паперакладаць** (паперакласць) **на свае плечы.** Дужа усіх жалеюць, біспакоюцца пра ўсіх, іх заботы пыпірікклыда́лі ны свае плечы. Нашто ж вы ўсё ета пыпірікла́лі ны свае плечы.

**Перакладаць на чужэя плечы.** *Вызваляць сябе ад клопатаў, даручаючы іх іншым.* Што ж ты свае клопыты ды пірікклыда́іш ну чужэя плечы. *Зак.* **Перакласць** (пералажыць) **на чужэя плечы.** Так і цыля́іць, каб пірікла́сьць усё ну чужэя плечы. Умудрі́ліся, пірілажы́лі ну чужэя плечы свае клопыты, а самі свабодны. А што ім, пірілажылі ўсё ну чужэя плечы. *Узмацн.* **Паперакладаць** (паперакласць) **на чужэя плечы.** Нада було самім гудува́ць, дык яны пыпірікклыдалі ну чужэя плечы. Пы-

піріклыдаюць ну чужэя плечы, калі самім як узва́люць, дык ні агледзюцца. Ну чужэя плечы пыпіріклалі, на́ця вам.

**Перакусіць горла** (глотку), *рэдкаўж. Жорстка расправіцца.* Ого, зы сваё ён горла пірякýсіць любому, дужа пасты́лый чылавек. На месьці пірікусі́ць горла гатоў, а ня то ат яго дажджэсься, каб даў што якоя. *Гл.* Пе- р а г р ы з ц ь   г о р л а.

**Пераламіць серца.** *Перагараваць, адгараваць.* Раз піряломіш серца, дык ня бýдзіць ка́жный дзень духі выіда́ць. Піріламі́ла серца пы свайму Высілю, ні адна я тыка́я. *Незак., адзінк.* **Пераламываць серца.** Трудна було пірілáмывыць серца, ну айдзе ж ты дзенісься, жывэй жа у гроб ні ля́жыш.

**Пераламываць сябе.** *Прымушаць сябе паступаць, рабіць зусім па-іншаму.* Усё ўремя быў чорт яго зна́іць якей, ета цяперя стаў пірілáмывыць сябе. *Зак.* **Пераламаць сябе.** Дорга яму стоіла пірілума́ць сябе, ета ж гордысьць была нямерныя. Пірілума́ла сябе, пышла́ ны свадзьбу ў Дýччычы.

**Пераліваць з пустога ў парожняе,** *неадабр. Займацца балбатнёй.* Дос вам пірілівáць с пустога ў парожнія, хто там угражывыў. У іх ізьвесныя зыня́ція: пірілівáць с пустога ў парожнія. *Зак., рэдкаўж.* **Пераліць з пустога ў парожняе.** Ці ўсё вы пірілілі́ с пустога ў парожнія? *Непаўн.* **Папераліваць з пустога ў парожняе.** Троху пыпірілівáлі с пустога ў парожнія, пакуля Іван пыдыйшоў. *Працягл.-фінальн.* **Напераліваць** (дапераліваць) **з пустога ў парожняе.** Ныпірілівáіць с пустога ў парожнія, пакуля ўвесь дух выйдзіць. Дыпірілівáюць с пустога ў парожнія, што скот у ічмяньку́ будзіць. Ну што, дыпірілівалі с пустога ў парожнія? *Наз.* **Пераліванне з пустога ў парожняе.** Ды чаго ж ныдаела ваша пірілівáньня с пустога ў парожнія.

**Пералома выскакываець,** *груб. Пра наступленне пагібелі або як зламоўнае пажаданне ўсяго найгоршага.* Усё ў іх ні так, як у людзей, пірялома нейкыя выска́кывыіць. Ніяк пірялома ны яго ні выскакывыіць. *Зак.* **Пералома выскачыла,** *пр., буд.* Вот нейкыя пірялома вы́скычыла ны чылавека. Можа ж даждýся, і ны яго пірялома выскычыць. *Узмацн.* **Пералома павыскакывала,**

*пр., буд.* Штоб ужо ны вас пывыска́кывыла пірялома, як вы ат'елі усе духі́. Нябося, дажду́ся, што і ны вас пірялома пывыскакывыіць.

**Перамагаць** (перасіліваць) **сябе.** *Пераадольваць у сабе якое-н. пачуццё, жаданне.* Я знаю, як нялёхка було ёй пірімыга́ць сябе. Яны доўга пірясі́лівылі сябе, усё хацелі, каб як луччы. *Зак.* **Пераможч** (перасіліць) **сябе.** Доўга ня мог пірязможч сябе, усё атвыра́чывыўся. Ну пірясі́ль ты ўжо сябе, схадзі ны міну́тку, пысядзі́.

**Перамяраць на адзін аршын** (капыл, мерку, палку). *Нанова аднолькава ацэньваць усіх і ўсё.* Што ж ён пірімірйіць усіх ны адзін аршын. Ны адзін капы́л узя́ўся піріміряць сватоў. Ні піріміряй нас ны адну мерку. Нашто ж ты іх піріміряіш ны адну палку? *Зак.* **Перамерыць на адзін аршын** (капыл, мерку, палку). Усіх зічыча́нь пірямеріў ны адзін аршын. Як пірямерііць ны адзін капыл, ого хва́ціць. Ны адну мерку пірямеріць ба хацеў, ды ні пулуча́іцца. Настолька хочыцца пірямеріць усё ны адну палку. *Парайн.* Мераць на адзін аршын.

**Перамяраць на свой аршын** (капыл, мерку). *Нанова ацэньваць са свайго пункту погляду.* Не, ні пы яго скызалі, ён на свой аршын пірімірйіць. На свой капыл піріміряў Сыўчанкоў. Ці ты ж яго ні знаў, ён усіх ны сваю мерку любіў піріміряць. *Зак.* **Перамераць на свой аршын** (капыл, мерку). Пірямеріў на свой аршын, так яму луччы патходзіць. Пы яго ўсе адзіна́кывыя, усіх на свой капыл пірямеріў. Ты і Лявона пірямерь ны сваю мерку, нашто ж яму так астыва́цца. *Парайн.* Мераць на свой аршын.

**Перанасіць на сваіх плячах**. *Перажываць шмат нягод.* Чаго ён толька ні пірінасіў ны сваіх плічах, усякія жызьні пыспыта́ў. *Зак.* **Перанесць на сваіх плячах.** Такоя горя пірінясьлі́ ны сваіх плічах, айдзе ж тэя нервы будуць. *Узмацн.* **Паперанасіць на сваіх плячах.** Вам лёхка гывары́ць, а каб вы пыпірінасі́лі ны сваіх плічах, як мы, тады б другоя запелі.

**Пераскакываць** (перапрыгываць) **дарогу,** *рэдкаўж. Станавіцца на шляху ў іншага.* Якей табе там чорт будзіць пірiска́кывыць дарогу. Нікому ён ні зьбіраўся піряпры́гывыць дарогу. *Зак.* **Пераскачыць** (перапрыг-

нуць) **дарогу.** Ніхай-ка хто паспробыіць піріскачы́ць ім дарогу. Дужа я табе піряпры́гнуў дарогу. *Працягл.-фінальн.* **Напераскакываць** (наперапрыгываць) **дарогу.** Ныпіріска́кывылі вам дарогу, як толька вы жывы аста́ліся. Ныпіряпры́гывыў ён некыму дарогу. *Гл.* Д а р о г у п е р а х а д з і ц ь.

**Пераступаць з нагі на нагу.** *Не адважвацца, сарамецца, вагацца.* Збоку стаў, піріступа́іць з нагі́ ны нагу́,— ду́мыю, чаго йта ён тута мнецца.

**Пераступаць цераз парог.** *Заходзіць, наведваць.* Цяперя мне піріступа́ць ціріс парог к ім ня хочыцца. *Зак.* **Пераступіць цераз парог.** Я посьлі такога піріступіць ціріс парог не асьмеліўся б.

**Пераступаць цераз труп,** *урачыст. Выяўляць сябе выключна стойкім, непахісным.* Ого, якей грозный, да́йжа сыбіра́іцца піріступаць ціряс труп. *Зак.* **Пераступіць цераз труп**. Ніхай пріходзіць, ён толька ціряз мой труп пірясту́піць.

**Перахадзіць на хлеб і ваду**. *Пачынаць харчавацца вельмі сціпла.* Калі бу́дзіш так мыта́ць, скора прі́дзіцца піріхадзі́ць на хлеб і ваду. *Зак.* **Перайціць на хлеб і ваду.** Во як пярёйдзіця на хлеб і ваду, тады пачы́гыіця. К канцу месіца піряйшлі́ на хлеб і ваду. Каб піряйшлі́ на хлеб і ваду, як мы, тады б іна́чы запелі.

**Первае дзела.** *Спачатку, раней за ўсё іншае.* Як уста́ў — первыя дзела памы́цца нада. Сам еў ня еў, а первыя дзела скаці́ні нада даць.

**Первае слова.** *Самы пачатак.* Ва́жна первыя слова, тады прасцей будзіць. Вот відзіш, як важна було первыя слова. Тут каб хто первыя слова скыза́ў, а тады само дзела пойдзіць.

**Первай маркі,** *іран. Вышэйшай якасці.* Мот первый маркі, зь ім глядзі ды глядзі, будзь ны чыку́. Тряпло первый маркі, ныгаворіць, чаго й на сьвеці ні було.

**Первай рукі.** *Вышэйшай якасці.* Ён первый рукі быў злодзій, чаго толька ні вытвыря́ў. Первый рукі сьпіцыялі́ст, па плотніцтву дык і ці ёсць хто луччы яго.

**Первая ластаўка.** *Нязначная прыкмета чагосьці новага.* Што ён заехыў, ета яшчэ первыя ла́стыўка, пыгадзі́, што посьлі будзіць, во месіцы ціріз два.

**Первая скрыпка.** *Завадатар у вясёлай кампанейскай справе.* Міхеіў у іх первыя скріпка, што ён скáжыць, то й бýдзіць. *Гл.* Весць первую скрыпку.

**Первый клас.** *Нешта незвычайнае, выдатнай якасці.* Ён табе січáс пыкáжыць первый клас. Мыя гармоня первый клас, а ні ікая-небудзь.

**Первый кусок.** *Самае лепшае.* Сваім выбірáіць первый кусок. Яму ж усігда быў первый кусок.

**Первый сорт,** *іран. Самага вышэйшага класа.* Пецька твой — первый сорт пыдмáншчык. Па клеціх быў первый сорт сьпец. *Гл.* Первай маркі.

**Первый шаг,** *адз., мн. Пачатак.* Ета ў яго толька первый шаг, увойдзіць у смак, што ня зьдзержыш. Первыя шагі усігда трýдна дзелыць. Я вíдзіў яго первыя шагі, як ён пычынáў толька.

**Первым дзелам** (долгам). *Спачатку, у першую чаргу, раней за ўсё.* Ты первым дзелым вады́ прінясі, а тады за стол лезь. Первым дзелым зу буты́лычку схваціўся. Первым долгым скацíну пыкармíць нада, а сам жыў будзіш.

**Песенка** (песня) **спета.** *Пра надыход канца.* Яго песінка сьпета, Машка большы туды і нагою ня стýпіць. Ваша песьня сьпета, і нечыга вам лезьць туды, куды ня просюць.

**Пець Лазара,** *іран. Прытвараецца нешчаслівым, пакрыўджаным; хлусіць, гаварыць глупства.* Дос пець Лáзыря, ці цябе ніхто ні знáіць, якей ты горькій. Абоя пяюць Лазыря лáдна. *Пачын.* **Запець Лазара.** Каб ён ныпрáўду запеў Лазыря, а прітвыря́цца любэй умеіць. Як зыпяець Лазыря, хуць вушы зытыкáй ат яго лухты́. *Непайн.* **Папець Лазара.** Толька слýхый, ён табе пыпяець Лазыря. *Абмеж.* **Прапець Лазара.** Пакуль ні прыпяець Лазыря, ня вы́пріш яго дужа. *Узмацн.* **Напець Лазара.** Як тут быў, напеў Лазыря, каб яго пыжалелі. Падойдзіць Цімох, ён ныпяець Лазыря. *Працягл.-фінальн.* **Напецца Лазара.** Напеўся Лазыря, нешта маўчыць. Напеліся Лазыря, што іх ужо ніхто ня слýхыіць.

**Пець Лазарам,** *іран., рэдкаўж. Хлусіць, гаварыць глупства.* Во ета ўмеў пець Лазырім, і аткýліцька ў яго што брáлыся. *Пачын.* **Запець Лазарам.** Падойдзіць сі-

час Пятрок, зыпяець Лазырім, хочыш, слухый, хочыш, пывярніся і йдзі. *Непайн.* **Папець Лазарам.** Быў тут з раньня, папеў троху Лазырім. *Працягл.-фінальн.* **Напецца Лазарам.** Ну, мы, відзіш, ні пыдывáлі дужа віду, дык яны тут напеліся Лазырім.

**Пець рэпку.** *Не мець магчымасці нічога зрабіць, прадпрыняць.* Ён паедзіць, а ты тут сядзі, пей репку. *Пачын.* **Запець рэпку.** Зыпяеш репку, як астáнісься адна, хто табе чым паможыць. *Непайн.* **Папець рэпку.** Яны папелі репку, як кускá ны стале ні стывáлыся. *Абмеж.* **Прапець рэпку.** Прапеў репку, ды дзелыць нечыга, нызад зывярнýлі аглоблі. *Законч.* **Адпець рэпку.** Атпяеш репку, як кініць усё ета тваё шырабýрья ды паедзіць. *Працягл.-фінальн.* **Напець рэпку.** Пасьледній год як тута была, напела репку.

**Пець салаўём,** *звыч. іран. Прыгожа гаварыць, шмат абяцаць.* Толька большы слýхый ды верь яму: бýдзіць пець сылаўём. *Пачын.* **Запець салаўём.** Толька увідзіў Таньку, запеў сылаўём. *Непайн.* **Папець салаўём.** Каб вы чулі толька, як ён тута рыскáзывыў, хваліўся, папеў сылаўём. *Законч.* **Адпець салаўём.** Атпеў сылаўём, некуды сьцягнýўся, другей год ня чутна. *Працягл.-фінальн.* **Напець** (напецца, дапецца) **салаўём.** Напеў сылаўём большы быць ня можыць. Напеўся сылаўём, цяперя можа б пáлку піріпіліць памог. Дыпяесься сылаўём, як патýрюць яны цябе к чорту. *Гл.* З а л і в а ц ц а с а л а ў ё м.

**Пець у рэпку,** *рэдкайж. Не мець магчымасці нічога зрабіць, прадпрыняць.* Сьпірвá храбріўся, яму ўсё ніпачом, а посьлі вун як пеў у репку. *Пачын.* **Запець у рэпку.** Ды яшчэ як зыпяеш у репку, ета січас дужа ты сьмел. *Непайн.* **Папець у рэпку.** Дажджэцца, дыадурювáіцца, калі-небудзь мінецца ета, пыпяець у репку. *Працягл.-фінальн.* **Напецца ў рэпку.** Напеўся ў репку с кýчыю мáлых, а хто йта дужа ны такýю абýзу кініццапыгáліцца. *Гл.* П е ц ь р э п к у.

**Пікавый інцярэс,** *жарт. Асаблівыя інтымныя справы.* У яго тут нейкій пікывый іньцірес к Сахронывый. *Парайн.* П р ы п і к а в ы м і н ц я р э с е.

**Пір гарою.** 1. *гумар. Вялікая гулянка.* Як зывялі ўчора пір гарою і сяньня п'юць. Другей дзень ідзець пір

гарою, і яшчэ, відна, ныза́ўтря далёкія госьці аста́нуцца. 2. *неадабр. Вялікі беспарадак.* Як сыбяру́цца разым, вернуць хату пір гарою. Чаго ў вас тут усё варочыіцца пір гарою, ні пыдыйціць ні к чаму, ні ступіць нійдзе.

**Пітацца маннаю нябеснаю.** *Не мець дастатковага харчавання.* Ён жа там піта́цца ма́нныю нябесныю ня бу́дзіць, кылі вы́прывіў, дык і грошы пашлі́. *Зак.* **Прапітацца маннаю нябеснаю.** Ці ты думыіш манныю нябесныю прыпіта́цца? *Працягл.-фінальн.* **Напітацца маннаю нябеснаю.** Ну што, ныпіта́ліся манныю нябесныю, пріскачы́лі? *Парайн.* М а н н а н я б е с н а я.

**Пітаць маннаю нябеснаю,** *рэдкайж. Трымаць без сродкаў існавання.* Ці ні зьбіра́ісься ты піта́ць нас ма́нныю нябесныю? *Зак.* **Прапітаць маннаю нябеснаю.** Судзержыць, прыпітаіць манныю нябесныю,— яго сымаго ішчэ карміць нада.

**Піць горкую**. *Моцна п'янстваваць.* Прівы́к піць горькыю, купля́ць ні спра́вісься. *Пачын.* **Запіць горкую.** Цярьпеў-цярьпеў, змыга́ўся-змыгаўся і ня вы́дзіржыў — запі́ў горькыю. *Узмацн.-абмеж.* **Папіць горкую**. Тут яны ла́дна дурелі, пыпілі́ горькыю ўволю. *Законч.* **Адпіць горкую.** Да, Напреіў ужо атпі́ў горькыю, нешта ж жалу́дкым выля́іцца. *Працягл.-фінальн.* **Напіць** (дапіць) **горкую.** Нап'ець горькыю, што аста́ніцца гыляком. Ну, дапіў горькыю: атусю́ля гонюць і нійдзе ні бяру́ць.

**Піць** (ссаць, высасываць) **кроў.** *Мучыць, здзекавацца, вымотваючы здароўе, сродкі.* Што, піў столька ўремя зь Любкі кроў, цяперя другую хочыш найціць сокі ссаць? Яны два гады сса́лі зь яго кроў, як самі хацелі. Ну як жа ім ня стыдна етык выса́сывыць кроў зь людзей. *Зак.* **Выпіць** (выссаць) **кроў.** Уредзіны — с уредзіныў уредзіны, вы́пілі ш чылавека кроў, а цяперя ён ім ні нада. Чаго ня зьдзелыіць, а кроў вы́сьсіць, а як ні на́да ста́ніць, хочыш, с хаты вы́гыніць. *Непайн.* **Папіць** (пассаць) **кроў.** Былі га́ды, пыпілі́ зь людзей кроў. Толька пупадзець у свае ла́пы, пасьсець кроў. *Узмацн.* **Павыпіваць** (павысасываць) **кроў.** Яны кроў ба пывыпіва́лі, каб прімелі, каб воля іхныя. Пывыса́сывыюць кроў, голымі пыкіда́юць. *Законч.* **Напіцца** (нассацца) **крыві.** Напіўся людзкея крыві, і на ўну́кыў і ны пра́ўнукыў хваціць. Ніхай на іх пірялома, нысса́ліся крыві.

**Пішы прапала.** *Пра непазбежнасць страты, няўдачы.* Раз Аўдзею даў, пішы́ прыпа́ла, зь яго нізашто ня сы́йшчыш. Цяперя пішы прыпала, што зь іх возьміш.

**Плакаць кроўю.** *Адказваць вялікай цаной (як пагроза).* Ну, каб толька пупа́ўся, пла́кыў ба кроўю у нас. *Пачын.* **Заплакаць кроўю.** Пыдажджы́, ён ішчэ кроўю зыпла́чыць са ўсёю сваёю хва́брысьцю. *Непайн.* **Паплакаць кроўю.** Ніхай ня ўніміцца, ён у мяне кроўю пыпла́чыць. *Узмацн.* **Наплакацца кроўю.** У нас ба ён кроўю ныпла́кыўся, мы б з га́дысьцю ні вазі́ліся доўга.

**Плакаць у жылетку,** *іран. Беспадстаўна скардзіцца, шукаючы спачування.* Ну чаго ён пла́чыць у жылетку, чым яго так разабідзілі. *Пачын.* **Заплакаць у жылетку.** Зыпла́ч у жылетку, нішча́сьнінькій такей, можа цябе хто пыжалеіць. *Непайн.* **Паплакаць у жылетку.** Вы схадзіця, ныпла́чця ў жылетку, вы ж такея горькія, што куды там.

**Плаціць тою** (такою) **ж манетаю.** *Пасптупаць такім жа чынам.* Як самі дзелыіця, і вам плоцюць тою ж манетыю. Такою ж манетыю і Бырысёнык бу́дзіць плаці́ць. *Зак.* **Заплаціць** (адплаціць) **тою** (такою) **ж манетаю.** Дужа ні ра́дуйся, тою ж манетыю і табе заплоцюць. Чаго хацеў, таго і дырза́ўся, такою ж манетыю зыплацілі. Пыглядзі́ш, сымаму атплоцюць тою ж манетыю. Такою ж манетыю як атплоціць, тады будзіш знаць. *Законч.* **Выплаціць тою** (такою) **ж манетаю.** А ты вы́плыці тою ж манетыю, як ён сам Чыкалёнку. Як вы́плыцюць такою ж манетыю, во папры́гыіш.

**Плесць** (гарадзіць) **пляцень,** *іран. Доўга і нудна гаварыць пустое.* Ой, хлопіц, пляцеш ты пляцень, ці ета калі магло так быць, як ты тріл́юдзіш. Паслу́хый вун, гародзіць пляцень, якей ён гірой быў. *Зак.* **Сплесць** (згарадзіць) **пляцень.** Хто б ета сплёў пляцень пра Шурку? Згародзюць пляцень, толька жджы, ці ім доўга тріпану́ць ізыком. *Непайн.* **Паплесць** (пагарадзіць) **пляцень.** Пыплялі́ пляцень, тэй тоя, тэй тоя, ды рызвылаклі́ся. Жджы́ця іх, пакуля яны пыгародзюць пляцень. *Працягл.-фінальн.* **Наплесць** (нагарадзіць, даплесць, дагарадзіць) **пляцень.** Ныпліціцё пляцень, што бульба ў быразёнкых зыначу́іць. Ныгародзюць пляцень — ныдыяду́ць, дык пыпрашу́ за дзьвері. Ну дыпляцець ён

пляцень, ну ныдаеў з лухтою зь ніпыцьсіва́нью. Дыгырадзіла пляцень, прішчаміла язык.

**Плесць лапці,** *іран. Рабіць зусім няўмела.* Ён ізьвесна як работыіць: пляцець ла́пці. *Зак.* **Сплесць лапці.** Во работа дык работа, сплёў лапці: пыспрабу́й етый хаму́т надзець ны кыня. *Непаўн.* **Паплесць лапці.** Надзелылі, нуструга́лі — пыплялі́ лапці,— глядзець на ету работу ня хочыцца. *Працягл.-фінальн.* **Наплесць** (даплесць) **лапці.** Ныпляцеш лапці, я наўчу́ цябе, як нада рабо́тыць. Дыпляцець лапці, што путурю́ ат пу́ні, кылі ён дзяржыць тапор, а рукі ня ў тэй бок глідзя́ць.

**Плечы апускаць.** *Траціць запал, прыходзіць у адчай.* Тут, па-мойму, можна вы́круціцца, нечыга плечы апуска́ць. *Зак.* **Плечы апусціць.** Ідзець, плечы апусьціў, як з вады вы́цігнутый. *Узмацн.* **Плечы паапускаць** (паапусціць). Пыапуска́лі плечы, як усё й кончына. Што ета вы плечы пупусьці́лі, вы́шы голывы нада. *Гл.* А п у с к а ц ь р у к і; А п у с к а ц ь г а л а в у.

**Плечы часаць,** *іран. Лупцаваць.* Нада большы плечы чыса́ць, тады скарей паслу́хыіць і зьдзелыіць, як ска́жыш. *Непаўн.* **Плечы пачасаць.** Як пычашу́ плечы раз ды яшчэ раз, то станіць хлопіц адглед зіцца. *Законч.* **Плечы адчасаць.** Ніхай што ахламон, а як аччыса́лі плечы, то во як пытхваціўся. *Працягл.-фінальн.* **Плечы начасаць.** Ты ўжо начэшыш плечы, гыварі ты, калі яны мяне дайжа брацьу рязон ня хочуць.

**Плечы чэшуцца** (свярбяць), *іран.; цяп., пр., буд. Пра ўчынкі, якія выклікаюць неабходнасць пакарання.* Я віджу, што табе плечы дужа чэшуцца, прідзіцца пыхадзіць лі іх. У яго даўно плечы чысаліся, ніхай. Ну што ж, раз плечы сьвірьбя́ць, пычыса́ць нада. Можа, плечы будуць сьвярьбець, ні біспакойся, мы пачэшым. *Пачын.* **Плечы зачасаліся** (засвярбелі), *пр., буд.* Дужа ў цябе плечы зычыса́ліся сяньня. Я знаю, што плечы даўно зысьвярьбелі. Як плечы зысьвірьбя́ць, ты зьбегый на двор к Аўдзяёнку.

**Плёвае дзела.** *Дробязь, тое, што не заслугоўвае ўвагі.* Што ты клы́зьніш, яму схадзі́ць у Сьлёзкі плёвыя дзела. Тут плёвыя дзелы, мне й брацца ня хочыцца.

**Плоць і кроў** [чыя]. *Роднае дзіця.* Як жа ты так гаворіш, язык у цябе варочыіцца, ета ж твыя плоць і кроў. Дужа ён узгля́ніць, кылі яго плоць і кроў.

**Плысць паміж** (між) **пальцамі** (пальцаў, скрозь пальцы). *Трацiцца хутка, марна.* У яго многа чаго плувець паміж пáльцымі. Плувець паміж пальцыў, ён асобінна ні глядзíць. Ці мала ў іх чаго плуло між пальцыў. Німала плуло скрозь пальцы. *Зак.* **Праплысць паміж** (між) **пальцамі** (пальцаў, скрозь пальцы). Многа дыбрá пруплуло паміж пальцымі. Еткыя быгáства пруплуло паміж пальцыў. Усё ў цябе пруплуло між пальцыў, а ты рот рызівáў. Нада було ні зівáць, ато пруплуло скрозь пальцы. *Пачын.* **Паплысць паміж** (між) **пальцамі** (пальцаў, скрозь пальцы). Бацька нЫжывáў, а ў яго ўсё пуплуло паміж пальцыў. Ды многа чаго було, а ўсё пуплуло між пальцымі. Нічога ён ня спользыіць, пуплувець яно ў яго між пальцыў. Сколька чаго ні дывалі, пуплуло яно скрозь пальцы.

**Плысць па цячэнню,** *кніжн. Пасiўна падпарадкоўвацца абставiнам.* Як дзелыіцца, так і ніхай, плувець пы цячэнню. *Пачын.* **Паплысць па цячэнню.** Каб зыхацелі, дык ба што-небудзь прідýмылі, а толька яны так, пыплылí пы цячэньню.

**Плысць проця цячэння,** *кніжн. Дзейнiчаць наперакор iснуючай думцы, поглядам.* Ні тыкая гылывá нада, каб плысць проця цячэньня. *Пачын.* **Паплысць проця цячэння.** Зь етымі людзьмí ня дужа пуплувеш проця цячэньня, іх ішчэ рузвурушы́ць нада.

**Плысць у рукі.** *Накоплiвацца само сабой.* Вам жа самі грошы плувýць у рукі, а толька вы брáць ня ўмеіця. *Зак.* **Прыплысць у рукі.** Ну ня жджы, само ні пріплувець у рукі, нада пыпацець. Такоя быгаства ні ш чога ні зь якыга пріплуло у рукі, цёпла будзіць сядзець. *Пачын.* **Паплысць у рукі.** А ты дýмыў, само што пуплувець у рукі, не, зароб, прікладзí сілу, ні гультáйся.

**Плюнуць і расцерць** (размазаць). *Не надаваць нiякага значэння; не заслугоўваць ўвагi.* Што ён скáжыць — ета плю́нуць і расьцерць. Ніхай вярзець што хочыць, а ты плюнуў ба і рызмáзыў.

**Пляваць у вочы.** *Груба выражаць непавагу, пагарду.* Яго дыглідáлі, пасьледній кусок яму біряглí, а вырыс — дык плюець стары́м у вочы. *Зак.* **Напляваць у вочы.** Нуплювáў у вочы і што ты яму скажыш? — нічога ня зьдзелыіш. *Аднакр.* **Плюнуць у вочы.** Плюнь ты таму ў вочы,

хто ета брязкочыць. *Непайн.* **Папляваць у вочы.** Пуплюеш у вочы, ні раз прі́дзіцца абраці́цца, дык як жа ты тады бу́дзіш. *Працягл.-фінальн.* **Дапляваць у вочы.** Уві́дзіш, дуплюеш у вочы, як ны сымаго ні гля́нуць.

**Пляваць у душу.** *Груба зневажаць самае дарагое.* Сколька бірігла́ яго, валхві́ла як свайго, а ён цяперіцька плюець у душу ёй. *Зак.* **Напляваць у душу.** Нуплюва́лі чылавеку ў душу, ці ў іх совісьць калі была ікая, совісьці ў іх і ні нучува́ла. *Аднакр.* **Плюнуць у душу.** Яму плю́нуць у душу́ любому, што табе кымыра́ во етыга забі́ць. *Непайн.* **Папляваць у душу.** Пуплюва́лі ёй у душу, пызьдзіва́ліся пріпа́дкі тэя. *Працягл.-фінальн.* **Дапляваць у душу.** Ну, вот і дуплюва́лі Максіму ў душу, ны саміх як на і́дылыў глідзя́ць.

**Пляваць у паталок** (столь), *іран. Бяздзейнічаць з поўнай бесклапотнасцю.* Ты яму гатоў, пыднясі́, трахту́й яго, а ён будзіць у пыталок плюва́ць. Плюець у столь дзень прі дні. *Непайн.* **Папляваць у паталок** (столь). Пуплюва́лі ў пыталок лета, цяперя ты хочыш, каб ў іх було што. Пуплююць у столь месіц — во й работа ўся. *Шматкр.* **Паплёвываць у паталок** (столь). Ня думыў ён і ні зьбіра́ўся нічога дыхадзі́ць, вун паплёвыіць у пыталок і большы нічога. Паплёвывылі б у столь, дужа ня хочыцца ні за што брацца. *Абмеж.* **Прапляваць у паталок** (столь). Столька було работы, дык яны ўсё ўремя пруплюва́лі ў пыталок. Кінула, дык надзелыюць — пруплюють у столь, а як кінула, так усё і на́йдзіш на тым месьці самым. *Законч.* **Адпляваць у паталок** (столь). Ну, ў пыталок атплюва́ў, саўсім рузвучы́ўся, як і тапор дзіржа́ць у рука́х. Сколька ж уремя яны атплювалі ў столь! *Працягл.-фінальн.* **Напляваць** (дапляваць) **у паталок** (столь). Нуплююць у пыталок, бу́дзіць ім, як Мыкару було. Сі́час ты ду́мыць нічога ня хочыш, ну дуплюеш у пыталок, папомніш, што табе кыза́лі. Дуплюеш у столь, ды позна будзіць за вум брацца.

**Пляскаць языком,** *неадабр. Бесперастанку балбатаць абы-што.* Хва́ціць пля́скыць ізыком, ідзі ды пыдгрябі́ аторю, каб дождж ні ліну́ў. Айдзе яны там віртлюжкі́ круці́лі, пліска́лі ізыкамі зу гумном. *Пачын.* **Запляскаць языком.** Узноў зыпля́скылі ізыком, новысьцьто тыкая. Ві́дзіш ім колык стаў Якыў,— зыпліска́лі ізыком. *Працягл.* **Прапляскаць языком.** Ну што яны дзелы-

лі, прыпліскáлі ізыком. *Законч.* **Адпляскаць языком.** Ці атпля́скылі вы ізыкамі? Атпліскáў ізыком, відна, цяперя ўніміцца. *Працягл.-фінальн.* **Напляскаць** (напляскацца, дапляскаць, дапляскацца) **языком.** Наплешчыць ізыком, што вазьму й аблáю. Во калі яны ныпліскáліся ізыкамі. Дыпля́скыла ізыком, чаго дыбівáлыся, тоя й пулучы́ла. Скажы, каб уняўся, ато даплешчыцца ізыком, я найду яму места.

**Плячо** (плячом) **к плячу.** *Побач, разам, заадно.* Плячо к плячу пыдняліся, дык тэя і пікнуць быя́цца. Плячом к плячу стáнуць, яны чорт яе знаіць сколька скосюць.

**Плячо ў плячо.** *Разам, як роўныя.* У любой рабоці плячо ў плячо йдуць. Вы́стрыіліся плячо ў плячо, зь імі ніхто ні спрáвіцца. Во ідуць плячо ў плячо быгытырі, вы́рысьлі як дуб'ё хлопцы.

**Порах сыплецца** (сыпецца), *гумар.; цяп., пр., буд. Пра агульную нямогласць ад старасці.* Айдзе яму з вамі йціць, зь яго порых сы́пліцца. С твайго жыніха порых сыпіцца. Порых сы́пыўся, а йшчэ хацеў гогылім дзіржáцца. *Пачын.* **Порах пасыпаўся.** Рана ж сь цябе порых пасы́пыўся, ты дажа ці ні мыладзей ны якей год зы нас.

**Пораху не хватаець,** *цяп., пр. Пра нястачу рашучасці, цвёрдасці, вытрымкі.* Порыху ні хвытáіць пы-чылавечыску зьдзелыць што-небудзь. У яго ўсігда порыху ні хвытáла, калі што сюрьёзныя. *Зак.* **Пораху не хваціла,** *пр., буд.* Узя́ліся дужа гыря́ча, ды пылавіны дайшлі, а дальшы порыху ні хваці́ла. Ніхай бярецца, толька ў яго порыху ні хваціць, ён так: успы́хнуў, зыгареўся і тут жа патух.

**Порціць кроў.** *Рабіць непрыемнасці.* Табе, знаць, нырáвіцца порціць ім кроў. Ты толька порціш сабе кроў, большы нічога. *Зак.* **Папорціць кроў.** Папорціў ён мне кроў, ніхай яго двынáццыць возьміць. *Узмацн.* **Перапорціць кроў.** Адным толька ныдыідáньнім піряпорцюць кроў, што ат усяго рукі атрясеш. *Законч.* **Адпорціць кроў.** А яны тыкі атпорцілі Пуўлюку кроў, дыпікáлі ладна. *Працягл.-фінальн.* **Напорціць** (дапорціць) **кроў.** Ета Мархва напорціла яму кроў, ны кáжным шагу́ дыпікáла, а ён як сь сябе ні выскáкывыў. Дапорціш ты яму кроў, возьміцца ён зы цябе.

**Порціць нервы.** *Пастаянна злаваць, злавацца.* Ні нада порціць нервы, пысядзі і ўспакойся. *Зак.* **Папорціць нервы.** Сямён папорціў Гаўрілу нервы, хваціла таму, ны кажным шагу пыткáлывыў. *Узмацн.* **Перапорціць нервы.** Ну і што толку будзіць, піряпорціця нервы і на етым кончыцца. *Законч.* **Адпорціць нервы.** Зы такоя ўремя атпорціў ім нервы, яны ўжо рáды-рады, што паехыў. *Працягл.-фінальн.* **Напорціць** (дапорціць) **нервы.** Даслýжыцца, напорціць нервы, прыздрáўлю хырашо. Дапорціў нервы, што сымаго прывадзілі с пачотым.

**Порціць** [усю] **абедню,** *звыч. гумар. Разбураць замыслы.* Ай, нашто ўжо ты порціш ім абедню. Ета ім порціць усю абедню, каб ні пріехыў Іван, ім ба куды лучччы було. *Зак.* **Спорціць** (папорціць) [усю] **абедню.** Як жа спорціў нам абедню сь семім етый дождж. Ты зыя́віська, дык усю абедню спорціш. Твыя цётычка папорціла нам усю абедню. *Непаўн.* **Падпорціць** [усю] **абедню.** І ты зна́іш, што ім патпорціла абедню? — бызáр. Скáжыш, дык можыш патпорціць усю абедню. *Узмацн.* **Перапорціць** [усю] **абедню.** Увалíліся кýчыю, піряпорцілі ім абедню. Усю абедню піряпорціла Райка, каб прумуўчáла, і ўсё абыйшлося б.

**После дождджыка ў чацверг,** *жарт. Невядома калі.* Ён падойдзіць,— посьлі дождджыка ў чацьверьг. Посьлі дождджыка ў чацьверьг кушучок пачы́ніць.

**Потам і кроўю.** *Вельмі цяжкай працай (набыць).* Мы потым і кроўю ету хáччыну нубувáлі. У нас усё потым і кроўю заслýжына.

**Пот выціраць.** *Рабіць перадышку ў цяжкай працы.* Мы брáлі ні так, як вы, мы, можа, за ўвесь дзень адзін раз пот выцірáлі. *Зак.* **Пот выцерць** (абцерць). Відзіш, ікая рукá, кожа чуць пудунýта, а работыю — пот вы́цірць некылі. Пыдажджы́ ты мінутку, дай хуць пот абатрём.

**Поўзаць на пузе** (брухе), *іран. Прыніжацца дагаджаючы.* Другому дык ба сты́дна було так поўзыць на пýзі, як ты поўзыіш пірід Мікітывымі. Усё поўзыіць на брю́хі, дыгадзíць хочыць. *Пачын.* **Запоўзаць на пузе** (брухе). Як жа Ляксей запоўзыў на пузі пірід нычáльствым! Толька зыя́віцца стыршынá, узноў запоўзыіць піряд ім на брюхі. *Узмацн.* **Папоўзаць на пузе** (брухе).

Папоўзылі на пу́зі, чаго там гывары́ць, ці людзі сьляпэя, ня ві́дзюць. Ішчэ папоўзыіць на брюхі. *Абмеж.* **Прапоўзаць на пузе** (брухе). Ну што, і прапоўзыў на пузі пірід Мірянком. Прапоўзыіць на брюхі, а чаго ты яшчэ ат яго хочыш. *Законч.* **Адпоўзаць на пузе** (брухе). Атпоўзылі на пузі дык атпоўзылі, аж глядзець було гі́дка. Ці вы атпоўзылі на брю́ху, ці ўзноў будзіця зад ліза́ць. *Працягл.-фінальн.* **Напоўзацца** (дапоўзацца) **на пузе** (брухе). Пірят кім ты толька ні напоўзыўся на пузі. Хва́ціць зь яго, напоўзыўся на брюху. Дапоўзыўся на пузі, за нешта ні пыла́дзілі і лаюць. Дапоўзыіцца на брюхі, што ўсе кругом бу́дуць рігыта́ць.

**Поўзаць на чацвярэньках** (карачках), *іран., рэдкаўж. Вельмі прыніжацца, дагаджаць.* Поўзыць ны чыцьвяренькых Мікілаю ні ўпірьвіну́. Дужа праці́ўна глядзець, як яны поўзыюць ны кыра́чкых пііріц свыта́мі. *Узмацн.* **Папоўзаць на чацвярэньках** (карачках). Сколька яны папоўзылі ны чыцьвяренькых,— во была ўказэя. Ім нядоўга папоўзыць ны кырачкых, яны ўмеюць дыбіва́цца свайго, — ні так, дык етык. *Пачын.* **Запоўзаць на чацвярэньках** (карачках). Нідырма́ запоўзылі ны чыцьвяренькых, нешта чуюць зы сабою. Васіль нічога, умеіць дзіржацца, а тэя запоўзыюць ны кыра́чкых. *Законч.* **Адпоўзаць на чацвярэньках** (карачках). Атпоўзылі яны ны чыцьвяренькых ла́дныга,— быя́ліся ж дужа. За ўсё атпоўзылі ны кырачкых, і то яшчэ ім лёхка абыйшлося. *Працягл.-фінальн.* **Напоўзацца на чацвярэньках** (карачках). Напоўзыліся ны кыра́чкых дык напоўзыліся, і поўзыць ужо большы некуды.

**Поўзаць са смеху** (со смеху). *Смяяцца да знямогі.* Як рыска́зыіць Шурка, то ўсе поўзыюць са сьмеху. Каб ты сам паслу́хыў, то поўзыў ба со сьміху. *Пачын.* **Папоўзць са смеху** (со смеху). Бу́хнуў пры Ягора зяцікыга, дык мы пряма пыпаўзьлі́ са сьмеху. Мы сядзелі, ну, сьмі́яліся, а Коля ажно папоўз со сьміху. *Працягл.-фінальн.* **Напоўзацца са смеху** (со смеху). І вы б напоўзыліся са сьмеху, каб такоя паслу́хылі. Пайдзі́ця, со сьміху напоўзыіціся. *Гл.* В а л я ц ц а   с о   с м е х у.

**Поўная чаша,** *запаз. Пра вялікі дастатак, багацце.* Смыляк рузбудува́ўся — піцісьценка, круглый двор, у яго цяпер поўныя чаша.

**Поўный** (повен) **рот.** *Многа (турбот, клопатаў).* I заботы, і біспакойства поўный рот. Дзялоў повін рот, што ты хочыш, куды ня кінься, дык адна. Хлапот повін рот. Забот повін рот.

**Прабіваць дарогу** (пуць). *Дабівацца поспехаў у жыцці значнымі намаганнямі.* Надзеіцца ны каго-то — ета плоха, нада сымаму́ дарогу прыбіва́ць. А ты ду́мыіш лёхка прыбіваць пуць аднаму. *Зак.* **Прабіць дарогу** (пуць). Ні ны каго ні надзеіўся, сам прабіў дарогу. Яны скора прабілі сабе пуць. *Узмацн.* **Папрабіваць** (папрабіць) **дарогу** (пуць). Мархвіны хлопцы пыпрыбіва́лі сабе дарогу. Зы вас ніхто ні пыпрыбіва́іць пуць. Яны прыспалі́тыя, пыпраб'ю́ць дарогу. Айдзе тыя чыплаву́хія пыпраб'юць пуць. *Працягл.-фінальн.* **Напрабіваць дарогу** (пуць). Найшоў чорта, ныпрыбіва́іць ён дарогу і сабе, і каму-небудзь. Адзін ужо ныпрыбіва́ў пуць, сядзі́ць у ба́цькі на шыі.

**Праваліцца скрозь донную** (зямлю), *неадабр. Згінуць, знікнуць недасягальна.* Прывалі́ся ты скрозь донныю і з быга́ствым сы сваім і са ўсім. Ніхай ён прыва́ліцца скрозь зямлю. Усё дно як скрозь зямлю прываліўся, німа і німа. *Незак., рэдкаўж.* **Праваліваццa скрозь донную** (зямлю). Ці ён скрозь донныю прыва́ліiцца, ці што, хто ж етыя круцялькі́ дакру́ціць. Як скрозь зямлю прываліiцца ма́ліц етый. *Узмацн.* **Паправаліваццa** (паправаліцца) **скрозь донную** (зямлю). Во, знаць, яны сяньня скрозь донныю пыпрыва́лівыліся. Нійначы, што скрозь зямлю пыпрыва́лівыліся. Пойдуць і як скрозь зямлю пыпрываліюцца. Пашлі́ і як скрозь донныю пыпрывалі́ліся. Ну, ні пыпрываліліся ж яны скрозь зямлю, нейдзі ж ціга́юцца.

**Правая рука.** *Першы памочнік.* Кыльчанок у яго даўно пра́выя рука́. Ого, як узьня́ўся, стаў правыя рука у брігадзі́ра.

**Правесць і вывесць,** *рэдкаўж. Падмануць са спрытам.* Ты мала зна́іш Якыва, ён любога прывядзець і вы́відзіць.

**Праглаціць пілюлю.** *Знесці крыўду, знявагу.* А што ён зь Якывым зьдзелыіць, прыглыці́ў пілю́лю і ўсё.

**Праглаціць язык.** 1. *Змоўкнуць.* Кырняёнык толька пыглядзеў у яго бок, дык зразу і язык прыглыці́ў.

2. *Адчуць выключны смак.* Ты паспробый толька адну ложку, язык праглоціш. Прыглыцíў ба язык, настолька смашна.

**Прагледзець** (праглядзець) **вочы.** *Углядацца доўга, з нецярпеннем.* Прагледзіла вочы, ждáўшы вас, што йта вы так задзержывыіціся. Мы даўно вочы прыглядзелі, айдзе яны маглі пыдзівáцца. *Узмацн.* **Папрагледзець** (папраглядзець) **вочы.** Яны вочы пыпрагледзілі зы такоя ўремя, едзьця скарей. Пыпрыглядзелі ўсе вочы, пымінýтна выскáкывылі: ці ня йдуць.

**Прадаваць дрыжыкі.** *Трэсціся ад холаду.* Надзенісься так, дык будзіш стыяць і прыдывáць дры́жыкі, як нада ныдзівáйся. *Узмацн.* **Папрадаваць дрыжыкі.** Галы́м галенічкія вы́прывіліся, што іх там будзіць грець, пыпрыдаю́ць дрыжыкі. *Працягл.-фінальн.* **Напрадаваць дрыжыкі.** Ныпрыдаець дрыжыкі, што пытхвáціць калі ўспаленія, тады пыкычáіцца.

**Прадажная душа,** *асудж. Здраднік.* Прыдáжныя душá твой дзя́дзічка, ці ты ня помніш, як ён немцым угыждáў. Ня тэй прыдажныя душа, ны каго ты дýмыіш.

**Прадзіраць** (праціраць) **вочы** (зенкі, бельмы), *груб. Прачынацца, уставаць.* Нада вочы прыдзірáць, а ні вылынгáцца. Во, чуць вочы прыдзірáюць. Ці ні пырá прыдзіраць зенкі? Прыдзірáй зенкі, скот пыра гнаць. Доўга прыдзірáіць бельмы. Ня хочыцца бельмы прыдзіраць посьлі свáдзьбы. Прыцірáй вочы, сонца ўжо нівісь айдзе. Скажы́, каб вочы прыціраў, ніхай ня жджэць майго буджэньня. Калі ня хочыць прыціраць зенкі, дык ніхай і к сталý ні патходзіць. Ня дужа хочыць прыціраць бельмы. Прыцірáйці-ка бельмы, ато рызьляглíся, што паны якея. *Зак.* **Прадраць** (працерць) **вочы** (зенкі, бельмы). Чуць-чуць прыдрáў вочы, брю́знуў пасьці сýдкі. Ці скора ён тама вочы прыдзярець? Ну што, прыдраў зенкі, можа пыкармíць цябе? Ніяк ня можыць прыдраць зенкі. Вун ён, толька што бельмы прыдрáў. Будзí, ніхай пратрець вочы ды за стол садзíцца. Ніяк ня можыць працерць зенкі. Працёр зенкі, січас прíдзіць. Я прішоў, дык ён ішчэ бельмы ні працёр. *Узмацн.* **Папрадзіраць** (папраціраць, папралупляць, папралупліваць, папралупіць) **вочы** (зенкі, бельмы). Ці пыпрыдзірáлі яны тама вочы? Ну, калі вы пыпрыдзірáіця зенкі?

Пыпрыдзіра́юць бельмы і за хлеб, дайжа ні спыласну́цца. А ну іх, вун ішчо ні пасьпелі вочы пыпрыціра́ць. Сколька ж нада ждаць, пакуля яны зенкі пыпрыціра́юць. Пыра бельмы пыпрыціра́ць, абеды даўно ны дваре. Калі ж яны вочы пупрулупля́юць, усе ужо даўно ны рабоці. Глянь-ка, можа пупрулуплялі зенкі. К вечыру толька бельмы пупрулупля́лі. Ні дажджэсься, калі яны вочы пыпралу́плівыюць. Многа ўремя нада ім зенкі пыпралуплівыць. За двоя судык чуць пыпралуплівылі бельмы. Як пачу́лі, што заўтрік гатоў, пупрулупі́лі вочы. А ніхай яны і саўсім ні пыпралупюць зенкі, плакыць я дужа стану. Пыпралупюць бельмы і зразу зыпішчэлі. *Гл.* В о ч ы п р а л у п і ц ь.

**Прадуўная шэльма,** *запаз. Хітрэц, прайдоха.* Ні глядзі́ на від, што нейкій уродзі рысьця́пістый, ета тыкая прудуўна́я шэльма, што дзяржыся, а к песьнім якей прікла́дный!

**Праехаць** (праехацца) **на вараных,** *іран., запаз. Не быць абраным на пасаду.* Праехыў ны выраны́х ні зря, нада було зь людзямі як зь людзямі быць. Праехыўся ны выраных, пыглядзі́м, як ён спа́шыць с усімі, за́гыдзя знаю, што носым закру́ціць.

**Пра запас.** *На ўсякі выпадак.* Вазьмі́ пры зыпа́с сірячок, мала што можыць быць, хма́ріць дужа. Купіў пры зыпас, ніхай ляжы́ць, есьць жа ня просіць.

**Пракаціць на вараных,** *запаз. Не абраць на пасаду.* Ён дажа нікыда́ паду́мыць ня мог, што яго так пракоцюць ны выраны́х. *Множн.* **Папракаціць на вараных.** С трескым папрыкаці́лі ны выраных, ні адзін чылавек за іх рукі ні пыдня́ў.

**Пракладаць** (пракладываць) **след.** *Пачынаць першым, паказваць прыклад.* Ты ста́ршый, ты прыклыда́й сьлед, пыка́зывый ім, як нада, гывари́, як ні нада дзелыць. Цяперя ім Санька прыкла́дывыіць сьлед і вухрі́ць троху. *Зак.* **Пракласць** (пралажыць) **след.** Дужа б яны самі што даду́мыліся, ета Стах прыкла́ў сьлед за Сож. Хто іх навучы́ць, хто ім праложыць сьлед,— самі к чаму прілума́юцца, дык прілумаюцца троху.

**Праліваць кроў.** 1. *Пакутваць ад ранення на вайне або гінуць.* Ці твае толька адны прыліва́лі кроў? Вы кроў так ні прыліва́лі, як мы. 2. *Займацца бандытызмам, за-*

*бойствам.* Тады, посьлі тэя вайны, імпірілісьцічыскія, нейкыя ба́нда была́, хадзілі, прыліва́лі кроў. *Зак.* **Праліць кроў.** 1. Праліў кроў — ета плоха, ну хуць жа жывым вярну́ўся. Сколька народухну прыліло кроў, ета ж каб уместа сыбра́ў — цэлыя моря. 2. Прылілі́ нявінную кроў, што ім цяперіцька зьдзелыіш. За што яны прылілі Высілёву кроў? — нізавошта. *Узмацн.* **Папраліваць кроў.** 1. Пыпрыліва́лі людзі кроў, ой, пыпрылівалі. 2. Сколька ён с тымі супуста́тымі, зь немцымі, пыпрыліваў людзкую кроў. *Працягл.-фінальн.* **Напраліваць кроў.** 1. Дужа ён ныпрыліва́ў кроў, зу чужы́мі сьпінымі сядзеў. 2. Ныпрылівалі кроў, хваціць зь іх. *Гл.* Л і ц ь к р о ў.

**Пралязаць** (пралазіць) **пішчом,** *неадабр. Настырна дабівацца, падладжвацца.* Куды нада, куды ні нада — усю́дых прылізаіць пішчом. Аўсей пішчом прыла́зіў кы ўсякыму нычальніку. *Зак.* **Пралезць пішчом.** Мала ты знаіш Пітрыка, ён пралезіць пішчом, куды ты дайжа і ўва сьне ні сасьніш. *Узмацн.* **Папралязаць** (папралазіць) **пішчом.** Такея прыспалітыя, пыпрылізáлі пішчом усюдых. Яны ня тоя, што ты, яны пішчом пыпрыла́зюць. *Гл.* Л е з ц ь п і ш ч о м.

**Прамачыць** (прапаласкаць) **горла** (глотку). *Выпіць вады ад смагі, выпіць гарэлкі.* Схадзі, вады прінясі, прымачы́ць горла ні ка́плі німа. Яму толька дай якея гарі прымачыць глотку, ды каб пабольшы. Ну рад, Аксіньня дыла нечыга, прыпыласка́ў горла. Як глотку прыпалошчуць, тады рады, рызгыва́ріюць, сьмяюцца, аж зыліва́юцца.

**Прападаць пропадам,** *груб. Гінуць, знішчацца зусім, канчаткова.* Прыпыда́й пропыдым, дык ні гля́ніць у тэй бок, айдзе ты кавэнчысься. *Зак.* **Прапасць пропадам.** Прыпа́лі пропыдым, туды ім і дарога. Пропыдым прыпадзеш с такім мужуком. *Узмацн.* **Папрападаць пропадам.** Пыпрыпыда́йця вы пропыдым, такея нісызна́цільныя.

**Прападаць** (цярацца) **з віду.** *Знікаць з вачэй, з поля зроку.* Сколька раз ён прыпыда́ў зь віду, а тады, глядзіш, неткуль пыд'явіцца. Ніхай ні ціряіцца зь віду, лавіць яго ніхто ня будзіць. *Зак.* **Прапасць** (пацярацца) **з віду.** Пасьледнія гады́ неік прыпаў зь віду, ні знаю, айдзе ён. Асташонык даўно пыціря́ўся зь віду. *Узмацн.* **Папрападаць** (расцярацца, парасцярацца) **з віду.** Пыпрыпаду́ць

зь віду, ніхто і ня ўспомніць, што былі тут такея. Яны неік ні так даўно рысьціряліся зь віду. Я ні знаю, айдзе яны, як то пырысьціряліся зь віду, спрасі. кылі хочыш, у Гаўріка.

**Прапускаць міма вушэй.** *Не слухаць, не звяртаць увагі на тое, што гаворацъ.* Што б яны ні гыварілі, ты прупускáй міма вушэй. *Зак.* **Прапусціць міма вушэй.** Нічога міма вушэй ні прапýсьціць, усё паслýхыіць. Нешта ён гываріў пры Высіля, неік я прупусьціў міма вушэй. *Узмацн.* **Папрапускаць міма вушэй.** Зря вы пупрупускáлі міма вушэй, ён што-то іньцірэсныя гываріў.

**Прапускаць міма рук.** *Не выкарыстоўваць з-за абыякавасці.* Букулёнык нічога ні прупускаіць міма рук. *Зак.* **Прапусціць міма рук.** Хто, Снычонык табе што прапýсьціць міма рук? — ня етый ба быў Снычонык. Як жа ета яны прупусьцілі міма рук, аж ня веріцца.

**Прапускаць скрозь пальцы** (паміж (між) пальцаў (пальцамі)). *Не выкарыстоўваць з-за абыякавасці.* Ай, нытрáсна ён прупускáіць скрозь пáльцы ета. Сколька чаго Лёнька прупускаў паміж пальцыў! Ну, а што я прупускаю паміж пальцымі. Ён ні хацеў між пальцыў прупускаць сянцо такоя. Ні нада було прупускаць між пальцымі. *Зак.* **Прапусціць скрозь пальцы** (паміж (між) пальцаў (пальцамі)). Як жа ён прупусьціў скрозь пальцы етыя паплеціны? Прупусьціў паміж пáльцыў із-зы сваe хылáтнысьці. Прапýсьціць паміж пальцымі, а тады войкыіць. Ты так ніразýмна прупусьціў на етый раз усё між пальцыў. Узноў Домна прапусьціць ета між пальцымі. *Параўн.* Плысць паміж пальцамі.

**Прараджаць зубы,** *груб. Біць па твары.* Зýбы нада прыріджáць хрыбряцý такому, тады ён пыспыкайнеіць. *Зак.* **Прарадзіць зубы.** Даўно хочыць, каб яму прырядзілі зубы, ніпапýшчы Васіль кашоўскій.

**Прасіцца на язык.** *Быць гатовым да выказвання.* Ну рыскажы, раз дужа просіцца ны язык. Я віджу, што ў яго нешта просіцца ны язык.

**Прасіць кашы** (есць), *жарт. Патрабаваць рамонту (пра абутак, адзенне).* Нясі-ка ты сваe чобыты к сапожніку, яны даўно кáшы просюць. Тваe хромывінькія ішчэ ўвосінь кашы прасілі. Нядзелю пынасіў і ўжо есьць просюць тýхлі. *Зак.* **Папрасіць кашы** (есць). У цябе любáя,

самыя крепкыя вобуў посьлі первыя вічарінкі кашы папросіць. Што, і твыя абноўка кашы пыпрасіла? Я знаю етый мыцірія́л: чыряс трі дні руба́шка есьць папросіць.

**Прасіць піць.** *Звяртацца за літасцю.* Доўга дужа я ні стану цябе ўгыва́рівыць, есьлі пріцісну во так во, будзіш прасіць піць. *Зак.* **Папрасіць піць.** Як я вазьму́ся, папросіш піць, яй-богу папросіш. Што, пыпрасілі піць, пыхрабріліся?

**Праслухаць** [усе] **вушы.** *Вельмі доўга чакаць прыслухоўваючыся.* Я стыя́ла пад ліпкымі, вушы праслу́хыла, і нічога ня чутна. Праслухылі ўсе вушы, пакуля ты голыс пыда́ў.

**Прасушываць вочы.** *Пераставаць п'янстваваць.* Адзін глыдаміра, што ні пыдбярець, чаго зьесьць, а другей, ты спрасі, калі вочы прасу́шывыіць. *Зак.* **Прасушыць вочы.** Зы гарелкыю некылі прусушы́ць вочы. *Узмацн.* **Папрасушываць** (папрасушыць) **вочы.** Ніхай ба хуць вочы пыпрасу́шывылі. Ці пыпрасу́шыця вы калі вочы? *Працягл.-фінальн.* **Напрасушываць вочы.** Ныпрасу́шыіць вочы, самый тэй, што ўніміцца з гарелкыю, ні ўняўся ён і ня ўніміцца.

**Прасцей** (прошчы) **паранай рэпы,** *гумар. Зусім проста.* Я ду́мыў, як тут дыбра́цца, а тута акыза́лыся прасьцей па́ріныя репы. Такому прісы́пчыку што хочыш атпаліць прошчы паріный репы.

**Прасцей** (прошчы) **простага** (прастога). *Занадта проста.* Што ты глядзіш, тута ўсё прасьцей простыга. Тваю зыда́чку ряшы́ць прасьцей прастога, а ты ду́мыіш. Тута йціць прошчы простыга: ны быльшак вы́скычыў — во й Зяціца. Умеючы і сывяточыну разьбіць прошчы прастога. Яму жаніцца і рыжжаніцца прошчы прастога.

**Пра сябе.** 1. *Ціха.* Тая неўдыльная нешта пышыпта́ла пры сябе і пышла. 2. *Мысленна, у думках.* Я то пры сябе і паду́мыў, што ні пасьпеім. Гаворіць адно, а пры сябе думыіць саўсім другоя.

**Праўдамі і няпраўдамі.** *Любымі сродкамі.* Сындыбёнык ня ўпу́сьціць, пра́ўдымі і ніпра́ўдымі свайго даб'ецца. Праўдымі і ніпраўдымі дзействыіць.

**Прахадзіць агні і воды** [і медныя трубы]. *Трапляць у складаныя абставіны.* Зьмітрок ні раз прыхадзіў агні

і воды. Сколька разоў яны прыхадзілі агні, воды і медныя тру́бы. *Зак.* **Прайціць агні і воды** [і медныя трубы]. Мне нічога ні стра́шна, я прайшоў агні і воды. Што вы, што відзілі, мы прайшлі агні, воды і медныя трубы. *Узмацн.* **Папрахадзіць агні і воды** [і медныя трубы]. Як паехылі, яны агні і воды пыпрыхадзілі. Ніхай трошку пыдрасту́ць, яны пыпраходзюць агні і воды і медныя трубы. Пыпрыхадзілі вы агні і воды, сядзелі айдзе, як мы́шы, і піснуць быя́ліся. Знаю я, як пыпрыхадзіў ён агні і воды і медныя трубы ў прidáчу.

**Прахадзіць міма.** *Не звяртаць увагі.* Чаго ж ты праходзіш міма, чаго ж ты хуць ня ту́кніш ні ра́зу, каб уня́ўся. *Зак.* **Прайціць міма.** Так, усе прайшлі міма, ён і апусьці́ўся. *Працягл.-фінальн.* **Напрахадзіць міма.** Нypраходзіця міма, хва́ціціся, чаго ні глядзелі, ды позна можыць быць. Ну во й ныпрыхадзілі міма, хуць плач цяперя, хуць скач, дык ні паможыш.

**Прахадзіць цераз** (чэраз) **рукі.** *Часова быць у карыстанні.* Многа ўсяго ў Кузьмы праходзіць ціряз рукі. У іх многа чаго прыхадзіла чыряз ру́кі, толька так, усё попусту. *Зак.* **Прайціць цераз** (чэраз) **рукі.** Мала што прайшло ціряз рукі, толку ж ніякыга. Прайшло жыта ціряз рукі, спла́віць ні пасьпелі. Цяперя чыріз яго рукі бальшоя быга́ства пройдзіць. *Узмацн.* **Папрахадзіць цераз** (чэраз) **рукі.** У Клімянкоў ла́дныга пыпрыхадзіла ціряз рукі. Што толку, пыпрыхадзіла столька чыряз рукі, а нічога ні задзержылыся.

**Пра чорный дзень,** *рэдкаўж. На непрадбачаны цяжкі час.* Усё пра чорный дзень зыпа́сіцца. Цяперя пра чорный дзень, верна, ўжо ніхто ні аткла́дыіць. *Гл.* Н а ч о р н ы й д з е н ь.

**Прашчацца з белым светам,** *звыч. жарт. Рыхтавацца памерці.* Ну й што, калі ён кінуў, дык мне ўжо зь белым сьветым прышча́цца? Хут ты зь белым сьветым прышча́йся. *Зак.* **Прасціцца** (папрашчацца, распрашчацца) **з белым светам.** А што ж ты ду́мыіш, чуць ні прасьці́ўся зь белым сьветым. Пыпрышча́йся зь белым сьветым, перш чым туды пыка́зывыцца. Чылавек ужо рыспрышчаўся зь белым сьветым, а ты вылакеш яго ны сва́дьбу.

**Проста так.** *Без папярэдняй задумы, незнарок.* Я ж скызаў проста так, пры цябе я дайжа і ні паду́мыў. Проста так махну́ў, а відзіш што пулучы́лыся.

**Прыбаўляць па рэшату** (рэшатам). *Пераўвялічваць да хлусні.* Ні сьцісьня́іцца прібыўля́ць па решыту. Ты паслу́хыў ба, як ён решытым прібуўля́іць. *Зак.* **Прыбавіць па рэшату** (рэшатам). Прібáвіць па решыту ён умеіць. У любым дзелі ні пысьцісьня́іцца, прібавіць решытым. *Працягл.-фінальн.* **Напрыбаўляць па рэшату** (рэшатам). Ныпрібуўля́іць ён мне па решыту лухту́ сваю. Ну што, ныпрібыўля́ў решытым басьні?

**Прыбіраць к рукам.** *Авалодваць чужым, агульным або проста красці.* За імі нічога доўга ні пыляжы́ць, усё прібірáюць к рукáм. *Зак.* **Прыбраць к рукам.** Па-мойму, Зыйчыняты прібрáлі к рукам, яны тута прігліда́ліся нечыга. *Узмацн.* **Папрыбіраць** (папрыбраць) **к рукам.** Толька увідзюць, скора пыпрыбірáюць к рукам. Ім нядоўга к рукам пыпрібрáць твае прічындáлы. *Працягл.-фінильн.* **Напрыбіраць к рукам.** Калі-небудзь ныпрібірáіць к рукам, палу́чыць сваё. Што, ныпрібіраў к рукам, можа, цяперя атвыкніць.

**Прывадзіць у божаскій** (божжый) **від.** *Даводзіць да прыстойнага стану.* Зыявíўся ў лахмоцьціх, зыкарелый,— двоя судык у божыскій від прівадзíла. Ні так то яго лёхка прівадзіць у божжый від. Ні табе іх у божжый від прівадзіць. *Зак.* **Прывесць у божаскій** (божжый) **від.** Цябе прівесьць у божыскій від нада цярьпеньня ймець. Наму́чылыся, пакуля прівілá там усё у божжый від. *Узмацн.* **Папрывадзіць** (папрывесць) **у божаскій** (божжый) **від.** Сколька я нывазілыся, пакуль троху пыпрівадзíла іх у божыскій від. Пыпрівадзіць етыя пуні ў божжый від нубуйту́ісься. Каб найшоўся хто, пыпрівёў у божыскій від, і яны б ну людзей былі паходжы. Цэлыя нядзеля пышла, пакуля я іх у божжый від пыпрівілá троху. *Працягл.-фінальн.* **Напрывадзіць у божаскій** (божжый) **від.** Іна ныпріводзіць у божыскій від, так ныпріводзіць, што й ні пызнаіця. Во й мы відзім, што ныпрівадзілі ў божжый від.

**Прывадзіць у сябе.** *Выводзіць з стану непрытомнасці, разгубленасці.* Стáлі прівадзíць у сябе, чуць аткáілі. *Зак.* **Прывесць у сябе.** Мы ўжо ду́мылі, саўсім ня жыў, не, тады сталі вады дывáць, тресьць, троху прівялí ў сябе. Прівядзí ты ў сябе Марью, ні знаіць, куды кінуцца. *Узмацн.* **Папрывадзіць** (папрывесць) **у сябе.** Людзі скора набеглі, ныпрівадзíлі ў сябе, ато б сьмерць, і гыва-

ріць нечыга. А іх Матруніны хлопцы пыпрівялі ў сябе. *Працягл.-фінальн.* **Напрывадзіць у сябе.** Глядзі, ён ныпріводзіць у сябе, што зальлець саўсім і большы нічога.

**Пры грашах.** *У стане забяспечанасці сродкамі.* Цяперя ён прі грышах, пацьцёлка прыдаў, толька етыя грошы доўга ні набудуць. Раз прі грышах, засьвішчыць, пойдзіць гуляць.

**Прыдаваць духу,** *жарт. Падтрымліваць, натхняць падтрымкай.* Ты дужа бодзір, ці ні Мыланка табе прідаець духу. Сядзіць ныўзлакоткых, прідаець духу. *Зак.* **Прыдаць духу.** Хто йта яму так прідаў духу. Вун як прідáлі духу, ідзець бодрый, важный, кіім носа ні дыстáніш. *Гл.* Даваць духу.

**Прыдаваць зямле,** *узвыш. Хаваць з вялікім жалем.* Ліжáла тыкая сьвежыя: як жывáя, ажно страшна було прідывáць зямле. *Зак.* **Прыдаць зямле.** Такога мушчы́нішчу прідáць зямле,— як тоя серца вы́дзіржыла, ні рызырвáлыся на месьці. *Узмацн.-множн.* **Папрыдаваць зямле.** Ну, што, ныплáкыліся, навы́ліся, пылажы́лі ря́дым, пыпрідывáлі зямле.

**Прыдзелаць** (прычапіць) **пуза** (бруха). *Зрабіць цяжарнай.* Маркыў сярэдній прідзелыў ёй пуза, мáтка вы́буркнулыся. Ну ўжо як прідзелыюць брюха, тады ўдвору ні пыкáзыйся, ні страмі мяне. Дабегыісься, дзеўка, прічэпюць пуза, тады пызнáіш, сгрáму ні аббяресься. Ходзіць, прічапілі брюха, вот-вот родзіць.

**Прыдзержываць у руках.** *Імкнуцца трымаць у строгасці.* Прідзержывый у руках, пакуль можна, каб саўсім ні руспусьціўся. *Зак.* **Прыдзяржаць** (прыдзержаць) **у руках.** Каб ты летыся прідзіржáў яго ў руках, ён ба і сёліта ні адурювáў. Некыму прідзержыць у руках, ат етыга і распу́ста пышлá. *Гл.* Дзяржаць у руках.

**Прыдзержываць язык за зубамі** (на прывязі). *Прымоўчваць, каб не выдаць таямніцы; праяўляць асцярожнасць у выказванні.* А я дык дужа табе саветыю прідзержывыць язык зу зубáмі. Усё з-зы таго, што ні прідзержывыла язык на прівізі. *Зак.* **Прыдзержаць** (прыдзяржаць) **язык за зубамі** (на прывязі). Прідзержы язык зу зубамі, ато ён буўтáіцца у цябе, як у сыбáкі хвост. Нечыга чыпáцца, прідзержы язык на прівізі. Ні хацеў прідзіржáць язык зу зубáмі, дык во, пулучáй. Ого, прідзяр-

жы́ць іна табе язык на прівізі. *Непайн.* **Папрыдзержываць язык за зубамі** (на прывязі). Я дужа саветыю пыпрідзержывыць язык зу зубамі. *Працягл.-фінальн.* **Напрыдзержываць язык за зубамі.** Доўга ныпрідзержывыла язык зу зубамі, узноў трепліцца, як ні знаю хто. *Гл.* Дзяржаць язык за зубамі.

**Прыдзець каза да воза** (к возу), *буд., пр. Прадраканне неабходнасці звяртацца ў будучым з просьбамі, прадраканне пакорлівасці.* Ніхай пызыдаецца, насту́піць уремя, што прідзіць кыза́ да воза. Ві́дзіш, прішла кыза да воза. Ніхай, што січас храбрі́цца, скора яго хра́брысьць мінецца, ішчэ прідзіць кыза к возу. Як яно ні пулучы́лыся, дык прішла кыза к возу. *Нэзак., адзінк.* **Ідзець каза да воза** (к возу). Цяперь знаіш, чаго ідзець кыза да воза. Ага, ідзець кыза к возу, айдзе й гордысьць дзелыся, зьляцела.

**Прыжымаць к нохцю.** *Рашуча сунімаць.* Ня хочыцца толька пріжыма́ць к нохцю, ато б і ня пікнуў ба. *Зак.* **Прыжаць к нохцю.** Доўга ні ныба́лыіцца, пріжмець бацька к нохцю. Вот так пріжмём к нохцю і капец, дайжа знаць ніхто ня будзіць. *Узмацн.* **Папрыжымаць** (папрыжаць) **к нохцю.** Нада пыпріжыма́ць к нохцю, каб і голысу ні було чу́тна. Як пыпріжалі к нохцю, дык ні шылахну́цца. *Працягл.-фінальн.* **Напрыжымаць к нохцю.** Ты ўжо ныпріжыма́іш к нохцю, пріжыма́ньнік найшоўся, цябе як пужану́ць, места шукаць пыбягі́ш.

**Прыжымаць** (прыціскаць, прышчамляць, прышчэмліваць) **хвост.** *Рашуча абмяжоўваць у дзеяннях.* Яму пріжыма́юць хвост, ні даюць дужа рызма́хывыцца. Ста́лі пріціска́ць хвост, дык луччы стала, і ён пыцішэў. Нада хвост прішчымля́ць, і Стыхван зылатэй чылавек будзіць. Нада було раншы прішчэмлівыць ім хвост. *Зак.* **Прыжаць** (прыціснуць, прышчаміць) **хвост.** Чаго ж вы раншы ім хвост ні пріжа́лі? Да не, етый ня будзіць глядзець, пріці́сьніць хвост. Зна́йдзіцца хто-небудзь і яму хвост прішчэміць. *Узмацн.-множн.* **Папрыжымаць** (папрыціскаць, папрышчамляць, папрыжаць, папрыціснуць, папрышчаміць) **хвасты.** Есьлі пыпріжыма́ць хвасты́, то можа толк ішчэ якей і вы́йдзіць. Так пыпріціска́лі хвасты, што цішэй ці́хыга ста́лі. Хто-небудзь пыпрішчымля́іць етым мазу́рікым хвасты. Нябося ты, як пыпріжалі ім хвасты, дык саўсім другімі людзя́мі сталі. Я нікога ні

дыжыдала, адна пыпріціснула хвасты. Мала, відна, вам пыпрішчамілі хвасты. *Працягл.-фінальн.* **Напрыжымаць** (напрыціскаць, напрышчамляць) **хвост.** Ага, ныпріжымаў хвост, іна саўсім вы́йшла сь сябе, режыцца вун с ка́жнінькім як ны ныжа́х. Ці мы ні знаім, як яны ныпріціска́юць хвост, слова быяцца прыгываріць. Ныпрішчымля́ў ты ўжо хвост, нупужа́ў, як за́іц кабылу.

**Прыкарачываць язык,** *рэдкаўж. Крыху адвучваць балбатаць, плявузгаць.* Старэя, як былі жы́вы, троху прікыра́чывылі ім язык, а тутыцька саўсім руспусьціліся. *Зак.* **Прыкараціць язык.** Няўжэлі ты ня ўмеіш прікыраціць ёй язык?

**Прыкідаць** (прыкідываць) **слова.** *Клікаць дзеля ветлівасці на ўрачыстасць.* Што вы ні гываріця ны Мархву, а іна ўсігда прікіда́ла слова суседзім. Слова сяды-тады́ прікі́дывылі, толька було нешта ў іх такоя, нісуседзкыя. *Зак.* **Прыкінуць слова.** Пынас усігда, бувала, прікініць нам слова, як што якоя ў яго. Нада було і Праскоўіным слова прікінуць.

**Прыкладаць** (прыкладываць) **лапы,** *асудж. Мець дачыненне да несумленных учынкаў.* Мы самі чу́ствывылі, што тута твой сусед прікլы́даіць ла́пы. Прікладывыў лапы, нягож само дзелылыся. *Зак.* **Прыкласць** (прылажыць) **лапы.** К чаму хочыця лапы прікла́сьць сумеіць, старёнуш выля́ўся, дык нешта ня відна. Ён жа ня толька ў етым дзелі атлічы́ўся, ён і к Сямёніхіный траве прілажыў лапы.

**Прыкладаць** (прыкладываць) **рукі.** 1. *Добра працаваць, старацца.* Ня столька ён рукі пріклыдаў, сколька хвальбы́ вашыя. Каб вы так прікла́дывылі рукі, як Аўсей, саўсім другоя б дзела було. 2. *Мець дачыненне.* Тама й твой зяцёк пріклыдаў рукі, людзі знаюць. Як сьпеліся сь Пітрачонкым, дык разым прікладывылі рукі. *Зак.* **Прыкласць** (прылажыць) **рукі.** 1. Як пріклалі рукі, то й работа саўсім іна́чы пышла́. Вот відзіш, як прілажыў рукі, дык і ны пляцень пыглядзець толька. 2. Я і сам чу́ствыю, што тут Мыкарёнык пріклаў рукі. Можа ты й ні паверіш, а толька ён прілажыў тут рукі, і крепка прілажыў. *Узмацн.* **Папрыкладаць** (папрыкласць) **рукі.** 1. Каб рукі пыпріклыда́лі, хужы б ні було. Ета посьлі рукі пыпрікла́лі, а зразу і глядзець у тэй бок ні хацелі. 2. Ай, ба́бычкі, што вы гаворіця, каб яны ды рукі ні

пыпріклыда́лі. *Працягл.-фінальн.* **Напрыкладаць** (напрыкладываць) **рукі.** 1. Хва́цюць яны, ныпріклыда́юць рукі, дажджэсься ат такіх дзела. Многа ныпрікла́дывылі рукі, трі дні пыстыя́лі с тыпаром.

**Прыкладаць** (прыкладываць) **руку.** *Мець дачыненне.* Етых я ні знаю, ня буду гывары́ць, а твой ні раз пріклыда́ў руку́. Ціхінька-ціхінька, а прікла́дывылі руку. *Зак.* **Прыкласць** (прылажыць) **руку.** Пахожа, што й твае пріклалі руку, бязь іх ні абыйшлося. Ты ні ў век ні дыгыда́ісься, а я знаю, хто тут прілажыў руку.

**Прыкладаць** (прыкладываць) **сілу** (сілухну), *адз., мн. Цяжка працаваць.* А ты ду́мыіш, яны зря пріклыда́лі сі́лу. Пріклыдаў чылавек сі́лухну, а ўсё пашло ні зы паню́х тыба́кі. Нашто було такея сі́лы прікла́дывыць. Пріклaдывылі сілухны людзі, нада було столька пынастроіць. *Зак.* **Прыкласць** (прылажыць) **сілу** (сілухну). Прікладзі́-ка сілу і ты, можа ўдваіх судоліім. Пріклaдуць сілухну, дык спра́вюцца. Сілу прілажы́ць нада, каб усё ета пірівярну́ць. Надзейся на іх, яны пріложуць сілы. Еткыю сілухну прілажылі тута, столька бузува́ліся, ды, знаць, с са́мінькыга раньня ня еўшы. Я сам віджу, што на етым месьці яны прілажылі сілухну. *Узмацн.* **Папрыкладаць** (папрыкладываць) **сілу** (сілухну). Максімывы пыпріклыда́лі сілу здорыва. Ім прішлося пыпріклыдаць сі́лухну, само сабою усё ета ня дзелылыся, ні сытвыря́лыся. Пыпрікла́дывылі людзі сілухны божа мой сколька. *Працягл.-фінальн.* **Напрыкладаць** (напрыкладываць) **сілу.** Гывары́ ты, ныпріклыда́лі яны свае сілы,— яны глядзелі, каб хто за іх зьдзелыў. Ня дужа яны ныпрікла́дывыюць сілу, ты за іх ня бойся. *Парайн.* К л а с ц ь  с і л у.

**Прыкланяць** (прысланяць) **галаву.** *Знаходзіць прытулак.* У брата пріклыня́ла гылаву, куды ж ба я пышла к чужы́м людзя́м. Прі́слыня́лі гылаву ў Мары. *Зак.* **Прыкланіць** (прысланіць) **галаву.** Дыжыла́ся на сьвеці, што й гылаву прікланíць нейдзі. Пыдажджы́, быся́к, дырягочыш, к каму ты гылаву прі́слоніш, як аста́нісься адзін. *Працягл.-фінальн.* **Напрыкланяць** (напрысланяць) **галаву.** Дужа ў іх ні ныпріклыня́іш гылаву, усё коса глідзя́ць. Я ўжо знаю, як ныпрі́слыняіць у Пітрыка гылаву і сколька.

**Прыкусываць язык.** *Змаўкаць, замаўкаць.* Раншы ні знала, пы якой зямле ходзіць, а цяперя пріку́сыіць язык.

*Зак.* **Прыкусіць язык**. Як пымянýла цялёнычка Манькі ныга, прікусíў язык. *Узмацн.-множн.* **Папрыкусываць** (папрыкусіць) **языкі.** Ты ня ўмеіш зь імі толку даць, у мяне б зразу пыпрікýсывылі ізыкí. З Мацьвеім пыпрікýсюць ізыкі, тэй дужа ня будзіць угывáрівыць ды ўвішчаць.

**Прымяраць к сабе.** *Суадносіць з уласнымі меркаваннямі, поглядамі, разуменнем.* Часьцей нада пріміряць к сабе, што б ты́ на етым месьці гывapíў. *Зак.* **Прымерыць к сабе.** Прімерь яе кожу к сабе, пызнáіш, як смашна астáцца ўдавою у дваццаць пяць гадоў.

**Прынесць ляльку,** *іран. Нарадзіць без шлюбу.* Ну што, прінісла́ ля́льку, маткі з бацькыю пазор, а што зьдзелыіш, на вýліцу ня вы́кініш, нада гудувáць. *Незак., рэдкаўж.* **Прынасіць ляльку.** Ны каго ты абіжáісься, було ні прінасíць ляльку. Мае так ні прінасíлі лялік, як твыя. *Узмацн.-шматкр.* **Папрынасіць** (папрынесць) **лялек.** У вас толька гýлі на ўме, можа яшчэ на ўме лялік пыпрінасíць. Будзіш глядзець людзям у вочы, як лялік пыпрінясýць.

**Прынесць пуза** (бруха), *асудж. Зацяжарыць без шлюбу.* Каб мыя так прінісла́ пýза, я б ні знаю што зьдзелыла. Тыкая ціхыя была, спакойныя і на табе — прінісла брю́ха. *Незак., рэдкаўж.* **Прынасіць пуза** (бруха). У наша ўремя так пузы ні прінасíлі, ета цяпер пышлá распýста. Твыя дычкá брю́ха прінасíла, а мне стыдзíцца нечыга. *Узмацн.-шматкр.* **Папрынасіць** (папрынесць) **пузы** (брухі). Ты на іх любуйся, а яны табе пýзы пыпріносюць. Адна зу другою тэя чарёпкі пыпрінасíлі брю́хі. У дваре сідзя́ць, пыпрінясьлí пузы.

**Прынесць у пастанні,** *асудж. Нарадзіць без шлюбу.* Пастой, ні хвалíся, можа й свыя ішчэ прінясець у пыстáньні. *Незак., рэдкаўж.* **Прынасіць у пастанні.** І ў пыстáньні прінасíла, і аборты дзелыла, бацька з маткыю нугурювáліся зь ёю. *Узмацн.-множн.* **Папрынасіць** (папрынесць) **у пастанні.** Перш адна, асьлед другая пыпрінасíлі ў пыстаньні, што ты зь імі зьдзелыіш. Як пыпрінясýць у пыстáньніх, позна будзіць вохыць, січас нувучáй, як у ря́мкых дзіржáцца.

**Прынесць у пастанніку,** *іран. Нарадзіць без шлюбу.* А ці ні твыя ета дзевычка дужа спакойнінькыя ў пы-

ста́ньніку прінісла́? *Незак., рэдкаўж.* **Прынасіць у пастанніку.** Прінасі́лі ў пыста́ньніку, чаго там богу гряшы́ць. *Узмацн.-множн.* **Папрынасіць** (папрынесць) **у пастанніку.** Можа ета ты чула, чые дочкі выпрінасілі ў пыстаньнікых? Во, бог дасць, і твае пыпріносюць у пыста́ньніку.

**Прынімаць** (браць) **на свой шчот.** *Лічыць аб'ектам накіраванасці, выказвання сябе.* Што ні пачу́іць, усё прініма́іць на свой шчот. Ныпра́сна ты бяреш на свой шчот, ета гывары́лыся пра нейкыю шумяні́цкыю дзеўку. *Зак.* **Прыняць** (узяць) **на свой шчот.** Ну й дурак, кылі на свой шчот пріняў, дужа яго там хто знаіць. Віду ні пыдаюць, ну ета яны ўзялі на свой шчот. *Узмацн.* **Папрынімаць** (папрыняць, пабраць) **на свой шчот.** Я скыза́ла пры Аўдоткіных, а яны пыпрініма́лі на свой шчот, рызабі́дзілісь. Што вы пыпріня́лі на свой шчот, пры вас там і гамонкі ні було. Ну й чорт іх бярі, калі яны ды на свой шчот пыбра́лі, ці я буду іх піріпра́шывыць ці рузувіря́ць.

**Прынімаць за чыстую манету.** *Верыць, успрымаць як ісціну, праўду.* Яны такея, што ўся́кыю лухту прініма́юць за чы́стыю манету. *Зак.* **Прыняць за чы́стую манету.** Мы пушуці́лі, а ён пріняў усё за чыстыю манету. *Працягл.-фінальн.* **Напрынімаць за чыстую манету.** Ныпрініма́іш за чы́стую манету, што наду́юць калі-небудзь большы некуды.

**Прынімаць у галаву.** *Многа, пакутліва думаць над адным і тым жа.* Чаго табе ўжо так прініма́ць у гылаву́. Ні прінімайця вы дужа ў гылаву, па-мойму, там нічога такога німа. *Зак.* **Прыняць у галаву.** Як прініла́ ў гылаву, што ў іх тамыцька нешта случы́лыся, і ў сябе пріці́ць ня можыць. *Узмацн.* **Папрынімаць** (папрыняць) **у галаву.** Пыпрініма́лі ў гылаву ніізьвесна што і бядуюць. Што яны такога папрі́муць у гылаву? *Гл.* Б р а ц ь с а б е у г а л а в у.

**Пры пікавым інцярэсе,** *запаз., адз., мн. Без чаканых вынікаў.* Нічога ў яе ня выйшла, аста́лыся ўзноў прі пікывым іньцірэсі. Рашчоты былі дужа бальшэя, ды толька прішлося астацца прі пікывых іньцірэсых. Сідзяць яны прі пікывых іньцірэсых.

**Прыпіраць** (прыжымаць, прыціскаць) **к сцяне** (сценке). *Ставіць у безвыходнае становішча доказамі, фактамі.* Відзіць, што пріпіра́юць к сьцяне — круць ну другоя, а пра копы як і ні пыміна́лысь. Кряпчэй пріпіра́йця яго к сьценкі, пріпірайця, ніхай ня верціць хвастом, а сызнаецца. Сілівона яны ні раз пріжыма́лі к сьцяне. Пріжымай, пріжымай яго к сьценкі. А яны цябе крепка пріжымаюць к сьценкі. Утрёх як возьмуцца муштрува́ць, так пріціска́юць к сьцяне, што ўсё ды ка́пількі вы́скыжыць. Пріціска́й к сьценкі, ня бойся, ска́жыць. *Зак.* **Прыперць** (прыжаць, прыціснуць) **к сцяне** (сценке). Няўжэлі ты забыў, як цябе Пітраковы пріпёрлі ўчора к сьцяне. Як пріпру́ць к сьценкі, ня йдзе дзеніцца, рыска́жыць. Пріжмуць к сьцяне, дык зыгаворіш. Ладна пріжалі к сьценкі, кругом прізна́ўся. С усіх бакоў як пріціснулі к сьцяне, рыскызаў пра ўсе заторы. Возьмуцца ла́дна, пріці́снуць к сьценкі — ня вы́круціцца.

**Пры сваіх анцярэсах** (інцярэсах), *рэдка адз. З тым, што было, што меў.* Ніхай ён ні надзеіцца, аста́ніцца ён пры сваіх аньціресых. Ніхай паходзіць, ніхай пабегыіць, астанецца ўсё дно прі сваіх іньціресых. Прі сваём аньціресі сядзіць і ня ріпыіцца.

**Пры случаю** (случаі). *Калі надарыцца магчымасць, выпадковасць.* Пыгыварі́ прі слу́чаю, мне нада неік сяредніга устра́івыць. Прі случыі зыйшла́ б калі, худзь ба новысьці рыскыза́ла. Мы яму пымя́нім прі слу́чаі і бырачкі́, і моркыўку, і ўсё.

**Пры смерці.** *У стане, небяспечным для жыцця.* Большый пішыць: пріijжджа́йця скарей, мой прі сьмерці. Ты ж быў саўсім прі́ сьмірці, я ўжо сьмярётнаю руба́шку табе пашы́ла.

**Прыставаць з кароткімі гужамі.** *Чапляцца настойліва, прамалінейна.* Ныпра́сна ты прістаеш к чылавеку с кароткімі гужа́мі. *Зак.* **Прыстаць з кароткімі гужамі.** Прісталі с кароткімі гужамі усё дно як чэрці якея. *Узмацн.-множн.* **Папрыставаць** (папрыстаць) **з кароткімі гужамі.** Як пыпріста́юць с кароткімі гужамі, ты паспробуй аччапі́цца. Ета некыму іх шурну́ць хырашэнька, дык пыпріста́лі с кароткімі гужамі. *Працягл.-фінальн.* **Напрыставаць** (дапрыставаць) **з кароткімі гужамі.** Я б яго скора ныпрістыва́ў с кароткімі гужамі. Ён у Бялкові дыпрістываў с кароткімі гужамі.

**Прыставаць з нажом к горлу.** *Чапляцца нахабна, з пагрозай.* Віджу, што прістаюць з нажом **г** горлу, дык я тады ўжо ўмішáлыся. *Зак.* **Прыстаць з нажом к горлу.** Прістáнуць з нажом **г** горлу, дык ба, кажыцца, рубашку зьдзеў: а ну вас, атвяжы́ціся. *Узмацн.-множн.* **Папрыставаць** (папрыстаць) **з нажом к горлу.** Пыпрістывáлі з нажом **г** горлу, пакуля мы іх ні путурíлі як нада. Пыпрістануць з нажом **г** горлу, то нічога ня зьдзелыіш. *Працягл.-фінальн.* **Напрыставаць** (дапрыставаць) **з нажом к горлу.** Ныпрістаеш з нажом **г** горлу, што торсну, і пыляцíш, як мячык. Дыпрістываў з нажом **г** горлу, што пашоў зарёўшы.

**Прыстаўляць сваю галаву,** *неадабр. Вырашаць самому за некага іншага.* Яму толька што прістыўля́й сваю гылаву ды зы яго дýмый. *Зак.* **Прыставіць сваю галаву.** Адно — сваю гылавý пристáвіць астаецца. Калі дурак, то сваю гылаву ні прістáвіш. *Узмацн.-множн.* **Папрыстаўляць** (папрыставіць) **свае голавы** (галовы). Хуць вы ім пыпрістыўля́йця свае голывы, дык адно будзіць. Большы нічога ні астаецца — толька свае галовы пыпрістыўля́йця. Пыпрістáўця свае голывы і ўсё, а самі нічога ня петрюць. Раз урадзíліся такея, то сваіх галоў ні пыпрістáвіця.

**Прысякаць** (усякаць, уразаць) **язык.** *Рашуча спыняць балбатню, плявузганне.* Прісікáй-ка сваёй язык, ато йна ўжо рузмудрела большы некуды, слова ёй ні скажы. Каб ёй ні ўсікáў язык, ні знаю, што було б. Табе даўно нада ўрізаць язык. *Зак.* **Прысеч** (усеч, урэзаць) **язык.** Ніхто ні нáйдзіцца прісеч яму язык, а нада було. Усеклі Просі язык, дык у дзяреўні пыцішэла. Каб усім трём урезыць язык,— аднý ўняць што йта, толк мáлый. *Узмацн.-множн.* **Папрысякаць** (папрысеч, паўсякаць, паўсеч, паўразаць, паўрэзаць) **языкі.** Ні так ім лёхка пыпрісікáць ізыкí. Ай, ладна, хуць ізыкі пыпрісеклі, асадзíлі троху. Ткачоў пыўсікáіць вам ізыкі, дужа вы руспусьцíліся. Калі ні паўсеч ізыкі, ні знаю, што будзіць. Ні так-то лёхка етым тряпы́шкым ізыкі пыўрізáць. Ні пыўрізалі ізыкі, дык паўрежуць, ныдыядýць вашы бáсьні. Айдзе Мікіта паўрежыць ізыкі, ён ім слова скызаць пыбаіцца. Ого, ты паўрежыш ізыкі,— яны цябе і ў рязон ня возьмуць.

**Прытыкаць** (прытуляць) **нос.** *Знаходзіць часовы прытулак.* Ну куды ж я пайду, к Нінкі трохі прітыка́ла нос. Прітуля́ць нос айдзе-то нада. *Зак.* **Прыткнуць** (прытуліць) **нос.** Ня дужа ў Пуўлюка пріткнеш нос, ні так ён рысхва́ціцца паможч. На лета ў сястры́ прітулю́ нос, а там ві́дна бу́дзіць. *Узмацн.-множн.* **Папрытыкаць** (папрытуляць, папрыткнуць, папрытуліць) **насы.** Паку́ліцька пыпрітыка́лі насы, ні знаю, як дальшы будзіць. Калі насы троху пыпріткну́лі, кры́ша ныд гылавою ёсць, дык і ла́дна. Ну, айдзе вы, ў каго пыпрітуля́лі насы? Худзь ба на первыя ўремя пыпрітулі́ць насы́. *Працягл.-фінальн.* **Напрытыкаць** (напрытуляць) **нос.** Ні знаю, сколька ён там ныпрітыка́іць нос, там сямейка дай божа. Дужа доўга ныпрітуля́ла нос, ну другей дзень пычалі крііві́цца.

**Прытыкаць рукі.** *Прымацца за справу.* Ні к чаму ня хочыць прітыка́ць ру́кі. Ня дужа яны стыря́юцца прітыка́ць рукі, усё дно як с па́нскыга роду,— такея. *Зак.* **Прыткнуць рукі.** Калі пріткнець рукі,— якей с хворыга работнік. *Працягл.-фінальн.* **Напрытыкаць рукі.** Усё як було кінута, так і ляжы́ць, многа ныпрітыка́ў рукі.

**Прыхадзіць на памяць** (вум, у галаву). *Успамінацца выпадкова, само сабой.* Ці пріхадзі́ла табе ны па́міць, што хлеб у печы, яго вы́ніць нада. Айдзе яму што бу́дзіць пріхадзі́ць на вум, як па́лка нейкій. Сколька ні бува́ю ў ла́ўкі, а ўсё ні пріходзіць у гылаву спрасі́ць пры кра́ску. *Зак.* **Прыціць на памяць** (вум, у галаву). Прідзіць ны паміць, дык спрашу, ці мне цяжола. Як жа табе ні прішло на вум скот пыпаіць. Што-небудзь разу́мныя ні прішло табе ў гылаву, дурыта́ толька пріходзіць.

**Прыхадзіць на язык.** *Прыпамінацца пры выказванні.* Табе ўсігда́ нешта ня тоя пріходзіць ны язык. *Зак.* **Прыціць на язык.** Ці я нешта дренныя думыў, прішло ны язык, дык я й скыза́ў.

**Прыхадзіць у рассудак,** *рэдкаўж. Пачынаць асэнсоўваць, цвяроза разважаць.* Ці пріходзіць пымяло тоя ў рассу́дык, ці ду́мыіць ён калі-небудзь на сьвеці жыць пычына́ць? *Зак.* **Прыціць у рассудак.** Трудна надзеіцца, што Кываленык прідзіць у рассу́дык: якей бацька, такей і сын. *Узмацн.* **Папрыхадзіць у рассудак.** Ні знаю, ці дажджэсься, калі яны пыпріходзюць у рассудык.

**Прыхадзіць у рукі.** *Пападацца ў выніку сваёй неабачлівасці або чыёй хітрасці.* Такея атлёты ні пріходзюць са́мі ў ру́кі, іх нада на месьці сцарі́пыць. *Узмацн.* **Папрыхадзіць у рукі.** Ні біспакойся, пыпріходзюць у рукі самі, дай толька ўремя. Доўга ні маглі нічога зьдзелыць, а тута пацстроілі — самі пыпріхадзілі ў рукі.

**Прыхадзіць у сябе.** *Выходзіць з стану непрытомнасці або безразважнасці; супакойвацца.* Доўга ліжа́ў як ніжывэй, а тады віджу: пріходзіць у сябе. Цяжола посьлі такея гылывамойкі пріхадзі́ць у сябе. *Зак.* **Прыціць у сябе.** Вадою ліну́лі ны гылаву́, тады ачу́хыўся, пріщоў у сябе. *Узмацн.* **Папрыхадзіць у сябе.** Ета ж хырашо, зайшлі́ мы, уві́дзілі, пыччыні́лі ўсё, дывай ціга́ць іх, дык пыпріхадзі́лі ў сябе,— во што уга́р дзелыіць. Ат такіх рызгаворыў трудна пыпріхадзі́ць у сябе.

**Прыціскаць язык,** *рэдкаўж. Адвучваць балбатаць, плявузгаць.* Мы усе гу́ртым пріціска́лі ёй язык,— сьціха́ла. *Зак.* **Прыціснуць язык.** Там іна як хацела, ну тут я ёй пріці́сну язык, у мяне дужа ні разьверніцца. *Узмацн.-множн.* **Папрыціскаць языкі.** У нас ба ім дайжа пікнуць ні да́лі, зра́зу пыпріціска́лі б ізыкі́. *Працягл.-фінальн.* **Напрыціскаць язык.** Дужа Кірілін сын язык ёй ныпріціска́ў, і ты тоя самыя зьдзелыіш.

**Прыціць** (явіцца) **з пузам** (брухам), *асудж. Зацяжарыць без шлюбу.* Ну й прі́дзіць с пу́зым, ну й што ты зьдзелыіш. Хвалі́лі, што й ціхыя, і харошыя, пакуля пріщла з брю́хым,— во цяперя пыхвалі́ця. Адна скруці́лыся, усё аборты дзелыла і другая яві́лыся с пузым. Ні зыріка́йся, ні зырікайся, у самой пыдраста́юць дочкі, можа ішчэ я́вюцца з брюхым. *Гл.* П р ы н е с ц ь п у з а.

**Прыцягываць за валоссе.** *Выкарыстоўваць факты, падзеі надумана, недарэчы.* Тута ня ў сені дзела, сена ён нарошня пріця́гывыіць зы валосься, каб зачэпка была́. *Зак.* **Прыцягнуць за валоссе.** І Карнеівыга пріцягну́лі зы валосься с цэльлю: удруг на ету ву́дычку клю́нуць.

**Прычыняць** (зачыняць) **лавачку,** *рэдкаўж. Спыняць дзейнасць (звыч. заганную, злачынную).* Прічыня́йці-ка вы іх ла́вычку, ато ім нідалёка ду цюрьмы́ аста́лыся. Доўга ж ніхто ні зачыня́іць ету лавычку. *Зак.* **Прычыніць** (зачыніць) **лавачку.** Ніізьвесна, ды чаго б вы дайшлі́, каб ні прічынілі вашу лавычку. Ня думыйця, за-

чы́нюць вашу лавычку, хва́ціць ныжыва́цца. *Гл.* З а к р ы в а ц ь л а в а ч к у.

**Прычыняць рот.** *Устрымліваццa ад балбатні, плявузгання, лаянкі.* Трошку ста́ла прічыня́ць рот, ну ішчэ мала яе ўспакоілі. *Зак.* **Прычыніць рот.** Ні знаю, калі йна прічы́ніць рот. Анікын як гы́кнуў, дык прічыні́ла рот. *Узмацн.-множн.* **Папрычыняць** (папрычыніць) **раты.** Яны ўжо летыся пыпрічыня́лі раты́, ажно ў канцы пыцішэла. Ежылі Пятрок скажыць, пыпрічы́нюць раты.

**Прышчамляць** (прішчэмліваць) **нос,** *іран. Адвучваць ад празмернай цікаўнасці.* Ім нада було даўно патрошку прішчымля́ць нос. Скора я ім пычану́ прішчэмлівыць нос. *Зак.* **Прышчаміць нос.** Я відзіла, як лоўка прішчамі́лі нос любапы́тныму. Табе б нада було даўно нос прішчамі́ць. *Узмацн.-множн.* **Папрышчаміць** (папрышчэмліваць) **насы.** Пыпрішчамі́лі насы, дык піріста́лі ні ў сваё дзела ўліза́ць. Мы вам скора насы пыпрішчэмлівыім, калі вам дужа ўсё аньціресна.

**Прышчамляць** (прышчэмліваць) **язык.** *Адвучваць балбатаць, плявузгаць; пераставаць балбатаць, плявузгаць.* Мала ты ёй прішчымля́іш язык, большы нада. Пасьледнія ўремя стаў прішчымляць язык, прімаўкывыіць. Як стаў прішчэмлівыць сваёй язык, то сы гля́дкыю трепіцца. *Зак.* **Прышчаміць язык.** Крепка прішчамі́лі язык, большы ні пік. Мы знаім, як прішчамі́ць яму язык. Пупа́лі з ношкыю, дык с тых пор прішчаміў язык, ня чутна нійдзе. *Узмацн.-множн.* **Папрышчаміць** (папрышчэмліваць) **языкі.** Ні знаю, ці дажджэсься, што пыпрішчэмюць ім ізыкі́. Пыпрішчэмлівылі ізыкі і ня пікнуць, а што ж ца́цкыцца зь імі, нада шугану́ць хырашэнька. *Гл.* П р ы к у с ы в а ц ь я з ы к; П р ы ц і с к а ц ь я з ы к.

**Пуза** (бруха) **на нос дзярэцца** (лезець), *асудж.; цяп., пр., буд. Пра стан цяжарнасці (звыч. жанчыны не ў шлюбе).* Летыся прініслá ў пыстáньні, а сёліта, глянь, узноў пу́за на нос дзярецца. Ну, а каб у тваe пуза на нос лезла, ну што б ты дзелыла, с хаты ж ня вы́гыніш. Пыглядзі-ка ты, каторый ета раз брюха на нос дзярецца у етыя ціхінькія і спакойнінькія. Ах ты тыкая-рыстыкая, я скызала б, у цябе ета будзіць брюха на нос лезьць, а я табе маўчы, а?

**Пуп зямлі,** *іран. Галоўная асоба, галава.* Твой Ціхон — пуп зямлі, як жа бізь яго можна. Цябе ўсе вядўць за пуп зямлі,— трецьцій дзень.

**Пуп ірваць,** *неадабр. Надрывацца на працы, звыч. упустую.* Дужа бальшэй толк, што вы пуп ірвáлі на іх, лáскі ня вы́служылі. *Узмацн.* **Пуп нарваць.** Нарьвець пуп, а спасіба ні пачўіш,— ня тэя людзі.

**Пускаць ваўка ў аўчарнік.** *Давяраць заведама, ненадзейнай асобе.* Нечыга було пускáць вуўкá ў аўчáрнік, ці вы ні знáіця яго совісць. *Зак.* **Пусціць ваўка ў аўчарнік.** Пусьцілі вуўка ў аўчарнік, дык глядзіця, нысьцірягець. *Працягл.-фінальн.* **Напускаць** (дапускаць) **ваўка ў аўчарнік.** Нупускáіця вуўка ў аўчарнік, ні раз укўсіця сябе за локыць. Дупускáлі вуўка ў аўчарнік, хацелі б усё ныз́áд вярнўць, ды позна.

**Пускаць з торбаю.** *Разараць, давадзіць да жабрацтва, абіраць.* У нас быў дўжа гáдкій пан, зы сáмыю мáлыю пытрáву пускáў с торбыю. *Зак.* **Пусціць з торбаю.** Ці ні зьбірáісься ты сваіх родніенькіх пусьціць с торбыю?

**Пускаць казла ў гарод** (капусту), *іран. Давяраць заведама несумленнаму.* Прідўмыў жа пускáць кызлá ў гарод зь естыю старожыю. Не, ета вы пускáіця кызлá ў капўсту. *Зак.* **Пусціць казла ў гарод** (капусту). Пусьцілі кызла ў гарод, любўйціся ны свайго Высіля. Другей раз хочуць пусьціць кызла ў капусту. *Працягл.-фінальн.* **Напускаць** (дапускаць) **казла ў гарод** (капусту). Нупускáлі кызла ў гарод, цяперь дзíвюцца. Дупускáіця кызла ў гарод, Грíша вам дысьцірягець. Дупускáў кызла ў капусту, авечык ні дышчытáіцца. *Гл.* П у с к а ц ь л і с і ц у ў к у р а т н і к.

**Пускаць** (кідаць) **на вецер** (па ветру, у трубу), *неадабр. Траціць упустую.* Зырыбляць трошку зырыбляіць, дык пускáіць усё на вецір. Ну,— рыстрáціў раз — рыстраціў, а ўсё ўремя пускáць па ветру,— што ж тады зь естыга бўдзіць. Што я зь ім магу зьдзелыць, пускаіць усё ў трубу. Кідáіця вы грошы на вецір, можна аканомній жыць. Пірістáнь кíдыць па ветру, ні транжы́рь. Зырыбляў лáдна, а кідаў у трубу яшчэ чы́шчы. *Зак.* **Пусціць** (кінуць) **на вецер** (па ветру, у трубу). Якоя там біряжэньня, кылі ўсё пусьцíў на вецір. Што якоя було, усё пусьцілі па ветру. Калі ні найдзіш ды ні

схува́іш, ды капеічкі пусьціць у трубу. Што пулучы́ў, усё кінуў на вецір. У яго ні спра́шывыць, кініць па ветру, рубля ні прінясець. Сколька чаго було, кінулі ўсё ў трубу. *Узмацн.* **Папускаць** (пакідаць) **на вецер** (па ветру, у трубу). Пупуска́лі на вецір, цмы́гыюць цяперя галю́сінькія. Гыварі́ ты, харошыя, а айдзе ж яны дзелі, кылі ні пупуска́лі ў трубу. За імі ўсё ўремя нада вока ймець, січас пыкіда́юць на вецір, што глядзеўшы ня ўгледзіш. Вы ж самі ўсё па ветру пакі́дылі, чаго ж вы абіджа́іціся. Пыкіда́ць у трубу дужа лёхка, а во ныжыва́ць ой цяжола.

**Пускаць корні** (карэнне). *Грунтоўна асталёўвацца на пастаяннае жыхарства.* Зра́зу шчы́ра ўзя́ўся пускаць корні, а ціряз год асты́ў. Пы ўсяму ві́дна, што ні зьбіра́юцца яны тут пускаць кареньня. *Зак.* **Пусціць корні** (карэнне). Жані́ўся, пастроі́ўся, глубока пусьці́ў корні. Вы надзеіліся, што ён на ўсю жысьць пу́сьціць тут кареньня. *Узмацн.* **Папускаць корні** (карэнне). Пупуска́лі корні і ні ка́юцца. І Кіреівы, і Кывалёвічывы пупуска́лі кареньня ў Лінінгра́дзі. *Працягл.-фінальн.* **Напускаць корні** (карэнне). Нупуска́юць корні, надзейся,— айдзе яны толька ні пірівярну́ліся пабы́ць. Ныгывары́ць можна ўсяго, толька я знаю, як яны нупуска́юць кареньня: з брю́хымі пыкіда́юць і паедуць.

**Пускаць лісіцу ў куратнік,** *іран. Давяраць заведама несумленнай асобе.* Лісі́цу ён у курятнік пуска́іць, во якей сторыж з Мацьвея. *Зак.* **Пусціць лісіцу ў куратнік.** Хочуць пусьці́ць лісіцу ў куря́тнік, ніхай пуска́юць, якоя маё дзела. *Працягл.-фінальн.* **Напускаць** (дапускаць) **лісіцу ў куратнік.** Нупускаюць лісіцу ў курятнік, хыпяну́цца калі-небудзь, што надзелылі. Дупуска́ў лісіцу ў курятнік, як несмысіль якей, яны толька й ждалі етыга маменту.

**Пускаць мглу.** *Распаўсюджваць хлусню з мэтай дэзарыентацыі.* То, што Каця пуска́іць мглу, мы ета даўно зна́ім. *Зак.* **Пусціць мглу.** Баю́ся я гывары́ць, зь якою цэльлю, ну толька Сямён пусьці́ў таку́ю мглу. *Працягл.-фінальн.* **Напускаць** (дапускаць) **мглу.** Ці табе ні гывары́лі, што нупуска́іш ты мглу, заслу́жыш. Ну дупускаі́ць мглу, пупадзецца, — буду чым дзержа чы́сьціць.

**Пускаць на свет.** *Даваць жыццё, нараджаць.* Пускáць на сьвет лёхка, ды на ногі стáвіць цяжола. *Зак.* **Пусціць на свет.** Іна пусьціла на сьвет, а гудувáць — гадýй ты. *Узмацн.* **Папускаць на свет.** Пупускáлі на сьвет етых дзяцей, а пріглідáць — каб хто за іх прігліддáў. *Множн.* **Напускаць на свет.** Нупускáлі на сьвет, дык гадýйця цяперіцька, ны памошнікыў дужа ні надзейціся.

**Пускаць пад ногі.** *Марнатравіць, утоптваць у гразь, гной.* Ні пускáйця пад ногі еткій корм, пыд вясну саломіні бýдзіця рáды. *Зак.* **Пусціць пад ногі.** Нічога я ні пушчý пад ногі, а ды кылыскá ýсё прібярý і пріпучý. *Працягл.-фінальн.* **Напускаць пад ногі.** Ну, нупускáў пад ногі, нада за горыд ехыць купляць? *Гл.* Пускаць хінню.

**Пускаць пыл** (туман) **у вочы,** *іран. Ствараць у іншых перабвялічанае ўяўленне аб сабе.* Пускáць пыл у вочы умеіць, такога ныгаворіць — заслýхыйся. Лáцьві яму пускаць туман у вочы. *Зак.* **Пусціць пыл** (туман) **у вочы.** Сьпіцыя́льна пýсьцюць пыл у вочы: а можа паверюць. Хто яго ні знаіць, дык і пусьціць туман у вочы. *Узмацн.* **Напускаць** (напусціць) **пылу** (туману) **у вочы.** Нупускáіць пылу ў вочы, толька слýхыйця. Ён вам нупускаў туману ў вочы і сам цяперя пысьміхáіцца. Хто вам еткія лухты́ ныгырадзіў, хто вам нупусьціў пылу ў вочы. Нічога етыга ні було, ета вам нупусьцілі туману ў вочы.

**Пускаць слёзы,** *радзей адз., іран. Плакаць знарок, каб выклікаць спагаду.* Нечыга пускáць сьлёзы, сыма дужа лáдныя цáца. Пріўчы́лыся — чуць што ні так, і пускаіць сьлязу, асобінна як дуступленія нада куды. *Зак.* **Пусціць слёзы.** Мы толька к ямý, і пусьціў сьлёзы. І сьлязу пусьці́ць умеіць, і як хочыш прітворіцца. *Працягл.-фінальн.* **Напускаць слёзы.** Нупускáіш сьлёзы, што ныпрáўду зырявеш, я прувучý яго ня слýхыць.

**Пускаць у дзела** (ход). *Прымяняць, дастасоўваць.* А чаго ты ні пускáіш у дзела етый паплёт, ён жа пыгніець, як будзіць так выля́цца. Пускай у ход, ці ты яшчэ сабе ні заробіш грошы. *Зак.* **Пусціць у дзела** (ход). Раншы ў мяне выля́ліся брусочкі, ды я іх пусьціў у дзела. Што тут пусьціш у ход, нечыга дужа пускаць. Зьмі-

трок — акынамістый хызяін, у яго нічога не звыляіцца, ён ка́жныю шчэпычку пусьціць у дзела.

**Пускаць хінню** (прахам, у глум). *Не берагчы, марнатравіць.* Пуска́іць усё хіньню, ні за чым дайжа ка́плі ні глядзіць. Пускалі пра́хым і нупуска́ліся, німа ні ў голывы ні пыдыслаць. Такоя дабро пускаіш у глум, а посьлі зы клачком сена будзіць цы́гыць. *Зак.* **Пусціць хінню** (прахам, у глум). Такей родный быў ячмень, колыс тэй во, зь віріцяно, дык пусьцілі хіньню. Узноў так будзіць: пу́сьцюць прахым і прыпадзець усё чыста. Ні адной сяні́нкі ня пусьціць у глум, у яго ні адзін жвялёк ні прыпадзець. *Працягл.-фінальн.* **Напускаць хінню** (прахам, у глум). Нупуска́ў хіньню, нада б лі́шній клок, ды німа, а сколька ў цябе прыпа́ла. Нупуска́юць прахым, рады будуць любой тряпі́нкі, быгачы́ еткія. Глядзі́, нупуска́іш у глум, пасьледній крошкі бу́дзіш рад.

**Пустое места,** *неадабр. Абсалютная нікчэмнасць.* Твой шуря́к пустоя места, ці ён тут ёсць, ці німа — усё адно.

**Пустэй** (пустый) **звук.** *Абсалютная беззмястоўнасць.* Длі яго, што ты гаворіш — пустэй звук. Твае словы ім пусты́й звук, яны й ву́хым ні вяду́ць, што ты скызаў.

**Пустэй** (пустый) **карман.** *Поўная адсутнасць сродкаў.* Што ат яго хацець, кылі ў яго пустэй кырма́н. Якей ні пыкла́длівый, а раз пустый кырман, то што ён табе дасць.

**Пусціцца духу.** *Канчаткова выбіцца з сілы.* Рыгазьзё, адно за дно чыпля́іцца, ця́гніцца, я пусьці́ўся ду́ху, пакуля насек троху хворысьця ды ныцігаў. Касіў, касіў дый духу пусьціўся, а трыва во, па поіс. *Незак., рэдкаўж.* **Пускацца духу.** Я ні стаў ба так духу пуска́цца і ж жэрдзімі зь естымі, ну іх. *Узмацн.-множн.* **Папускацца духу.** Дужа прі́тныя к рабоці, за што ня возьмуцца, бяру́ць, бяруць, пакуля духу пупуска́юцца.

**Пусціць** (падпусціць) [краснага] **петуха.** *Падпаліць.* Ні зыіда́йся зь нячы́стыю сілыю, ато калі пу́сьціць пітуха́. Ці тута ўжо хто адуреіць пусьціць красныга пітуха. Такей быў злыйду́х — мог путпусьці́ць пітуха і первый тады прібягіць тушыць,— во якей быў. Сам быў пасьледнію га́дысьцю, за ета і путпусьцілі красныга пітуха, дайжа тушыць ня дужа хто бег.

**Пусціць па міру** (по міру). *Разарыць, давесці да жабрацтва, пакінуць без сродкаў існавання.* Еткыя нісызна́цільныя душа, гатоў па міру пусьціць чылавека. Калі пусьціш по міру, дык ці табе ўжо пыляхчэіць. *Незак., рэдкаўж.* **Пускаць па міру** (по міру). Мой дзед рыска́зывыў, сколька іхній пан пускаў людзей па міру. Ты хацеў ба тожа пускаць по міру, як бацька твой адурюва́ў.

**Пушкаю** (з пушкаю) **не прабіць** (не праняць). 1. *Ніякімі сродкамі не пераканаць, не прымусіць думаць інакш.* Настолька ўпорістый, што яго с пушкыю ні праймеш. Раз ні паслу́хыў, то тру́дна што зьдзелыць, ты яго пу́шкыю ня пройміш. Дайжа ні пытхадзіця і ні гываріця, іх с пушкыю ні прыйміцё. 2. *Не прайсці, не працісनуцца.* Чаго тут усігда́ столька народухну, кажныя скрысеньня пушкыю ні праб'еш. Столька ныпіха́лыся людзей, што с пушкыю ні прабіў ба. Тама тыкая тыўпа была, што с пушкыю ня пройміш.

**Пціца** (птушка) **высокага палёту,** *часта жарт. Асоба з уладай, уплывам, асоба з вялікімі запатрабаваннямі.* Андрей пці́ца высокыга палёту, ня то што ты ў грязі тут кулупа́ісься. Цяперя ты пту́шка высокыга палёту, лі цябе дайжа і шылахну́цца страшна.

**Пціччага** (птушынага) **малака не хватаць,** *запаз. Быць поўнасцю забяспечаным, мець выключны дастатак.* Пці́ччыга мылыка́ яму яшчэ ні хвыта́іць. Ці ты знаіш, як Сьціпан жыў, яму толька пціччыга мылыка ні хвыта́ла. Усё ўремя зыбясьпечыны, што ім аднаго птушы́ныга мылыка ні хвытаіць. *Зак.* **Пціччага** (птушынага) **малака не хваціць.** Быга́тый быў пір, можа аднаго пціччыга мылыка ні хваці́ла. Чаго було на той сва́дзьбі, ні рыскыза́ць, сталы́ ламі́ліся, птушыныга мылыка толька ні хвацiла.

**Пыльным мяшком ударaный,** *абраж. Неразумны, дурнаваты.* Ён с са́мыга ма́льства пыльным мяшком уда́ріный. Руссужда́іць, як пыльным мяшком ударіный.

**Пыльным мяшком ударыць** (пабіць), *абраж. Адурманіць, зрабіць прастарэкаю.* Ці яго хто пы́льным мяшком уда́ріў, ці што якоя творіцца зь ім? Ні йначы як пы́льным мяшком пабілі цябе, другога нічога ні скажыш. *Незак., рэдкаўж.* **Пыльным мяшком біць.** Верна, вас, хлопцы, пыльным мяшком білі, ніўна́чы як білі.

**Пяліць вочы** (зенкі), *асудж. Занадта або залішне ўглядацца.* Чаго яны пя́люць вочы, усё дно як людзей век ня відзілі. Пяліць збоку зенкі і пяліць, ажно стала стыя́ць сты́дна. *Зак.* **Упяліць вочы** (зенкі). Іна ўсігдá так: упя́ліць вочы і стаі́ць рот рызя́віўшы. Ну што ўпяліў зенкі, хто цябе зваў сюда? *Працягл.-фінальн.* **Напяліць вочы** (зенкі). Шурні́ ат'етуль, ато я іх ныпя́лю вочы. А так ныпя́ліць зенкі, што бу́дзіця ляцець як пымяло.

**Пясок сыплецца** (сыпецца), *жарт.; цяп., пр., буд. Пра агульную нямогласць ад старасці.* Зь етых жы́ціліў ужо даўно пясок сы́пліцца, не, жыву́ць. Во жані́х найшоўся, зь яго яшчэ залетыся пясок сы́пыўся. *Пачын.* **Пясок пасыпаўся,** *пр., буд.* Быў калі-то мушчы́на, і работнік быў, а цяперя пясок пасы́пыўся. Ні такея мыладэя вы, скора з вас пясок пасы́піцца. *Гл.* П о р а х с ы п л е ц ц а.

**Пясчынка ў моры.** *Абсалютная дробязь.* Ета яму пяшчы́нка ў морі, у яго ні такіх дзялоў було. Ну што ён, пяшчынка ў морі, хто яго паслу́хыіць.

**Пятая спіца ў калёсах,** *іран. Зусім другарадная, малазначная асоба.* Во мне твой Барiс — пятыя сьпіца ў калёсых, і большы нічога. Зяцёў ён шчытáіць зы пятыю сьпіцу ў калёсых, ні большы.

**Пяткі адтаптываць,** *жарт. Настойліва заляцацца.* Ды пыцiря́нія бегыў зы Мітрыхваніхіныю, гады два пя́ткі аттáптывыў. Так улёг за Просіныю, пя́ткі аттаптыіць. *Зак.* **Пяткі адтаптаць.** Глядзí, пяткі аттопчыць Духоўніный, куды йна, туды й ён, ні ны міну́ту ні цстаець. *Узмацн.* **Пяткі паадтаптываць** (паадтаптаць). Так ухáжывыў, што пряма пяткі пыттáптывыў. Дос ужо так бегыць, ато пяткі пыаттопчыця. *Працягл.-фінальн.* **Пяткі наадтаптываць.** Ныттáптывылі пяткі каўшоўскім дзеўкым, сколька гадоў лётылі туды́.

**Пяткі блішчаць,** *гумар.; цяп., пр. Пра вельмі шпаркія, імклівыя ўцёкі.* Мы толька вы́йшлі, кля́мкыю ля́снулі, дык ужо яго пяткі зы Максімывымі блішчáць. Нясьлі́ся вун у тэй бок, што пяткі блішчэлі. *Зак.* **Пяткі заблішчэлі,** *пр., буд.* Хто яго дагоніць, кытану́ў, што пяткі зыблішчэлі. Сы́кні троху, у яго і пяткі зыблішчáць. *Аднакр.* **Пяткі бліснулі,** *пр., буд.* Хвалі́сь ты, сьмелый

дужа, я ж відзіў, як у цябе пяткі бліснулі ат Пракопа. Шурну́ іх — пяткі бліснуць, дужа мне ёсць уремя вазіцца зь імі.

**Пяткі дрынчаць,** *груб.; цяп., пр., буд. Пра паспешлівыя ўцёкі пры бесцырымонным выправаджванні.* Во ляціць, ажно пя́ткі дрынча́ць. Я б яго так шурну́ла, што пяткі б дрынчэлі. Са мною доўга ні пачы́кыіцца, пыганю́, што пяткі будуць дрынчэць. *Пачын.* **Пяткі задрынчэлі,** *пр., буд.* Хочыш, каб пяткі задрынчэлі ат'етуль? Калі ня ўнімісься, мігым пяткі зыдрынча́ць. *Узмацн.* **Пяткі падрынчаць.** Як шурну́ лазіныю, пяткі пыдрынча́ць зразу, і спакой на́йдзіш, і ўнім бу́дзіць.

**Пяткі злізываць** (аблізываць, вылізываць), *неадабр. Паддобрывацца, трацячы ўласную годнасць.* Сколька ўремя пяткі зьлі́зывыіць, а нешта дзела яго ні пыдзьвіга́іцца. Думыў, што яго дапу́сьцюць хызя́йнічыць, аблізывыў старшыне пяткі. Стыря́іцца пяткі вылі́зывыць, думыіць, нешта заслу́жыць у іх. *Зак.* **Пяткі злізаць** (аблізаць, вылізаць). Ну пряма ўжо зьлізáлі пяткі Міцю, ажно збоку сьмешна глядзець. Любому пяткі аблі́жыць, ні пыстаі́ць, каб толька вы́гыда іка́я была. Пяткі вы́лізыў Сьпіпанідзі, і нічога ні пымагло. *Узмацн.* **Пяткі павылізываць** (павылізаць). Ужо так пывылі́зывылі пяткі Астыпінятым, што большы ні піду́мыіш. Каму вы толька пяткі ні пывылізывылі? Яны вясною яшчэ павы́лізылі пяткі ім. *Працягл.-фінальн.* **Пяткі навылізываць** (давылізываць). Пасьпеюць к чорту на рогі, нывылі́зывыюць пяткі. Нывылізывыіць пяткі, заслу́жыць чэсць у такея нісызна́цільныя. Дывылі́зывыў пяткі, маўчыць, у іх бок глядзець ня хочыць. Бу́дзіць табе тоя самыя, што мне, дывылізывыіш пяткі. *Гл.* Лізаць пяткі.

**Пяткі падмазываць.** *Уцякаць без аглядкі, з усіх сіл.* Ня жджы дыбра́, пыдма́зывый пяткі, луччы будзіць. *Зак.* **Пяткі падмазаць.** Тыя толька пыкыза́ліся з-зу кустоў, дык яны пыдма́зылі пяткі, во якоя іх сьціряжэньня. *Узмацн.* **Пяткі пападмазываць** (пападмазаць). Так пыпыдма́зывылі пяткі, што ны самым луччым кані ні спра́віўся б. Пыпыдма́жуць січас пяткі, што нысьмяесься і ныхахочысься, во пылядзі́ш, як будуць ляцець па бу́блых.

**Пятлю** (вяроўку) **віць** (круціць), *асудж.; рэдкаўж. Рыхтаваць значныя непрыемнасці.* Яму ўсігда дужа ны-

ра́віlыся пятлю ну людзей віць. Ён ужо трецьцій раз пятлю ім кру́ціць. А ну яго, прівы́чка тыкая ўелыся, каб ны каго вярёўку віць. Круціў ба вярёўкі ну людзей, чаго ж не. *Зак.* **Пятлю** (вяроўку) **звіць** (скруціць). Зь імі дружы́, ды агліда́йся, могуць пятлю зьвіць, што ні ўстріпянесься. Яны хітраму́дра скруцілі пятлю ны Кірілу. Лу́ччыга ні дажджэсься, а вярёўку саўець. Ета такей свой, што ні заду́мыючыся вярёўку скруціць. *Працягл.-фінальн.* **Пятлю** (вяроўку) **накруціць** (дакруціць). Накру́ціш пятлю, скора цябе ўспакоюць. Ты точна так пятлю дакру́ціш, як Іван ны свата. Дакруцюць табе вярёўку, атву́чуць адз злаўредства.

**Пятлю** (вяроўку) **гатовіць,** *асудж. Рыхтаваць значныя непрыемнасці.* Чаго ім ні разу места німа, хто ім пятлю гатовіць зьбіра́ўся. Ні саветыю я табе вярёўку гатовіць, кінь луччы. *Зак.* **Пятлю** (вяроўку) **прыгатовіць.** Пятлю прігатовілі, толька пыцстыўляй шыю. Я знаю й сам, хто мне вярёўку прігатовіў.

**Пятлю грызць** (гладаць), *груб., рэдкаўж. Моцна злавацъ у бяссіллі.* Яму аста́лыся толька пятлю грызьць, большы ня ймець нічога. Пятлю будзіць глыда́ць, як пачуіць пра ета. *Аднакр.* **Пятлю грызнуць** (гладануць). Глядзі, пятлю грызьнець адз злосьці. Ну што ж ты яшчэ зьдзелыіш, пятлю глыдані́.

**Пятлю на шыю ўскідаць** (ускідываць, накідаць, накідываць), *неадабр., рэдкаўж. Даручаць іншаму або браць на сябе надзвычай клапатлівыя справы.* Мне пятлю на шыю ўськіда́ць ня мерься. Есьлі ты наду́мыўся пятлю на шыю ўскі́дывыць, са мною ў цябе ня вы́йдзіць, ні сыйгра́іш. А ты будзіш глядзець, як пятлю на шыю ныкіда́юць? Даніла пятлю на шыю накі́дывыіць, во што ён дзелыіць. *Зак.* **Пятлю на шыю ўскінуць** (накінуць). Вучы́ць іх ні нада, яны знаюць, як пятлю на шыю ўськінуць. Пятлю на шыю накі́нуць, тады будзіць знаць, сь кім зьвя́зыіцца.

**Пятлю на шыю чапляць** (класць, лажыць, ускладаць, ускладываць, накладаць, накладываць), *неадабр. Браць на сябе або даручаць іншаму надзвычай клапатлівыя справы.* Нада було яму пятлю на шыю чыпля́ць, підзьдзісят шэсць гадоў меўшы. Сам сабе пятлю на шыю чыпляіць,— нашто яму етыя дзеці. Ныра́віцца яму — ніхай кладзець пятлю на шыю. Як ты ні зымі-

чáіш, што пятлю ложуць на шыю твайму Віктыру. Пакуля ні пынімáіць, што ўсклыдáіць сабе пятлю на шыю, ну скора пойміць. С аднаго вы́біріцца, тады ўзноў ускла́дывыіць пятлю на шыю. Як ета яны ні пыніма́юць, што ім ныклыда́юць пятлю на шыю. Мне ты пятлю на шыю ныкла́дывыць ня будзіш, сыма ета горя бярі сабе. *Зак.* **Пятлю на шыю пачапіць** (зачапіць, усчапіць, ускласць, пакласць, узлажыць, накласць). Слу́хый, ды дужа не верь, ім нядоўга пятлю на шыю пычапíць. Як пачэпюць пятлю на шыю, тады позна будзіць дзелыць што. Пятлю на шыю зычапíў, бу́дзіць век дурíцца. Ты другей раз хочыш ушчапíць пятлю на шыю. Яны і пацíхіньку пятлю на шыю ўскладу́ць. Як пятлю на шыю пыкла́лі, тады толька пызна́ў, што яны за лю́дзі. Самі сабе пятлю на шыю ўзлажы́лі, а посьлі войкыюць. Ныкладзець скора пятлю на шыю, пра бу́душчыя ня думыіць. *Гл.* Н а д з я в а ц ь х а м у т н а ш ы ю.

**Пятлю шукаць** (іскаць), *неадабр. Дапускаць безразважныя, небяспечныя, супрацьзаконныя ўчынкі, дзеянні.* Пятлю шукáіць і нáйдзіць, яй-богу, найдзіць. А ён даўно пятлю іскаў, нійдзе яму ціхамірія ні було. Сымаму́ ні нада було іскаць пятлю. *Непаўн.* **Пятлю пашукаць** (паіскаць). Калі німа, Цімка пушукáіць пятлю, так ня ўцерьпіць. Тута так абыйшлося, дык ён другую пятлю паíшчыць.

**Пятля віснець,** *адзінк. Пра наяўнасць вялікай небяспекі.* Ня столька ныда мною, сколька ныт табою самім пітля вíсьніць.

**Пятля выець,** *неадабр., рэдкаўж.; цяп., пр. Пра безумоўнае заслугоўванне самай суровай кары.* Пітля па ім даўно вы́іць, ды ніяк ён у яе ня ўскочыць. Доўга пітля па ім выла, жáлка, што ні ныйшлá. *Узмацн.* **Пятля павыла** (навылася). Пы вас пітля павы́ла, чаго там аткáзывыцца. Навы́лыся пітля, пакуля вас дыждáлыся. *Законч.* **Пятля атвыла.** Пітля атвы́ла пы такому хлю́сту крепка. *Гл.* П я т л я п л а ч ы ц ь.

**Пятля** (вяроўка) **вісіць,** *цяп., пр. Пра наяўнасць вялікай небяспекі.* Чаго йта ныда мною пітля вісíць, аткуль ты ўзяў. Над ім і ў Лупаціні пітля вісела ня меншы, чым тута. Над ім вярёўка даўно вісіць. *Зак.* **Пятля** (вяроўка) **павісла,** *пр., буд.* Ду́мыў, што ўсё ўжо кончына, а тут пітля павісла з другога боку. Вярёўка як павісьніць, позна будзіць хвытáцца зы гылаву.

**Пятля** (вяроўка, гібель, пагібель) **шукаець** (ішчыць), *неадабр.; цяп., пр. Пра непазбежнасць вельмі суровай кары.* Даўно вас, дзеці, пітля шука́іць, і йна вас зна́йдзіць, абіза́цільна знайдзіць. Каторый год яго пітля шука́ла. Я табе праўду гыварю́, што вярёўка цябе шукаіць. І аднаго, і другога вярёўка шукала, пакуля ныйшла́. Шукаіць жа гібіль чылавека, калі ны яго ікая пірялома вы́скычыць. Яму доўга места нійдзе ні було, даўно пагібіль шукала. Цябе пітля́ ўжо і́шчыць, ды ніяк ня можыць пупа́сць. Ні пірід дабром вас вярёўка ішчыць. Івана твайго даўно гібіль іска́ла. Раз пагібіль ішчыць, дык зна́йдзіць, так ня вы́круціцца. Пагібіль яго даўно іскала, ён сам усю́дых пыцстыўля́ў шы́ю.

**Пятля** (вяроўка) **жджэць** (дажыдаець), *неадабр.; рэдкаўж.; цяп., пр. Пра непазбежнасць вельмі суровай кары.* Пітля яго с такою ухва́ткыю даўно жджэць. Доўга пітля ждала, ну во ныйшла́. Каторый год пітля цябе дыжыда́іць. Ён і сам чу́ствыіць, што вярёўка яго жджэць. Іх вярёўка нядоўга дыжыда́ла. *Гл.* П я т л я ш у к а е ц ь.

**Пятля** (вяроўка) **зацягываецца,** *цяп., пр. Пра блізкасць безвыходнага становішча.* Сам должын пыніма́ць, што пітля́ зыця́гывыіцца ні на шу́тку. Ла́дна пітля зыця́гыіцца, ныўря́д, ці вы́скрібіцца ён. Як жа яны ня відзюць, што вярёўка зыця́гыіцца. Ета шча́сьця яго, што ўдалося вы́лізьць, у яго вярёўка зыця́гывылыся крепка. *Зак.* **Пятля** (вяроўка) **зацягнулася,** *пр., буд.* Большы яму ня ўскреснуць, пітля зыцягну́лыся на́глуха. Зыцягнулыся вярёўка, і чорт яго бярі зь яго быга́ствым. Я чу́ствывыў, што вярёўка зыця́гніцца, усё ета ні магло дабром кончыцца.

**Пятля** (вяроўка) **найдзецца** (нойдзецца, знайдзецца, знойдзецца), *буд., пр. Пра рэальнасць небяспекі, суровага пакарання.* Я ўжо жду — ні дажду́ся, калі ны яго ікая-ніб́удзь пітля на́йдзіцца. Пітля нойдзіцца, кылі сам шука́іць. Калі пітля ня ныйшла́ся, дык нойдзіцца. Ну во і ну другога хлю́ста зныйшла́ся пітля. А ні тужы́ ты, на́йдзіцца ішчэ вярёўка, пагібілі ні мінець ву́дыль еткыя. Ну, пудурей, пакуля вярёўка ні ныйшлася. Папры́гый, папрыгый, вярёўка знойдзіцца і трошку пыцішэіш. Зныйшла́ся вярёўка і ны Лісінка́.

**Пятля** (вяроўка) **найдзець** (нойдзець, знайдзець, знойдзець), *буд., пр. Пра рэальнасць небяспекі, сурова-*

*га пакарання.* Як ніхай ні выкру́чывыіцца, а ікая пітля ды на́йдзіць. Вот каб каго яшчэ пітля ныйшла айдзе-нібудзь. Так ня бу́дзіць, нойдзіць пітля. Зна́йдзіць пітля і ету нячы́стыю сілу, усё яму ня будзіць удыва́цца. Даўно нада було, каб ныйшла вярёўка. Я ду́мыю, што іх скора вярёўка нойдзіць. Ні ў чужоя места, кылі й вярёўка зна́йдзіць. Қылі скора вярёўка ня знойдзіць, ні знаю, што зь іх палу́чыцца.

**Пятля** (вяроўка) **ўецца** (круціцца), *рэдкаўж. Пра непазбежнасць вельмі суровай кары.* Нейдзі ж пітля ўецца на ету ву́дыль. Раз пітля круціцца, то найдзіць, ні мінець свайго. Вярёўка на етых вогіріў уецца, палу́чуць, што ім зыхацелыся. Ны цябе знаіш айдзе вярёўка кру́ціцца? — у Қаскові. *Гл.* П я т л я ш у к а е ц ь.

**Пятля галосіць,** *адзінк. Пра безумоўнае заслугоўванне самай суровай кары.* Пы твайму хлышчоўскыму другу даўно пітля галосіць, і пы табе разым зь ім. *Гл.* П я т л я в ы е ц ь.

**Пятля іржэць,** *груб., адзінк. Пра безумоўнае атрыманне самай суровай кары.* Раз пітля́ іржэць, то на́йдзіць, ні там дык там ты ў яе ўскочыш.

**Пятля на шыю,** *неадабр. Вялікія турботы, клопат, адказныя абавязкі.* Нашто мне еткыя пітля́ на шы́ю? Қалі ныра́віцца, вазьмі́, будзіць пітля на шыю. Узяў,— на ўсю жы́зьню ёсьць пітля на шыю.

**Пятля носіць,** *асудж.; цяп., пр., буд. Пра адсутнасць звестак аб месцазнаходжанні.* Нейдзі ж пітля носіць каторый месіц. Двына́ццыць яго зна́іць, айдзе яго пітля насі́ла.

**Пятля плачыць,** *неадабр.; цяп., пр. Пра безумоўнае заслугоўванне самай суровай кары.* Пы табе даўно пітля́ пла́чыць. Пітля пы табе пла́чыць, ды некыму яе ў ру́кі ўзяць. Пы яго шыі ні адзін год пітля плакыла. *Узмацн.* **Пятля паплакыла** (наплакалася), *пр., буд.* Пітля пыпла́кыла, пакуля ён сабе пролыбку найшоў. Пыплакыла пітля: усё ж гібілі па белыму сьвету іска́ў — ня мог найці́ць. Хуць ныпла́кылыся пітля́, ну зныйшла́-тыкі, ні міну́ла. Ныпла́чыцца пітля пы такому пріпа́дку. *Законч.* **Пятля адплакала,** *пр., буд.* Атпла́кыла пітля, доўга ёй ждаць вас прішлося. Атпла́чыць пітля, тру́дна ёй будзіць пупа́сць етыга сарьвігылаву́.

## СЛОЎНІК
### (словы з ілюстрацыйных прыкладаў)

**Абідный** *прым.* Крыўдны; крыўдлівы. *Ніхай пачуіць слова ні пы нырáву, такей абідный дзелыіцца, што большы некуды.*

**Абмякчыцца,** -ýся, -ы́сься; *зак.* Памякчэць (у адносінах да каго-н.). *Ну, быльшáя бідá, кылі ён успыліў, сычас абмякчы́цца.*

**Абтрахнуцца** (аптряхнýцца), -ýся, -есься; *зак.* 1. Атрэсціся. *Ня йдзі мокрый у хату, аптряхніся.* 2. *перан.* Пазбавіцца беднасці. *Каб за розум узя́ліся, аптряхнýліся б, цяперя можна заробіць.*

**Агарак** (агáрык) *м.* 1. Агарак. 2. *перан.* Зух, хват. *Такей ужо агарык, кáжыцца, шкýра на ім гаріць.*

**Агламаздзіцца** (аглымазьдзíцца), -жджу́ся, -дзíсься і -озьдз-ісься; *зак.* Загрувасціцца; засыпацца (грыбамі, садавінай, агароднінай). *Аглымазьдзíцца ад быгатства, усё купля́іць, спруўля́іць, вылакець. Аглымазьдзіліся сёліта гуркáмі.*

**Адгледзецца,** -дж-уся, -дз-ісься; *зак.* Не нагледзецца. *Як зьдзелыіць што — адглядзíцца.*

**Акаяннасць** (акыя́нныськ) *ж.* Злосць, хіжасць. *Аткуль бярецца ў ім тыкая акыяннысьць!*

**Асігнаваць** (асігнувáць), -ну-ю, -ну-іш; *зак.* Цвёрда рашыць, паставіць за мэту. *Я ўжо сымá сабе асігнувáла: летым зьежджу ў Рослый.*

**Атменка** *ж., уст.* Выменены ўчастак зямлі; замена зямлі. *У нашый дзярейні нескылька чылавек бралі атменку.*

**Атукаць** (атýкыць), -ю, -іш; *зак.* Атлуміць. *Атýкылі хлыпцá, ён у іх як пуслугáч якей.*

**Ахламон** *м., іран.* Неарганізаваны, неакуратны, затуканы чылавек. *Ходзіць ахламон ахламоным, мог ба і сам сябе троху дагледзіць.*

**Ачуміць,** -мл-ю, -м-іш; *зак.* Ачмуціць. *Ачумілі яны маю галовычку, што я йду-йду, а тады стану і стаю: забыла, куды йшла.*

**Барыляць** (бырыля́ць), -я́-ю, -я́-іш; *незак., неадабр.* Араць няўмела, абы-як. *Так бырыляць — дык луччы поля ня порціць.*

**Беражэнне** (біряжэньня) *н.* Беражлівасць. *Вот яно тваё біряжэньня: была цэлыя бутля, а як ты пыбярёг, шкля́нкі пасы́пыліся.*

**Беспашчадна** (біспышча́дна) *прысл.* Надзвычайна. *П'ець, біспышчадна п'ець, нап'ецца, а тады: хадзіця, хадзіця, матка і жонка.*

**Бражка** *ж.* 1. Брага. 2. Падазроная кампанія. *Сыбра́лыся бра́жка селіта, як нарошня зьехыліся, дадýць яблыку пасьпець, бýдзіць да́джына.*

**Бублы,** *толькі мн.* Вытаптаная паша. *На бýблых дзіржаць коні, нада ў кусты́ прыгна́ць.*

**Буйтавацца** (буйтува́цца), -юся, -ісься; *незак.* Цяжка, да знясілення працаваць. *Ны вас буйтува́цца — ну вас к ліху.*

**Вапронак** (вапрёнык) *м.* Парсючок. *Ці многа мне нада, вапрёнык кыча́іцца і ла́дна.*

**Вара** (ва́ря) *ж.* 1. Вараная ежа, суп. *Якея ні прісма́кі, а варі ўсігда нада зьесьць.* 2. Варка. *Ня столька там варі тае, сколька нос надýла.*

**Вертлюжок** (віртлюжок) *м.* Скрутачак у выглядзе перавясла. *Ні балеў, ні хвыра́ў. круціў віртлюжкі зь бярезьніку, зьвя́зывыў дровы, каб іна рýкі ні пыкалола.*

**Вінаваць** (вінува́ць), -ý-ю, -ý-іш; *незак.* Вінаваціць. *Вінýй сваіх, каб адбры́ла раз ды другей, а ты, ныбарот, пыкрыва́іш.*

**Вярцёлка** і **вярцелка** *ж., неадабр.* Лёгкадумная дзяўчына. *І вярцёлка, і круцёлка, дайжа ні прідýмыіш, у чый род іна ўдыла́ся.*

**Гаравый** (гыря́вый) *прым.* Брудны, закарэлы, ірыбіты. *Я ж кыря́вый, я ж гырявый, а йна ж нічога глядзець ня хочыць.*

**Гасціць** (гасьці́ць), -шч-у́, гасьці́ш і госьціш; *незак.* 1. Гасціць. 2. Частаваць. *Ці хырашо цябе там гасьцілі?*

**Гладаміра** (глыдамі́ра) *м.* і *ж.* Вельмі пераборлівы. *Чаго ты такей глыдаміра, нічога табе ні пыдбяреш зьесьць.*

**Дакласць** (дыкласьць), -д-у́, -дз-еш; *зак.* 1. Дакласці. 2. Навучыць, прывучыць. *Ён умеіць кы ўсяму́ дыкла́сьць.* 3. Данесці. *Што замеціць, січас дыкладзець брігадзіру.*

**Дапеўніцца і дапяўніцца** (дыпяўні́цца), -юся, -ісься; *зак.* Да канца высветліць, цвёрда пераканацца. *Нада перва дапеўніцца, што зы карова, а тады ўжо купляць. Нада пыгывары́ць, дыпяўніцца, ікая там ха́ччына.*

**Даступленіе** (дуступленія) *н.* Даступнасць. *Ніхай сам сходзіць, яму дуступленія большыя.*

**Думна.** Помысна. *Калі ду́мна, то схадзі.*

**Жарасць** (жа́рысьць) *ж.* Цяплынь, жара; высокая тэмпература. *Ны дваре нейкыя жарысьць, як пірід гразою. Хвацілыся за тую гылавёнку, а ў яго жарысьць, аж гарі́ць.*

**Жвялёк** *м.* Скрутак. *Жвялёк травы пыт па́хыю прінёс, кінуў ціріс прясла.*

**Запыліць** (зыпылі́ць), -ю, -іш; *зак.* 1. Запыліць. 2. *перан.* Узбудзіцца, узбударажыцца. *Віджу, што зыпылі́ў, я пывярну́ўся і пашоў.*

**Затор** *м.* 1. Затор. 2. Адна гонка брагі.

**Заясняць** (зысьня́ць), -я-ю, -я-іш; *незак.* Даводзіць да ведама нетактоўна, просталінейна, ультыматыўна. *Ідзі вун свайму ба́цьку зыісьня́й такея пріценьзіі.*

**Збыць,** збу́ду, збу́дзіш; *зак.* 1. Збыць. 2. Выцерпець. *Ня збудзіць ён там у я́сьліх: зба́лывын дужа.*

**Згрубіць,** -бл-ю́, -б-і́ш; *зак.* Нагрубіць. *Дужа вежлівый хлопіц, нікомычку ні ра́зу ні згрубі́ў.*

**З'ясняць** (зысьняць), -я-ю, -я-іш; *незак.* Гл. **заясняць.** *Ну вот ён і зысьняіць, што большы так жыць ня хочыць.*

**Ірвануш** *м.* Лахман. *Прібярі хуць с-пад ног ірвануш.*

**Калантырыць** (кылантыріць), -ю, -іш; *незак.* 1. *іран.* Насіцца з двара ў двор. *Як возьміцца пы дзяреўні кылантыріць, ні аднае хаты ні мінець.* 2. *асудж.* Хапаць, грэбці.

**Кальжэць,** -э-ю, -э-іш; *неадабр.* Мерзнуць. *Чаго я тут буду кальжэць, пайду.*

**Канюшэнка** (кунюшэнка) *м., зніж.* Конь. *Запрёг ба любога кунюшэнку, ці тут табе рісак нада.*

**Карэлый** (карелый) *прым.* 1. Карэлы. 2. *перан.* Адсталы, старасвецкі. *Такей быў карелый, ды яго нічога ні дыхадзіла.*

**Кашучок** (кушучок) *м.* Катушок у хляве. *У кушучку рябінькія німа, дос несца.*

**Клёваць** (клёвыць), -ы-ю ,-ы-іш; *незак.* Жыць, дыхаць. *Якей зь яго жыіціль, чуць клёвыіць.*

**Клызніць** (клызьніць), -ю, -іш; *незак.* 1. Жыць, дажываць. *Будзіць клызьніць на месьці, куды яму ехыць.* 2. *неадабр.* Гаварыць пустое.

**Колкій** *прым.* 1. Колкі. 2. Такі, які перашкаджае. *Чаго вам стаў дужа колкій Мыкар. Я вам усігда быў колык.*

**Круцялёк** *м.* Скрутачак. *Кінуў круцялькі пыт плятнёўку.*

**Крэхнуць,** -у, -іш; *зак.* 1. Ударыць. 2. Зламаць. 3. *перан.* Нечакана разбалецца. *Гылыва крэхнула лі абедыў, чуць дыхадзіла да вечыра.*

**Кулёк** *м.* Невялікі акуратна пашыты мяшок прыкладна на 50 кг зерня. *Прым.* **кулькавэй** і **кулькавый.** *Кулькавэй мяшочык.*

**Лапаціць** (лупаціць), -ч-у, -ц-іш; *незак.* 1. Вастрыць касу мянташкай. *Лупаць, ды жала ні сагні.* 2. Перамешваць зерне лапатай. *Учора жыта лупацілі.*

**Лацьві** *прысл.* Добра. *Лацьві вам, у вас бяды німа.*

**Лемянтовый** (лімянтовый), *прым.* Добры. *Іван лімянтовый быў, жонка за ім пукрусувáлыся.*

**Махла** (мыхлá) *м.* і *ж.* Ветраны чалавек (пераважна жанчына). *Я ні стаў ба такую махлў слўхыць, у яе праўды ні ны капейку.*

**Мятлейшый** *прым.* Больш уважлівы, памятлівы. *Можа ты трошку мятлейшый? Хведзька — етый мятлей, а я зубувáю.*

**Набага** (нáбыга) *прысл.* Добра, добра што, дарэчы. *Саўсім пыгібáла дзяўчонка, нáбыга я нырвáўся.*

**Назямляніць** (нызімлянніць), -ю, -іш; *зак.* Нанесці бруду. *Ні прікáчывый сюда пáлык, ато нызімлянніш. Зы ныгамі нызімлянілі, нягож тут хто сыпыў.*

**Наскулецца** (нускулецца), -юся, -ісься; *зак.* 1. Наскавытацца. 2. Наплакацца, напрасіцца. *Пакуль я нускулелыся бумажык тых, і ўремя прайшло.*

**Наўзлакотках** (ныўзлакоткых) *прысл.* Абапёршыся на локці. *Сядзеў лі выкнá ныўзлакоткых.*

**Нахваціцца** (ныхваціцца), -ч-ўся, -ц-ісься; *зак.* Натрапіць у час. *Нейкія нізнакомыя мушчыны ныхвацілíся і пымаглі пыдняць воз.*

**Нахырчэць** (ныхырчэць), -ў, -ыш; *зак.* Набурчаць. *Нубурчэць, ныхырчэць, ныпсіхувáць ёсьць каму.*

**Негегляццё** (нігігляцьцё) *н.* Нягеглае стварэнне. *Ні чылавек, а саўсім нігігляцьцё.*

**Непадходлівый** (ніпатходлівый) *прым.* Такі, які не мае падыходу. *Іна ніпатходлівыя, хырáкцір плахей.*

**Непапушчы** (ніпапўшчы) *прысл.* Быццам як, прыкладна так як. *Хрузка пыткаціцца ўмеіць, ніпапўшчы швагренька твыя.*

**Неўдальный** (неўдыльный) *прым., абразл.* Няўдалы, капрызны; хваравіты. *Узноў твой неўдыльный рысьпішчэўся.*

**Павадок** (пывадок) *м.* 1. Павадок. 2. Прычына, падстава. *Ім выпіць любэй пывадок харош.*

**Паглядный** (пыглядный) *прым.* Добры на знешні выгляд. *Чаго там гыварíць, пыглядный мушчына.*

**Падпарнуць** (пытпарнýць), -ý, -еш; *зак.* Падагнаць; падахвоціць. *Мыладых ба скарей пытпарнýла.*

**Падунутый** (пудунýтый) *дзеепрым.* Ледзь пакрыты (скурай). *Ны ладоні толька шкýрка чуць пудунýта.*

**Падшчоглаватый** (пачшчоглывытый) *прым.* Гл. **шчоглый.** *Помніш Пынаса, такей хадзіў пачшчоглывытый?*

**Паезд** *м.* Паездка, адлучка. *А я дык і ні знаю, ці ён тут, ці ў паезьдзі айдзе.*

**Пакладлівый** (пыкладлівый) *прым.* Спагадлівы, памяркоўны, добры. *Ён дужа пыкладлівый, крашынкыю падзеліцца.*

**Панараўный** (пыныраўный) *прым.* Такі, які падабаецца. *Абы длі мяне была пыныраўныя.* Параўн. рус. н р а в я щ и й с я.

**Парнісцікі** (парнісьцікі) *толькі мн.* Спарышы. *Цяперя парнісьцікыў ужо німа, яны ні нада.*

**Пахватацца** (пыхвытáцца), -á-юся, -á-ісься; *зак.* Паспяшацца. *Пыхвыталіся хату прыдывать, цяперя самім іскáць прідзіцца.*

**Пачукавець** (пучукавець), -е-ю, -е-іш; *зак.* Парухавець. *Глянь, к вясьне і ты пучукавела.*

**Перажарка** (піріжáрка) *ж.* 1. Перагрэў. 2. *гумар.* Наганяй. *Яму сяньня крепкыя была піріжарка.*

**Перамывацца** (пірімувáцца), -á-юся, -á-ісься; *незак.* 1. Перамывацца. 2. *перан.* Знаходзіцца. *Доўга яны тама пірімувацца ні стáнуць.*

**Праглупіць** (пруглупіць), -пл-ю́, п-іш; *зак.* Празяваць, зрабіць недарэчнасць. *Пруглупілі мы зь Лявоныўыю каровыю: іна мылаком зыліваіць.*

**Праровак** (праровык) *м.* Раўчук. *Толька праровык піряехылі, і ён бягіць.*

**Прашкі** *прысл.* Нескладана. *Іх жа ўхваціць прáшкі: кінуць квакýху і рыспаўзьліся хто куды.*

**Прысыпчык** (прісыпчык) *м.* Зламыснік.

**Прышыб** (пріш**ы**б) *м.* Прыстанак. *Сáмый пріш**ы**б быў зь естыга боку, тут коні пусьцім, а самі* г *дарогі спаць.*

**Пуздра** (пуздря́) *м.* і *ж.* Таўстун, таўстуха. *Ну, чаго, пуздря́, рыстапы́рiў губы?*

**Пуздрак** (пуздря́к) *м.* Таўстун. *Некуды пуздрякі вы́прывіліся.*

**Пыліць,** -ю́, -іш; *незак.* 1. Пыліць. 2. *перан.* Палохацца. *Етый храбрец у любом дзелі пылі́ць.* Гл. **запыліць.**

**Пырскій** *прым., неадабр.* Празмерна зухаваты. *Каб ня быў такей пы́рскій, яно б луччы.*

**Разу** *прысл.* Аніяк, ніколькі, зусім. *Ра́зу ня хочыць пымыга́ць. Разу нільга́ есьць: зу́бы.*

**Раскінуцца** (раські́нуцца), -уся, -іська; *зак.* 1. Раскінуцца, разлегчыся. 2. Раздаць без мэты. *Арьхіпыў як зря ні раськініцца.*

**Расплат** (рыспла́т) *м.* Расплата, адплата. *Ніпра́ўда, будзіць рысплат і яму.*

**Расхваціцца** (рысхваці́цца), -ч-у́ся, -ц-іська; *зак.* Зрабіць з ахвотай (звыч. з **не**). *Ня жджы, што ён табе рысхваціцца паможч.*

**Рахамуддзе** (рыхаму́дзьдзя) *н.* Куча разнародных рэчаў, куча лахманоў, лахманы. *Не, рыхамудзьдзя ета нада прібра́ць.*

**Родный** *прым.* 1. Родны. 2. Урадлівы. *Дужа родныя пышаніца зу Лугуваткыю.*

**Савяточына** (сывяточына) *ж.* Чачотка. *Сывяточыну калоць — рукі пыдбіва́іш, во што.*

**Свайство** *н., іран.* Сваякі. *Свайство іх ку́чыю пыцягну́лыся.*

**Серачок** (сірячок) *м.* Світка з саматканага сукна. *Вы́цірся ўжо сірячок, нічога ня греіць.*

**Сляпіць** (сьляпі́ць), -пл-ю́, -п-іш; *незак.* 1. Сляпіць. 2. *перан.* Уводзіць у зман. *Ні нада мяне сьляпіць, я пынімаю, што к чаму́.*

**Спахаць** (спыха́ць), -ш-у́, -ш-ыш; *зак.* 1. З'араць. 2. Не адстаць у час ворыва. *Зь Мікітыю, бувала, спыхаць ня дужа хто спа́шыць.*

**Спець** (сьпець), сьпяю́, сьпяеш; *зак.* 1. Спець. 2. *перан.* Сказаць надзвычайнае. *Ты чуіш, што мне спела мыя? — «Замуж хачу».*

**Сплавіць,** -ўл-ю, -в-іш; *зак.* 1. Сплавіць. 2. Таемна збыць. *Некуды сплáвілі жэрдзя, ня віднa лі двырá.*

**Старонуш** (старёнуш) *м.* Лахман. *Уськінь якей старёнуш, лáдзін бýдзіш.*

**Страпаліцца** (стрыпалíцца), -ю́ся, -íсься; *незак.* Намервацца. *Па-мойму, у Стáхывы мідунíчкі стрыпаліліся. Яны ўжо стрыпыля́цца, каб ня быў у цябе конь.*

**Тапорнік** *м.* Падлесак, які можна сячы сякерай. *У яго былі жэрдзя, тапорніку нывазіў.*

**Тапыра** (тапы́ря) *м.* і *ж.; іран.* Капрызнік, капрызніца. *Ні чыпáйся с тапырію, ну яго.*

**Тумак** *м.* 1. Кухталь. 2. *абразл.* Недалёкі, дурань. *Ні чылавек нейкій, а тумак.*

**Угражываць** (угрáжывыць), -ю, -іш; *незак.* Пагражаць. *Тыкáя гніда і мне будзіць угражывыць?*

**Ужардзяваць** (ужурдзювáць), -дзю́-ю, дзю-іш; *зак.* Уціснуць рублём (сена). *Бывáла, як ужардзю́ім вазы́, хуць вязі ду Мугулёва.*

**Умыцца,** -юся, -ісься; *зак.* Знікнуць. *Яны за трі мінуты ат'етуль умы́ліся.*

**Уныкнуць,** -н-ець; *зак.* Знікнуць (звыч. пра малако ў каровы). *А летыся ж у нашыя каровы як уныкнула мылако, во мы ныбідувáліся.*

**Уроддзе** (уродзьдзя) *м.* і *ж.* Вырадак. *Жджы, паслýхыіць цябе ета ўродзьдзя.*

**Уцале** *прысл.* Бясспрэчна, безумоўна. *Я ўцале паверю, што яны мáглі пріламсы́ць тут рукі.*

**Уцургацца** (уцýргыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* Папасціся, трапіць у непрыемнае становішча. *Уцургыўся зь естым лесым, што і ўцургыцца большы некуды.*

**Хлапянка** (хлыпя́нка) *ж.* Ніткі з хлоп'я. *Хлыпянка с хлоп'я, зь іх, бувала, пасьцілкі ткуць.*

**Хырчэць,** -ý, -ыш; *незак., неадабр.* Бурчаць. *Хырчыць усё і хырчыць, як борыхы́ва кілá.*

**Цёпла** *прысл.* 1. Цёпла. 2. *перан.* Добра, з дастаткам (жыць). *Нызыпáсіўся лáдна, цёпла жывець.*

**Ціпкацца** (ці́пкыцца), -юся, -ісься; *незак.* Ісці с цяжкасцю, з натугай.

**Цюромнік** (цюрёмнік) і **цюрэмнік** (цюремнік) *м., груб.* Арыштант. *Бойся етыга цюрёмніка, нікыя́нный чылавек. Цюремніка тута яшчэ ні хвыта́ла.*

**Цяжба** *ж.* Цяжар; цяжкасць. *Нікыгда столька ця́жбы ні піріжывáла.*

**Чаплавухій** (чыплаву́хій) *прым.* Лапавухі. *Быра́н ты чыплавухій і большы ніхто.*

**Шалахацца** (шыла́хыцца), -юся, -ісься; *незак.* Варушыцца. *До табе шылахыцца, куры быяцца.*

**Шкарпэт** *м.* 1. Скурат. 2. *перан.* Задзіра. *Тут шкарпэт етый пыпыха́ў усё, пызасеіў.*

**Шкурбаціна** *ж.* Скурат, скураное адзенне. *Каб іка́я шкурбаціна, можна б зыла́піць сапог.*

**Шчоглый** *прым.* Тонкі, сухарлявы. *Якей ён стаў шчоглый зы пасьледнія ўремя.*

**Шчырыць** (шчырі́ць), -ю́, -і́ш; *незак.* Шчыраваць. *Шчыріла-шчыріла і ўсё пашло пра́хым.*

**Шырыцца** (шы́ріцца), -юся, -ісься; *незак.* Неашчадна выдаткоўваць. *Шы́ріцца дужа ні нада, корму ува брез.*

**Юрнуць,** -у́, -еш; *зак.* Сцебануць. *Юрну́, дык ён паедзіць, будзіць як ціхыя лета ў мяне.*

**Ярушка** *ж.* Яравая пшаніца. *У нас азімыя пышаніца луччы родзіць, чымся яру́шка.*

# ЗМЕСТ



*Юрченко Георгий Федорович.* **И сечет и печет. Устойчивые словосочетания в говоре Мстиславщины.** На белорусском языке. Издательство «Наука и техника». Минск, Ленинский проспект, 68.

Рэдактар *М. М. Дубоўская.* Мастацкае афармленне *Л. І. Усачова.* Тэхнічны рэдактар *А. М. Атлас.* Карэктар *М. А. Вячорка.*

АТ 10182. Здадзена ў набор 21.III-74 г. Падпісана да друку 5.VI-74 г. Фармат 84×108$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Друк. арк. 9,25. Ум. друк. арк. 15,54. Уч.-выд. арк. 14,5. Выд. заказ 23. Друк. заказ 353. Тыраж 1000 экз. Цана 57 кап. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.